**АНДРЭЙ КАТЛЯРЧУК**

# У ценю Польшчы і Расеі

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ І ШВЭЦЫЯ Ў ЧАСЕ ЭЎРАПЕЙСКАГА КРЫЗІСУ СЯРЭДЗІНЫ XVII СТ.

*Памяці менскай гістарычнай школы,*
*зьнішчанай падчас савецкага камуністычнага*
*тэрору ў 1930—1940-х гг.:*
*Лявон Бабровіч*
*Андрэй Бурдзейка*
*Антон Грыневіч*
*Праф. Зьміцер Даўгяла*
*Д-р Ігнат Дварчанін*
*Праф. Васіль Дружчыц*
*Тодар Забэла*
*Праф. Усевалад Ігнатоўскі*
*Мікалай Касьпяровіч*
*Вацлаў Ластоўскі*
*Аляксандар Ляўданскі*
*Сяргей Мялешка*
*Праф. Павал Харламповіч*
*Аляксандар Цьвікевіч*
*Альгерд Шлюбскі*
*Праф. Мікалай Шчакаціхін*

# ЗЬМЕСТ

# Сьпіс мапаў



# Сьпіс ілюстрацый

# Сьпіс скаротаў

| | |
|---|---|
| БА | Беларускі архіў. Т. 3, частка 1 (XV — XVIII стст.). Менск, 1930. Менскія акты |
| БАН | Біблятэка Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу |
| БЭФ | «Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов. Том 2. С середины XVII в. до XVIII в.». Менск, 1960. |
| ВКЛ | Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае |
| ККВКЛ | «Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г». У выданьні: «Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. Том IV. Под ред. И. Грали». Масква—Варшава, 1999. |
| НГАБ | Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі |
| ПСЗРИ | «Полное собрание законов Российской империи, повелением государя императора Николая Павловича составленное. Собрание первое. С 1649 по 12 декабря 1825 г. Т. 1. 1644—1675». Санкт-Пецярбург, 1830. |
| РГАДА | Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў |
| УБХ | «Універсали Богдана Хмельницького». Кіеў, 1998 |
| AGAD | Цэнтральны архіў гістарычных актаў у Варшаве |
| AR | Архіў Радзівілаў у AGAD |
| CL | Бібліятэка Чартарыйскіх у Нацыянальным музэі ў Кракаве. |
| KA | Ваенны архіў Швэцыі (крыгсарківэт) |
| KB | Каралеўская бібліятэка Швэцыі |
| LM | «Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131. Opracował Andrzej Rachuba». Варшава, 2001. |
| LMAB | Бібліятэка Літоўскай акадэміі навук |
| LVIA | Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў |
| MSR | «Аповед пра адыход Жамойці пад швэдзкую апеку і выхад з-пад яе» Мікалая Казімера Шэмета. У выданьні: «Senoji Lietuvos literatūra. Knyga 2». Вільня, 1994. |
| OiRwP | «Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. I—XLVIII». Варшава, 1956—1998 |
| PSB | «Polski Siownik Biograficzny» |
| VL | «Prawa, Konstytucye y Przywileie Krolewstwa Polskiego, Wielkiego Xięstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących. Volumen Quartum (4). Ab anno 1641 ad annum 1668». Санкт-Пецярбург, 1859. |
| RA | Нацыянальны архіў Швэцыі (рыксарківэт) |
| UUB | Бібліятэка Упсальскага ўнівэрсытэту |

АНДРЭЙ КАТЛЯРЧУК

# ПРАДМОВА ДА БЕЛАРУСКАГА ЧЫТАЧА

Вельмі прыемна ўбачыць беларускае выданьне маёй доктарскай дысэртацыі, прысьвечанай уніі ВКЛ са Швэцыяй 1655 г., абароненай у 2006 г. у Стакгольмскім унівэрсытэце. Тым больш прыемна зазначыць, што ініцыятыва і фінансаваньне друку цалкам зыходзіла ад беларускага боку — факт, які сьведчыць: незалежныя выдаўцы на Бацькаўшчыне ў сваіх перакладах імкнуцца адпавядаць найлепшым эўрапейскім узорам. За гэта вялікі дзякуй часопісу «ARCHE» і яго галоўнаму рэдактару сп. Валеру Булгакаву.

Беларускі чытач атрымаў манаграфію пасьля яе выхаду ў Швэцыі і Нямеччыне. Спадзяюся, менавіта ў Беларусі кніга займее найбольшы розгалас. Пошукі альтэрнатыўных шляхоў палітычнага разьвіцьця дасюль застаюцца актуальным для Беларусі пытаньнем. У 1655 г. пратэстанцкая частка палітычнай эліты ВКЛ марыла пазбавіцца залежнасьці ад Польшчы і Расеі ды далучыцца ўсьлед за Эстоніяй і Латвіяй да дынамічнай Швэдзкай дзяржавы. На жаль, мары патрыётаў ня зьдзейсьніліся. Контрарэфармацыя зьнішчыла ўсе асяродкі іншадумства, скасавала моцныя повязі з найбольш разьвітымі народамі сьвету. У XVIII ст. краіна нашых продкаў пачала разам з Польшчай тэхналягічна і культурна адставаць ад перадавых эўрапейскіх дзяржаваў. Па зьнікненьні Рэчы Паспалітай з мапы сьвету Беларусь і Літва, наагул апынуўшыся ў ізаляцыі, «праспалі» прамысловую рэвалюцыю і пераход ад фэўдалізму да буржуазнага дэмакратычнага ладу. Калі сяляне Швэцыі ўвесь час былі вольнымі, а з XVI ст. мелі ўласную фракцыю ў сойме і рэальна бралі ўдзел у кіраваньні дзяржавай, дык беларускія сяляне заставаліся прыгоннымі шляхты да 1861 г., а прыгнёт таталітарных сыстэмаў цярпелі ажно да канца XX ст. Як гісторык, мушу зазначыць: адказ на пытаньне, чаму штодзённы лад жыцьця беларускіх вёсак і гарадоў сёньня так моцна розьніцца ад швэдзкага, — менавіта ў гэтай трагічнай спадчыне.

Вядома, што значная частка беларускага грамадзтва марыць пра эўрапейскія пэрспэктывы. Трэба адзначыць: Эўразьвяз як адзіная дэмакратычная, юрыдычная і культурная прастора ўжо існаваў у XVI—XVIII стст., да зьяўленьня навачаснага нацыяналізму. Беларускія студэнты масава вучыліся на Захадзе, выдадзеныя на Беларусі дыплёмы, тэстамэнты і прывілеі без праблемаў прызнаваліся ў Швэцыі ці Партугаліі. Галоўныя падпісанты Кейданскай уніі Януш і Багуслаў Радзівілы шчыра сябравалі зь вядучымі швэдзкімі палітыкамі, вучыліся разам з

Магнусам Дэлягарды і Бэнгтам Шутэ ў Галяндыі, ва ўнівэрсытэце Ляйдэна. І размаўлялі яны са швэдамі безь перакладнікаў — на нямецкай і лацінскай мовах. Абодва літвінскія палітыкі ўважліва сачылі за новымі тэхналёгіямі і зьдзяйсьнялі маштабныя эканамічныя рэформы на Радзіме. Колькі сучасных беларускіх палітыкаў маюць падобныя здольнасьці?

Далучэньне да Эўропы — доўгі працэс, які патрабуе карпатлівай, разьлічанай не на адно дзесяцігодзьдзе працы цэлага пакаленьня, каб палепшыць эканамічны, праўны і духоўны стан грамадзтва. Акурат так было пасьля скону дыктатуры Франка ў Гішпаніі — на той момант адной з найбяднейшых краінаў кантынэнту, а сёньня лідэра Эўропы. Найбольш адукаваныя людзі нашага краю яшчэ ў XVII ст. зразумелі: без прававой дзяржавы і павагі да правоў чалавека няма дабрабыту. Сёньня для эўрапейскага грамадзтва гэта аксіёма.

Спадзяюся, што ўважлівы чытач знойдзе ў гэтай кнізе, прысьвечанай нібыта далёкім ад нас падзеям, адказы на актуальныя пытаньні сучаснага жыцьця.

Андрэй Катлярчук
*Стакгольм, 17 жніўня 2008 г.*

## ПАДЗЯКІ

Я ў велізарным даўгу перад калегамі — яго велічыню можа ацаніць кожны, хто зірне на бібліяграфію ў канцы гэтай кнігі. Найперш хацеў бы выказаць удзячнасьць прафэсару Дэйвіду Гонту, які кіраваў маёй доктарскай дысэртацыяй і зь якім я маю гонар працаваць. Безь яго спрыяньня я наўрад ці напісаў бы пра унію 1655 г. паміж Швэцыяй і Вялікім Княствам Літоўскім. Дэйвід Гонт прачытаў гэтую кнігу ў шматлікіх чарнавых варыянтах і выказаў безьліч карысных крытычных заўваг, мудрых парадаў і сяброўскіх пажаданьняў, што засьцерагло мяне ад мноства памылак. Я таксама ўдзячны майму былому навуковаму кіраўніку Аляксандру Мыльнікаву (памёр у 2003 г.) з Санкт-Пецярбургу, які, калі я быў маладым асьпірантам, заахвочваў мяне ў цікавасьці да гісторыі Скандынавіі і дапамог мне атрымаць першую стыпэндыю на досьледы ў Швэцыі.

Свае падзякі я адрасую шматлікім навукоўцам і сябрам з многіх краінаў, якія істотна дапамагалі мне на ўсіх этапах працы. Гэта калегі зь Беларусі — кандыдат гістарычных навук Генадзь Сагановіч, кандыдат філялягічных навук Алесь Жлутка, Ігар Лялькоў, кандыдат гістарычных навук Віктар Цемушаў, Андрэй Радаман і Анатоль Мінкоўскі (Менск); з Швэцыі — доктар Пётр Ваўжанюк, доктар Леаш Мюлер і Марыя Сёдэрбэрг; з Польшчы — прафэсары Анджэй Рахуба, Гэнрык Люлевіч (Варшава) і Рышард Радзік (Люблін); зь Літвы — доктар Рымантас Жыргуліс (Кейданы), доктар Вайда Камунтавічэне, Нярыюс Прэкявічус (Коўна) і доктар Лінас Эрыксонас (Вільня); з Расеі — доктар філялягічных навук Мікалай Нікалаеў (Санкт-Пецярбург) і кандыдат гістарычных навук Аляксандар Тольсьцікаў (Масква); а таксама доктар Хано Бранд (Гронінген), Мікола Пачкаеў (Лёндан) і прафэсар Андраш Золтан (Будапэшт). Мне вельмі прыемна падзякаваць і шматлікім іншым людзям у Швэцыі, Беларусі, Польшчы, Літве, Расеі і Ўкраіне за іх каштоўныя парады, а таксама за гасьціннасьць. Архівісты і бібліятэкары ў шмат якіх краінах вельмі дапамаглі мне атрымаць доступ да матэрыялаў у сваіх установах. Дзякуй вам усім.

Хачу падзякаваць Швэдзкаму дзяржаўнаму фонду балтыйскіх і ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў, які фінансаваў маю працу над доктарскай дысэртацыяй. Мне вельмі прыемна выказаць удзячнасьць за разнастайную практычную дапамогу супрацоўнікам Цэнтру балтыйскіх і ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў і асьпірантуры пры ім, у прыватнасьці Лене Арвідсан, Ніне Кайхамрэ, доктару Гелен Карлбэк, прафэсару Томасу Люндэну, Душко Тапалавічу і Эрыцы Вікстром-Шульц. Я таксама дзякую арганізатарам міжнароднага сэмінару «Дынаміка эканамічнай культуры ў Паўночным моры і Балтыйскім рэгіёне ў 1200—1700 гг.», удзел у якім даў мне магчымасьць спалучыць дасьледчую працу з плённай дыскусіяй.

Я надзвычай абавязаны ўсім, хто чытаў маю доктарскую дысэртацыю ці яе фрагмэнты і рабіў свае заўвагі, у прыватнасьці прафэсару Яну Глетэ (Стакгольмскі ўнівэрсытэт), прафэсару Анджэю Закшэўскаму (Інстытут гісторыі права Польскай акадэміі навук), доктару Леашу Мюлеру і прафэсару Стэляну Дальгрэну (Упсальскі

ўнівэрсытэт), доктару Мэдлен Гэрд і доктару Вітаўтасу Пятронісу (каледж Сёдэрторнскага ўнівэрсытэту). Я хачу таксама падзякаваць Андэршу Бэкстрому і Магнусу Сандгрэну зь Сёдэрторнскага выдавецкага камітэту за іх тэхнічную дапамогу.

Нарэшце, я выказваю сваю бязьмерную ўдзячнасьць і любоў маёй дарагой жонцы Каці, сынам Арсеню і Якубу.

АНДРЭЙ КАТЛЯРЧУК

# 1. Прадмова

## 1.1. Уводзіны

Мая доктарская дысэртацыя галоўным чынам прысьвечана Вялікаму Княству Літоўскаму, краіне, якая спыніла сваё існаваньне 200 гадоў таму, і яе беспасьпяховай уніі з Швэыяй, заключанай у 1655 г. Чаму я спыніўся на гэтай тэме?

Мы жывём у часы, калі значна ўзрасла цікавасьць да гісторыі аб'яднальных праектаў у Эўропе. Пасьля апошняга пашырэньня Эўразьвязу ў 2004 г. заходняя частка колішняга Вялікага Княства Літоўскага (уся Літва, усходняя Польшча і паўднёвая Латвія), як і Швецыя (чалец ЭЗ з 1995 г.), апынулася ў адной палітычнай, праўнай, эканамічнай і культурнай прасторы. Між тым усходняя частка Вялікага Княства Літоўскага (Беларусь і паўночная Ўкраіна) з розных прычынаў засталася па-за межамі гэтага працэсу. Аднак новая гістарычная навука ў Беларусі і Ўкраіне, якая паўстала пасьля 1991 г., шукае спосаб вярнуць «эўрапейскую сьвядомасьць» постсавецкаму грамадзтву.

350 гадоў таму, 20 кастрычніка 1655 г., у Кейданах Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае (далей ВКЛ) і Швэцыя падпісалі дамову аб утварэньні супольнай фэдэратыўнай дзяржавы. У выніку уніі былі прыняты тры асноватворныя дакумэнты. Па-першае, акт аб дзяржаўным саюзе паміж Швэцыяй і Літвой. Гэтае пагадненьне падпісалі 1172 прадстаўнікі літоўскай палітычнай нацыі. Па-другое, літвіны прынялі зварот да эўрапейскай супольнасьці, у якім тлумачыліся прычыны скасаваньня уніі з Польшчай і заключэньня саюзу з Швэцыяй. Па-трэцяе, 23 кастрычніка 1655 г. была заснавана Рада швэдзкай Літвы на чале з Бэнгтам Шутэ, намесьнікам швэдзкага караля ў Літве.

Гэтыя падзеі ўплывалі на міжнародныя дачыненьні ў Эўропе XVII ст., бо яны зьмянялі ранейшы геапалітычны балянс. Галоўныя праўныя пункты Кейданскай уніі — палітычны разрыў з Польшчай і заснаваньне швэдзка-літоўскага саюзу, у рамках якога ВКЛ спадзявалася адрадзіцца як самастойны суб'ект міжнародных адносінаў. Кейданская унія сымбалізавала новы — балтыйскі — палітычны выбар ВКЛ. Швэцыя, у сваю чаргу, праз далучэньне земляў Літвы і Беларусі да сваіх усходніх прыбалтыйскіх правінцый (Карэліі, Інгерманляндыі, Эстоніі, Лівоніі і Памэраніі) значна ўмацоўвала свае пазыцыі вялікай дзяржавы. Пазьней польская гістарыяграфія — а менавіта яна сталася асноўнай крыніцай гістарычных інтэрпрэтацыяў швэдзка-літоўскага саюзу — стварыла адмоўны імідж Кейданскай уніі як несамавітага і нязначнага эпізоду, які ня меў ніякіх істотных вынікаў. Польскія гісторыкі, як правіла, інтэрпрэтуюць пагадненьне прадстаўнікоў літоўскай палітычнай нацыі з Швэцыяй як здраду нацыянальным інтарэсам. Кейданская унія ўяўляецца як вымушаны, малазначны і недаўгавечны паводле сваіх вынікаў крок, зроблены пад уплывам надзвычайных абставінаў Паўночнай вайны 1655—1660 гг. Праз польскую гістарычную школу такая ацэнка пашырылася ў заходняй гістарыяграфіі.

Насамрэч гэтая унія была вынікам моцных сэпаратысцкіх памкненьняў у асяродзьдзі літоўскай і рускай пратэстанцкай эліты. Іх рэалізацыя магла б радыкальна зьмяніць расклад сілаў у Балтыйскім рэгіёне. Большасьць швэдзкіх гісторыкаў глядзяць на ВКЛ з польскіх пазыцыяў, згодна зь якімі Літва — гэта польская правінцыя, што паўстала супраць законнага ўладара. Рэч Паспалітую яны бачаць не як саюз дзьвюх дзяржаваў, а як адзіную польскую дзяржаву. А таму швэдзкія гістарычныя досьледы, у якіх закранаюцца стасункі паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай, падаюць іх проста як дачыненьні Швэцыі з Польшчай. Такім чынам, у заходняй палітычнай гісторыі Ўсходняй Эўропы ВКЛ зазвычай губляецца ў цені Польшчы і Расеі.

Кейданская унія мела велізарнае значэньне для польскай нацыянальнай памяці як гістарычны сымбаль найвялікшай здрады. Вобраз падступнай Літвы з твораў ляўрэата Нобэлеўскай прэміі 1905 г. Гэнрыка Сянкевіча знаёмы кожнаму польскаму школьніку. Польскі шляхціц Заглоба, герой Сянкевічавага раману «Патоп», так асуджае рашэньне Януша Радзівіла перайсьці на бок Швэцыі: «Здраднік! Найвялікшы здраднік!»[1]

Унія паміж Швэцыяй і ВКЛ — таксама важная частка гістарычнай сьвядомасьці сучаснай Літвы і Беларусі. Для іх Кейданская дамова — доказ іх права на незалежнасьць і дзяржаўнасьць.

Таму задача гэтай працы — раскрыўшы новыя гістарычныя крыніцы, праліць новае сьвятло і даць новую інтэрпрэтацыю азначанай праблеме. У ёй я імкнуся пазьбегнуць вузканацыянальнага (польскага, літоўскага ці беларускага) разуменьня Кейданскай уніі. На маю думку, больш істотна правесьці гэтае дасьледаваньне з пазыцыі ўласна ВКЛ, а таксама зрабіць гістарыяграфічны агляд літаратуры на тэму Кейданскай уніі. Сёньня Януш Радзівіл у польскай гістарычнай традыцыі па-ранейшаму лічыцца здраднікам. Між тым у сучаснай Літве ён, нягледзячы на сваё кальвіністкае веравызнаньне, адзін з самых папулярных нацыянальных герояў. Яго імя носіць адна з брыгад літоўскай арміі. У гонар 350-й гадавіны Кейданскай уніі з Швэцыяй вялікаму гетману, які лічыў сваёй радзімай хутчэй шматкультурнае Вялікае княства, чым уласна этнічную Літву, у Кейданах пастаўлены помнік.

Намер прааналізаваць швэдзка-літоўскую унію, заключаную ў Кейданах, і паказаць яе палітычныя, эканамічныя ды рэлігійныя перадумовы і вынікі вызначае і структуру гэтай дысэртацыі. Аўтар спрабуе зьмясьціць рокаш і унію ў кантэкст тагачаснага агульнаэўрапейскага крызісу і яго вынікаў для ВКЛ і Швэцыі. Дасьледнік раскрывае ролю ВКЛ ва ўсходняй палітыцы Швэцыі і ў трансфармацыях геапалітычнай сытуацыі ва Ўсходняй Эўропе ў сярэдзіне XVII ст.

У другім і пятым разьдзелах я аддаю даніну працам ранейшых гісторыкаў, хоць і ўводжу пры гэтым некалькі новых тэзісаў. Трэці і чацьвёрты разьдзелы грунтуюцца на архіўных і іншых першасных крыніцах. Мэта другога разьдзелу — паказаць традыцыю шчыльных палітычных, эканамічных і рэлігійных сувязяў

[1] Grala, Hieronim. «Non-Empire». The Grand Duchy of Lithuania in Polish national memory // Ab Imperio. 2004. №. 4. Даступна ў інтэрнэце: http://abimperio.net

паміж палітычнымі элітамі ВКЛ і Швэцыі (сучасныя гісторыкі практычна не раскрываюць гэтага пытаньня). Першая частка гэтага разьдзелу прысьвечана ВКЛ у першай палове XVII ст., росту літоўскага сэпаратызму і яго ўплыву на становішча Польска-Літоўскай дзяржавы. Робіцца спроба вызначыць месца ВКЛ ва ўсходняй геапалітыцы Швэцыі ў 50-х гг. XVII ст.

У трэцім разьдзеле разглядаецца Кейданская унія паміж Швэцыяй і Літвой і прычыны яе паразы. Апірышча на новыя крыніцы дае магчымасьць зрабіць пры гэтым шэраг новых высноваў. Апроч новых аргумэнтаў, я прыводжу і некаторыя невядомыя раней факты. Геаграфічны аналіз палітычных і рэлігійных прыхільнасьцяў падпісантаў Кейданскай дамовы сьведчыць, што ў альянсе з Швэцыяй вяла рэй пратэстанцкая партыя Радзівілаў. Грунтоўнае дасьледаваньне сытуацыі ў занятай швэдамі зоне ВКЛ дае новы матэрыял, які дазваляе раскрыць ролю Расеі ў антышвэдзкім паўстаньні.

Чацьвёрты разьдзел мае на мэце комплексна паказаць становішча ВКЛ у сярэдзіне XVII ст. Я апісваю стаўленьне да замежных заваёўнікаў з боку розных палітычных, этнічных і рэлігійных групаў літоўскай эліты, а таксама іх гатоўнасьць да супрацы. Так, дасьледуюцца спробы ўсталяваць кантроль над літоўскімі землямі з боку Швэцыі, Польшчы, Расеі, як і гетманскай Украіны і Трансыльваніі. ВКЛ адыгрывала цэнтральную ролю ў гэтым канфлікце вялікіх дзяржаваў і ў тагачасных зьменах міжнароднага становішча ва Ўсходняй Эўропе. Разглядаюцца наступныя новыя тэмы:

- спроба Багуслава Радзівіла заснаваць маленькую квазінезалежную дзяржаву пад швэдзкім пратэктаратам;
- Радноцкая дамова 1656 г. паміж Швэцыяй, Трансыльваніяй, Прусіяй і Багуславам Радзівілам і яе вынікі для Рэчы Паспалітай;
- аблога Берасьця швэдзкімі, трансыльванскімі, украінскімі і радзівілаўскімі войскамі ў 1657 г. і барацьба за горад паміж хаўрусьнікамі;
- роля Вялікага Княства Літоўскага ў швэдзкай дыпляматыі.

Галоўнае гістарыяграфічнае пытаньне, якое я спрабую прааналізаваць, — гэта каротка- і доўгатэрміновыя вынікі эўрапейскага крызісу на прыкладзе ВКЛ.

## 1.2. Назвы і трансьлітарацыя

Уласныя імёны прадстаўнікоў літоўскай палітычнай нацыі сустракаюцца ў трох напісаньнях: польскім, кірылічным і лацінскім. Я адмовіўся ад выкарыстаньня мадэрнізаваных вэрсій гэтых імёнаў, папулярных у сучаснай Літве і Беларусі, і зьвярнуўся ў ангельскай вэрсіі замест гэтага да гістарычнага (г. зв. «польскага») варыянту напісаньня, бо ён ужываецца ў большасьці крыніцаў XVII ст. Імёны некаторых вядомых асобаў Заходняй і Паўночнай Эўропы падаюцца згодна з правіламі сучасных нацыянальных моваў*.

* У беларускім перакладзе імёны падаюцца ў форме, традыцыйна замацаванай у беларускай мове і прынятай у сучаснай навуковай літаратуры. *(Заўв. пер.)*

Геаграфічныя назвы падаюцца ў той форме, у якой яны сёньня ўжываюцца ў Літве, Беларусі, Польшчы, Расеі і Украіне. Гэта значна спрашчае іх ідэнтыфікаваньне. У выпадках, калі гістарычная і сучасная формы геаграфічнай назвы значна разыходзяцца, падаюцца абодва варыянты* *. Таму назвы населеных пунктаў у Лівоніі, Курляндыі, Прусіі і Трансыльваніі пададзеныя ў дзьвюх вэрсіях. За некаторымі выключэньнямі (напр., шырока вядомыя прозьвішчы), кірылічнае напісаньне беларускіх, украінскіх і расейскіх імёнаў перадаецца паводле спрошчанай вэрсіі сыстэмы Бібліятэкі Кангрэсу ЗША. Амаль усе тэрміны, што апісваюць адміністрацыйны апарат ВКЛ, перадаюцца адпаведнымі ці аналягічнымі ангельскімі тэрмінамі, што ўжываліся ў тагачасны пэрыяд.

Назва Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (поўная афіцыйная назва) фігуруе ў трох варыянтах: у найбольш папулярнай скарочанай форме «ВКЛ» (вядомай у тагачасных лацінскіх, польскіх і старабеларускіх крыніцах адпаведна як MDL, W.X.L ці ВКЛ), а таксама як «Княства» ці проста «Літва». Усе гэтыя варыянты маюць гістарычны сэнс і не суадносяцца зь меншай тэрыторыяй сучаснай Літоўскай Рэспублікі. Фэдэрацыя польскай і літоўскай дзяржаваў фігуруе ў гэтым тэксьце як Польска-Літоўская садружнасьць (Polish-Lithuanian Commonwealth), Польшча-Літва (Poland-Lithuania) ці проста Садружнасьць (Commonwealth; ангельскі пераклад найбольш пашыранай у XVII ст. назвы гэтай дзяржавы *Rzeczpospolita*)***. Мова і культура ўсходнеславянскага насельніцтва Рэчы Паспалітай розьніліся ад культуры маскавітаў у Расеі, таму яно акрэсьліваецца тут як «рускія» — Ruthenians****. Гэты тэрмін суадносіцца з ангельскімі крыніцамі XVII ст.

Да дысэртацыі далучаны дзьве мапы, укладзеныя з дапамогай кандыдата гістарычных навук Віктара Цемушава. Першая, «Вялікае Княства Літоўскае і яго адміністрацыйны, геаграфічны і канфэсійны падзел у 1654—1667 гг.», далучана таму, што цяжка знайсьці дакладную англамоўную мапу ВКЛ XVII ст. У мапах, наяўных у сучасных беларускіх, літоўскіх і польскіх крыніцах, сустракаецца шмат памылак. Як правіла, на іх не пазначаны гістарычныя вобласьці ВКЛ, яго галоўныя рэлігійныя цэнтры, а таксама спадчынныя землі Радзівілаў. Таксама на ранейшых мапах памылкова паказана мяжа ВКЛ з Курляндыяй, заходняя мяжа з Польшчай, а таксама некаторыя адміністрацыйныя межы. Другая мапа, пад назвай «Швэдзкія ваенныя дзеяньні і зоны кантролю ў Вялікім княстве Літоўскім у 1655—1657 гг.», ілюструе пэрыяд актыўных ваенных дзеяньняў з боку Швэцыі.

** У перакладзе выкарыстоўваюцца назвы, характэрныя для XVII ст. *(Заўв. пер.)*

*** У беларускім перакладзе мы карыстаемся назвамі «Польска-Літоўская дзяржава» і «Рэч Паспалітая». *(Заўв. пер.)*

**** Аўтар настойваў на ўжываньні найменьня «русінскі», бо «рускі», згодна з Слоўнікам сучаснай беларускай мовы, азначае «расейскі». *(Заўв. рэд.)*

[2] Hazard, Paul. La crise de la conscience europeénne: 1680—1715. Vol. 1—3. Paris, 1935.

## 1.3. Тэарэтычныя асновы, выбар мэтадаў і мэтаў дасьледаваньня

У 1935 г. францускі гісторык і інтэлектуал Поль Азар апублікаваў сваю клясычную працу «Крызіс эўрапейскай сьвядомасьці», у якой, мабыць, XVII ст. упершыню паказанае як эпоха ўсеагульнага крызісу і фундамэнтальных трансфармацыяў[2]. У 60-х — 70-х гг. XX ст. група гісторыкаў Эўропы абмяркоўвала прычыны агульнага крызісу XVII ст. Беручы пад увагу шматлікія войны, паўстаньні і нутраныя канфлікты, што адбываліся ў сярэдзіне стагодзьдзя па ўсёй Эўропе, ад Партугаліі да Ўкраіны[3], такія выдатныя адмыслоўцы, як Трэвар Эстан, Эрык Гобсбаўм, Г'ю Рэдвалд Трэвар-Роўпэр, Джэфры Паркер, Лесьлі М. Сьміт, Нільс Стынгаард і Ралян Мусьнье, сьцьвярджалі, што ў XVII ст., асабліва ў яго сярэдзіне, Эўропа сапраўды зьведала агульны крызіс[4]. Аднак кожны навукоўца даваў яму сваё адметнае эканамічнае, палітычнае, рэлігійнае і культурнае абгрунтаваньне. Некаторыя разглядалі гэты крызіс пераважна як эканамічны, другія — як палітычны. Іншыя дасьледнікі ўвогуле адмаўлялі гэтую канцэпцыю. Напрыклад, галяндзкі гісторык Іво Шофэр пытаўся, як можна гаварыць пра ўсеагульны крызіс, калі Галяндыя ў гэты час перажывала свой залаты век[5]. Нават з гледзішча Швэцыі гэты пэрыяд цяжка ўспрымаць як крызіс, бо Швэцыя ў гэты час ператварылася ў адну зь вялікіх дзяржаваў.

Дасьледнікі палітычных аспэктаў агульнага крызісу, у прыватнасьці Трэвар-Роўпэр, вылучаюць два тэзісы. Па-першае, папярэднія гісторыкі разглядалі гэтае пытаньне з пазыцыяў асобных нацыяў, не робячы параўнаньня. Трэвар-Роўпэр, наадварот, падкрэсьлівае, што «сярэдзіна XVII ст. у Эўропе была пэрыядам рэвалюцый. Яны розьніліся адна ад адной, і калі вывучаць іх паасобку, то здавалася, што кожная абумоўлена мясцовымі адметнымі прычынамі. Але калі мы зірнём на іх у сукупнасьці, то ўбачым паміж імі так шмат падабенства, што яны

[3] У іх ліку: паўстаньне ў Багеміі супраць імпэрыі Габсбургаў (1618—1621 гг.); пурытанская рэвалюцыя ў Ангельшчыне (1640—1660 гг.); француская Фронда (1648 — 1653 гг.); палацавы пераварот у Галяндыі (1650 г.); паўстаньні ў Партугаліі (1640—1668 гг.), Каталёніі (1640 г.) і Андалюзіі (1641 г.); паўстаньні ў Нэапалі і Палерма (1647 г.), шкоцкі мяцеж і грамадзянская вайна паміж Шкоцыяй і Ангельшчынай (1644—1647 гг.); сялянскае паўстаньне ў Швайцарыі (1652—1652 гг.); казацкае паўстаньне ва Ўкраіне (1648—1659 гг.); разрыў літоўскімі сэпаратыстамі польска-літоўскай уніі і заключэньне саюзу з Швэцыяй (1655—1657 гг); вайна Прускага герцагства з Польшчай (1656—1657 гг.); агрэсія Асманскай імпэрыі супраць яе васала Трансыльваніі (1657—1660 гг.); нарэшце, паўстаньне Сьцяпана Разіна ў Расеі (1670—1671 гг.).

[4] Aston, Trevor (ed.). Crisis in Europe 1560—1660. New York, 1965; Parker, Geoffrey (ed.).The General Crisis of the Seventeenth Century. London, 1978.

[5] Schöffer, Ivo. Did Holland's Golden Age Coincide with a Period of Crisis? // The General Crisis of the Seventeenth Century. P. 83—109.

пададуцца нам практычна адной агульнай рэвалюцыяй»[6]. Па-другое, дасьледнікі засьведчылі, што палітычны крызіс у Эўропе ў сярэдзіне XVII ст. яго сучасьнікі бачылі як «усеагульны»[7].

Значная ўвага надавалася ўдакладненьню тэрміну «крызіс». На думку Трэвара-Роўпэра, агульны крызіс «быў не канстытуцыйным крызісам і не крызісам вытворчых сілаў, а крызісам дзяржавы, ці, хутчэй, дачыненьняў дзяржавы і грамадзтва». Пры гэтым «розныя краіны выходзілі з гэтага крызісу па-рознаму»[8]. У той жа час, сьцьвярджаюць Джон Г. Эліёт і А. Лойд Мут, праблема не датычылася нацыяналізму ў яго сучасным сэнсе. Хутчэй гэта быў канфлікт паміж «айчынай» і «дзяржавай», які гісторыкі пазьней акрэсьлілі як барацьбу мясцовых супольнасьцяў і іх вядучых элемэнтаў супраць цэнтральнай улады за прызнаньне за першымі права на сваё ўласнае заканадаўства і (або) незалежнасьць[9]. Дасьледнікі, якія засяроджваліся на палітычных аспэктах агульнага крызісу, паспрабавалі тыпалягізаваць яго найбольш пашыраныя праявы. Так, Пэрэс Сагорын вылучае пяць адметных тыпаў:

- правінцыяльныя, рэгіянальныя і сэпаратысцкія паўстаньні рэгіянальных элітаў, нацыянальнай шляхты і насельніцтва або залежных рэгіёнаў супраць уласных манархіяў ці іншаземных цэнтраў;
- грамадзянская вайна ў маштабах усёй дзяржавы супраць каралеўскай улады, ініцыяваная шляхтай і арыстакратыяй, з уцягненьнем усяго грамадзтва;
- змова і пасьпяховы пераварот, абмежаваны ўдзелам арыстакратычных эліт;
- паўстаньне сялян і іх хаўрусьнікаў супраць дзяржаўнай улады і (або) землеўладальнікаў;
- гарадзкія паўстаньні ніжэйшых станаў супраць гарадзкой арыстакратыі або ўсяго гарадзкога насельніцтва супраць замежнай каралеўскай (дзяржаўнай) улады[10].

У выпадку ВКЛ мы сутыкаемся зь некалькімі тыпамі крызісу, да таго ж ускладнёнага замежнай агрэсіяй з боку шэрагу дзяржаваў.

Важны тэарэтычны падмурак дысэртацыі — прапанаваная геапалітолягамі канцэпцыя балянсу сіл. У гэтым сэнсе прадмет нашага дасьледаваньня апынаецца ў кантэксьце новай гісторыі міжнародных стасункаў. Як сьцьвярджаюць дасьледнікі балянсу сіл у раньні пэрыяд Новага часу ў Эўропе, «вялікія дзяржавы традыцый-

[6] Trevor-Roper, Hugh Redwald. The General Crisis of the Seventeenth century // Crisis in Europe 1560—1660. P. 59.

[7] Parker, Geoffrey; Smith, Lesley M. Historians and the «General Crisis» // The General Crisis of the Seventeenth Century. Introduction. P. 1—25.

[8] Trevor-Roper. The General Crisis of the seventeenth century // Crisis in Europe 1560—1660. P. 95.

[9] Elliott, John H. Revolution and Continuity in Early Modern Europe // The General Crisis of the Seventeenth Century. P. 110—133; Moote, A. Lloyd. The preconditions of revolution in Early Modern Europe: did they really exist? // Тамсама. С. 142—143.

[10] Zagorin, Perez. Rebels and Rulers, 1500—1660. In two volumes. Cambridge University Press, 1982. Vol. I. P. 41.

на розьніліся ад іншых і разглядаліся як галоўныя гульцы ў міжнароднай палітыцы»[11]. Дробныя дзяржавы ў XVII ст., як правіла, лічыліся неістотнымі і разглядаліся ў кантэксьце сваіх саюзаў зь вялікімі дзяржавамі[12]. Такім чынам, іх адносілі хутчэй да пасіўных аб'ектаў палітыкі вялікіх дзяржаваў, чым да паўнапраўных і актыўных суб'ектаў міжнародных дачыненьняў.

Дыскурс балянсу сіл у XVII ст. выразна афарміўся дзякуючы зьяўленьню ў Эўропе новай палітычнай сыстэмы, запачаткаванай Вэстфальскім мірам (1648 г.) і замацаванай як норма міжнароднага права Утрэхцкай дамовай (1713 г.)[13]. Дасьледнікі гэтай школы расцэньваюць разьвіцьцё спробаў захоўваць і трансфармаваць геапалітычны балянс паміж вялікімі дзяржавамі як пошук кансэнсусу ва ўзаемных тэрытарыяльных прэтэнзіях. Разам з тым, пры пераразьмеркаваньні ўлады паміж вялікімі дзяржавамі меншыя ўвесь час заставаліся ў ценю[14]. І, такім чынам, гістарычныя дасьледаваньні засяроджваліся на дачыненьнях вялікіх дзяржаваў, а г. зв. «малыя дзяржавы», «дробныя хаўрусьнікі» ці «квазінезалежныя дзяржавы» заставаліся на пэрыфэрыі зацікаўленьня дасьледнікаў. Напрыклад, клясычная карціна міжнародных стасункаў падчас Паўночнай вайны 1655—1660 гг. бярэ пад увагу дзеяньні толькі такіх вялікіх дзяржаваў, як Швэцыя, Расея, Польшча, Данія, імпэрыя Габсбургаў, Галяндыя і Францыя.

Новая канцэпцыя пераглядае значэньне малых дзяржаваў, не ў апошнюю чаргу зважаючы на іх ролю ва ўраўнаважваньні стасункаў паміж вялікімі. Падтрымка малых дзяржаваў або яе адсутнасьць магла вызначыць зыход канфлікту паміж вялікімі. Я пастараюся засяродзіцца на шэрагу больш дробных тагачасных геапалітычных гульцоў. Сярод іх можна згадаць:

- праваслаўную гетманскую Украіну (аўтаномія ў складзе Расеі, затым Польшчы, потым зноў Расеі);
- пратэстанцкую Трансыльванію (васал Асманскай імпэрыі);
- пратэстанцкае Прускае герцагства (васал Польшчы);
- пратэстанцкую Курляндыю (васал Польшчы);
- пратэстанцка-каталіцкую «малую» Лівонію (супольнае ўладаньне Польшчы і ВКЛ);
- шматканфэсійнае Вялікае Княства Літоўскае (у фэдэрацыі з Польшчай).

У той час кожная з гэтых малых дзяржаваў мела свае ўласныя геапалітычныя інтарэсы. Яны варожа ставіліся да сваіх фармальных уладароў і шукалі дапамогі

[11] Levy, Jack S. War in the modern great power system, 1495—1975. The University Press of Kentucky, 1983. P. 2.

[12] Luard, Evan. The balance of power. The system of international relations, 1648—1815. London, 1992. P. 256—263.

[13] Duchhardt, Heinz. Balance of power und Pentarchie: Internationale Beziehungen 1700—1785. München, 1997. P. 9—23.

[14] Teschke, Benno. The myth of 1648. Class, geopolitics, and the making of modern international relations. London, New York, 2003. P. 236—237.

замежных дзяржаваў у барацьбе супраць цэнтральнай улады. Я хачу паказаць, што ўсе гэтыя дробныя дзяржавы адыгрывалі значную ролю ў міжнародных дачыненьнях ва Ўсходняй Эўропе сярэдзіны XVII ст. Напрыклад, 6 сьнежня 1656 г. Швэцыя падпісала з сваімі некаталіцкімі хаўрусьнікамі таемны Радноцкі трактат, які прадугледжваў будучы падзел Рэчы Паспалітай. Гэта была першая сэпаратная дамова ў гісторыі Польска-Літоўскай дзяржавы.

Дасьледнікі міжнародных стасункаў раньняга Новага часу спрашчаюць карціну, калі апісваюць падзеі толькі з гледзішча вялікіх дзяржаваў. Мне здаецца важным асьвятліць ролю малых дзяржаваў у зьмене балянсу сілаў ва ўсходнебалтыйскім рэгіёне ў прыватнасьці і ва ўсёй Усходняй Эўропе ў цэлым. Я засяроджу ўвагу на ВКЛ і іншых дробных паўнезалежных дзяржавах рэгіёну. У гэтым ракурсе найбольшае значэньне маюць наступныя пытаньні:

- ці адыгрывала ВКЛ істотную ролю ў зьмене геапалітычнай сытуацыі ва ўсходнебалтыйскім рэгіёне?
- якую ролю адыгрывалі разнастайныя групы літоўскай шляхты ў замежнай палітыцы суседніх магутных дзяржаваў?

Цалкам дапушчальна разглядаць замежную палітыку малых дзяржаваў як палітыку актыўных і раўнапраўных гульцоў на міжнароднай арэне, з сваімі ўласнымі геапалітычнымі інтарэсамі. Гэта дазволіць нам унесьці большую яснасьць у карціну міжнародных адносінаў раньняга Новага часу.

Галоўны мэтад дасьледаваньня ў гэтай працы — сыстэмны аналіз. Наша галоўная мэта — прадметнае вывучэньне эўрапейскага крызісу. Сюды ўваходзіць, па-першае, сыстэмнае дасьледаваньне крызісу, у якім апынулася ВКЛ у сярэдзіне XVII ст. праз кантакты сваёй эліты з Швэцыяй. Па-другое, гэта спроба ўлучыць згаданы крызіс у шырэйшы геаграфічны і геапалітычны кантэкст, які фармавалі суседзі ВКЛ. Фактычна гэта першае дасьледаваньне эўрапейскага крызісу ў ВКЛ, у якім адмыслова выкарыстоўваецца канцэпцыя агульнаэўрапейскага крызісу.

У дасьледаваньні робіцца спроба знайсьці адказы на наступны шэраг пытаньняў:

- якія сацыяльныя прычыны падштурхнулі эліту ВКЛ зрабіць спробу разарваць фэдэрацыю з Польшчай і аб'яднацца з Швэцыяй?
- якую ролю адыгрывала ВКЛ у тагачаснай швэдзкай замежнай палітыцы?
- якіх мэтаў разьлічвала дасягнуць праз унію з Швэцыяй пратэстанцкая групоўка Радзівілаў?
- чым кіраваліся розныя групы літоўскай шляхты, здраджваючы Польшчы?
- якія праекты легітымацыі сваёй улады пры дапамозе эліты ВКЛ мелі акупанты?
- якія каротка- і доўгатэрміновыя вынікі меў агульны крызіс XVII ст. для Літвы і Беларусі?

## 1.4. Папярэднія дасьледаваньні

Польскія гісторыкі далі першыя ацэнкі Кейданскай уніі ўжо ў канцы XVII ст. Да пачатку XX ст. найбольш аўтарытэтнымі працамі па гэтым пытаньні ў польскай

гістарыяграфіі лічыліся творы Яна Баўжынца Рудаўскага і Вэспасіяна Кахоўскага. У сваёй дысэртацыі я спасылаюся на працу Рудаўскага «Гісторыя Польшчы ад сьмерці Ўладзіслава IV да Аліўскага міру, ці Гісторыя панаваньня Яна Казімера з 1648 да 1660 г.»[15], напісаную ў 1672—1674 гг., і «Гісторыю Польшчы *climater secundus* і войны з Швэцыяй, Трансыльваніяй ды Масковіяй з 1655 да 1661 г.»[16] Кахоўскага, напісаную ў 1688 г.

На думку гэтых гісторыкаў, Кейданская унія была актам здрады польскім нацыянальным інтарэсам. Яны абодва бэсьцяць Януша Радзівіла ды літвінскіх пратэстантаў і ўскладаюць на іх адказнасьць за ваенную катастрофу 1654—1677 гг. Паводле іх словаў, Януш Радзівіл быў галоўным здраднікам у гісторыі Рэчы Паспалітай. Аднак абедзьвюм кнігам бракуе дакладнасьці. Так, аўтары маюць мала інфармацыі пра Кейданскую унію і лічаць, нібыта папярэдняя дэклярацыя літвінаў аб уніі, абвешчаная 17 жніўня 1655 г., была канчатковай дамовай з швэдамі, а не яе пралёгам. Яны карыстаюцца недакладнай польскай копіяй жнівеньскай дэкларацыі, датаванай 18 жніўня 1655 г. Рудаўскі і Кахоўскі ня маюць уяўленьня аб антышвэдзкім паўстаньні 1656 г. Як адзначаў літоўскі дасьледнік Антанас Тыл, наступныя пакаленьні польскіх гісторыкаў некрытычна запазычылі ўсе гэтыя недарэчнасьці[17].

Прыдворны гісторык Радзівілаў Самуэль Пшыпкоўскі першым выклаў пазыцыю літоўскіх сэпаратыстаў[18]. У канцы 1655 г., як мяркуецца, у Кейданах ананімна выйшаў яго твор «Апалёгія Яго Сьветласьці князя Януша Радзівіла»[19]. Пшыпкоўскі абараняе Радзівіла і пратэстантаў ад абвінавачаньняў у дзяржаўнай здрадзе, спасылаючыся на літоўскае права. На думку аўтара, акурат кароль Польшчы Ян Казімер і вінаваты ў той катастрафічнай сытуацыі, што склалася ў ВКЛ у 1655 г. Кароль, як галоўны военачальнік, ня змог абараніць краіну. Больш за тое, ён бясслаўна ўцёк зь яе. Такім чынам, манарх ня здолеў выканаць сваіх абавязкаў перад ВКЛ. У такіх абставінах літоўскія вышэйшыя дзяржаўныя дзеячы мелі поўнае права прымаць уласнае рашэньне. На думку Пшыпкоўскага, унія з Швэцыяй была адзіным сродкам абараніць ад захопу неакупаваную частку княства. Пшыпкоўскі зьвяртае ўвагу, што гэта была пастанова літоўскай шляхты, а не аднаго Януша Радзівіла. Шляхта выказвала ахвоту далучыцца да Швэцыі і патрабавала ад Януша Радзівіла такога

[15] Rudawski, Jan Wawrzyniec. Historja polska od śmierci Władysława IV aż do pokoju oliwskiego, czyli dzieje panowania Jana Kazimierza od 1648 do 1660 r. Vol. 1—2. Ed. Włodzimierz Spasowicz. Petersburg — Mohylew, 1855.

[16] Kochowski, Wespazjan. Historya panowania Jana Kazimierza.Vol. 1—3. Ed. Edward Raczyński. Poznań, 1840—1859.

[17] Tyla, Antanas. Kėdainių sutarties vertinimas XVII a. — 1940 m. istoriografijoje. Lietuvos TSR Mokslų Akademijos Darbai, 1984. Serija A. Vol. 2 (87). P. 59—71.

[18] Chmaj, Ludwik. Samuel Przypkowski na tle rządów religijnych XVII wieku. Kraków. 1927. P. 53.

[19] [Przypkowski, Samuel] Apologia pro illustrissimo ac celsissimo principe Janussio duce Radvilio, Sacri Romani Imperii PRINCIPE, DUCE BIRSARUM et DUBINCORUM &c. quondam PALATINO VILNENSI, et EXERCITUUM Magni Ducatus Litvaniae SUPREMO GENERALI. 61. C. CL, No 11615.I.

рашэньня. Пшыпкоўскі падкрэсьлівае, што дыскусія наконт дамовы аб уніі вялася публічна, а не кулюарна. У абмеркаваньні ўмоваў трактату бралі ўдзел сэнатары і ўраднікі. Большая частка шляхты ВКЛ, у тым ліку каталікі на чале зь біскупам жамойцкім, падпісалі дамову аб уніі з Швэцыяй. Антыдзяржаўны патас у працы Пшыпкоўскага зрабіў яе непапулярнай сярод гісторыкаў Рэчы Паспалітай, і таму шмат якія тагачасныя навукоўцы абміналі яе ўвагай.

Пасьля анэксіі земляў ВКЛ Расейскай імпэрыяй некаторыя дасьледнікі гісторыі княства пачалі крытычна пераасэнсоўваць нэгатыўныя ацэнкі Кейданскай уніі, што пераважалі ў польскай гістарыяграфіі. У 1840 г. літоўска-польскі кальвініст Валяр'ян Красінскі выдаў на эміграцыі працу па гісторыі Рэфармацыі ў Рэчы Паспалітай. Аўтар не пагадзіўся з гісторыкамі, якія абвінавачвалі літоўскіх пратэстантаў у «кейданскай здрадзе». Красінскі падкрэсьліў, што дамову аб уніі з Швэцыяй падпісала большасьць каталіцкай шляхты, у тым ліку і біскуп жамойцкі. Гэты факт прывёў аўтара да адметных высноў. На думку Красінскага, Кейданская унія, датай заключэньня якой ён памылкова лічыў 16 жніўня 1655 г., паводле свайго характару «была выключна палітычная, а не рэлігійная, і выклікана унія была сэпаратнымі інтарэсамі літвінаў, а не пратэстантаў». Рашэньне літоўскай шляхты прыняць пратэктарат швэдзкага караля было, такім чынам, ня здрадай, а адзіна магчымай *Realpolitik*, калі большасьць земляў ВКЛ акупавалі расейскія і ўкраінскія войскі, а Вялікапольшча падпала пад уладу Карла X Густава[20]. У 1859 г. Эдвард Катлубай, літоўскі шляхціц татарскага паходжаньня, апублікаваў біяграфію Януша Радзівіла. У ёй аўтар абараняе свайго героя ад нападак польскіх гісторыкаў. Катлубай пісаў, што цьверджаньне, нібыта Радзівіл сьвядома здаў Вільню, не адпавядае сапраўднасьці. Катлубай прызнаваў, што Радзівіл, як лідэр пратэстантаў, перад вайной падтрымліваў кантакты з Швэцыяй. Аднак яны, хутчэй за ўсё, насілі выключна рэлігійны характар. На думку Катлубая, каталіцкая рэакцыя першай паловы XVII ст., падтрыманая польскімі каралямі з дынастыі Вазаў, падштурхнула прыхільнікаў Радзівіла разарваць адносіны з Польшчай і заключыць унію з Швэцыяй. Такім чынам, першай прычынай уніі быў рэлігійны ўціск пратэстантаў-літвінаў. Другой прычынай стаўся напад на ВКЛ з боку Расеі і ўкраінскіх казакоў. Польшча ня здолела дапамагчы Літве адбіць гэты напад. Польскі кароль Ян Казімер уцёк за мяжу. У тых умовах уладная эліта ВКЛ вырашыла прыняць пратэктарат швэдзкага караля. Паводле словаў Катлубая, гэта абгрунтаваны і маральна апраўданы крок. Гісторык падкрэсьлівае, што польскія аўтары лічаць Януша Радзівіла здраднікам і галоўным ініцыятарам Кейданскай уніі толькі «таму, што ён быў пратэстант». Катлубай прызнае, што супраць уніі з Швэцыяй выступала адна групоўка літоўскай шляхты. Але яна, адрозна ад прыхільнікаў Радзівіла, ня мела рэалістычнай праграмы ратаваньня княства[21].

[20] Krasinski, Valerian. Historical Scetch of the Rise, Progress and Decline of the Reformation in Poland. In two volumes. London, 1840. Vol. II. P. 276—277.

[21] Kotłubaj, Edward. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno—Witebsk, 1859. P. 200—212.

У найноўшы час польскі погляд на Кейданскую унію выказаў Людвік Кубала ў працы, апублікаванай у 1913 г. На яго думку, унія паміж Швэцыяй і Літвой была не раўнапраўнай, а мела характар падпарадкаваньня. Кубала характарызуе сэпаратыстаў і іх лідэра Януша Радзівіла выключна нэгатыўна. Паводле яго словаў, Радзівіл быў «здраднік, які прывёў многіх шляхціцаў у Літве да здрады». З Кубалавай інтэрпрэтацыі вынікае, што Радзівіл дбаў толькі пра сваю асабістую выгаду, а зусім не пра бясьпеку ВКЛ. Кубала сьцьвярджае, што літоўская шляхта была вельмі незадаволеная уніяй з Швэцыяй. Аднак гэта датычыць толькі тых частак шляхты, што сымпатызавалі Польшчы або Расеі. Кубала таксама паўтарае даўнейшы міт аб разбурэньні швэдамі рымска-каталіцкіх касьцёлаў у Літве. Ён грунтуецца на народных легендах і літаратурных вобразах XVIII ст. Кубала таксама апісвае сьмерць Януша Радзівіла ў фантастычным ключы. Аўтар перакананы, што Радзівіл сам захацеў прыняць атруту. Перад сьмерцю ён нібыта клікаў д'ябла, а тады запрасіў каталіцкага сьвятара і сказаў яму: «Я не хачу памерці як здраднік»[22]. Першакрыніцы не пакінулі нам падобных сьведчаньняў.

У 1935 г. польскія гісторыкі Ўладзіслаў Канапчынскі і Казімеж Лепшы апублікавалі ў Вільні Кейданскую дамову разам зь некаторымі спадарожнымі крыніцамі[23]. У выданьні было багата памылак. Аўтары не ўключылі ў яго канчатковы варыянт дамовы, прыняты ў кастрычніку 1655 г., і памылкова лічылі, што апошняя кропка ў справе уніі была пастаўлена 18 жніўня 1655 г. У пераліку імёнаў падпісантаў таксама шмат памылак. Гэтае выданьне атрымала зьнішчальную, але справядлівую рэцэнзію літоўскага прафэсара Адольфаса Шапокі[24]. Нягледзячы на такія хібы, названае выданьне легла ў аснову шмат якіх гістарычных публікацыяў на гэтую тэму. Так, Дэвід Кэрбі напісаў: «У Літве гетман Януш Радзівіл 18 жніўня падпісаў акт аб капітуляцыі: армія Дэлягардзі акупавала большую частку Жамойці»[25].

У 70—80-х гг. XX ст. пра значэньне Кейданскай уніі ў Польшчы дыскутавалі Тадэвуш Васілеўскі і Гэнрык Віснэр. Васілеўскі выяўляў Кейданскую унію як здраду польскім нацыянальным інтарэсам. Ён падкрэсьліваў прынцыповую ролю ў гэтай падзеі літвінаў-пратэстантаў[26]. У біяграфіі Януша Радзівіла, напісанай для «Польскага біяграфічнага слоўніка», Васілеўскі сьцьвярджаў, што Радзівіл — найвялікшы здраднік у гісторыі Рэчы Паспалітай[27]. Гэнрык Віснэр — адзіны польскі

[22] Kubała, Ludwik. Wojna szwecka w roku 1655—1656. Lwów, 1913. P. 86—93.

[23] Konopczyński, Władyslaw, Lepszy, Kazimierz. Akta Ugody Kiedanskiej 1655 roku // Ateneum Wileńskie. Vol. 10. Wilno, 1935. P. 173—224.

[24] Šapoka, Adolfas. Dėl prof. Konopczyńskio paskelbtųjų 1655 m. Kėdainių sutarties dokumentų // Lietuvos praeitis. Vol. 1. Kaunas, 1940. pp. 305—306; Šapoka, Adolfas. 1655 metų Kėdainių sutartis arba švedai Lietuvoje 1655—1656 metais. Vilnius, 1990. P. 51, 67—68, 74—78, 111 etc.

[25] Kirby, David. Northern Europe in the Early Modern period. The Baltic world 1492—1772. London and New York, 1990. P. 186.

[26] Wasilewski, Tadeusz. Zdrada Janusza Radziwiłła w 1655 r. i jej wyznaniowe motywy // OiRwP.Vol. 18. Warszawa, 1973. P. 125—147.

[27] Wasilewski, Tadeusz Radziwiłł, Janusz // PSB, Warszawa, 1987. vol. XXX/1. P. 125.

дасьледнік гэтага пытаньня, добра знаёмы з швэдзкімі крыніцамі. Таму ён меў магчымасьць больш глыбока вывучыць праблему Кейданскай уніі. Паводле ягонай вэрсіі, унія з Швэцыяй была вымушаным і недаўгавечным крокам, зробленым у надзвычайных абставінах Паўночнай вайны 1655—1660 гг. У час вайны з Расеяй, калі выявілася ваенная слабасьць Польшчы, частка літоўскай эліты прыняла швэдзкі пратэктарат. Віснэр крытыкуе традыцыйную польскую інтэрпрэтацыю, якую ён называе «чорнай легендай аб Радзівілу». Ён адзначае, што Кейданская унія мела шырокую падтрымку сярод літоўскай шляхты і не зыходзіла выключна ад Радзівіла. Адрозна ад Васілеўскага, Віснэр ня бачыць у уніі рэлігійных матываў. Каталікі добраахвотна заключылі унію, якая гарантавала правы рымска-каталіцкай, уніяцкай і праваслаўнай канфэсіяў[28]. У сваёй пазьнейшай працы Віснэр параўноўвае Кейданскую унію з актам аб пераходзе на бок швэдзкага караля вялікапольскай шляхты, заключаным у тым жа 1655 г. у Уйсьці. Што да зьместу Кейданскай дамовы, Віснэр прызнае, што яна прадугледжвала фэдэрацыю дзьвюх дзяржаваў, а не аднабаковае падпарадкаваньне Вялікага Княства Швэцыі. Пры гэтым, аднак, аўтар зазначае, што ў выніку Кейданскай уніі «ў ВКЛ не засталося ані знаку сувэрэнітэту»[29].

Пазыцыю Віснэра разьвівалі іншыя польскія гісторыкі. Яны падкрэсьлівалі, што Рэч Паспалітая была фэдэрацыяй двух раўнапраўных народаў і, такім чынам, у яе рамках ВКЛ магло адстойваць уласныя геапалітычныя інтарэсы. Гэтыя гісторыкі зьвяртаюць увагу на даўнюю традыцыю сэпаратных пагадненьняў паміж Швэцыяй і ВКЛ[30]. Значны ўнёсак у распрацоўку праблемы зрабіў Анджэй Рахуба, дасьледуючы стаўленьне да уніі з швэдамі па-прапольску настроенай літоўскай шляхты[31]. Аднак большасьць сучасных польскіх гісторыкаў па-ранейшаму разглядаюць Кейданскую унію як «акт бясспрэчнай здрады, якая парушала ўсе палажэньні Люблінскай уніі»[32]. Між тым Люблінскую унію 1569 г. польскія дасьледнікі разглядаюць як зьяву выключна пазытыўную. На іх думку, добраахвотнае далучэньне Літвы і Беларусі да Польшчы адкрыла ім шлях да заходняй

[28] Wisner, Henryk. Dysydenci litewscy wobec wybuchu wojny polsko-szwedskiej (1655—1660) // OiRwP. Vol. XV. Warszawa, 1970. P. 130—144; Wisner, Henryk. Rok 1655 w Litwie: pertraktacje ze Szwecją i kwestia wyznaniowa // OiRwP. Vol. XXVI. Warszawa, 1981. P. 83—103.

[29] Wisner, Henryk. Janusz Radziwiłł 1612—1655. Wojewoda wileński. Hetman wielki litewski. Warszawa, 2000. P. 213.

[30] Wójcik, Zbigniew. The separatist tendencies in the Grand Duchy of Lithuania in the 17th century // Acta Poloniae Historica. Vol. 69, 1994. P. 55—62; Matwijów, Maciej. Koncepcje polityki Janusza Radziwiłła w latach 1648—1655. Proba interpretacji // Acta Universitatis Wratislaviensis, 1990. No. 1108. Historia LXXV. P. 33—42; Rachuba, Andrzej. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002.

[31] Rachuba, Andrzej. Konfederacja wojska litewskiego w Wierzbołowie w 1655 // Miscellanea historico-archiwistica. Warszawa, 1994. Vol. IV. P. 13—31; Rachuba, Andrzej. Paweł Sapieha wobec Szwecji i Jana Kazimierza (IX 1655 — II 1656) // Acta Baltico-Slavica, 1977. Vol. XI, P. 81—107.

[32] Królikowski, Bohdan. Wśród Sarmatów. Radziwiłłowie i pamiętnikarze. Lublin, 2000. P. 41.

цывілізацыі і забясьпечыла доступ да «вышэйшай» польскай культуры. Слабыя месцы працаў большасьці польскіх гісторыкаў па пытаньні Кейданскай уніі зьвязаныя зь іх няўвагай да швэдзкіх архіваў. Гэтым яны самі сябе абмяжоўваюць у выбары крыніцаў. Вельмі нешматлікія польскія гісторыкі дасьледавалі сацыяльныя акалічнасьці Кейданскай уніі, пазьнейшыя палітычныя падзеі і больш далёкія вынікі Кейданскай дамовы 1655 г. Большасьць дасьледнікаў дбала толькі пра вузкія нацыянальныя аспэкты пытаньня, і таму толькі адзінкі разглядалі падзеі ў кантэксьце міжнароднага крызісу XVII ст. Мабыць, адзіным гісторыкам, які ўсебакова вывучыў праявы глябальнага крызісу ў ВКЛ пасьля 1667 г. (у гэтым выпадку ён насіў дэмаграфічны характар), быў Юзаф Можы[33].

Беларуская і літоўская нацыянальныя гістарыяграфіі, што зьявіліся на пачатку XX ст., далі новы імпульс цікавасьці да Кейданскай уніі. Яны пачалі з параўнаньня Люблінскай уніі 1569 г. з Польшчай і Кейданскай уніі 1655 г. з Швэцыяй. Люблінская унія пры гэтым разглядалася нэгатыўна — як дамінаваньне Польшчы і канец самастойнасьці літоўскай і беларускай палітычнай культуры. Кейданская унія, наадварот, успрымалася як станоўчая падзея[34]. Супрацьпастаўленьне «дрэнная унія — добрая унія», калі саюз з Швэцыяй разглядаўся як альтэрнатыва далучэньню да Польшчы або Расеі, прывяло да таго, што літоўскія і беларускія гісторыкі ў сваіх працах пачалі адводзіць значную ролю Кейданскай уніі. Больш за тое, інтэрпрэтацыі уній з Польшчай і Швэцыяй імкліва прыстасоўвалі да патрэбаў новых нацыянальных рухаў. У 1910 г. у Вільні выйшаў першы падручнік па гісторыі Беларусі, аўтарам якога быў літоўскі шляхціц, лідэр беларускага нацыянальнага руху Вацлаў Ластоўскі. Ён сьцьвярджаў, што Люблінская унія не была добраахвотнай. Паводле словаў Ластоўскага, польскія палітыкі ставілі на мэце інкарпараваць Літву і Беларусь у склад Польшчы, а не аб'яднацца з ВКЛ як з раўнапраўным партнэрам. У выніку ВКЛ зрабілася залежнай калёніяй Польшчы, што прывяло да палянізацыі русінскай шляхты[35]. У той жа час Кейданская унія атрымлівае высокую ацэнку аўтара:

*Думка аб незалежнасьці Літвы пры тагочаснай руіне Рэчы Паспалітай ізноў засьвітала ў галовах магнатаў і князёў літоўскіх. Князь Януш Радзівіл з сваімі староньнікамі ўраілі перадаць Літву пад апеку швэдзкага караля на тых самых варунках, на якіх яна была злучана дагэтуль з Польшчай. Гэта была апошняя паманка беларуска-літоўскіх зямель, каб выламацца з залеж-*

[33] Morzy, Józef. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965.

[34] З падыходам беларусаў можна пазнаёміцца ў працах: Богданович, Максим. Белорусское возрождение // Багдановіч, Максім. Збор твораў. Менск, 1968. С. 254—265; Луцкевіч, Антон. . Аб дзяржаўным будаўніцтве (1918) // Беларуская думка XX ст. Варшава, 1998. С. 7—8. Літоўскі падыход прапануецца ў: Šliūpas, Jonas. Lietuvių tauta senovėje ir šiandien. Vol. 2. Plymouth, 1905. P. 133—134; Alekna, Antanas. Lietuvos istorijos pradžiamokslis su 15 paveikslų ir 2 žemėlapiais. Kaunas, 1925. P. 46.

[35] Власт [Ластоўскі, Вацлаў]. Кароткая гісторыя Беларусі з 40 рысункамі. Вільня, 1910. С. 45—52.

*насьці ад Польшчы [...] здаровая гасударственная думка адбудаваць незалежнае Літоўскае гасударства*[36].

Іншы гісторык і выдатны дзеяч беларускага нацыянальнага руху пісаў:

*Палітычная канцэпцыя, палягаўшая на тым, што, каб утрымаць сваю незалежнасьць, трэба жыць у згодзе з адным суседам (якім была выбрана Польшча) і змагацца з другім (Масквой), аказалася памылковай. Сутнасьць памылкі палягала на тым, што гэты «мірны» сусед выказаў ня меншую ахвоту загарнуць Беларусь, як і другі, зь якім вялося змаганьне. Калі памылковасьць гэтае вонкавай палітыкі Вялікага княства выйшла ў поўнай меры на ўзьверх і сталася ясным, што змагацца неабходна такжа і на захадзе, як і на ўсходзе, зьявілася новая канцэпцыя, палягаўшая на тым, каб у барацьбе з Польшчай і Масквой апёрціся на Швэцыю, зьвязаўшыся зь ёй саюзам. Гэты «скандынаўскі» кірунак у міжнароднай палітыцы Беларусі [sic! — А. К.] меў тады (палова XVII ст.) паважны грунт, бо Швэцыя ў XVII ст. адыгрывала ў міжнародных адносінах паважную ролю і была сільным гаспадарствам у эўрапейскім маштабе. Прадстаўнікамі гэтай новай беларускае палітычнай лініі [sic! — А. К.] быў Ян III Радзівіл і ягоны брат Багуслаў. Аднак гэты кірунак быў мала спапулярызаваны ў грамадзянстве і ў дадатку Ян Радзівіл хутка згінуў у часе барацьбы з палякамі*[37].

Літоўскія гісторыкі зрабілі грунтоўны ўнёсак у вывучэньне Кейданскай уніі. У 1928 г. Павілас Гронскіс апублікаваў датычны да нашай тэмы артыкул у часопісе «Revue historique». Аўтар дасьледаваў праўны аспэкт Кейданскай уніі, падкрэсьліўшы роўнасьць і ўзаемнасьць абавязацельстваў партнэраў па фэдэрацыі. Ён таксама першым прааналізаваў агульнапалітычную сытуацыю ў ВКЛ у 1655 г., закрануўшы, у прыватнасьці, прэтэнзіі расейскага цара на Літву і Беларусь. Гронскіс адзначыў, што ў 1655 г. літвіны мелі тры шляхі: захаваць вернасьць польскаму каралю, хоць той і кінуў краіну на волю лёсу, пачаць мірныя перамовы з Масковіяй або перайсьці пад пратэктарат Швэцыі, спадзеючыся на яе перамогу ў вайне з Расеяй і вызваленьне ВКЛ. Гронскіс вельмі крытычна ацэньвае вынікі Люблінскай уніі. На яго думку, «прагнілы арганізм дваістай Рэчы Паспалітай разбураўся сам сабой. Спадзеючыся захаваць тэрытарыяльную цэласнасьць ВКЛ і выратаваць яго ад заваяваньня маскоўскім войскам, вялікі гетман літоўскі Радзівіл пачаў перамовы з ачольнікам швэдзкай арміі Магнусам Дэлягардзі, што прывяло да заключэньня Кейданскай дамовы». На думку Гронскіса, Кейданская унія была ня здрадай, а адзіным лягічным крокам у рэчышчы *realpolitik.* «Кіраўнік дзяржавы Януш Радзівіл

[36] Власт [Ластоўскі, Вацлаў]. Кароткая гісторыя Беларусі з 40 рысункамі. С. 45—52.

[37] Шкялёнак, Мікола. Беларусь-Літва-Крывія (1941) // Шкялёнак, Мікола. Беларусь і суседзі. Беласток, 2003. С. 62—63.

верыў, што, уступіўшы ў рэальны саюз з Швэцыяй, ВКЛ зможа напоўніць сваё існаваньне больш рэальным зьместам, чым застаючыся часткай Рэчы Паспалітай». Калі з польскага гледзішча унія была здрадай, дык вялікі гетман, наадварот, бачыў у ёй спосаб абараніць інтарэсы сваёй краіны. Радзівіл спадзяваўся, што пратэктарат Швэцыі засьцеражэ ВКЛ ад анархіі, зробіць магчымым мірнае жыцьцё, паспрыяе эканамічнаму разьвіцьцю паўднёва-ўсходняй часткі вялікай Швэдзкай імпэрыі і створыць умовы раўнапраўнага саюзу, які забясьпечыць Літве посьпех, рэлігійную талерантнасьць і цывілізацыйны прагрэс. Аднак усьлед за ранейшымі гісторыкамі Гронскіс памылкова лічыць канчатковым актам уніі дэклярацыю 17 жніўня (і датуе яе 18 жніўня 1655 г.). Таму яго высновы грунтуюцца на дэклярацыі літоўскай арыстакратыі ад 17 жніўня 1655 г., палажэньні якой насамрэч адрозьніваліся ад выніковага акту Кейданскай уніі. Аўтар памылкова сьцьвярджае, што тэкст Кейданскай дамовы «падкрэсьлівае асаблівы статус Януша Радзівіла». Дакладнае паходжаньне копіі жнівеньскай дэклярацыі, апублікаванай Гронскісам, невядомае[38].

Адзіным нескандынаўскім гісторыкам, які карыстаўся крыніцамі з Нацыянальнага архіву Швэцыі, быў літоўскі прафэсар Адольфас Шапока. У 1933 г. ён атрымаў стаж у каледжы Стакгольмскага ўнівэрсытэту і ў 1939 г. апублікаваў першыя вынікі сваёй працы ў часопісным артыкуле[39]. Аднак ягоная падрабязная манаграфія «Кейданская унія 1655 г. і швэды ў Літве, 1655—1656 гг.» на шмат гадоў засталася ў рукапісе і выйшла друкам у Літве адносна нядаўна[40]. Шапока напісаў сваю працу ў форме штодзённай хронікі ад канца 1655 г. да вясны 1656 г. Сацыяльныя перадумовы ідэі швэдзка-літоўскай уніі не раскрываюцца. Аўтар пачынае сваю манаграфію з апісаньня расейска-ўкраінскага нападу на Рэч Паспалітую і тагачасных дыпляматычных кантактаў Радзівіла і яго прыхільнікаў з швэдамі. Шапока ў сваёй працы спыняецца на падзеях вясны 1656 г., хоць прашвэдзкая партыя сярод літоўскай шляхты існавала да канца 1657 г. і ў Літве па-ранейшаму актыўна праводзілася швэдзкая палітыка. Шапока разглядае Кейданскую унію як спробу літоўскай арыстакратыі захаваць сваю краіну перад аблічча ваеннага крызісу. Ён паказвае, што шляхта ад пачатку па-рознаму ставілася да уніі. Шапока адмоўна ацэньвае швэдзкую палітыку ў акупаванай зоне. Аўтар сьцьвярджае, што тая сталася галоўнай прычынай антышвэдзкага паўстаньня. Нарэшце, гісторык прызнае, што «наступствы Кейданскага палітычнага акту адчуваліся ў ВКЛ доўгі час пасьля 1656 г.». Аднак ён завяршае свой аповед фразай: «Цяпер значэньне палітычных падзей вакол саюзу ВКЛ і Швэцыі падаецца высьветленым»[41]. Яго літоўскацэнтрычны погляд выявіўся ў геаграфічных межах дасьледаваньня. Шапоку цікавілі перадусім этнічныя літоўскія землі. Падзеі на рускіх землях ВКЛ ён разглядае толькі фрагмэнтарна. Адрозна ад папя-

[38] Gronski, Paul (Gronskis, Povilas). Le traité Lituano-Suédois de Keidany (18 aout 1655) // Revue historique. 1928. Vol. 159. P. 291—304.

[39] Šapoka, Adolfas. Jonušas Radvila ir Švedija. Židinys, 1939. №8—9. P. 214—229.

[40] Šapoka. 1655 metų Kėdainių sutartis arba  vedai Lietuvoje 1655—1656 metais.

[41] Тамсама. С. 177.

рэдніх польскіх гісторыкаў, аўтар даводзіць, што Кейданская дамова падпісвалася ў інтарэсах усяго Княства і не была вынікам змовы Радзівілаў. Кейданскую унію падтрымлівалі шырокія колы літоўскай шляхты. З швэдзкіх крыніцаў гісторык даведаўся пра значную ролю ў швэдзка-літоўскіх стасунках Багуслава Радзівіла — факт, які абміналі ўвагай польскія гісторыкі. Пры гэтым, аднак, Шапока абмежаваў свае швэдзкія архіўныя дасьледаваньні пераважна калекцыяй «Militaria»[42]. Аўтар не вывучаў многіх іншых калекцый і старадрукаў, што захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Швэцыі, Швэдзкай каралеўскай бібліятэцы і бібліятэцы Ўпсальскага ўнівэрсытэту. Ня выкарыстаў ён і такіх важных дакумэнтаў, як пратаколы швэдзкага парлямэнту і Каралеўскай Рады[43]. Тагачаснае палітычнае становішча не дазволіла аўтару пазнаёміцца з важнымі для вывучэньня пытаньня архівамі Польшчы (варшаўскім, віленскім, нясьвіскім і кракаўскім), Беларусі (менскім) і Расеі (маскоўскім і ленінградзкім). З моманту напісаньня манаграфіі Шапокі апублікавана мноства новых, раней невядомых, архіўных і рукапісных матэрыялаў, што дазваляе сёньня інакш разгледзець акрэсьленае пытаньне. Шапока літуанізаваў усе ўласныя імёны шляхты. Гэта звузіла навуковы ўжытак яго працы, асабліва абцяжарыўшы яе выкарыстаньне для замежных гісторыкаў.

У савецкую эпоху ў вывучэньне нашага пытаньня важкі ўнёсак зрабілі літоўскія гісторыкі Антанас Тыла і Бронюс Дундуліс. Тыла апублікаваў шмат артыкулаў па розных аспэктах швэдзка-літоўскіх палітычных кантактаў[44]. Ён выявіў у літоўскіх архівах мноства невядомых крыніцаў з апісаньнем падзей у швэдзкай акупацыйнай зоне і антышвэдзкага паўстаньня ў Жамойці. Аднак яго высновы грунтаваліся на наробку папярэдняй гістарыяграфіі і Шапокавым рукапісе. У 1977 г. Дундуліс выдаў манаграфію пад назвай «Інтэрвэнцыя швэдзкіх фэўдалаў у Літву ў XVII—XVIII стст.», на жаль, заснаваную на савецкіх ідэалягічных клішэ[45].

Вельмі мала дасьледавалася Кейданская унія ў сучаснай Беларусі. Пасьля зьнішчэньня беларускай гістарычнай школы падчас сталінскага тэрору (1930—1940 гг.) спынілася вывучэньне палітычнай гісторыі ВКЛ[46]. Толькі пасьля 1991 г. гісторыкі

[42] RA. Militaria. Krighistoriska handlingar. Karl X Gustafs tid. Polska kriget 1655—60. Vol. M. 1304.

[43] Enblom, Walfrid (ed.) Svenska Riksrådets protokoll. Vol. 17. 1657. Stockholm, 1929; Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdags- protokoll. Vol. 6. 1656—1658. Stockholm, 1877; Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdags- protokoll. Vol. 7. 1660. Stockholm, 1881.

[44] Tyla, Antanas. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų okupaciją 1656 m. // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos Darbai, 1976. Serija A. Vol. 4 (57). P. 61—72; Тыла, Антанас. Кейданская уния 1655 г. между Великим княжеством Литовским и Швецией // Скандинавский сборник (Skrifter om Skandinavien). Том XXIII. Тарту, 1978. С. 68—80; Tyla, Antanas. Kėdainių unijos opozicija (1655—656 m) // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos Darbai, Serija A, 1979. Vol. 2 (67). P. 67—84.

[45] Dundulis, Bronius. Švedų feodalų įsiveržimai i Lietuvą XVII—XVIII a. Vilnius, 1977.

[46] Lindner, Rainer. Historiker und Herrschaft: Nationsbildung und Geschichtspolitik in Weissrussland im 19. und 20. Jahrhundert. München, 1999; Kotljarchuk, Andrej. The Tradition of Belarusian Statehood: a War for the Past // Contemporary Change in Belarus. Baltic and Eastern European Studies. Vol. 2. Södertörns University College, 2000. P. 41—72.

незалежнай Беларусі вярнуліся да гэтай тэмы. У 1995 г. Генадзь Сагановіч выдаў кнігу «Невядомая вайна: 1654—1667 гг.», якая адразу ж стала навуковым бэстсэлерам. Аўтар дасьледаваў вайну Расеі з ВКЛ і яе катастрафічныя вынікі для Беларусі. Кніга рэзка розьнілася ад традыцыйных тэзісаў расейскай імпэрскай і савецкай гістарыяграфіі і паказвала, што галоўны фронт вайны Расеі з Рэччу Паспалітай 1654—1677 гг. праходзіў па тэрыторыі Беларусі, а не Ўкраіны, як лічылася раней. Некалькі старонак кнігі Г. Сагановіча прысьвечана Кейданскай уніі і калябарацыі літоўскай шляхты з швэдамі (гэтыя апісаньні грунтуюцца на польскіх дасьледаваньнях[47]). Той жа беларускі гісторык першым прааналізаваў раскол шляхты ў вайне 1654—1677 гг. на прыхільнікаў Расеі і Польшчы ды ролю гэтага расколу ў палітычнай дэцэнтралізацыі літоўскай эліты[48]. Васіль Мялешка вывучаў грамадзянскую вайну, што разгарнулася паміж рознымі групамі літоўскай шляхты ў 1655—1658 гг. на фоне Паўночнай вайны 1655—1660 гг.[49]

Першым з скандынаўскіх гісторыкаў зьвярнуў увагу на кантакты паміж Швэцыяй і ВКЛ у сярэдзіне XVII ст. Самуэль фон Пуфэндорф. У 1677 г. ён стаў прафэсарам гісторыі ў Швэдзкім унівэрсытэце ў Люндзе — новым унівэрсытэце ў цэнтры былой дацкай правінцыі Сканія. У 1677 г. Пуфэндорфа прызначылі «каралеўскім гістарыёграфам Швэцыі». Плёнам яго дасьледаваньняў сталіся выдадзеныя ў 1688 г. «Уводзіны ў гісторыю Швэцыі» («Inledning till Swdnska historien»). Па сьмерці Пуфэндорфа была апублікавана ягоная клясычная біяграфія Карла X Густава. У ёй Пуфэндорф закрануў Кейданскую унію 1655 г., паўстаньне ў Жамойці і аблогу Берасьця ў 1657 г. Вартасьць яго працы — у шырокім выкарыстаньні матэрыялаў швэдзкіх архіваў[50]. Аднак Пуфэндорф ня здолеў убачыць розьніцы паміж жнівеньскай дэкларацыяй шляхты (ён памылкова датуе яе 15 жніўня 1655 г.) і канчатковым актам Кейданскай уніі. Праца Пуфэндорфа сталася зыходным пунктам для шматлікіх дасьледнікаў і ўрэшце была перакладзена з лацінскай мовы на швэдзкую[51].

У 1883 г. Фрэдрык Карлсан апублікаваў сваю «Гісторыю Швэцыі падчас праўленьня Карла X Густава»[52]. Ён карыстаўся новымі архіўнымі крыніцамі, але швэдз-

[47] Сагановіч, Генадзь. Невядомая вайна 1654—1667 гг. Мінск, 1995. С. 47—51.

[48] Сагановіч, Генадзь. Шляхта Беларусі паміж Масквой і Каронай, або Войны XVII ст. як фактар дэцэнтралізацыі // Наш радавод. Кн. 8. Гродна—Беласток, 2000. С. 118—124.

[49] Мялешка, Васіль. Грамадзянская вайна на Беларусі (1655—1658) // Profesor Henryk Łowmiański. Życie i dzieło. Poznań, 1995. P. 135—154.

[50] Pufendorf, Samuel. De rebus a Carolo Gustav Sveciae rege gestis commentariorum, libri septem elegantissimis tabulis aeneis exornati cum triplici indice. Norimbergae, 1696.

[51] Franzén, Frans Michael. Minnesteckningar öfver utmärkte svenske statsmän, hjeltar, lärde, konstnärer och skalder. Vol. II. Stockholm, 1859. P. 129—134; Pufendorf, Samuel von. Samuel von Pufendorfs sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 1—7. Stockholm, 1913—15.

[52] Carlson, Fredrik Ferdinand. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. Sveriges historia under Carl den tionde Gustafs regering. Stockholm, 1883.

кая палітыка адносна ВКЛ засталася на пэрыфэрыі яго цікавасьці. Карлсан не аналізаваў сацыяльных перадумоў Кейданскай уніі і не заглыбляўся ў спэцыфіку ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Ён убачыў толькі адну прычыну, чаму літоўская шляхта падтрымлівала саюз з Швэцыяй: выкліканы вайной крызіс. У артыкуле Нільса Эдэна, палітычнага лідэра Швэцыі ў 1917—1920 гг., утрымліваецца прыблізна такая ж інфармацыя і падаецца шмат прыкладаў антыпольскага сэпаратызму літвінаў. У Эдэна сярод крыніцаў было данясеньне швэдзкага дыплямата Юхана Мэера (1654 г.), у якім гаварылася: «Сэпаратысцкія і прашвэдзкія настроі сярод літоўскай шляхты вельмі моцныя». Аднак Эдэн не зразумеў значэньня падобных заўваг[53]. У 1903 г. зьявілася дысэртацыя Манфрэда Карляна, прысьвечаная швэдзка-расейскай вайне 1656—1658 гг. Аўтар зьвяртаў увагу, што галоўнай яе прычынай быў канфлікт вакол Літвы [54]. У 1891 г. Карл Віблінг прадставіў дасьледаваньне дыпляматычных стасункаў паміж Швэцыяй і Трансыльваніяй у 1655—1660 гг.[55] У 1920 г. Георг Вітрок выдаў працу, у якой прааналізаваў становішча саюзьнікаў Швэцыі падчас вайны з Польшчай [56]. На жаль, саюз паміж Швэцыяй і ВКЛ застаўся па-за межамі яго дасьледаваньня.

У 1938 г. Пэр Сандбэрг апублікаваў кароткі разгляд Кейданскай уніі[57]. Ён скарыстаў некаторыя раней невядомыя швэдзкія крыніцы, што датычылі ходу перамоваў. Аўтар зьвярнуў увагу на значэньне пратэстантызму ў працэсе аб’яднаньня. Сандбэрг падкрэсьліў ролю, якую адыграў у перамовах Багуслаў Радзівіл. Аднак, падобна да Гронскіса, Сандбэрг памылкова прыняў жнівеньскую дэклярацыю 1655 г. за канчатковы акт Кейданскай уніі і не прывёў ніякіх датаў заключэньня трактату. Дасьледаваньне Сандбэрга засталося невядомым большасьці гісторыкаў і мала паўплывала на пазьнейшую швэдзкую гістарыяграфію. Георг Ляндбэрг у сваёй працы «Гісторыя міжнародных дачыненьняў Швэцыі ў 1648—1697 гг.» глыбей раскрыў сутнасьць Кейданскай уніі. Ляндбэрг, мабыць, першым з швэдзкіх гісторыкаў прывёў слушную дату падзеі: «У 1655 г., 20 кастрычніка, літоўская шляхта падпісала ў Кейданах наўпроставую унію з Швэцыяй». Ён таксама згадаў пра існаваньне папярэдняга пляну Кейданскай уніі, распаўсюджанага сярод Радзівілавых прыхільнікаў. Што да прычынаў Кейданскай уніі, Ляндбэрг падкрэсьліў пратэстанцкае веравызнаньне Радзівілаў і іх прыхільнікаў. Аднак Ляндбэрг падаў кароткі і няпоўны аналіз Кейданскай уніі[58]. У другой палове 50-х — першай палове 60-х гг. XX ст. выйшлі некалькі працаў, прысьвечаных швэдзка-

[53] Edén, Nils. Grunderna till Karl X Gustafs anfall på Polen // Historiskt Tidskrift. 1906. Vol. 26. P. 5—45.

[54] Carlon, Manfred. Ryska kriget 1656—1658. Lund, 1903.

[55] Wibling, Carl. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy II. Lund, 1891.

[56] Wittrock, Georg. Karl X Gustaf i Polen. Krigsmålet och allianserna // Karolinska förbundets årsbok. Stockholm, 1920. P. 4—49.

[57] Sandberg, Per. Fördraget i Kedainiai mellan Sverige och Litauen. Planerna på en svensk-litauisk union // Baltisk revy: en årsbok. Lund, 1938. P. 42—51.

[58] Landberg, Georg. Den svenska utrikespolitikens historia. 1648—1697. Stockholm, 1952. P. 92.

ўкраінскім кантактам, швэдзкага гісторыка ўкраінскага паходжаньня Багдана Кентрыжынскага [59]. Ён увёў у навуковы ўжытак шмат новых крыніцаў па гэтай тэме. Аднак роля ВКЛ у швэдзка-ўкраінскіх кантактах засталася па-за сфэрай цікавасьці аўтара.

У 1967 г. Арнэ Штадэ абараніў дысэртацыю, прысьвечаную аналізу дзёньнікаў Эрыка Дальбэрга як крыніцы па гісторыі швэдзкіх войнаў у пэрыяд уладараньня Карла X Густава. Аўтар крытычна прааналізаваў Дальбэргавы нататкі пра ягоны ўдзел у аблозе Берасьця ў 1657 г.[60] Штадэ паказаў на памылкі Дальбэрга ў датаваньні гэтых падзей. Ён растлумачыў недакладнасьці тым, што Дальбэрг пісаў свае нататкі значна пазьней. На маю думку, трактоўка Штадэ абгрунтаваная, бо на мапах Дальбэрга, што адлюстроўваюць швэдзкія ваенныя дзеяньні на тэрыторыі ВКЛ, багата памылак у абазначэньні літоўскіх і беларускіх мясцовасьцяў. У Беларусі дзёньнікі Дальбэрга прааналізаваў Алесь Белы [61]. У 2000 г. Пэтэр Энглюнд апублікаваў комплексную працу па войнах Швэцыі зь іншымі дзяржавамі ў сярэдзіне XVII ст. Аналізуючы ваенныя дзеяньні Швэцыі ў Рэчы Паспалітай, Энглюнд засяроджваецца на польскай кампаніі. Ён надае няшмат увагі Кейданскай уніі, а таксама швэдзкай палітыцы ў Літве [62]. Аўтар разглядае Кейданскую унію на фоне цяжкой ваеннай сытуацыі, у якой апынулася ВКЛ: «паміж расейскай Сцыляй і швэдзкай Харыбдай». Энглюнд першы згадвае маштабную прапагандысцкую кампанію, распачатую ў 1655 г. Магнусам Габрыелем Дэлягардзі сярод літоўскай шляхты, з тым каб перацягнуць яе на швэдзкі бок. Энглюнд лічыць, што, калі б Кейданская унія зьдзейсьнілася на практыцы, швэды атрымалі б больш тэрыторыяў, чым за ўсе папярэднія 200 гадоў сваёй экспансіі ва Ўсходнюю Балтыку. Тым ня менш, ён памылкова лічыць жнівеньскую дэклярацыю 1655 г. заключным актам Кейданскай уніі і не аналізуе сытуацыі ў зоне швэдзкай акупацыі Літвы пасьля уніі. Энглюнд дасьледуе швэдзкую аблогу 1657 г. Берасьця — найбуйнейшага гораду на захадзе ВКЛ. Ён таксама зьвяртае ўвагу на ролю ў гэтых падзеях саюзьніцы Швэцыі — пратэстанцкай Трансыльваніі. Увогуле кніга Энглюнда робіць значны ўнёсак у вывучэньне ваеннай гісторыі. Аднак палітычныя, рэлігійныя і эканамічныя аспэкты дачыненьняў паміж ВКЛ і Швэцыяй патрабуюць далейшага дасьледаваньня. Нарэшце, у 2001 г. Стэлян Дальгрэн падрыхтаваў да выданьня дакумэнты па Кейданскай уніі, дадаўшы да іх улас-

[59] Kentrschynskyj? Bohdan. Karl X Gustav inför krisen i Öster 1654—1655 // Karolinska förbundets årsbok, Stockholm, 1956. P. 8—147; Kentrschynskyj, Bohdan. Mazepa. Stockholm, 1962; Kentrschynskyj, Bohdan. Ukrainska revolutionen och Rysslands angrepp mot Sverige 1656 // Karolinska förbundets årsbok, 1966. P. l 7—86.

[60] Stade, Arne. Erik Dahlbergh och Carl X Gustafs krigshistoria. Stockholm. 1967. P. 194—198.

[61] Белы, Алесь. Невядомыя эпізоды «невядомай вайны», або Ваенныя дзеяньні Швэцыі супраць Вялікага Княства Літоўскага ў 1656—1657 гадах вачыма Эрыка Дальбэрга // Спадчына. Менск, 1999. № 3. С. 114—129.

[62] Englund, Peter. Den oövervinnerlige. Om den svenska stormaktstiden och en man I dess mitt. Stockholm, 2000. P. 211—213, 223, 453—479.

ныя камэнтары, і напісаў два суправаджальныя артыкулы. На жаль, гэтая праца дасюль не апублікавана[63].

За апошнія дзесяць гадоў шэраг каштоўных працаў выдалі расейскія гісторыкі. У 1994 г. Леў Забароўскі апублікаваў дыпляматычныя акты ВКЛ і Расеі пэрыяду Паўночнай вайны 1655—1660 гг. з прадмовай і камэнтарамі[64]. Раней ён выдаў манаграфію на тэму расейскай замежнай палітыкі, скарыстаўшы шматлікія крыніцы для аналізу дыпляматычных адносінаў ва Ўсходняй і Паўночнай Эўропе ў 1654—1660 гг[65]. Барыс Флора ўжыў новыя расейскія архіўныя крыніцы ў сваім дасьледаваньні палітыкі Расеі падчас антышвэдзкага паўстаньня ў Жамойці[66]. Алена Кобзарава прааналізавала расейскую палітыку ў 1655—1661 гг. ва Ўсходняй Балтыцы[67]. Тацяна Якаўлева напісала вычарпальную манаграфію пра ўкраінскую дыпляматыю ў другой палове 50-х гг. XVII ст.[68]. Украінскія гісторыкі таксама напісалі шэраг працаў, у якіх разгледзелі казацкую палітыку ў 1654—1661 гг. і ўкраінска-швэдзкія адносіны[69].

У 1979 г. фінскі гісторык Райнэр Фагерлюнд зрабіў найвялікшы з усіх заходніх дасьледнікаў унёсак у вывучэньне нашай тэмы[70]. Гэты ваенны гісторык выкарыстаў шэраг раней невядомых крыніцаў з Нацыянальнага архіву Швэцыі. Ён акрэсьліў ключавыя моманты падчас перамоваў паміж ВКЛ і Швэцыяй, вызначыў колькасьць гарнізонаў і салдат у акупаванай швэдамі частцы Літвы і падаў інфармацыю пра антышвэдзкае паўстаньне. Фагерлюнд таксама вывучыў падатковыя кнігі адміністрацыі швэдзкай Лівоніі зь зьвесткамі па акупаванай частцы Літвы ў 1655—1656 гг., што захоўваюцца ў Эстонскім гістарычным архіве[71]. У 1993 г. Робэрт

[63] Dahlgren, Stellan. Documentes related to the Swedish-Russian diplomatic negotiations 1655—1657. Manuscript, 2001.

[64] Заборовский, Лев. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655—1656). Документы, исследование. Москва, 1994.

[65] Заборовский, Лев. Россия, Речь Посполитая и Швеция в середине XVII века. Из истории международных отношений в Восточной и Юго-Восточной Европе. Москва, 1981.

[66] Флоря, Борис. От потопа до Вильна. Русская политика по отношению к Речи Посполитой в 1655—1656 гг. // Kwartalnik Historyczny. Warszawa, 2003. Rocznik CX. № 2. С. 25—49.

[67] Кобзарева, Елена. Дипломатическая борьба Росии за выход к Балтийскому морю в 1655—1661. Москва, 1998.

[68] Яковлева, Тетяна. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. Причини і початок Руїни. Київ, 1998.

[69] Грушевський, Михайло. Історія України-Русі. Том IX. Частина друга. Київ, 1997; Ліпінський, Вячеслав. Україна на переломі 1657—1659 рр. Ведень, 1920; Чухліб, Тарас. Гетмани і монархи. Українська держава в міжнародних відносинах 1648—1714 рр. Київ, 2003.

[70] Fagerlund, Rainer. Kriget i Östersjöprovinserna 1655—1660. Operationer och krigsansträngningar påen bikrigsskådeplats under Carl X Gustafs krig. Åbo, 1979.

[71] Fagerlund, Rainer. Kontribution, försträckning och kaduck: svensk krigsfinansiering i Östersjöprovinserna 1655—1661 // Historiskt tidskrift för Finland. 1981. Vol. 66. P. 321—337.

Фрост напісаў манаграфію пра Рэч Паспалітую падчас Паўночнай вайны 1655—1660 гг. Яна дасюль застаецца адзіным англамоўным дасьледаваньнем, у якім разглядаецца Кейданская унія [72]. Фрост ня толькі абагульніў большасьць найважнейшых працаў на гэтую тэму, але і знайшоў шмат цікавых крыніцаў у польскіх архівах. Ён зрабіў важныя высновы адносна розных палітычных груп у асяродзьдзі літоўскай шляхты, што змагаліся міжсобку. Фрост падкрэсьліў працягласьць перамоўнага працэсу паміж ВКЛ і Швэцыяй. Ён зьвярнуў увагу, што канчатковы акт уніі быў падпісаны 20 кастрычніка, а не 17 жніўня 1655 г. Але, засяродзіўшы ўвагу на Польшчы, падзеі 1656—1661 гг. на Беларусі і Літве ён закранае фрагмэнтарна.

Практычна ва ўсіх вышэйзгаданых гістарыяграфічных працах зьвяртаецца ўвага на Кейданскую унію 1655 г., але ў ніводнай зь іх ня зроблена падрабязнага аналізу яе глыбінных прычынаў, непасрэдных вынікаў і далёкасяжных наступстваў. У большасьці ранейшых дасьледаваньняў войны ў ВКЛ сярэдзіны XVII ст. разглядаліся хутчэй у ваенным, чым у палітычным ракурсе. Больш за тое, толькі нямногія гісторыкі дэталёва разглядалі падзеі, датычныя непасрэдна ВКЛ. Большасьць засяроджвалася на тагачасных войнах, а карціну агульнага міжнароднапалітычнага становішча падавала толькі фрагмэнтарна. Амаль усе гісторыкі расцэньвалі Кейданскую унію як перадусім тактычную рэакцыю на ваенную катастрофу 1654—1655 гг. Яны ня бачылі ні стратэгічных сацыяльных (геапалітычных, эканамічных, рэлігійных) передумоваў, ні вынікаў Кейданскай уніі. Толькі некаторыя разглядалі падзеі ў ВКЛ у кантэксьце канцэпцыяў агульнага крызісу і балянсу сіл.

Засталіся маладасьледаванымі шмат важных момантаў, у тым ліку:

- гандлёвыя аспэкты літоўска-швэдзкіх дачыненьняў;
- ВКЛ у сьвятле швэдзкай геапалітыкі;
- кантакты літоўскіх і беларускіх пратэстантаў з Швэцыяй;
- Літва пад Швэцыяй і яе сыстэма кіраваньня;
- погляды Радзівіла на будучыню Літвы;
- Радноцкая дамова 1656 г.;
- ВКЛ у швэдзка-ўкраінскай дыпляматыі;
- аблога Берасьця ў 1657 г.;
- Корсуньская дамова 1657 г. паміж Швэцыяй і казацкай Украінай.

## 1.5. Апісаньне крыніцаў

Архіўная база гэтага дасьледаваньня грунтуецца на зборах Нацыянальнага архіву Швэцыі (Riksarkivet). Некаторыя польскія гісторыкі сьцьвярджаюць, што падчас заключэньня Аліўскага міру Швэцыя перадала Польшчы свае да-

[72] Frost, Robert I. After the Deluge. Poland-Lithuania and the Second Northern War 1655—1660. Cambridge, 1993. P. 48—52.

мовы з калябарантамі [73]. Аднак гэта не датычыць дамоваў аб сумесных дзеяньнях з ВКЛ, і ніводзін з актаў Кейданскай уніі не апынуўся ў Польшчы. Арыгінальныя літоўскія дакумэнты Кейданскай уніі дасюль ня знойдзены. Калі лягічна разважаць, яны мусілі б захоўвацца ў «Радзівілаўскіх зборах», большая частка якіх да канца 1942 г. зьберагалася ў Беларусі, у Нясьвіскім замку. Калі дзеячы калябарацыяніцкай арганізацыі «Беларуская народная самапомач» вырашылі перавезьці гэтыя архівы ў Менск, прадстаўнікі польскай нацыянальнай інтэлігенцыі здолелі дамовіцца зь нямецкай адміністрацыяй у Беларусі аб іх вывазе ў Варшаву. Цяпер яны складаюць асобны аддзел польскага Цэнтральнага архіву старажытных актаў (AGAD). Аднак у гэтым зборы вельмі мала дакумэнтаў па нашай тэме. Большую цікавасьць уяўляе зь сябе «Ліставаньне Багуслава Радзівіла», а таксама аддзел V, у якім захоўваюцца лісты да Багуслава Радзівіла. Але і гэтыя калекцыі таксама фрагмэнтарныя, у іх няма ніводнага з арыгінальных лістоў Багуслава Радзівіла да швэдзкага ўраду ці хоць іх копіяў [74]. Галоўны польскі збор літоўскіх палітычных актаў таксама знаходзіцца ў Цэнтральным архіве старажытных актаў. Аднак «Швэдзкая калекцыя» гэтага архіву зьмяшчае толькі некалькі копіяў лістоў Януша Радзівіла да Магнуса Дэлягардзі і караля Карла X Густава [75]. На маю думку, паслы літоўскай шляхты, якія выступілі супраць швэдаў і арганізавалі канфэдэрацыю ў Вярбілаве, у 1655 г. аддалі гэтыя дакумэнты каралю Польшчы Яну Казімеру. Апроч таго, што захоўваецца ў Цэнтральным архіве старажытных актаў у Варшаве, я карыстаўся таксама матэрыяламі з рукапісных збораў «Біблятэкі Чартарыйскіх» у Нацыянальным музэі ў Кракаве.

Некаторыя каштоўныя архіўныя матэрыялы ёсьць у Беларусі. У Нацыянальным гістарычным архіве ў Менску захоўваецца частка «Радзівілаўскіх збораў», а таксама полацкія і ашмянскія акты [76]. У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні і ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Літоўскай Акадэміі навук ёсьць цікавыя матэрыялы таго часу, калі Літва была пад швэдзкай уладай [77], аднак большасьць зь іх ужо прывёў Антанас Тыла [78]. У выніку супрацы паміж літоўскімі і швэдзкімі архівістамі створаны вельмі карысны каталёг гістарычных дакумэнтаў зь літоўскіх архіваў, што датычаць Швэцыі, але толькі адзін зь іх зьвязаны з маёй тэмай [79]. Дакумэнтаў у архівах Польшчы, Літвы і Беларусі, магчыма, бракуе таму, што па заканчэньні войнаў сярэдзіны XVII ст. тыя літоўскія магнаты, шляхціцы і сьвятары,

[73] Kulecki, Michał. Kilka uwag na marginesie rejestru slachty litewskiej przysięgającej wierność carowi Aleksemu Michajłowiczowi w 1655 r. // KKVKL. 1999. P. 29—30.

[74] AGAD. AR, dz. IV, teka 4, koperta 46. Listy Bogusława Radziwiłła. AR. Dz. V.Sygn. 9646—9678.

75 AGAD. Archiwum Koronne Warszawskie. Dz. Szwedzki.

[76] НГАРБ. Фонд 694, справа 19; Фонд 1823, вопіс 1, справа 1; Фонд 1775.

[77] LVIA. Fond 1276. Ap.1. B. 1196; LMAB. Fond 233. B. 93.

[78] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 61—72; Тыла. Кейданская уния 1655 г. С. 68—80.

[79] Körner, Sten; Tamulynas, Alfonsas. Litauen-Sverige. Visby, 1994.

што супрацоўнічалі з швэдамі, верагодна, зьнішчалі найбольш небясьпечныя для сябе паперы. Я таксама вывучаў дакумэнты і зборы рукапісаў, датычныя Літвы і Швэцыі ў 1654—1667 гг., з архіваў Масквы і Санкт-Пецярбургу[80].

У Нацыянальным архіве Швэцыі багата дакумэнтаў, зьвязаных з нашай тэмай. Арыгінальныя акты Кейданскай уніі і спадарожныя ёй дакумэнты зьберагаюцца ў калекцыі «Militaria»[81]. Магчыма, яны ня трапілі да дыпляматычных дзяржаўных актаў таму, што Кейданская дамова так і не ўвайшла ў сілу, і такім чынам, яе тэксты выключылі з збору афіцыйных дамоваў. Апроч вышэйзгаданай калекцыі, зь якой працавалі многія дасьледнікі (Адольфас Шапока, Стэлян Дальгрэн і інш.), у фондах Нацыянальнага архіву Швэцыі зьберагаецца і шмат іншых дакумэнтаў, якія раней не выкарыстоўваліся. Сярод іх каля 60 лістоў Багуслава Радзівіла каралю Карлу X Густаву, Магнусу Габрыелю Дэлягардзі і пфальцграфу Адольфу Ёгану, напісаных у 1655—1657 гг.[82] Гэтыя матэрыялы дазваляюць па-новаму ацаніць ролю Багуслава Радзівіла ў уніі з Швэцыяй[83]. Дзесяць лістоў Януша Радзівіла да Магнуса Габрыеля Дэлягардзі, у тым ліку раней невядомы допіс за 1650 г., сьведчаць пра добрыя стасункі паміж лідэрам літоўскіх сэпаратыстаў і швэдзкімі ўладамі Лівоніі задоўга да крызісу 1655 г.[84] Шмат важных дакумэнтаў можна знайсьці ў «архіве Эсплюнда». Ён уключае ліставаньне літоўскіх чыноўнікаў і духавенства з Бэнгтам Шутэ, які ўзначальваў швэдзкую цывільную адміністрацыю ў Літве[85]. Вялікае значэньне для майго дасьледаваньня меў збор «Livonica II» — у ім захоўваецца ліставаньне караля Швэцыі з кіраўнікамі цывільнай і ваеннай уладаў у швэдзкай акупацыйнай зоне ВКЛ[86]. Важныя крыніцы, якія праліваюць сьвятло на ролю ВКЛ у дыпляматычных стасунках паміж гетманскай Украінай і Швэцыяй, захоўваюцца ў калекцыі «Diplomatica Muscovitica Cosacica»[87]. Вялікая колькасьць важных актаў і дыпляматычных дакумэнтаў, прысьвечаных адносінам паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай, знаходзіцца ў калекцыях «Diplomatica Polonica» і «Originaltraktater med främmande makter». Мне пашчасьціла знайсьці ліст польнага гетмана Паўла Сапегі да Магнуса Дэлягардзі, які сьвед-

[80] БАН. РГАДА. Фонд 79.

[81] RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[82] RA. Skrivelser till Konungen Karl X Gustaf. Vol. 47 (Radeke-Rosen). Fürst Bogislaus Radzivill; RA. De La Gardieska samlingen. Skrivelser till Magnus De la Gardie. Ser. C: I. E 1531; RA. E 309. Bogusław Radziwiłł till Adolf Johan av Pfalz.

[83] Wasilewski, Tadeusz. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła // Radziwiłł, Bogusław. Autobiografia. Warszawa, 1979. P. 48—49.

[84] Януш Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі 8 чэрвеня 1650. Вільня. Па-лацінску. RA. De La Gardieska samlingen. Skrivelser till Magnus De la Gardie. Ser. C: I. E 1531.

[85] RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. Brev till Bengt Skytte.

[86] RA. Livonica II. Vol. 77. Generalguv. i Livland till K. MAJ:T 1655—1656.

[87] RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica. Vol. 1. Förhandlingar emellan Sverige och kosackerna 1655—1719.

чыць пра рашэньне гэтага рашучага прыхільніка Польшчы далучыцца да Кейданскай уніі і перайсьці на бок швэдаў[88].

У Каралеўскай бібліятэцы Швэцыі таксама знайшоўся шэраг крыніцаў, датычных нашай тэмы. Гэта ўнікальныя швэдзкія і ангельскія старадрукі[89], лісты[90] і графічныя матэрыялы[91]. Шмат раней малавядомых швэдзкіх мапаў ВКЛ і плянаў гарадоў часоў Паўночнай вайны 1655—1660 гг. зьберагаецца ў Ваенным архіве Швэцыі[92]. У «Palmskiöld Collection» бібліятэкі Ўпсальскага ўнівэрсытэту захоўваецца збор швэдзкіх дыпляматычных дакумэнтаў[93]. У іншых бібліятэках і архівах Заходняй Эўропы таксама ўдалося адшукаць некаторыя лісты, газэтныя публікацыі і дакумэнты, зьвязаныя з дачыненьнямі ВКЛ і Швэцыі. Сярод іх — зварот Літвы да эўрапейскіх краінаў у перакладзе на некалькі моваў, які тлумачыць прычыны скасаваньня уніі з Польшчай і аб'яднаньня з Швэцыяй, а таксама публікацыі пра становішча пратэстантаў, якія пасьля вайны эмігравалі ў Францыю, Ангельшыну, Галяндыю і Брандэрбург-Прусію[94]. Шырока выкарыстоўваліся публікацыі швэдзкіх[95], польска-літоўскіх[96], расейскіх[97], украінскіх[98], ватыканскіх[99] і трансыльванскіх крыніцаў[100], а таксама дыпляматычнай карэспандэнцыі. Важнае значэньне мелі таксама дзёньнікі, мэмуары, дакумэнтальныя нарысы і ўспаміны ўдзельнікаў тых падзеяў[101]. Гэтая інфармацыя па магчымасьці супастаўлялася і зьвяралася з афіцыйнымі крыніцамі.

[88] Павал Сапега — Магнусу Делягардзі. 5 сьнежня 1655. Берсьце. Па-польску. RA. De la Gardieska samlingen. Skrivelser till Magnus Gabriel De la Gardie. Ser. C:1. E 1543. So.-Scarinio.

[89] KB. Sacrae Regia Majestatis Regnorumque Sveciae Senator Ac Thessaurarius, Generalis Gubernator Livoniae, Ducatus Samogithiae Cum Adjacentibus districtibus... Lithvaniuam. Magnus Gabriel de la Gardie. Riga. February 13, 1656. F 1700. Fol. Kungsskrivelser. 1 c.; Accords Puncta, so Bey Übergebung der Stadt und Scholsses Brescie Litevski. An Jhr. Königl. Mytt. zu Schweden und Jhr. Fürstl. Durchl. Zu Siebenbürgen/geschlossen. Jm Jahr 1657. Dat im Feld-lager bey Brescie den 16 Maji/st. n. Anno 1657. 4 c. MFref Sveriges krig. R 12. Ex. A. No. 625; Revers der Waywoden und Ständen/deß Gros-Hertzogthumbus Littauen von wegen der Huldigung, Treu, Untertänigkeit, den Königen und Königreich Schweden ewiglich zu lassen und zu halten. 1656. Hamburg. KB. Sv:s Förh 840. P. 13—16; Radzivil, Janusius. Ad epistolam Synodi Warsawiensis... sicut & ad subsequutum Sacrae Regiae Majestatis ad eosdem dissidentes eodem in negotio diploma, Ordinum evangelicorum responsio. Londini, 1645. 173 E e Syntagma confessionum fidei.

[90] Skrivelser till Carl Gustaf från Hetmanen Bohdan Chmielnicki. 1655. F. D. Sv. 835 A; Radziwill, Boguslaw. Furste. Brev till Bengt Oxenstierna. 1656, 1659. I. Ep. o. 1.

[91] KB. Dahlberg, Erik. Plan of Brest (Briestie). Handrit. Vol. 41:16b. No. 10782; Panoramic picture of Brest. Handrit. Vol. 41:13a. No 10778.

[92] KA. Krigen mot Polen och Ryssland 1655—1657 samt mot Brandenburg 1658—1660 Maps Nos. 0425:05:036—044; Detaljplaner efter Erik Dahlberg 0426:007:008; Geometrisch Plan der Statt Brzesche in Littawen, wie solche von dem Polnischen Ingenieur Bonell vor der Eroberung in Grundt geleget, Nebenst des Gen:Quart: Leutnampt Dahlbergs Desseing wegen fortificirung selben Ohrts, Welcher auf Ihr Königl: Maij. zu Schweden 1657, 0406:17:001:001; Plan of Drysviaty 1655, 0406:17:002:001; Plan of Polatsk 1655,

0406:17:010:001; Plan of Hrodna 1655, 0425:05:035; Grundtriss der Stadt Brische in Littauwen Wie solche Anno 1657 den 11 Maÿ von Ihr Königl. Maÿ: zu Schweden belagert und den 13 Dito erobert worden, 0425:05:139 and 0426:009:008.

[93] UUB. Palmskiöldiske Samlingen (Palmsk) 95. Vol. VIII. Acta Sveco-Polonica; Palmsk 98. Acta Sueco-Turcica. Vol. XI.

[94] Schriftelijck renversael ende Verklaringe der Laths-Heeren ende Staten van't Groot Vorstendom vander LITTAUW, Van Trouwe ende Onderdanigheyt aende Koningen ende aen't tRijck van SWEDEN. Amsterdam, 1655. Royal Library of Netherlands. No. T. 4398; Punti proposti dal Gentilhuomo Suedese inuiato a Polacchi. 1655. Bibliothèque Nationale de France; Département des manuscrits. Ms.fr.n.a.9819. P. 357; An act of the Nobility and Estates of the Great Ducedom of Lithuania, whereby they fro ever oblige themselves to yield Fidelity and Subjection to the Kings and Kingdom of Sweden. Mercurius Politicus. November 15 — November 22, 1655. No. 284. P. 5757—5760; Gilbert, Eleazar. Nevves from Poland. Wherein is declared the cruel practice of the Popish Clergie against the Protestants, and in particular against the Ministers of the city Vilna, in the Great Dukedom of Lithuania, under the Government of the most illustrious Prince, Duke Radzivill. London, 1641; Krainski, John de Kraino. 1677. A relation of the distressed state of the Church of Christ, processing the Protestant religion in the Great Dukedom of Lithuania. Presented to the view of all compassionate Christians. London, 1677; A letter giving an Account of the Present state of the Socinians. Königsberg, 1681.

[95] Klemming, Gustaf. 1881. Samtida skrifter rörande Sveriges förhållanden till fremmande magter.Vol.1. 1483—1658. Stockholm, 1881; Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdags-protokoll. Vol. 7. 1660. Stockholm, 1881; Sveriges traktater med främmande makter. Vol. 5:2. 1635—1645. Stockholm, 1909. Зь невядомых прычынаў том, што мусіў прысьвячацца ўладараньню Карла X Густава, ніколі не друкаваўся; Svenska Riksrådets protokoll. Ed. Per Sondén. Vol. 16, 1654—1656. Stockholm, 1923; Swedish diplomats at Cromwell's court, 1655—1656. The missions of Peter Julius Coyet and Christer Bonde. Translated and edited by Michael Roberts. London, 1988.

[96] VL; БА; БЭФ; LM.

[97] ПСЗРИ; Заборовский, Великое княжество Литовское и Россия; KKVKL.

[98] УБХ.

[99] Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia. Vol. III (1596—1696). Ed. August Theiner. Romae, 1863; Codex Mednicensis seu Samogitiae dioecesis. Ed. Paulus Jatulis. Romae, 1989. Vol. II.

[100] Sziláfyi, Sándor. Erdély és az északkeleti háború, levelek és okiratok. Transsylvania et bellum boreo-orientale. Acta et documenta. Vol. 1—2. Budapest, 1890—1891.

[101] Jakuba Michałowskiego wojskiego Lubelskiego a później kasztelana Bieckiego księga pamiątnicza. Kraków, 1864; Erik Dahlberghs dagbok . I urval och med inledning av Alf Åberg. Stockholm, 1962; Radziwiłł, Bogusław. Autobiografia (1620—1667). Warszawa; Помнікі мемуарнай літаратуры XVII ст. Мінск, 1983; Pasek, Jan Chryzostom. Pamiątniki. Ed. Roman Pollak. Warszawa, 1987; Полоцкий, Симеон. Вирши. Минск, 1991; MSR; Гордон, Патрик. Дневник [Diary] 1635—1659. Москва, 2000.

# 2. Сэпаратызм і польская палітыка

## 2.1. Вялікае Княства Літоўскае пасьля Люблінскай уніі

Гісторыя ВКЛ раньняга Новага часу на Захадзе слаба вывучана і часьцей за ўсё ўспрымаецца як нязначны дадатак да польскай гісторыі. Да сярэдзіны XVII ст. Вялікае Княства настолькі разрывала барацьба паміж рознымі палітычнымі групоўкамі, што гэтае становішча можна назваць грамадзянскай вайной, якая працякала на фоне вайны паміж Польшчай, Расеяй і Швэцыяй. Гэты разьдзел мае на мэце акрэсьліць у асноўных рысах тэрытарыяльны, палітычны, рэлігійны і сацыяльны падзел у межах Вялікага Княства, бо ён істотны для раскрыцьця сутнасьці складаных і зьменлівых палітычных канфліктаў сярэдзіны стагодзьдзя. Найважнейшае значэньне тут мелі тры фактары. Першы — геаграфічнае становішча, якое абумовіла падзел насельніцтва Вялікага Княства на славянамоўнае і балтамоўнае. Другі фактар — канфэсійны падзел на рыма-каталікоў, кальвіністаў, лютэранаў, арыянаў, уніятаў і праваслаўных. Трэці фактар — палітычная раздробленасьць на групоўкі мажнаўладцаў, якія фармаваліся вакол найбуйнейшых магнацкіх родаў і абапіраліся на свае тэрыторыі (асабліва гэта датычыць Радзівілаў). У разьдзеле таксама разглядаецца разьвіцьцё цягам паўстагодзьдзя кантактаў паміж літвінамі і швэдамі. Іх вынікам сталіся Кейданская унія 1655 г. і прапанова швэдзкаму каралю заняць літоўскі вялікакняскі пасад. Адзін з галоўных тэзісаў майго дасьледаваньня палягае ў тым, што унія ня ўзьнікла раптоўна, выключна праз востры крызіс, а была вынікам амаль паўстагодзьдзя усё больш шчыльных дачыненьняў паміж лютэранскай Швэцыяй і пратэстанцкімі коламі ВКЛ. І хоць гэта былі перадусім унутрыканфэсійныя кантакты, сама Кейданская унія знайшла падтрымку сярод шляхты розных веравызнаньняў.

Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае было незалежнай дзяржавай з XIII ст. да 1569 г. — да ўтварэньня ў Любліне фэдэрацыі з Польшчай. Пасьля Дэулінскага (1618 г.) і Палянаўскага (1634 г.) мірных дамоваў з Расеяй і аднаўленьня Смаленскага ваяводзтва (1618 г.) тэрыторыя ВКЛ дасягнула 300 000 км². Такім чынам, землі княства складалі прыблізна траціну ад усёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай[102]. У ВКЛ уваходзілі ўсе землі сучаснай Беларусі, большая частка сучаснай Літвы (за выключэньнем Клайпедзкага павету), частка сучаснай Польшчы (усходная частка Беластоцкага ваяводзтва), Расеі (заходняя частка Смаленскай вобласьці, Старадубскі раён Бранскай вобласьці, Себескі раён Пскоўскай вобласьці і Веліскі раён Наўгародзкай вобласьці) і Ўкраіны (Дубровіцкі раён Ровенскай вобласьці)[103]. У 1654 г. насельніцтва ВКЛ (за выключэньнем Смаленскага ваяводзт-

[102] Mączak, Antoni. The Commonwealth of Poland-Lithuania in the Seventeenth Century — an Essay in Interpretation of Space // Economy and culture in the Baltic 1650—1700. Papers of the VIIIth Visby Symposium. Visby, 1986. P. 7—20.

[103] Гл. мапу 1.

ва) складала 3,5 млн чал., а яго шчыльнасьць — 16 чал. на 1 км$^2$.[104] Такім чынам, ВКЛ мела ўдвая большае за Швэцыю насельніцтва.

Краіну насялялі розныя этнічныя групы. Большасьць складалі ўсходнія славяне (русіны) і балты (літоўцы і жамойты)[105]. Апроч іх, у ВКЛ жылі габрэі, палякі, літоўскія татары і немцы. Палітычная эліта складалася зь літоўскай (да якой належалі як літоўцы, так і жамойты) і рускай шляхты. Кожная з гэтых групаў карысталася сваёй адметнай мовай, але за імі абедзьвюма замацавалася назва «літвіны». У той час гэтае азначэньне мела хутчэй палітычны, чым этнічны сэнс. Згодна з Статутам 1588 г., займаць дзяржаўныя пасады ў княстве магла толькі літоўская (у тым ліку жамойцкая) і руская шляхта[106]. Рускія землі складалі большую частку ВКЛ, і афіцыйнай мовай была руская (старабеларуская)[107]. Выбар на карысьць «рускай» мовы ў літоўскім дзяржаўным і мясцовым справаводзтве вызначыла дэмаграфічная перавага славянскамоўнага насельніцтва[108]. Да пачатку XVII ст. руская мова была свайго роду мовай міжнацыянальных зносінаў для шматэтнічнай шляхты. Тагачасныя гісторыкі адзначалі, што ў гаворцы літоўскай шляхты «некаторыя італьянскія і лацінскія словы зьмешваюцца зь іх цяперашняй мовай. Таксама і большасьць знатных родаў, гэтыя нявыхаваныя тыпы, спрэс славяне»[109].

Славянская «руская» мова адрозьнівалася ад народных гаворак. Аднак паводле сваіх фанэтычных і марфалягічных рысаў гэта фактычна была старабеларуская мова[110]. У Маскоўскай дзяржаве яе ведалі як «беларускую» ці «літоўскую»[111].

[104] Энцыклапедыя Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2005. Том 1. С. 57.

[105] У XIX — пачатку XX стст. на падмурку спадчыны былога ВКЛ пачалі разьвівацца два сучасныя нацыянальныя праекты — беларускі і літоўскі. У гэтых рухах брала ўдзел невялікая колькасьць прадстаўнікоў шляхты. Гл.: Snyder, Timothy. The Reconstruction of Nations. Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus, 1569—1999. New Haven — London, 2003. P. 13—102.

[106] Статут ВКЛ 1588 г. (частка 3, артыкул 12) // Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мінск, 1989. С. 118.

[107] Тамсама. С. 140

[108] Backus, Oswald. The problem of Unity in the Polish-Lithuanian State // Slavic Review. 1963. Vol. 22. No. 3. P. 422.

[109] Connor, Bernard. The history of Poland. London, 1698. P. 306.

[110] Некаторыя літоўскія гісторыкі называюць рускую, або беларускую (апошні тэрмін ужываецца з XVII ст.), мову «мёртвай пісьмовай славянскай мовай». Філёлягі сьцьвярджаюць, што яна была жывая, блізкая да народных дыялектаў, а таксама да сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гл.: Журавский, Александр. Деловая письменность в системе старобелорусского языка // Восточнославянское и общее языкознание. Москва, 1978. С. 185—191; Лазутка, Станисловас и Гудавичюс, Эдвардас. Первый Литовский Статут. Палеографический и текстологический анализ списков. Том 1. Вильнюс, 1983. С. 181; Lazutka, Stanislovas. Język Statutów Litewskich i Metryki Litewskiej // Lithuania, 1997. Vol. 22—23. P. 26—33.

[111] McMillin, Arnold B. A History of Byelorussian Literature. Giessen, 1977; Дубавец, Сяргей і Сагановіч, Генадзь. Старажытная Літва і сучасная Летува // З гісторыяй на «Вы». Зборнік артыкулаў. Мінск, 1994.

Унармаванай літоўскай мовы ў той час яшчэ не існавала. Літоўскія кнігі выходзілі на розных дыялектах, і цэнтрам літоўскай культуры выступала Прускае герцагства, а не ВКЛ[112]. Літоўская мова толькі зрэдку ўжывалася дзяржаўнымі ўстановамі. Напрыклад, у 1639—1641 гг. кароль Уладзіслаў IV Ваза выдаў на літоўскай мове дзьве граматы, адрасаваныя этнічным літоўцам Прусіі[113].

Пасьля заключэньня уніі з Польшчай літоўская шляхта прыняла польскую мадэль палітычна-тэрытарыяльнага падзелу. У 1625—1667 гг. ВКЛ складалася з 24 паветаў і 8 ваяводзтваў[114]. Кожны павет меў уласны соймік, ці сход мясцовай шляхты.

Да жамойцкіх і літоўскіх этнічных рэгіёнаў належалі:

- Віленскае ваяводзтва (Віленскі і Вількамірскі паветы);
- Жамойцкае княства (аўтаномная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка);
- Троцкае ваяводзтва (Троцкі, Ковенскі і Ўпіцкі паветы).

Мяшанымі літоўска-рускімі рэгіёнамі былі:

- Віленскае ваяводзтва (Браслаўскі, Лідзкі і Ашмянскі паветы);
- Наваградзкае ваяводзтва;
- Троцкае ваяводзтва (Троцкі і Гарадзенскі паветы).

Рускімі рэгіёнамі былі:

- Менскае ваяводзтва;
- Полацкае ваяводзтва;
- Віцебскае ваяводзтва;
- Берасьцейскае ваяводзтва;
- Мсьціслаўскае ваяводзтва.

Значныя тэрыторыі ВКЛ адрозьніваліся мяшаным этнічным складам. Напрыклад, у сярэдзіне XVII ст. шляхта лічыла Ашмянскі павет этнічна рускім. Сучасныя літоўскія гісторыкі разглядаюць гэты павет як этнічна літоўскі. Аднак тут будзе вельмі паказальнай наступная гісторыя. У 1663 г. падчас вайны, праходзячы праз Ашмяншчыну паблізу вёскі Юшкевічы, атрад шляхты зь іншых мясьці-

[112] Kiaupa, Zigmantas, Kiaupienė, Jūratė and Kuncevičus, Albinas. The History of Lithuania Before 1795. Vilnius, 2000. P. 301—303.

[113] Prūsijos valdžios gromatos, pagraudenimai ir apsakymai lietuviams valstiečiams. Sudarė P. Pakarklis, redagavo K. Jablonskis. Vilnius, 1960. Įkl. 2 tarp. P. 58—59.

[114] Жамойць, адрозна ад ваяводзтваў, падзялялася не на паветы, а на 29 воласьцяў.

наў наняў праваднікам селяніна Шостака (славянскае прозьвішча). Пагаварыўшы зь ім па-руску, жаўнеры — этнічныя літоўцы — загутарылі між сабой на сваёй роднай мове, спадзеючыся так схаваць ад селяніна, што зьбіраюцца яго забіць. Аднак іх праваднік разумеў літоўскую мову і ўцёк[115]. Гэты факт сьведчыць: у Ашмянскім павеце, як і ў шматлікіх іншых, жыло мяшанае дзьвюхмоўнае славяна-балцкае насельніцтва.

Пасьля 1569 г. тэрыторыя ВКЛ уключала ў сябе чатыры буйныя геаграфічныя рэгіёны: «Літву» (Віленскае, Троцкае, Наваградзкае і Менскае ваяводзтвы), «Беларусь» (Полацкае, Віцебскае і Магілёўскае ваяводзтвы), «Жамойць» і «Палесьсе» (Берасьцейскае ваяводзтва). У 1632 г. межы «Беларусі» супадалі зь межамі адзінай на той час у ВКЛ праваслаўнай япархіі, што называлася Беларускай. Тут пераважала праваслаўнае насельніцтва. Сталічная Вільня, разьмешчаная на этнічнай мяжы русінаў зь літоўцамі, была мультыкультурным горадам. У 1596 г. у Вільні налічвалася 15 праваслаўных цэркваў, 14 каталіцкіх касьцёлаў, адзін лютэранскі і два кальвініцкія зборы, а таксама некалькі сынагог[116]. Вільня была традыцыйным цэнтрам мясцовай літоўскай, нямецкай, польскай, русінскай і габрэйскай культур. Большасьць іншых буйных гарадоў таксама адрозьнівалася шматэтнічнасьцю і поліканфэсійнасьцю. Швэдзкія назіральнікі разумелі, што ў Літве пераважае славянскае насельніцтва. Ёган Ботвідус напісаў у сваёй кнізе: «Славянская мова — супольная для харватаў, далматаў, палякаў, *літоўцаў*, маскавітаў і *русінаў*»[117]. Гісторыкі XVII ст. сьцьвярджалі, што ВКЛ складаецца зь дзьвюх этнічных частак: «уласна Літвы і гэтак званай Літоўскай, ці Белай, Русі»[118]. Такім чынам, гістарычная Літва мела адрозны ад цяперашняй тэрытарыяльны падзел. Яна ператварылася ў сучасныя Літоўскую Рэспубліку і Рэспубліку Беларусь у выніку складанага працэсу[119].

Робэрт Фрост сьцьвярджае, што палітычнае жыцьцё Рэчы Паспалітай пасьля Люблінскай уніі трымалася на палітычным трыкутніку: кароль, магнаты і шляхта. Кароль часам ня толькі ачольваў дзяржаву, але і выступаў лідэрам уласнай палітычнай групоўкі, выразна зацікаўленай у моцнай цэнтральнай уладзе[120]. Да Люблінскай уніі прававы статус дынастыі Ягелонаў (1385—1572 гг.) у

115 Гродзкая кніга. Ашмянскі гродзкі суд. 20 чэрвеня 1663 г. НГАБ. Фонд 1775, вопіс 1, справа 25F, 1204—1204а.

116 Котлярчук, Андрей. Православная церковь в Великом княжестве Литовском // Вестник Белорусского православного экзархата. Мінск, 1998/ № 1. С. 7—25.

117 Bothvidi, Johannes Gothos. Theses de qvaestione utrum Muschovitae sint Christiani. Holmiae [Stockholm], 1620. P. 3.

118 Connor, Bernard. The History of Poland. London, 1698. P. 303, 325.

119 Краўцэвіч, Аляксандар. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Жэшуш, 2000; Snyder. The Reconstruction of Nations. P. 14—104.

120 Frost, Robert I. «Initium Calamitatis Regni»? John Casimir and monarchial power in Poland-Lithuania, 1648—1668 // European History Quarterly. 1986. No. 16. P. 181—207.

Польшчы і ВКЛ розьніўся. У Літве яны былі паўнамоцнымі спадчыннымі манархамі. У Польшчы — абранымі каралямі, абавязанымі падпарадкоўвацца законам і шляхце (Сойму). Пасьля ўвядзеньня выбарнай манархіі (1569—1573 гг.) польская мадэль пашырылася на абедзьве часткі фэдэрацыі. Кароль Рэчы Паспалітай прызначаў усіх 35 літоўскіх сэнатараў. Паводле закона, кароль асабіста абіраў аднаго з чатырох прапанаваных літоўскай шляхтай кандыдатаў на дзяржаўныя і мясцовыя пасады. Кароль дараваў кожнаму новаму сэнатару «староства» — вялікі надзел зямлі разам зь сялянамі. Такім чынам, кароль мог заахвочваць сваіх прыхільнікаў палітычна і эканамічна. ВКЛ мела істотнае эканамічнае значэньне для караля і яго скарбу. У 1632—1654 гг. 30% даходаў каралеўскага скарбу паступала з ВКЛ[121]. Апроч таго, кароль валодаў велізарнымі зямельнымі надзеламі і, такім чынам, быў адным з найбагацейшых літоўскіх фэўдалаў. Як правіла, каралеўскія землі даваліся ў карыстаньне палітычным прыхільнікам караля[122].

У XVII ст. літоўская шляхта складала ня менш як 10—11% ад усяго насельніцтва. Паны належалі да групы магнатаў. Яны вялі сваё паходжаньне ад вялікакняскіх дынастыяў — літоўскіх Гедымінавічаў і рускіх Рурыкавічаў, а таксама ад найвышэйшых літоўскіх вяльможаў. Нягледзячы на дэкляраваную пасьля Люблінскай уніі роўнасьць усёй шляхты, у Літве, адрозна ад Польшчы, панятак «паны» азначаў толькі шляхецкую эліту. Гэта вылучала магнатаў з астатняй шляхты. Палітычная вага магнатаў вызначалася трыма акалічнасьцямі:

- прыналежнасьцю да знакамітага роду, які гістарычна займаў найвышэйшыя пасады ва ўладнай іерархіі;
- валоданьнем вялікімі зямельнымі абшарамі (20 і болей паселішчаў);
- важнымі дзяржаўнымі пасадамі[123].

У палітычным жыцьці вялі рэй літоўскія магнацкія роды. Сыстэма кліентажу ставіла ніжэйшыя слаі шляхты ў залежнасьць ад магнатаў. Пасьля заключэньня уніі з Польшчай ВКЛ ня зьведала арганізаванага шляхецкага руху супраць магнатаў, як гэта адбылося ў Польшчы. Большасьць шляхты зьвязвала зь мясцовым панам альбо прыбытковую службу ў ягоных маёнтках, альбо яго заступніцтва перад каралеўскім судом, альбо падтрымку ў прызначэньні на мясцовыя пасады[124]. Аднак магутнасьць магнатаў не была безумоўнай. Дробная шляхта мела свае мэханізмы ўплыву і часам магла арганізавацца і адстаяць свае інтарэсы перад магнатамі праз соймікі[125].

[121] Filipczak-Kocur, Anna. Rozkryty czy ubogi król Władysław IV? // Dwór a Kraj. Między centrum a peryferiami władzy. Materiały konferencji. Ed. Ryszard Skowron. Kraków, 2003. P. 353—375.

[122] Lulewicz, Henryk. Elita polityczno-spoleczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w połowie XVII wieku. Неапублікаваная доктарская дысэртацыя. Варшава, 1984. С. 60—61.

[123] Тамсама. С. 15 — 34.

[125] Vasiliauskas, Arturas. Local Politics and Clientage in the Grand Duchy of Lithuania 1587—1632. Неапублікаваная доктарская дысэртацыя. King's College. London, 2001.

Зазвычай літоўская шляхта абірала на мясцовых сойміках 48 паслоў у Пасольскую Ізбу Сойму (ад кожнага павету — па два паслы)[126]. Аднак увогуле мясцовая шляхта жыла даволі спакойным жыцьцём, дбаючы перад усім пра інтарэсы свайго павету. У ім традыцыйна вялі рэй старыя паважаныя роды. Так, у Аршанскім павеце дамінавалі мясцовыя князі — нашчадкі ўладароў сярэднявечнага Друцкага княства. Сярод іх былі Друцкія, Лукомскія, Падбярэскія і Галоўчынскія, якія валодалі адпаведна Друцкам, Лукомлем, Падбярэзьзем і Галоўчынам. Прадстаўнікі гэтых рускіх родаў займалі ўсе вышэйшыя мясцовыя пасады на працягу ўсяго XVII ст.[127] Гэтаксама ў грамадзкім жыцьці літоўскага Ковенскага павету вядучыя ролі адыгрывалі тамтэйшыя шляхецкія роды[128].

Чатыры літоўскія рыма-каталіцкія біскупы (шляхціцы паводле нараджэньня) мелі статус сэнатараў і таксама ўдзельнічалі ў палітычным жыцьці. Біскуп віленскі намінальна быў адным з найвышэйшыхураднікаў і меў тытул «прымаса Літвы». Біскупы, па-першае, праводзілі палітыку Ватыкана. Па-другое, згодна з традыцыяй, яны ўзначальвалі сойміки Віленскага, Смаленскага, Берасьцейскага паветаў і Жамойцкага княства. Нарэшце, біскупы кіравалі велізарнымі лятыфундыямі і валодалі значнымі фінансавымі сродкамі. Напрыклад, у 1649 г. землі Віленскага біскупства прынесьлі 100 000 злотых даходу[129]. Дзяржава палітычна дыскрымінавала некаталіцкіх біскупаў. Праваслаўны япіскап беларускі, кальвініцкія і лютэранскія супэрінтэнданты, а таксама чатыры ўніяцкія біскупы не маглі абірацца ў Сэнат. Таму яны былі выключаны зь дзяржаўнага палітычнага жыцьця.

Гарадзкое насельніцтва ВКЛ да крызісу сярэдзіны XVII ст. дасягнула 15% ад усяго насельніцтва[130]. Аднак мяшчане Вялікага Княства агулам ня ўдзельнічалі ў палітычным жыцьці. Права дэлегаваць сваіх паслоў у Сойм мела толькі Вільня.

Як адзначалася вышэй, палітычная нацыя ВКЛ была поліэтнічная. Падобная структура палітычнай эліты досыць звычайная для Эўропы ранняга Новага часу. Напрыклад, палітычная эліта Трансыльваніі ўключала тры этнічныя групы — вугорцаў, румынаў і немцаў. Шляхта Багеміі складалася з чэхаў і немцаў. Пасьля Люблінскай уніі шмат польскіх дробных шляхціцаў пайшло на службу да літоўскіх магнатаў, і часам яны складалі значную долю мясцовай шляхты[131]. Паводле

[126] Kamiński, Andrzej. The szlachta of the Polish-Lithuanian Commonwealth and their Government // The Nobility in Russia and Eastern Europe. Eds. Ivo Banac and Paul Bushkovitch. New Haven, 1983. P. 18.

[127] Камінскі, Міхаіл, Насевіч, Валянцін. Аршанскі павет // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1993. Том 1. С. 190—192; Насевіч, Валянцін. Друцкае княства і князі друцкія // Друцк летапісны. Друцкае евангелле. Мінск, 1993. С. 49—76.

[128] Sienkiewicz, Witold. «Trakty», «okręgi», «koła», «pola», «rody», «okolice» jako jednostki terytorialno-osadnicze w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII wieku // Lituano-Slavica Poznaniensia III. Studia Historica. Poznań, 1989. P. 233—262.

[129] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 41, 58.

[130] Kiaupa. History of Lithuania. P. 256.

[131] Topolska, Maria. Środowisko twórcze w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI wieku // Studia nad gospodarką, społeczeństwem i rodziną w Europie późnofeudalnej. Ed. Jerzy Topolski and Cezary Kuklo. Lublin, 1987. P. 195—216.

сьведчаньняў тагачасных публіцыстаў, русіны жылі ва ўсіх рэгіёнах ВКЛ, за выключэньнем Жамойці[132]. Напрыклад, адна з галінаў старадаўняга рускага княжацкага роду Пузынаў пасялілася ва Ўпіцкім павеце. У XVII ст. яе прадстаўнікі перайшлі ў кальвінізм і асыміляваліся зь неславянскімі суседзямі[133]. Іншая галіна Пузынаў, якая жыла сярод русінаў, супрацьстаяла палянізацыі і захоўвала ўсходнеславянскую ідэнтычнасьць. У сярэдзіне XVII ст. галава гэтай галіны Афанасій Пузына зрабіўся праваслаўным япіскапам луцкім. Пазьней прадстаўнікі роду Пузынаў бралі ўдзел у трох розных нацыянальных рухах — літоўскім, беларускім і ўкраінскім. Так, Ёнас Пузына стаўся вядомым літоўскім археолягам. Іншым прыкладам можа служыць літоўскі род Гедройцаў. Два яго прадстаўнікі сталіся выдатнымі дзеячамі як літоўскай, так і рускай культуры. Мэльхіёр Гедройц быў рымакаталіцкім біскупам Жамойці (1576—1609 гг.). Ён аднавіў каталіцызм у сваёй дыяцэзіі пасьля эпохі Рэфармацыі і лічыцца цяпер вялікім літоўскім патрыётам. У сваю чаргу, Мялецій Гедройц быў настаяцелем праваслаўнага манастыра ў Полацку (1632—1654 гг.) і зрабіўся выбітным духоўным лідэрам Беларусі.

Жамойцкая шляхта была этнічна блізкая да літоўскай, але захоўвала некаторыя адметныя рысы і ўласную самасьвядомасьць. Жамойты адстойвалі сваю самабытнасьць і некалькі разоў нават паўставалі супраць ВКЛ, як, напрыклад, у 1418 г. У 1441 г. Жамойць атрымала асобны прававы статус квазі-незалежнай адміністрацыйнай адзінкі, ці княства, у межах ВКЛ, з правам шляхты абіраць свайго старосту. Жамойцкая шляхта зьвярнулася да караля з просьбай выдаць прывілей, каб «старостам Жамойці мог быць толькі жамойт, а не літовец і не русін»[134].

Пасьля XIII—XIV стст. рускую шляхту ачольвала этнічна літоўская дынастыя Ягелонаў. У выніку руская эліта перайшла пад іх уладу. Шляхціцы Піншчыны (колішняга Турава-Пінскага княства Кіеўскай Русі) сьцьвярджалі, што яны «разам са сваімі гарадамі» добраахвотна прынялі ўладу Літвы і іх княства, падзеленае на паветы ў складзе Літвы з таго часу, як апошні князь Фёдар Яраслáвіч з роду Рурыкавічаў памёр, не пакінуўшы нашчадкаў[135]. У XV—XVII стст. самасьвядомасьць русінаў фармавалася ў змаганьні супраць Масковіі. Працяглыя войны Маскоўскай дзяржавы зь Вялікім Княствам Літоўскім (1492—1494 гг., 1500—1503 гг., 1507—1508 гг., 1512—1522 гг., 1534—1537гг., 1632—1634 гг.) надалі маскавітам у вачох літоўскіх русінаў адмоўны вобраз. Падчас войнаў з Масковіяй праваслаўнае рускае насельніцтва і духавенства захоўвалі вернасьць Вільні[136]. Да

[132] Ivanovič, Marija. XVII a. Lietuvos lenkiškos knygos. Kontrolinis sąrašas. Vilnius, 1998. No. 642, 643.

[133] Liedke, Marzena. Od prawosławia do katolicyzmu. Ruscy możni i szlachta Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec wyznań reformacyjnych. Białystok, 2004. P. 232.

[134] Jakstas, Joseph. How Firm was the Polish-Lithuanian Federation // Slavic Review. 1963. Vol. 22/3. P. 445—446.

[135] Коршунов, Александр. Афанасий Филипович. Жизнь и творчество. Минск, 1965. С. 99.

[136] Кром, Михаил. Между Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI века. Москва, 1995.

сярэдзіны XVII ст. праваслаўная абраднасьць у ВКЛ і Маскоўскай дзяржаве адрозьнівалася. Прычынай таму — працяглая (з 1415 г.) адасобленасьць дзьвюх праваслаўных цэркваў. Маскоўскі патрыярхат выпрацаваў адмысловую форму рэлігійных цырымоніяў і абрадаў (двухпальцавае хрышчэньне, іншыя працягласьць богаслужэньня і парадак літургіі). Між тым праваслаўная царква ў ВКЛ, якая засталася пад юрысдыкцыяй Патрыярха канстантынопальскага, захоўвала старыя грэцкія традыцыі. У рускіх хроніках маскавітаў часта называлі «непрыяцелямі» і «ворагамі»[137]. Тыповым рускім шляхціцам ВКЛ XVII ст. быў падсудак Наваградзкага павету Фёдар Еўлашэўскі — нашчадак праваслаўнага роду, ён перайшоў у кальвінізм і стаўся адным з найлепшых пісьменьнікаў раньняга Новага часу ў ВКЛ. Свае мэмуары ён напісаў на старабеларускай мове. Пратэстант Еўлашэўскі быў шчыльна зьвязаны са старой праваслаўнай культурай. Пра сваю адукацыю ён піша: «В пятом року почато ме бавить наукою рускою, кгды ж в тых часех в тэй нашей строне не было еще иних наук»[138]. Ягоны бацька Міхаіл быў праваслаўным япіскапам пінскім. Еўлашэўскі лічыў сябе літвінам рускага паходжаньня і заўсёды падкрэсьлена супрацьпастаўляў літоўскую культуру польскай[139].

У сярэдзіне XVI ст. шматэтнічная і поліканфэсійная літоўская палітычная нацыя пачала кансалідавацца вакол тэорыі аб рымскім паходжаньні літоўскай шляхты. Паводле легенды, 500 родаў рымскіх патрыцыяў уцяклі ў Літву падчас уладараньня Нэрона і заснавалі тут уласную дзяржаву. Гэтае паданьне — адказ на польскую сармацкую тэорыю — аб'ядноўвала шляхту трох этнічных групаў. Рымская легенда атрымала шырокі распаўсюд і знайшла адлюстраваньне ў агульнадзяржаўных летапісах на рускай і лацінскай мовах[140]. У 1582 г. у Кёнігсбэргу польскі шляхціц на літоўскай службе Мацей Стрыйкоўскі выдаў кнігу пад назвай «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»[141]. Ён падкрэсьліваў, што літоўская дзяржаўнасьць узыходзіць да Кіеўскай Русі. На яго думку, ВКЛ аб'ядноўвала дзьве этнічныя супольнасьці (літвінаў і русінаў) з агульнымі гістарычнымі каранямі[142]. Аднак некаторыя этнічна літоўскія мысьляры ставіліся да больш шматлікай рускай шляхты з падазрэньнем і варожасьцю. Адзін зь іх, Міхалон Літвін, напісаў у сваім трактаце, выдадзеным у 1615 г. у Базэлі, што рускае насельніцтва

[137] Марзалюк, Ігар. Наша «Крэўская» і «Літоўская» спадчына // Спадчына. Мінск, 2002. № 5—6.

[138] Помнікі мемуарнай літаратуры. С. 32.

[139] Тамсама. С. 44.

[140] Suchocki, Jerzy. Geneza liteswkiej legendy etnogenetycznej. Aspekty polityczne i narodowe // Zapiski Historyczne, 1987. Vol. 52. P. 27—66. Kiaupienė, Jūratė. The Grand Duchy of Lithuania in the Grand Dukes of Lithuania in the 16th century: reflections on the Lithuanian political nation and the Union of Lublin // The Polish-Lithuanian Monarchy in European Context, c. 1500—1795. Ed. Richard Butterwick. Palgrave, 2001. P. 82—92.

[141] Stryjkowski, Maciej. Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1985. Vol. 1—2. Пад «усёй Русьсю» Стрыйкоўскі меў на ўвазе і Русь у складзе Польшчы (Украіну), і літоўскую Русь.

[142] Kiaupa. History of Lithuania. P. 292—293.

(*populis Ruthenicis*) культурна ніжэйшае за этнічных літвінаў. Ён таксама пісаў, што афіцыйная руская мова (*idioma Ruthenum*) чужая літвінам. Ім жа належыць карыстацца лацінскай мовай, бо яны рымскага паходжаньня[143]. Шмат хто зь літоўскіх грамадзкіх дзеячаў супраціўляўся ўжываньню рускай мовы як дзяржаўнай і прапаноўваў замяніць яе на лацінскую або літоўскую[144].

У 1624 г. кальвініст Самуіл Доўгірд выдаў у Любчы польскамоўную паэму «Генэалёгія, або Кароткае апісаньне вялікіх літоўскіх князёў і зробленых імі значных і мужных подзьвігаў». Сваю патрыятычную прадмову ён адрасаваў шляхце, «сынам Вялікага Княства Літоўскага». Доўгірд сьцьвярджаў, што толькі этнічныя балты могуць лічыцца сапраўднымі літвінамі. Руская шляхта не павінна належаць да літоўскай нацыі і карыстацца ўсімі шляхецкімі прывілеямі. Доўгірд падкрэсьліваў, што ў літоўскай мове — тысячы італьянскіх словаў (перанятых ад рымскіх патрыцыяў) і шмат германскіх (ад продкаў-сялянаў — слаўных готаў). Аб'яднаньне Літвы і Русі прывяло да засьмечваньня старой літоўскай мовы славянізмамі. Паводле словаў Доўгірда, Літва ад самага пачатку пашырала свае межы, вяла войны з палякамі, русінамі і маскавітамі. Асаблівыя посьпехі прынесла змаганьне з русінамі. Напачатку Літва падпарадкоўвалася рускім князям. Пазьней, аднак, літоўская шляхта ўвабралася ў сілу і скарыла Русь. Наступныя мэтафарычныя радкі ілюструюць узвышэньне Літвы за кошт Русі:

*Спачатку Літва была слабая,*
*Яна мусіла плаціць Русі даніну конскімі хвастамі…*
*Аднак затым за хвасты, аддадзеныя Русі,*
*Літва ўзяла золатам.*
*Русіны скарыліся літвінам і цяпер заўсёды схіляюцца перад імі*[145].

З беларускай часткі Літвы адгукнуўся у 1621 г. шляхціц-кальвініст з Слуцку Ян Казімер Пашкевіч, які напісаў патрыятычны верш у гонар русінаў:

*Полска квитнет лациною,*
*Литва квитнет русчизною;*
*Без той в Полсце не пребудешь,*
*Без сей в Литве блазнем будешь.*

[143] «Руская мова чужая нам, літвінам, гэта значыць італьянцам, якія паходзяць ад рымскай крыві. Гэта ясна вынікае з нашай мовы, напалову італьянскай, і з старых рымскіх звычаяў, якія толькі нядаўна зьніклі сярод нас»: Michalonis Litvani. De Moribus Tartororum, Lituanorum et Moschorum: Fragmina X, Multiplici Historia Refert. Basileae, 1615. P. 23—25; Михалон Литвин. О нравах татар, литовцев и москвичей. Москва, 1994.

[144] Dini, Pietro U. The dispute among Vilnius humanists regarding Latin, Lithuanian and Ruthenian // Historiographia Linguistica. 1999. Vol. XXVI:1/2. P. 23—36.

[145] Daugirdas, Samuelis. Genealogija, arba Trumpas didžiųjų Lietuvos kunigaikščių. Vilnius, 2001. P. 66.

Знамянальна, што Пашкевічаў верш напісаны на палях Статуту ВКЛ —кодэксу законаў ВКЛ, складзенага на рускай мове, і галоўнага сымбалю незалежнасьці Літвы ад Польшчы[146].

Аднак «галоўным ворагам» этнічна літоўскіх мысьляроў сталася ня руская або лацінская, а польская мова. Пасьля 1620 г. большасьць кніг выходзіла, «згодна з пажаданьнем люду паспалітага», па-польску. Шмат выданьняў друкавалася з паралельным тэкстам: на мясцовай (рускай ці літоўскай) мове і па-польску. Старабеларуская і літоўская літаратуры разьвіваліся выключна намаганьнямі асобных энтузіястаў.

Важнай часткай мэнталітэту шляхты ВКЛ было супрацьпастаўленьне «старажытнасьць — сучаснасьць». Выдаючы праўныя акты, вялікія князі часта дабаўлялі да іх фармулёўку: «Старыны ня рушым, навіны ня ўводзім». У гэтай фармулёўцы старыя традыцыі выступалі найлепшым апірышчам належнага парадку. «Навіна» ж, наадварот, разглядалася як небясьпека для грамадзтва. З гэтага гледзішча Люблінская унія з Польшчай 1569 г., Берасьцейская царкоўная унія 1596 г. і пратэстанцкая Рэфармацыя парушалі звыклы парадак рэчаў і часам выклікалі супраціў, бо несьлі «навіну»[147]. Напрыклад, магнат Мікалай Глябовіч так тлумачыў сваё вяртаньне з кальвініму ў каталіцызм (1633 г.): «Пратэстанцкая рэлігія не старажытная, і яна не была *more maiorum*[*], і яе кароль Ягайла ня ўводзіў і мой дзед не спавядаў»[148].

У Рэчы Паспалітай адбывалася дэзінтэграцыя дзяржавы. Сярод некаталіцкай палітычнай эліты Літвы, Прусіі, гетманскай Украіны, Курляндыі і польска-літоўскай Лівоніі ўвесь час панавалі сэпаратысцкія настроі. Яны выклікалі шмат грамадзянскіх войнаў і ўнутраных канфліктаў XVII ст.[149] Повязі паміж дзьвюма часткамі фэдэрацыі былі не моцныя: Польшча і Літва мелі адзінага выбарнага манарха (караля і вялікага князя) і супольны парлямэнт (Сойм). Пасьля 1569 г. літоўская шляхта па-ранейшаму склікала свой галоўны соймік, сходы якога называліся «генэральнымі канвакацыямі»[150]. Войска, скарб, падатковыя структуры, апэляцыйны суд, мытня і памежныя службы — усе гэтыя інстытуты ў Польшчы і Літве функцыянавалі самастойна[151]. Палітычная нацыя Рэчы Паспалітай аб'яд-

[146] Статут Вялікага княства Літоўскага. С. 28.

[147] Кром, Михаил. «Старина» как категория средневекового менталитета (по материалам Великого княжества Литовского XIV — начала XVII вв.) // Mediaevalia Ucrainica. Київ, 1994. Том 3. С. 68—85.

[*] Паводле звычаю продкаў. *(Заўв. пер.)*

[148] Марзалюк, Ігар. Тэрміналёгія этнічнай гісторыі Беларусі XIV—XVII ст.: Набліжэньне да рэаліяў ці стварэньне новых міфаў? // Гістарычны альманах. Гродна, 2003. № 9. С. 25.

[149] Gaunt, David. Kinship: thin red lines or thick blue blood // Family life in early modern times, 1500—1789. New Haven and London, 2001. Vol. 1. P. 265—277.

[150] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 3.

[151] Kiaupienė, Jūratė. The Grand Duchy of Lithuania in East Central Europe or once again about the Lithuanian-Polish Union // Lithuanian Historical Studies. Vilnius, 1997. Vol. 2. P. 68.

ноўвала розныя этнічныя групы і, што на той час яшчэ больш важна, розныя хрысьціянскія канфэсіі[152].

Літва таксама захоўвала сваю ўласную праўную сыстэму, якая грунтавалася на Статуце 1588 г., друкаваным на рускай і пазьней на польскай мовах[153]. Рэч Паспалітая мела дзьве афіцыйныя мовы: лацінскую, якая ўжывалася ў Польшчы, і рускую — у Літве. Таму рэдактар Статуту 1588 г., канцлер ВКЛ і рускі магнат Леў Сапега напісаў, зьвяртаючыся да ўсіх саслоўяў:

*А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем*[154].

Галоўнай палітычнай праблемай быў рэлігійны падзел эліты дзьвюх дзяржаваў фэдэрацыі. Напярэдадні аб'яднаньня Літва зрабілася пратэстанцкай краінай. У яе радзе большасьць складалі пратэстанцкія магнаты. З 28 чальцоў Рады ВКЛ 17 былі пратэстантамі, 9 — праваслаўнымі і толькі двое — каталікамі (абодва біскупы)[155].

Перамовы наконт уніі з Польшчай праходзілі ва ўмовах вайны паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У 1562 г. войска Івана Жахлівага захапіла Полацак — стратэгічны цэнтар княства. Балтыйскі шлях быў перарэзаны, што выклікала агульны эканамічны крызіс. Паводле некаторых дасьледаваньняў, менавіта пільная патрэба ваеннай дапамогі з Польшчы прымусіла літоўскую эліту згадзіцца на унію на такіх спрыяльных для Польшчы ўмовах. Адзін з праектаў дамовы аб уніі прадугледжваў скасаваньне самой назвы ВКЛ і яе зьмену на «Новую Польшчу»[156]. Польская палітычная нацыя (палякі, украінскія русіны і немцы) у новым вальным сойме атрымлівала значную перавагу. Прадстаўніцтва ВКЛ у ім абмяжоўвалася максымум 71—88 чалавекамі: 25—35 сэнатараў, 44—48 павятовых паслоў і 2—3 паслы ад сталічнай Вільні. Між тым Польшчу прадстаўлялі 225—248 дэпутатаў (112—121 сэнатар і 113—127 паслоў ад шляхты і мяшчанаў). Гэта давала магчымасьць Польшчы дыктаваць свае ўмовы на заканадаўчым узроўні[157].

Згодна з артыкулам III Люблінскай уніі, «Каралеўства Польскае і ВКЛ з гэтага часу ўяўляюць з сябе адно непадзельнае цэлае і, такім чынам, ня дзьве асобныя дзяржавы, а адну агульную Рэч Паспалітую, у якой абодва гаспадары і абодва наро-

152 Kamiński. The szlachta of the Polish-Lithuanian Commonwealth. P. 17—45; Friedrich, Karin. Nobles, burghers and the monarchy in Poland-Lithuania: The case of Royal Prussia, 1454 —1772/93 // The Polish-Lithuanian Monarchy in European Context. Ed. Richard Butterwick. Palgrave, 2001. P. 93—115.

153 Okinshevich, Leo. The law of the Grand Duchy of Lithuania. Background and Bibliography. New York, 1953.

154 Статут Вялікага княства Літоўскага. С. 17.

155 Іванова, Людміла. Рэфармацыйны рух на Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс. Мінск, 1997. № 2. С. 58.

156 Rachuba. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej. P. 41.

157 Тамсама. С. 169—171.

ды ўзьядналіся ў адзіны народ і адзіную дзяржаву». Скасоўваліся паасобныя выбары і каранацыя караля і вялікага князя. Палякі і літвіны атрымлівалі агульныя зямельныя правы ў абедзьвюх частках дзяржавы. Сталіцай Рэчы Паспалітай зрабілася Варшава, геаграфічна бліжэйшая да ВКЛ за Кракаў[158]. Кошт уніі з Польшчай аказаўся занадта высокім для княства. Польшча анэксавала багата раней прыналежных да ВКЛ рускіх земляў: Падляшша, Валынь і Кіеўшчыну. Як адзначаў Васіль Дружчыц, сама анэксія гэтых тэрыторыяў Польшчай не дазваляла разглядаць Літву і Польшчу як адзіную дзяржаву[159]. Статут ВКЛ 1588 г. заклаў праўную аснову для барацьбы Літвы супраць палітычнага дамінаваньня Польшчы. Артыкулы Статуту ігнаравалі палажэньні Люблінскай уніі адносна ўніфікацыі літоўскага заканадаўства з польскім і такім чынам пацьвярджалі незалежнасьць ВКЛ ад Польшчы. Палякі лічыліся іншаземцамі, якім не дазвалялася набываць маёнткі ў ВКЛ, займаць дзяржаўныя пасады ці браць удзел у палітычным жыцьці[160]. Тэкст уніі з Польшчай ня быў уключаны ў Статут, а сама унія ў ім толькі аднойчы ўскосна згадваецца[161]. Такім чынам, літоўская эліта па-ранейшаму лічыла ВКЛ незалежнай дзяржавай — паўнапраўным чальцом фэдэрацыі з Польшчай.

Розныя погляды на фэдэрацыю з боку палякаў і літвінаў выліваліся ў палітычныя канфлікты. Насуперак палажэньням Люблінскай уніі, літвіны прымусілі караля Польшчы складаць адмысловую прысягу на вернасьць ВКЛ. Так рабіў у 1573 г. Стэфан Баторы і ў 1587 г. — Жыгімонт III Ваза.[161] Калі ў 1648 г. ў Вільню прыбыў Уладзіслаў IV Ваза, магнаты вырашылі, што кароль павінен увайсьці ў іх сталіцу як «вялікі князь літоўскі». Калі Ўладзіслаў раптоўна памёр у літоўскім мястэчку Мерач, Януш Радзівіл заявіў палякам, што сэрца караля трэба пахаваць у Вільні. Гэта выклікала гарачыя спрэчкі паміж палякамі і літвінамі — ваявода Мікалай Абрамовіч нават прапанаваў гвалтам не дапусьціць перавозу цела караля ў Польшчу[163]. Адразу ж пасьля 1569 г. пачаўся іншы канфлікт — адносна вызначэньня новых межаў паміж Літвой і Польшчай. Сумесная «Берасьцейская камісія» не змагла іх акрэсьліць, што выклікала шэраг спрэчак паміж польскімі і літоўскімі землеўладальнікамі[164]. ВКЛ, як і раней, мела свой уласны манэтны двор

[158] Дружчыц, Васіль. Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі // Працы Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэта. 1925. № 6—7. С. 216—251.

[159] Тамсама. С. 221.

[160] Лазутка, Станіславас. Літоўскія статуты (1529, 1566, 1588), іх стваральнікі і эпоха // Край. Магілёў, 2001. № 1—2.

[161] Лаппо, Иван. Уравнение прав Великого княжества Литовского и Короны Польской в 1697 г. // Записки Русского научного института в Белграде. Том 1. Белград, 1930. С. 53—67.

[162] Дружчыц. Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы. С. 225—226.

[163] Wisner. Janusz Radziwill 1612—1655. P. 88, 94.

[164] Міхалюк, Дарота. Памежныя спрэчкі паміж Каронай і Вялікім княствам Літоўскім у XVI—XVII стст. на прыкладзе Мельніцкай і Берасьцейскай земляў // Гістарычны альманах. 2001. Том 5. С. 23—25.

— спачатку ў Вільні, пазьней у Берасьці[165]. Спроба ўвесьці адзіную грашовую сыстэму, каб уніфікаваць вартасьць літоўскіх і польскіх манэт, правалілася, і да канца XVII ст. плацяжы ажыцьцяўляліся паводле рознага курсу: польскія манэты мелі на 20% меншую вартасьць за літоўскія[166]. На думку Ганны Філіпчак-Коцур, Літва супраціўлялася польскаму падаткаабкладаньню зусім не з прычынаў фінансавай палітыкі. Хутчэй гэта быў яшчэ адзін спосаб прадэманстраваць сувэрэнітэт княства[167].

ВКЛ мела сваё войска у 18 000 чалавек, на чале якога стаялі два гетманы: вялікі і палявы[168]. Польскаму войску не дазвалялася перасякаць межы Літвы без дазволу[169].

Нават габрэйская грамада Літвы імкнулася да незалежнасьці ад Польшчы. У 1623 г. на канвакацыі ў Берасьці габрэі абвясьцілі пра стварэньне незалежнай ад Польшчы габрэйскай рады пад назвай «Літоўскі ваад»[170].

Розьніца ў поглядах Польшчы і Літвы на характар Люблінскай уніі адбіваліся і на міжнародных адносінах. У сваіх стасунках з Францыяй польскія дыпляматы выяўлялі Літву звычайнай правінцыяй Польшчы, якая ня мае ніякіх сваіх інтарэсаў, адметных ад польскіх[171]. Літвіны часта рабілі тое самае: прадстаўлялі сваё княства, ніяк ня згадваючы Польшчу. Напрыклад, у справе аб забойстве швайцарскага падданага на тэрыторыі ВКЛ (1644 г.) Швайцарыя зьвярталася толькі да ВКЛ. Польскі кароль Уладзіслаў IV у звароце швайцарцаў менаваўся выключна вялікім князем літоўскім[172]. Пэрспэктыва адзінай польска-літоўскай замежнай палітыкі была ў ліку галоўных аргумэнтаў на карысьць уніі. Тым ня менш, пасьля падпісаньня уніі ВКЛ па-ранейшаму адзінаасобна вяла дыпляматычныя стасункі з Маскоўскай дзяржавай. Усе міждзяржаўныя кантакты Варшавы і Масквы, як і раней, ажыцьцяўляліся праз канцлера ВКЛ ў Вільні[173]. Такія адмысловыя дачыненьні часта прыводзілі маскоўскую палітыку Літвы ў супярэчнасьць з польскімі інтарэсамі. У 1587 г. літоўскія паслы правялі сэпаратныя перамовы з Маскоўскай дзяржавай адносна магчымага абраньня апошняга Рурыкавіча, маскоўскага царэвіча Фёдара Іаанавіча, вялікім князем

[165] Рябцевич, Валентин. Нумизматика Беларуси. Минск, 1995. С. 190—198.

[166] Тамсама. С. 196.

[167] Filipczak-Kocur, Anna. Poland-Lithuania before partition // The rise of the fiscal state in Europe, c. 1200—1815. Oxford, 1999. P. 469—471.

[168] Wisner, Henryk. Wojsko Litewskie połowy XVII wieku // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. Vol. XIX/1. Warszawa, 1973. P. 94—101.

[169] VL. P. 233.

[170] Вишницер, Михаил. Литовский Ваад, или Ваад главных еврейских общин Литвы // Еврейская энциклопедия, том 10. Москва, 1991. С. 303—309.

[171] Lalkou, Ihar. Aperçu de l'histoire politique du grand-duché de Lithuanie. Paris: L'Harmattan, collection Biélorussie. 2000.

[172] Лаппо. Уравнение прав Великого княжества Литовского. С. 56.

[173] Wojcik. The separatist tendencies in the Grand Duchy of Lithuania. P. 56—57.

літоўскім. Гэта выклікала вострыя пратэсты Польшчы[174]. Апроч таго, ВКЛ адстойвала права самастойна весьці стасункі з Швэцыяй. Пасьля таго, як кароль Жыгімонт III Ваза страціў швэдзкі трон (1599 г.), усе польска-літоўскія гаспадары з дынастыі Вазаў (Жыгімонт III, Уладзіслаў IV і Ян II Казімер) спрабавалі захаваць свае прэтэнзіі на Швэцыю і працягвалі тытулавацць сябе «каралямі Швэцыі»[175]. Як вядома, прэтэнзіі Яна Казімера на швэдзкі трон былі адной з падстаў нападу швэдаў на Літву і Польшчу ў 1655 г. Першая вайна Рэчы Паспалітай з Швэцыяй (1600—1629 гг.) выявіла глыбокія супярэчнасьці паміж інтарэсамі Літвы і Польшчы. Усходнебалтыйскі рынак меў для ВКЛ вялікае значэньне, таму Літва быць зацікаўленая ў добрасуседзкіх кантактах з суседняй Швэцыяй[176]. Калі ў 1621 г. швэды захапілі Рыгу, літоўцы, адрозна ад палякаў, не хацелі працягваць вайну з Швэцыяй. Освальд Бакус лічыў, што разыходжаньне пазыцыяў Польшчы і Літвы, магчыма, тлумачылася нежаданьнем пратэстантаў ВКЛ змагацца супраць швэдаў[177]. Вынікам асобнай пазыцыі Літвы сталіся два сэпаратныя пагадненьні з Швэцыяй (1622 і 1627 гг.) — ужо адкрытая праява літоўскага сэпаратызму. Гэтыя крокі выклікалі вострую адмоўную рэакцыю з польскага боку. Палякі палічылі сэпаратныя пагадненьні ВКЛ палітычнай здрадай. Ня дзіва, што Літва мела ў Эўропе падобны да Шкоцыі імідж:

*Вялікае Княства Літоўскае, якое яго жыхары завуць Літвой, пад уладай караля Польшчы гэтак жа, як Шкоцыя пад уладай караля Ангельшчыны, аднак пры гэтым асобная ад каралеўства дзяржава*[178].

Літоўцы ставілася да Польшчы вельмі неадназначна. Некаторыя літоўскія і рускія мысьляры лічылі палянізацыю ў Літве здрадай уласным мовам і складалі патрыятычныя тэксты ў падтрымку родных моў. Сярод іх — літоўцы Мікалай Даўкша і Мэльхіёр Гедройц, а таксама русіны Васіль Цяпінскі і Ян Казімер Пашкевіч[179]. Скрайне адмоўнае стаўленьне да Польшчы выявілася ў ананімным тво-

[174] Тихомиров, Александр. Внешнеполитический механизм и организация дипломатической службы Речи Посполитой и Великого княжества Литовского в 1569—1795 гг. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. Минск, 1998. № 3.

[175] Frost, Robert I. Obsequious disrespect: the problem of royal power in the Polish-Lithuanian Commonwealth under the Vasas, 1587—1668 // The Polish-Lithuanian Monarchy in European Context. Ed. Richard Butterwick. Palgrave, 2001. P. 159—160.

[176] Rowell, Stephen. C. The wood and the trees: the Grand Duchy of Lithuania and Baltic identity, c. 1500—1600 // Ships, Guns and Bibles in the North Sea and the Baltic States, c. 1350 — c. 1700. Ed. Allan Maginnes, Thomas Riis and Frederik Pedersen. Tuckwell Press, 2000. P. 72.

[177] Backus, Oswald. The Problem of Unity in the Polish-Lithuanian State // Slavic Review. 1963. Vol. 22. No. 3. P. 424.

[178] Connor. History of Poland. P. 302.

[179] Stone, Daniel. The Polish-Lithuanian state, 1386—1795. Seattle, 2001. P. 107—108.

ры рускага шляхціца пад назвай «Прамова Мялешкі на сойме». Яна карысталася шырокай папулярнасьцю сярод шляхты[180]. Аўтар крытычна параўноўваў грамадзкія парадкі ў незалежнай Літве за панаваньнем Жыгімонта Аўгуста (1548—1568 гг.) з парадкамі ў Польска-Літоўскай дзяржаве за часам Жыгімонта III Вазы (1589—1632 гг.). Аўтар сьцьвярджаў, што ВКЛ у пару незалежнасьці ня ведала ні польскай мовы, ні эўрапейскіх навацый, аднак пры гэтым квітнела і было ў стане сябе абараніць. Апошні кароль зь літоўскай дынастыі Ягелонаў Жыгімонт Аўгуст «ляхаў зь іх хітрасьцею вельмі не любіў, а Літву і Русь нашу любіцельна мілаваў». Аўтар перакананы: унія з Польшчай прынесла шкоду Літве. Краіна страціла Лівонію і апынулася ў паласе бясконцых крызісаў. Ва ўсіх літоўскіх бедах вінаватыя палякі, якія толькі «па-польску з намі ўсе гаразда ўмеюць гаварыці», але зь якіх «службы ніякай нямаш, і толькі, убраўшыся на высокіх падкоўках, да дзевак дыбле, зь вялікага куфля трубіць»[181]. Рускія мысьліўцы таксама асуджалі палітычнага падзелу свайго народу, створаны тым, што Польшча далучыла да сябе ўкраінскую частку Русі. Доктар філязофіі з Магілёва Фама Іяўлевіч у 1625 г. апублікаваў паэму «Лябірынт», у якой апавядаў пра заняпад русінаў і падкрэсьліваў, што насельніцтва літоўскай Беларусі і польскай Украіны ўтварае адзін народ[182]. У XVII ст. абедзьве рускія царквы (уніяцкая і праваслаўная) мелі агульных ярархаў. Структуры гэтых цэркваў у межах Рэчы Паспалітай не былі адасобленыя. Толькі ў сярэдзіне XVII ст. пачалося разьмежаваньне русінскага самаўсьведамленьня на беларускае і ўкраінскае. Фармаваньне адрозных ідэнтычнасьцяў тлумачылася разьвіцьцём асаблівага сацыяльнага слою, нехарактэрнага для Беларусі, але ўласьцівага Ўкраіне, — казацтва.

Значная частка літоўскай эліты адмоўна ставілася да уніі з Польшчай. У 1609 г. Леў Сапега пісаў Крыштапу II Радзівілу:

*Добра ведама, як [палякі] нам гэту вялебную вунію датрымоўваюць; з радасьцю зрабілі б з нас Валынь. [У 1569 г. Польшча інкарпавала Валынь. — А.К.] Агулам — дрэнная справа зь імі, бо яны ахвотна хацелі б мець нас сваімі галдаўнікамі*, а асабліва тыя, што паходзяць з кузьні гэнага нябожчыка [караля Стэфана Баторыя], які зваў нас «gens inimica mihi»*** [183].

У 1616 г. вялікі гетман Ян Хадкевіч напісаў Крыштапу II Радзівілу: «Доўгі час палякі чакаюць сваркі паміж вялікімі родамі Літвы, спадзеючыся кіраваць Літвой

[180] Ластоўскі, Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Спроба паясьніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўня, 1926. С. 446—449

[181] Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. С. 65—68.

[182] Iewlewicz, Tomasz. Labirynt. Kraków, 1625. // Спадчына. Мінск, 1999. № 2. С. 83—109.

* Васаламі. *(Заўв. пер.)*

** Варожым племенем. *(Заўв. пер.)*

[183] Шкялёнак. Беларусь і суседзі. С. 256.

згодна са сваімі інтарэсамі»[184]. У 1617 г. у лісьце Крыштапу II пратэстанцкі шляхціц Станіслаў Пукшта Клаўгеловіч так выказваўся на гэты конт:

*Палякі гавораць аб тым, каб зьмяніць унію. Яны хочуць, каб Літва была звычайным ваяводзтвам Польшчы, як Валынь, Падольле ці Прусія, з агульнымі законамі, скарбам, войскам, дзяржаўнай пячаткай, бо зь цяперашняй уніі палякам няма ніякай карысьці*[185].

У 1635 г. Януш Радзівіл пісаў свайму бацьку Крыштапу II, што падчас перамоваў з Швэцыяй у Альтмарку палякі «забыліся», што Інфлянты — сумеснае уладаньне Літвы і Польшчы. Ён падкрэсьліваў, што «палякі гандлююць нашай скурай так, як быццам яна іх уласная»[186]. У 1636 г. разгарэўся востры канфлікт. На пасяджэньні Сэнату ў Вільні Крыштап II Радзівіл перапыніў прамову польскага віцэ-канцлера Пятра Гэмбіцкага наконт палітыкі ў дачыненьні Маскоўскай дзяржавы і абвінаваціў Польшчу ў навязваньні сваіх мэтадаў вядзеньня дыпляматыі з Масковіяй. Кароль паспрабаваў закрыць пасяджэньне, аднак Радзівіл настойліва патрабаваў слова. Нарэшце вялікі маршалак польскі Лукаш Апалінскі паведаміў Сэнату, што кароль не дае Радзівілу слова. Тады разьюшаны Радзівіл закрычаў: «Пазбавіць віленскага ваяводу права голасу ў Вільні! Так вось палякі абыходзяцца зь літвінамі ў самой Літве! Справа тут датычыць не Радзівіла і Апалінскага, а ваяводы і маршалка. Няхай Сэнат рагоча, але мы вернем нашу свабоду! Літва ніколі ня будзе падпарадкоўвацца дыктату Польшчы». Януш Радзівіл падтрымаў свайго бацьку і закрычаў, зьвяртаючыся да польскіх сэнатараў: «Я веру, настане час, калі літвіны праз вокны павыкідаюць усіх палякаў!»[187] Ён меў на ўвазе славутую праскую дэфэнэстрацыю 1618 г., калі чэскія пратэстанты выкінулі з акна германскіх каталіцкіх намесьнікаў Габсбургаў. Літоўская эліта ўсьведамляла, што канчатковая мэта Польшчы — цалкам паглынуць Літву і скасаваць яе раўнапраўны і незалежны статус.

У 1645 г. здарыўся чарговы канфлікт. Палякі, кіруючыся сваімі інтарэсамі, большасьцю галасоў прынялі ў Сойме пастанову аб перадачы Трубчэўску Расеі. З 1618 г. гэты горад на мяжы Літвы і Масковіі належаў ВКЛ. Літвіны расцанілі пастанову як «зьнявагу і шкоду літвінам, нанесеныя польскімі дэпутатамі». Канфлікт палагодзілі толькі тады, калі Польшча перадала Літве Лоеў і Любеч. Уладальнікам Трубчэўску князям Трубяцкім сплацілі грашовую кампэнсацыю ў

[184] Księcia Krzysztofa Radziwiłła hetmana polnego Wielkiego Księstwa Litewskiego sprawy wojenne i polityczne. 1621—1632. Paryż, 1859. P. 687.

[185] Augustyniak, Urszula. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640). Miechanizmy funkcjonowania patronatu. Warszawa, 2001. P. 35.

[186] Януш Радзівіл — Крыштафу II Радзівілу. 9 верасьня, 1635. Гданьск // Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 42.

[187] Тамсама. С. 49.

памеры 170 000 злотых. Большасьць прадстаўнікоў роду вырашылі застацца ў Літве, аднак падкаморы старадубскі Юрый Вігунт Трубяцкой перайшоў на службу Маскве. Падчас акупацыі ВКЛ ён быў ваяводам расейскага войска[188].

У апошняе стагодзьдзе незалежнасьці ВКЛ у палітычным і эканамічным жыцьці краіны вёў рэй род Радзівілаў. У 1587—1625 гг. прыдворны біёграф Радзівілаў Салямон Рысінскі напісаў шэраг лацінамоўных эпітафій для фамільнага склепу Радзівілаў у Кейданах. У іх Рысінскі надзяляў пратэстанцкую галіну роду Радзівілаў гістарычным правам на кіраваньне ВКЛ, тытулаваў іх «вялікімі князямі» і называў «славай Літвы»[189]. Сапраўды, пасьля згасаньня літоўскай дынастыі Ягелонаў Радзівілы зрабіліся найбольш знакамітым і магутным родам у Літве: яны карысталіся большым уплывам, чым польскі каралеўскі род Вазаў. Аднак за Вазамі палітычнае становішча Радзівілаў было вельмі хісткім. Карыстаючыся сваімі прывілеямі, перш за ўсё правам прызначаць сэнатараў, усе тры каралі няўхільна мацавалі партыю раялістаў[190]. У 40-х гг. XVII ст. у структуры літоўскай палітычнай эліты адбыліся значныя зьмены. За гэты час памерлі шмат сэнатараў, якія захоўвалі пратэстанцкае і праваслаўнае веравызнаньне і паводле сваіх перакананьняў былі сынамі незалежнай Літвы. У выніку каралеўскай палітыкі іх месцы занялі маладыя прадстаўнікі каталіцкай шляхты[191]. Так, да 1647 г. найзаможнейшы магнат Януш Радзівіл ня меў статусу сэнатара. Ён мусіў кожны раз абірацца ў Сойм як пасол ад звычайнай шляхты. Каб аслабіць пазыцыі партыі Радзівілаў, кароль Ян Казімер пачаў ствараць уласную «партыю». Дзеля гэтага ён прызначаў сэнатарамі, надзяляў вышэйшымі ваеннымі ды дзяржаўнымі пасадамі і адначасова абдорваў буйнымі зямельнымі надзеламі прадстаўнікоў сярэднезаможнай каталіцкай шляхты — шляхты, якая дагэтуль ніколі не належала да вышэйшай эліты і не займала значных дзяржаўных пасад. Так, фаварытамі караля сталі Вінцэнт Гасеўскі, Крыштап Пац, Тэадор Ляцкі, Аляксандар Палубінскі і Піліп Абуховіч. Адначасова шмат хто зь іх узяў шлюб з прыдворнымі дамамі каралевы Марыі Людвікі. Ян Казімер таксама пайшоў на беспрэцэдэнтны крок, падзяліўшы літоўскае войска на дзьве дывізіі: левага і правага флянгаў. 18 жніўня 1654 г. кароль прызначыў камандзірам левафлянгавай дывізіі польнага гетмана Гасеўскага, такім чынам адхіліўшы вялікага гетмана Радзівіла ад вярхоўнага камандаваньня[192]. У 1652 г. Ян Казімер выявіў непавагу да пратэжэ Радзівіла — адмовіў у пасадзе

188 Pamiętniki Filipa, Michała i Teodora Obuchowiczów (1630—1707). Ed. Andrzej Rachuba and Henryk Lulewicz. Warszawa, 2003. P. 221—226, 601.

189 Risinskis, Saliamonas. [Rysiński, Salomon]. Trumpas pasakojimas apie garsiouosius šviesiausiojo didiko Biržų ir Dubingių kunigaikščio Kristupo Radvilos žygius. Vilnius, 2000.

190 Рахуба, Анджэй. Палітычныя групоўкі ў ВКЛ (1569—1732) // Спадчына. Мінск, 2002. № 5—6.

191 Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 5—6.

192 Rachuba, Andrzej. Boje Jana Kazimierza o Litwę w latach 1656—1668. Sukces stronnictwa dworskiego w walce z opozycja // Dwór a Kraj. Między centrum a peryferiami władzy. Ed. Ryszard Skowron. Kraków, 2003. P. 415—432.

падсудка жамойцкага Яну Гружэўскаму і замест яго прызначыў адзінага каталіка сярод чатырох кандыдатаў. Радзівіл быў абураны — ён напісаў ліст польскаму канцлеру Анджэю Ляшчынскаму, у якім сьцьвярджаў, што гэта парушэньне рэлігійных свабодаў і праява дыскрымінацыі літоўскіх пратэстантаў на карысьць каталікоў. І гэта не адзінкавыя выпадкі[193]. Праз тры гады Гружэўскі стаў заўзятым прапагандыстам швэдзкага пратэктарату над Жамойцю. У 1653 г. сярэднезаможны рускі шляхціц і нованавернуты каталік Піліп Абуховіч атрымаў годнасьць сэнатара і месца смаленскага ваяводы. Януш Радзівіл зноў востра адрэагаваў на каралеўскае прызначэньне. У лісьце Багуславу Радзівілу ён з прыкрасьцю напісаў, што кароль раздае найвышэйшыя пасады паводле прынцыпу асабістай яму адданасьці, а не згодна з шляхецкімі традыцыямі, і тым парушае векавыя парадкі Літвы. Ён дадаў, што, як вядома, «бацька дзеда наваяўленага сэнатара быў у Мазыры гандляром»[194]. Такім чынам, у адказ на каралеўскую палітыку, накіраваную на падзел літоўскай эліты, магнаты-пратэстанты абвінавачвалі Польшчу ў імкненьні падпарадкаваць сабе ВКЛ.

Некаторыя дасьледнікі сьцьвярджаюць, што фармаваньне адзінай літоўскай палітычнай нацыі завяршылася ў канцы XVI — пачатку XVII стст. — літоўская, руская і жамойцкая шляхта злучыліся ў рамках агульнай гістарычнай і дзяржаўнай традыцыі[195]. На маю думку, у XVII ст. літоўская шляхта заставалася слабаінтэграванай. Яе па-ранейшаму падзялялі палітычныя, рэлігійныя і этнічныя бар'еры. У выніку падчас крызісу XVII ст. розныя групоўкі літоўскай шляхты зрабілі некалькі спроб парваць унію з Польшчай і замяніць яе саюзам зь нейкай іншай краінай, варожай Польшчы[196].

## 2.2. Партыя Радзівілаў: пратэстанцкая яднота і контрарэфармацыя

Рэлігійныя дысыдэнты, такія, як Геранім Праскі з суполкі «Багемскія браты», наведвалі ВКЛ яшчэ ад 1413 г. Паміж 1523 і 1546 гг. дваццаць маладых прадстаўнікоў магнацкіх родаў Вялікага княства слухалі лекцыі Марціна Лютэра ў Вітэнбэрскім унівэрсытэце[197]. Пратэстанцкая рэфармацыя прыйшла ў ВКЛ у

[193] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 177—178.

[194] Тамсама. С. 74.

[195] Suchocki, Jerzy. Formowanie się i skład narodu politycznego w Wielkim Księstwie Litewskim późnego średniowiecza // Zapiski historyczne. Warszawa, 1963. Vol. XLVIII. Z. 1—2. P. 31—77; Tereskinas, Arturas. The imperfect body of the community: Formulas of noblesse, forms of nationhood in the seventeeth-century Grand Duchy of Lithuania. Неапублікаваная доктарская дысэртацыя. Harvard University, 2000.

[196] Backus. The Problem of Unity in the Polish-Lithuanian State. P. 423; Wojcik. The separatist tendencies in the Grand Duchy of Lithuania. P. 55—62.

[197] Malek, Jerzy. Polscy i litewscy studenci na uniwersytecie królewieckim // Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność. Toruń, 1996. P. 179.

выглядзе лютэранства пад уплывам суседніх Прусіі і Лівоніі. Першы эвангелічны збор быў заснаваны ў Жэймах (Жамойць) у 1540 г. У 1555 г. лютэранская кірха зьявілася ў Вільні[198]. У 1553 г. князь Мікалай Радзівіл Чорны перайшоў у Берасьці з каталіцызму ў лютэранства і заснаваў там першы на зямлі русінаў лютэранскі збор. Сярод каталіцкай і праваслаўнай шляхты зрабілася вельмі папулярным пераходзіць у пратэстантызм. У канцы XVI ст. Рэфармацыя пашырылася і на Беларусь[199]. Браслаўскі павет, блізкі да Курляндыі і Лівоніі, стаўся цэнтрам Рэфармацыі на паўночных землях. Тут праз усё XVII ст. пратэстанцкая шляхта на чале зь мясцовымі родамі Мірскіх, Кімбараў і Пуцятаў карысталася значным уплывам. Андрэй Курбскі, які ўцёк з Маскоўскай дзяржавы ў Літву з палітычных прычынаў, пісаў пра істотнае пашырэньне лютэранства сярод рускай шляхты[200]. Пратэстанцтва прываблівала праваслаўную шляхту сваёй блізкасьцю да некаторых прынцыпаў праваслаўя: адсутнасьць цэлібату сярод сьвятароў, багаслужэньні на мясцовых мовах, прычасьце хлебам і віном, значная роля сьвецкіх асобаў.

У 1547 г. у Кёнігсбэргу Марцінас Мажвідас, уцякач зь Літвы, выдаў кароткі лютэранскі катэхізіс — першую друкаваную кнігу на літоўскай мове[201]. У 1562 г. Сымон Будны пры падтрымцы Радзівілаў выдаў у Нясьвіжы лютэранскі катэхізіс на рускай мове. Гэта была першая кніга, надрукаваная на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У 1572 г. пратэстанцкі шляхціц Васіль Цяпінскі ў сваёй друкарні выдаў на рускай мове Новы Запавет з патрыятычнай прадмовай, у якой ён усlавіў родную культуру[202]. У 1590 г. у Кёнігсбэргу лютэранскі мысьляр Ёнас Брэткунас пераклаў на літоўскую мову Біблію[203]. А ў 1653 г. у Кейданах выйшаў друкам першы кальвінісцкі катэхізіс і псаломы на літоўскай мове[204]. Гэтае выданьне падрыхтавалі два супэрінтэнданты — Ян Барымоўскі й Самуіл Мінвід,— а фінансаваў яго Януш Радзівіл[205].

З самага пачатку Рэфармацыя закранала толькі эліту. Пратэстантызм разьвіваўся як веравызнаньне шляхты. У 1578 г. у Вільні быў абвешчаны саюз трох пратэстанцкіх канфэсій — Яднота Літоўская (*Jednota Litewska*). Гэтая структура аб'яд-

198 Merchyng, Henryk. Zbory i senatorowie protestancy w dawnej Polsce: przyczynki do dziejów terytorialnego i i chronologicznego rozwoju i upadku reformacji w Rzeczypospolitej; Krasiński, Walerjan. Zarys dziejów powstania i upadku reformacji w Polsce. Warszawa, 1986. Vol. 2.

199 Pačkajeu, Mikalaj. Evangelical Altar Furnishings in Belarus (16th — 19th centuries) // Belarusian Chronicle. London, 2001. No. 18. P. 10—14.

200 Грушевський, Михайло. Істория України-Русі. Київ, 1995. Том VI. С. 422—425.

201 The first Lithuanian book and its cultural context: Martinus Mosvidius' Catechismus, 1547. Ed. Saulius Žukas. Vilnius, 1996.

202 Кніга Беларусі. Зводны каталог. 1517—1917. Мінск, 1986. № 12.

203 Range, Jochen. Bausteine zur Bretke-Forschung. Paderborn, 1992.

204 Больш падрабязна ўжываньне літоўскай мовы ў рэфармацыйным руху апісваецца ў: Lukšaitė, Inga. Apie lietuviškų reformatų knygų plitimą Lietuvoje XVII a. Vilnius, 1970.

205 Knyga nobažnystės krikščioniškos 1653. Faksimilinis leidinys. Vilnius, 2004.

нала «Вялікі збор» (кальвіністаў) і «Малы збор» («літоўскіх братоў», таксама вядомых як арыяне, сацыніяне, антытрынітарыі, ці унітарыі). Яднота таксама ўключала і падтрымлівала 20 лютэранскіх прыходаў. Яна падзялялася на шэсьць дыстрыктаў: тры зь іх — на тэрыторыі сучаснай Літвы, астатнія — на землях Беларусі.

У першай палове XVII ст. кальвінісцкая кангрэгацыя Ядноты Літоўскай уключала шэсьць буйных дыстрыктаў:

1) Віленскі (з катэдрай у Вільні);
2) Наваградзкі (Слуцак);
3) Падляскі (Заблудаў);
4) Беларускі (Койданава);
5) Жамойцкі (Кейданы);
6) Завілейскі (Біржы)[206].

Правінцыяй кіраваў «Сынод галоўных куратараў» з дванаццаці чалавек: шасьці супэрінтэндантаў і шасьці сьвецкіх шляхціцаў, «сьвецкіх сыньёраў», якія выбіраліся з дыстрыктаў. Паводле рашэньня Ядноты ад 1638 г., Януш Радзівіл афіцыйна абвяшчаўся яе галоўным патронам[207].

У 1600 г. у ВКЛ дзейнічала 260 пратэстанцкіх суполак[208]. У Віленскім біскупстве іх колькасьць у гэты час перавышала колькасьць каталіцкіх прыходаў[209]. Аднак 92% пратэстанцкіх суполак засяроджваліся на заходзе і поўначы ВКЛ. На ўсход ад Менску, у паветах, якія складалі да 40% тэрыторыі княства, было заснавана ўсяго дзесяць збораў. Праз супраціў каталікоў пратэстантам не ўдалося адкрыць уласную акадэмію. Тым ня менш, у 1625 г. сынод Ядноты Літоўскай пастанавіў заснаваць дзьве вышэйшыя гімназіі. Гімназія ў Кейданах стала адукацыйным цэнтрам для навучэнцаў зь земляў этнічнай Літвы (ці Вілейскага, Завілейскага і Жамойцкага дыстрыктаў). Слуцкая гімназія зрабілася цэнтрам для русінскіх студэнтаў (з Наваградзкага, Падляскага і Беларускага дыстрыктаў)[210]. У рэфармацкіх выданьнях Януш Радзівіл тытулаваўся «прымасам Літвы», на ўзор галавы рыма-каталіцкай царквы ў ВКЛ — віленскага біскупа[211]. Апроч Віленскага, цэнтры ўсіх дыстрыктаў Ядноты

[206] Lukšaitë, Inga. Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystëje ir Mažojoje Lietuvoje. Vilnius, 1999; Kriegseisen, Wojciech. Ewangelicy Polscy i Litewscy w Epoce Saskiej. Warszawa, 1996. P. 102—107.

[207] Gilbert, Eleazar. Nevves from Poland. Wherein is declared the cruel practice of the Popish Clergie against the Protestants, and in particular against the Ministers of the city Vilna, in the great Dukedom of Lithuania, under the Government of the most illustrious Prince, Duke Radzivill. London, 1641.

[208] The Polish Brethren: documentation of the history and thought of Unitarianism in the Polish-Lithuanian commonwealth and in the diaspora, 1601—1685. Edited, translated and interpreted by George Huntston Williams // The proceedings of the Unitarian historical society. Cambridge, Mass., 1978—79. Vol. XVIII. P. 373—374.

[209] Kosman, Marceli. Programme of the Reformation in the grand Duchy of Lithuania and how it was carried through (around. 1550 — around.1650) // Acta Poloniae Historica. Warszawa, 1977. No. 35. P. 27 (25—50).

[210] Monumenta Reformationis Poloniae et Lithuaniae. Akta synodów prowincjonalnych Jednoty Litewskiej 1611—1625. Wilno, 1915. P. 92—98.

[211] Knyga nobažnystės krikščioniškos. P. 10.

і каля паловы яе збораў месьціліся ў прыватных гарадох і мястэчках, якія належалі Янушу і Багуславу Радзівілам. Радзівілы таксама апекаваліся рэфармацкімі, арыянскімі і лютэранскімі суполкамі за межамі сваіх уладаньняў. Напрыклад, Януш Радзівіл быў патронам рэфармацкага збору ў Полацку[212].

У этнічнай Літве Януш Радзівіл фінансаваў пратэстанцкія цэнтры:

1) у Кейданах, дзе была гімназія, друкарня, два рэфармацкія зборы (адзін зь іх шкоцкі) і лютэранская кірха;

2) у Біржах, дзе месьціліся школа, адзін рэфармацкі збор і адна лютэранская кірха.

Русінскі пратэстанцкі цэнтар, які ўтрымліваў Януш Радзівіл, знаходзіўся ў Слуцку. Ён уключаў два рэфармацкія зборы і лютэранскую кірху.

Адрозна ад Заходняй Эўропы, у ВКЛ не было значных рэлігійных канфліктаў паміж пратэстантамі розных канфэсій. У пэрыяд контррэфармацыі яны складалі адзіную арганізацыю і супрацоўнічалі паміж сабой. 2 сакавіка 1570 г. у Вільні рэфарматы і лютэране заключылі дамову, у якой абвясьцілі сябе палітычнымі саюзьнікамі[213]. У 1616 г. падобнае пагадненьне падпісалі ў Вільні кальвіністы і арыяне[214]. Сыноды ў Орлі (1633 г.) і Ўладаве (1634 г.) пастанавілі захоўваць альянс паміж трыма эвангелічнымі канфэсіямі, а таксама падтрымліваць добрыя дачыненьні з праваслаўнымі[215]. Нядзіўна, што лютэранскія і рэфармацкія сьвятары бралі ўдзел у сумесных богаслужэньнях, напрыклад у Венграве[216]. У Кейданах рэфармацкі пастар Ян Акелевіч таксама служыў як арыянскі прапаведнік[217]. Лютэранін Ян Лянге ўзначальваў кальвінісцкую друкарню ў Любчы.

Радыкальныя пратэстанты — «літоўскія браты» — цярпелі найбольш ганеньняў у час контррэфармацыі, ці, як яе называлі, «каталіцкай рэакцыі». Пасьлядоўнікі гэтай сэкты адмаўлялі боскую прыроду Ісуса Хрыста і дагмат Тройцы. Арыяне ўтваралі так званы «Малы збор» Ядноты Літоўскай. Кангрэгацыі арыян знаходзіліся пераважна ў Гарадзенскім, Падляскім (у Заблудаве), Вількамірскім, Жамойцкім (у Кейданах і Таўрогах) і Наваградзкім (у Наваградку і Любчы) паветах[218]. У Польшчы, Швэцыі, Ангельшчыне і Галяндзкай Рэспубліцы арыянаў

[212] Иванова, Людмила. Из истории реформационной церкви в Полоцке XVI—XVII вв. // Навуковая канфэрэнцыя «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі». Тэзісы дакладаў. Полацк, 1992. С. 25—27.

[213] Williams, George. Protestants in the Ukraine during the period of Polish-Lithuanian Commonwealth // Harvard Ukrainian Studies, 1978. No. 2 (1). P. 42.

[214] Tazbir, Janusz. Państwo bez stosów i inne szkice // Prace wybrane. Kraków, 2000. Vol. 1. P. 223.

[215] Radzivil. Ad epistolam Synodi Warsawiensis; Jørgensen, Jordt. Ökumenische bestrebungen unter den Polnischen Protestanten. Bis zum jahre 1645. København, 1942. P. 366.

[216] Wyszomirski, Tomasz. Z przeszłości zboru protestanckiego w Węgrowie w XVII i XVIII wieku // OiRwP, 1959. Vol. IV. P. 137—154.

[217] Kosman. Programme of the Reformation. P. 35.

[218] Тамсама. С. 34. /

уціскалі іншыя пратэстанцкія канфэсіі. У Літве ж, наадварот, яны мелі ад іх падтрымку. Арыяне Украіны і Валыні па-ранейшаму лічылі, што належаць да Літвы, хоць паводле Люблінскай уніі гэтыя землі адышлі да Польшчы[219]. Іх лідэр, кіеўскі падкаморы Юрый Нямірыч, называў Радзівілаў галоўнымі заступнікамі арыян. Нямірыч валодаў каля Вільні вёскай Кацілішкі, дзе была арыянская суполка, і таму таксама належаў да літоўскай палітычнай нацыі, браў удзел у палітычным жыцці княства[220].

Пітэр Брок сьцьвярджае, што большасьць «літоўскіх братоў» былі не літоўскага, а хутчэй беларускага (русінскага) ці польскага паходжаньня[221]. Пасьля зьнішчэньня польскага цэнтру арыян у Ракаве (1638 г.) польскія арыянскія роды Любянецкіх і Пшыпкоўскіх пераехалі ў літоўскія Гарадзенскі і Падляскі паветы[222]. Сярод іх прадстаўнікоў былі Самуэль Пшыпкоўскі, духоўны лідэр арыянства, Габрыэль Любянецкі, які пазьней служыў паслом Радзівілаў у Швэцыі, Уладзіслаў Любянецкі, дыплямат на службе Трансыльваніі, і Станіслаў Любянецкі, галоўны ваенны карэспандэнт Карла X Густава ў Польшчы[223]. На землях Радзівілаў арыяне мелі свае ўстановы і маёнткі. У Вількаміры на чале іх руху стаяў павятовы маршалак Ян Мяжэнскі — галава дыпляматычнай службы Радзівілаў і заснавальнік арыянскай суполкі ў Кейданах. Прапаведнікам у мястэчку Пілілава паблізу Трокаў быў Андрэй Вішаваты, унук заснавальніка руху сацыніян Фаўста Соцына. Невыпадкова, што гэтыя паўночна-заходнія паветы Літвы зрабіліся ключавой арэнай швэдзкай палітыкі ў 1655 г. Натуральна, «літоўскія браты» былі аднымі з самых энэргічных прыхільнікаў швэдаў.

Лютэранская царква Літвы адыгрывала істотную ролю ў палітыцы Радзівілаў. Януш Радзівіл патранаваў лютэранскія кірхі ў Кейданах, Біржах, Венграх і Абрытках[224]. Багуслаў Радзівіл быў галоўным апекуном новых лютэранскіх прыходаў у Слуцку і Нэйдорфе[225]. Лютэране стварылі малы, але добра арганізаваны

[219] Letter from the Arian synod of Ukraine and Volhynia (1638) to Krzysztof II Radziwiłł // The Polish Brethren: documentation of the history and thought of Unitarianism. Doc. XXI.

[220] LM. No. 185.

[221] Brock, Peter. Antitrinitarians in the Grand Duchy of Lithuania against nonresistance, 1583 // East European Quarterly. 1998. Vol. 32. No. 1. P. 1—8.

[222] Tazbir, Janusz. Arianie w Białymstoku i okolicach // Studia i materiały do dziejów miasta Białegostoku. Białystok, 1968. Vol. 1. P. 81—105; Tazbir, Janusz. Bracia polscy w służbie Radziwiłłów w XVII wieku // Miscellanea Historico-Archivistica. Warszawa — Łódź, 1989. Vol. III. P. 141—158.

[223] Tazbir, Janusz. Stanisław Lubieniecki, przywódca ariańskiej emigracji. Warszawa, 1961; Jørgensen, Jordt. Stanisław Lubieniecki. Zum Weg des Unitarismus von Ost nach West im 17. Jahrhundert. Göttingen, 1968.; Kowalik, Janina. Stanisław Lubieniecki. Företrädare för socianerna och svensk korrespondent // Karolinska förbundets årsbok. 1981—82. P. 148—173.

[224] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 74.

[225] Schultz, Edmund. Kronika zboru ewangelicko-luterskiego Nejdorfskiego. 1902 // Zwiastun Ewangeliczny. Даступна ў Інтэрнэце: http://www.luteranie.pl/lublin/historia/neudorfkronika.htm

збор на чале з уласным супэрінтэндантам. Каля 1654 г. лютэранскія суполкі існавалі ў Жамойці і заходніх паветах ВКЛ: у Вільні, Кейданах, Біржах, Коўне, Віштынцы, Слуцку, Таўрогах, Гайцюнішках, Жэймах, Венграве, Нэйдорфе, Славацічах, Замосьці, Шаўкянах, Алкішках, Салачах, Гаурах, Радзівілішках, Жэймелях, Шкудах, Вярбілаве, Панямуні — Гелгудышках і Швентах.

Віленскую лютэранскую катэдральную кірху патранавалі лівонскія шляхціцы — кашталян вэндэнскі Мікалай Корф і падпалкоўнікі Эбэрхард Путкамэр ды Ёган Атэнгаўз[226]. Мікалай Корф, былы амбасадар у Даніі і сябра камісіі па падрыхтоўцы мірнай дамовы з Швэцыяй, даводзіўся блізкім сябрам Янушу Радзівілу[227]. Путкамэр быў адным з самых набліжаных кліентаў Багуслава Радзівіла. Да лютэран Літвы належалі як прадстаўнікі мясцовых этнічных груп (літоўцы, русіны, жамойты), так і немцы, палякі. Такім чынам, лютэранскі пастар павінен быў ведаць сама меней дзьве мовы — польскую і нямецкую. Спачатку большасьць пастараў былі немцамі, пазьней зьявіліся і мясцовыя сьвятары. У XVII ст. пасаду супэрінтэнданта адзін за другім займалі два літвіны — Самуэль Дамброўскі і Ян Маліна. Пэрыяд іх кіраваньня быў залатым векам літоўскага лютэранства. Было збудавана некалькі новых кірхаў (Нэйдорфская ў 1624 г., Кейданская ў 1629 г., Гайцюнішкаўская ў 1633 г. і Слуцкая ў 1653 г.), квітнела лютэранскае кнігадрукаваньне. У 1640 г. Ян Маліна кадыфікаваў лютэранскае богаслужэньне[228]. Пры гэтым лютэране ня мелі ўласных друкарняў ці гімназій. Іх пастары атрымлівалі адукацыю ў рэфармацкіх гімназіях. Такім чынам, у пэрыяд контррэфармацыі лютэранская царква ня толькі захавала свае пазыцыі, але і нават пашырыла іх сярод мясцовага насельніцтва. Гэтая парадаксальная сытуацыя сталася магчымай толькі дзякуючы падтрымцы Радзівілаў.

Пасьля заключэньня уніі з Польшчай Літва засталася пратэстанцкай краінай, калі мець на ўвазе веравызнаньне яе ўладнай эліты. У 1572 г. пратэстанты пераважалі сярод літоўскіх сэнатараў — яны займалі 16 сэнатарскіх месцаў ад Літвы, ці 73 % ад агульнай колькасьці. У суме з трыма праваслаўнымі сэнатарамі гэта складала 86,5 % месцаў літоўскай часткі Сэнату. Толькі тры сэнатары былі рымакаталікамі, зь іх два біскупы (бо становішча каталіцкай царквы абаранялася законам). У 1588 г. была прынята новая рэдакцыя Статуту ВКЛ. Трэці артыкул трэцяга разьдзелу, пад назвай «Аб захаваньні міру сярод усіх падданых нашых, грамадзян гэтай дзяржавы, з боку рознага разуменьня і ўжываньня набажэнства хрысьціянскага», пацьвярджаў поўную роўнасьць і абароненасьць усіх хрысьціянскіх канфэсій. Літвіны спасылаліся на трагічны досьвед рэлігійных войнаў у Заходняй Эўропе (напрыклад, Баўтрамееву ноч у Францыі) і дэкляравалі талерантнасьць да ўсіх канфэсій: «А иж в Речи Посполитой естъ розность немалая з стороны веры хрестияньское, забегаючы тому, абы се с тое причины межы людми

[226] Adamowicz, Adam. Die evangelisch-lutherische Kirche zu Wilna: Eine Chronik. Wilna, 1855. P. 53.

[227] Kotarski, Henryk and Przyboś, Adam. Korff Mikołaj // PSB. Warszawa. 1968. Vol. XIV/1. P. 71—72.

[228] Malina, Jan. Porządek obrzędów zwyczaynych kościoła Augustańskiej Konfessyi. Wilna, 1640.

зашстье якое шкодливое не вщело, которую по иншых королевствах ясне видим, обецуем то собе сполне за нас и за потомки нашы на вечные часы под обовязком присеги, под верою, честью и сумненьем нашим, иж которые естесьмо розни в вере, покой межы собою заховати, а для розное веры и отмены в костелех крови не проливать»[229]. Элеазар Гілбэрт, пастар Януша Радзівіла і прапаведнік шкоцкай кангрэгацыі ў Кейданах, так пісаў пра традыцыі рэлігійнай талерантнасьці ў Літве, нязвыклыя для Эўропы:

*Вялікі горад Вільня, ці Вільда, сталіца Літвы… У гэтым вялікім горадзе знаходзіцца Трыбунал, ці месца правасудзьдзя вышэйзгаданага Вялікага Княства Літоўскага, а таксама ёсьць вялікі ўнівэрсытэт з амаль незьлічоным мноствам студэнтаў, якія прыяжджаюць у яго дзеля вучобы і асьветы, асабліва ў рыма-каталіцкай рэлігіі, з усіх куткоў і канцоў Каралеўства. Гэты горад таксама вельмі рэлігійны і верацярпімы, у ім шмат цэркваў і іншых месцаў божай службы, такіх як сынагогі для габрэяў, якіх у гэтым горадзе тысячы; руская царква для русінаў, магамэтанскі мячэт для татараў; кірхі для лютэран. Усе яны адпраўляюць свае рэлігійныя абрады безь ніякіх цяжкасьцяў або перашкод. Магутная царква тут у пратэстантаў, якіх называюць кальвіністамі паводле назвы іх «збораў», або кангрэгацый. Тут ёсьць дзьве царквы, адна польская і другая нямецкая, у самым сэрцы гораду, дзе служаць тры сьвятары — два польскія сьвятары, магістар Бальтазар Лабенскі і магістар Ян Еўрскі, і нямецкі пастар магістар Андрэас [Андрэас Вэльсіюс], якім прыслужваў Георг Гартліб, рэктар пратэстанцкага калегіюму. Сьвятары карыстаюцца вялікай пашанай, да іх прыходзіць шмат пратэстанцкай шляхты, якая зьяжджаецца з усіх канцоў краіны на вялікія зборы, каб паслухаць іх казані*[230].

У 1569 г. ВКЛ заключыла Люблінскую унію з Польшчай; у тым жа годзе ў Літву з Польшчы прыйшлі езуіты і заснавалі ў Вільні свой першы калегіюм. Пачалася контрарэфармацыя. Адной зь яе мэт было вяртаньне эліты да каталіцызму. У 1580—1654 гг. езуіты адкрылі 16 калегіюмаў, большасьць зь іх — на пераважна праваслаўных землях Русі: у 1585 г. у Полацку, у 1586 г. у Нясьвіжы, у 1616 г. у Воршы, у 1623 г. у Берасьці, у 1625 г. у Горадні, у 1645 г. у Менску і ў 1648 г. у Віцебску[231]. Устрывожаныя масавым пераходам праваслаўнай шляхты ў пратэстантызм, праваслаўныя ярархі зрабілі выбар на карысьць уніі з рыма-каталіцкай царквой. Новая ўніяцкая, або грэка-каталіцкая, царква была створана ў 1596 г. у Берасьці. Кароль Жыгімонт III Ваза, езуіты і каталіцкія магнаты падтрымалі гэтую акцыю. У выніку пасьля пераходу праваслаўных япіскапаў у новае

[229] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. С. 112—113.

[230] Gilbert. Nevves from Poland. P. 6—8.

[231] Topolska, Maria. Społeczeństwo i kultura w WKL od XV do XVIII wieku. Poznań — Zielona Góra, 2002. P. 138.

ўніяцкае веравызнаньне праваслаўная царква апынулася па-за законам. Усе праваслаўныя прыходы мусілі прыняць грэка-каталіцызм. Аднак навязваньне уніі ня мела посьпеху. Палітычная барацьба праваслаўнай шляхты скончылася тым, што ў 1632 г. праваслаўных, якія яшчэ не перайшлі ва ўніяцтва, аднавілі ў правах.

З асяродзьдзя рускай рэфармацкай шляхты выйшлі два першыя лідэры новай уніяцкай царквы — мітрапаліты Адам (Іпацій) Пацей і Іосіф Руцкі. Абодва перайшлі ў грэка-каталіцызм з кальвінізму і абодва зрабіліся актыўнымі крытыкамі Рэфармацыі. Аднак сярод шляхты ўніятаў было няшмат. Толькі два праваслаўныя роды (Трызны і Тышкевічы) прынялі грэка-каталіцызм. Галоўным апекуном уніяцтва быў канцлер Леў Сапега — вялікі рускі магнат, які аднак перайшоў з кальвінізму ў рыма-каталіцызм[232]. Шмат хто з рускіх магнатаў пераняў Сапегаў прыклад. Галоўнай прычынай сталася каралеўская палітыка. Жыгімонт Ваза пачаў адкрыта дыскрымінаваць некаталіцкіх магнатаў, надаючы годнасьць сэнатараў выключна каталікам. У 1632 г., апошнім годзе яго ўлады, усе сэнатары ад Літвы былі каталікамі. За больш талерантным каралём Уладзіславам Вазам доля апошніх трохі зьменшылася[233]. Аднак палітыка Кароны прывяла да страты пратэстантамі паноўных пазыцыяў у княстве.

Суцэльна праваслаўнае Смаленскае ваяводзтва, забранае ў Расеі ў 1618 г., сталася арэнай каралеўскіх экспэрымэнтаў з контрарэфармацыяй у ВКЛ. Згодна з каралеўскім унівэрсалам 1623 г., на тэрыторыі Смаленшчыны дазвалялася існаваньне толькі рыма-каталіцкіх касьцёлаў і ўніяцкіх цэркваў. Унівэрсал прывёў да моцнага ўціску праваслаўнай царквы. Легалізацыя праваслаўных у 1632 г. не датычылася Смаленскага ваяводзтва. Згодна з каралеўскім унівэрсалам, усё ўсходнеславянскае насельніцтва пераходзіла пад юрысдыкцыю ўніяцкага архібіскупа смаленскага. Гэтае рашэньне справакавала шматлікія сутыкненьні паміж грэка-каталікамі і праслаўнымі. Частка праваслаўнага духавенства, шляхты і сялян уцякла ў Расею[234]. Бастыён каталіцызму, які каралеўская адміністрацыя ўзводзіла на ўсходніх межах дзяржавы, выклікаў вялікую занепакоенасьць шляхты ў іншых частках Літвы. Прыклад Смаленшчыны паказаў ім, да чаго можа прывесьці каралеўская рэлігійная палітыка[235].

Каталікоў непакоіла пашырэньне лютэранскага вучэньня сярод негерманскага насельніцтва. Каб супрацьстаяць яму, езуіты выдавалі мноства сатырычных твораў, у якіх высьмейвалі лютэранскіх пастараў (за тое, што яны бралі шлюб і як

[232] Tyszkowski, Kazimierz. Przejście Lwa Sapiehy na katolicyzm w 1586 roku // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1922. Vol. 2. No. 5/6—8. P. 186—201.

[233] Lulewicz, Henryk. Skład wyznaniowy senatorów świeckich Wielkiego Księstwa Litewskiego za panowania Wazów // Przegląd Historyczny. Warszawa, 1977. Vol. LXVIII. Z. 3. P. 425—445.

[234] Флоря, Борис. Унійна Церква на Смоленщині в 20—30 роках XVII століття // Ковчег. Науковий збірник із церковної історії. Львів, 2000. № 2. С. 85—98.

[235] Monod, Paul Kléber. The power of Kings. Monarchy and Religion in Europe, 1589—1715. New Haven and London, 1999. P. 121—126.

ставіліся да праваслаўных)[236]. Езуіцкая акадэмія ў Вільні таксама друкавала антыпратэстанцкую палемічную літаратуру[237]. Сюды ўваходзілі, напрыклад, выданьні пад такой «гучнай» назвай, як «Кальвінісцкі Бог»[238]. У адказ Літоўская Яднота выдавала кнігі, дзе даводзілася, што папа рымскі — антыхрыст[239]. У 1611 г. студэнты Віленскай езуіцкай акадэміі ўварваліся ў катэдральны збор рэфарматаў і спалілі яго архіў і бібліятэку. 16 лістапада 1611 г. у Варшаве пакаралі сьмерцю русіна-арыяніна Яна Тышэвіча, які адмовіўся паклясьціся імем Тройцы. У 1609 г. натоўп фанатыкаў-каталікоў разбурыў мячэт у Троках[240]. У 1618 г. улады ліквідавалі арыянскую суполку ў Навагрудку[241]. У 1632 г. Сойм забараніў будаваць на каралеўскіх землях новыя пратэстанцкія зборы[242]. У 1637 г. біскуп познаньскі Ежы Шолдрскі ня даў дазволу Янушу Радзівілу на прыватныя набажэнствы падчас Сойму[243]. У 1638 г. натоўпы каталікоў-фанатыкаў разбурылі рэфармацкія зборы ў Полацку і Навагрудку[244]. Пратэстанты адказалі рашучымі контрзахадамі. У адозвах перадаваўся заклік Радзівілаў да пратэстантаў пачаць адкрыты супраціў каталіцкім сьвятарам[245]. У 1648 г. каталіцкая большасьць у Сойме паспрабавала правесьці закон, каб дамова *«Pax dissedentium»* не распаўсюджвалася на тых, хто не прызнае Тройцы (г. зн. арыян). Спроба не ўдалася толькі дзякуючы супраціву пратэстанцкай апазыцыі. Еўлашэўскі, параўноўваючы талерантнае шаснаццатае стагодзьдзе зь неталерантным сямнаццатым, з горыччу згадваў былы «залаты век» і адзначаў, што ў ранейшыя часы розьніца ў веры не выклікала сярод літоўскай шляхты варажнечы[246].

Закрыцьцё ў 1640 г. Віленскай рэфармацкай катэдры азначала палітычную паразу пратэстантаў і перамогу каталіцкай партыі. Кальвінісцкае духавенства ілжыва абвінавацілі ў абстрэле вежаў аднаго з каталіцкіх касьцёлаў. Гэта справакавала

[236] Witanie na pierwszy wiazd z Królewca do Kadłubka Saskiego Wileńskiego Ixa Her N. Lutermachra: na własne kleynoty Lutermachra. Wittenberg [Vilnius], 1642.

[237] Ivanovič. Lietuvos lenkiškos knygos. Nos. 297, 298, 299, 444, 573—578.

[238] Becanus, Marcin. Czyściec kalwinistów. Wilna, 1639; Becanus, Marcin. Bóg kalwiński. Wilna, 1640; Cnoglerus Quirinius. Szczyra ewangelia hersztów zborowych. Wilna, 1603.

[239] Mornay, Phillipe de. Jasne y dowodne pokazanie, tak z Pisma Świętogo iako z starodavnych doktorów że papież ktory stolicę Państwa Rzymskiego opanowal nie est Głową powszchnego kościoła alie iż iest Antykrystem, ktory wszytek urząd Pana Jezu Chrysta wniwecz obrocił. Wilna, 1608.

[240] Topolska. Społeczeństwo i kultura w WKL. P. 198.

[241] Kosman. Programme of the Reformation. P. 35.

[242] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 19.

[243] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 52.

[244] Tazbir, Janusz. Nietolerancja wyznaniowa i wygnanie arian // Polska w okresie drugiej wojny pólnocnej 1655—1660. Warszawa, 1957. Vol. 1. P. 249—250.

[245] Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 202—203.

[246] The memoirs of Theodore Jeulasheuski, assessor of Navahrudak (1546—1604). Ed. Alexander Nadson // Journal of Byelorussian Studies. London, 1968. Vol. 1. No. 4. P. 269—348.

пагром віленскіх пратэстантаў. Віленскі трыбунал стварыў сьледчую камісію. Яна складалася напалову з каталікоў і напалову з пратэстантаў. На чале каталіцкай часткі стаялі віленскі біскуп Абрам Война і адзін з найбуйнейшых каталіцкіх магнатаў Казімер Леў Сапега. Часткі камісіі прыйшлі да супрацьлеглых высноваў. Кароль падтрымаў каталікоў. Каралеўскі ўнівэрсал, датаваны 26 мая 1640 г., азначаў палітычны разгром Радзівілаў. Упершыню вялікі князь пастанаўляў «забараніць і ліквідаваць усе праявы і абрады пратэстанцкай рэлігіі, прыватныя і публічныя, у гэтым месьце назаўсёды, забараніць ужываньне назваў «збор» або «кангрэгацыя», ліквідаваць іх школы, дзе навучаюць адпраўленьню іх рэлігіі, і інтэрнаты ў каралеўскім горадзе Вільні»[247]. Абвінавачваных пратэстанцкіх сьвятароў, уключна з Георгам Гартлібам (братам славутага нямецкага пратэстанцкага лідэра Самуэля Гартліба) асудзілі на сьмерць. Ступень рэлігійнай талерантнасьці рэзка зьменшылася. Вільня зрабілася «горадам раскошных касьцёлаў, велічных будынкаў, натоўпаў людзей, росквіту гандлю — адным словам, багата ўсяго добрага, апроч свабоды сумленьня і праўдзівай Веры»[248]. Студэнты-каталікі пачалі адкрыта нападаць на пратэстанцкіх сьвятароў на вуліцах. З ухвалы біскупа Абрама Войны яны зрывалі з пастараў сутаны[249]. Кароль Уладзіслаў Ваза папрасіў Войну пакараць вінаватых, аднак Война адмовіўся. Ён сказаў: «Як я магу пакараць нашых студэнтаў, калі гэта мой абавязак — змагацца зь ерасьсю ўсімі сродкамі? Папа прыслаў мне сьвятую падзяку за тое, што Вільня была ачышчана ад ерасі пры маім кіраваньні»[250].

Каталікі абвінавацілі віленскага ваяводу Крыштапа II Радзівіла ў тым, што гэта ён падбухторыў пратэстантаў напасьці на каталіцкія сьвятыні[251]. Ня вытрымаўшы гэткай паразы, Крыштап II неўзабаве памёр. На яго пахаваньні ў Віжунах прысутнічала вялікая колькасьць пратэстанцкай шляхты і духавенства. Пахавальная цырымонія стала сымбалем пратэстанцкай еднасьці. Разьвітацца з Крыштапам II прыехалі паслы пратэстанцкіх Курляндыі, Прусіі і Трансыльваніі. Ад Швэцыі прысутнічалі сьвятары рыскай лютэранскай кірхі. У сваю чаргу, польскія і літоўскія каталіцкія магнаты не зьявіліся на хаўтуры. Не прыехалі нават сваякі нябожчыка з каталіцкай галіны роду Радзівілаў[252].

Па сьмерці бацькі дваццацісямігадовы Януш Радзівіл (1612—1655) стаўся новым лідэрам апазыцыі. Першасную адукацыю ён атрымаў у віленскай кальвініскай школе, дзе ягоным настаўнікам быў швэд Лаўрэнцій Хурн. Затым Радзівіл

[247] Gilbert. Nevves from Poland. P. 15—16.

[248] Тамсама. С. 8.

[249] Tazbir. Państwo bez stosów i inne szkice. P. 230.

[250] Hillar, Marian. From the Polish Socinians to the American constitution // A Journal from the Radical Reformation. A Testimony to Biblical Unitarianism. 1994. Vol. 4. No. 3. P. 25—57.

[251] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 62—69.

[252] Kmita, Jan. Process pogrzebu s. pamięci Jaśnie Oświeconego Xiążęcia… Chrzysztopha Radziwiłła woiewody Wileńskiego hetmana wielkiego W. X. L. administratora Mohilewskiego, Bystrzyckiego etc. Lubcza, 1641.

прадоўжыў навучаньне ў Кейданскай і Слуцкай гімназіях. У 1628—1633 гг. ён аб'ехаў усю Эўропу. З 1628 г. вучыўся ў лютэранскім унівэрсытэце ў Ляйпцыгу, дзе яго абралі «ганаровым рэктарам». У 1631 г. удзельнічаў у вайне Галяндыі супраць імпэрыі Габсбургаў. У 1632 г. вучыўся ў Ляйдэнскім унівэрсытэце. У 1633 г. Радзівіл быў паслом Рэчы Паспалітай у Галяндыі і Ангельшчыне[253].

Другім буйным лідэрам пратэстантаў быў Янушаў стрыечны брат Багуслаў Радзівіл (1620—1669). Сын палітычнага эмігранта Януша Радзвівіла Старога, ён нарадзіўся ў Гданьску і быў ахрышчаны ў лютэранскай кірсе. Князь Багуслаў меў нямецкія, літоўскія і рускія карані, што зьвязвалі яго з дынастыяй Ягелонаў, а таксама з шмат якімі іншымі каралеўскімі дамамі Эўропы. Ягонай маці была Лізавета Соф'я Гогенцолерн з роду Брандэнбургаў. Сваяцтва Багуслава Радзівіла з дынастыяй Гогенцолернаў, якія з 1613 г. вызнавалі кальвінізм, узмацніла міжнародныя амбіцыі Радзівілаў. Гогенцолерны належалі да кола эўрапейскіх пратэстанцкіх уладароў. У 1620 г. швэдзкі кароль Густаў II Адольф ажаніўся з Марыяй Элеанорай Гогенцолерн (маці швэдзкай каралевы Крысьціны), а ў 1626 г. трансыльванскі князь Габар Бэтлен узяў шлюб з Катарынай Гогенцолерн. Сваякамі Багуслава Радзівіла былі швэдзкі кароль Карл X Густаў, вялікі электар Прусіі Фрыдрых Вільгельм і францускі кароль Людовік XIII. Пасьля сьмерці свайго бацькі ў 1620 г. Багуслаў зрабіўся адным з найбагацейшых магнатаў ВКЛ. Ён валодаў Слуцкім княствам, атрыманым у спадчыну ад першай жонкі яго бацькі праваслаўнай рускай княгіні Соф'і. Аднак, нягледзячы на сваё паходжаньне, багацьце і блізкія кантакты з эўрапейскай арыстакратыяй, Багуслаў Радзівіл ніколі не займаў пасады сэнатара Рэчы Паспалітай. Каб удзельнічаць у палітычным жыцьці, Багуславу Радзівілу даводзілася абірацца звычайным паслом ад павятовай шляхты. Адмовіць Радзівілу ў годнасьці сэнатара было ня проста абразай, але і парушэньнем з боку каралеўскай адміністрацыі векавых традыцый ВКЛ часу незалежнасьці, калі найбагацейшыя магнаты аўтаматычна атрымлівалі месцы ў Сэнаце.

У 1637—1648 гг. Багуслаў Радзівіл разам з групай пратэстанцкай моладзі зрабіў тры вялікія адукацыйныя падарожжы па Эўропе. Ён некалькі разоў наведаў Германію, Галяндыю, Францыю, Вялікабрытанію, Прусію, Бэльгію і Швэцыю. Прыналежны да эўрапейскай арыстакратыі Радзівіл быў прадстаўлены каралям Францыі і Англіі, а таксама ўладарам некалькіх нямецкіх княстваў. У той жа час падобныя адукацыйныя падарожжы рабіў і Карл Густаў, будучы кароль Швэцыі[254]. Хутчэй за ўсё, два маладыя арыстакраты пазнаёміліся падчас гэтых вандраваньняў. Як бы там ні было, Швэцыя была адной з наймагутнейшых дзяржаваў Эўропы і суседкай Рэчы Паспалітай, што мела немалое значэньне ў такіх міжнацыянальных кантактах. У 1635 г. Багуслаў Радзівіл прысутнічаў на дыпляматычных перамовах паміж Швэцыяй і Лівоніяй. У 1637 г. ён наведаў швэдзкі партовы го-

[253] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 4—26.

[254] Losman, Arne. Tre Karlars studier // Tre Karlar. Karl X Gustav, Karl XI, Karl XII. Stockholm, 1984. P. 14.

рад Штэцін, дзе пазнаёміўся зь яго губэрнатарам Стэнам Белке[255]. У сямнаццаць гадоў Багуслаў пайшоў на службу ў швэдзкае войска пад камандаваньне генэрала Карла Густафа Ўрангеля. Ён удзельнічаў у вайне Швэцыі супраць Габсбурскай імпэрыі — ваяваў пад Трыбзэсам (11 лістапада 1637 г.). У 1642 г. пайшоў наймітам на вайну Галяндыі супраць Гішпаніі. Тут пад яго камандаваньнем служыў прускі афіцэр Георг фон Вальдэк, будучы галоўнакамандуючы войскамі Прусіі[256]. Падарожжы па Эўропе далі Радзівілу ня толькі звычайную акадэмічную адукацыю, але і немалы ваенны досьвед.

Навучаючыся ў пратэстанцкіх краінах, Радзівілы змаглі ня толькі вывучыць замежныя мовы, але і, што больш важна, ўсталяваць карысныя кантакты з шмат якімі буйнымі палітыкамі Эўропы[257]. Напрыклад, у Гайдэльбэргу Крыштап ІІ Радзівіл пасябраваў з райнскім электарам Фрэдэрыкам IV. У Альтэнбургу Радзівіл пасябраваў з Крысьціянам Анхальцкім. Крысьціяна ведалі як аднаго з ініцыятараў магутнага пратэстанцкага альянсу супраць каталіцкай кааліцыі. Ён дасягнуў некаторых посьпехаў у арганізацыі ў 1608 г. Эвангелічнай лігі. Пазьней Крысьціян Анхальцкі ўзначальваў чэскае войска ў славутай бітве пры Белай Гары.

У настаўленьнях маладым Янушу і Багуславу Крыштап ІІ раіў ім завязаць добрыя кантакты з эўрапейскімі пратэстанцкімі ўладарамі, асабліва з домам Пфальцаў. Яшчэ ў Кейданах Багуслаў Радзівіл, калі вучыўся разам з сваім сваяком Крысьціянам, прынцам Сылезіі, так і пачаў рабіць[258]. У Гронінгене, Утрэхце, Парыжы і Лёндане (1642—1648 гг.) Багуслаў наладзіў прыязныя асабістыя адносіны з многімі пратэстанцкімі лідэрамі, у тым ліку з прынцам Вільгельмам ІІ Аранскім. У 1645 г. швэдзкі пасол у Варшаве Аксэль Спарэ ў лісьце ў Стакгольм характарызаваў Багуслава Радзівіла як «народжанага для вялікіх спраў і сапраўднага завадатара літоўскай моладзі»[259].

У сярэдзіне XVII ст. Януш і Багуслаў Радзівілы валодалі прыкладна пяцьцюдзесяцьцю гарадамі і мястэчкамі ВКЛ з прадмесьцямі. Усяго яны мелі прыблізна 30 000 дымоў у 171 населеным пункце. Кожны зь іх паасобку быў роўны багацьцем найзаможнейшаму каталіцкаму магнату Казімеру Льву Сапегу. Разам жа яны далёка яго пераўзыходзілі. У сваім запавеце Багуслаў напісаў, што ў выпадку сьмерці пакідае ўсе свае валоданьні Янушу Радзівілу. Багацьце і магутнасьць Багуславу Радзівілу перадусім прыносіла Слуцкае княства з гарадамі Слуцак і Капыль. Паводле словаў яго аканома Яна Сасноўскага, усе ўладаньні Багуслава Радзівіла прыносілі яму штогадовы прыбытак у памеры 330 000 злотых. Гэта перавышала даход, які атрымліваў з усёй Літвы польскі кароль. Сярод іншых гарадоў і мястэчак, што належалі Багуславу, былі Даляцічы (Наваградзкі павет), Койда-

[255] Radziwiłł. Autobiografia. P. 20, 122, 199.

[256] Тамсама. С. 22—27, 125.

[257] Януш Радзівіл мог размаўляць і пісаць на польскай, рускай, літоўскай і лацінскай мовах. Багуслаў — на францускай, нямецкай, польскай, лацінскай і рускай.

[258] Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 269.

[259] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 170.

нава і Смалявічы (Менскі павет), Жупраны (Ашмянскі павет), Сялец (Берасьцейскі павет), Венграў на Падляшшы, Пашырвінты (Ковенскі павет), а таксама Барскае і Бранскае староствы ў Польшчы.

Галоўным уладаньнем Януша Радзівіла было Біржайскае княства і горад Кейданы, дзе месьціліся яго буйныя замкі. Князь меў іншыя ўладаньні ў Жамойці (Кейданы і Таўрогі), Упіцкім (Біржы, Радзівілішкі, Уладзіславаў і Салачы), Вількамірскім (Віжуны, Аванта, Папелі, Сьвядасьць, Солы, Віжэлі, Саламесьць, Відзішкі, Шаты і Янушава), Віленскім (Дубінкі), Гарадзенскім (Заблудаў, Орля, Беласток-Дойліды і Собалева), Наваградзкім (Любча, Асташын, Усялюб), Лідзкім (Беліца, Дакудаў, Арлова) і Берасьцейскім (Камянец) паветах. Ува ўсходніх паветах Янушу Радзівілу належалі толькі два гарады: Невель і Себеж.

Уладаньні Радзівілаў фактычна былі дзяржавай у дзяржаве, з тэрыторыяй, роўнай Бэльгіі. Памерам і даходнасьцю сваіх земляў (ня менш як 600 000 злотых штогадовага даходу) пратэстанцкая галіна Радзівілаў пераўзыходзіла ўсіх іншых магнатаў, а таксама караля. Большасьць іх уладаньняў месьцілася ў паўночнай і заходняй частцы краіны. Геаграфічны фактар набыў вялікае значэньне падчас палітычных падзей 1655—1661 гг., калі гэтыя землі акупавалі швэды.

Велізарныя ўладаньні Радзівілаў стваралі базу для іх эканамічнага і палітычнага ўплыву. Пераважная частка іх зямельных надзелаў, ці 91 %, разьмяркоўвалася сярод пратэстанцкай шляхты. З 97 зямельных уладаньняў Януша Радзівіла 88 былі ў руках намесьнікаў, а з 74 уладаньняў Багуслава Радзівіла ў 68 кіравалі намесьнікі[260]. Шляхта Слуцку і Біржаў знаходзілася ў васальнай залежнасьці ад Радзівілаў. Яна ня мела права браць удзелу ў сойміках, і Літоўскі Статут не акрэсьліваў яе прававога становішча.

У XVII ст., калі перапыніліся арыянскі (Кішкі) і лютэранскі (Талвашы) шляхецкія роды, кальвіністы-Радзівілы засталіся галоўнымі апекунамі ўсіх трох эвангелічных канфэсіяў. Пратэстантызм стаўся ідэалягічным падмуркам іх палітычнай партыі. Сынод Яднoты Літоўскай штогод зьбіраўся на закрытыя пасяджэньні, на якіх пастары і шляхта абмяркоўвалі рэлігійныя і палітычныя пытаньні. Гэта сьведчыць, што пратэстанцкая шляхта была найбольш арганізаванай і найлепш інфармаванай канфэсійнай групай і да таго ж мела добрыя замежныя сувязі. Яна магла амаль штогод выпрацоўваць і ўдакладняць сваю супольную пазыцыю па розных пытаньнях грамадзкага жыцьця. Між тым палітычнае жыцьцё каталіцкай і праваслаўнай шляхты абмяжоўвалася іх паасобнымі паветамі. Яна ня ладзіла агульнанацыянальных супольных сходаў. Гэты фактар адыграў значную ролю падчас крызісу сярэдзіны XVII ст.

У большасьці паветаў шляхецкія палітычныя фракцыі падзяляліся таксама й канфэсійна на дзьве групоўкі: каталікоў, з аднаго боку, і пратэстантаў з праваслаўнымі, з другога. Пратэстанты адмаўляліся зьбірацца ў каталіцкіх касьцёлах, і соймікі

[260] Rachuba, Andrzej. Sprawa dóbr Radziwiłłów Birżańskich w latach 1655—1662 // Miscellanea Historico-Archivistica. Warszawa, 1997. Vol. VII. P. 52. Note 4.

ў Літве, адрозна ад Польшчы, праходзілі ў сьвецкіх грамадзкіх будынках. Калі ж групоўкі востра варагавалі, як, напрыклад, у Віцебску пасяджэньні праходзілі ў розных будынках[261]. Праз пратэстантаў і праваслаўных Радзівілы абіралі сваіх паслоў на Сойм. У 1648 г. да партыі Радзівілаў у Пасольскай Ізьбе належалі восем паслоў. Усе яны былі пратэстанты (Юрый Волан, Ян Гружэўскі, Сьцяпан Цадроўскі, Сьцяпан Францкевіч Радзімінскі, Крыштап Патоцкі і Ўладзіслаў Ляшчынскі) ці праваслаўныя (Багдан Агінскі і Міхал Статкевіч)[262]. У Сэнаце літоўскую апазыцыю прадстаўлялі восем сэнатараў-некаталікоў (з 35 сэнатараў ад ВКЛ). Сярод іх ваявода віленскі Януш Радзівіл, кашталян полацкі Ян Сасноўскі і кашталян віцебскі Тамаш Касакоўскі былі кальвіністы, а адзіны лютэранін быў Мікалай Корф, кашталян вэндэнскі. Іх падтрымлівалі чатыры праваслаўныя сэнатары: кашталян троцкі Аляксандар Агінскі, кашталян навагрудзкі Самуіл Статкевіч, кашталян менскі Мікалай Чацьвярцінскі і ваявода берасьцейскі Максымілян Бжазоўскі[263].

У 1654 г. слуцка-біржайскім Радзівілам служылі каля пяцідзесяці пратэстанцкіх шляхецкіх родаў[264]. Сярод іх кальвіністы Азямблоўскія, Біліковічы, Блінструбы, Вазынскія, Візгірды, Воланы, Высоцкія, Давідовічы, Дубскія, Дунін-Раецкія, Зяновічы, Камароўскія, Кімбары, Клакоцкія, Марцінкевічы, Мірскія, Прозары, Пуцяты, Саковічы, Слушкі, Стрыжкі, Сясіцкія, Цадроўскія; арыяне Грэкі, Любянецкія, Мяжэнскія, Пшыпкоўскія, Сіцінскія; лютэране Атэнгаўзы, Дэмбоўскія, Нонгарты, Путкамэры і Эпэрыешы; а таксама праваслаўныя роды Агінскіх і Быхаўцоў. Шчыльныя сувязі ядналі Радзівілаў зь лютэранскімі лівонскімі кланамі Корфаў і Хольцшуераў, а таксама з украінскім арыянскім родам Нямірычаў. Прадстаўнікі пералічаных родаў складалі касьцяк партыі Радзівілаў і адыгрывалі ключавую ролю ў палітычных камбінацыях з Швэцыяй. Да клієнтуры Радзівілаў належала і колькі каталікоў. Найбольш важнай фігурай зь іх быў рыма-каталіцкі біскуп жамойцкі Пётар Парчэўскі. Ён паходзіў з дробнай шляхты і ўсёй сваёй кар'ерай быў абавязаны Янушу Радзівілу[265]. Невыпадкова Парчэўскі пазьней падтрымаў Кейданскую унію. Наагул, Радзівілы выдатна ўмелі гуртаваць вакол сябе таленавітых людзей. Сярод іх быў прыдворны пісар русін Крыштап Арцішэўскі, які пазьней стаў капітанам першага рангу Галяндзкага флёту ў Бразыліі[266].

Галоўным прынцыпам палітыкі Радзівілаў была талерантнасьць. Яны спрыялі пасяленьню ў іх гарадох габрэйскіх купцоў і выдалі шэраг пастаноў, якія гарантавалі тым усе правы[267]. У гэтых гарадох габрэі маглі абірацца ў гарадзкі маг-

[261] Rachuba. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym. P. 87—88.

[262] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 308—309.

[263] Lulewicz. Skład wyznaniowy senatorów. P. 439.

[264] Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 71—123, 186—295.

[265] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 185.

[266] Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 152.

[267] Bardach, Juliusz. Żydzi w Birżach radziwiłłowskich w XVI—XVIII wieku // Przegląd Historyczny. Warszawa, 1991. Vol. 81. Z. 1—2. P. 199—220.

істрат і належаць да хрысьціянскіх гільдый — зьява, унікальная для Рэчы Паспалітай. Габрэйскія рамесьнікі і купцы Кейданаў і Слуцку стварылі ўласныя гільдыі, якія карысталіся ўсімі правамі, у тым ліку мелі свой герб[268]. Дзякуючы гэтай талерантнай палітыцы габрэйскія грамады ў Кейданах і Слуцку неўзабаве сталіся найбуйнейшымі ў ВКЛ, а Кейданы зрабіліся габрэйскім цэнтрам Жамойці.

Радзівілы сьвядома праводзілі палітыку падтрымкі пратэстантаў, вымушаных пакінуць Заходнюю Эўропу. Пасьля 1615 г. у ВКЛ па запрашэньні Радзівілаў эмігравалі сотні шкоцкіх кальвіністаў. Яны пасяліліся галоўным чынам у Кейданах і Слуцку[269]. Асела ў ВКЛ таксама батага галяндцаў і немцаў з райнскіх зямель[270]. Пад пратэкцыяй Багуслава Радзівіла знаходзілася галяндзка-нямецкая пратэстанцкая калёнія ў Нэйдорфе ля Берасьця[271]. Заахвочваньне эміграцыі мела дзьве мэты. Па-першае, перасяленцы ўмацоўвалі пратэстанцкую супольнасьць. Па-другое, заходнія эмігранты маглі дапамагчы Радзівілам усталяваць наўпроставыя кантакты зь іншымі эўрапейскімі пратэстантамі, перадусім з шкоцкімі сэпаратыстамі, сярод якіх было шмат афіцэраў швэдзкага войска. Пра шырокія міжнародныя сувязі Радзівілаў сьведчыць і тое, што яны патранавалі вядомых шкоцкіх навукоўцаў, напрыклад, Джона Джонстана. У 1640 г. Джонстан узначальваў катэдру мэдыцыны ў Ляйдэнскім унівэрсытэце, у яго вучылася шмат студэнтаў з ВКЛ. У 1633 г. ён апублікаваў сваю галоўную працу *«Thaumatographia naturalis»* — энцыкляпэдычны кампэндыюм ведаў па прыродазнаўстве — з прысьвячэньнем Багуславу і Янушу Радзівілам[272]. Шкоцкія перасяленцы ў Кейданах распачалі гандаль з Кёнігсбэргам, Рыгай, Стакгольмам і Амстэрдамам. Вельмі хутка маленькія Кейданы ператварыліся ў квітнеючы горад з 4 тысячамі жыхароў, 500 будынкамі, 6 храмамі розных канфэсій, пратэстанцкай гімназіяй, 6 кірмашамі і больш як 300 рамесьнікамі[273]. У 1653 г. Януш Радзівіл падпісаў «Артыкулы гораду Кейданы», якія забясьпечвалі яго аўтаномію[274]. Так Кейданы зрабіліся пратэстанц-

[268] Грицкевич, Анатолий. Частновладельческие города Белоруссии в XV—XVIII вв. Минск, 1975. С. 120—121; Вишницер. Литовский Ваад. С. 303—309; Марес, П. Жмудь // Еврейская энциклопедия. Москва, 1991. Том 7. С. 603—604; Кейданы // Тамсама. Том 9. С. 410—411; Слуцк // Тамсама. Том 14. С. 392—393.

[269] Hans, Nicholas. Polish protestants and their connections with England and Holland in the 17th and 18th centuries // The Slavonic and East European review. 1958. No. 37. P. 212.

[270] Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 61.

[271] Schultz. Kronika zboru ewangelicko-luterskiego Nejdorfskiego. http://www.luteranie.pl/lublin/historia/neudorfkronika.htm

[272] Ionstoni, Iohannis [Johnstone, John]. Thavmatographia natvralis: in classes decem divisa: in quibus admiranda coeli, elementorum, meteororum, fossilium, plantarum, avium, quadrupedum, exanguium, piscium, hominis. Amstelodami [Amsterdam], 1633.

[273] Žirgulis, Rimantas. Three hundred years of multiculturalism in Kėdainiai. A case study // The peoples of the Grand Duchy of Lithuania. Ed. Grigorijus Pota enko. Vilnius, 2002. P. 130—140.

[274] Radziwiłł, Janusz. Puncta miastu Kieydańskiemu od Jaśnie Oświeconego Xiążęcia Jegomości pana woiewody Wileńskiego hetmana polniego W. X. Litt. Kiejdany, 1653.

кай сталіцай і важным палітычным, эканамічным і рэлігійным цэнтрам княства.

У 1647 г. паміж каталікамі і пратэстантамі разгарэўся новы канфлікт, які скончыўся паразай Радзівілаў. Біскуп Абрам Война абвінаваціў таго ў падбухторваньні да разбурэньня прыдарожнага крыжа ў Сьвядасьці. І хоць мясцовы каталіцкі сьвятар назваў абвінавачаньне несправядлівым і асудзіў яго, Радзівіл прайграў справу і мусіў сплаціць тысячу злотых. Апроч гэтага, яму ставілася ў абавязак пабудаваць у Сьвядасьці мураваны каталіцкі касьцёл, а таксама дазволіць публічныя каталіцкія працэсіі ў Кейданах[275]. У выніку рэпрэсій у 1654 г. у ВКЛ з колішніх 260 пратэстанцкіх збораў засталося ўсяго каля сотні. Аднак і гэта было нямала ў параўнаньні з Польшчай, дзе захаваўся ўсяго 21 пратэстанцкі прыход з 80 у 1591 г.[276]

Каралеўская палітыка акаталічваньня дэстабілізавала сытуацыю ва ўсходніх паветах. Нават пасьля 1632 г. праваслаўныя богаслужэньні ў многіх беларускіх гарадох і мястэчках адбываліся таемна[277]. Нягледзячы на ўціск, праваслаўная шляхта Літвы, адрозна ад украінскіх казакоў, не пайшла на таемныя кантакты з Масквой. Трывалае ўяўленьне пра Маскоўскую дзяржаву як спрадвечнага ворага Літвы спыняла такія намеры. Аднак, шукаючы заступніцтва, больш шчыльных кантактаў з Расеяй пачало шукаць праваслаўнае духавенства. Праваслаўныя сьвятары пачалі атрымліваць грашовую падтрымку ад Масквы[278]. Некаторыя нават перасяляліся туды. Напрыклад, у 1626 г. уцёк у Расею Іосіф Курцэвіч, праваслаўны біскуп берасьцейскі. Там ён адразу ж атрымаў высокую пасаду мітрапаліта Суздальскага[279]. Гэтыя эмігранты перабольшвалі, калі казалі ў Крамлі, як перасьледуюць праваслаўных у Беларусі і Літве і як яны жадаюць перайсьці ў падданства да адзінага ў сьвеце сапраўднага праваслаўнага манарха — расейскага цара[280].

## 2.3. Гандлёвыя аспэкты літоўска-швэдзкіх адносінаў

Ад самага заснаваньня ў 1201 г. Рыга актыўна гандлявала з Полацкам і Віцебскам. У 1229 г. гэтыя два беларускія гарады падпісалі з Рыгай і Готляндам damову аб вольным гандлёвым шляху па Дзьвіне[281]. У сярэдзіне XIII ст. Полацкае і Віцебскае княствы ўвайшлі ў склад ВКЛ. Аднак абодва гарады захавалі вялікую

[275] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 212—213.

[276] Kosman. Programme of the Reformation. P. 48.

[277] Kempa, Tomasz. Prawosławie i unia we wschodnich województwach WKL w końcu XVII w. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok. No. 32, p. 38.

[278] Viise, Michelle. Ruthenian Orthodoxy and the Roman state: Afanasiusz Filipowicz's «Діяріуш» // Krakowsko-Wileńskie studia Slawistyczne. Kraków, 2001. Vol. III. P. 215—260.

[279] Chodynicki, Kazimierz. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny 1370—1632. Warszawa, 1934. P. 446.

[280] Floria, Boris. Konflikt między zwolennikami unii i prawosławia w Rzeczypospolitej (w świetle źródeł rosyjskich) // Barok. Historia-Literatura-Sztuka. Warszawa, 1996. Vol. III/2. P. 26—27.

[281] Sveriges traktater med främmande magter. Stockholm, 1877. Vol. 1. 822—1335. P. 146—175.

ступень аўтаноміі[282]. У XIII—XVI стст. у Полацку дзейнічала прадстаўніцтва Ганзейскага гандлёвага саюзу[283]. Пасьля 1562 г. вялікая колькасьць полацкіх купцоў перасялілася ў Рыгу. Рускія купцы гандлявалі на Старым рынку на правым беразе Даўгавы, побач з праваслаўнай Сьвятамікалаеўскай царквой, якая была ў юрысдыкцыі япіскапа полацкага. Полацка-рыскія граматы паказваюць, якую важную ролю адыгрываў гандаль між гэтымі двума гарадамі для беларускай і літоўскай гаспадаркі[284].

Георг Енш піша, што ВКЛ перапраўляла большасьць сваіх тавараў у швэдзкую Рыгу для далейшага экспарту. Тым самым рыскі порт меў для ВКЛ такое ж значэньне, як гданьскі — для Польшчы: ён служыў «акном у Эўропу», праз якое пастаўляліся тавары на экспарт (збожжа, лён, лес). Рыскія мяшчане зрабіліся асноўнымі крэдыторамі літоўскіх магнатаў[285]. У першай палове XVII ст. ВКЛ налічвала каля 600 гарадоў і мястэчак. Амаль траціна зь іх гандлявала з Рыгай. Рыга была цэнтрам экспарту тавараў з усходніх і паўночных паветаў[286]. Басэйн Дзьвіны, які ўключаў гарады Полацак, Віцебск, Браслаў, Друю, Дрысу і Дзісну, меў вялікае значэньне для Рыгі[287]. Гандлёвыя кантакты Рыгі распасьціраліся на паўночную Літву і Жамойць — Біржы, Вількамір, Анікшты і Шаўлі[288]. Ня дзіва, што гэтыя тэрыторыі былі аб'ектам увагі швэдаў. Купцы-русіны часта мелі вялікія сумы швэдзкімі грашыма. Напрыклад, у запавеце (1626 г.) Якуба Хадыкі — ня самага заможнага полацкага купца — значыліся 347 швэдзкіх талераў[289]. Купцы Магілёва, самага буйнога гораду Беларусі, падтрымлівалі гандлёвыя сувязі з Рыгай праз Полацак[290]. У выніку ў Магілёве ўтварыўся пратэстанцкі прыход[291]. Аднак галоўную ўвагу Магілёў скіроўваў на Маскву: рускія купцы ВКЛ пастаўлялі туды багата эўрапейскіх тавараў. Гэтыя эканамічныя сувязі дапамагаюць зразумець, чаму ў 1654—1661 гг. Магілёў пайшоў на калябарыцыю з Расеяй.

282 Сагановіч, Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі. Мінск, 2002. С. 142.

283 Hildebrand, Herman. Das deutsche Kontor zu Polozk // Baltische Monatsschrift. Riga, 1873; Сагановіч, Генадзь. Полацк і нямецкая калонія на Дзвіне // Беларускі гістарычны агляд. Мінск, 1998. Сш. 5. С. 3—26.

284 Хорошкевич, Анна. Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Москва, 1977—1989. Тома I—IV.

285 Jensch, Georg. Der Handel Rigas im 17. Jahrhundert. Ein Beitrag zur livländischen Wirtschaftsgeschichte in schwedischer Zeit. Riga, 1930. P. 65—73.

286 Melton, Edgar. The Russian peasantries, 1450—1860 // The Peasantry of Europe. From the Fourteenth to the Eighteenth centuries. Ed. Tom Scott. Longman, 1998. P. 227—268.

287 Адацик, Федор. Торговые связи города Витебска с Ригой в XVII—XVIII вв. // Советское славяноведение. Материалы конференции историков-славистов. Минск, 1979. С. 572—580.

288 Dorosenko, Vasilii. Riga und sein Hinterland im 17. Jahrhundert // Hansische Studien. Weimar, 1979. Vol. 4. P. 155—172.

289 Рябцевич. Нумизматика Беларуси. С. 194.

290 Мелешко, Василий. Могилёв в XII — середине XVIII века. Минск, 1988. С. 130—135.

291 Марзалюк, Ігар. Магілёў у XII—XVIII ст. Мінск, 1998. С. 106.

У 1562 г. Рыга робіцца літоўскім пратэктаратам. У 1582 г. горад быў уключаны ў склад Рэчы Паспалітай. Калі Рыга належала Рэчы Паспалітай, літоўская шляхта рабіла ўсё, каб наладзіць праз гэты горад наўпроставыя пастаўкі сваіх тавараў у Эўропу. Рыскія купцы скардзіліся ўладам Рэчы Паспалітай на камэрцыйныя апэрацыі літоўскай шляхты, *mercatura nobilium*. Аднак літоўскія магнаты таксама лябіявалі свае інтарэсы, асабліва калі гэта датычылася гандлёвых пазыцый у Лівоніі. Рыскія купцы наракалі на высокія мыты ў Літве. Ім даводзілася плаціць тры мыты: «старыя», «замкавыя» і «дадатковыя». Тавары, якія перавозіліся ўверх па Дзьвіне, праходзілі празь сем мытных камор (у Крыжбаргу, Дзьвінску, Дрысе, Дзісьне, Полацку, Віцебску і Суражы). Тэарэтычна швэдзкія купцы меліся плаціць мыта толькі ў адной каморы, але літоўскія ўлады прымушалі іх плаціць па некалькі разоў[292]. Полацкі магістрат дазваляў рыскім купцам плыць па Дзьвіне толькі да Полацку, але ня ў больш далёкія паветы[293]. Таму рыскае купецтва было зацікаўлена ў ліквідацыі мытных бар'ераў і атрыманьні наўпроставага доступу на літоўскі і беларускі рынак.

Бронюс Дундуліс сьцьвярджае, што да вайны Рэчы Паспалітай з Швэцыяй 1600—1629 гг. спрычыніліся менавіта эканамічныя інтарэсы. Кантроль над рыскім портам дазваляў літоўскай шляхце і купецтву гандляваць з эўрапейскімі краінамі з найбольшай выгадай для сябе[294]. Нават падчас вайны шляхта працягвала гандляваць з Рыгай[295]. Да 1621 г. Швэцыя ўсталявала кантроль над Рыгай. Тая сталася найбуйнейшым горадам Швэдзкай імпэрыі. Гэта пазбавіла эканамічную зацікаўленасьць Вільні і Варшавы ў выхадзе да Балтыкі. Для ВКЛ кантроль Швэцыі над Рыгай азначаў вяртаньне да становішча, якое існавала да 1561 г., калі Літва ніяк не ўплывала на рыскі рынак. У 1622 г., каб узьдзейнічаць на па-прашвэдзку настроенае рыскае купецтва, кароль Жыгімонт III забараніў усялякі гандаль паміж Рэччу Паспалітай і Рыгай. Гэта выклікала эканамічны крызіс у ВКЛ. Паўстала праблема збыту сельскагаспадарчай прадукцыі і лесу. Вымушаная пераарыентацыя гандлю з Рыгі на прускія порты Кёнігсбэрг і Мэмэль прывяла да значнага росту цэнаў на соль і селядзец. Надзвычайная канвакацыя літоўскіх сэнатараў у 1624 г. зьвярнула ўвагу Варшавы на тое, што забарона гандлю з Рыгай шкодзіць Літве больш, чым Швэцыі. У выніку «нашы ўсходнія паветы задыхаюцца бяз гандлю з Рыгай, нашы людзі ня могуць купляць хлеб і іншыя неабходныя рэчы або вымушаны аддаваць за іх утрая больш, а нашы сяляне ня могуць плаціць падаткі»[296].

292 Jensch. Der Handel Rigas. P. 71.

293 Дорошенко, Василий. Торговля и купечество Риги в XVII веке. Рига, 1985. С. 89—92.

294 Dundulis, Bronius. Švedų feodalų įsiveržimai į Lietuvą XVII—XVIII a. Vilnius, 1977; Dundulis, Bronius. Lietuvos kovos dėl Baltijos jūros. Vilnius, 1985.

295 VL. P. 12.

296 Тыла, Антанас. Борьба литовских и шведских феодалов из-за Ливонии в конце XVI — начале XVII века: политические и экономические последствия для Литвы. Автореферат диссертации. Вильнюс, 1987. С. 32.

Польшча не зьвярнула ўвагі на гэтую вострую крытыку з боку літоўскіх магнатаў. Больш за тое, не зважаючы на пратэст Літвы, у 1626 г. Сойм забараніў гандаль з Рыгай і праз порты Прускага герцагства. Віленская канвакацыя расцаніла забарону на гандаль з Балтыкай як катастрофу. Сход літоўскіх сэнатараў меркаваў, што лепш разарваць унію з Польшчай, чым страціць гандлёвыя стасункі з Рыгай[297]. Сэпаратнае пагадненьне з Швэцыяй, падпісанае прадстаўнікамі ВКЛ у замку Бальдонэ ў 1627 г., прадугледжвала сярод іншага і аднаўленьне гандлю паміж дзьвюма дзяржавамі. Аднак праз пратэсты Польшчы пагадненьне так і не ўвайшло ў сілу.

У 1628 г., каб увесьці эканамічны ціск на Рэч Паспалітую, кароль Густаў II Адольф сваім указам забараніў швэдзкім падданым пастаўляць тавары ў Літву і Курляндыю і гандляваць зь імі[298]. У выніку за 1628 г. у рыскую гавань зайшло ўсяго 18 швэдзкіх караблёў — супраць 400 у даваенны пэрыяд[299]. Працяг вайны азначаў эканамічную катастрофу. У лісьце слонімскаму сойміку ад 20 сьнежня 1628 г. Крыштап II Радзівіл наракаў, што Рэч Паспалітая закрыла порты. Ён сьцьвярджаў, што гэта больш шкодзіць ВКЛ, чым Швэцыі. Апроч таго, ён папярэджваў шляхту, што працяг вайны абернецца «навечнай стратай гандлю з галяндцамі, бо тыя могуць зьвярнуцца да Масковіі»[300].

Рыскі порт меў вялікае значэньне для гаспадаркі Радзівілаў. Януш Радзівіл валодаў двума гарадамі ў Прыдзьвіньні — Невелем і Себежам. Яго бацька Крыштап II першым на беларускіх землях пачаў гадоўлю галяндзкіх парод свойскіх жывёл (кароваў і сьвіньняў), якія завозіліся праз Рыгу[301]. Радзівілы запачаткавалі новы від камерцыйнай дзейнасьці: яны здавалі свае плыты ў арэнду купцам[302]. Каб забясьпечыць больш зручную рачную сувязь з Рыгай, Радзівілы фінансавалі праект па ачыстцы рэчышча Дзьвіны і будаўніцтве канала[303]. Калі пачалася вайна 1600—1629 гг., Радзівілы мусілі пераарыентавацца на гандаль са значна больш аддаленым Гданьскам, што прыносіла істотныя страты. У 1628 г., падчас сустрэчы ў Рызе пры абмене ваеннапалоннымі паміж Літвой і Швэцыяй, Крыштап II Радзівіл і Якуб Понтус Дэлягардзі абмеркавалі эканамічнае становішча. Радзівіл падкрэсьліў: галоўная праблема для Літвы — высокія цэны на соль, якую давозіцца везьці аж з Кракава. Ён адзначыў, што аднавіць ўзаемавыгадны гандаль з

[297] Тамсама. С. 33.

[298] Nos Gustavus Adolphus, Dei gratia, Svecorum, Gothorum, Vandalorumqve Rex…per ullos Polonici juris portus, professos eosdem hostes Nostros. Stockholm, 1628.

[299] Дорошенко. Торговля и купечество Риги в XVII веке. С. 120.

[300] Księcia Krzysztofa Radziwiłła hetmana polnego. P. 586.

[301] Siekierski, Maciej. Landed wealth in the Grand Duchy of Lithuania: the economic affairs of prince Nicholas Christopher Radziwill (1549—1616) // Acta Baltico-Slavica. Warszawa, 1994. Vol. XXI. P. 229—230, 250.

[302] Mączak. The commonwealth of Poland-Lithuania. P. 12, 19. Note 14.

[303] Jensch. Der Handel Rigas. P. 66.

Рыгай і зьнізіць цэны на соль можна толькі па замірэньні. Ён прапанаваў швэдам падумаць, як спыніць пастаўкі солі з Кракава. На думку Радзівіла, такі крок прымусіў бы літоўскую шляхту больш рашуча выступаць за мір з Швэцыяй[304]. Урэшце мірная дамова Рэчы Паспалітай з Швэцыяй, падпісаная ў 1629 г. у Альтмарку, дазволіла аднавіць гандаль па Дзьвіне[305].

Як сьцьвярджае Артур Атман, швэдзкая экспансія часткова тлумачылася і эканамічнымі матывамі: Швэцыя імкнулася ўзяць пад свой кантроль увесь гандаль на Балтыцы[306]. У 1651 г. быў заснаваны дзяржаўны швэдзкі гандлёвы дэпартамэнт, што сьведчыла пра абуджэньне цікавасьці дзяржавы да разьвіцьця гандлю[307]. Першачарговай задачай швэдзкай адміністрацыі ў Лівоніі было павялічыць таваразварот рыскага порту, каб узрасьлі падатковыя паступленьні. І швэдзкая палітыка мела посьпех. За год пасьля падпісаньня міру ў Альтмарку Рыга прыняла 189 гандлёвых караблёў. У 1631 г. гэтая лічба вырасла да 319. У 1654 г. дасягнуў найвышэйшай адзнакі гандаль пянькой. У 1648 г. зафіксаваны рэкордныя аб'ёмы куплі-продажу карабельнага лесу, у 1650 г. — солі і селядцоў[308]. У той жа час гандаль з ВКЛ пачалі і іншыя гарады Швэдзкага каралеўства, у прыватнасьці Стакгольм, Гётэборг і Штэцін. Швэдзкая мэтраполія пастаўляла праз Рыгу на літоўскі і беларускі рынак жалеза, сталь, каляровыя мэталы і соль[309]. Гандаль зернем складаў невялікую долю ў таваразвароце Рыгі — толькі 10% ад агульнага аб'ёму. Аднак Рыга была галоўным цэнтрам на Балтыцы па гандлі пянькой, канапляным семем, лёнам і льняным семем[310]. ВКЛ было для Рыгі галоўным пастаўніком пянькі і адзіным — канаплянага семя. Купцы цанілі «чыстую, якасную» беларускую пяньку вышэй за маскоўскую. Русіны-купцы, якія прывозілі пяньку ў Рыгу, набывалі яе ў беларускіх сялян. Жамойцкія сяляне пастаўлялі лён, іншы важны артыкул у таваразвароце Рыгі[311]. Такім чынам, гандаль быў узаемавыгадным як для рыскіх купцоў, так і для літоўскай шляхты, купецтва і сялянства.

Рыскія купцы, якія мелі манаполію на гандаль зь Беларусьсю, называлі сябе «гандлярамі з русінамі» (*reussische händler*). Панятак «рускія» (*die reussen*) азна-

304 Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 56—57. Note 131.

305 Sveriges traktater med främmande magter. Vol. 5:1. P. 353.

306 Attman, Artur. Swedish aspirations and the Russian market during the 17th century // Göteborg: Vetenskaps- och vitterhets-samhället. Göteborg, 1985. P. 40—41.

307 Böhme, Klaus-Richard. Building a Baltic Empire. Aspects of Swedish Expansion, 1560—1660 // In quest of trade and security. The Baltic in power politics 1500—1990. Västervik, 1994. Vol. 1. 1500—1890. P. 201.

308 Дорошенко. Торговля и купечество Риги в XVII веке. С. 122—129, 173, 194.

309 Тамсама. С. 124, 137, 143—144, 163, 167.

310 Dunsdorf, Edgars. Merchant shipping in the Baltic during the 17th century // Contributions of Baltic University. Pinneberg, 1947. No. 40. P. 30.

311 Дорошенко. Торговля и купечество Риги в XVII веке. С. 126—127.

чаў у Рызе беларускіх купцоў зь Літвы. Расейскія купцы ў дакумэнтах называліся маскавітамі. Літоўскія шляхціцы менаваліся *«Herr»* або *«von Adel»*. Зь літоўскімі магнатамі рыскія купцы гандлявалі праз панскіх упаўнаважаных, г. зв. аканомаў. Літоўскія габрэі вялі ўласны гандаль з Рыгаю. Цікава, што заможныя рыскія купцы валодалі ў Літве факторыямі, дзе захоўваліся карабельны лес і ясень, якімі літоўскія магнаты расплачваліся за даўгі[312].

У 1640—1654 гг. аптовым гандлем пянькой і лесам займаліся каля ста рыскіх купцоў. Чальцы купецкага цэху гандляроў з русінамі займалі ключавыя пасады ў Рыскім магістраце[313]. На другім месцы быў купецкі цэх, які вёў гандаль з паўночнай Літвой. У 1654 г. ён налічваў 99 чалавек. Яго чальцы называлі сябе «гандлярамі зь літоўскімі сялянамі» (*littauische bauernhändler*). Гэтыя дзьве групы купцоў вялі рэй у палітыцы і эканамічных стасунках Рыгі.

Швэдзкая Рыга была галоўным портам, празь які пастаўляліся жыцьцёва важныя для Літвы і Беларусі тавары, перадусім соль і селядзец. Літоўская гаспадарка больш залежала ад гандлю з Рыгай, чым Рыга — ад ВКЛ. Полацкія купцы скардзіліся, што гандляры з Рыгі парушаюць старыя прывілеі — штогод уводзяць новыя надмерныя падаткі і падвышаюць мыта, чым зьмяншаюць іх прыбыткі[314]. Сойм 1647 г., адстойваючы інтарэсы літоўскай шляхты, паспрабаваў зрабіць так, каб таваразварот, што раней ішоў праз Рыгу, цяпер ажыцьцяўляўся ў межах Рэчы Паспалітай. Ён прыняў ухвалу, згодна зь якой «жыхары Літвы не павінны пастаўляць збожжа, і ўсё, што вырошчваюць на радзіме, і купецкія тавары ў Рыгу, а павінны звозіць іх у Дзьвінск, наш партовы горад, каб купцы з розных краін прыяжджалі з Рыгі і куплялі нашы тавары ды прадавалі свае»[315]. Аднак гэтая пастанова на практыцы не выконвалася.

На гандлі з Рыгай трымалася багацьце Агінскіх. Гэты род валодаў шматлікімі землямі вакол Віцебску, якія давалі шмат карабельнага лесу. Агінскія сплаўлялі лес у Рыгу па Лучосе і Дзьвіне. Сымбалем заможнасьці роду быў фамільны палац, пабудаваны ў Віцебску ў 1650 г., — некалькі стагодзьдзяў ён заставаўся найвялікшым прыватным будынкам у горадзе[316]. Спадчыньнік старажытных полацкіх купцоў, шляхецкі род Корсакаў таксама вёў буйнамаштабны гандаль з Рыгай[317].

Між тым паветы паўднёвай Жамойці і заходняй Літвы гандлявалі з Эўропай праз Кёнігсбэрг. У Слуцкім княстве Багуслаў Радзівіл праектаваў будаўніцтва каналу паміж Нёманам і Случчу, каб злучыць такім чынам Дняпро зь Нёманам,

312 Дорошенко. Торговля и купечество Риги в XVII веке. С. 41—42, 80—87, 211—212.

313 Тамсама. С. 185, 197, 205.

314 Доўнар-Запольскі, Мітрафан. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С. 218—219.

315 VL. P. 57.

316 Хмяльніцкая, Лена. Род фундатараў і мэцэнатаў. Агінскія // Віцебскі сшытак. Віцебск, 1995 № 1. С. 42—47.

317 Дорошенко. Торговля и купечество Риги в XVII веке. С. 42, 61, 89, 129.

а Чорнае мора — з Балтыйскім. Дарадца Радзівіла Густаў Дэ ля Валь марыў стварыць у Слуцку мануфактуру па вытворчасьці зброі, якую праз Кіеў можна было б экспартаваць на ўсход, а праз Кёнігсбэрг — на Захад[318]. На думку Радзівіла, такія праекты значна павысілі б яго палітычную вагу ў вачох Прусіі, Швэцыі і Ўкраіны.

У 30—50-х гг. XVII ст. досыць уплывовая група літоўскай шляхты і купецтва была зацікаўлена ў пашырэньні гандлю з швэдзкай Рыгай. Швэцыя, у сваю чаргу, была зацікаўлена ў пашырэньні свайго кантролю на гандлёвыя шляхі ў басэйнах Дзьвіны і Нёману. У гэтым інтарэсы Швэцыі рэалізоўваліся праз Рыгу. Таму невыпадкова, што тагачасныя праваднікі швэдзкай палітыкі на Літве і Беларусі паходзілі з рыскіх купецкіх родаў. Сярод іх былі палкоўнікі Фабіян Бэрэнс і Ота Вэлінг, камэндант Браслава Юхан Уленброк, мытнік Ганс Вітмахер і дыпляматы Мікаэль Хорст, Готхард Вэлінг і Юхан Мэер фон Лілենталь. Лівонская шляхта — напрыклад, Таўбэ і Юкскюлі — таксама мела значныя інтарэсы ў Літве. Шмат хто з гэтых родаў служыў афіцэрамі ў швэдзкім войску падчас ваенных дзеяньняў у Літве і актыўна спрычыніўся да Кейданскай уніі.

## 2.4. Швэдзка-літоўскія дачыненьні

Каб апісаць палітычныя дачыненьні Швэцыі і ВКЛ, а таксама растлумачыць палітычны статус Лівоніі, я вымушаны вярнуцца ў XIII—XVI стст. У 1054—1230 гг. Полацкае княства, колішняя частка Кіеўскай Русі, было незалежнай дзяржавай, дзе ўладарыла дынастыя Рагвалодавічаў. Яно абымала землі крывічоў і падначаліла сабе тэрыторыі некаторых балцкіх і фіна-вугорскіх плямёнаў на поўдні сёньняшняй Латвіі і на ўсходзе Літвы. Полацак меў шырокія міжнародныя сувязі. Напрыклад, полацкая князёўна Соф'я была жонкай дацкага караля Вальдэмара I Вялікага. Хроніка Арнольда Любецкага называе князя Ўладзімера Полацкага «каралём Русі». Незалежнасьць і магутнасьць Полацку абумоўліваліся тым, што ён кантраляваў найважнейшы балтыйскі гандлёвы шлях па Дзьвіне ў Лівонію[319]. У Лівоніі, неславянскай частцы басэйну Дзьвіны, Полацку належалі два ўмацаваныя гарады — Герцыке і Кукенойс, а таксама землі ў вусьці Дзьвіны (Дзюнамюндэ). Імі кіравалі славянскія васалы Полацкага княства. У 30-х гг. XIII ст. пасьля войнаў паміж Рыгай і Полацкам гэтыя гарады і прылеглыя да іх землі перайшлі ва ўласнасьць Лівонскай правінцыі Тэўтонскага ордэну і гораду Рыгі. Пераход замацавалі шлюбы нямецкіх рыцараў з рускімі князёўнамі. Ордэн атрымаў Герцыке праз шлюб дачкі мясцовага князя Ўсевалада з рыцарам Конрадам фон Маендорфам. Кукенойс адышоў да тэўтонаў, калі

[318] Dybaś, Bogusław. Projekt budowy manufaktury zbrojeniowej w dobrach Radziwiłłowskich // Europa Orientalis. Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność. Toruń, 1996. P. 289—292.

[319] Катлярчук, Андрэй. Швэды ў гісторыі і культуры беларусаў. Менск, 2007. С. 1—58.

рыцар Дытрых фон Кукенойс пабраўся з дачкой князя Вячкі[320]. У 40-х гг. XIII ст. Полацак зрабіўся часткай ВКЛ і да XVI ст. заставаўся найбуйнейшым горадам Літвы. Абапіраючыся на полацкую гісторыю, літоўская шляхта магла абгрунтоўваць свае прэтэнзіі на Інфлянты. У 1512 г. літоўскія паны-рада зьвярталіся да вялікага магістра Лівонскага ордэну, нагадваючы пра агульнавядомую даўнейшую прыналежнасьць Лівоніі Полацку: «Полацкая зямля мела свае граніцы з ракі Дзвіны, якая [рака] цягнецца аж да мора, і пераконваюць таксама, што горад Ваш, званы Рыга, размешчаны ў Полацкай зямлі, які выпадкам лёсу сваіх папярэднікаў [зямля] сілай у іх адабраны»[321].

Супольныя інтарэсы на ўсходзе Балтыкі падштурхнулі Швэцыю і Літву да першых спроб стварэньня фэдэрацыі. У той час Швэцыя знаходзілася ў пэрсанальнай уніі з Даніяй паводле Кальмарскай дамовы 1397 г. Літва ж мела замацаваную ў Крэве ў 1386 г. пэрсанальную унію з Польшчай. Тым ня менш, за часам вялікага князя Аляксандра (1492—1506 гг.) і рэгенцтва ў Швэцыі Стэна Стура (1497, 1501—1503 гг.) ды Свантэ Нільсана (1504—1511 гг.) стварэньне фэдэрацыі між дзьвюма дзяржавамі было вельмі магчымым. У 1492—1506 гг. ВКЛ ня зьвязвала пэрсанальная унія з Польшчай. Адначасова Швэцыя і Літва мелі агульнага ворага — Масковію. На швэдзка-літоўскіх перамовах сур'ёзна абмяркоўваўся плян абраньня вялікага князя Аляксандра каралём Швэцыі[322].

4 кастрычніка 1562 г. фінляндзкі герцаг Юхан Ваза ажаніўся з старэйшай за яго на 12 гадоў літоўскай князёўнай Кацярынай Ягелонкай. Вясельле адбылося ў Вільні. Праз гэты саюз герцаг спадзяваўся ўзмацніць палітычнае і ваеннае ўзаемадзеяньне дзьвюх дзяржаваў. У Швэцыі не падтрымлівалі самастойнай палітыкі Юхана, і кароль Эрык IV у 1563 г. прыгаварыў яго да сьмяротнага пакараньня за дзяржаўную здраду, але замяніў яго на турэмнае зьняволеньне[323]. Па сьмерці Эрыка Юхана Вазу абралі каралём Швэцыі. Ягоны сын Жыгімонт Ваза ад шлюбу з Кацярынай Ягелонкай у 1587 г. быў абраны каралём Польшчы і вялікім князем літоўскім. З 1592 г. — адначасова кароль Швэцыі.

У XVI ст. тэрыторыя незалежнай Лівонскай канфэдэрацыі значна зьменшылася. Пасьля 1560 г. Швэцыя пачала тэрытарыяльную экспансію на ўсход Балтыкі. У той жа час ВКЛ разглядала Лівонію як найважнейшы аб'ект сваёй замежнай палітыкі. Апроч Швэцыі і ВКЛ, вялікую цікавасьць да Лівоніі выказвалі таксама Расея, Данія і Польшча[324]. Аднак я хачу разгледзець менавіта швэдзка-літоўскі аспэкт лівонскай праблемы.

320 Сагановіч. Полацк і нямецкая калонія на Дзвіне. С. 3—26.

321 Варонін, Васіль. Палітычная сістэма Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст. // Беларускі гістарычны агляд. Мінск, 1998. Сш. 5. С. 59.

322 Biskup, Marian. Sveriges plats i Jagellonernas politik kring sekelskiftet 1500 // Scandia. Tidskrift för historisk forskning. Lund, 1979. Vol. 45:2. P. 223—264.

323 Östergren, Stefan. Sigismung: en biografi över den svensk-polske monarken. CuD Polen, 2005. P. 15—17.

324 Kirchner, Walther. The rise of the Baltic question. Newark, 1954; Mollerup, Walter. Danmarks forhold til Lifland fra salget af Estland till ordensstatens opløsning: (1346—1561). Kjøbenhavn, 1880.

У час войнаў з Расеяй Лівонія імкнулася дамагчыся літоўскай ці швэдзкай пратэкцыі. 31 жніўня 1559 г. у Вільні была падпісаная дамова, згодна зь якой вялікі князь Жыгімонт Аўгуст браў пад свой пратэктарат Лівонскі ордэн, Рыскае арцыбіскупства і насельніцтва Лівоніі. У сваю чаргу, у чэрвені 1561 г. Швэцыя прыняла пад сваю пратэкцыю Рэвель і ня ўтойвала жаданьня атрымаць усю Лівонію. Гэта падштурхнула Літву да спробы хутчэй інкарпараваць Лівонію, пакуль гэтага не зрабіла Швэцыя. 28 лістапада 1561 г. Лівонскі ордэн прыняў прысягу «*Pacta Subjectionis*» на вернасьць вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту і атрымаў ад яго прывілей, якім вызначаўся новы статус Лівоніі ў складзе Літвы. Лівонскі ордэн ліквідоўваўся. Кароль прызначаў пратэстанта Мікалая Радзівіла Чорнага сваім намесьнікам у Лівоніі. Пакт 1561 г. быў зацьверджаны ў Рыскім замку. Як адзначае лівонскі гісторык раньняга Новага часу,

*«Вялікае Княства Літоўскае і Лівонія падпісалі* Pacta Subjectionis *на Сойме ў Вільні 28 лістапада 1561 г. Князь Мікалай Радзівіл прыбыў ад польскага караля ў Рыгу і прывёз у лівонскія землі арыгінал каралеўскага прывілею»*[325].

Да анэксіі Лівоніі Літвой спрычынілася складанае ваеннае становішча Лівоніі ў змаганьні з экспансіянісцкімі памкненьнямі Расеі, Швэцыі і Даніі[326]. Вялікі магістар Готхард Келер атрымаў тытул герцага курляндзкага і сэмігальскага, а ў 1563 г., згодна з пажаданьнямі лівонскай шляхты, быў прызначаны каралеўскім намесьнікам у Лівоніі, зьмяніўшы на гэтай пасадзе Радзівіла. Арыстакратыя Лівоніі захавала большасьць сваіх ранейшых правоў і прывілеяў. Гэта быў апошні замежнапалітычны посьпех незалежнага ВКЛ. Інкарпарацыя пераважна лютэранскай Лівоніі давала пратэстанцкай эліце Літвы надзею на пашырэньне Рэфармацыі ў іх уласнай краіне[327]. Літоўскія гісторыкі раньняга Новага часу лічылі інкарпарацыю Лівоніі заканамерным і гістарычна абгрунтаваным крокам, які ўвянчаў шматвекавую барацьбу з германскімі рыцарамі[328]. Літвіны называлі Лівонію «адзіным і незаменным шчытом ВКЛ перад чужаземнымі нашэсьцямі з Балтыйскага мора»[329].

У 1563 г. Швэцыя паспрабавала падпарадкаваць сабе Рыгу, і Лівонія прыняла швэдзкі бок. Часовы адміністратар Рыскага арцыбіскупства Крыстофэр фон Мэленбург абвясьціў, што давераныя яму землі пераходзяць у швэдзкае падданства, але яго арыштавалі літоўскія ўлады[330]. У сваю чаргу, маскоўскія атрады Івана

[325] Blomberg, Carl Johan. An account of Livonia, with a relation of the rise, progress, and decay of the Marian Teutonic order: The several revolutions...to the present time, with the wars of Poland, Sweden and Muscovy. London, 1701. P. 99—101.

[326] Pallin, Johan. Underhandlingen mellan Sverige och Lifland, 1554—1560. Uppsala, 1860. P. 23.

[327] Stancelis, Vigintas. The annexation of Livonia to the Grand Duchy of Lithuania: historiographical controversies. // Lithuanian Historical Studies. Vilnius, 2000. Vol. 5. P. 37.

[328] Wiiuk Koialowicz, Alberto. Historiae Litvanae. Antverpiae, 1669. P. 437—438.

[329] Rowell. The Wood and the Trees: the Grand Duchy of Lithuania and Baltic Identity. P. 67.

Жахлівага некалькі разоў нападалі на Лівонію, прымушаючы мясцовых баронаў прымаць рускае падданства. Каб узмацніць і абараніць свае пазыцыі ў Лівоніі, ВКЛ пайшло на шэраг радыкальных крокаў. У 1566 г. Готхарда Кетлера на пасадзе губэрнатара Лівоніі нечакана зьмяніў Ян Хадкевіч-старэйшы. Хадкевіч атрымаў шырокія паўнамоцтвы: ён меў права прызначаць мясцовых чыноўнікаў і разьмяркоўваць зямельныя надзелы. 25 сьнежня 1566 г. у Горадні літоўскі Сойм прыняў рашэньне заключыць паміж ВКЛ і Лівоніяй «вечную унію». У выніку паўднёвая Лівонія і Рыга пераўтвараліся ў Задзьвінскае герцагства (*Ducatus Ultradunenis*). Яно абвяшчалася неад'емнай часткай ВКЛ. Гарадзенскі акт азначаў істотныя зьмены ў статусе Лівоніі: яна рабілася буфэрным дзяржаўным утварэньнем паміж ВКЛ і Швэцыяй. У адказ на анэксію Лівоніі швэды атакавалі і захапілі два тамтэйшыя літоўскія замкі — Вайсэнштайн і Каркус.

ВКЛ і Польшча адпачатку супернічалі міжсобку за Лівонію. З гледзішча літоўскіх палітыкаў, Лівонія ўвайшла ў ВКЛ. Польскія ж палітыкі лічылі, што гаворка ідзе толькі аб пратэктараце з боку княства. Атрыманьне кантролю над Лівоніяй было адной з стратэгічных мэтаў Польшчы пры заключэньні Люблінскай уніі. Унія абвяшчала, што Лівонія належыць і Літве, і Польшчы, але канкрэтны яе статус заставаўся нявызначаным. Кароткі пэрыяд літоўскага дамінаваньня ў Лівоніі завяршыўся ў 1582 г. Перамога ў вайне з Расеяй вярнула Рэчы Паспалітай кантроль над Лівоніяй (мір з Расеяй быў падпісаны 15 студзеня 1582 г. у горадзе Ям-Запольскі паблізу Пскова). Аднак аднаўленьне ўплыву Рэчы Паспалітай спадарожнічаў рост польскага дамінаваньня. У 1582 г. Сойм прыняў «Інфлянцкія канстытуцыі». Імі ўводзіўся новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Лівоніі на ўзор Польшчы і засноўвалася каталіцкае біскупства ў Рызе. Прывілей Жыгімонта Аўгуста ня згадваўся. Зладжаная Польшчай адміністрацыйная рэвалюцыя ў Лівоніі прывяла да поўнай страты тут палітычнага ўплыву літоўскай шляхты. Усе ключавыя пасады ў Лівоніі занялі палякі. Тут таксама пачалася контрарэфармацыя. На Сойме 1586 г. літвіны, незадаволеныя дамінаваньнем Польшчы, запатрабавалі ўключыць Лівонію ў склад ВКЛ. Прапаноўваліся і іншыя варыянты — падзяліць яе паміж Польшчай і ВКЛ. Урэшце ў 1589 г., пасьля доўгага абмеркаваньня адмысловай камісіяй, Лівонія была прызнана кандамініюмам (супольным уладаньнем) Літвы і Польшчы[331].

У 1600 г. пачалася першая вайна паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй[332]. Вайна працягвалася амаль трыццаць год (зь перамір'ямі ў 1611—1617, 1618—1621,

330 Bergengrün, Alexander. Herzog Christoph von Mecklenburg letzter Koadjutor des Erzbistums Riga: ein Beitrag zur livländischen und mecklenburgischen Geschichte. Reval, 1898. P. 128, 155—156.

331 Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII. Spisy. Ed. Krysztof Mikulski and Andrzej Rachuba. Kórnik, 1994. P. 5—12; Дзярновіч, Алег. In nostra Livonia. Мінск, 2003. Vol. 1. P. 40—60.

332 Herbst, Stanisław. Wojna inflancka 1600—1602. Warszawa, 1938; Norberg, Axel. Polen i svensk politik 1617—26. Stockholm, 1974; Norrman, David. Sigismund Vasa och hans regering i Polen (1587—1632). Stockholm, 1978; Ungern-Stenberg, Paul. Urkunden zur Geschichte des schwedisch-polnischen Krieges aus den Jahren 1600—1627. Riga, 1914.

1622—1625 і 1627 гг.)[333]. Яшчэ да пачатку гэтай вайны літоўская шляхта ведала, што на вернасьць лівонскіх баронаў Рэчы Паспалітай разьлічваць нельга. Ваенныя пляны польскага караля не карысталіся папулярнасьцю сярод літоўскай шляхты. З усіх літоўскіх паветаў толькі два — тыя, што межавалі зь Лівоніяй (Браслаўскі і Ўпіцкі), — выступілі за вайну[334]. Ад часу Люблінскай уніі і да вайны з Швэцыяй Польшча і Літва захоўвалі досыць стабільны фінансавы балянс. На пачатку XVII ст. Польшча звычайна ўносіла ў бюджэт фэдэрацыі ў два з паловай разы больш сродкаў, чым Літва: 30 100 злотых ад Польшчы і 12 200 злотых ад Літвы. Аднак падчас вайны фінансавы ціск на ВКЛ значна ўзрос. У 1600—1611 гг. Літва прыняла 6 надзвычайных падатковых ухвалаў. Сабраныя падаткі ішлі на фінансаваньне вайны ў Лівоніі. У выніку скарб ВКЛ за 11 год выдаткаваў на вайну 6 400 злотых, а Польшча ўнесла толькі 2 700 злотых. Пасьля 1611 г. польскі скарб толькі эпізадычна рабіў невялікія ўнёскі на ваенныя выдаткі ў Лівоніі. Фінансавы цяжар вайны з Швэцыяй, такім чынам, пераважна лёг на літоўскі бюджэт[335].

У першай фазе вайны (1600—1611 гг.) Рэчы Паспалітай спадарожнічаў ваенны посьпех. У 1605 г. у вырашальнай бітве пад Кірхгольмам літоўскае войска на чале зь Янам Каралем Хадкевічам разьбіла армію караля Карла IX. З гэтай нагоды ў Вільні выйшла некалькі панэгірыкаў, у якіх услаўлялася трыюмфальная перамога літоўскага войска над швэдамі і прадказвалася хуткая заваёва ўсёй Лівоніі[336]. Аўтарам найбольш вядомага панэгірыку, *«Carolomachia»*, быў Лаўрэнцій Бойе, каталіцкі эмігрант з Швэцыі[337]. Аднак трэцяя — апошняя — фаза вайны (1617—1629 гг.) прынесла перамогу Швэцыі. Кожны новы наступ у Лівоніі (1617, 1621, 1625 гг.) узмацняў пазыцыі Густава II Адольфа. Адрозна ад Швэцыі, Рэч Паспалітая ня мела флёту. У 1621 г. порт Рыгі і паў-Дзьвіны трапілі пад швэдзкі кантроль, так што ВКЛ апынулася адрэзаным ад Балтыкі. У 1625 г. Швэцыя перанесла ваенныя дзеяньні на поўнач Літвы. Там швэды сталі на зімовыя кватэры[338]. У верасьні 1625 г. швэды захапілі Біржы[339]. Швэдзкая ваенная кампанія выклікала палітычны, эканамічны і ваенны хаос у ВКЛ, а таксама спрычынілася да вострага крызісу ў Польшчы. Шмат хто зь літоўскай шляхты выступаў супраць вайны і на сойміках выказваўся за мірнае вырашэньне канфлікту[340].

[333] Sveriges traktater med främmande magter. Vol. 5:1. 1572—1632. Stockholm, 1903. P. 225—226, 227, 229, 308, 312—314, 347—358.

[334] Радаман, Андрэй. Соймікавыя ўхвалы шляхты Браслаўскага павета ад 19 снежня 1600 года ў кантэксце вайны Рэчы Паспалітай абодвух народаў са Швецыяй (1600—1629) // Браслаўскія чытанні VI. Браслаў, 2004. С. 80—88.

[335] Filipczak-Kocur. Poland-Lithuania before Partition. P. 470—472.

[336] Ivanovič. Lietuvos lenkiškos knygos. No. 199, 200, 569—570, 623, 679.

[337] Index Librorum Latinorum Lituaniae Saeculi Septimi Decimi. Vilnius, 1998. No. 106.

[338] Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 267.

[339] Księcia Krzysztofa Radziwiłła hetmana polnego. P. 596.

Польскі кароль Жыгімонт III Ваза не прызнаваў Густава II Адольфа каралём Швэцыі, таму ліставаньне паміж дзьвюма дзяржавамі вялося праз сэнатараў. Швэды нязьменна разглядалі польскіх сэнатараў асобна ад літоўскіх. Літоўскае войска было галоўнай сілай, якая супрацьстаяла швэдам у Лівоніі. Таму амаль усё ліставаньне паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай ішло праз літоўскіх сэнатараў. Так, Крыштап II Радзівіл непасрэдна падтрымліваў кантакт зь Якубам Дэлягардзі і каралём Густавам II Адольфам[341]. Гэтыя стасункі зрабілі магчымым заключэньне сэпаратнага пагадненьня.

22 чэрвеня 1622 г. літоўскае войска на чале з Крыштапам II прымусіла капітуляваць швэдзкі гарнізон Мітавы. Камандзір гарнізону Андэрш Эрыксан, зьявіўшыся ў штаб-кватэры швэдзкай арміі, паведаміў, што Радзівіл хоча весьці мірныя перамовы. У адказ канцлер Швэцыі Аксэль Уксэнштэрна напісаў ліст, у якім прапанаваў Радзівілу заключыць мірную дамову ці перамір'е[342]. 10 жніўня 1622 г., ігнаруючы загады караля, Радзівіл і некалькі літоўскіх камісараў падпісалі ў Мітаве пагадненьне з Швэцыяй аб перамір'і. Згодна зь яго ўмовамі, Швэцыя атрымлівала кантроль над Рыгай. Ад імя Рэчы Паспалітай пагадненьне падпісалі толькі літоўскія сэнатары і афіцэры. Большасьць зь іх былі пратэстантамі: кальвініст Крыштап II Радзівіл, арыянін Ян Кішка, кальвініст Еранім Валовіч, лютэранін Готард Тызенгаўз, кальвініст Мацей Весялоўскі, кальвініст Баўтрамей Вазынскі. З каталіцкіх магнатаў падпісаўся толькі Аляксандар Гасеўскі. Швэцыю прадстаўляў шэраг уплывовых палітыкаў: Якуб Дэлягардзі, Пэр Банэр, Аксэль Уксэнштэрна, Якім Бэрндс, Гэнрык Флемінг і Людвіг Таўбэ[343]. Падчас гэтых доўгіх перамоваў прадстаўнікі палітычнай эліты Літвы і Швэцыі добра пазнаёміліся і завязалі асабістыя кантакты. Малады Януш Радзівіл таксама прысутнічаў у Мітаве і вітаў Якуба Дэлягардзі ўрачыстай прамовай[344]. Праз 32 гады Януш Радзівіл пачне новыя перамовы з Швэдзкімі палітыкамі. Ключавой фігурай сярод іх будзе сын Якуба Дэлягардзі Магнус[345].

Падчас перамоў Радзівіл спаткаўся з Густавам II Адольфам у Біржах. Перамір'е, а таксама тое, што Радзівіл вітаў у сябе «галоўнага ворага Польшчы», выклікалі абурэньне ў Польшчы. Кароль напісаў Радзівілу, што той робіць вялікую шкоду фэдэрацыі. Радзівіл патлумачыў свае дзеяньні ў «Апраўданьні на ліст Яго

340 Тыла, Антанас. Обсуждение отношений со Швецией на сеймиках ВКЛ в XVII веке // VIII всесоюзная конференция по изучению истории, экономики, языка и литературы скандинавских стран и Финляндии: тезисы докладов. Петрозаводск. С. 81—83.

341 Wisner, Henryk. Król i Książę. Konflikt między Zygmuntem III Wazą i Krzysztofem Radziwiłłem // Rocznik Białostocki. Białystok, 1972. Vol. XI. P. 79.

342 Wetterberg, Gunnar. Kanslern Axel Oxenstierna i sin tid. Stockholm, 2002. Vol. 1. P. 326.

343 Fördrag mellan Sverige och Polens högste militarbefälhafvare om vapenvila till den 1 maj 1623. Lägret vid Mitau 1622, augusti 10 // Sveriges traktater med främmande magter. Vol. 5:1. P. 312—314.

344 Księcia Krzysztofa Radziwiłła hetmana polnego. P. 405.

345 Wisner. Król i Książę. P. 69—70.

Каралеўскае Мосьці», але адказу не атрымаў. У Польшчы імгненна выказалі сваё стаўленьне да гэтых падзеяў у паэме «Здрадніцкае вітаньне Густава II Адольфа, караля Швэцыі, Крыштапам II Радзівілам, на той час палявым гетманам літоўскім». Паэма абвінавачвала Радзівіла ў дзяржаўнай здрадзе[346]. У выніку Варшава адхіліла Радзівіла ад камандаваньня войскамі ў Лівоніі. Між тым Салямон Рысінскі, адзін з Радзівілавых кліентаў, напісаў панэгірык, у якім уславіў літоўска-швэдзкае пагадненьне:

*Швэдзкі кароль, а таксама яго двор уражаны.*
*Палац Радзівіла здаецца ім цудам раскошы.*
*Сьмеласьць літвінаў выклікае павагу ў сэрцах чужаземцаў.*
*Іх пачэсны вобраз, іх мячы і шчыты загартаваны Марсам.*
*Швэды пажадалі жыць у міры са сваім паважаным суседам.*

Прыдворныя мастакі, нанятыя Радзівіламі, напісалі карціну «Вітаньне Крыштапам Радзівілам Густава II Адольфа ў палацы ў Біржах»[347]. Крыштап II публічна параіў каралю Польшчы спыніць вайну і адмовіцца ад сваіх прэтэнзій на швэдзкі трон[348].

19 студзеня 1627 г. у замку Бальдонэ ВКЛ заключыла новае перамір'е з Швэцыяй, зноў не зважаючы на Польшчу. Дамову падпісалі чатыры літоўскія афіцэры: Мікалай Корф (пазьней ён паставіць свой подпіс пад Кейданскай уніяй), Гедэон Раецкі (яго сын таксама падпіша Кейданскую унію), Вальтэр Плетэмбэрг і Марцін Карлінскі. Швэдзкі бок прадстаўлялі Якуб Дэлягардзі, Густаў Хурн і Францыск Бэрнхард. Перамір'е прывяло да канфлікту паміж Польшчай і ВКЛ, бо польскія войскі працягвалі ваенныя дзеяньні супраць Швэцыі. Да таго ж яно парушала адно зь міжнародных абавязацельстваў Жыгімонта III, які абяцаў Гішпаніі не заключаць перамір'я з Швэцыяй[349]. Літоўскія сэнатары растлумачылі каралю Рэчы Паспалітай, чаму яны заключылі перамір'е «бязь ведама і і дазволу Яго Каралеўскае Мосьці караля Польшчы і польскіх уладаў», але не даслалі яму копіі дамовы. Літвіны асуджалі рашэньні Сойму 1626 г., які пастанавіў працягваць вайну і спыніць гандаль з Рыгай. На іх думку, Рэч Паспалітая не магла перамагчы Швэцыю, ня маючы флёту. Да таго ж літоўскае войска ў Лівоніі налічвала толькі 2000 чалавек — супраць 14 000 швэдзкіх жаўнераў. Перамір'е, апроч таго, дазваляла аднавіць гандаль па Дзьвіне, нягледзячы на забарону польскага караля на гандаль з Рыгай. Была дасягнута дамоўленасьць аб спыненьні ваенных дзеяньняў у Лівоніі. Швэдзкія войскі меліся пакінуць Біржы. Адно з палажэньняў пагад-

[346] Pelne zdrady witanie z Gustawem krolem szwedzkim Krysztopha Radziwilla na ten czas Hetmana Polnego Litewskiego. CL. Sygnatura 2064 (IV)/65. P. 55—56.

[347] Катлярчук. Швэды ў гісторыі. С. 199—200.

[348] Тыла. Борьба литовских и шведских феодалов. С. 33.

[349] Тамсама. С. 32—34.

нецьня абавязвала бакі зрабіць усё магчымае, каб пераканаць манархаў Польшчы і Швэцыі пачаць мірныя перамовы. Разьюшаны, Жыгімонт III напісаў, што перамір'е азначае «пачатак згубнага падзелу Літвы і Польшчы і парушэньне асноў улады Сойму і караля». Кашталян Кракава Ежы Збараскі адкрыта напісаў літвінам, што пагадненьне, заключанае ў Бальдонэ, «азначае парушэньне Люблінскай уніі, што зьяднала Польшчу і Літву ў адно». Польскія соймікі загадвалі сваім паслам спытацца ў літоўскага канцлера Льва Сапегі: хто надзяліў яго ўладай, што належыць Рэчы Паспалітай? Між тым адчайнае ваеннае і эканамічнае становішча прымушала соймікі Літвы падтрымаць перамір'е[350]. Увесну 1627 г. Крыштап Радзівіл, зьвяртаючыся да навагрудзкага сойміку, даводзіў, што перамір'е ў Бальдонэ не было супрацьзаконным. Наадварот, яно было цалкам легітымным, паколькі адпавядала інтарэсам Літвы. Ён зьвяртаў увагу, што Польшча не пыталася дазволу ў Літвы, калі падпісвала дамову з Валаскім княствам[351]. У лісьце да паслоў Літоўскай канвакацыі ў Слоніме Радзівіл адзначаў, што заўсёды адстойваў мір з Швэцыяй «і ніколі не заахвочваў да вайны, наадварот, пісаў і прасіў міру, перасьцерагаючы, што працяг вайны пашкодзіць Рэчы Паспалітай»[352]. Урэшце, 26 верасьня 1629 г. у Альтмарку Швэцыя і Рэч Паспалітая заключылі перамір'е на 6 гадоў. Яно вызначыла лёс Лівоніі[353]. Большасьць яе тэрыторыі апынулася пад кантролем Швэцыі. Рэч Паспалітая атрымлівала малую частку на поўдзень ад ракі Айвекшта. Гэтая польска-літоўская Лівонія, або г. зв. Інфлянты, уключала толькі восем гарадоў: Дынабург, Рэжыцу, Крэслаў, Кройцбург, Марыенгаўзен, Люцыну, Шваненбург і Вольненбург. Перамір'е забясьпечвала вольны гандаль па Дзьвіне[354]. 12 верасьня 1635 г. Швэцыя і Рэч Паспалітая заключылі новую дамову ў Штумдарфе на 26 гадоў — да 11 ліпеня 1661 г. Гэтае пагадненьне пацьвярджала палажэньні Альтмарцкага перамір'я, перадусім падзел Лівоніі і свабоду гандлю па Дзьвіне[355]. Агаворваліся гарантыі для каталіцызму ў Прусіі і лютэранства ў Рэчы Паспалітай[356].

У 1561—1654 гг. палітычная нацыя Лівоніі перажывала пераходны пэрыяд. Да 1607 г. існавала палітыка дыскрымінацыі лівонскіх баронаў. У 1607 г., на фоне вайны з Швэцыяй, «Трэцяя Інфлянцкая канстытуцыя» дала лівонцам роўныя правы з польскай і літоўскай шляхтай. Аднак за Лівоніяй захоўваўся статус двай-

[350] Wisner, Henryk. Rozejm w Baldenmojzie (1627) // Lietuva ir jos kaimynai. Nuo normanų iki Napoleono: straipsnių rinkinys. Vilnius, 2001. P. 266—277.

[351] Księcia Krzysztofa Radziwiłła hetmana polnego. P. 575.

[352] Тамсама. С. 571.

[353] Fördrag mellan Sverige och Polen om stillestånd på sex år. Altmark, 1629 september den 16/26 // Sveriges traktater med främmande magter. Vol. 5:1. P. 347—358.

[354] Тамсама. С. 353—354.

[355] Fördrag mellan Sverige och Polen om stillestånd under 26 år. Stuhmsdorf, 1635 september den 2/12 // Sveriges traktater med främmande magter. Vol. 5: 2. 1572—1632. Stockholm, 1909. P. 333—348.

[356] Тамсама. С. 349—350.

нога васала: кандыдатаў на павятовыя пасады прызначалі, узгадняючы разам, Польшча і Літва, падаткі зь Лівоніі па чарзе накіроўваліся ў літоўскі і польскі скарб. Палітычная нацыя польска-літоўскіх Інфлянтаў складалася з трох груп шляхты (лівонцаў, палякаў і літвінаў) і пяці этнічных груп (немцаў, палякаў, літоўцаў, русінаў і жамойтаў), якія належалі да некалькіх канфэсіяў. Інфлянты абіралі на Сойм шэсьць паслоў, па два ад кожнай палітычнай нацыі — палякаў, літвінаў і лівонцаў. Аднак геаграфічная блізкасьць Інфлянтаў і Літвы спрыяла іх узаемнай інтэграцыі. Многія лівонскія бароны ўлучыліся ў літоўскія палітычныя структуры. Але пры гэтым яны захоўвалі лютэранства і падтрымлівалі шчыльныя кантакты са сваякамі на швэдзкім баку. У той жа час шмат хто зь літвінаў прыяжджаў у Інфлянты і адаптоўваўся да лютэранскага асяродзьдзя. Некалькі лівонскіх замкаў сталі спадчыннымі ўладаньнямі літоўскіх родаў. Сярод іх былі Нэермюлен і Ронэбург — уладаньні адпаведна Белазораў і Раецкіх[357].

І Літва, і Швэцыя разглядалі Лівонію як свой прыдатак. Аднак Юрген Гайдэ сьцвярджае, што эканамічнае і палітычнае становішча тамтэйшых баронаў было лепшым ў Рэчы Паспалітай, чым у Швэцыі [358]. Пытаньне параўнальнага становішча лівонскай арыстакратыі ў Рэчы Паспалітай і Швэцыі застаецца адкрытым і патрабуе далейшых дасьледаваньняў. Лівонскае баронства ў Швэдзкай імпэрыі захоўвала ўсе свае даўнейшыя правы і прывілеі[359]. Ёсьць сьведчаньні, што шмат хто з прадстаўнікоў літоўска-лівонскай шляхты падчас Паўночнай вайны 1655—1660 гг. былі ў хаўрусе з Швэцыяй і актыўна ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы Кейданскай уніі. Лівонская палітычная нацыя ў 1629 г. (часткова ўжо з 1561 г.) падзялялася паміж дзьвюма варожымі дзяржавамі — Рэччу Паспалітай і Швэцыяй. Іх новая мяжа гвалтам падзяліла шмат сем'яў. Аднак сямейныя і маёмасныя кантакты захаваліся. Таму шмат хто зь лівонцаў падтрымаў аб'яднаньне пад уладай аднаго манарха. З другога боку, палітычная група лівонскіх баронаў выконвала ролю натуральнага пасярэдніка паміж Швэцыяй і Літвой.

## 2.5. Кантакты паміж пратэстантамі Літвы і Швэцыі

Рэфармацыйны рух у ВКЛ заахвочвалі сваім прыкладам суседнія Лівонія і Курляндыя. У 1622 г. швэдзкая Рыга была галоўным гандлёвым партнэрам Жамойці. І невыпадкова менавіта купцы і шляхта засноўвалі пратэстанцкія прыходы ў рускіх гарадох, а сярод этнічных літоўцаў пратэстантамі былі сяляне. Пасьля

[357] Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII. P. 5—12; Dziarnovich. In nostra Livonia. P. 40—60.

[358] Heyde, Jürgen. Zwischen Kooperation und Konfrontation: Die Adelspolitik Polen-Litauens und Schwedens in der Provinz Livland 1561—1650 // Zeitschrift für Ostmitteleuropa-Forschung. Stockholm, 1998. Vol. 47:4. P. 544—567.

[359] Loit, Alexander. Sverige och Lettland: förbindelser genom tiderna. Stockholm, 1994. P. 9; Naber, Jaak. Motsättningarnas Narva. Statlig svenskhetspolitik och tyskt lokalvälde i ett statsreglerat samhälle, 1581—1704. Uppsala, 1995. P. 43.

падзелу Лівоніі яе бароны адыгрывалі істотную ролю ў літоўскай Рэфармацыі. Пасьля 1632 г. швэдзкі ўнівэрсытэт у Дорпаце стаўся для Лівоніі адукацыйным цэнтрам. Прадстаўнікі тамтэйшых родаў, такіх, як Корфы, Путкамэры, Тызэнгаўзы, Ромэры, Нонгарты і Атэнгаўзы, перасяляліся ў Літву, засноўвалі новыя лютэранскія кірхі і прыстасоўваліся да грамадзкага асяродку літоўскай эліты[360]. З другога боку, многія прадстаўнікі літоўскай і рускай шляхты, якія жылі і служылі ў Лівоніі, цьвёрда трымаліся пратэстантызму. Сярод іх былі роды Высоцкіх, Раецкіх, Касакоўскіх, Сіцінскіх, Календаў, Корсакаў і Еўлашэўскіх[361]. Іх прадстаўнікі актыўна падтрымалі Кейданскую унію. Літоўскія пратэстанты мелі даўнія сувязі з Рыгай. Да 1578 г. вялікія князі пагаджаліся на духоўную ўладу рыскага арцыбіскупа над літоўскімі пратэстантамі. Гэтыя кантакты не спыніліся і ў XVII ст. У 1604 г. Рыскі магістрат прафундаваў выданьне ў Вільні антыкаталіцкага палемічнага трактату «Апалёгія»[362].

На фоне каталіцкай рэакцыі пратэстанцкая шляхта распачала пошукі ўплывовага замежнага заступніка. Яна лічыла караля Густава II Адольфа галоўным апекуном пратэстантаў у Эўропе. 30 красавіка 1632 г. у Варшаве памёр Жыгімонт III Ваза. 6 лістапада 1632 г. пры Люцыне, баронячы эвангелічную царкву ў Германіі, быў забіты Густаў II Адольф Ваза. Аднак за паўгоду паміж сконам Жыгімонта і сьмерцю Густава II Адольфа літоўскія пратэстанты імкнуліся скарыстаць шанец, які давала абраньне новага караля Рэчы Паспалітай. Кароль Швэцыі аказаў ім падтрымку. У траўні 1632 г. некаторыя літоўскія сэнатары на чале з Крыштапам II Радзівілам, не зважаючы на Польшчу, паслалі дэлегацыю да Юхана Шутэ, губэрнатара Лівоніі[363]. У выніку гэтых перамоваў прынц Уладзіслаў Ваза, якому для абраньня на трон патрабавалася падтрымка літоўскіх пратэстантаў, падпісаў з Густавам Адольфам пагадненьне, што гарантавала прывілеі пратэстантам, у тым ліку даўнейшае права абірацца сэнатарамі[364]. Зрабіўшыся новым каралём, Уладзіслаў IV часткова выканаў свае абяцаньні. Ён спыніў уціск пратэстантаў і легалізаваў праваслаўную царкву. У віленскай лютэранскай кірсе ўрачыста сьвяткавалася вяртаньне рэлігійнай талерантнасьці[365].

У 1621 г. Пётар Нонгарт, староста аршанскі, выдаў кнігу «Christian Postilla». Яна зрабілася надзвычай папулярнай сярод літоўскіх лютэран і перавыдавалася

[360] Kiaupa. History of Lithuania. P. 264; Adamowicz. Die evangelisch-lutherische Kirche zu Wilna. P. 53.

[361] Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII. Spisy.

[362] Krowicki, Marcin. Apologia większa, to iest: Obroná náuki prawdziwey y wiáry strodawney krześciańskiey. Wilna, 1604.

[363] Wisner, Henryk. Kilka uwag o Wielkim Księstwie Litewskim połowy XVII wieku // Lietuvos Valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997. P. 315.

[364] Szelągowski, Adam. Układy królewicza Władysława i dysydentów z Gustawem Adolfem w roku 1632 // Kwartalnik Historyczny. Warszawa, 1899. Vol. XIII. P. 683—733.

[365] Triumph po spokoyney electiey Naiasnieyszego Wladislawa Zigmunta krola Polskiego y Szwezkiego, Wielkiego X. Litewskiego w Wilnie w kosciele Confess. Auspur. Lubcza, 1632.

12 разоў. Аўтарам быў Самуэль Дамброўскі, супэрінтэндант Літвы і Жамойці. У прадмове да другога выданьня Нонгарт напісаў, што яно прысьвечана «сьвятой памяці Яе Каралеўскае Мосьці міласьцю Божай каралеўны Ганны Вазы, заступніцы нашай царквы і гадаванкі кірхі Аўгсбурскай канфэсіі». Нараджэнка Швэцыі прынцэса Ганна (1568—1625) апекавалася лютэранскай царквой у Літве. Яе бацькам быў кароль Юхан ІІІ Ваза, а маці — Кацярына Ягелонка. Адданая каталічка, Кацярына Ягелонка патаемна спрабавала выхаваць сваіх дзяцей каталікамі. Тым ня менш, яе дачка Ганна была шчырай лютэранкай. З 1589 г. Ганна Ваза жыла ў Рэчы Паспалітай. Кароль Жыгімонт і езуіты спадзяваліся перахрысьціць яе ў каталіцызм і ў палітычных мэтах выдаць замуж за прадстаўніка каталіцкай дынастыі. Аднак Ганна так і ня выйшла замуж і да апошніх дзён засталася лютэранкай. Пасьля сьмерці ў 1625 г. яе цела 11 гадоў заставалася непахаваным праз перашкоды з боку каталіцкага касьцёлу. Нарэшце 16 ліпеня 1636 г. Ганну пахавалі ў лютэранскай катэдральнай кірсе ў Торуні. Ніхто з польскага каралеўскага роду не прысутнічаў на яе пахаваньні[366]. Жалобная цырымоніяператварылася ў магутную дэманстрацыю еднасьці пратэстанцкай супольнасьці. Радзівілы ішлі за труной на чале працэсіі разам з 60 пастарамі зь Літвы[367].

Адразу пасьля пахаваньня Крыштап ІІ Радзівіл выправіў свайго пасла Адама Рэйнальда ў Францыю. У Парыжы Рэйнальд уручыў Хуга Гроцыюсу, паслу Швэцыі ў Францыі, мэмарандум, у якім паведамлялася пра пахаваньне Ганны Вазы. У мэмарандуме таксама адзначалася, што па яе сьмерці становішча пратэстантаў у Літве рэзка пагоршылася[368]. 4 верасьня 1644 г. літоўскія пратэстанты на чале зь Янушам Радзівілам правялі пасяджэньне свайго сыноду ў Орлі. Абмяркоўвалася каралеўская прапанова правесьці экумэнічны калёквіюм у Торуні. Літоўскія пратэстанты вырашылі ня браць удзелу ў «каталіцкім калёквіюме», але паслаць двух сьвятароў наглядальнікамі. Падрабязная справаздача аб сынодзе ў Орлі, напісаная Радзівілам, выйшла друкам у Лёндане ў 1645 г.[369] У наступным годзе Літву наведала швэдзкая дэлегацыя. Яе ўзначальвалі Гайнрых Гайн, рэктар Дорпацкага ўнівэрсытэту ды прафэсар швэдзкага і рымскага права, і Ёханас Гізэль, прафэсар грэцкай мовы[370]. Гізэль быў дарадцам Эрыка Уксэнштэрны, губэрнатара Эстляндыі, а таксама адмыслоўцам у праблемах усходніх зямель і выдаўцом лютэранскага катэхізісу на латыскай мове. Вынікам візыту сталіся наўпроставыя перамовы паміж літоўскімі і швэдзкімі пратэстантамі.

[366] Lindkvist, Sven. Anna Vasa: polsk nutid och svensk historia // Kungliga Vitterhets historien och antikvitetsakademiens årsbok. 1996. P. 131—135.

[367] Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 23.

[368] Лялькоў, Ігар. Gallia Albaruthenensie, або Пяць стагодзьдзяў беларускай прысутнасьці ў Францыі // Спадчына. Мінск, 1999. № 2. С. 86.

[369] Radzivil, Janusius. Ad epistolam Synodi Warsawiensis. Londini, 1645. P. 11—30. KB. Raritets-Kammaren. Syntagmatis Confessionum Fidel.

[370] Skutil, Jan. Jan Komenský mezi Stockholmem a Lešnem v letech 1642—1650 // Acta Musei Moraviae. 1993. Vol. LXXVIII. P. 204.

Ляйдэнскі ўнівэрсытэт ў Галяндыі стаўся месцам нефармальных сустрэч швэдзкай і літоўскай шляхты. Адзін з галоўных адукацыйных цэнтраў для пратэстантаў Паўночнай і Ўсходняй Эўропы, ён штогод прымаў каля 50 студэнтаў з Швэцыі[371]. У той жа час Ляйдэнскі ўнівэрсытэт быў галоўным адукацыйным цэнтрам для выхаванцаў Слуцкай і Кейданскай гімназій. У 1630—1654 гг. у яго паступілі каля 30 літвінаў[372].

У 1651 г. Бэнгт Шутэ з згоды прынца Карла Густава Пфальцкага, будучага караля Швэцыі, падарожнічаў у Трансыльванію. Па дарозе Шутэ спрыяў пашырэньню кантактаў швэдаў зь літоўскімі пратэстантамі. Мэтай ягонай місіі было стварыць шырокую антыкаталіцкую кааліцыю. Юры II Ракочы з Трансыльваніі падтрымліваў шчыльныя кантакты з Радзівіламі, украінскімі казакамі, а таксама літоўска-польскімі і чэскімі «братамі» (празь Яна Амоса Каменскага)[373]. Ракочы паведаміў Шутэ, што, паводле яго зьвестак, Польшча плянуе вайну з Швэцыяй, каб напасьць на Лівонію і захапіць Рыгу. Ракочы паабяцаў пры неабходнасьці аказаць любую магчымую дапамогу Швэцыі ў вайне супраць Польшчы[374]. Падчас перамоваў Шутэ даведаўся пра свайго роду пратэстанцкае «сеціва ўзаемадапамогі» ва Ўсходняй Эўропе. Ён, напэўна, пазнаёміўся зь некалькімі літвінамі, і перш за ўсё з дыпляматам Ракочы Данілам Ломскім, шляхціцам-кальвіністам зь Беларусі[375]. Шутэ, як знаўцу Ўсходняй Эўропы, у час вайны 1655—1660 гг. Карл X Густаў прызначыў ачольваць Раду швэдзкай Літвы.

Януш Радзівіл падтрымліваў кантакты з Швэцыяй праз эўрапейскіх мысьляроў Яна Амоса Каменскага і Самуэля Гартліба. Адным з блізкіх вучняў Каменскага быў літоўскі магнат Уладзіслаў Дарагастайскі[376]. Другі літоўскі шляхціц кальвінісцкага веравызнаньня Амбросій Кахлеўскі, кліент Радзівілаў, быў сакратаром Каменскага. Георг Гартліб, брат Самуэля Гартліба, служыў рэктарам пратэстанцкага каледжу ў Вільні[377]. Каменскі, Гартліб і Джон Д'юры былі духоўнымі лідэрамі пратэстанцкай Эўропы. Яны марылі пра адзіную царкву для лютэран і іншых пратэстантаў пад патранатам швэдзкай кароны[378]. У іх пляне значнае месца адводзілася ВКЛ. Літва цікавіла іх тым, што там існавала царкоўная арганізацыя,

[371] Frängsmyr, Tore. Svensk idéhistoria. Bildning och vetenskap under tusen år. Stockholm, 2000. Vol. I, 1000—1809. P. 81.

[372] Hans. Polish Protestants and their Connections with England and Holland. P. 213—216.

[373] Runeby, Nils. Bengt Skytte, Comenius och abdikationskrisen 1651 // Scandia. Tidskrift för historisk forskning. Lund, 1963. Vol. 29:2. P. 360—382.

[374] Olofsson, Sven Ingmar. Efter Westfaliska freden. Sveriges yttre politik 1650—1654. Stockholm, 1957. P. 205—206.

[375] Sziláfyi. Transsylvania et bellum boreo-orientale. Vol. 2. P. 72—73.

[376] Hans. Polish Protestants and their Connections with England and Holland. P. 200.

[377] Skutil. Jan Komenský mezi Stockholmem. P. 195, 203.

[378] Westin, Gunnar. Negotiations about Church Union. John Durie, Gustavus Adolphus, Axel Oxenstierna. Uppsala, 1932.

якая аб'ядноўвала пратэстантаў усіх канфэсій. Яна магла служыць прататыпам для яднаньня будучай пратэстанцкай Эўропы[379]. Швэцыя была зацікаўлена ў вялікім эвангелічным альянсе, які б служыў супрацьвагай каталіцкай контррэфармацыі[380]. Брат Карла X Густава — пфальцграф Адольф Ёган — падтрымліваў ідэю аб'яднаньня пратэстантаў[381].

Ідэя калёніі пад назвай Антылія — зямлі, дзе ўсе пратэстанты-каляністы будуць жыць разам, — была істотным элемэнтам філязофіі Каменскага, Гартліба і Д'юры. Гартліб, цэнтральная фігура ў меркаваным утапічным брацтве, ліставаўся з шмат кім сярод літоўскіх лютэран[382]. Адзін з праектаў прадугледжваў стварэньне калёніі ў якім-небудзь з гарадоў, што належалі Радзівілам. Другі — на востраве Рухну ў Рыскай затоцы пад пратэктаратам Якуба Дэлягардзі[383]. Каменскі, Гартліб і Д'юры падтрымлівалі шчыльныя кантакты зь літоўскімі і швэдзкімі палітычнымі ды інтэлектуальнымі лідэрамі. Сярод іх былі Крыштап II і Януш Радзівілы, Якуб і Магнус Дэлягардзі, Юхан і Бэнгт Шутэ, Аксэль Уксэнштэрна і Люі дэ Геер. Такім чынам, напярэдадні вайны 1655—1660 гг. швэдзкая эліта мела падрабязную інфармацыю пра сытуацыю ў ВКЛ. А пазьней, як мы ўбачым, праз Гартліба і Каменскага ў Эўропу будуць прыходзіць зьвесткі і пра Кейданскую унію.

## 2.6. Партыя Радзівілаў і швэдзкая геапалітыка

Радзівілы і іх прыхільнікі доўга разважалі, як даць рады польскаму дамінаваньню ў Літве. Яны бачылі дзьве магчымасьці: перадаць трон замежнаму каралю, пажадана кальвіністу, або ажаніць польскага караля з пратэстанцкай прынцэсай. Падчас вайны 1600—1629 гг. Радзівілы распрацавалі плян, як замяніць караля Жыгімонта на Жана-Батыста Гастона, герцага Арлеанскага, сына караля Францыі Генрыха IV. Для пачатку яны таемна накіравалі ў Францыю двух паслоў — Пятра Кахлеўскага і Крыштапа Арцішэўскага[384]. Але іх місія скончылася правалам[385]. У 1635—1636 гг. Радзівілам не ўдалося зладзіць шлюб маладога караля Ўладзіслава з кальвінісцкай прынцэсай Элізабэтай, дачкой апошняга пратэстанц-

[379] Batten, J. Milton. John Dury. Advocate of Christian Reunion. Chicago-Illinois, 1944. P. 18—19.

[380] Wordsworth, John. The National Church of Sweden. P. 289—290.

[381] Batten. Advocate of Christian Reunion. P. 170—178.

[382] Dickson, Donald R. The Tessera of Antilia: utopian brotherhoods and secret societies in the early seventeenth century. Leiden, 1998. P. 152—153.

[383] Eriksonas, Linas. The lost Colony of Scots: Unravelling overseas connections in a Lithuanian town // Ships, Guns and Bibles in the North Sea and the Baltic States c. 1350 — c. 1700. East Lothian, 2000. P. 173—178.

[384] Księcia Krzysztofa Radziwiłła hetmana polnego. P. 591—593.

[385] Wisner. Król i Książę. P. 79—98; «Spisek orleański» w latach 1626—1628. Ed. Urszula Augustyniak and Wojciech Sokołowski. Warszawa, 1990.

кага правіцеля Багеміі Фрыдрыха V — «зімовага караля»[386]. Па сьмерці Ўладзіслава партыя Радзівілаў намагалася з дапамогай ўкраінскіх казакоў пасадзіць на польска-літоўскі трон кальвінісцкага ўладара Трансыльваніі Ракочы або яго сына Сігізмунда[387]. Аднак ніводнага з гэтых праектаў так і не ўдалося зьдзейсьніць.

Крыштап II Радзівіл увайшоў у кантакт з каралём Густавам II Адольфам. Радзівіл спадзяваўся, што караля Швэцыі абяруць на трон Рэчы Паспалітай па сьмерці яшчэ жывога, хоць і нямоглага Жыгімонта. Радзівіл разьлічваў у гэтай справе на дапамогу літоўскіх пратэстантаў і казакоў. Перамовы вяліся праз пасярэднікаў у Біржах і Рызе пад покрывам строгай сакрэтнасьці. Швэдзкі бок ачольвалі бургамістар Рыгі Юхан Ульрых і Дзідрык Таўбэ. ВКЛ прадстаўлялі кліенты Радзівіла — берасьцейскі староста Пётр Кахлеўскі, староста Біржаў Крыштап Скрабовіч і падстароста Біржаў Рыгор Коскуль. Крыштапа II Радзівіла, Густава II Адольфа, губэрнатара Юхана Шутэ і канцлера Швэцыі Аксэля Уксэнштэрну ўвесь час падрабязна інфармавалі пра ход перамоваў. Літвіны выказвалі радыкальныя прапановы. Радзівіл меркаваў, калі не атрымаецца дасягнуць палітычнага рашэньня, распачаць рокаш супраць Польшчы, каб пасадзіць на трон Густава II Адольфа. На выпадак паразы літоўскі магнат прасіў палітычнага прытулку ў Швэцыі для сябе і сваёй сям'і[388]. Аднак гэты плян праваліўся, і ўладаром Рэчы Паспалітай з 1632 да 1648 г. стаўся польскі каралевіч Уладзіслаў Ваза.

У лістападзе 1648 г., насуперак волі Радзівілавай партыі, каралём Рэчы Паспалітай абралі былога езуіта Яна Казімера Вазу. Гэтая падзея прымусіла пратэстантаў радыкалізаваць сваю палітычную праграму. Паўстала новая мадэль палітычнай будучыні Літвы. У яе падмурку ляжала ідэя уніі між Літвой і Швэцыяй. Плян падтрымалі ў асяродзьдзі літоўскіх сэпаратыстаў, пра яго даведалася і швэдзкая палітычная эліты. У канцы 1648 г. член швэдзкай Каралеўскай Рады Бэнгт Шутэ раіў генэрал-губэрнатару Фінляндыі Пэру Браге «сачыць за Польшчай [Рэччу Паспалітай], бо там адна ці другая партыя будзе шукаць нашай дапамогі; напрыклад, нават сёньня найлепшыя людзі Літвы ўпотай шукаюць нашай згоды на аддзяленьне Літвы ад Польшчы і далучэньне да Швэцыі»[389]. Шутэ абачліва не называў ніякіх імён, але зразумела, што гаворка ідзе пра партыю Радзівілаў.

Януш Радзівіл падтрымліваў таемныя кантакты з Магнусам Габрыелем Дэлягардзі, генэрал-губэрнатарам Лівоніі. Радзівілы, усьведамляючы небясьпечнасьць сваіх пляноў, перадавалі інфармацыю вусна праз паслоў. Магчыма, таму ў Нацыянальным архіве Швэцыі захоўваецца толькі адзін даваенны ліст Радзівіла да

[386] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 45.

[387] Khavanova, Olga. The foreign policy of the principality of Transylvania in the context of international relations in the middle of the 17th century // Русская и украинская дипломатия в Евразии. Москва, 2000. С. 135—136.

[388] Wejle, Carl. Sveriges politik mot Polen, 1630—1635. Uppsala, 1901. P. 15—39.

[389] Бэнгт Шутэ — Пэру Браге. 27 лістапада 1648. Па-швэдзку. RA. Skoklostersamlingen II. Fol. Vol. 21. E 8147.

Дэлягардзі. У 1650 г. Радзівіл дзякаваў Дэлягардзі за ліст, дастаўлены швэдзкім пасланцом Крыстофэрам Лянхіярам, «які пераказаў мне навіны і перадаў найлепшыя пажаданьні ды сьведчаньні братэрскіх пачуцьцяў». Радзівіл пісаў, што зь нецярплівасьцю чакае хуткай сустрэчы з Дэлягардзі ў Лівоніі, і запэўніваў у сваёй шчырай прыхільнасьці да міру паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй, «у выніку якога нашы народы цешацца спакоем на фоне канфліктаў у іншых хрысьціянскіх краінах». Радзівіл выказваўся за «вечнае сяброўства паміж двума каралеўствамі» і гаварыў, што заўсёды гатовы быць карысным Швэцыі. Ён зьвяртаўся да Дэлягардзі ў нефармальнай манеры — як да свайго «дарагога сябра», падкрэсьліваючы іх асабістыя адносіны[390]. Курляндзкі герцаг Якуб Кетлер таксама падтрымліваў таемныя кантакты з Стакгольмам з Варшавы, і Радзівіл часта карыстаўся пасярэдніцтвам Кетлера ў стасунках з Швэцыяй[391].

У 1622—1654 гг. Швэдзкая дзяржава пашырала свае межы да Літвы. Так, у 1622 г. да Швэцыі адышла Рыга і большая частка Лівоніі. Такім чынам Швэцыя пачала межаваць з ВКЛ па тэрыторыі Лівоніі. У 1629—1635 гг. Швэцыя кантралявала памежны з Жамойцю Мемельскі рэгіён. У 1645 г. ад Даніі да Швэцыі адышоў востраў Эзэль (Саарэмаа. Паводле Вэстфальскага міру 1648 г. Швэцыя атрымала Памэранію і цяпер магла б пры жаданьні наступаць на Рэч Паспалітую з двух бакоў — праз Рыгу і Штэцін. Актыўнасьць швэдаў у літоўскай Жамойці і Лівоніі грунтавалася на ідэалёгіі «гатытызму». Згодна з подпісамі да мапы Улафа Магнуса «*Carta* marina» (1539 г.), жамойты (*samogeti*) і лівонцы (*livoni*) паходзілі ад старажытных гоцкіх плямёнаў, то бок былі суродзічамі швэдаў. На гэтай падставе швэдзкая прапаганда магла сьцьвярджаць права Швэцыі на гэтыя тэрыторыі. У 1622—1654 гг. швэды шмат даведаліся пра сваіх паўднёвых суседзяў. У 1626 г. Андрэас Бурэ ўклаў і надрукаваў мапу «Новае дакладнае апісаньне краінаў вакол Палярнага круга». Яе частка адводзілася Літве і ўключала ў сябе падрабязнае геаграфічнае апісаньне яе водных шляхоў. Наагул гэта адна з найлепшых мапаў ВКЛ XVII ст.[392]. У 1642 г. швэдзкі гісторык Ёханас Пэтрэюс апублікаваў у Дорпацкім унівэрсытэце дысэртацыю пад назвай «Гісторыя Польскага каралеўства», якая ўключала шмат матэрыялаў па літоўска-лівонскіх дачыненьнях[393].

Як казаў Аксэль Уксэнштэрна, галоўнай мэтай швэдзкай экспансіі былі балцкія ўладаньні Рэчы Паспалітай. Канцэпцыя Уксэнштэрны *«Dominium maris Baltici»* («Дамінаваньне на Балтыйскім моры») прадугледжвала перш-наперш панаваньне швэдаў у балтыйскіх партах ад Гданьску да Рыгі, у тым ліку ў Прусіі,

[390] Януш Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 8 чэрвеня, 1650. Па-лацінску. Вільня. RA. De La Gardieska samlingen. Skrivelser till Magnus Gabriel De la Gardie. Ser. C: I. E 1531.

[391] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 204; Wasilewski. Zdrada Janusza Radziwiłła. P. 128.

[392] Orbis Arctoi nova et accurata delineatio auctore: Andrea Bureo Sueco. 1626. Ed. by Herman Richter and Wilhelm Norlind. Lund, 1936.

[393] Petrejus, Johannes Junecopensis. Regni Poloniae Historia. Dorpati, 1642.

Жамойці, паўночнай частцы Літвы і паўднёвай Лівоніі[394]. Аднак гэтым плянам супрацьстаяла Варшава, бо ўсе гэтыя землі былі пад уладай польскіх каралёў[395].

У 1649—1655 гг. Радзівіл некалькі разоў накіроўваў сваіх паслоў, каб навязаць кантакты з украінскімі правадырамі Багданам Хмяльніцкім і Іванам Выгоўскім, а таксама з уладаром Трансыльваніі Юр'ем ІІ Ракочы. На думку Радзівіла, казакі маглі быць магутнай палітычнай сілай; апроч таго, як і пратэстанты, яны былі рэлігійнымі дысыдэнтамі[396]. Яго асноўнай мэтай было стварыць лігу малых некаталіцкіх усходнеэўрапейскіх дзяржаваў. Каб дасягнуць яе, Радзівіл вырашыў узяць палітычны шлюб. Ключавую ролю ў плянах Радзівіла па стварэньні лігі адыгрываў Васіле Лупу, гаспадар Малдаўскага княства. Таму важным стратэгічным крокам быў шлюб Януша Радзівіла з Марыяй Лупу, дачкой Васіле. Пры падтрымцы праваслаўнага сьвятара Лявонція Шыціка-Залескага і пратэстантаў Уладзіслава Сіцінскага, Ёгана Атэнгаўза, Рыгора Мірскага і Яна Мяжэнскага Радзівіл дамовіўся з Лупу пра шлюб. Праз пасярэдніцтва Трансыльваніі шлюб таксама ўхваліў Ібрагім І Шалёны, султан Асманскай імпэрыі, васалам якой было Малдаўскае княства. Патрыярх канстантынопальскі Парфеній ІІ таксама даў сваё блаславеньне на шлюб праваслаўнай князёўны з пратэстанцкім князем. Вясельле адбылося 5 лютага 1645 г. у сталіцы Малдавіі Ясы. Зьдзейсьніў вянчаньне паводле праваслаўнага абраду Пятро Магіла, мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Цырымоніймайстрамі былі пратэстанты-літвіны Рыгор Мірскі і Ян Мяжэнскі. Сярод гасьцей было шмат літоўскай шляхты, а таксама паслы Польшчы, Прусіі-Брандэнбургу, Трансыльваніі, Валахіі, гетманскай Украіны, Курляндыі і Канстантынопальскага патрыярхату[397]. Пятро Магіла выканаў шлюбны абрад таксама ў Сафійскім катэдральным саборы ў Кіеве, а праваслаўная царква выдала казань Магілы пад назвай «Мова духоўна з нагоды шлюбу Януша Радзівіла»[398].

Шлюб Януша Радзівіла і Марыі Лупу меў вялікае міжнароднае значэньне. Сама цырымонія прадэманстравала палітычную еднасьць малых паўнезалежных некаталіцкіх дзяржаваў. Праз гэты шлюб Радзівіл, які ўжо быў адным з найбагацейшых літоўскіх магнатаў, найвышэйшым літоўскім ураднікам (займаў пасаду віленскага ваяводы) і лідэрам пратэстантаў, рабіўся таксама галоўным заступнікам праваслаўнага насельніцтва. Вестку пра шлюб Радзівіла ў Скандынавіі і Расеі ўспрынялі як прыклад росту паразуменьня між пратэстанцкім і праваслаўным сьве-

[394] Ahnlund, Nils. Svensk Östersjöpolitik under det tidigare 1600-talet // Forum navale. Uppsala, 1946. No. 7. P. 3—15.

[395] Olofsson. Efter Westfaliska freden. Sveriges yttre politik. P. 188—189.

[396] Matwijów. Koncepcje polityki Janusza Radziwiłła w latach 1648—1655. P. 37.

[397] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 77—81; Kentrschynskyj, Bohdan. Rebeldiplomati och vasallaaktivism i Östeuropa vid 1600-talets mitt // Karolinska förbundets årsbok. Stockholm, 1965. P. 20.

[398] Падокшын, Сямён. Унія, дзяржаўнасць, культура. Філасофска-гістарычны аналіз. Мінск, 2000. С. 87—88.

там[399]. У той жа пэрыяд, 4 красавіка 1651 г., Сігузмунд, сын Ракочы, ажаніўся з прынцэсай-кальвіністкай Генрыетай Марыяй — дачкой караля Багеміі Фрыдрыха V і Элізабэты С'тюарт. Увосень 1652 г. у Ясы адбыўся шлюб Раксаны Лупу, дачкі малдаўскага князя, зь Цімафеем Хмяльніцкім — старэйшым сынам украінскага гетмана Багдана Хмяльніцкага[400].

У сакавіку 1654 г., напярэдадні вайны Расеі з Рэччу Паспалітай, Радзівіл выправіў свайго пасла Ўладзіслава Любянецкага да Ракочы з шэрагам таемных прапаноў[401]. Радзівіл лічыў, што прыйшоў час разам пачаць вайну супраць караля Польшчы. Ракочы меўся выступіць з Трансыльваніі, захапіць Кракаў і затым заняць польскі трон. Між тым Радзівіл разам зь ляяльнымі яму пратэстантамі пачаў бы паўстаньне ў Літве. Радзівіл прасіў у Ракочы 100 000 дукатаў, каб заплаціць наёмнай шляхце[402]. Апроч таго, Радзівіл раіў Ракочы наладзіць добрыя стасункі з казакамі і пашукаць швэдзкай падтрымкі, каб стварыць агульнапратэстанцкую лігу. З гэтых прапаноў відаць, наколькі далёка гатовая была пайсьці партыя Радзівілаў у сваіх антыпольскіх плянах. Ракочы прыслухаўся да парад Радзівіла[403]. Напрыканцы 1654 г. у Швэцыю накіравалася трансыльванскае пасольства на чале з Канстанцінам Шаўмам. Новы кароль, Карл X Густаў, прыняў Шаўма. Тры месяцы Шаўм вёў кансультацыі з швэдзкай элітай[404]. Пасярэднікам між Трансыльваніяй і Швэцыяй выступаў Ян Амос Каменскі. У канцы сьнежня 1654 г. ён наведаў Штэцін і паведаміў швэдам, што Ракочы хоча ўвайсьці ў антыпольскі альянс з Швэцыяй. Пры дапамозе свайго сябра Ёгана Матые, швэдзкага біскупа г. Стрэнгнэс, Каменскі паспрабаваў пераканаць Карла X Густава аб'явіць Польшчы вайну. Яе мелася падтрымаць літоўская апазыцыя[405]. Адначасова пасол Ракочы рускі шляхціц Даніла Ломскі сустрэўся з Хмяльніцкім.

У 1654 г. Радзівіл прапанаваў каралю і сэнатарам у Горадні палітычную дэклярацыю пад назвай «Развагі аб супольнай абароне ВКЛ»[406]. У ім абгрунтоўвалася неабходнасьць тэрміновага палітычнага саюзу паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй для сумеснай абароны ВКЛ ад маскоўскай навалы[407].

[399] Опарина, Татьяна. Иван Наседка и полемическое богословие Киевской митрополии. Новосибирск, 1998. С. 235.

[400] Semenova, Ludmila. Danubian Principalities in the context of international relations of the 5th decade of the 17th century // Русская и украинская дипломатия в Евразии. Москва, 2000. С. 117.

[401] Puncta nomine illustrissimi principis Radzivilii serenissimo Transylvaniae principi proponenda et specialiora quaedam. Szilágyi. Transsylvania et bellum boreo-orientale. Vol. 1. P. 310—315.

[402] Wasilewski. Zdrada Janusza Radziwiłła. P. 129—130.

[403] Заборовский. Россия, Речь Посполитая и Швеция. С. 53—54; 76—77.

[404] Khavanova. The foreign policy of the principality of Transylvania. P. 139.

[405] Göransson, Sven. Den Europeiska konfessionspolitikens upplösning 1654—1660. Religion och utrikespolitik under Karl X Gustav. Uppsala — Wiesbaden, 1956. P. 79.

[406] Заборовский. Россия, Речь Посполитая и Швеция. С. 98.

[407] Wójcik, Zbigniew. Wielkie Księstwo Litewskie wobec Szwecji, Rosji i powstań Kozackich // Przegląd Wschodni. Warszawa, 1991. Vol. 1. Z. 3. P. 578—579.

Захоп Расеяй Полацку і Віцебску ўлетку 1654 г. адрэзаў Рыгу ад яе традыцыйных гандлёвых партнэраў. Тамтэйшы гандаль прыйшоў у заняпад, і гэта ўстрывожыла швэдзкую адміністрацыю Лівоніі[408]. 14 лістапада 1654 г. камэрцдырэктар Лівоніі Юхан фон Вэйдэнхайн даслаў у Стакгольм справаздачу з сваімі прапановамі па вырашэньні сытуацыі. Вэйдэнхайн перадусім спрабаваў знайсьці адказ на пытаньне, што будзе з рыскім гандлем, калі маскавіты застануцца ў Полацку і Віцебску надоўга. Ён прапаноўваў гандляваць зь Літвой праз пасярэднікаў, сьпісаць гадавыя даўгі беларускіх купцоў, а таксама пабудаваць канал. Вэйдэнхайн папярэджваў, што бязьдзейнасьць Стакгольму можа змусіць літвінаў пераарыентаваць свой гандаль на Кёнігсбэрг, а гэта азначала б для Рыгі эканамічную катастрофу[409].

У 1654 г., пасьля таго як расейцы і ўкраінскія казакі захапілі Беларусь, Януш Радзівіл даручыў аднаму са сваіх кліентаў, біржайскаму старосту Крыштапу Даўгялу Стрыжку, пачаць асьцярожныя перамовы з пфальцграфам Адольфам Ёганам наконт швэдзкага пратэктарату над Літвой[410]. 3 сьнежня 1654 г. Стакгольм атрымаў першы рапарт з Гданьску ад Юхана Мэера фон Ліленталя, сакратара швэдзкага міністэрства гандлю. Яго неафіцыйна паслалі ў Рэч Паспалітую зьбіраць зьвесткі пра ўнутранае становішча. Ліленталь паведамляў пра моцныя сэпаратысцкія настроі ў Літве, «дзе шляхта не падтрымлівае польскага караля і ўсе абмяркоўваюць плян аддзяленьня Літвы ад Кароны»[411]. 30 сьнежня 1654 г. Карл X Густаў даручыў генэрал-губэрнатару Лівоніі Густаву Хурну пільна сачыць за сытуацыяй у Літве, дзе разнастайныя палітычныя групы шукаюць швэдзкай пратэкцыі, «напрыклад, падканцлер літоўскі Сапега [Казімер Леў Сапега] ужо намякнуў, што ён гатовы пачаць сакрэтныя перамовы з швэдамі»[412].

У сьнежні 1654 г. швэдзкая Каралеўская Рада абмяркавала пытаньне вайны з Рэччу Паспалітай. Канцлер Эрык Уксэнштэрна падкрэсьліў магчымасьць знайсьці падтрымку ўнутры краіны і аб’яднацца з адным удзельнікам польска-літоўскай фэдэрацыі[413]. Паводле словаў Уксэнштэрны, «могуць знайсьціся тыя, хто папросяць Яго Каралеўскую Мосьць аб пратэкцыі ці прапануюць саюз. Таму кароль не марудзячы павінен успрыняць усе гэтыя акалічнасьці як кіраўніцтва да дзеяньня». Пэр Браге падтрымаў выснову Уксэнштэрны: «Пэўна, кароль зробіць мудра,

[408] Fahlborg, Birger. Sveriges yttre politik 1660—1664. Stockholm, 1932. P. 42.

[408] «Der Vorschlag zur Verbesserung des hiesigen Handels und der Schiffbauerei, vom königlichen Hofrat und Kommerzdirektor Joan Weidenhayn». Jensch. Der Handel Rigas. P. 129.

[410] Wasilewski. Radziwiłł Janusz // PSB. vol. XXX/1. P. 213.

[411] Edén. Grunderna till Karl X Gustafs anfall på Polen. P. 26.

[412] Карл X Густаў — Густаву Хурну. 30 сьнежня 1654 / 9 студзеня 1655. Па-швэдзку. Stockholm. RA. Riksregistraturet. Vol. 296, 1654. E 00607 16/17. F. 2207—2208.

[413] Svenska Riksrådets protocoll. Ed. Per Sondén. Tredje serien. Vol. XVI. 1654—1656. 1923. P. 2—36; Landberg, Hans. Decemberrådslagen 1654: Karl X Gustav, rådet och rustningsfrågan // Karolinska förbundets årsbok. Stockholm, 1968. P. 63.

калі возьме пад патранат Сваёй Каралеўскай Мосьці тых, хто просіць аб гэтым»[414]. Уксэнштэрна не называе ні імёнаў, ні краін, ні гарадоў. Аднак, на маю думку, Уксэнштэрна меў на ўвазе галоўным чынам Літву, хоць Арнэ Штадэ мяркуе, што словы Уксэнштэрны датычылі перш за ўсё Дынабургу[415]. Уксэнштэрна сапраўды згадваў лівонскі Дынабург як атрымальніка ваеннай дапамогі. Але ж гэта толькі маленькі горад. Гаворка пра будучы палітычны альянс паміж Швэцыяй і адной з частак Рэчы Паспалітай магла датычыцца, хутчэй за ўсё, ВКЛ або вялікіх гарадоў Прусіі. Калі разглядаць словы Уксэнштэрны ў сьвятле Мэеравага данясеньня і актыўных кантактаў літоўскіх магнатаў з Стакгольмам, выглядае лягічным аднесьці сказанае Уксэнштэрнам да ВКЛ. Калі так, то разрыў польска-літоўскай уніі і аб'яднаньне Літвы з Швэцыяй былі не праявай адчаю літоўскай эліты і не яе хвілiннай рэакцыяй на ваенную катастрофу 1655 г., як сьцьвярджае шмат хто з польскіх гісторыкаў. Доўгатэрміновыя палітычныя кантакты між літоўскай апазыцыяй і Швэцыяй пацьвярджаюцца і пазьнейшымі імклівымі падзеямі вакол Кейданскай уніі. Гэтыя кантакты праясьняюць таксама і пазыцыю Швэцыі ў пытаньні вайны з Польшчай. Варта адзначыць, што ўлетку 1655 г. Швэцыя пачала ваенныя дзеяньні супраць Польшчы на два франты — ня толькі з Памэраніі, але і зь Лівоніі. На маю думку, на такую дадатковую рызыку Швэцыя пайшла з увагі на існаваньне моцнай антыпольскай апазыцыі ў Літве.

## 2.7. Высновы

У Рэчы Паспалітай адбывалася дэзінтэграцыя. Некаталіцкія палітычныя эліты Літвы, Прусіі, гетманскай Украіны, Курляндыі і Лівоніі мелі трывалыя сэпаратысцкія памкненьні, што выклікала шматлікія грамадзянскія войны і нутраныя канфлікты. ВКЛ у XVII ст. ні палітычна, ні культурна, ні рэлігійна не было інтэграванае з Польшчай. Повязі Літвы з Польшчай былі слабыя, і нават па заключэньні Люблінскай уніі Вялікае Княства Літоўскае па-ранейшаму захоўвала сваё адметнае заканадаўства, а таксама такія інстытуты, як уласнае войска, скарб, падатковую сыстэму, суд, манэтны двор, мытню і памежную службу.

Розныя погляды на Люблінскую унію ў Польшчы і Літве выклікалі шматлікія палітычныя канфлікты паміж дзьвюма дзяржавамі, што закранала і міжнародныя адносіны. На міжнароднай арэне Польшча выяўляла Літву сваёй звычайнай правінцыяй, якая ня мае ніякіх інтарэсаў, адрозных ад польскіх. Літва, у сваю чаргу, падкрэсьлівала свой раўнапраўны статус у фэдэрацыі з Польшчай. Эліта ВКЛ мела надзвычай моцную і адметную палітычную ідэнтычнасьць, якая супрацьстаяла ідэнтычнасьці польскай эліты. Заключыўшы унію з Польшчай, Літва

[414] Svenska Riksrådets protocoll. Vol. XVI. P. 29, 31.

[415] Stade, Arne. Geneza decyzji Karola X o wojnie z Polską w 1655 r. // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. Warszawa, 1973. Vol. XIX. Cz. 2. P. 41. Note 98.

заставалася пратэстанцкай краінай, калі казаць пра веравызнаньне яе ўладнай эліты. У апошняе стагодзьдзе літоўскай незалежнасьці род Радзівілаў вёў рэй у краіне палітычна і эканамічна. Пратэстантызм стаў ідэалягічнай базай Радзівілаў партыі. Аднак за дынастыяй Вазаў палітычнае становішча Радзівілаў было вельмі няўстойлівае. Карыстаючыся сваімі прывілеямі, найперш правам прызначаць сэнатараў, польскія каралі сфармавалі ў Літве сваю прыдворную партыю каталіцкіх раялістаў. У выніку каралеўскай палітыкі прадстаўнікі каталіцкай шляхты занялі шмат пасадаў, на якіх раней знаходзіліся пратэстанты. У час каталіцкай контррэфармацыі пратэстанты зьведалі моцны ўціск. Справа аб закрыцьці Віленскага рэфармацкага катэдральнага збору пазначыла сабой палітычны пройгрыш Радзівілаў і перамогу каралеўскай каталіцкай партыі.

Імкненьне польскай эліты весьці рэй у Літве сутыкалася з супрацівам літоўскіх пратэстантаў. Тыя разумелі, што канчатковая мэта Польшчы — цалкам паглынуць Літву і скасаваць яе раўнапраўны, незалежны статус. Рэфармацыя ў ВКЛ адпачатку мела элітарны характар: яна разьвівалася як рух шляхты. Пратэстанцкая адміністрацыйная структура аб'ядноўвала тры эвангелічныя дэнамінацыі — кальвіністаў, лютэран і антытрынітарыяў. На чале пратэстанцкай супольнасьці стаялі найбагацейшыя і наймагутнейшыя магнаты Януш і Багуслаў Радзівілы. Уладаньні Радзівілаў былі «дзяржавай у дзяржаве», паводле сваёй тэрыторыі роўнай Бэльгіі. Гэтыя велізарныя ўладаньні складалі падмурак іх эканамічнага і палітычнага ўплыву. Пераважная частка зямель, што належалі Радзівілам, разьмяркоўвалася сярод іх пратэстанцкіх кліентаў. Горад Кейданы зрабіўся культурным, эканамічным і палітычным цэнтрам літоўскіх пратэстантаў. Штогод сынод Адноты Літоўскай зьбіраўся на закрытыя сэсіі, на якіх пратэстанцкая супольнасьць абмяркоўвала свае справы. Дзякуючы гэтаму пратэстанцкая шляхта была найбольш арганізаванай і найлепш інфармаванай канфэсійнай групай сярод літоўскай эліты, а таксама мела добрыя міжнародныя сувязі. Між тым палітычнае жыцьцё каталіцкіх і праваслаўных шляхціцаў абмяжоўвалася іх уласнымі паветамі, што замінала ім выпрацаваць агульную палітычную плятформу. Гэты фактар стаўся вызначальным падчас крызісу сярэдзіны XVII ст.

Швэдзкая Рыга адыгрывала важную ролю ў гаспадарцы Літвы і Беларусі. Гэты ўсходнебалтыйскі гандлёвы цэнтар быў галоўным портам, праз які вёўся гандаль жыцьцёва неабходнымі ВКЛ таварамі. Швэдзкая экспансія часткова тлумачылася эканамічнымі матывамі: Швэцыя імкнулася атрымаць кантроль над усім гандлем на Балтыцы. Даволі ўплывовая група літоўскай шляхты і купецтва была зацікаўлена ў актывізацыі гандлю з Швэцыяй і Балтыйскім рэгіёнам. Швэцыя, у сваю чаргу, была зацікаўлена ў пашырэньні свайго гандлю па Дзьвіне і Нёмане. Невыпадкова, што многія з тых, хто тады прасоўваў швэдзкую палітыку ў Літве і Беларусі, паходзілі з асяродзьдзя рыскіх купцоў. Прадстаўнікі рыскіх родаў служылі афіцэрамі ў швэдзкім войску і актыўна спрычыніліся да швэдзка-літоўскай уніі. Вайна 1600—1629 гг. у Лівоніі выклікала палітычны, эканамічны і ваенны хаос у ВКЛ і прывяла да вострага крызісу ў літоўска-польскіх стасунках. Літоўская шляхта адкрыта выступала супраць вайны і падпісала некалькі сэпаратных

дамоваў з Швэцыяй бязь ведама Польшчы. Расейская агрэсія 1654 г. супраць ВКЛ адрэзала Рыгу ад яе натуральных суседзяў і партнэраў. Таму швэдзкія інтарэсы ў Літве былі перадусім інтарэсамі Рыгі — аднаго з найбуйнейшых гарадоў швэдзкага каралеўства.

Каралеўская палітыка акаталічваньня дэстабілізавала становішча ў ВКЛ. Дыскрымінавалася значная частка літоўскай шляхты — пратэстанты і праваслаўныя. Адпаведна, яна не была ляяльная польскаму каралю. У гэтых умовах выглядала цалкам натуральным, што пратэстанцкая і праваслаўная шляхта ВКЛ імкнулася знайсьці новага некаталіцкага сюзэрэна і гэтак палепшыць сваё становішча. Літоўская шляхта ў XVII ст. не была маналітнай групай — яе разьядноўвалі палітычныя, рэлігійныя і этнічныя бар'еры. У выніку падчас крызісу сярэдзіны XVII ст. розныя групоўкі літоўскай палітычнай нацыі неаднаразова спрабавалі разарваць унію з Польшчай і заключыць саюз зь нейкай іншай дзяржавай: Швэцыяй, Расеяй або гетманскай Украінай — у залежнасьці ад інтарэсаў той ці іншай групы.

У адказ на каталіцкую рэакцыю літоўская пратэстанцкая шляхта пачала шукаць уплывовага замежнага заступніка. Швэдзкі кароль здаваўся ёй найлепшым кандыдатам на трон Рэчы Паспалітай. Радзівілы і іх прыхільнікі доўга разважалі, як даць рады польскаму дамінаваньню ў Літве. Літоўская апазыцыя ўсталявала трывалыя кантакты з швэдзкай палітычнай элітай і інтэлектуальнымі лідэрамі пратэстанцкай Эўропы. Януш Радзівіл падтрымліваў таемныя сувязі з швэдзкай адміністрацыяй у Лівоніі. Пры гэтым напярэдадні крызісу 1655 г. швэдзкія палітычныя лідэры мелі досыць падрабязную інфармацыю пра сытуацыю ў суседняй Літве, асабліва пра моцныя сэпаратысцкія настроі сярод пратэстанцкай партыі на чале з Радзівіламі і пра яе жаданьне разарваць унію з Польшчай ды аб'яднацца з Швэцыяй. Працяглыя палітычныя кантакты паміж літоўскай апазыцыяй і Швэцыяй шмат у чым паспрыялі швэдзка-літоўскай уніі 1655 г.

# 3. У пошуках бясьпекі: швэдзкі напрамак

## 3.1. Кейданская дэклярацыя 17 жніўня 1655 г.

У 1653 г. Расея актыўна рыхтавалася да вайны з Рэччу Паспалітай: закупляла зброю ў Галяндыі, германскіх княствах і Швэцыі, актыўна вяла палітычную прапаганду. 15 траўня 1654 г. цар Аляксей Міхайлавіч абвясьціў вайну. На першым этапе Расея ў хаўрусе з Украінай разьлічвала захапіць Беларусь, у тым ліку Смаленск, Амсьціслаў, Воршу, Гомель, Рэчыцу, Полацак і Віцебск. Гэта давала Расеі кантроль над значнай часткай басэйнаў Дзьвіны і Дняпра, а значыць, і над балтыйскімі ды чарнаморскімі воднымі шляхамі. З ваеннага і гандлёвага гледзішча гэта азначала, што Расея атрымлівала наўпроставы зручны водны шлях у Швэцыю і Асманскую імпэрыю. Згодна з гэтым плянам, у ВКЛ меліся ўвайсьці дзьве маскоўскія арміі і брыгада ўкраінскіх казакоў. Галоўнае войска з 41 000 жаўнераў на чале з самім царом наступала зь Вязьмы на Смаленск, Амсьціслаў і Магілёў. 13-тысячная паўночная армія на чале з Васілём Шарамецевым выступіла зь Вялікіх Лук на Себеж, Полацак і Віцебск. 20 000 украінскіх казакоў наказнога гетмана Івана Залатарэнкі рушылі з Ноўгараду-Северскага на Старадуб, Гомель і Рэчыцу[416]. Такім чынам, войскі агрэсараў налічвалі больш як 64 000 жаўнераў, а літоўскае войска на чале зь Янушам Радзівілам — толькі 12 000[417].

Кампанія 1654 г. завяршылася паразай Літвы. 12 жніўня 1654 г. Радзівіл разьбіў маскоўскія атрады пад Шкловам, аднак праз 11 дзён, 24 жніўня 1654 г., літоўскае войска зазнала зьнішчальную паразу пад Шапялевічамі, страціўшы 2000 чалавек і ўсю артылерыю. Яно адступіла зь Беларусі да Менску. 28 жніўня 1654 г. насельніцтва другога па велічыні гораду ВКЛ Магілёва добраахвотна адчыніла гарадзкую браму, і цар увайшоў у сталіцу Беларускай япархіі. Гараджане ўрачыста сустракалі цара. 29 чэрвеня 1654 г. капітуляваў Полацак, трэці па велічыні горад ВКЛ. 23 верасьня 1654 г. пасьля працяглай аблогі здаўся Смаленск. Яшчэ падчас аблогі Самуэль Друцкі-Сакалінскі, падкаморы смаленскі і князь Друцкі, распачаў тайныя перамовы з царом. Ён падгаворваў абаронцаў гораду і яго жыхароў капітуляваць. Па капітуляцыі Сакалінскі ад імя смаленскай шляхты прысягнуў на вернасьць цару. 17 лістапада 1654 г. маскоўска-ўкраінскія атрады ўварваліся ў Віцебск. Пасьля гэтага 200 мясцовых шляхціцаў і 1000 гандляроў і сьвятароў прысягнулі на вернасьць цару. У канцы 1654 г. толькі два гарады ў Беларусі працягвалі супраціў — Стары Быхаў на Дняпры і Веліж на Дзьвіне. Палітычная формула Ра-

[416] Кроль, Пётр. Беларуская кампанія 1654 г. // Беларускі гістарычны агляд. Мінск, 1999. Сш. 6:1—2. С. 7—32.

[417] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 11; Мапу ваенных дзеяньняў расейскіх войскаў у ВКЛ гл.: Энцыклапедыя Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2005. Том 1. С. 374.

дзівіла «разам з Швэцыяй супраць Масковіі» не знайшла падтрымкі ў Варшаве[418]. Тады ён вырашыў з дапамогай герцага курляндзкага пайсьці на сакрэтныя кантакты з швэдзкімі палітыкамі, каб высьветліць, ці магчыма заключыць сэпаратнае пагадненьне паміж Літвой і Швэцыяй. Украінскі палкоўнік Антон Ждановіч, які ў 1654 г. быў у палоне пры Радзівілавай стаўцы, паведамляў цару, што «Януш Радзівіл хоча з усёй Літвой прадацца швэдзкаму каралю»[419].

Аднак на пачатку 1655 г. Януш і Багуслаў Радзівілы заявілі, што зьбіраюцца вызваліць Беларусь сваімі сіламі. Яны часова спынілі сэпаратныя перамовы з Швэцыяй. У студзені 1655 г. літоўскае войска пачало контрнаступ ад Старога Быхава. У пачатку лютага быў узяты ў аблогу Магілёў. Радзівіл даслаў казакам ліст, у якім прапаноўваў перайсьці на ягоны бок. Асобныя атрады ён накіраваў на вызваленьне Віцебску і Дзісны.

Напачатку аблога Магілёва была пасьпяховай. Уначы з 4 на 5 лютага на літоўскі бок перайшоў полк беларускіх казакоў на чале з Канстанцінам Паклонскім. Атрады ВКЛ захапілі прадмесьці. Аднак гараджане засталіся верныя цару, па-ранейшаму падтрымлівалі расейскі гарнізон і адмовіліся здацца.

Разумеючы, што ён ня зможа вызваліць ВКЛ самастойна, Радзівіл 20 сакавіка 1655 г. даслаў ліст Крыштапу Даўгялу Стрыжку, у якім дзякаваў таму за падтрыманьне канфідэнцыйных кантактаў з Швэцыяй і раіў быць асьцярожным. Радзівіл спадзяваўся, што швэды ўхваляць ягоны плян узьвесьці на трон Рэчы Паспалітай Карла X Густава. Ён не сумняваўся ў посьпеху сваёй задумы, бо яе падтрымлівала большасьць літвінаў. З Карлам X Густавам Радзівіл зьвязваў надзеі на вяртаньне палітычных і рэлігійных свабод кальвіністам, лютэранам, арыянам і праваслаўным, а таксама на рост палітычнага ўплыву пратэстантаў і страту вагі езуітаў. Для Радзівіла было вельмі істотна, каб швэды працягнулі руку дапамогі літоўскім пратэстантам: «каб атрымаць дараваньне Пана Бога за тое, што яны пагадзіліся на перадачу пад уладу Антыхрыста [папы рымскага] Чэхаў і Сілезцаў». Далей у лісьце Радзвіл прасіў швэдзкага караля даць яму 3000 жаўнераў — выказваў надзею, што «кароль і дом яго  нам спрыяе». Ён таксама разьлічваў, што герцаг Курляндыі забясьпечыць нэўтральны статус Лівоніі. Нарэшце, Радзівіл прасіў Стрыжку перадаць усе гэтыя прапановы ў Швэцыю абсалютна сакрэтна, бо, магчыма, польскія шпегі дзейнічалі нават пры двары герцага Курляндзкага[420].

7 красавіка 1655 г. Януш Радзівіл накіраваў ліст слонімскай шляхце. У гэтым дакумэнце ён падкрэсьліваў, што ВКЛ б’ецца з ворагам сам-насам, без дапамогі Польшчы. Такім чынам, палякі парушылі палажэньні Люблінскай уніі, якая дорага абышлася літвінам: «У абмен на унію палякі забралі ў нас Украіну, і мы заў-

[418] Заборовский. Россия, Речь Посполитая и Швеция. С. 98; Kentrschynskyj. Karl X Gustav inför krisen i Öster. P. 48—49.

[419] Wasilewski. Zdrada Janusza Radziwiłła. P. 133.

[420] Януш Радзівіл — Крыштапу Даўгялу Стрыжку. 20 сакавіка 1655 г. Магілёў. Па-польску; Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 133—134.

сёды будзем пра гэта памятаць»[421]. Тут Радзівіл упершыню адкрыта заявіў, што унія паміж Літвой і Польшчай зрабілася бессэнсоўнай. 6 чэрвеня 1655 г. пасол Прусіі Ёган фон Говэрбэк, які прысутнічаў на Сойме, паведамляў вялікаму электару Фрыдрыху Вільгельму: «Літва з спалоху перад Маскалямі гатова падацца швэдам. Біскуп віленскі таксама схіляецца да перамоваў зь імі, лістуецца з герцагам Курляндзкім і піша, што гатовы прызнаць яго [Карла Х Густава] будучым каралём»[422].

На пачатку траўня 1655 г. літоўскае войска зьняло аблогу Магілёва і адступіла на захад, да Бярэзіны. 24 траўня 1655 г. Расея і Ўкраіна пачалі другую ваенную кампанію, каб захапіць цэнтральныя і заходнія паветы ВКЛ разам зь Вільняй. Канчатковай мэтай была ліквідацыя ВКЛ як сувэрэннай дзяржавы. Галоўнае войска захопнікаў на чале з царом рушыла з Смаленску на Менск і Вільню. Яму ў падтрымку выступіла ўкраінская брыгада на чале з Залатарэнкам. Паўднёвая армія Аляксея Трубяцкога рушыла з Бранску на Стары Быхаў — Слуцак — Наваградак — Горадню — Берасьце. Паўночная армія, якую ўзначальваў Афанасій Ардын-Нашчокін, выступіла з Пскова на Інфлянты, а таксама Браслаў і Веліж. Чацьвёртае войска на чале зь Дзьмітрыем Валконскім наступала на Пінск з Кіева. Усяго маскоўскія і казацкія войскі налічвалі 100 000 чалавек. Літоўская армія мела менш за 10 000 чалавек і не магла разьлічваць на польскае падмацаваньне. 3 ліпеня 1655 г. паў Менск. У канцы таго ж месяца маскоўска-ўкраінскія войскі падступілі да Вільні[423]. Адначасова Ян Казімер адклікаў польскія зьвязы, дасланыя на дапамогу літоўскаму войску[424]. Літвіны апынуліся ў безнадзейнай сытуацыі, якая патрабавала надзвычайных рашэньняў.

Посьпех Расеі ў вайне супраць Рэчы Паспалітай выклікаў трывогу Швэцыі. У пачатку 1654 г. швэдзкі пасол у Маскве Юхан дэ Родэс паведамляў Карлу Х Густаву, што, рыхтуючыся да вайны супраць Літвы, цар трымаўся як новы Аляксандар Македонскі і, відаць, ён паклаў вока на ўсю Балтыку[425]. У 1654 г. Стакгольм прадаў Расеі 4000 мушкетаў замест 20 000, як было дамоўлена[426]. На пачатку верасьня 1654 г. Расея ўварвалася ў літоўска-польскія Інфлянты[427]. Пасьля гэтага Карл Х Густаў атрымаў трывожныя паведамленьні ад генэрал-губэрнатара швэдзкай Лівоніі Густава Хурна. Хурн дакладваў, што пасьля паразы Радзівіла пад Шапялевічамі вайна падступіла да самых швэдзкіх

421 Frost. After the Deluge. P. 43—44.

422 Kubała. Wojna szwecka. P. 52.

423 Сагановіч. Невядомая вайна. С. 26—40.

424 Тыла. Кейданская уния. С. 71.

425 Stade. Geneza decyzji Karola X Gustawa. P. 47.

426 Åsard, Bengt. Upptakten till Karl X Gustafs anfall mot Polen 1655 // Karolinska förbundets årsbok. Stockholm, 1977. P. 21.

427 Tersmeden, Lars. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen 1655 // Militärhistorisk Tidskrift. 1980. No. 2. P. 6.

граніц. Шляхта літоўскіх Інфлянтаў пераходзіла мяжу і прасіла швэдзкія ўлады абараніць іх ад расейскага ўварваньня. Швэды вырашылі ўмацаваць абарончыя збудаваньні ў сваёй частцы Лівоніі. У Лівонію было перакінута некалькі рэгімэнтаў зь Фінляндыі[428]. У канцы 1654 г. Швэцыя даслала ў Літву шпегаў — зьбіраць інфармацыю. Вярхоўны судзьдзя Пэр Браге загадаў Густаву Хурну адсочваць сытуацыю ў ВКЛ і літоўскіх Інфлянтах, падтрымліваць добрыя адносіны зь іх жыхарамі і заахвочваць шляхту прыняць пратэктарат Швэцыі. Хурн мусіў пазьбягаць усялякай канфрантацыі з Расеяй, але пры гэтым любым коштам не дапусьціць захопу расейцамі Дынабургу[429]. У красавіку 1655 г. царскае войска падышло да Дынабургу і ўзяло ў аблогу землі, што знаходзіліся пад пратэктаратам Швэцыі. Пасьля беспасьпяховай аблогі расейскія атрады адступілі да Люцына. Аднак па-ранейшаму заставалася пагроза захопу рэшты Лівоніі Расеяй[430]. Інтарэс швэдаў да Літвы і яе часткі Лівоніі быў абумоўлены швэдзкімі геапалітычнымі плянамі на Балтыцы. Увядзеньне швэдзкага пратэктарату над Літвой вельмі ўзмацніла б швэдзкія пазыцыі ў Прусіі і Курляндыі, а таксама аслабіла б магчымы расейскі ўплыў у гэтых землях, бо Масква страціла б агульныя зь імі межы, як і выхад да Балтыйскага ўзьбярэжжа. Ключавую ролю ў швэдзкіх плянах адыгрывала Жамойць[431] — важны калідор, які зьвязваў швэдзкую Лівонію з Прускім герцагствам. Таму спачатку плянавалася, што галоўныя сілы швэдзкай арміі на чале з Карлам X Густавам рушаць на Рэч Паспалітую зь Лівоніі і затым на Літву. Аднак ад гэтага пляну адмовіліся, і 24 ліпеня 1655 г. галоўныя сілы пайшлі ў наступ на захад Польшчы з Штэціна. Рашэньне тлумачылася найперш тым, што кароль баяўся прамога сутыкненьня швэдзкіх атрадаў з расейскім царскім войскам[432].

31 траўня 1655 г. Карл X Густаў загадаў Густаву Хурну пачаць наступ на Літву. Хурн меўся заняць Біржы з Коўнам і прыкрываць Курляндыю і Лівонію ад Расеі[433]. Аднак Расея імкліва разгортвала свой наступ, і таму кароль праз некалькі дзён адмяніў загад. Пасьля адтэрміноўкі, вызначанай каралём, лівонскае войска на чале з Густавам Адольфам Левэнгаўптам выступіла з Кукенойсу і 29 чэрвеня 1655 г. перайшло мяжу Рэчы Паспалітай. 10 ліпеня 1655 г. швэдзкая армія заняла Дынабург. Гэтым наступам пачалася пяцігадовая Паўночная вайна 1655—1660 гг. паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай. Кіраваць абаронай Дынабургу меўся палкоўнік Самуэль Камароўскі, які служыў пад камандаю Радзівіла. Аднак ён здаў

[428] Edén. Grunderna till Karl X Gustafs anfall på Polen. P. 23—24; Åsard. Upptakten till Karl X Gustafs anfall mot Polen. P. 25.

[429] Stade. Geneza decyzji Karola X Gustawa. P. 51.

[430] Tersmeden. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen. P. 11.

[431] Тамсама. С. 8.

[432] Tersmeden, Lars. Karola X Gustawa plan kampanii polskiej 1655 roku. Powstanie planu i jego przeprowadzenie // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. Warszawa, 1973. Vol. XIX. Cz. 2. P. 101.

[433] Tersmeden. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen. P. 11.

замак, а затым адышоў у Літву[434]. Пагроза сутыкненьня з маскоўскім войскам прымусіла швэдаў спыніць наступ. Яны пакінулі на занятых землях падпалкоўніка Віліхмана з гарнізонам і адступілі ў швэдзкую Лівонію[435]. Мясцовыя бароны добраахвотна прынялі швэдзкі пратэктарат[436]. Сэнатар Мікалай Корф, які пазьней сярод іншых падпісаў Кейданскую унію, прапанаваў швэдам узяць пад сваю апеку ўсе яго ўладаньні. Але швэды адмовіліся ад гэтай прапановы, бо не хацелі канфлікту з Расеяй, якая лічыла ВКЛ сваімі землямі[437].

1 чэрвеня 1655 г. кароль прызначыў новым генэрал-губэрнатарам Лівоніі Магнуса Габрыеля Дэлягардзі. Ён раней ужо займаў гэтую пасаду. Кароль загадаў Дэлягардзі рыхтавацца да наступу на Літву. Плянавалася, што лівонскае войска зойме поўнач ВКЛ з гарадамі Біржы і Коўна. Гэта забясьпечыла б кантроль над воднымі і наземнымі шляхамі, што злучалі Вільню з Жамойцю. Дэлягардзі меўся таксама паслаць рэгімэнт з Дынабургу ўніз па Дзьвіне ў Браслаў, каб забясьпечыць надзейныя абарончыя пазыцыі ў Лівоніі і на гэтым водным шляху ў Рыгу. Другі атрад мусіў заняць Пілтэнскае біскупства і балтыйскае ўзьбярэжжа Жамойці. Коўна мелася стаць адміністрацыйным цэнтрам швэдзкай акупацыі. Дэлягардзі атрымаў інструкцыі ажыцьцявіць «мірную» абарончую акупацыю Літвы, устрымаўшыся ад агрэсіўных дзеяньняў. Паводле словаў Карла X Густава, «літвіны цалкам на баку Швэцыі, асабліва Януш Радзівіл і некаторыя шляхціцы». Таму Дэлягардзі мусіў паспрабаваць дамовіцца зь імі наконт умоў швэдзкага пратэктарату. Калі б шляхта выказала супраціў, прадугледжвалася паабяцаць сялянам ВКЛ вызваліць іх ад прыгону (у Швэцыі сяляне былі вольныя), каб такім чынам перацягнуць іх на свой бок. Дзеля большай бясьпекі Дэлягардзі павінен быў заняць большасьць замкаў і назапасіць правізіі для швэдзкай арміі[438].

23 ліпеня 1655 г. Магнус Дэлягардзі прыбыў у Рыгу. У той жа дзень ён даслаў сваю першую справаздачу вярхоўнаму судзьдзю Пэру Браге — намесьніку караля ў Швэцыі. Дэлягардзі паведамляў Браге пра лёгкае заняцьце Дынабургу і пра тое, што Расея гэтым вельмі абураная — яе войска, раскватараванае за пяць кілямэтраў ад гораду, раней безвынікова спрабавала захапіць яго[439]. Кіруючыся ўка-

[434] Geometrisk Carta Dünaburg uti Polska Litauen efter den ritning Konung i Polen den men belägrad af Ryssarne i Medio Marti 1655, undsatt af Polska Generalen Samuel Comerofski [літоўскі палкоўнік Самуэль Камароўскі] och omsider af Svenska Fältmarskalken Gref Gustav Leijonhufvud d. 1 juli samma år kringränd och den 9 därpå följande intagen sedan Polske Generalen var slagen på flyckten. Ritat av Carl Nathanael Klercker. UUB. Lav. och akv. tuschritningar. No. 57308.

[435] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 2. P. 87.

[436] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 31—32.

[437] Kubała. Wojna szwecka. P. 86.

[438] Карл X Густаў — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 2/12 ліпеня 1655. Па-лацінску. Stockholm. Royal Residence. RA. Vol. M. 1304; Konopczynski, Władysław; Lepszy, Kazimierz. Akta Ugody Kiedanskiej 1655 roku. P. 173—174; Tersmeden. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen. P. 12—14.

[439] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 231.

заньнямі караля, Дэлягардзі адразу ж паслаў беларускіх купцоў зь Вільні, якія гандлявалі ў Рызе, на перамовы да Радзівіла. Зь меркаваньняў бясьпекі Дэлягардзі перадаў сваю прапанову вусна, падкрэсьліўшы, што яго ўпаўнаважыў распачаць перамовы сам кароль[440]. 1 жніўня 1655 г. ён паведаміў Карлу X Густаву, што Радзівіл і Сапега ахвотна згадзіліся на пераход пад швэдзкі пратэктарат. Дэлягардзі падкрэсьліваў, што ўсталяваў сувязі зь літоўскімі сэнатарамі празь віленскіх беларускіх купцоў. Згодна з указаньнямі караля, Дэлягардзі пачаў актыўна пераконваць літвінаў перайсьці на бок Швэцыі. Але ён непакоіўся, што ўваход швэдзкай арміі ў Літву непазьбежна выкліча гнеў Расеі[441]. Такім чынам, швэды разьлічвалі, што неакупаваная частка Літвы добраахвотна пяройдзе пад іх уладу. Тады на будучых перамовах з Масковіяй Швэцыя магла б спасылацца на волю літвінаў.

28 ліпеня 1655 г. беларускія купцы прыбылі з Рыгі ў Вільню і перадалі прапановы Дэлягардзі. У той жа дзень Януш Радзівіл і віленскі рыма-каталіцкі біскуп Юры Тышкевіч накіравалі Дэлягардзі афіцыйны ліст з просьбай аб вайсковай дапамозе Швэцыі ў барацьбе супраць Расеі. Варта падкрэсьліць, што ліст падпісалі прадстаўнікі як сьвецкай, так і духоўнай улады — першы літоўскі сэнатар віленскі ваявода Януш Радзівіл і першы сэнатар сярод духоўных асоб біскуп віленскі Юры Тышкевіч. Да іх далучыўся князь Слуцкі Багуслаў Радзівіл. Яны пісалі, што «іх Айчына» знаходзіцца ў крытычнай сытуацыі — вораг пагражае яе сталіцы, і прасілі Швэцыю аказаць падтрымку Рэчы Паспалітай і дапамагчы літвінам абараніць Вільню. Такая дапамога стварыла б добрыя перадумовы для мірных перамоваў паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй[442]. Аўтары звароту гаварылі ад імя Рэчы Паспалітай пра лёс усёй польска-літоўскай фэдэрацыі. Яны прасілі толькі ваеннай дапамогі. У той жа дзень Януш Радзівіл даслаў ліст падобнага зьместу польскаму сэнатару Яну Ляшчынскаму[443]. Але адначасова ўжо бязь ведама Тышкевіча Януш і Багуслаў Радзівілы напісалі Дэлягардзі іншы ліст зусім іншага зьместу, да якога прыклалі мэмарандум. Ліст і мэмарандум перадалі ў Рыгу з Габрыелем Любянецкім, якому таксама надалі паўнамоцтвы падпісаць дамову[444].

Януш Радзівіл па-ранейшаму падтрымліваў сувязь з польскім каралём. 28 ліпеня ён напісаў Яну Казімеру ліст, у якім паведамляў, што маскавіты фарсіравалі Бярэзіну і занялі Менск, а цяпер ідуць у бок Вільні. Радзівіл дэзінфармаваў караля Польшчы, што швэды ўжо наступаюць на Біржы і Коўна. Такім чынам, на думку

440 Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 2. P. 89.

441 Магнус Габрыель Дэлягардзі — Карлу X Густаву. 22 ліпеня 1655 /1 жніўня 1655. Рыга. Па-швэдзку. RA. Livonica II. Vol. 77. Generalguv. i Livland till K. MAJ:T 1655—56.

442 Януш Радзівіл, Юры Тышкевіч і Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 28 ліпеня 1655. Вільня. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

443 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 45.

444 Януш Радзівіл і Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 28 ліпеня 1655. Вільня. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

гетмана, «калі Масква стане пад Вільняй, а швэды пад Коўнам і Трокамі, рэшта княства апынецца ў руках Масквы і Швэцыі, ад якіх выцягнуць яго назад будзе немагчыма. У такім скрайнім становішчы наша няшчасная загубленая дзяржава, якая пра помсту можа прасіць толькі Бога»[445]. Як бачым, Радзівіл так і не згадаў пра свой зварот да швэдзкага караля. Апроч таго, ён перастрахоўваўся — падаваў непраўдзівыя зьвесткі, што швэдзкая армія ўжо ўвайшла ў ВКЛ. 1 жніўня 1655 г., адказваючы на тры каралеўскія лісты, Радзівіл зноў зьвярнуўся да польскага караля. Ён называў становішча крытычным, паведамляў пра акупацыю Дынабургу швэдамі, але зноў ні слова не сказаў пра свае кантакты зь імі[446].

3 жніўня 1655 г. пасланец Анджэй Сьціпіён дэль Кампо даставіў Янушу Радзівілу ліст ад караля. Ян Казімер пісаў пра капітуляцыю Вялікай Польшчы швэдам 25 ліпеня ў Уйсьці і загадваў яму любым коштам заключыць перамір'е з расейскім царом ды ўкраінскімі казакамі, каб затым перакінуць літоўскія войскі ў Лівонію ваяваць супраць Швэцыі. Такім чынам, замест дамовы з швэдамі польскі кароль прапаноўваў вайну[447]. У той жа дзень у Рызе выйшаў першы зварот швэдаў да насельніцтва ВКЛ. У ім Дэлягардзі паведамляў, што праз відавочна пацьверджаную варожасьць польскага караля швэдзкае войска ўваходзіць у Літву і будзе заставацца там пэўны час. Кароль Швэцыі гарантуе бясьпеку і абарону ўсёй літоўскай шляхце, мяшчанам і сялянам, абяцае не разбураць маёнткаў і забясьпечыць рэлігійную свабоду. У той жа час ён папярэджвае, што будзе абыходзіцца з усімі, хто выкажа супраціў, як з ворагамі[448]. Такім чынам, швэдзкае ўварваньне ў Літву магло разгарнуцца да пачатку перамоваў.

2 жніўня 1655 г. у Біржы прыбыў пасол Дэлягардзі — рыскі купец Міхаэль Хорст. Тутэйшы староста Крыштап Стрыжка, згодна з жаданьнем Радзівіла і шляхты, прызнаў уладу Карла X Густава. Хорст прывёз з сабой зварот Дэлягардзі да насельніцтва ВКЛ, які меркавалася скарыстаць у мэтах прапаганды.

5 жніўня 1655 г. пасол Габрыель Любянецкі прывёз вышэйзгаданы ліст ад 28 ліпеня 1655 г. з прыкладзеным мэмарандумам у Рыгу. У мэмарандуме Радзівіл прымаў прапанову Карла X Густава аб пераходзе ВКЛ пад уладу апошняга і перадаваў яму і яго спадкаемцам тытул вялікага князя[449]. Гэта быў акт здрады Польшчы. На думку Дэлягардзі, менавіта прапановы Радзівіла, а ня ліст, напісаны сумесна зь віленскім біскупам, адпавядалі патрэбам швэдзкай палітыкі. Таму

[445] Януш Радзівіл — каралю і вялікаму князю Яну Казіміру. 28 ліпеня 1655. Вільня. Па-польску. CL. 2105/IV/2. F. 329—330.

[446] Януш Радзівіл — каралю і вялікаму князю Яну Казіміру. 1жніўня 1655. Нямежа. Па-польску. CL. 2105/IV/2. F. 317—320.

[447] Tyla. Kėdainių sutarties vertinimas XVII a. P. 63.

[448] SACRAE REG. MAJEST. REGNORUMQUE Senator... NOS MAGNUS GABRIEL DE LA GARDIE Vniversis ac singulis M. Ducatus Lithvaniae Ordinibus Civitabus, ac Incolis. Dab in Arce Rigensi, die 24 Julii, Anno 1655. KB. F. 1700. Fol. Kungsskrivelser. 1 c.

[449] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 47—49.

Дэлягардзі адкінуў «прапановы біскупа віленскага», але на аснове мэмарандуму пачаў перамовы зь Любянецкім[450]. 10 жніўня 1655 г. Дэлягардзі і «паўнамоцны пасол Януша і Багуслава Радзівілаў» Любянецкі падпісалі першы варыянт «Умоваў», на якіх Радзівілы прымалі швэдзкую пратэкцыю. Дэлягардзі прызнаў, што пры абмеркаваньні мелі месца спрэчкі. Напрыклад, пасол адмоўна паставіўся да фармулёўкі «Літва пад уладай швэдзкага караля» і прапанаваў больш дыпляматычнае азначэньне «пратэктарат». Ва «Ўмовах» не вызначалася становішча літоўскай арыстакратыі, але Радзівілы менаваліся вышэйшымі літоўскімі ўраднікамі. «Умовы» прадугледжвалі распрацоўку канчатковага пагадненьня. Радзівілы прызнавалі Карла X Густава вялікім князем літоўскім і прымалі яго ўладу над ВКЛ. Яны абяцалі быць вернымі швэдзкаму каралю і яго наступнікам. Гетман пагаджаўся перадаць сваё войска пад камандаваньне швэдзкіх генэралаў. Ён не пярэчыў супраць разьмяшчэньня швэдзкіх войскаў у Літве, а таксама супраць пераходу Біржаў і іншых стратэгічна важных замкаў Швэцыі. З свайго боку, Швэцыя абавязвалася абараняць уладаньні Радзівілаў і іх нашчадкаў (прынамсі, не акупаваныя Расеяй і Ўкраінай), гарантаваць рэлігійную свабоду і бясьпеку гандлю ды падтрымліваць дысцыпліну сярод швэдзкіх вайскоўцаў. Артыкулы 4, 8 і 9 «Умоў» прадугледжвалі адмысловыя прывілеі для Радзівілаў, у прыватнасьці наданьне тытулу князёў Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі і права на валоданьне Нясьвіжам — горадам, які належаў каталіцкай галіне роду[451].

10 жніўня (31 ліпеня) 1655 г. Дэлягардзі падпісаў два дакумэнты, раздрукаваныя і выдадзеныя Любянецкаму ды афіцэрам лівонскай арміі перад яе паходам на Літву. Абодва дакумэнты раскрывалі таемныя прыгатаваньні да заключэньня дагавору паміж ВКЛ і Швэцыяй. Першы — адказ Дэлягардзі на просьбу біскупа Тышкевіча і князёў Радзівілаў[452]. Дэлягардзі пісаў, што ён даведаўся зь ліста літоўскіх вышэйшых ураднікаў пра крытычнае становішча, у якім апынулася іх бацькаўшчына, і разумее, што ім патрэбна дапамога. Згодна зь мірнай угодай, армія швэдзкага караля ўвайшла на землі польскага караля. Але як літвіны просяць швэдзкага караля аб дапамозе, яго войска ўвойдзе ў Літву не як мсьціўца, а як збаўца. Швэцыя працягне руку дапамогі толькі ў тым выпадку, калі ўсе літоўскія станы прымуць прыкладзеныя ўмовы. У адваротным выпадку літвіны будуць разглядацца як праціўнікі.

Другі дакумэнт уяўляў зь сябе выдрукаваныя «Ўмовы», адрэдагаваныя швэдзкім бокам. Згодна з гэтымі папраўленымі «Ўмовамі», уся тэрыторыя ВКЛ пераходзіла пад швэдзкі пратэктарат. Лягічна, што ў новай вэрсіі апускаліся апісаньне прывілеяў і імёны Радзівілаў і пакідаліся толькі палажэньні, што датычыліся лёсу ВКЛ[453].

[450] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 2. P. 89.

[451] Konopczynski i Lepszy, Kazimierz. Akta Ugody Kiedanskiej. P. 182—183.

[452] Responsum Illustrisimi ac Excellentisimi Domini, Domini MAGNI GABRIELIS de la Gardie…ad Reverenisimum, Celsisimos et Illustrisimos Episcopum Vilnensem, Bogislaum & Janissium, Duces Razivilios &c, &c. Arce Rigensi [Riga], die 31. Julij, Anno 1655. RA. Vol. M. 1304. Друк. 1 с.

У прэамбуле генэрал-губэрнатар Лівоніі ад імя швэдзкага караля абвяшчаў, што той прымае літоўскую шляхту, мяшчан і простых людзей пад апеку Швэцыі. Кароль абяцаў добра зь імі абыходзіцца і гарантаваў абарону ад ворагаў. Аднак, каб гэтыя ўмовы набылі моц, кожны меўся падпісаць ніжэйвыкладзеныя артыкулы ў вызначаны тэрмін. Паводле першага артыкулу, усе падпісанты павінны прызнаць швэдзкага караля і яго спадкаемцаў вялікімі князямі Літоўскімі. Згодна з другім артыкулам, літоўскае войска ўваходзіла ў склад швэдзкай арміі. Трэці артыкул прадугледжваў, што ВКЛ харчова і фінансава забясьпячвае швэдзкае войска, пакуль яно знаходзіцца ў Літве. Чацьвёрты артыкул перадаваў Біржайскі замак пад уладу лівонскага генэрал-губэрнатара ці яго прадстаўнікоў. Артыкул 5 вызначаў правы швэдзкага караля на ўсе каралеўскія ўладжаньні ў ВКЛ. Згодна з артыкулам 6, генэрал-губэрнатар ад імя караля абавязваўся абараняць літвінаў, якія падпісалі гэтыя ўмовы. Ён таксама абавязваўся абараняць іх маёнткі ад расейцаў і казакоў. У артыкуле 7 генэрал-губэрнатар гарантаваў свабоду веравызнаньня, пацьверджаную каралём Швэцыі. Згодна з артыкулам 8, арміі забаранялася рабаваць і разбураць гарады і замкі, што пераходзілі пад яе абарону; таксама даваліся гарантыі свабоды гандлю з суседнімі краінамі. У артыкуле 9 генэрал-губэрнатар гарантаваў правы, свабоды і статус усіх, хто падпісаў пагадненьне, і абацаў, што ў будучых перамовах Швэцыі з Рэчч у Паспалітай будуць удзельнічаць прадстаўнікі ВКЛ. Артыкул 10 абвяшчаў, што вышэйакрэсьленыя ўмовы падпісаныя Магнусам Дэлягардзі. Паводле артыкулу 11, усе тыя, хто іх не прыняў, мусяць разглядацца як ворагі сваёй айчыны, а іх землі і маёмасьць падлягаюць канфіскацыі. Карл X Густаў вельмі высока ацаніў дакумэнт, распрацаваны Дэлягардзі. У лісьце апошняму кароль пісаў: «Я проста не магу знайсьці словаў, каб ацаніць тую вернасьць абавязку і абачлівасьць, зь якімі мой мілы швагер падпісаў пагадненьне з Радзівіламі», — і прасіў арыгінал дакумэнту для далейшага абмеркаваньня[454].

Пакуль выпрацоўваліся згаданыя ўмовы, Расея і Ўкраіна 8 жніўня 1655 г. занялі Вільню. Здавалася б, у такой сытуацыі літоўскія магнаты і шляхта мусілі б прыняць умовы швэдаў безь якіх-небудзь агаворак. Аднак гэтага ня здарылася. 11 жніўня Любянецкі, атрымаўшы ўзнагароду — залаты мэдальён з выявай Карла X Густава, выправіўся ў Літву з тэкстам «Умоў»[455]. 14 жніўня Любянецкі прыбыў у Жэймы, каб там сустрэцца зь Янушам Радзівілам. Аднак 15 жніўня той, адказваючы на ліст Дэлягардзі, увогуле не згадаў пра швэдзкую рэдакцыю «Ўмоў». У дыпляматычных агульных фразах ён дзякаваў Дэлягардзі за цёплы прыём, наладжаны яго паслу, і падкрэсьліваў, што будзе спрабаваць дамагчыся згоды літоўскага народу на пераход пад швэдзкую пратэкцыю. На гэта хопіць двух дзён,

453 SACRAE REG. MAJEST. REGNORUMQUE SVECIAE SENATOR AC THESAURARIUS, GENERALIS Ducatus Livoniae... NOS MAGNUS GABRIEL DE LA GARDIE ...Vniversis acsingulis M. D. Lithvaniae ordinib. Dab. Arce Rigensi, [Riga], die 31.Julij, Anno 1655. RA. Vol. M. 1304. Друк. 2 с.

454 Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 35.

455 Konopczynski i Lepszy. Akta Ugody Kiedanskiej. P. 182.

і ён упэўнены, што атрымае згоду літоўскай шляхты, але наўрад ці віленскі біскуп і іншыя сэнатары здолеюць так хутка прыбыць у Кейданы. Тым ня менш, Радзівіл выказваў пажаданьне, каб швэдзкае войска як мага хутчэй увайшло ў Літву і ўмацавала абарону Коўна. Ён прапаноўваў, каб швэды ўступалі ў Літву як на зямлю свайго караля[456].

16 жніўня 1655 г. у штаб-кватэры літоўскага войска, раскватараванай паміж Кейданамі і Ясвойнамі, адбылося абмеркаваньне прапанаваных Швэцыяй умоў. Камандзіры войска і афіцэры сабраліся ў палацы генэрала артылерыі Мікалая Юдзіцкага, што знаходзіўся за 12 кілямэтраў ад Кейданаў[457]. 17 жніўня 1655 г. тут былі падпісаны 12 артыкулаў «Дэклярацыі»[458].

«Дэклярацыя» — гэта адказ на швэдзкія «Ўмовы» ад 10 жніўня 1655 г. Калі іх параўнаць, робіцца зразумела, што літвіны значна скарэктавалі і пашырылі першапачатковыя швэдзкія палажэньні. Гэтыя зьмены пададзеныя ў наступнай табліцы. Дапаўненьні, якія рабілі больш выгадным становішча літоўскага войска і шляхты, вылучаныя тлустым шрыфтам.

**Табліца 1** (скарочаны пераклад з лацінскай мовы)

| | |
|---|---|
| 1. Гэнэрал-губэрнатар Лівоніі [Магнус Габрыель Дэлягардзі] ад імя караля Швэцыі прымае літоўскую шляхту, мяшчан і простых людзей пад сваю каралеўскую ўладу. Кароль абяцае ім добрае абыходжаньне і гарантуе абарону ад усіх ворагаў. Аднак для выкананьня гэтага пункту кожны павінен падпісаць ніжэйвыкладзеныя артыкулы ў вызначаны час. | **Мы, шляхта і іншыя станы ВКЛ, з увагі на пагрозу ўварваньня, застаўшыся без ваеннай дапамогі ды абароны караля Польшчы, мусім далучыцца да аднаго з бакоў, а менавіта караля Швэцыі, і захоўваць непарушную вернасьць і паслушэнства каралю Швэцыі як вялікаму князю літоўскаму і свайму гаспадару, засьведчыўшы гэта сваімі подпісамі і пячаткамі пад гэтым дакумэнтам ад свайго імя, а таксама ад імя нашых нашчадкаў, з тым каб Яго Сьветласьць [Дэлягардзі] ад імя караля падпісаў гэты дакумэнт і абавязаўся ў належны час ратыфікаваць і зацьвердзіць яго разам са сфармуляванымі Яго Сьветласьцю ніжэйпададзенымі ўмовамі, дапоўненымі намі згодна з нашай цяперашняй сытуацыяй.** |

[456] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 58.

[457] Wasilewski. Zdrada Janusza Radziwiłła. P. 137.

[458] Nos Proceres et Ordines Magni Ducatus Lithvaniæ infrascripti notum testatumqve facimus. Quandoqvidem in hac Status Nostri per potentiam hostilem oppressione, et ab armis ac protectione Serenissimi Poloniæ Regis infelici avulsione, fatalis qvædam et prorsus inevitabilis necessitas nos urgeat, nec alius conservandi Status nostri modus supersit, qvam ut alterutri bello Nos prementium parti adhærere et res ac fortunam Nostram committere cogamur; Sacræ autem Regiæ Majestatis Serenissimi ac Potentissimi Principis ac Domini Domini Caroli Gustavi Svecorum, Gotthorum, Vandalorumque Regis. RA. Vol. M. 1304. 19 с. Арыгінал. Тэкст на с. 1—7. Подпісы на с. 7—19. С. 20 пустая.

| | |
|---|---|
| 2. Войска ВКЛ пераходзіць у распараджэньне швэдзкага караля і далучаецца да швэдзкіх атрадаў. | **Усе ўзброеныя сілы пераходзяць у распараджэньне швэдзкага караля і далучаюцца да швэдзкіх атрадаў** бяз шкоды для караля Польшчы і Польскага каралеўства. |
| 3. Жыхары ВКЛ павінны дбаць, каб швэдзкая каралеўская армія, якая на гэты час займае Літву, была забясьпечана правіянтам і грашыма. | Усе жыхары ВКЛ павінны дбаць, каб швэдзкая каралеўская армія, якая на гэты час займае Літву, была забясьпечана правіянтам і грашыма. **Аднак мусіць улічвацца становішча спустошаных і разбураных паветаў, як і паветаў з заняпалай гаспадаркай; перадусім мусіць кампэнсавацца запазычанасьць літоўскаму войску і яго гарнізонам, у тым ліку грашовыя выплаты і пастаўкі правіянту.** |
| 4. Біржайскі замак пераходзіць пад уладу Яго Сьветласьці каралеўскага генэрал-губэрнатара ці яго прадстаўнікоў. | Біржайскі замак можа перадацца пад уладу Яго Сьветласьці каралеўскага генэрал-губэрнатара ці яго прадстаўнікоў **толькі з умоваю яго вяртаньня адразу па заканчэньні вайны.** |
| 5. Прызнаюцца ўсе правы швэдзкага караля на дзяржаўныя землі, што належалі папярэднім каралям і вялікім князям літоўскім. | Усе каралеўскія прывілеі і правы на дзяржаўныя землі, у тым ліку права на іх разьмеркаваньне, прызнаюцца за каралём Швэцыі гэтак жа, як было за каралямі польскімі і вялікімі князямі літоўскімі, **з захаваньнем, згодна з статутамі, законамі і традыцыямі ВКЛ, перш за ўсё поўных правоў рыма-каталіцкага касьцёлу, грэцкай царквы абодвух абрадаў [праваслаўнай і ўніяцкай], іх прывілеяў і традыцый, гэтаксама як правоў на зямельныя ўладаньні рыцараў Мальтыйскага ордэну.** |
| 6. Генэрал-губэрнатар ад імя швэдзкага караля бярэ пад сваю апеку ліцьвінаў, якія падпісалі гэтыя ўмовы, і гарантуе абарону іх уладаньняў, не акупаваных маскавітамі і казакамі. | З падзякай прымаецца апека і абарона каралеўскага генэрал-губэрнатара, які дзейнічае ад імя швэдзкага караля, над усёй рухомай і нерухомай маёмасьцю, а таксама зямельнымі ўладаньнямі ВКЛ, дагэтуль не акупаванымі маскавітамі і казакамі, з **умоваю, што кароль па вызваленьні гарантуе вяртаньне ўсіх акупаваных зямель, у тым ліку акупаваных тэрыторыяў у Інфлянтах [літоўска-польскіх], іх першапачатковым уладальнікам.** |
| 7. Генэрал-губэрнатар гарантуе свабоду веравызнаньня ў ВКЛ, што пацьвердзіць швэдзкі кароль. | Таксама прымаецца зь вялікай падзякай абяцаньне рэлігійных свабод у ВКЛ. **Аднак, згодна зь літоўскімі законамі, павінны шанавацца прывілеі, правы, недатыкальнасьць, звычаі і традыцыі ўсіх рэлігійных установаў і іх чальцоў у кожным павеце ВКЛ. Перадусім павінны непарушна захоўвацца і безумоўна выконвацца прэрагатывы рыма-каталіцкага касьцёлу, яго ярархаў-сэнатараў, а таксама юрысдыкцыя яго ордэнаў.** |

8. Абяцана забараніць швэдзкай арміі рабаваць і разбураць гарады і замкі, што знаходзяцца пад яе абаронай; таксама гарантуецца свабода гандлю і дачыненьняў з суседнімі краінамі.

Мы, літвіны, таксама прымаем гарантыі захаваньня бясьпекі і свабоды ўнутраных і зьнешніх гандлёвых шляхоў і патрабуем ад швэдзкіх жаўнераў выкананьня вайсковай дысцыпліны.

9. Генэрал-губэрнатар гарантуе захаваньне правоў, свабод і статусу ўсіх, хто падпісаў гэты дакумэнт, і абавязваецца забясьпечыць удзел літоўскіх прадстаўнікоў у будучых перамовах паміж Польшчай і Швэцыяй.

Прызнаючы, што наканаваньнем лёсу і Божай воляй ВКЛ пераходзіць пад уладу караля Швэцыі, літвіны патрабуюць гарантый, што ВКЛ **будзе не інкарпаравана ў склад Каралеўства Швэцыі, а аб’яднана зь ім на такіх самых умовах, на якіх яно дагэтуль было злучана з Каралеўствам Польскім: ва ўсім будуць роўныя Народ з Народам, Сэнат з Сэнатам, Шляхта з Шляхтай; што абодва народы захаваюць свае ўласныя правы, статуты і традыцыі. Літвіны патрабуюць, каб месца правядзеньня Соймаў абодвух народаў супольнай фэдэрацыі было [геаграфічна] прымальным для абодвух бакоў. І перш за ўсё швэдзкі кароль хай паабяцае вярнуць ВКЛ і яго жыхарам усё страчанае і забранае ў час вайны, а літоўскі народ абяцае прыкласьці ўсе намаганьні, каб паспрыяць гэтаму.**

10. Гэтыя ўмовы зацьверджаны подпісам і пячаткай Магнуса Дэлягардзі.

Літоўскі народ ухваляе гэтыя ўмовы і ўласнаручна падпісвае іх, пры ўмове, што **ўсе не прысутныя тут атрымліваюць магчымасьць падпісаць іх у любы момант і што датуль яны ня будуць разглядацца як ворагі.**

11. Усе, хто ня прыме вышэйпададзеныя ўмовы, будуць разглядацца як ворагі айчыны, а іх зямельныя ўладаньні і маёмасьць — падлягаць канфіскацыі.

Жыхары ВКЛ пагаджаюцца на перадачу ў скарбніцу швэдзкага караля маёмасьці тых, хто парушыць або адмовіцца падпісаць умовы, выпрацаваныя па ўзаемнай згодзе абодвума бакамі. **Яны патрабуюць кампэнсацыі за зямельныя ўгодзьдзі ўладальнікам, пазбаўленым маёмасьці Маскоўскай дзяржавай, за кошт канфіскаванай маёмасьці ворагаў ці каралеўскай скарбніцы. Аднак да нязгодных не павінны ставіцца як да ворагаў; іначай шмат хто зь іх пяройдзе на бок Масковіі. Таксама жыхары ВКЛ хочуць, каб Яго Сьветласьць ад імя швэдзкага караля паведаміў Вялікаму Княству Маскоўскаму і ўсім яго войскам, што ВКЛ перайшло пад апеку Сьвятой Каралеўскай Мосьці манарха Швэцыі, і запатрабаваў ад маскавітаў спыніць усялякую варожую дзейнасьць супраць ВКЛ, адмовіцца ад намераў аблогі і**

**зьняць ужо наяўную аблогу вакол гарадоў і замкаў. Маскавіты павінны адвесьці свае войскі з усіх паветаў па гэты бок Дняпра і спыніць казацкія набегі. Калі маскавіты працягнуць спустошэньне ВКЛ або будуць працягваць аблогу гарадоў ці ў умацаваных замкаў, швэдзкія атрады разам зь літоўскім войскам павінны выступіць супраць Масковіі і абараніць гарады, якія прымуць апеку Швэцыі. Калі кароль Швэцыі пажадае міру і пачнуцца перамовы паміж двума каралямі і двума каралеўствамі [Швэцыяй і Польшчай], ВКЛ павінна ўдзельнічаць у гэтых перамовах нароўні з Польшчай. Пасьля будучага замірэньня з Польшчай тыя, хто прысягнуў на вернасьць каралю Швэцыі, мусяць мець права выбару паміж двума бакамі [Швэцыяй і Польшчай] і права прадаць свае маёнткі і маёмасьць. Калі ў час перамоваў Швэцыя пойдзе на нейкія саступкі Польшчы, адпаведныя саступкі мусяць рабіцца і Вялікаму Княству Літоўскаму. Аднак калі здарыцца так, што Каралеўства Польскае скончыць вайну, падпісаўшы мірнае пагадненьне на горшых умовах, чым Вялікае Княства Літоўскае, мы не пагаджаемся прызнаваць гэтыя ўмовы з уласнай волі, а толькі калі так пастановіць вальны Сойм паводле ўзаемнай згоды між Яго Каралеўскай Мосьцю манархам Швэцыі і станамі Вялікага Княства Літоўскага.**

Патрабаваньні, выстаўленыя літоўскай арыстакратыяй і вайскоўцамі ў зьмененым варыянце дамовы з Швэцыяй, адрозьніваюцца ад першапачатковых «Умоў» тым, што да іх дадаліся наступныя пункты:

1) шукаць альянсу з Швэцыяй, да якой раней ставіліся як да варожай краіны, ВКЛ прымусілі расейская агрэсія і адсутнасьць польскай ваеннай дапамогі;

2) войска ВКЛ ня будзе ваяваць супраць Польшчы;

3) швэдзкая армія ў Літве будзе забясьпечвацца правіянтам толькі пасьля выплатаў літоўскаму войску;

4) Біржайскі замак будзе вернуты Літве пасьля вайны;

5) кароль Швэцыі гарантуе поўную свабоду непратэстанцкім хрысьціянскім канфэсіям — абедзьвюм галінам каталіцкай царквы і праваслаўнай царкве, — а таксама захаваньне правоў Мальтыйскага ордэну;

6) Швэцыя вызваліць паветы Літвы і польска-літоўскіх Інфлянтаў, акупаваныя Расеяй і казакамі;

7) чатыры рыма-каталіцкія біскупы захаваюць годнасьць сэнатараў;

8) замест падпарадкаваньня Літвы Швэцыі краіны ўтвараюць дзяржаўную унію

ў выглядзе фэдэрацыі раўнапраўных партнэраў;

9) швэдзкая адміністрацыя паведаміць Расеі пра пераход Літвы пад уладу Карла X Густава;

10) Швэцыя выставіць ультыматум Расеі і Ўкраіне з патрабаваньнем тэрмінова адвесьці войскі за Дняпро;

11) калі расейцы або ўкраінцы адмовяцца, аб'яднанае швэдзка-літоўскае войска пачне супраць іх вайну;

12) Літва прызнаецца раўнапраўным партнэрам на любых будучых перамовах паміж Швэцыяй і Польшчай;

13) літвінам, якія не падтрымліваюць унію з Швэцыяй, даецца час, каб прыняць канчатковае рашэньне, а таксама даецца права пакінуць Літву па заключэньні міру паміж Швэцыяй і Польшчай.

Каб зразумець, у якой ступені займела падтрымку прапанаваная «Дэклярацыя» і хто складаў яе сацыяльна-эканамічную базу, варта прааналізаваць кола тых, хто паставіў пад ёй свае подпісы. Усяго гэта каля 550 шляхціцаў з розных паветаў. Першымі падпісаліся літоўскія вайсковыя камандзіры і афіцэры. Дэклярацыя адкрываецца подпісам і дзяржаўнай пячаткай вялікага гетмана Януша Радзівіла. За ім ідзе Вінцэнт Гасеўскі, палявы гетман літоўскага войска і генэрал другой дывізіі. Далей — сэнатар Яўстах Кердзей-Радзіваноўскі, кашталян жамойцкі. Наступны — біскуп-суфраган віленскі і скарбовы пісар літоўскі Юры Белазор — прадстаўнік каталіцкай царквы; ён паставіў на дакумэнце толькі сваю асабістую пячатку. Затым зноў ідуць афіцэры літоўскага войска: надворны харунжы літоўскі, староста гомельскі і прапойскі палкоўнік Зыгмунт Слушка; вялікі абозны літоўскі і староста вількамірскі палкоўнік Самуэль Камароўскі; староста ашмянскі Адам Саковіч; староста мазырскі Ўладзіслаў Халецкі; харунжы троцкі Марцыян Агінскі; генэрал артылерыі Мікалай Юдзіцкі; харунжы смаленскі Ян Храпавіцкі; староста гульбінскі ротмістар Рыгор Падбярэскі; палкоўнік Эрнст Ян Корф; ротмістар Казімер Тышкевіч; падпалкоўнік, ачольнік нямецкага палка Ёган Атэнгаўз; падчашы ашмянскі Стафан Біліковіч; ротмістар літоўскага казацкага палка Аляксандар Мяжэнскі; стольнік троцкі Ян Быхавец; падпалкоўнік Мацей Гасеўскі; ротмістар Самуэль Высоцкі; князь Міхал Пац (ён падпісаўся як сын ваяводы троцкага); ротмістар Абрам Язафат Крайскі; палкоўнік Канстанцін Паклонскі; ротмістар Пётар Ляцкі. За імі ідуць подпісы шасьці лівонскіх афіцэраў на службе ВКЛ, у тым ліку Тобіяса Попэля і Ёгана фон Брадсасэна.

Пасьля афіцэраў ідуць упіцкія, вількамірскія і жамойцкія ўраднікі. Так, дзесяць подпісаў паставілі ўраднікі Вількамірскага павету — земляў, дзе ў палітыцы вялі рэй Радзівілы. Першым ідзе подпіс зь пячаткай Яна Мяжэнскага, блізкага паплечніка Радзівіла і маршалка гэтага павету. Затым ідуць харунжы палкоўнік Ільля Камароўскі, земскі судзьдзя Станіслаў Белазор, стольнік Салямон Давідовіч, князь Геранім Пац — сын троцкага ваяводы, падстолі Казімер Даўмонт Сясіцкі і пісар вількамірскі Андрэй Качынскі.

Першым з упіцкіх ураднікаў падпісаўся харунжы Станіслаў Дубскі; за ім ідуць судзьдзя гродзкі віленскі (хоць ён і жыў ва Ўпіце) Андрэй Курбскі, судзьдзя земскі

Павал Марцінкевіч, падсудак Уладзіслаў Млечка, Уладзіслаў Сіцінскі, пісар гродзкі Ян Яраслаўскі-Курбскі, ротмістар ейшышцкі Ян дэ Парыюш Кольнікі-Калецкі і скарбнік упіцкі Міхал Валмінскі.

Подпісы жамойцкай шляхты аб'яднаны пад рубрыкай «Ад імя Жамойцкага княства, пры ўмове захаваньня адмысловых правоў і прывілеяў нашага княства». Гэтая агаворка мела на мэце падкрэсьліць асаблівы статус Жамойці і незалежную пазыцыю яе шляхты ў дачыненьні да Радзівілаў. Першым паставіў свой подпіс харунжы жамойцкі і цівун Дзірванянаў Ян Гружэўскі. За ім — цівун Ясвойнаў Уладзіслаў Война, цівун Паюраў Геранім Крысьпін Кіршанштайн і сын кашталяна жамойцкага Ўладзіслаў Яўстах Кердзей-Радзівановіч.

Асобны сьпіс складаюць тыя, каму давялося пакінуць свае занятыя расейскім войскам землі, а таксама ўраднікі і шляхта з розных паветаў. Зь іх каля дваццаці чалавек ашмянцаў. Іншыя — з амаль усіх астатніх паветаў: Віленскага, Мазырскага, Смаленскага, Старадубскага, Браслаўскага, Рэчыцкага, Амсьціслаўскага, Віцебскага, Аршанскага, Наваградзкага, Гарадзенскага, Полацкага, Лідзкага і Менскага. Сярод высокапастаўленых асобаў, што паставілі свае подпісы, — Казімер Марцін Масон, генэрал ордэну кармэлітаў у Літве; харунжы ковенскі Мікалай Скарульскі, пісар скарбовы і войскі старадубскі Самуэль Кацёл, войскі віленскі Юры Дэспат-Зяновіч, земскі судзьдзя мазырскі Пётар-Ян Падбіпята, стольнік наваградзкі Альбрыхт Дэмбоўскі і іншыя. Прадстаўленыя і інтарэсы шляхцянак. Напрыклад, харунжы полацкі Казімер Корсак падпісаўся ад імя багатай жамойцкай землеўладальніцы «пані Аляксандры Кляноўскай-Радзімінскай, удавы берасьцейскага ваяводы». Корсак, прадстаўнік старажытнага роду заможных купцоў з Полацку, нечакана дадаў на апошняй старонцы, што ён пераходзіць у швэдзкае падданства і ўласнаручна падпісвае «Дэклярацыю», «маючы сваю маёмасьць у ваяводзтве Полацкім, у руках Маскоўскіх, а на гэты час тут будучы як выгнанец».

Большасьць уплывовых падпісантаў (ураднікаў, вайскоўцаў і мясцовых адміністратараў) былі пратэстантамі і клиентамі Януша ды Багуслава Радзівілаў. Сярод іх Зыгмунт Слушка, Самуэль Камароўскі і яго брат Ільля Камароўскі, Адам Саковіч, Уладзіслаў Халецкі, Ян Храпавіцкі, Эрнст Ян Корф, Ёган Атэнгаўз, Ян Мяжэнскі і яго брат Аляксандар Мяжэнскі, Самуэль Высоцкі, Салямон Давідовіч, Казімер Даўмонт Сясіцкі, Станіслаў Дубскі, Павал Марцінкевіч, Уладзіслаў Сіцінскі, Міхал Валмінскі і Альбрыхт Дэмбоўскі. «Дэклярацыю» таксама падпісала праваслаўная шляхта, набліжаная да Радзівілаў: Марцыян Агінскі, Ян Быхавец, Канстанцін Паклонскі і Андрэй Курбскі. Яны прадыктавалі пяты артыкул, які гарантаваў правы праваслаўнай царквы і рабіў Карла X Густава заступнікам Беларускай япархіі. Прысутнасьць беларускага палкоўніка Канстанціна Паклонскага выклікала рэзкі пратэст жамойцкай шляхты, бо па дарозе ў Кейданы казакі Паклонскага разрабавалі каталіцкі касьцёл у Сапежышках. Толькі аўтарытэт Радзівіла прымусіў жамойцкую шляхту зьмірыцца з прысутнасьцю казацкага палкоўніка[459].

[459] Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 210.

На наступны дзень пасьля падпісаньня «Дэклярацыі» Радзівіл выслаў Дэлягардзі арыгінал праз свайго пасла Любянецкага. Ён дадаў да яе сьпіс найбольш надзейных літоўскіх хаўрусьнікаў Швэцыі, «таварышаў і сяброў, якім можна даваць і якіх можна рэкамэндаваць каралю за іх вялікія заслугі і цёплыя пачуцьці да яго, а найлепшы зь іх Ян Мяжэнскі»[460].

У сьпісе Радзівіла — 22 асобы:

Юры Тышкевіч, рыма-каталіцкі біскуп віленскі;
Юры Глябовіч, староста жамойцкі;
Крыштап Патоцкі, стольнік літоўскі;
Рыгор Мірскі, вялікі стражнік літоўскі;
Зыгмунт Слушка, надворны харунжы літоўскі;
Самуэль Камароўскі, вялікі абозны літоўскі;
Адам Саковіч, староста ашмянскі;
Ян Мяжэнскі, маршалак вількамірскі;
Юры Нямірыч, падкаморы кіеўскі;
Уладзіслаў Халецкі, староста мазырскі;
Ян Храпавіцкі, харунжы смаленскі;
Габрыель Гулевіч, харунжы чарнігаўскі;
Андрэй Курбскі, судзьдзя гродзкі віленскі;
Салямон Давідовіч, стольнік вількамірскі;
Ян Быхавец, стольнік троцкі;
Альбрыхт Дэмбоўскі, стольнік наваградзкі;
Эрнст Ян Корф, палкоўнік;
Ёган Атэнгаўз, падпалкоўнік;
Аляксандар Мяжэнскі, ротмістар літоўскай казацкай харугвы;
Самуэль Юшкевіч, ротмістар вугорскай харугвы;
Самуэль Высоцкі, ротмістар пяхотнага палка;
Крыштап Стрыжка, падчашы ўпіцкі.

За выключэньнем біскупа віленскага і старосты жамойцкага, большасьць асоб у гэтым сьпісе былі пратэстантамі і вядомымі фігурамі літоўскай апазыцыі. Трынаццаць зь іх падпісалі «Дэклярацыю». Непратэстанцкая шляхта ў сьпісе — кліенты Радзівілаў. Некаторыя зь пералічаных Радзівілам не змаглі падпісаць «Дэклярацыю», бо іх не было ў вайсковым лягеры пад Кейданамі. Аднак шмат высокапастаўленых ураднікаў баяліся падпісаць гэты дакумэнт, бо гэта быў рызыкоўны палітычны крок, ці адмовіліся паставіць свае подпісы з палітычных меркаваньняў. Сярод іх — вялікая група жамойтаў, у тым ліку каталіцкі біскуп жамойцкі Пётар Парчэўскі, сэнатар Юры Глябовіч, староста

[460] Януш Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 18 жніўня 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

Ясвойнаў Аляксандар Юдзіцкі і пісар літоўскі Ян Станкевіч[461]. Усе яны былі каталікі.

Адзін з ініцыятараў перамоў з швэдамі — біскуп Юры Тышкевіч — 4 жніўня 1655 г. атрымаў ліст ад польскага караля. Пасьля гэтага ён адмовіўся падтрымліваць альянс з Швэцыяй. На загад Яна Казімера ён наўзамен зьвярнуўся да польнага гетмана ўкраінскіх казакоў Івана Залатарэнкі з прапановай перамір'я. Пасярэднікамі пагадзіліся выступіць пасьлы імпэрыі Габсбургаў. Тышкевіч прасіў Залатарэнку спыніць ваенныя дзеяньні. 5 жніўня Тышкевіч накіраваў аналягічную прапанову расейскаму ваяводу Якаву Чаркаскаму[462]. Калі маскоўскія войскі занялі Вільню, Тышкевіч уцёк у Прусію. Ён адмовіўся зьявіцца ў Кейданы і прызначыў сваімі прадстаўнікамі Юр'я Белазора і Юр'я Валовіча[463]. Пасьля падпісаньня «Дэклярацыі» Радзівіл даслаў Тышкевічу адну з копій разам з адказам ад Дэлягардзі. Радзівіл папрасіў біскупа падпісаць дэклярацыю і прыбыць у Літву для далейшых перамоваў. Ён асабліва падкрэсьліваў, што «Дэклярацыя» гарантавала ўсе свабоды рыма-каталіцкай царкве[464]. Тым ня менш, біскуп адмовіўся ад гэтых прапаноў. З Прусіі ён адказаў, што лічыць пагадненьне заўчасным і ня хоча, пакваліўшыся на абяцаньні швэдаў, скасоўваць унію з Польшчай: «Гэтай капітуляцыяй мы разрываем *Сьвятую Унію з Польшчай,* у непарушнасьці якой кляліся нашы продкі; на тых з нас, хто падпіша гэты дакумэнт, навекі ляжа зьнішчальнае кляйно за здраду свайму каралю і сваёй Айчыне»[465]. Відавочна, што сваёй айчынай Тышкевіч лічыў Рэч Паспалітую. Радзівіл жа сваёй — найперш Літву. Унію з Польшчай ён разглядаў як тактычны альянс, заключаны незалежнай Літвой. Тышкевіч, наадварот, быў перакананы, што «Сьвятая Унія» злучыла дзьве дзяржавы навекі. Для Тышкевіча унія з Швэцыяй увасабляла капітуляцыю і дзяржаўную здраду. Для Радзівіла ж гэта было проста заключэньне новага саюзу і стварэньне новай фэдэрацыі на ўзор папярэдняй. Урэшце, як мы бачылі раней, сапраўднымі «здраднікамі бацькаўшчыны» Радзівіл лічыў тых літвінаў, хто выступаў супраць уніі з Швэцыяй. Гэтыя дыямэтральна супрацьлеглыя погляды адлюстроўвалі супярэчлівасьць і зьменлівасьць у стаўленьні літоўскай эліты да «Дэклярацыі».

Чаму ж Радзівіл уключыў Тышкевіча і Глябовіча ў пералік прыхільнікаў ідэі літоўска-швэдзкай фэдэрацыі? Па-першае, ён імкнуўся паказаць швэдзкім палітыкам, што каталіцкія сэнатары таксама знаходзяцца на швэдзкім баку. Па-другое, Радзівіл лічыў, што ход падзей і яго асабісты ўплыў урэшце прымусяць сэнатараў-каталікоў далучыцца да уніі. З другога боку, той факт, што ня ўсе сэнатары прынялі унію, даў бы Швэцыі зразумець, што ў альянсу ёсьць уплывовыя апанэн-

[461] Wisner. Rok 1655 w Litwie: pertraktacje ze Szwecją. P. 94.

[462] Тамсама. С. 89.

[463] Тыла. Кейданская уния 1655. С. 74.

[464] Kubała. Wojna szwecka. P. 395. Note 47; Wisner. Rok 1655 w Litwie. P. 93.

[465] Frost. After the Deluge. P. 50.

ты, а гэта падштурхнула б швэдзкіх палітыкаў падтрымаць Радзівілавых прыхільнікаў і з большай гатоўнасьцю задаволіць іх патрабаваньні.

Некаторыя літоўскія ўраднікі-каталікі, абавязаныя сваёй кар'ерай польскаму каралю, таксама падпісалі «Дэклярацыю». Большасьць зь іх належалі да прыдворнай партыі, заснаванай Янам Казімерам. Вінцэнт Гасеўскі, галоўны намесьнік караля ў ВКЛ, падпісаў дакумэнт адным зь першых. Да гэтага кола належаў і генэрал Мікалай Юдзіцкі, які, ставячы свой подпіс, падкрэсьліў, што ён «мальтыйскі рыцар». Відаць, менавіта ён дамогся дадатку пра прывілеі Мальтыйскага ордэну. Сярод іншых апанэнтаў Радзівілаў, якія падпісалі дэклярацыю, былі афіцэры Рыгор Падбярэскі, Казімер Тышкевіч, Мацей Гасеўскі, Міхал і Геранім Пацы, Самуэль Кацёл, Пётар Ляцкі, Геранім Крысьпін-Кіршанштайн і Станіслаў Орда. Гэтая ўплывовая група раялістаў на чале з Гасеўскім, відаць, здолела ўнесьці ў «Дэклярацыю» прапольскія пункты, нявыгадныя Швэцыі. Яны найперш датычылі няўдзелу літоўскага войска ў вайне супраць Польшчы і гарантый захаваньня сэнатарскіх годнасьцяў за каталіцкімі біскупамі. Такім чынам, аналіз пераліку падпісантаў паказвае, што «Дэклярацыя» сталася формай кампрамісу паміж апазыцыяй на чале з Радзівіламі і раялісцкай партыяй Гасеўскага.

Што да Радзівілаў, то яны праз пагадненьне з Швэцыяй спадзяваліся задаволіць і свае ўласныя інтарэсы. Для Радзівілаў дамова азначала канец польскай улады ў ВКЛ. У выніку траціла свой палітычны ўплыў літоўская партыя раялістаў. А значыць, можна было чакаць вяртаньня палітычнай улады ўнутры краіны Радзівілам. Гэта падкрэсьліваў Януш Радзівіл у лісьце да Багуслава ад 26 жніўня 1655 г.: «Нарэшце, высакародны княжа, прыйшла ўлада, якая выратуе Вялікае Княства Літоўскае ды наш род і якою я кірую так, што цяпер ніхто ў Літве не наважыцца ўзьняць голас супраць нас ці нам запярэчыць»[466]. І ўсё ж нельга пагадзіцца з Павіласам Гронскісам, які характарызуе «Дэклярацыю» як дамову, што абараняла інтарэсы Радзівіла, а ня ўсёй краіны[467]. Насамрэч уважлівы аналіз дакумэнта паказвае, што пэрсанальна Радзівіла «Дэклярацыя» не надзяляла ніякім асаблівым статусам. Яго імя згадваецца толькі аднойчы, у артыкуле 4, які вызначае ўмовы перадачы Біржайскага замку швэдам. У гэтым выпадку было немагчыма прапусьціць імя Радзівіла, бо Біржы былі яго прыватнай уласнасьцю і толькі ён мог даць згоду на такую перадачу. І хоць Гронскіс лічыць, што гэты артыкул сьведчыць пра асаблівую ролю Радзівіла, ён папросту сфармуляваны толькі згодна з агульнапрынятай тагачаснай праўнай практыкай.

Вызначальная роля ў падрыхтоўцы і пазьнейшым прыняцьці «Дэклярацыі» належала ўсёй палітычнай і рэлігійнай апазыцыі, а ня толькі Радзівілу. Аднак Януш і Багуслаў Радзівілы сапраўды яе ачольвалі. Найбольш рашуча выступалі за прапанаваную унію пратэстанты. Калі каталікі ставіліся да уніі як да часовага тактычнага сродку, неабходнага ў вайне з Расеяй, дык пратэстанты спадзяваліся

[466] Jakuba Michałowskiego wojskiego Lubelskiego. P. 766.

[467] Gronski. Le traité Lituano-Suédois de Keidany. P. 298—299.

на поўны разрыў уніі з Польшчай і далучэньне да Швэдзкага каралеўства. З шараговай літоўскай шляхты, якая падпісала унію, большасьць належала да найбуйнейшай канфэсійнай групы — каталікоў. Аднак канфідэнцыйныя кантакты з швэдамі перад падпісаньнем «Дэклярацыі» мелі пратэстанты, і менавіта яны падрыхтавалі жнівеньскія «Ўмовы» і «Дэклярацыю». Нарэшце, сярод літоўскіхураднікаў у Кейданах пераважалі пратэстанты. Для звычайнага шляхціца, які зусім ня дбаў пра палітычную кар'еру і заўсёды мог спаслацца на *modus vivendi**, падпісаньне дэклярацыі было рызыкоўным крокам, які мог абарваць яго будучую кар'еру на службе польскаму каралю. Хоць у дамове асобна не агаворваліся правы пратэстантаў, было зразумела, што хаўрус з пратэстанцкай дзяржавай непазьбежна пацягне за сабой дамінаваньне ў Літве пратэстанцкай шляхты. Для іх «Дэклярацыя» была гістарычнай перамогай, бо вяртала ВКЛ да становішча да 1569 г., калі незалежнае княства мела пратэстанцкі ўрад.

Жнівеньская дэклярацыя, якую большасьць гісторыкаў расцэньваюць як дамову паміж ВКЛ і Швэцыяй і некаторыя лічаць канчатковым актам Кейданскай уніі[468], не была ні тым, ні другім. «Дэклярацыя» — гэта адказ літоўскай арыстакратыі на першапачатковыя швэдзкія прапановы. Пагаджаючыся ў прынцыпе прызнаць Карла X Густава новым вялікім князем, літвіны, аднак, уносілі шэраг новых умоў і ўдакладненьняў. «Дэклярацыя» падпісвалася ад імя войска і трох літоўскіх паветаў. Літоўскія падпісанты, аднак, дзейнічалі ад імя ўсёй дзяржавы. Гэты акт спалучаў у сабе ваеннае пагадненьне паміж дзьвюма арміямі і вызначэньне ўмоў, на якіх ВКЛ магло ў будучыні перайсьці пад уладу Швэцыі. З польскага гледзішча, «Дэклярацыя» была актам дзяржаўнай здрады, бо парушала палажэньні Люблінскай уніі. Згодна з часткай трэцяй артыкулу 1 Люблінскага дагавору, Літва ня мела права на самастойныя дыпляматычныя зносіны бязь ведама Польшчы[469]. Аднак, згодна з Статутам ВКЛ 1588 г., княства было незалежнай дзяржавай і мела права весьці самастойную замежную палітыку. Такім чынам, унія з Швэцыяй не супярэчыла літоўскаму праву.

Традыцыйна польскія гісторыкі разглядаюць жнівеньскую «Дэклярацыю» як «капітуляцыю Літвы Швэцыі» і параўноўваюць яе з капітуляцыяй Вялікай Польшчы ў тым жа годзе ў Уйсьці[470]. Насамрэч літоўская «Дэклярацыя» была хутчэй пагадненьнем аб сумесных ваенных дзеяньнях паміж літоўскім і швэдзкім войскамі, чым капітуляцыяй. Войска і арыстакратыя прапаноўвалі раўнапраўную унію дзьвюх дзяржаваў. Будучая фэдэрацыя мусіла мець такую ж структуру, што і Рэч Паспалітая паводле Люблінскай уніі 1569 г. Літвіны разьлічвалі захаваць

* Часовае пагадненьне паміж варожымі бакамі. Прыклад «modus vivendi» — дамова аб капітуляцыі ці здачы ў палон. *(Заўв. пер.)*

468 Konopczyński i Lepszy. Akta Ugody Kiedanskiej. P. 173—224; Sandberg. Fördraget i Kedainiai. P. 42—51; Gronski. Le traité Lituano-Suédois de Keidany. P. 291—304.

469 Gronski. Le traité Lituano-Suédois de Keidany. P. 300.

470 Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 199.

сваю аўтаномію ў выглядзе ўласных заканадаўчых і судовых органаў, а таксама рэлігійных свабодаў і шляхецкіх прывілеяў. Геаграфічная адлегласьць паміж ВКЛ і «мэтрапольнай» Швэцыяй давала літоўскім лідэрам надзею на збольшага адасобленае палітычнае жыцьцё. Гэта таксама быў шанец спыніць расейска-казацкую акупацыю, уратаваць краіну ад крызісу і забясьпечыць будучае стабільнае разьвіцьцё ў рамках балтыйскай Швэдзкай імпэрыі. Санкцыянуючы канфіскацыю земляў тых шляхціцаў, хто адмаўляў альянс з Швэцыяй, літвіны адпрызначна сьцьвярджалі, што ня бачаць іншага выйсьця.

Тэкст дэкларацыі быў, такім чынам, кампрамісам між першай і другой дывізіямі літоўскага войска, між Радзівілам і Гасеўскім, між пратэстантамі і каталікамі, між жамойцкай шляхтай і цэнтральнымі ўладамі. Можна сказаць, што кожны з бакоў распрацаваў сваю частку «Дэклярацыі» і бачыў яе будучыню па-рознаму. Швэцыя атрымлівала перадусім права заняць Літву, так што швэдзкай арміі ня трэба было ваяваць з ВКЛ. Яшчэ Швэцыя займела падтрымку літоўскага войска. Гэта высока ацаніў Дэлягардзі, які ў сваім лісьце Левэнгаўпту пісаў: «Я думаю, будзе добра, калі мы зьвяжамся з Радзівіламі, перш як увайсьці ў Літву, і атрымаем іх згоду»[471]. Гэты ліст дэманструе розьніцу ў стаўленьні швэдаў да Літвы і Польшчы. У Польшчы дзеяньні Швэцыі зводзіліся да нападу, захопу значных тэрыторыяў і прымусу да капітуляцыі часткі ваяводзтваў. Зь Літвою ж вяліся папярэднія перамовы наконт пратэктарату над усёй тэрыторыяй і наступнае мірнае ўступленьне швэдзкай арміі. Апроч таго, за пратэкцыю літоўская арыстакратыя наўзамен прызнавала Карла X Густава сваім вялікім князем з правам рабіць прызначэньні на дзяржаўныя пасады. Як вялікі князь, Карл X Густаў атрымліваў каралеўскія землі, а таксама права разьмяркоўваць царкоўныя прыходы і вымарачныя маёнткі.

Януш Радзівіл быў задаволены «Дэклярацыяй». 25 жніўня ён адзначаў: «З каралём швэдзкім падпісалі пагадненьне на вельмі добрых умовах, засталіся пры нашых вольнасьцях. Войска іх рухаецца да нас. Двух паслоў накіравалі да цара, каб адышоў за Дняпро»[472]. 18 жніўня 1655 г. ангельская газэта паведаміла пра важную перамогу пратэстантызму: Радзівіл наладзіў шчыльныя адносіны з Швэцыяй, якія замацуе шлюб яго дачкі Ганны Марыі з Адольфам Ёганам, братам Карла X Густава. Газэта паведамляла, што езуіты цяпер спрабуюць кінуць зерне расколу ў душы літоўскіх каталікоў, якія далучыліся да Радзівіла, — сьцьвярджаюць, што ён герэтык, вераадступнік, які не трымае слова. Больш за тое, «езуіты лічылі за лепшае аддаць Літву ў маскоўскія рукі, чым дазволіць ёй злучыцца з Швэцыяй»[473].

Аднак акурат перад абмеркаваньнем швэдзкіх прапаноў ваенная сытуацыя зьмянілася на горшае. 16 жніўня 1655 г. расейскія войскі захапілі Коўна. 18 жніўня

[471] Магнус Габрыель Дэлягардзі — Густаву Адольфу Левэнгаўпту. 10 жніўня, 1655. Рыга. Па-швэдзку. RA. De la Gardieska Samlingen. M. G. De la Gardies Koncepter. Ser A: I. E 1220. 1655 juni-juli.

[472] Kubała. Wojna szwecka. P. 395. Note 52.

пала Горадня. Тады Радзівіл напісаў лісты Дэлягардзі і Левэнгаўпту, дзе выклаў сваё бачаньне швэдзка-літоўскіх стасункаў. 18 жніўня 1655 г. ён паведамляў, што чарнавы варыянт дамовы падпісаны, нягледзячы на ўзьніклыя перашкоды, найперш праз ваганьні вялікай часткі шляхты. Аднак, пабачыўшы неабходнасьць ваеннай дапамогі ад швэдзкага караля, яна падпісала дамову. Радзівіл прызнаваў, што швэдзкія «Ўмовы» істотна дапоўненыя, і казаў, што ягоны пасол Любянецкі даставіць два варыянты дакумэнта. Адзін зь іх — гэта тэкст «Дэклярацыі», што ўключае шэраг новых палажэньняў, сярод якіх умова вярнуць пасьля вайны Біржайскі замак. Тым ня менш, Радзівіл выказваў спадзяваньне, што швэды зразумеюць складанасьць сытуацыі і пойдуць на саступкі, і «тады літвіны гатовыя як найлепш служыць свайму новаму каралю»[474]. У лісьце да Левэнгаўпта Радзівіл раіў як мага хутчэй аб'яднаць сілы швэдзкага і літоўскага войскаў. Ён прасіў прыкласьці намаганьні, каб швэдзкія салдаты дысцыплінавана паводзілі сябе ў час кампаніі і гэтым самым «зрабілі добрае ўражаньне на жыхароў». На думку Радзівіла, «прамаруджваньне з паяднаньнем сілаў спрыяе прасоўваньню варожых войскаў, а таксама спараджае новыя цяжкасьці, бо дапамагае ўнутраным непрыяцелям і адвяртае прыхільнікаў». Ён заклікаў швэдзкага генэрала прыкласьці ўсе намаганьні, каб хоць на кароткі час спыніць навалу маскавітаў. Радзівіл быў упэўнены, што кансалідаваць альянс зможа толькі сумесная кампанія ў Літве, бо гэта «схіліць да прызнаньня ўлады караля тых літвінаў, хто яшчэ вагаецца, але пойдзе за намі, калі будуць далучаныя іншыя тэрыторыі і паветы, і ў глыбіні княства і калі мы разам зможам спыніць агрэсію ворагаў»[475].

У лісьце ад 26 жніўня да Багуслава Радзівіла Януш ацэньваў вынікі перамоваў з Швэдамі з аптымізмам. Ён пісаў, што васьмітысячнае швэдзкае войска на чале з Дэлягардзі ўвайшло ў Літву і разьмясьцілася ў Біржах. Пры гэтым уся цывільная ўлада засталася ў руках Радзівілавых прызначэнцаў. Другое васьмітысячнае швэдзкае войска знаходзілася на лівонска-расейскім фронце. Радзівіл сьцьвярджаў, што Левэнгаўпт, «бастард караля Густава II Адольфа», паабяцаў даць у распараджэньне Радзівіла 12 000 швэдзкіх жаўнераў. Ён лічыў, што Швэцыя рыхтуе контрнаступ і хутка морам пашле армію, каб напасьці на маскавітаў з тылу. Аднак былі ў лісьце і трывожныя ноткі. Па-першае, Радзівіл выказваў нездаволенасьць, што Багуслаў па-ранейшаму знаходзіцца на Падляшшы і не вярнуўся ў Літву. Януш паведамляў брату, што дзеля бясьпекі ён перавёз усю сваю рухомую маёмасьць і сям'ю ў Таўрогі, на мяжу з Прусіяй. Па-другое, Радзівіл прыклаў да ліста пералік усіх тых, хто мог варожа паставіцца да Кейданскай уніі. Па-трэцяе, Радзівіл яшчэ раз падкрэсьліў, якое крытычнае становішча стварыла расейская акупацыя. Вялікі

[473] Göransson. Den europeiska konfessionspolitikens upplösning. P. 85.

[474] Януш Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 18 жніўня 1655. Кеданы. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

[475] Януш Радзівіл — Густаву Адольфу Левэнгаўпту. 26 жніўня 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

гетман літоўскі пісаў, што цар па-ранейшаму раскашуе ў Вільні, а гетман Залатарэнка займае Коўна. Пры гэтым Радзівіл лічыў, што ўкраінскі наказны гетман з радасьцю перайшоў бы на швэдзкі бок, «але праз руку [Хмяльніцкага і цара Аляксея Міхайлавіча] пераступіць ня можа, а нам да яго ніяк». Ня ведаючы, якую пазыцыю займае Багуслаў, Януш сьцьвярджаў, што ён раней ня меў кантактаў з швэдамі, але падпісаць пагадненьне яго змусіла крытычнае становішча, што склалася «калі маскаль заняў сталіцу, чаго Польшча ніколі ня мела», і эмацыйна дадаваў: «Хай д'ябал забярэ маю душу, калі я рыхтаваў усё гэта загадзя». Нарэшце, на думку Радзівіла, падпісаньне «Дэклярацыі» па-ранейшаму пакідала магчымасьць адмовіцца ад уніі з Швэцыяй, калі спатрэбіцца: «аднак яшчэ не канец, ратаваць нас могуць, але і нам адмовіцца вольна»[476].

26 жніўня 1655 г. Багуславу Радзівілу напісаў ліст Ян Мяжэнскі. Ён даслаў яму праз Самуэля Пшыпкоўскага копію «Дэклярацыі». Мяжэнскі падкрэсьліваў, што літвіны выправілі ўмовы, прапанаваныя швэдамі, і што папраўлены варыянт падпісалі войска і шляхта. Ён паведамляў, што літвіны перадалі Біржы швэдам і што мясцовая шляхта спачатку абуралася, калі дванаццацітысячнае швэдзкае войска ўвайшло ў ВКЛ і разьмясьцілася ў Радзівілішках. Выказвала нездаволенасьць і шляхта Біржаў — яна адмовілася даць швэдзкай кавалерыі коней. Мяжэнскі турбаваўся, што швэды «зразумеюць нашу слабасьць і купяць нас за біты грош»[477].

Між тым Любянецкі прывёз у Рыгу тры лісты ад ачольнікаў літоўскага войска — Януша Радзівіла, Вінцэнта Гасеўскага і Самуэля Камароўскага. Апошні прасіў Карла X Густава прызначыць яго палявым гетманам літоўскім. Радзівіл паўтараў сваё патрабаваньне, выказанае ў мэмарандуме ад 28 ліпеня (наконт тытулу князя Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі і г. д.), але адмаўляўся ад стварэньня для яго маленькага спадчыннага княства. Ён прасіў толькі пацьвердзіць ягоныя правы на ўсе прыналежныя яму землі і гарады. Аднак сьпіс яго маёмасьці быў доўгі. Апроч земляў, якія дагэтуль яму належалі, ён уключаў шэраг каралеўскіх уладаньняў, такіх як Горадня. Пры адсутнасьці спадчыньнікаў усе землі Радзівіла па яго сьмерці меліся адысьці швэдзкаму каралеўству. Што да Гасеўскага, дык ён у сваім лісьце прасіў даць яму некалькі каралеўскіх уладаньняў як кампэнсацыю за землі, забраныя ў яго Масковіяй, і зрабіць яго па сьмерці Радзівіла вялікім гетманам. Швэцыя мелася перадаць 6000 жаўнераў пад непасрэднае камандаваньне Гасеўскага. Ён таксама прасіў права пакінуць далучаную да Швэцыі Літву, як ён таго жадаў, «з прычыны адрознай веры» (каталіцызму), забраўшы з сабой усю рухомую маёмасьць і прадаўшы землі. У дадатак Гасеўскі прасіў новых высокіх пасадаў і земляў для сваіх кліентаў. Так, Юр'я Белазора, на думку Гасеўскага, трэба прызначыць біскупам жамойцкім, бо, хоць біскуп Парчэўскі па-ранейшаму займаў свой пасад, ён не падпісаў «Дэклярацыі». Міхалу Пацу Гасеўскі прапаноўваў даць

[476] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 387—388.

[477] Тамсама. С. 400—401.

пасаду падканцлера літоўскага. Шапока адзначаў, што паміж просьбамі Радзівіла і Гасеўскага не было ніякай узгодненасьці. Кожны зь іх дзейнічаў самастойна. У выніку некаторыя землі, пералічаныя Гасеўскім, згадваліся і ў Радзівілавым сьпісе. Аднаму з кліентаў Радзівіла (Камароўскаму) прапаноўвалася даць пасаду, якую займаў Гасеўскі. Сам жа Гасеўскі спадзяваўся замяніць Радзівіла на пасадзе вялікага гетмана[478].

10 жніўня 1655 г. Дэлягардзі загадаў Левэнгаўпту, ачольніку лівонскай арміі, заняць паўночныя паветы ВКЛ: «Літва гіне пад маскоўскай акупацыяй, палякі слабыя, і іх войска ня здольнае дапамагчы ім. У гэтых умовах князі Радзівілы разам зь іншымі ўраднікамі просяць аб швэдзкім падданстве. Таму прашу вас, мой браце, выступіць і заняць літоўскія тэрыторыі, вольныя ад маскавітаў»[479]. 14 жніўня 1655 г. войска выступіла з швэдзкай Лівоніі ў Літву[480]. Лівонская армія Швэцыі налічвала 13 700 чалавек, зь якіх 6415 служылі па гарнізонах. Актыўныя баявыя дзеяньні, такім чынам, маглі весьці 7200 жаўнераў (у тым ліку 2700 кавалерыі, 4000 інфантэрыі і 500 драгунаў), якія мелі 44 гарматы і 5 мартыр[481]. Літоўскае войска нагадвала швэдзкае, толькі трохі перавышала яго лікам — каля 10 000 чалавек: 3100 жаўнераў у дывізіі Радзівіла, 3000 — у дывізіі Гасеўскага, 800 драгунаў на чале з Багуславам Радзівілам і 3000 вершнікаў у складзе паспалітага рушэньня[482]. Таму нават аб'яднаных швэдзкіх і літоўскіх сіл было яўна недастаткова, каб пачаць наступ супраць Расеі і Ўкраіны.

Паводле стратэгічнага пляну Дэлягардзі, асноўная частка лівонскай арміі мелася перайсьці Дзьвіну пад Кукенойсам і рушыць на Радзівілішкі — невялікае мястэчка Радзівіла на мяжы з Курляндыяй. Раскватараваўшыся там, швэдзкія атрады мусілі выступіць у напрамку Біржаў і Коўна. Коўна павінна было зрабіцца галоўнай базай швэдзкага войска.

Авангард швэдзкага войска спыніўся ў Радзівілішках. Адсюль 17 жніўня 1655 г. з 800 жаўнерамі на Біржы выступіў палкоўнік Тэлер. Біржайскі староста Крыштап Стрыжка без супраціву перадаў замак, вядомы як «замок ад Паўночнай Літвы». У ім разьмесьціўся полк Юхана Урквария[483]. У Рызе надрукавалі ахоўныя граматы, якімі Дэлягардзі ад імя швэдзкага караля гарантаваў абарону сем'ям і землям тых шляхціцаў, што пагаджаліся падпісаць гэты дакумэнт. Граматы ўяўлялі сабой блянкі, дзе ўказвалася імя атрымальніка, яго павет і дата падпісаньня. Напрыклад, 18 жніўня 1655 г. у Загорах такую грамату атрымаў мясцовы шляхціц

[478] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 71—73.

[479] Магнус Габрыель Дэлягардзі — Густаву Адольфу Левэнгаўпту. 10 жніўня 1655. Рыга. Па-швэдзку. RA. De la Gardieska Samlingen. M. G. De la Gardies Koncepter. Ser A: I. E 1220. 1655 juni-juli.

[480] Tersmeden. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen. P. 29.

[481] Тамсама. С. 16.

[482] Wismer, Jan. Armé och finansväsen i Polen under kriget med Sverige 1655—1660 // Carl X Gustaf -studier 5. Polens krig med Sverige 1655—1660. Krigshistoriska studier. Kristianstad, 1973. P. 94.

[483] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 35.

Аляксандар Грабоўскі. Ад імя Дэлягардзі яе падпісаў швэд Густаў Мілер[484]. Дакумэнт дорага каштаваў кожнаму шляхціцу — ад 100 да 350 талераў. Гэта, натуральна, падрывала вобраз Швэцыі як велікадушнага хаўрусьніка.

Калі Левэнгаўпт пачаў сваю кампанію, у Вільні ўжо стаялі маскоўскія войскі. 16 жніўня 1655 г. расейцы занялі Коўна. Гэтая акалічнасьць прымусіла швэдаў зьмяніць свой плян. Імкнучыся пазьбегнуць узброеных сутыкненьняў з расейцамі, авангард швэдзкай арміі заняў толькі Радзівілішкі і Біржы, якія месьціліся далёка ад лініі фронту маскоўскага войска. У канцы жніўня асноўныя швэдзкія сілы адступілі. Дэлягардзі так тлумачыў Радзівілу, чаму ён вымушаны зьмяніць плян кампаніі: «Маё сэрца абліваецца крывёй, калі я думаю, што ў той час, калі мы маем такі высокі давер усёй Літвы, гнюсны захопнік ужо авалодаў ёю. Наступ маскавітаў прынёс нам вялікія страты. На жаль, наша нерашучасьць і марудлівасьць прывяла да такіх цяжкасьцяў»[485].

Аднак швэдзкая армія працягвала весьці дзьве іншыя кампаніі ў Літве і Курляндыі. Яшчэ 5 жніўня 1655 г. атрады генэрала Якуба Казіміра Дэлягардзі занялі Пілтэнскае біскупства ў Курляндыі. Пілтэнскія бароны прынялі швэдзкае падданства, і швэды прызначылі губэрнатарам Пілтэну Вільгельма Мугля. 20 жніўня 1655 г. падпалкоўнік Марцін Шульц выступіў з 200 вершнікамі зь Пілтэну ў Жамойць, каб авалодаць Палангай — літоўскім горадам на Балтыйскім узьбярэжжы. Дэлягардзі загадаў Шульцу не мяшацца ва ўнутраныя справы тамтэйшай шляхты, але ўзяць пад сваю апеку тых, хто захоча далучыцца да швэдзкіх «Умоваў», і арганізаваць набор літоўскай шляхты ў швэдзкае войска. Аднак Шульц заблукаў і замест Палангі апынуўся пад Швентамі — невялікім мястэчкам на мяжы паміж Літвой і Курляндыяй[486].

Дэлягардзі таксама загадаў заняць памежны Браслаўскі павет. 24 жніўня 117 драгунаў на чале з капітанам Юханам фон Уленброкам рушылі з Дынабургу і праз Плюсы 25 жніўня 1655 г. увайшлі ў Браслаў[487]. Браслаў меў для Швэцыі стратэгічнае значэньне. Яго заняцьце не давала Расеі ўварвацца ў суседнія Лівонію і Курляндыю. Швэцыя таксама атрымлівала кантроль над цэнтральнай часткай дзьвінскага воднага шляху. У сваёй справаздачы *«Relation wass in der mir aufgetragener Commission nach Breslow, Ikazno und Druien expediret»* Уленброк паведамляў Дэлягардзі пра свае посьпехі. У Браславе ён склікаў у кальвінісцкім зборы сход мясцовай русінскай шляхты і прапанаваў ёй перайсьці на бок Швэцыі згодна з «Умовамі», падрыхтаванымі раней Швэцыяй, без уліку жнівеньскай «Дэк-

[484] SACRAE REG. MAJEST. REGNORUMQUE SVECIAE...Vniverlis ac singulus hasce lecturis..Nos Regio cum Exercitu Lithvaniam ingredi coegit, Ita cum Alexander Grefborski literas securitatis pro se suisq; Bonis et familia. RA. De la Gardieska Samlingen. M. G. De la Gardies Koncepter. Ser A: I. E 1221, augusti.

[485] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 239—240.

[486] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 33—34; Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 62.

[487] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 2. P. 90; Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 35.

лярацыі». Уленброк падкрэсьліў небясьпеку, якую ўяўлялі для павету маскоўскія войскі. Ён паабяцаў, што Швэцыя дапаможа браслаўчанам абараніцца. Выслухаўшы швэдзкія прапановы, маршалак мясцовага сойміку падкаморы браслаўскі Крыштап Мірскі (кальвініст паводле веравызнаньня) папрасіў два дні на іх абмеркаваньне сярод шляхты. 28 жніўня каля 50 мясцовых шляхціцаў падпісалі раздрукаваныя швэдзкія «Ўмовы» ад 10 жніўня. Некаторыя шляхціцы падпісаліся двойчы[488]. Першы ліст з подпісамі пачынаўся прэамбулай, дзе зьвярталася асаблівая ўвага на тое, што павет прымае швэдзкую пратэкцыю згодна з пастановамі іншых паветаў Літвы. Падпісаўшы прэамбулу як «маршалак шляхты», Крыштап Мірскі падкрэсьліў, што рашэньне прынялі ўсе павятовыя ўраднікі «паводле пунктаў «Умоваў», для моцы якіх ўсе іх падпісваюць». Сярод іншых падпісаліся кашталян Андрэй Кімбар, падкаморы літоўскі Фэлікс Пац (да 1653 г. староста браслаўскі), пісар земскі Ян Шастакевіч, падстароста Крыштап Касакоўскі, харунжы Ўладзіслаў Кімбар, мечнік Сьцяпан Пуцята, скарбнік Аляксандар Чапінскі, падстолі Ўладзіслаў Пуцята, сын ваяводы менскага Зыгмунт Рудаміна-Дусяцкі, падчашы браслаўскі князь Уладзіслаў Агінскі, судзьдзя земскі Сэбасьцьян Мірскі, князь Крыштап Сьвірскі, князь Багдан Агінскі, Канстанцін Рудаміна-Дусяцкі, Станіслаў Хмяльніцкі, Казімер Самсон-Падбярэскі, Канстанцін Статкевіч і Ян Гаштольд. Як згадвалася вышэй, Браслаўскі павет быў асяродкам некаталіцкай шляхты. Свае подпісы паставілі шмат хто з пратэстанцкіх родаў Кімбараў, Мірскіх і Пуцятаў. Пратэстантамі былі таксама Казімер Самсон-Падбярэскі і Крыштап Касакоўскі. Тры падпісанты прадстаўлялі праваслаўных (Агінскі, Статкевіч і Хмяльніцкі).

Уленброк адзначыў, што істотную ролю ў пасьпяховым завяршэньні перамоваў адыграў «камэндант замку». Ён першы падпісаў пагадненьне і заахвочваў астатнюю шляхту зрабіць тое самае[489]. Аналіз паказвае, што гэта быў Андрэй Кімбар. Асобны сьпіс тых, хто прысягнуў на вернасьць Швэцыі, складалі шляхціцы, вымушаныя пакінуць свае маёнткі пад Наваградкам, Ашмянамі, Полацкам і Віцебскам. Першым у гэтым сьпісе стаяў пратэстанцкі шляхціц з-пад Наваградку Самуэль Казарын, які апынуўся ў Браславе, уцякаючы ад маскоўскай навалы[490]. Тры каталіцкія сьвятары з Браслава таксама падпісалі «Ўмовы» на асобным аркушы.

[488] SACRAE REG. MAJEST. REGNORUMQUE SVECIAE SENATOR AC THESAURARIUS, GENERALIS Ducatus Livoniae....NOS MAGNUS GABRIEL DE LA GARDIE ...Universis ac singulis M. D. Lithvaniae ordinibus.....Nos Nobilis Districtus Braslauiensis Anno millesimo sexcentesimo quingucgesimo guinto Die Vigesima Octava Mensis Augusti, congregati in Castro Judiciorum Sacrae Regiae Maiestatis Braslauiensis. Puncta et Conditiones S. R. M. Sueciae ad nos oblata per Exellentissimum et Magnificum Dominum Joanem ab Ulenbrock Commissarium et Capitaneum S. R. M. Confirmando statui spirituali, quam saeculari Palatinatum ac Discrictum Magni Ducatus Lituaniae manum nostra subscripsimus et sigillis nostris communivimus: RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[489] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 77.

[490] RA. Militaria. Vol. M. 1304.

Яны дадалі свае заўвагі, што падпісваюць дакумэнт з згоды біскупа Тышкевіча, і тытулавалі Карла Х Густава вялікім князем літоўскім[491].

Цырымонія падпісаньня «Ўмоваў» адбылася ў Браслаўскім замку. Пасьля гэтага швэдзкі камісар наладзіў банкет і баль. Уленброк прапанаваў тост за здароўе новага вялікага князя літоўскага Карла Х Густава. Ён загадаў салютаваць з гарматы, каб паказаць расейцам, што павет перайшоў пад швэдзкі кантроль. Падпісаўшы дамовы зь мясцовай шляхтай, швэдзкія жаўнеры рушылі на захад — на Дрысьвяты і Пеліканы, а таксама на ўсход — на Іказьнь і Друю. У Друі швэдзкі полк спыніўся на беразе Дзьвіны ў прадмесьці Сапежын[492]. Там гарадзкія ўлады падпісалі «Ўмовы». Адзін з прадстаўнікоў магістрату, Іван Харламповіч, падпісаў дакумэнт кірыліцай[493].

Такім чынам, калі літоўскія вайсковыя афіцэры і шляхта трох паветаў падпісалі швэдзкія «Ўмовы» ва ўласнай новай вэрсіі, то браслаўская шляхта прыняла арыгінал швэдзкага пагадненьня безь якіх-небудзь дапаўненьняў. Гэта дазволіла швэдзкаму боку меркаваць, што ўся літоўская шляхта пры больш спрыяльных абставінах падпіша зыходную дамову, а не перагледжаную «Дэклярацыю».

20 жніўня 1655 г. Бэнгт Шутэ прыбыў у Рыгу. Дэлягардзі і Шутэ абодвух шмат што зьвязвала з Усходняй Балтыкай. Дэлягардзі нарадзіўся ў Рэвэлі, вырас у Лівоніі (у Рызе) і ў Стакгольме. Яго бацька, генэрал Якуб Дэлягардзі, таксама нарадзіўся ў Рэвелі. Сын францускага эмігранта, ён стаўся першым губэрнатарам швэдзкай Лівоніі. Маці Магнуса Дэлягардзі, Эба Браге, належала да старадаўняй швэдзкай арыстакратыі. Магнус Дэлягардзі быў праўнукам швэдзкага караля Юхана III Вазы. Яго жонка Марыя Эўфрасіньня Пфальц даводзілася сястрой каралю Карлу Х Густаву[494]. Магнус Дэлягардзі ўжо раней быў губэрнатарам Лівоніі. Таму натуральна, што ў 1655 г. ён другім разам атрымаў прызначэньне на гэтую пасаду. Бэнгт Шутэ, намесьнік швэдзкага караля ў Літве, быў сынам Юхана Шутэ, гувэрнэра караля Густава II Адольфа. Юхан Шутэ служыў губэрнатарам Лівоніі і заснаваў там Дорпацкі ўнівэрсытэт. Бэнгт Шутэ вырас у Лівоніі і атрымаў адукацыю ў Дорпацкім і Ўпсальскім унівэрсытэтах. Яго маці, Марыя Ніф, паходзіла з Шкоцыі. У 1640 г. Бэнгт Шутэ зрабіўся рэктарам ужо славутага на той час Дорпацкага ўнівэрсытэту. Такім чынам, і Дэлягардзі, і Шутэ добра ведалі Літву. Яны пазнаёміліся з шмат кім зь літвінаў у Рызе і зь некаторымі завязалі асабістыя адносіны.

Шутэ атрымаў даручэньне арганізаваць падпісаньне дамоваў аб пераходзе Курляндыі і Літвы пад пратэктарат Швэцыі. Ён адкінуў умовы жнівеньскай «Дэклярацыі» і параіў Дэлягардзі распачаць новыя перамовы зь літоўскімі вярхамі. Згаданы прадстаўнік Дэлягардзі Міхаэль Хорст быў адзіным швэдзкім назіральні-

[491] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 78—79.

[492] Катлярчук. Швэды ў гісторыі беларусаў. С. 78—79.

[493] «Іван Харлампович лавникъ сапежинскі рукою своею». RA . Vol. M. 1304.

[494] Fåhraeus, Rudolf. Magnus Gabriel De la Gardie. Stockholm, 1936.

кам падчас прыняцьця кейданскай «Дэклярацыі». 28 жніўня 1655 г. Хорст зноў выправіўся з Кейданаў у Рыгу. У лісьце, які Хорст даставіў Дэлягардзі, Радзівіл прапаноўваў новы плян перамоваў аб уніі. Аднак ён вырашыў перадаць усю інфармацыю вусна, праз Хорста, запэўніваючы Дэлягардзі, што той можа верыць Хорставым словам[495]. Выконваючы каралеўскія ўказаньні, 1 верасьня 1655 г. Дэлягардзі і Шутэ даслалі каралю падрабязнае, часткова шыфраванае паведамленьне з тлумачэньнем сутнасьці літоўскай «Дэклярацыі». Яны апісалі дасягнуты ў перамовах прагрэс і дзеяньні швэдзкага войска, перадалі зьмест артыкулаў «Дэклярацыі» і падкрэсьлілі, што шмат якія патрабаваньні літвінаў, у тым ліку і самае галоўнае — абавязацельства Швэцыі пачаць вайну супраць Расеі, — непрымальныя для швэдаў. Яны паведамілі, што ачольнікі літоўскага войска Радзівіл і Гасеўскі хоць нязгодныя міжсобку, але абодва падпісалі «Дэклярацыю»[496]. Дэлягардзі і Шутэ разумелі: падпісаўшы «Дэклярацыю», Радзівіл зьвязвае свой палітычны лёс з Швэцыяй. Шутэ адзначыў, што «Радзівіл цяпер у вельмі добрым настроі, бо ўся праца зь літвінамі ідзе празь яго». Тым ня менш, адрозна ад Дэлягардзі, Шутэ меркаваў, што ў будучыні ўладу Радзівіла трэба абмежаваць. На яго думку, добра было б зьняць Радзівіла з пасады вялікага гетмана і перадаць усё літоўскае войска ў непасрэднае падпарадкаваньне швэдзкім генэралам. У якасьці кампэнсацыі кароль мог бы прапанаваць Янушу Радзівілу стаць літоўскім князем на ўзор курляндзкага герцага. Гэты новы статус вылучыў бы і адасобіў Радзівіла ад літоўскай шляхты, што, у сваю чаргу, спарадзіла б паміж імі варажнечу. Такім чынам швэды змаглі б кіраваць Літвой згодна з прынцыпам «падзяляй і ўладар»[497].

3 верасьня 1655 г. пагадненьне зь Літвой сталася прадметам абмеркаваньня швэдзкай Каралеўскай Рады. Атрымаўшы справаздачу аб дасягнутых дамоўленасьцях, сэнатары выказалі сваё задавальненьне «дамовай, якую дзяржаўны скарбнік Швэцыі [Дэлягардзі] падпісаў ад імя караля зь біскупам віленскім і Радзівіламі ў Літве»[498]. Адсюль вынікае, што гаворка ішла пра «Ўмовы» ад 10 жніўня, бо біскуп віленскі ня меў ніякага дачыненьня да «Дэклярацыі» ад 17 жніўня.

10 верасьня 1655 г. у замку Баўске адбылася сустрэча Шутэ і Дэлягардзі, на якой яны абмеркавалі далейшы ход перамоваў. Існавалі дзьве галоўныя праблемы: па-першае, розьніца ў поглядах на швэдзкую пратэкцыю паміж самімі літвінамі; па-другое, літоўскае патрабаваньне, каб швэды пачалі ваенныя дзеяньні супраць Расеі[499]. З самага пачатку перамоваў, у тым ліку ў мэмарандуме ад 28 жніўня 1655 г., Радзівілы падкрэсьлівалі, што галоўная ўмова заключэньня уніі — каб швэды

[495] Бэнгт Шутэ — Магнусу Дэлягардзі. 31 жніўня, 8—16 верасьня і 17 верасьня 1655. RA. De la Gardieska samlingen. E 1558.

[496] Магнус Габрыель Дэлягардзі і Бэнгт Шутэ — Карлу X Густаву. 1 верасьня/21 жніўня 1655. Рыга. Па-швэдзку. RA. Livonica II. Vol. 77. Generalguv. i Livland till K. MAJ:T 1655—56.

[497] Sandberg. Fördraget i Kedainiai mellan Sverige och Litauen. P. 48.

[498] Svenska Riksredets protokoll. Vol. 16, 1654—1664. P. 265.

[499] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 35—36.

абяцалі дапамогу ў вызваленьні тэрыторый, захопленых Масковіяй і Украінай[500]. Літоўская шляхта прасіла швэдзкага караля ўхваліць пагадненьне на ўмовах, вызначаных 17 жніўня. Аднак, як адзначыў Стэлян Дальгрэн, Швэцыя так ніколі і не ратыфікавала жнівеньскай «Дэклярацыі». Галоўная прычына палягала ў адмове Літвы ваяваць супраць Польшчы. Шэраг іншых умоў, пастаўленых літвінамі, таксама выклікаў у швэдаў незадаволенасьць. І ў першую чаргу гэта патрабаваньне выставіць Расеі ўльтыматум вывесьці свае войскі за Дняпро. Літоўская шляхта пагаджалася з захопам Расеяй толькі асобных земляў Беларусі: Смаленскага і часткова Амсьціслаўскага, Віцебскага і Рэчыцкага паветаў, — каб новая мяжа праходзіла па Дняпры. Швэцыя ж не хацела далучацца да Літвы ў вайне супраць Расеі. Патрабаваньне вярнуць літоўскую ўласнасьць у Інфлянтах, акупаваных Швэцыяй, не стасавалася з інтарэсамі Стакгольму. Швэдзкая эліта таксама не падзяляла жаданьня літоўскай шляхты бачыць будучую дзяржаву як фэдэрацыю раўнапраўных краінаў. Швэцыя не хацела і ўдзелу Літвы ў будучых швэдзка-польскіх перамовах як раўнапраўнага партнэра. Патрабаваньне «Дэклярацыі» захаваць годнасьць сэнатараў за чатырма каталіцкімі біскупамі таксама пужала лютэранскую Швэцыю. Такім чынам, абодвух партнэраў, якія спрабавалі дасягнуць крохкага альянсу, чакалі далейшыя спрэчкі і выпрабаваньні.

## 3.2. Нараджэньне швэдзка-літоўскай фэдэрацыі: Кейданская унія 20 кастрычніка 1655 г.

Пасьля 17 жніўня геапалітычная сытуацыя кардынальна зьмянілася. Між тым як пазыцыі Швэцыі значна ўмацаваліся, прашвэдзкая партыя ў Літве аслабела. Багуслаў і Януш Радзівілы страцілі частку сваіх войскаў. Расея і Украіна цалкам кантралявалі большую частку ВКЛ, уключна з сталіцай і буйнейшымі гарадамі. 8 верасьня 1655 г. сталіца Рэчы Паспалітай Варшава здалася Швэцыі. Швэдзкая армія кантралявала значную частку Польшчы і поўнач Літвы. Адпаведна, герцагства Прусія і Курляндыя, ранейшыя васалы Польшчы, цяпер апынуліся пад уладай Швэцыі. Рэч Паспалітая была на мяжы краху. У гэтых умовах швэдзкія палітыкі мелі ўсе магчымасьці дыктаваць сваю волю літоўскім сэпаратыстам.

З другога боку, пасля Кейданскай дэклярацыі Расея зразумела, што адмова ад палітычнага дыялёгу зь літоўскай элітай была памылкай. 24 жніўня 1655 г. цар накіраваў свайго пасла Васіля Ліхарава ў табар літоўскага войска. 30 жніўня Ліхараў прыбыў у Кейданы з граматай ад цара, якая прапаноўвала Радзівілу і Гасеўскаму прыняць расейскі пратэктарат у абмен на захаваньне іх статусу і уладаньняў, а таксама гарантыі рэлігійных свабод[501]. З 3 верасьня 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч прысвоіў сабе тытул вялікага князя літоўскага і самадзержца Белай

[500] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 51.

[501] Заборовский, Лев. Русско-литовские переговоры во второй половине 1655 г. // Славяне в эпоху феодализма. К столетию академика Владимира Пичеты. Москва, 1978. С. 209—210.

Русі[502]. У пачатку кастрычніка староста ашмянскі Адам Саковіч распачаў палітычныя кансультацыі з Масковіяй, хутчэй за ўсё на загад Радзівіла[503]. Нават прывідная магчымасьць таго, што літоўскае войска пяройдзе на бок Расеі, устрывожыла швэдаў[504]. Радзівіл паспрабаваў скарыстацца з гэтага, каб націснуць на швэдаў у спрэчках наконт будучыні уніі.

23 жніўня 1655 г. частка літоўскага войска (каля 2000 чалавек) заключыла антышвэдзкую канфэдэрацыю пад Вярбілавам. Падпісанты падкрэсьлілі: «Убачыўшы непрыкрытую здраду Радзівіла і яго змову з Швэцыяй, мы застаёмся верныя нашаму каралю і будзем змагацца з ворагамі». Надалей Вінцэнт Гасеўскі лічыўся адзіным літоўскім галоўнакамандуючым. На чале канфэдэрацыі сталі чатыры афіцэры-каталікі — Казімер Жаромскі, Станіслаў Ліпніцкі, Самуэль Кміціц і Канстанцін Катоўскі. Як сьцьвярджае Анджэй Рахуба, ля вытокаў канфэдэрацыі стаяў род Пацаў[505]. Канфэдэрацыя накіравала да польскага караля чатырох паслоў — маршалка рэчыцкага Юрыя Юдзіцкага, а таксама ротмістраў Крыштапа Есьмана-Сынкоўскага, Самуэля Кміціца і Станіслава Шчыгельскага. Усе яны былі каталікі. 8 верасьня 1655 г. яны зьявіліся ў штаб-кватэры караля Яна Казімера ў Вольбужы[506]. У выніку сустрэчы кароль выдаў тры афіцыйныя дакумэнты. Згодна зь імі, Януш і Багуслаў Радзівілы абвяшчаліся здраднікамі, а іх уладаньні падлягалі канфіскацыі і перадаваліся верным літоўскім афіцэрам[507]. У канцы 1655 — пачатку 1656 гг. лідэры канфэдэрацыі і прапольскія магнаты Вінцэнт Гасеўскі, Крыштап Пац і Юры Глябовіч атрымалі шэраг земляў Радзівілаў і правы на землі іх паплечнікаў[508]. Рашэньне Яна Казімера было беспрэцэдэнтным і незаконным. Статут ВКЛ забараняў каралю канфіскоўваць маёмасьць па абвінавачаньні ў здрадзе, пакуль здраду не прызнае суд, а канфіскацыю не зацьвердзіць Сойм. Таму пасьля падпісаньня Аліўскага міру з Швэцыяй (1660 г.) Багуславу Радзівілу ўдалося адсудзіць усе канфіскаваныя землі. Віснэр адзначае, што Ян Казімер пайшоў на такія супрацьпраўныя крокі толькі ў Літве. У Польшчы і на Ўкраіне кароль не канфіскаваў ніводнага маёнтку тамтэйшых калябарацыяністаў[509].

Сыход канфэдэратаў аслабіў Януша Радзівіла і паменшыў яго прэстыж у вачах швэдаў. Пад яго камандаваньнем засталося толькі 2700 жаўнераў[510]. У канцы жніўня 1655 г. Радзівіл назваў чатырох галоўных праціўнікаў, якія заміналі рэалізацыі уніі з Швэцыяй. Першым быў польскі кароль і яго двор. Другім — прапольскія харугвы

502 PSZRI. № 164. С. 369—370.
503 Заборовский. Великое Княжество Литовское и Россия. С. 80—84.
504 Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 91.
505 Rachuba. Konfederacja wojska litewskiego w Wierzbołowie. P. 13—31.
506 Tyla. Kėdainių unijos opozicija. P. 67; Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 203; Frost. After the Deluge. P. 51.
507 AGAD. AR. № 1302.
508 Rachuba. Sprawa dóbr Radziwiłłów Birżańskich. P. 51—67.
509 Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 203.
510 Тамсама. С. 208.

віцебскага ваяводы Паўла Сапегі і паспалітага рушэньня ў Берасьці, а таксама партыя Пацаў. Трэцім ворагам былі польскія жаўнеры ў Літве. Нарэшце, чацьвёртым — літоўскія афіцэры, «здраднікі» паводле словаў Радзівіла, якія стварылі канфэдэрацыю ў Вярбілаве і абвясьцілі вайну Швэцыі ды прыхільнікам Радзівіла[511]. Радзівіла трывожылі канфэдэраты, якія пагражалі спусташыць яго ўладаньні і пазабіваць яго кліентаў. У лісьце Багуславу Радзівілу Януш прасіў яго ўтрымаць канфэдэратаў ад узьяднаньня з польскім каралём. Ён прапаноўваў стрыечнаму брату арыштаваць лідэраў мяцежнікаў, сярод якіх, на думку гетмана, самымі небясьпечнымі былі Кміціц і Катоўскі. У другім лісьце Радзівіл загадваў Мікалаю Герасімовічу, старосту Заблудава, зьнішчыць «здраднікаў, якія ўсчалі мяцеж у маім войску», калі яны прыйдуць у горад. Радзівіл раіўся наконт мяцежнікаў зь мясцовым пастарам Пандлеўскім — прапаноўваў, каб канфэдэратаў ушчэнт напаілі, і гараджане потым маглі б ўначы забіць іх у іх дамох, ці каб ім атруцілі пітво[512].

У сярэдзіне верасьня, калі праясьнілася роля Гасеўскага ў заснаваньні канфэдэрацыі, Самуэль Камароўскі на загад Радзівіла і зь ведама швэдаў арыштаваў яго[513]. У той жа час Радзівіл пераконваў Дэлягардзі пачаць сумесную кампанію супраць Расеі. Ён казаў, што маскавіты робяць вылазкі ў Біржайскае княства, рабуюць яго землі і пагражаюць ім поўным спусташэньнем. Апроч таго, «маскавіты паслалі коньнікаў з мушкетамі з Коўна і Горадні, каб вынішчыць нашы землі агнём і мячом». Радзівіл адзначаў, што «гэтага магло б ня здарыцца, калі б своечасова прыйшла дапамога ад швэдаў». А таму, на думку гетмана, «адзіны спосаб захаваць рэшткі ВКЛ — гэта пачаць шырокую кампанію, якая б спыніла ворага»[514]. У верасьні 1655 г. швэдзкі каралеўскі дарадца Шэрынг Розэнганэ ад імя Карла Х Густава вызначыў канчатковыя мэты Швэцыі ў бягучай вайне. Згодна зь яго плянам, ад Польшчы да Швэцыі мусілі перайсьці Курляндыя, літоўска-польскія Інфлянты і «магчыма, Літва»[515].

10 верасьня 1655 г. Карл Х Густаў загадаў Дэлягардзі перанесьці штаб-кватэру арміі ў літоўскі Посваль. Пасьля гэтага Дэлягардзі сам з 16 палкамі меўся выступіць у Аўгустоў, што на мяжы з Прусіяй. Там ён павінен быў абараняць гэтыя тэрыторыі ад магчымых нападаў расейцаў і злучыцца з асноўным швэдзкім войскам у Польшчы[516]. Аднак Дэлягардзі ня мог пакінуць Літву да канца кастрычніка, бо ўвесь гэты час працягваліся перамовы зь літвінамі.

[511] Януш Радзівіл — Багуславу Радзівілу. 26 жніўня 1655. Кейданы. Па-польску // Jakuba Michałowskiego wojskiego. P. 764—766.

[512] Януш Радзівіл — Мікалаю Герасімовічу. 26 жніўня 1655. Кейданы. Па-польску // Jakuba Michałowskiego. P. 767—768.

[513] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 113.

[514] Януш Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. Верасень 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

[515] Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. Krigsmålet och allianserna. P. 43.

[516] Tersmeden. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen. P. 38.

17 верасьня Шутэ і Левэнгаўпт з 2000 жаўнераў прыбылі ў Посваль. Армія прайшла праз нэўтральную Курляндыю, парушыўшы такім чынам яе нэўтралітэт[517]. У Посвалі швэдзкая дыпляматыя дасягнула новага посьпеху. 20 верасьня 1655 г. Шутэ падпісаў дамову з курляндзкім герцагам Якабам Кетлерам адносна становішча Курляндыі ў вайне паміж Швэцыяй і Польшчай. Курляндыя адмаўлялася ад свайго нэўтральнага статусу і пагаджалася пусьціць на сваю тэрыторыю швэдзкія войскі[518]. Калі Шутэ накіраваўся ў Літву, Дэлягардзі выказаў надзею, што «ён даедзе за дзень, і нездаволеныя літвіны, якія не ўсьведамляюць усіх цяжкасьцяў, больш адэкватна зразумеюць іх цяперашняе становішча». 18 верасьня 1655 г. Шутэ пісаў Дэлягардзі, што шмат хто зь літвінаў хоча «неадкладна прыняць прысягу». Аднак перамовы зацягваліся. Шляхту пужала магчымае будучае дамінаваньне ў краіне Радзівілаў. Лідэрам апазыцыі быў судзьдзя земскі Вількамірскага павету Станіслаў Белазор, які не падпісаў Кейданскай дамовы. Паводле словаў Шутэ, шмат хто з шляхты выступаў за унію на швэдзкіх умовах, але супраць узмацненьня ўлады Радзівілаў[519]. Януш Радзівіл не пагаджаўся на наўпроставы швэдзкі пратэктарат і змагаўся за раўнапраўную унію паміж Літвой і Швэцыяй. 22 верасьня Шутэ напісаў Дэлягардзі, што Радзівіл імкнецца як мага хутчэй заключыць унію і ён, Шутэ, распрацаваў плян, як у патрэбнай ступені аслабіць яго ўплыў[520].

28 верасьня Дэлягардзі з 7000 жаўнераў прыбыў у Посваль. У той жа час усю шляхту запрашалі зьявіцца ў Кейданы, каб падпісаць «ўмовы пратэктарату». 1 кастрычніка лівонскае войска на чале зь Левэнгаўптам прайшло з Посвалю праз Жамойць да Вялены на беразе Нёману і пачало там будаваць умацаваньні і мост[521]. 6 кастрычніка Радзівіл даслаў Дэлягардзі два лісты. У першым ён прасіў яго хутчэй прыбыць у Кейданы, дзе яго ўжо даўно чакалі, і казаў, што ўжо накіраваў свайго пасла Вільгельма Корфа, які вусна паведаміць яму ўсе падрабязнасьці становішча. Радзівіл падкрэсьліваў, што затрымка з прыходам швэдзкага войска адмоўна адбіваецца на прэстыжы швэдзкага караля[522]. У другім лісьце Радзівіл казаў, што «ён шчасьлівы атрымаць паведамленьне аб тым, што справа ідзе да завяршэньня і што кароль гатовы зацьвердзіць дамову»[523]. 10 кастрычніка Гасеўскі таксама паведаміў Дэлягардзі праз Шутэ, што гатовы да перамоваў[524]. Аднак Дэля-

[517] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 52.

[518] Fördrag angående Kurlands ställning under kriget mellan Sverige och Polen. 20 верасьня 1655. Pasvalyc. Па-нямецку. RA. Originaltraktater med främmande makter. No. 3.

[519] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 113.

[520] Тыла. Кейданская уния. С. 77; Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 210.

[521] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 93.

[522] Януш Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 6 кастрычніка 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

[523] Януш Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 6 кастрычніка 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 38.

[524] Вінцэнт Гасеўскі — Магнусу Дэлягардзі. 10 кастрычніка 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 44.

гардзі адхіліў прапанову Гасеўскага. Гасеўскі ж даў слова гонару, што ня будзе спрабаваць уцячы і інтрыгаваць супраць Швэцыі, а будзе пакорліва чакаць рашэньня Карла Густава[525].

8 кастрычніка швэдзкія атрады на чале з Дэлягардзі ўрачыста ўвайшлі ў Кейданы[526]. Дэлягардзі знаходзіўся ў горадзе з 10 да 21 кастрычніка. Тут ён зразумеў, што становішча не такое спрыяльнае, як можна было б чакаць. Літоўская эліта адмаўлялася падпісаць дамову аб інкарпарацыі ВКЛ у склад Швэцыі. Тым ня менш, яму ўдалося зрушыць справу зь месца, і праз чатыры дні зацятых спрэчак быў падрыхтаваны першы дакумэнт аб уніі — публічны зварот. 15 кастрычніка яе надрукавалі ў Кейданах на лацінскай і нямецкай мовах накладам 500 асобнікаў і адразу ж раздалі шляхце. 20 кастрычніка літвіны падпісалі два галоўныя дакумэнты Кейданскай уніі — акт аб дзяржаўнай уніі з Швэцыяй і публічны зварот да эўрапейскіх дзяржаваў, дзе тлумачыліся прычыны разрыву ўніі з Польшчай і далучэньня да Швэцыі. 23 кастрычніка быў падпісаны трэці дакумэнт, якім засноўвалася Рада кіраваньня швэдзкай Літвой з паслоў шляхты і на чале з Бэнгтам Шутэ.

Так адбылося падпісаньне «вечнай уніі Літвы з Швэцыяй». Швэдзкі бок прадстаўлялі Дэлягардзі і Шутэ. Літоўскія магнаты і шляхта падпісаліся ад імя ўсяго княства. Падпісанты адзначылі, што гэты дакумэнт зьявіўся ў выніку дапрацоўкі жнівеньскіх «Умоў» 1655 г. Адрозна ад жнівеньскай «Дэкларацыі», тэкст Кейданскай уніі не падзяляўся на артыкулы і быў карацейшы. Вось яе ключавыя палажэньні:

- Унія з Швэцыяй абвяшчалася «вечнай», дзейнай для ўсіх пераемнікаў першапачатковых падпісантаў. Кароль Карл Густаў (і яго спадкаемцы) абвяшчаўся вялікім князем літоўскім. Усе ранейшыя уніі і дамовы з польскім каралём скасоўваліся.
- Выбары вялікага князя і караля «так, як гэта было за часам уніі з Польшчай», адмяняліся. Будучыя швэдзкія каралі аўтаматычна прызнаваліся спадчыннымі вялікімі князямі літоўскімі. Толькі ў выпадку перапыненьня каралеўскай дынастыі літоўская палітычная нацыя магла ўдзельнічаць у выбарах, але бяз права роўнага голасу з арыстакратыяй Швэдзкага каралеўства. Такім чынам, літоўская шляхта страчвала сваё старажытнае права абіраць вялікага князя.
- ВКЛ і Жамойць (апошняя атрымала асобны статус) захоўвалі сваю аўтаномію і асобнае заканадаўства. Любыя зьмены, ініцыяваныя швэдзкім каралём, мусілі зацьвярджацца на вальным сойме.
- ВКЛ захоўвала рэлігійную свабоду, у тым ліку ўсе правы рыма-каталіцкай, уніяцкай ды праваслаўнай цэркваў і ўсіх іх прыходаў. Гарантаваўся сэнатарскі

[525] Сьведчаньне Вінцэнта Гасеўскага. 21кастрычніка 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[526] Тыла. Кейданская уния. С. 76.

статус рыма-каталіцкіх біскупаў. Кароль Швэцыі абвяшчаўся сьвецкім патронам царкоўнай маёмасьці і духавенства.

• Войска ВКЛ падпарадкоўвалася каралю Швэцыі. Паспалітае рушэньне таксама пераходзіла пад яго камандаваньне. Кароль меў права выкарыстоўваць войска і паспалітае рушэньне паводле свайго меркаваньня супраць усіх суседніх, але не заморскіх праціўнікаў. У надзвычайных выпадках абмежаваныя сілы літоўскага войска маглі накіроўвацца ў далёкія краіны. Кароль Швэцыі меў усе прэрагатывы заключаць мір і абвяшчаць вайну.

• Літоўская палітычная нацыя пагаджалася на разьмяшчэньне каралеўскай рэзыдэнцыі па-за межамі княства. Таму непасрэднае кіраваньне ВКЛ ажыцьцяўлялася каралеўскім намесьнікам у Літве.

• Асобны параграф прысьвячаўся дачыненьням з Польшчай. ВКЛ пагаджалася ваяваць супраць Польшчы разам з Швэцыяй і ў выпадку вайны паміж двума каралеўствамі мусіла падтрымаць Швэцыю. У той жа час калі Польшча пачне вайну супраць ВКЛ, Швэцыя абавязвалася дапамагчы ВКЛ. Асобны параграф прысьвячаўся лівонскім баронам: «Тыя лівонцы, якія з увагі на сваё месца жыхарства зрабіліся літвінамі, будуць мець тыя ж правы і свабоды, што і сапраўдныя літвіны, як і было дагэтуль у ВКЛ».

• Нарэшце, два бакі адзначалі, што акт аб уніі мусіць зацьвердзіць кароль Швэцыі: «Усе паасобныя артыкулы дамовы ня могуць аспрэчыць ні папа рымскі, ні біскупы ці іншыя каталіцкія ўлады, ні соймы, ні сходы, ні хто іншы. Толькі кароль Швэцыі мае права патрабаваць ад літоўскіх саслоўяў перагляду гэтых артыкулаў, калі палічыць неабходным. Аднак, калі кароль не пажадае ўносіць зьменаў, усе пункты застаюцца законнымі, правамоцнымі і вечнымі»[527].

Можна заўважыць, што ў параўнаньні з жнівеньскай «Дэклярацыяй» Швэцыя дамаглася значных саступак. Выключаныя ўсе палажэньні, якія не адпавядалі швэдзкім інтарэсам, апроч згоды на сэнатарства каталіцкіх біскупаў. Здымалася патрабаваньне, каб Швэцыя пачала вайну супраць Расеі і Украіны за вызваленьне захопленых літоўскіх тэрыторый. Літвіны больш на прэтэндавалі на раўнапраўны саюз і прасілі толькі захаваць аўтаномію ВКЛ пад швэдзкім пратэктаратам. Значыць, Літва таксама пазбаўлялася права прысутнічаць як раўнапраўны партнэр на будучых перамовах з Польшчай. Здымалася і патрабаваньне, каб у першую чаргу выплочваліся грошы літоўскаму войску. Пасьля пераходу шмат каго зь літоўскіх афіцэраў-каталікоў на польскі бок ніхто ўжо ня згадваў правы Маль-

[527] Nos Magni Ducatus Lithuaniæ Proceres et Ordines, Universis et singulis has inspecturis et lecturis ad perpetuam rei memoriam notum testatumque facimus Quandoquidem in summa status nostri Magni Ducatus Lithuaniæ per potentiam hostilem oppressione et ab armis et protectione Serenissimi Poloniæ Regis Ioannis Casimiri avulsione fatalis et inevitabilis necessitas Nos urserit, ut Serenissimi ac Potentissimi Principis Domini Domini CAROLI GUSTAVI. RA. Militaria. Vol. M. 1304. 31 c. Арыгінал. Тэкст: F.1—7. Подпісы: F. 7—31.

тыйскага ордэну. Упершыню ў сваёй гісторыі ВКЛ пагаджалася ваяваць супраць Польшчы. Больш за тое, літоўская шляхта пазбаўляла польскую дынастыю Вазаў права на тытул вялікіх князёў літоўскіх і аддавала яго швэдзкай дынастыі Пфальцаў. Ранейшая працэдура выбараў караля, у адпаведнасьці з швэдзкай праўнай традыцыяй, скасоўвалася: як вядома, Швэцыя з 1544 г. была спадчыннай манархіяй. Трэба сказаць, большасьць шляхты адмоўна ўспрыняла страту свайго спрадвечнага права абіраць караля (вялікага князя), а таксама прымус ваяваць супраць Польшчы[528].

Вялікі князь, як і раней, жыў за межамі Літвы. Аднак сыстэма кіраваньня зьмянялася. З гэтага часу швэдзкі кароль прызначаў свайго асобнага намесьніка (віцэкараля). Першым і адзіным намесьнікам ВКЛ быў Бэнгт Шутэ. Яго новым рангам статус ВКЛ набліжаўся да ўсходнебалтыйскіх правінцый Швэцыі, якімі кіравалі генэрал-губэрнатары. Шляхта ВКЛ непасрэдна не ўключалася ў склад рыцарства Швэцыі (як было з шляхтай Інгерманляндыі пасьля 1617 г. ці Сканіі пасьля 1658 г.)[529]. Статус літоўскай шляхты быў падобны да становішча баронаў швэдзкай Лівоніі і Эстляндыі. Аднак, адрозна ад гэтых правінцый, швэдзкая арыстакратыя не магла займаць пасадаў у ВКЛ.

Швэцыя гарантавала рэлігійную свабоду і правы трох непратэстанцкіх хрысьціянскіх канфэсій. Такім чынам, рэлігійнае пытаньне вырашалася ў Кейданах у духу талерантнасьці. Тут швэды цалкам прынялі прынцыпы Радзівілаў. Цяжка растлумачыць, чаму ў тэксьце Кейданскага дагавору не ідзе гаворкі аб правах пратэстанцкіх дэнамінацый. Вядома, прадстаўнікам Аўгсбурскай канфэсіі ў новай правінцыі Швэдзкай імпэрыі не патрабаваліся адмысловыя гарантыі. Аднак кальвініцкая царква не сустракала ў Швэцыі вялікай талерантнасьці, а арыяне былі па-за законам. Напэўна, таму ніхто з шасьці рэфармацкіх супэрінтэндантаў і не падпісаў Кейданскай уніі. Але ў розных частках Рэчы Паспалітай пратэстанцкая эліта — кальвіністы і лютэране — добра супрацоўнічалі міжсобку. Прыклады можна знайсьці ў ВКЛ, у польска-літоўскіх Інфлянтах, у герцагстве Прусія, дзе кальвініцкая дынастыя кіравала лютэранскай краінай, у Данцыгу, дзе кальвініцкі магістрат кіраваў пераважна лютэранскім горадам, а таксама ў Курляндыі зь яе мяшанай рэфармацка-лютэранскай палітычнай элітай. І Януш Радзівіл, і курляндзкі герцаг Якаб Кетлер актыўна падтрымлівалі кальвініцка-лютэранскі альянс[530]. Гэта, відаць, давала літоўскім сэпаратыстам падставы верыць у згоднае суіснаваньне кальвініцкай і лютэранскай шляхты і пад швэдзкім панаваньнем.

Прызнаньне Карла X Густава заступнікам праваслаўнай царквы магло мець далёкасяжныя вынікі. На тую ж ролю прэтэндаваў і расейскі цар, які 8 верасьня

528 MSR. P. 86, 90.

529 Rosen, Jerker. Statsledning och provinspolitik under Sveriges stormaktstid // Från Sveriges stormaktstid. Lund, 1966. P. 122—159.

530 Bues, Almut. Das Herzogtum Kurland und der Norden der polnisch-litauischen Adelsrepublik im 16. und 17. Jahrhundert. Möglichkeiten von Integration und Autonomie. Giessen, 2001. P. 264—268.

1655 г. абвясьціў сябе вялікім князем літоўскім і самадзержцам Белай Русі. Таму гэты артыкул ствараў глебу для суперніцтва Швэцыі і Расеі за сымпатыі праваслаўных вернікаў.

У «Дэкларацыі» літоўскія станы прызнавалі швэдзкую пратэкцыю ў зоне, вольнай ад Расейскай і ўкраінскай акупацыі. Кейданская дамова пастанаўляла, што ўсё ВКЛ без выключэньняў аб'ядноўваецца з Швэцыяй. Але 23 кастрычніка, калі ўтварылася Рада швэдзкай Літвы, у яе ўвайшлі прадстаўнікі толькі пяці паветаў, ужо занятых швэдамі. Гэта супярэчыла духу Кейданскай уніі. Відаць, таму Януш Радзівіл не падпісаў акт аб заснаваньні згаданай рады, затое лідэр антырадзівілаўскай апазыцыі Белазор падпісаў гэты дакумэнт першым.

Усяго дамову аб уніі з Швэцыяй падпісалі 1172 прадстаўнікі літоўскай палітычнай нацыі. Першымі паставілі свае подпісы і прыклалі дзяржаўныя пячаткі віленскі ваявода Януш Радзівіл і рыма-каталіцкі біскуп жамойцкі Пётар Парчэўскі. Сьледам за імі ад імя біскупа Юр'я Тышкевіча падпісаўся віленскі біскуп-суфраган Юры Белазор. На думку Тышкевіча, прыклад рэлігійных уладаў у асобах Парчэўскага і Белазора вырашальным чынам паўплываў на стаўленьне да уніі каталіцкай шляхты[531]. Сам Тышкевіч адмовіўся перайсьці на бок Швэцыі і адразу ж паведаміў Пэтра Відона, папскаму нунцыю ў Рэчы Паспалітай, што ён заўсёды выступаў супраць Кейданскай уніі. Ён сьцьвярджаў, што Радзівіл хітрасьцю схіліў Парчэўскага і Белазора да падпісаньня Кейданскай уніі. Адначасова Тышкевіч абвінавачваў біскупа жамойцкага Парчэўскага ў тым, што той папрасіў швэдзкага караля прызначыць яго біскупам віленскім, калі быў яшчэ жывы ён, Тышкевіч[532]. На падставе гэтага ліста Ватыкан зьбіраўся ўзбудзіць справу супраць Парчэўскага, які «незаконна падпісаў унію з Швэцыяй і абвясьціў сябе біскупам віленскім»[533]. Толькі праз хуткае антышвэдзкае паўстаньне (красавік 1656 г.), падчас якога Парчэўскі перайшоў на бок паўстанцаў, Ватыкан так і не пачаў працэсу над ім[534].

Палявы гетман Гасеўскі на той час быў пад арыштам і адмовіўся падпісаць Кейданскую дамову. Адмовіўся падпісацца і таксама трапіў пад арышт генэрал Мікалай Юдзіцкі[535]. Такім чынам, апроч Радзівіла і Парчэўскага, Кейданскую унію падпісалі толькі тры сэнатары: кашталян жамойцкі Яўстах Кердзей-Радзіваноўскі, ваявода вэндэнскі Мікалай Корф і кашталян дорпацкі Вільгельм Хольцшуер. У параўнаньні з жніveньскай «Дэкларацыяй» лік сэнатараў павялічыўся з двух да

[531] Wisner. Rok 1655 w Litwie. P. 97—98.

[532] Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia. Ed. August Theiner. Romae, 1863. Vol. III (1596—1696). P. 497.

[533] Папа Аляксандар VII — нунцыю Пэтра Відона. 12 лютага 1656. De processu fabricando contra ep. Petrum Parczewski qui a parte Suecorum se stetisse asseritur // Codex Mednicensis seu Samogitiae dioecesis. Ed. Paulus Jatulis. Roma, 1989. Vol. II. P. 284—286.

[534] Kamuntavičienė, Vaida. Vyskupo Jurgio Bialozoro (apie 1623—1665) politinė veikla // Soter. Religijos mokslo zurnalas. Kaunas, 2003. No. 9 (37). P. 281—294.

[535] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 205.

пяці, але Радзівіл і швэдзкія прадстаўнікі так і ня здолелі перацягнуць на свой бок большасьць сэнатараў ВКЛ. На тое былі аб'ектыўныя прычыны: шмат хто з сэнатараў выехаў у Польшчу або Прусію, шмат хто застаўся ў сваіх маёнтках на занятых расейцамі землях, а некаторыя магнаты на чале з Паўлам Сапегам уцяклі пад Берасьце і там пацьвердзілі вернасьць польскаму каралю.

Шэраг ураднікаў і вайсковых афіцэраў, чые подпісы стаяць пад жнівеньскай «Дэкляацыяй», не падпісаў Кейданскай дамовы. Многія высокапастаўленыя афіцэры пасьпелі за гэты час перайсьці на польскі бок ці вярнуцца ў свае маёнткі на занятых расейскімі войскамі тэрыторыях. Сярод іх былі Канстанцін Паклонскі, Мацей Гасеўскі, Адам Саковіч, Уладзіслаў Халецкі, Марцыян Агінскі, Ян Быхавец, Міхал і Геранім Пацы, Пётар Ляцкі, Геранім Крысьпін-Кіршанштайн, Самуэль Кацёл, Юры Дэспат-Зяновіч і іншыя. Аднак Шапока памыляецца, што Кейданскую дамову падпісалі ня больш афіцэраў і ўраднікаў, чым жнівеньскую «Дэклярацыю»[536]. Нягледзячы на некаторыя страты, Радзівіл здолеў павялічыць лік па-прашвэдзку настроеных ураднікаў і высокапастаўленых афіцэраў, сабраўшы ўсіх сваіх кліентаў, у тым ліку многіх ураднікаў Жамойці і тых, каму давялося пакінуць занятыя расейска-ўкраінскімі войскамі землі.

З высокіх ураднікаў Літвы падпісалі Кейданскую унію пісар літоўскі Ян Станкевіч, стражнік літоўскі Рыгор Мірскі (пратэстант, далей — «П»), скарбнік браслаўскі Аляксандар Чаплінскі (П), маршалак лідзкі Тэафіл Дунін-Раецкі (П), маршалак вількамірскі Ян Мяжэнскі (П), падкаморы жамойцкі Аляксандар Радзімінскі (П), харунжы вількамірскі палкоўнік Ільля Камароўскі (П), стольнік жамойцкі Ян Шаставіцкі, скабнік менскі Ян Калецкі (П), віленскі судзьдзя земскі Павал Данілевіч (П), стольнік вількамірскі Салямон Давідовіч (П), харунжы ковенскі Мікалай Скарульскі (П), харунжы жамойцкі і цівун Вялікіх Дзірванянаў Ян Гружэўскі (П), упіцкі судзьдзя земскі Павал Марцінкевіч (П), судзьдзя жамойцкі Віктар Млечка, цівун Малых Дзірванянаў Альберт Вазынскі (П), падстолі ковенскі Казімер Даўмонт-Сясіцкі (П), судзьдзя гродзкі віленскі Андрэй Курбскі, харунжы ўпіцкі Станіслаў Дубскі (П), сын менскага ваяводы ротмістар Юры Дунін-Раецкі (П), падсудак жамойцкі Пётар Рыбінскі (П), падчашы жамойцкі Аляксандар Войнят, судзьдзя земскі жамойцкі Адам Станкевіч, лоўчы жамойцкі Адам Невярдоўскі, ротмістар Канстанцін Адахоўскі (П), судзьдзя земскі вількамірскі Гектар Азямблоўскі (П), скарбнік упіцкі Міхал Казімер Валмінскі, войскі ўпіцкі Канстанцін Давойна-Салагуб, войскі вількамірскі Хвалібог Львовіч (П), войскі жамойцкі Ота Тызенгаўз (П), староста гульбінскі ротмістар Рыгор Падбярэскі, стольнік берасьцейскі Павал Заранак-Гарбоўскі (П), падчашы жамойцкі Габрыель Сіповіч, скарбнік троцкі Ўладзіслаў Карэнга, палкоўнік Вільгельм Корф (П), стольнік упіцкі Казімер Белазор, палкоўнік Эрнст Корф (П), падпалкоўнік Ёган Атэнгаўз (П), падчашы ковенскі Станіслаў Азямблоўскі (П), староста старадубскі Самуэль Абрамовіч (П), мастаўнічы полацкі Ян Мерла (П), сын менскага ваяводы Гедэон

[536] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 112.

Дунін-Раецкі (П), падчашы наваградзкі Рыгор Бліндструб з Таўцівіла (П), стольнік вэндэнскі Аляксандар Бжазоўскі (П), падсудак браслаўскі Ўладзіслаў Пуцята (П), падсудак упіцкі Ўладзіслаў Ян Млечка, падчашы ўпіцкі Крыштап Стрыжка (П), сын кашталяна жамойцкага Уладзіслаў Яўстафій Кердзей-Радзіваноўскі, староста тыршклеўскі Геранім Вазынскі (П), лоўчы старадубскі Геранім Бялкоўскі (П), паручнік Себясьцьян Сагайла (П), ротмістар Рыгор Тышкевіч, скарбнік вількамірскі Аляксандар Саўговіч (П), ротмістар Людвік Горскі (П), пісар вількамірскі Багуслаў Каменскі (П), ротмістар Станіслаў Орда, стольнік жамойцкі Сьцяпан Білевіч (П), пісар гродзкі ковенскі Ян Візгірд (П), стольнік менскі Андрэй Касакоўскі (П), пісар земскі ўпіцкі Зыгмунт Шукшта (П), падчашы ашмянскі Сьцяпан Беліковіч (П), піўнічы літоўскі Сьцяпан Прашхлінскі, ротмістар Мікалай Карызна (П), мечнік жамойцкі Даніэль Храстоўскі (П), падчашы ваўкавыскі Пётар Кубліцкі, стольнік Амсьціслаўскі Ян Ядкоўскі (П), мечнік вількамірскі Рафал Завіша (П), харунжы полацкі Казімер Корсак (П) і падчашы ковенскі Юры Чаплінскі.

Такім чынам, агульная колькасьць ураднікаў і высокапастаўленых афіцэраў у параўнаньні з «Дэкларацыяй» ад 17 жніўня вырасла з 45 да 75. Зь іх 53 шляхціцы, пазначаныя «П», належалі да партыі Радзівілаў. Разам з сэнатарамі пратэстанты Літвы складалі 70,5 % усіх падпісантаў — ураднікаў ВКЛ. Сярод іх былі практычна ўсе ачольнікі Ядноты Літоўскай, куратары яе сынодаў, у тым ліку Януш Радзівіл, Тэафіл Дунін-Раецкі, Гедэон Дунін-Раецкі, Крыштап Стрыжка, Рыгор Бліндструб і Аляксандар Саўговіч[537]. Адрозна ад жнівеньскай «Дэкларацыі», Кейданскую дамову падпісала вялікая група лівонскіх баронаў — сэнатары Мікалай Корф і Вільгельм Хольцшуер, войскі жамойцкі Ота Тызенгаўз, палкоўнікі Вільгельм Корф, Эрнст Корф і Ёган Атэнгаўз, афіцэры Рэйнгальт Тызенгаўз, Вільгельм Гротузэн, Крысьціян Корф, Крыстофэр Бухольц, Вільгельм Таўбэ, Вільгельм фон Бэрн, Гайнрых фон Бютлер, Нікалас фон Фітынгоф, Нікалас Шультэ, Крыстофэр фон Тротэн, Ота фон Тротэн, Ота фон Ліндэн, Вільгельм фон Ліндэн і Ёган фон Брадсасэн. Лютэранскія бароны актыўна падпісвалі Кейданскую унію. Прапольскі сьведка адзначаў імпэт лівонцаў і іх прыязнасьць да швэдаў[538]. Таму нядзіўна, што ў тэксьце Кейданскай дамовы зьявіўся адмысловы параграф аб правах лівонскіх баронаў, якія жылі ў Літве. Некаторыя літоўскія пастары, як, напрыклад, Касьпер Лахніцкі — рэфармацкі прапаведнік Кейданаў, таксама падпісалі унію. Былі сярод тых, хто паставіў свае подпісы, і шляхцянкі: Ганна Ўніхоўская, Магдалена Шабельская, Себасьцьяна Мадзялеўская і Міхаліна Храстоўская.

Падпісаньне Кейданскай уніі адбылося ў Радзівілавым палацы. Лёнданская газэта «*Public Intelligencer*» паведаміла сваім чытачам, што падзячны малебен за Кейданскую унію адбыўся «ў лютэранскай кірсе»[539]. Гэта, відаць, памылка, бо кейданская лютэранская кірха была маленькім драўляным будынкам, адрозна ад рэфар-

[537] Liedke. Od prawosławia do katolicyzmu. P. 194 —196.

[538] MSR. P. 80.

[539] Public Intelligencer. November 5 — November 12, 1655. P. 85.

мацкага збору. Таму сьвяточнае богаслужэньне, хутчэй за ўсё, адбылося ў мураваным будынку Кейданскага рэфармацкага катэдральнага збору, узьведзенага Янушам Радзівілам у 1652 г. — найвялікшага рэфармацкага збору ва ўсёй Літве. У Радзівілавым палацы адбылося таксама ўрачыстае прыйманьне. Спачатку на лацінскай мове ад імя ВКЛ выступіў Радзівіл. Бэнгт Шутэ прамаўляў ад імя Швэцыі. Затым ад імя Лівоніі сказаў слова Мікалай Корф. Нарэшце, ад імя Жамойці выступіў з прамовай па-французску Ян Гружэўскі[540]. Калі казаў Мікалай Корф, на другім паверсе раптоўна абваліўся балькон, на якім стаяла шмат людзей[541]. Ніхто не загінуў, але многія атрымалі траўмы (у тым ліку Дэлягардзі). Прысутная шляхта ўбачыла ў гэтым інцыдэнце знак «хуткага падзеньня швэдаў»[542]. Нарэшце, Радзівіл зладзіў у сваім палацы баль[543]. На ім Дэлягардзі ўручыў Радзівілу найвышэйшую швэдзкую ўзнагароду — «ордэн Ісуса»[544]. Богаслужэньне ў дзень падзякі (*Tacksägelsedag*), з чытаньнем публічнай дэклярацыі літоўскіх станаў, прайшло 31 кастрычніка 1655 г. у Рызе і па ўсёй Лівоніі[545], але не ў Стакгольме і іншых гарадох «спрадвечнай» Швэцыі, як гэта было прынята. Гэта сьведчыць пра лякальны характар Кейданскай уніі ў вачох швэдзкай эліты. Між тым посьпехі Швэцыі ў Польшчы ў 1655 г. адзначаліся двойчы, з правядзеньнем дзён падзякі ў Стакгольме і ва ўсіх лютэранскіх катэдрах Швэцыі[546]. А ў Маскве падчас богаслужэньня ў Крамлі патрыярх Антыёхіі і ўсяго Ўсходу Макарый пракляў герэтыка Радзівіла і маліў Госпада «наслаць немач і хваробу на гетмана літоўскага»[547].

Горад Рыга стаў новым адміністрацыйным цэнтрам для жыхароў швэдзкай Літвы. У Рызе шляхта «шукала праўды», пратэстуючы супраць дзеяньняў швэдзкіх салдат[548]. У Рызе швэдзкія ўлады выдавалі ахоўныя граматы і дарылі маёмасьць сваім хаўрусьнікам. Дэлягардзі, які выконваў абавязкі «генэрал-губэрнатара Жамойці і суседніх паветаў Літвы», выдаў шляхціцу Мікалаю Вайтовічу ахоўную грамату на ўрочышча Зайнаў каля Браслава[549].

Сярод афіцэраў Радзівілаў большасьць складалі літоўскія пратэстанты. Падчас перамоваў і пасьля падпісаньня Кейданскай уніі Дэлягардзі надзяліў найбольш адданых афіцэраў вялікімі маёнткамі. Некаторым зь іх нават дасталіся каралеўскія ўладаньні. З гэтай нагоды Дэлягардзі атрымаў вопісы чатырох каралеўскіх

[540] MSR. P. 106.

[541] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. P. 91.

[542] MSR. P. 106.

[543] Тамсама. С. 100 — 106.

[544] Dahlberg, Anne-Marie. Royal splendour in the Royal Armoury. Stockholm, 1996. P. 73.

[545] Kubała. Wojna szwecka. P. 90—91.

[546] Forssberg, Anna Maria. Att hålla folket pågott humör. Informationsspridning, krigspropaganda och mobilisering i Sverige 1655—1680 // Acta Universitatis Stockholmiensis. Stockholm, 2005. P. 298.

[547] Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 206.

[548] MSR. P. 132.

[549] Körner and Tamulynas. Litauen-Sverige. No. 31. P. 33-34. RA. Militaria, M 1305.

эканомій: Шаўляў, Аліты, Горадні і Магілёва[550]. Усе вядомыя 18 узнагароджаных належалі да партыі Радзівілаў, 16 зь іх былі пратэстантамі[551]. Аднак толькі частка падараваных ім земляў была на той час пад кантролем Швэцыі. 25 верасьня Януш Радзівіл атрымаў каралеўскую эканомію горад Шаўлі, які мог прыносіць яму 200 000 злотых штогоднага даходу. Шляхціц-арыянін Ян Мяжэнскі атрымаў маёнтак Прэны ў Ковенскім павеце, а другому арыяніну, Габрыелю Любянецкаму, паляку паводле паходжаньня, дастаўся маёнтак у Польшчы. Стражнік літоўскі кальвініст Рыгор Мірскі атрымаў два маёнткі каля Ўпіты, староста біржайскі кальвініст Крыштап Стрыжка атрымаў Янішкі, а праваслаўнаму князю Андрэю Курбскаму дасталося ўладаньне і пасада маршалка ва Упіцкім павеце. Усе раздадзеныя ўладаньні вызваляліся ад кватараваньня швэдзкага войска.

З падараваных уладаньняў сама меней пяць заставаліся на занятых Расеяй землях ў спрэчных паветах: Гарадзенскім, Ашмянскім і Лідзкім. Так, палкоўнік Вільгельм Корф (лютэранін) атрымаў маёнтак Таўсюны, які знаходзіўся на захопленай маскавітамі тэрыторыі. Палкоўнік на службе Багуслава Радзівіла, лютэранскі шляхціц Эбэрхард Путкамэр атрымаў горад Масты Гарадзенскага павету. Падпалкоўніку, лютэранскаму шляхціцу Ёгану Атэнгаўзу дастаўся маёнтак Дуды пад Ашмянамі — на занятай расейскімі войскамі тэрыторыі. Ротмістар Багуслава Радзівіла кальвініscкі шляхціц Самуэль Высоцкі атрымаў маёнтак Герасімовічы ў Гарадзенскім павеце. Ротмістар Януша Радзівіла, арыянін Аляксандар Мяжэнскі стаўся гаспадаром маёнтка Неманойці, які раней належаў «ворагу Швэцыі» ротмістру Сьцяпану Невяроўскаму.

Шчодрыя падарункі швэдаў сваім літоўскім хаўрусьнікам выклікаюць шэраг пытаньняў:

- Чым тлумачыцца падобнае «разбазарваньня земляў» на карысьць хаўрусьнікаў — літоўскай шляхты на фоне рэдукцыі, распачатай Карлам X Густавам у 1655 г., калі дзяржава канфіскоўвала ранейшыя ўладаньні швэдзкага дваранства?[552]
- Ці гэтыя дары адлюстроўвалі сур'ёзныя і далёкасяжныя пляны швэдзкай эліты наконт будучыні Літвы і мелі на мэце заваяваць падтрымку тутэйшых пратэстантаў?
- Ці, можа, гэта азначала, што швэды не разьлічвалі на доўгатэрміновы посьпех Кейданскай уніі і таму перайшлі да выключна тактычных захадаў — так сказаць, «гульні зь літвінамі»?

На гэтыя пытаньні няма дакладных адказаў. Найбольш праўдападобнай здаецца апошняя гіпотэза, таму што ў аснове тагачаснай замежнай палітыкі Стак-

[550] Annerstedt, Claes. Uppsala Universitets biblioteks historia intill år 1702. Stockholm, 1894. P. 88—99.
[551] Wasilewski. Zdrada Janusza Radziwiłła. P. 141—146.
[552] Dahlgren, Stellan. Karl X Gustav och reduktionen. Stockholm, 1964.

гольму ляжала імкненьне пазьбегнуць вайны з Расеяй. Дарункі ж маглі зрабіць на літвінаў важнае прапагандысцкае ўзьдзеяньне. Магчыма, швэды зь іх дапамогай хацелі ўмацаваць веру сваіх хаўрусьнікаў у тое, што Швэцыя паступова вызваліць захопленыя Расеяй землі і спраўдзіць Кейданскую унію.

Сам мэханізм уніі быў традыцыйны для суб'ектаў Рэчы Паспалітай. Падобныя уніі Польшча заключала з Украінай, Прусіяй, Курляндыяй і Інфлянтамі. ВКЛ цягам сваёй гісторыі таксама заключала некалькі уній з Польшчай (Крэўскую ў 1385 г., Віленска-Радамскую ў 1401 г., Гарадзельскую ў 1413 г., Мельніцкую ў 1501 г. і Люблінскую ў 1569 г.) і Лівоніяй (Вэндэнскую ў 1562 г.). Швэцыя таксама раней заключала уніі з рознымі дзяржавамі, а таксама інкарпаравала новыя тэрыторыі. Можна згадаць Кальмарскую унію з Даніяй і Нарвэгіяй (1397 г.), а таксама інкарпарацыю Эстляндыі (1561 г.), Інгерманляндыі і Карэліі (1617 г.), Паўночнай Лівоніі (1629 г.), Эзэлю, Готлянду, Галянду, Емтлянду і Хэр'ердалену (1645 г.) і Памэраніі (1645 г.).

Посьпехі Швэцыі ў Літве перадвызначылі лёс Курляндыі і Прусіі — тыя апынуліся спрэс абкружаныя падуладнымі Швэцыі тэрыторыямі і мусілі прыняць швэдзкі бок у вайне з Польшчай. 1 сакавіка 1656 г. Шутэ паведаміў Дэлягардзі, што курляндзкі герцаг пагадзіўся прыняць пратэктарат Швэцыі. У студзені 1656 г. Олівэр Кромвэль, лорд-пратэктар Ангельшчыны, прызнаваў Карла X Густава ўладаром усіх усходнеэўрапейскіх земляў аж да Касьпійскага мора[553].

Дэлягардзі і Шутэ былі задаволеныя вынікамі Кейданскай уніі. У шыфраваным данясеньні Карлу X Густаву яны сцьвярджалі, што «цяпер, калі дамова падпісаная, у швэдзкага караля разьвязаныя рукі ў Літве, чаго літоўская шляхта ніколі раней не дазваляла сваім вялікім князям». Але ў той жа час яны падкрэсьлівалі, што толькі частка ВКЛ, «Жамойць і Вількамірскі, Упіцкі, Браслаўскі паветы з часткай Ковенскага», прыняла швэдзкую ўладу. У лісьце каралю яны ня згадвалі іншых частак швэдзкай Літвы, у прыватнасьці, Слуцкага княства, што належала Багуславу Радзівілу. Слуцкая шляхта, знаходзячыся на захопленай маскавітамі тэрыторыі, не прысутнічала ў Кейданах. Тым ня менш, Слуцак заставаўся пад швэдзкай пратэкцыяй два гады (ад жніўня 1655 г. да жніўня 1657 г.) — даўжэй, чым любы іншы літоўскі горад[554]. У кастрычніку 1655 г. на загад Радзівіла бурмістар гораду Ўільям Пэтэрсан адмовіўся здаць яго літвінам, што перайшлі на польскі бок[555]. Швэдзкі Слуцак стаўся месцам прытулку для мясцовых русінаў, габрэяў і шкотаў, а таксама тых, каму давялося пакінуць захопленую маскавітамі Беларусь. Калі ў перанаселеным горадзе склалася крытычная сытуацыя, Багуслаў Радзівіл выдаў адмысловы дэкрэт, у якім браў габрэяў пад сваю апеку і забараняў гараджанам чыніць ім шкоду[556].

[553] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 267—269.

[554] RA. Militaria. Vol. 1305. Doc.1.

[555] AGAD. AR. Dz. V. Teka 355. No. 17.

[556] Degiel, Rafał. Protestanci i Prawosławni. Patronat wyznaniowy Radziwiłłów birżańskich nad Cerkwią prawosławną w księstwie słuckim w XVII w. Warszawa, 2000. P. 66.

Дэлягардзі і Шутэ ў сваім лісьце падкрэсьлівалі, што унія мела шмат ворагаў. Сярод іх была Масковія, войска якой стаяла непадалёк ад занятых швэдамі земляў, а таксама літоўскія палкі на чале з Паўлам Сапегам, якія перайшлі на польскі бок[557]. У дадатак Дэлягардзі трывожыла няяснасьць палітычнай будучыні Літвы як часткі Швэцыі. Пасьля заключэньня уніі ён прызнаваў, што не атрымаў ад караля «ніякіх дакладных указаньнняў наконт таго, што рабіць зь Літвой»[558]. 25 кастрычніка Дэлягардзі, Шутэ і Януш Радзівіл сустрэліся для кансультацый у Вялене на Нёмане. Па-першае, яны прынялі рашэньне зьняць Гасеўскага з пасады польнага гетмана і не вызваляць яго з-пад арышту. На загад Дэлягардзі Радзівіл меўся перакінуць свае войска з 2000 жаўнераў бліжэй да Польшчы, каб заняць Падляшша. Гэтым таксама разьлічвалі перацягнуць на швэдзкі бок ратнікаў Сапегі і разьбіць Вярбілаўскую канфэдэрацыю. Нездаволены тым, што яму даводзіцца пакідаць Літву, Радзівіл пажадаў, каб усе падаткі, сабраныя ў ВКЛ, заставаліся ў яго распараджэньні. Яму адмовілі — маўляў, «тады нічога не застанецца на патрэбы швэдзкага караля».

30 кастрычніка 1655 г. 7-тысячнае швэдзкае войска на чале з Дэлягардзі пераправілася цераз Нёман у раёне Вялены і рушыла на Польшчу. 1—15 лістапада на шляху ў Польшчу швэдзкая армія прайшла праз паўночна-заходнюю частку ВКЛ: Вялена — Гелгудышкі — Славікі — Уладзіславаў — Вярбілава — Віжайны — Бакалажава. Швэдзкія атрады рухаліся ўздоўж заходняга берагу Нёману і паблізу мяжы варожага герцагства Прусія[559]. Паводле словаў Дэлягардзі, «паход зь Літвы быў няпросты, бо варожыя сілы атачалі швэдаў з усіх бакоў. Справа была Прусія, зьлева і сьпераду — Расея ў Коўне, а таксама другая варожая літоўская дывізія з поўначы»[560]. Пакінуць у ВКЛ у такіх умовах усю армію было небясьпечна. Але 7538 жаўнераў, зь якіх 6000 складалі навабранцы, засталіся ў Літве[561]. Кіраваць Літвой былі ўпаўнаважаны каралеўскі намесьнік Бэнгт Шутэ і генэралмаёр Генрык Турн. Аднак 10 лістапада 1655 г. Карл X Густаў прызначыў маршала Левэнгаўпта галоўнакамандуючым усімі войскамі ў ВКЛ[562]. Гэтае рашэньне пазьней зьбівала з панталыку мясцовую шляхту: яна ня надта разумела, хто кіруе яе краінай.

3 кастрычніка 1655 г. сэнатары, верныя польскаму каралю, у тым ліку ваявода троцкі Мікалай Пац, ваявода наваградзкі Пётар Вяжэвіч, ваявода смаленскі Піліп Абуховіч, маршалак літоўскі Крыштап Завіша і ваявода Амсьціслаўскі Юры

[557] Магнус Дэлягардзі і Бэнгт Шутэ — Карлу X Густаву. 31 кастрычніка 1665. Вялена. Па-швэдзку. Шыфр. RA. Livonica II. Vol. 77. Generalguv. i Livland till K. May:T 1655—56.

[558] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 36—37.

[559] KA. Sveriges krig. 0425:05. Krigen mot Polen och Ryssland 1655—1657 samt mot Brandenburg 1658—1660. Мапы № 036—044.

[560] Tersmeden. Carl X Gustafs strategi i kriget mot Polen. P. 46. Note 197.

[561] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 252.

[562] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 121—133.

Друцкі, сустрэліся пад Берасьцем з Сапегам. Яны прывялі свае прыватныя харугвы і паспалітае рушэньне. 27 кастрычніка 1655 г. гэтыя сэнатары пачалі склікаць шляхту ў Берасьце на сойм, «каб разам абмеркаваць будучыню краіны»[563]. У канцы лістапада 1655 г. Павал Сапега вырашыў перайсьці на бок Швэцыі. У лісьце да Дэлягардзі Сапега паведамляў, што ён разам з сваёй дывізіяй і берасьцейскай шляхтай гатовы прыняць пасольства швэдзкага караля. Сапега пісаў, што яго войска разьбіла вялікае маскоўскае войска пад Берасьцем (у Скоках). Пасьля гэтага «шляхта склікала соймік, на якім прыняла пратэкцыю Швэцыі і накіравала да Карла X Густава свайго пасла, які прадстаўляе войска і берасьцейскую шляхту»[564].

Праз тыдзень па дарозе ў Варшаву адбыліся перамовы паміж паслом Сапегі Канстанцінам Катоўскім і дыпляматам Багуслава Радзівіла Бэнэдыктам Альшэўскім. Падчас аўдыенцыі Катоўскага ў караля Швэцыі Карл X Густаў пагадзіўся прыняць берасьцейскае ваяводзтва пад сваю апеку[565]. 20 лістапада 1655 г. у Берасьце зьявіўся швэдзкі эскадрон на чале з карнэтам Вільке. Ён прывёз два лісты ад Карла X Густава, у якіх кароль прапаноўваў сваю пратэкцыю[566]. Адначасова ў Берасьце прыбыў швэдзкі пасол, староста слонімскі Ян Фрыдэрык Сапега. Ён зьбіраўся паведаміць Андрэю Урусаву, які ачольваў маскоўскія войскі на Палесьсі, што Берасьце прыняло швэдзкую пратэкцыю. Павал Сапега хацеў, каб Дэлягардзі «засьведчыў перад каралём яго вялікія заслугі як вайскаводцы»[567]. Паводле словаў Багуслава Радзівіла, за пераход на швэдзкі бок Сапега хацеў атрымаць ад Карла X Густава Шаўлі — найбуйнейшае каралеўскае ўладаньне ў швэдзкай Літве, падоранае ўжо Янушу Радзівілу[568]. Пераход Сапегі на бок Швэцыі занепакоіў Януша Радзівіла. 4 сьнежня 1655 г. Радзівіл пісаў Дэлягардзі, што Сапега нарэшце адкрыта выступіў супраць Масковіі ды Польшчы і што яго мяцежныя жаўнеры «перадумалі і прынялі ўладу караля Швэцыі». Радзівіл падкрэсьліў, што інтарэсам Карла Густава адпавядае, каб швэды падначалілі сабе ўсе літоўскія паветы, не занятыя расейскім войскам. Аднак Радзівіл нагадваў швэдам, што гэта ён, Радзівіл, стаіць на чале літоўскага войска, і рэкамэндаваў перадаць Сапегавых жаўнераў пад яго камандаваньне[569].

20 лістапада 1655 г. з увагі на ваенныя посьпехі Расеі Гарадзенскі павет пагадзіўся прыняць Кейданскую унію. Трыццаць шляхціцаў, якія сабраліся на соймік,

[563] Rachuba. Paweł Sapieha wobec Szwecji. P. 84—86.

[564] Павал Сапега — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 5 сьнежня 1655. Берасьце. Па-польску. RA. De la Gardieska samlingen. Skrivelser till Magnus Gabriel De la Gardie. Ser. C:1. E 1543.

[565] Rachuba. Paweł Sapieha wobec Szwecji. P. 87.

[566] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 24 лістапада 1655. Бочкі. Па-францускy. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till Magnus Gabriel De la Gardie. Ser. C:1. E 1543.

[567] Павал Сапега — Магнусу Дэлягардзі. 5 сьнежня 1655. Берасьце. Па-польску. RA. Ser. C:1. E 1543.

[568] Radziwiłł. Autobiografia. P. 137.

[569] Януш Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 4 сьнежня 1655. Райгарад. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

накіравалі да Дэлягардзі Аляксандра Браташэўскага. У сваім звароце яны прасілі караля Швэцыі ўзяць Горадню і павет пад сваю абарону і ўратаваць іх ад тыраніі Масквы. Стольнік літоўскі Крыштап Патоцкі, галоўны ініцыятар склікання сойміку, першым падпісаў дэклярацыю. Гэты ўплывовы пратэстанцкі шляхціц сярод іншага згадваўся ў сьпісе найбольш верных саюзьнікаў Швэцыі, зробленым Радзівілам. Апроч Патоцкага, свае подпісы пад дакумэнтам паставілі яшчэ два ўраднікі — падчашы вэндэнскі кальвініст Салямон Рысінскі-малодшы і судзьдзя земскі гарадзенскі Станіслаў Сапоцька[570]. Аднак Швэцыя не магла абараніць Горадню, бо паміж ёю і падуладнай Швэцыі літоўскай тэрыторыяй знаходзіліся захопленыя Расеяй землі. У такіх абставінах накіраваць швэдзкае войска ў Горадню азначала непазьбежна распачаць вайну з Масковіяй. Да таго ж тамтэйшая шляхта складалася пераважна з каталікоў, верных каралю Польшчы.

Тым часам швэдзкая армія распараджалася на тэрыторыі Паўночнай Літвы, Януш Радзівіл і яго дывізія адышлі з княства, пакінуўшы ў краіне толькі жамойцкае паспалітае рушэньне. Швэды не давяралі літвінам і спадзяваліся «трымаць іх на павадку з дапамогай шматлікіх залогаў»[571]. Літвіны, у сваю чаргу, баяліся швэдзкай арміі. Нават Радзівіл перавёз сваю сям'ю і найбольш каштоўную маёмасьць у Таўрогі, непадалёк ад прускай мяжы[572].

Кейданская унія хутка стала бескарыснай для швэдаў, бо швэдзкая армія ўжо кантралявала поўнач ВКЛ з жніўня 1655 г. Швэдзкія вайскоўцы паводзіліся ў Літве як у захопленай краіне. Літоўская шляхта разумела, што яе імкнуцца адлучыць ад улады. Рада швэдзкай Літвы мела вельмі малы ўплыў — выконвала дарадчую ролю, дбаючы пра інтарэсы Швэцыі. Такім чынам, Кейданская унія для абодвух бакоў страціла сваё значэньне. Праз узаемны недавер будучыня швэдзкай Літвы выглядала вельмі цьмяна. На пачатку 1656 г. Эрык Уксэнштэрна выклаў Карлу Х Густаву сваё разуменьне мэтаў вайны супраць Рэчы Паспалітай. Згодна зь яго канцэпцыяй, вайна мелася завершыцца інкарпарацыяй усёй Лівоніі, Курляндыі і толькі балтыйскай часткі ВКЛ — Жамойці[573]. 26 сьнежня 1655 г. Януш Радзівіл напісаў Дэлягардзі свой апошні ліст з Падляшша. Ён прызнаваў, што шмат хто з магнатаў адмовіўся ад падтрымкі Кейданскай уніі. Радзівіл наракаў на кепскае здароўе, якое не дае яму самому даць рады з гэтай праблемай. Ён прапаноўваў плян, як яе вырашыць з швэдзкай дапамогай[574]. Аднак у ноч з 30 на 31 сьнежня 1655 г. Януш Радзівіл памёр у сваім замку ў Тыкоціне. Сапраўднай прычынай яго сьмерці была невядомая дактарам хвароба, на якую Радзівіл пакутаваў ужо два месяцы. Але яго паплечнікі западозрылі, што вялікага гетмана ат-

[570] RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[571] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. P. 92.

[572] Kotłubaj. Życie Janusza Radziwiłła. P. 387.

[573] Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 14—15.

[574] Януш Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 26 сьнежня 1655. Тыкоцін. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E. 1531.

руцілі езуіты[575]. Пратэстант зь Менскага ваяводзтва Ян Цадроўскі, які знайшоў прыстанішча на тэрыторыі швэдзкай Літвы, напісаў у сваіх «Успамінах», што Радзівіла «відавочна атруцілі»[576].

Сутыкненьне палітычных амбіцый ды старая варажнеча паміж каталіцкімі родамі Пацаў, Сапегаў і Гасеўскіх з аднаго боку і пратэстанцкім родам Радзівілаў з другога зьвяло на нішто спробы Швэцыі стварыць шырокую антыпольскую кааліцыю. Як вядома, швэды адмовіліся аддаць палітычную ўладу Радзівілам. Больш за тое, апошнім давялося пакінуць Літву. Ахвяраваўшы Радзівіламі, швэды спадзяваліся прывабіць шырэйшае кола шляхты і магнатаў. Аднак супярэчнасьці паміж літоўскімі магнатамі не далі швэдам стварыць прашвэдзкую партыю. Атрымаўшы ад караля Яна Казімера ў канцы студзеня 1656 г. найвышэйшыя цывільную і вайсковую пасады віленскага ваяводы і вялікага гетмана, Павал Сапега з сваім войскам канчаткова перайшоў на польскі бок[577]. У красавіку 1656 г. Вінцэнт Гасеўскі ўцёк з швэдзкага палону ў Прусіі і таксама далучыўся да караля польскага[578]. Гэтыя два літоўскія гетманы ўзначалілі антышвэдзкі супраціў.

## 3.3. Роля Кейданскай уніі ў зьмене балянсу сіл у рэгіёне: асьвятленьне уніі ў Эўропе

Кейданская унія патэнцыйна магла зьмяніць балянс сіл ва ўсёй Усходняй Эўропе і ў Балтыйскім рэгіёне ў прыватнасьці. Пасьля 20 кастрычніка 1655 г. амаль усё балтыйскае ўзьбярэжжа апынулася ў межах Швэдзкай імпэрыі. Балтыйскае мора зрабілася «ўнутраным возерам Швэцыі». На ўсходзе Балтыкі ўзьнік вялікі абсяг, цалкам падуладны Швэцыі. Ён распасьціраўся ад Фінляндыі праз Інгерманляндыю, Эстляндыю, Лівонію, Курляндыю, поўнач Літвы, Вялікую Польшчу і каралеўства Прусія аж да швэдзкай Памэраніі і Брэмэну. Толькі горад Гданьск і герцагства Прускае засталіся не падпарадкаванымі Швэцыі анклавамі. Дэлягардзі загадаў Янушу і Багуславу Радзівілам разгарнуць іх войскі ў Падляшшы. У выніку герцагства Прусія апынулася ў аблозе першай і другой швэдзкіх арміяў, цяпер падмацаваных літоўскімі атрадамі. Швэдзкая вайсковая моц рэзка ўзрасла, а палітычнае становішча Прусіі нашмат пагоршылася. Менавіта Кейданская унія сталася кульмінацыяй швэдзкай палітыкі *«Dominium Maris Balticum»* ды дазволіла Швэцыі ператварыць герцагства Прусія ў свайго хаўрусьніка. Швэдзкая імпэрыя дасягнула зэніту сваёй магутнасьці.

Дзякуючы Кейданскай уніі Літва (адрозна ад гетманскай Украіны) засталася на мапе Эўропы да 1795 г. Толькі альянс з Швэцыяй прадухіліў інкарпарацыю ВКЛ у склад Маскоўскай дзяржавы. Кейданская унія надзвычай ускладніла Расеі далейшае

[575] Wasilewski. Radziwiłł Janusz // PSB. Vol. XXX/1. P. 214.

[576] Помнікі мемуарнай літаратуры. С. 132.

[577] Rachuba. Paweł Sapieha wobec Szwecji. P. 104—107.

[578] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 230.

вядзеньне яе палітыкі. Маскавіты не чакалі, што швэды, якія аднойчы ўжо былі іх хаўрусьнікамі ў вайне супраць Рэчы Паспалітай,ператворацца ў палітычных праціўнікаў. Расейска-швэдзкі канфлікт стаўся непазьбежным. З 1655 г. Расея мусіла змагацца за палітычнае дамінаваньне ў ВКЛ з Швэцыяй, Польшчай і Ўкраінай.

Фармальныя праўныя падставы дапамаглі літвінам разарваць іх 250-гадовую фэдэрацыю з Польшчай. Як і да 1569 г., ВКЛ зноў зрабілася суб'ектам міжнароднай палітыкі. Цяпер мары літоўскіх сэпаратыстаў аднавіць незалежнасьць маглі ажыцьцявіцца. Адрозна ад польскай эліты, якая папросту скарылася Карлу X Густаву, літоўская шляхта паспрабавала наладзіць палітычнае ўзаемадзеяньне, якое дазваляла ўтварыць фэдэрацыю з Швэцыяй. Яе падмурак заклалі дыпляматычныя перамовы, якія папярэднічалі наступу швэдзкай арміі.

Каб забясьпечыць міжнародную легітымнасьць Кейданскай уніі, каля 1060 прадстаўнікоў шляхты і духавенства прынялі публічны зварот да эўрапейскіх дзяржаваў, у якім тлумачыліся прычыны, мэты і характар уніі[579]. Кароткая вэрсія гэтага звароту выйшла друкам раней (15 кастрычніка 1655) асобнай брашурай з паралельным лацінскім і нямецкім тэкстам[580]. Празь месяц дэклярацыю аб уніі пераклалі на галяндзкую мову і надрукавалі ў Амстэрдаме[581]. Занепакоенасьць Галяндыі посьпехамі швэдаў у Літве і Жамойці тлумачылася эканамічнымі прычынамі. Галяндзкія купцы вялі на ўсходзе Балтыкі шырокі гандаль. У рыскі порт прыходзілі пераважна галяндзкія гандлёвыя караблі[582]. Галяндцы былі асноўнымі пастаўнікамі ў ВКЛ селядцоў і тэкстылю. Рыскія бюргеры ня мелі свайго ўласнага флёту. Таму тавары з ВКЛ у Заходнюю Эўропу дастаўлялі галяндзкія караблі[583]. Карыстаючыся сваім пратэктаратам над ВКЛ, швэдзкія купцы маглі вымкнуць з гэтых земляў галяндзкіх.

На пачатку 1656 г. публічны зварот з нагоды Кейданскай уніі выйшаў друкам у Гамбургу, на той час адным з галоўных інфармацыйных цэнтраў Эўропы. Адсюль навіна пра Кейданскую унію разышлася па ўсіх краінах. Зь невядомых прычынаў месцам падпісаньня уніі ў звароце называлася Коўна. Па-прашвэдзку настроеная шляхта ВКЛ абвяшчала:

*Мы, ваяводы і станы Вялікага Княства Літоўскага, даводзім да ведама і разуменьня ўсіх і кожнага, хто ўбачыць і прачытае гэта, што пасьля таго, як*

[579] Nos Magni Ducatus Lithuaniae Proceres et Ordines. RA. Militaria. M. 1304. 22 c.

[580] Procerum & Ordinum Magni Ducatus Lithvaniæ Literæ Reversales De Fide, Subjectioneq; Regibus & Regno Sveciæ æternum præstanda. Der Herrn und Stände Des GroszFurstenthumbs Littawen Endlicher Revers, Dardurch Sie sich und ihre Nach-kommen An Ihrer Königl. May:t und die Cron Schweden zu Ewigen Zeiten verbunden und unterthänig gemacht. Datum Keidani, d. 15 Oct. Anno 1655. KB Sv:s Förh. 839.

[581] Schriftelijck renversael ende Verklaringe der Laths-Heeren ende Staten van't Groot Vorstendom vander LITTAUW, Van Trouwe ende Onderdanigheyt aende Koningen ende aen't tRijck van SWEDEN. Amsterdam, 1655. Каралеўская бібліятэка Нідэрляндаў. No. T. 4398; KB. Sv:s Förh. 841.

[582] Dunsdorf. Merchant shipping in the Baltic during the 17th century. P. 19—20.

[583] Дорошенко. Торговля и купечество Риги. С. 55—56, 67—76, 165.

*маскавіты напалі на Вялікае княства літоўскае і захапілі большую частку нашай мілай Айчыны… ад свайго імя і ад імя нашых нашчадкаў мы сьвядома і добраахвотна, з уласнай волі і па добрай радзе, па-першае — адмаўляемся ад заступніцтва і падпарадкаваньня Яну Казімеру, каралю Польшчы, пазбаўляем і вызваляем яго ад усіх правоў на ВКЛ, абвяшчаем іх несапраўднымі. Затым мы ўрачыста клянёмся і прысягаем прысягай вернасьці і веры, дабрадзейнасьці і сумленьня, што мы і нашы нашчадкі разам і паасобку з гэтага самага часу і навекі прызнаём Яго Каралеўскую Мосьць манарха Швэцыі сваім законным каралём і вялікім князем літоўскім — сваім гаспадаром, а таксама ўсіх будучых каралёў Швэцыі. Мы абавязваемся захоўваць клятву вернасьці, дабрадзейнасьці і паслушэнства заўсёды і непарушна… Дзеля гэтага мы адкідаем усе альянсы, дамовы, сяброўскія дачыненьні з усімі іншымі манархамі, каралямі, князямі ці супольнасьцямі, гэтак жа як зь любымі іншымі ўладамі, іх землямі і падданымі. Усё падобнае, што было ў сіле да гэтага часу, мы абвяшчаем скасаваным. І надалей мы прызнаём толькі тыя дамовы, хаўрусы і дачыненьні, якія Яго Каралеўская Мосьць і ўсе будучыя каралі Швэцыі будуць прымаць; і мы будзем лічыць ворагамі тых, каго яны назавуць або абвесьцяць ворагамі. Мы гарантуем, што гэта дамова, заключаная паміж Яго Вялікасьцю каралём і намі ды падпісаная ваяводамі і станамі ВКЛ, ва ўсім будзе выконвацца нязьменна і непарушна, аб чым сьведчым асабіста і пячаткамі. Коўна. Кастрычнік 1655 г.*[584]

Згодна з законам Рэчы Паспалітай ад 1573 г. (*Articuli Henriciani*), шляхта вызвалялася ад клятвы вернасьці манарху, калі кароль не выконваў сваіх абавязкаў па абароне краіны. Зь цягам часу літоўская шляхта пачала разумець гэты закон як права на ваенны і палітычны супраціў уладару, калі той парушыў свой абавязак бараніць княства[585]. Таму ў публічным звароце абвяшчалася, што як кароль ня выконвае свайго абавязку, літоўская шляхта пазбаўляе яго ўсіх правоў на ВКЛ, прызнаючы іх несапраўднымі.

У кастрычніку 1655 г. пра Кейданскую унію напісалі каталіцкія газэты. Італьянскія выданьні меркавалі, што пагадненьне ВКЛ з апанаванай ерасьсю Швэцыяй можна апраўдаць неабходнасьцю абараніць краіну ад нашэсьця маскавітаў. Зьвярталася ўвага і на рэлігійныя матывы. Напрыклад, мілянская газэта тлумачыла, што падпісаць унію з Швэцыяй жыхароў ВКЛ падштурхнулі іх рэлігійныя прыхільнасьці, «бо гэтую правінцыю, адрозна ад іншых правінцый у Польшчы, насяляюць пераважна кальвіністы, лютэране і арыяне»[586].

[584] Revers der Waywoden und Ständen/deß Gros-Hertzogthumbus Littauen von wegen der Huldigung, Treu, Untertänigkeit, den Königen und Königreich Schweden ewiglich zu lassen und zu halten. Hamburg, 1656. KB. Sv:s Förh 840. P. 13—16.

[585] Kamiński, Andrzej. Historia Rzeczypospolitej wielu narodów, 1505—1795. Lublin, 2000. P. 19—20.

[586] Drob, Janusz. Obieg informacji w Europie w połowie XVII wieku. W świetle drukowanych i rękopiśmiennych gazet w zbiorach watykańskich. Lublin, 1993. P. 173—174.

Ад пачатку вайны Францыя адыгрывала ролю актыўнага пасярэдніка паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй[587]. У францускай Нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца Копія жнівеньскай «Дэкларацыі»[588].

Яшчэ адным важным каналам навін пра Кейданскую унію была хаўрусьніца Швэцыі Ангельшчына. 23 жніўня 1655 г. пасол Швэцыі ў Лёндане Крыстэр Бондэ напісаў Карлу X Густаву, што палітычныя колы Брытаніі ведаюць пра рашэньне Януша Радзівіла дабівацца канфэдэрацыі з Швэцыяй: «Я прыкладаю копію ліста асабістага сябра князя Радзівіла да аднаго зь яго тутэйшых прыяцеляў, якое пераканаўча сьведчыць, наколькі ён незадаволены, так што здаецца зусім магчымым, што ён стане шукаць пратэктарату В[ашай] К[аралеўскай Мосьці], калі толькі ён яшчэ не зрабіў гэтага, як, я спадзяюся, і сталася»[589]. 8 лістапада 1655 г. лёнданская газэта *«Mercurius Politicus»* пісала: «Граф Магнус Дэлягардзі заключыў дамову аб пратэктараце зь Літоўскай дзяржавай, да вялікага задавальненьня абодвух бакоў; цяпер пад апекай Яго Каралеўскай Мосьці яны гатовыя дапамагчы яму ў справах з Прусіяй ці ў любых іншых»[590]. 23 лістапада 1655 г. Бондэ пісаў, што падчас аўдыенцыі ў Олівэра Кромвэля ён паведаміў лорду-пратэктару «пра дамову зь Літвой», паводле якой гетман Радзівіл і мясцовая арыстакратыя далучылі Літву да Швэцыі[591]. Між тым іншая лёнданская газэта, *«Public Intelligencer»*, так пісала пра галоўныя навіны з швэдзкага Штэціна:

*Ягамосьць граф Магнус Дэлягардзі заключыў у Кейданах дамову зь Літоўскай дзяржавай. Згодна з гэтай дамовай, літвіны перайшлі пад швэдзкі пратэктарат, да вялікага задавальненьня абодвух бакоў, так што яны адслужылі падзячны малебен у гонар гэтага ў лютэранскай кірсе, а тады паймянёнага графа Магнуса пачэсна прымаў князь Радзівіл і ўся шляхта; затым ён выправіўся ў сваё войска, якое стаяла за пяць міль ад гэтага месца. Пасьля таго, як Літва злучылася з Швэцыяй, Дэлягардзі пайшоў у Польшчу, пабудаваў мост цераз Нёман*[592].

22 лістапада 1655 г. *«Mercurius Politicus»* надрукавала пераклад публічнай дэкларацыі аб Кейданскай уніі пад загалоўкам «Акт шляхты і станаў Вялікага

[587] Лялькоў, Ігар. Рукапісныя крыніцы Нацыянальнай бібліятэкі Францыі па гісторыі зносінаў паміж Францыяй і Вялікім Княствам Літоўскім у новы час (XVI—XVIII ст.) // Athenaeum. Commentarii Historiae et Culturae. Мінск, 1998. Том 1. С. 15—37.

[588] Nos Proceres et Ordines Magni Ducatus Lithvaniæ infrascripti... ac Potentissimi Principis ac Domini Domini Caroli Gustavi Svecorum, Gotthorum, Vandalorumque Regis. Bibliothèque Nationale de France. Département des manuscrits. Ms.fr.n.a.9819. P. 188—194.

[589] Roberts, Michael (ed.) Swedish diplomats at Cromwell's court, 1655—1656. The missions of Peter Julius Coyet and Christer Bonde. London, 1988. P. 122.

[590] Mercurius Politicus. London, November 1 — November 8, 1655. P. 5738.

[591] Roberts. Swedish diplomats at Cromwell's court. P. 204.

[592] The Public Intelligencer. November 5 — November 12, 1655. P. 85.

Княства Літоўскага, якім яны навекі зьвязваюць сябе вернасьцю і паслушэнствам каралю і каралеўству Швэцыі»[593]. Зноў акцэнт рабіўся на тым, што унія з Швэцыяй заключаная ад імя ўсёй краіны: «Мы, шляхта і станы Вялікага Княства Літоўскага». Ангельскія газэты падкрэсьлівалі, што дамова, якая абвяшчала унію ВКЛ з Швэцыяй на раўнапраўных умовах, ухваленая «да вялікага задавальненьня абодвух бакоў». Хоць гаворка ішла пра княства ў цэлым, увага зьвярталася і на тое, што за уніяй стаяць пераважна пратэстанты.

Ян Амос Каменскі, уражаны посьпехамі Швэцыі ў Польшчы і Літве, напісаў панэгірык Карлу Х Густаву з прадмовай Самуэля Гартліба. Ён выйшаў друкам у Лёндане ў лютым 1656 г. Зьвяртаючыся да Карла Х Густава, Каменскі падкрэсьліваў: «Літва, якая шмат пакутавала пасьля далучэньня да Польшчы, перайшла пад Вашу ўладу і заступніцтва з уласнай волі»[594].

Такім чынам, у канцы 1655 — пачатку 1656 гг. літоўская і швэдзкая палітычная эліта выканала сваю задачу — давесьці да Эўропы станоўчую інфармацыю пра Кейданскую унію. Пазыцыя Польшчы засталася невядомай тагачаснай міжнароднай супольнасьці. Аднак сёньня Кейданская унія разглядаецца як часовы і малавядомы акт падпарадкаваньня, які меў мінімальныя практычныя вынікі[595]. Гэта няслушна: Кейданская унія атрымала вялікі міжнародны розгалас, і навіна аб ёй абышла ўсю тагачасную Эўропу.

## 3.4. Швэдзкая Літва і яе ўлада

Трэці і апошні дакумэнт, зьвязаны з уніяй, быў падпісаны ў Кейданах 23 кастрычніка 1655 г. Ім засноўвалася Рада Літвы на чале з швэдзкім каралеўскім намесьнікам Бэнгтам Шутэ. У раду абралі аднаго прадстаўніка каталіцкага духавенства і па тры шляхціцы ад кожнага павету. Ні ў самой Кейданскай дамове, ні ў тэксьце публічнага звароту Рада ня згадвалася. Тагачасныя эўрапейскія газэты нічога не казалі пра структуру швэдзкай улады ў Літве, хоць іншыя аспэкты уніі, як мы бачылі, разьбіраліся даволі дэталёва. Акт аб заснаваньні Рады застаўся невядомым большасьці сучасных гісторыкаў.

Адольфас Шапока адшукаў гэты дакумэнт у Нацыянальным архіве Швэцыі і першым з навукоўцаў згадаў пра яго існаваньне. Аднак ён ня змог падрабязна вывучыць зьмест гэтага дакумэнту. У сваёй манаграфіі Шапока папракнуў польскіх гісторыкаў Канапчынскага і Лепшага за недакладнасьці ў перадачы тэкстаў Кейданскай уніі. Але ён, на жаль, таксама памылкова перадаў некаторыя імёны і няслушна пераклаў пасады некаторых падпісантаў. Шапока сьцьвярджае, што прадстаўнікі шляхты падпісалі гэты дакумэнт на загад сваіх паветаў. Гэта не адпавя-

[593] Mercurius Politicus. November 15 — November 22, 1655. No. 284. P. 5757—5760.

[594] Comenius, Johann and Hartlib, Samuel. Panegyricus Carolo Gustavo Magno Suecorum, Gothorum, Vandalorumque Regi, incruento Sarmatiae victori, & quaquâ venit liberatori, pio, felici, augusto. Heroi afflictis in solatia, regibus in exemplum, nato. Londini, 1656. P. 2.

дае крыніцы, бо шляхта падпісвала дакумэнт адвольна, кіруючыся практычнымі меркаваньнямі. Напрыклад, некалькі шляхціцаў зь Вількамірскага павету падпісаліся ў розныя дні. Шапока памылкова сьцьвярджае, што Гектар Азямблоўскі, пісар земскі вількамірскі, фігуруе ў складзе Рады як судзьдзя гродзкі. Міхал Варлоўскі з Ковенскага павету ў яго літуанізаваным варыянце падаецца як Міколас Вазлоўскіс[596].

У прэамбуле нашага дакумэнту сьцьвярджаецца, што «шляхта і станы Літвы паведамляюць усім і сьведчаць, што катастрафічнае становішча дзяржавы патрабуе прыняцьця надзвычайных захадаў, бо выратаваньне Айчыны стаіць вышэй за ўсё. Таму, пагаджаючыся з патрабаваньнем Бэнгта Шутэ [далей ідуць тытулы Шутэ], намесьніка швэдзкага караля, яны прызначаюць сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў у асобе Юр'я Белазора ад духоўнага стану і 14 іншых шляхціцаў, каб яны маглі зьбірацца, калі неабходна, каб разглядаць і ўхваляць усё, што можа выратаваць іх і іх Айчыну, згодна з законамі і Статутам Вялікага Княства; а адсутнасьць аднаго ці двух зь іх ня будзе перашкодай»[597]. Такім чынам, Рада стваралася як надзвычайная часовая літоўская адміністрацыя на час вайны для ўзаемадзеяньня з швэдзкімі ўладамі. Яна абавязвалася прымаць рашэньні паводле літоўскіх законаў. Далей ішоў пералік паўнамоцных прадстаўнікоў:

Ад духавенства —
Юры Белазор, біскуп-суфраган віленскі;

ад Вількамірскага павету —
Ільля Камароўскі, харунжы,
Казімер Сясіцкі, падстолі,
Гектар Азямблоўскі, судзьдзя земскі;

ад Браслаўскага павету —
Уладзіслаў Пуцята, падсудак,
Пётар Рудаміна-Дусяцкі, стольнік,
Рыгор Падбярэскі, староста гульбінскі;

ад Ковенскага павету —
Ян Візгірд, судзьдзя гродзкі,
Павал Празор,
Міхал Варлоўскі;

ад Упіцкага павету —
Павал Марцінкевіч, судзьдзя земскі,

595 Kirby. Northern Europe in the Early Modern period. The Baltic world 1492—1772. P. 186.

596 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 117—118.

597 Тут памылка, бо насамрэч было абрана 15 шляхціцаў, па тры ад кожнага павету.

Міхал Казімер Дэзегіра-Валмінскі, скарбнік,
Уладзіслаў Сіцінскі;

ад Жамойцкага княства —
Ян Мікалай Станкевіч, пісар літоўскі,
Альберт Важынскі, цівун Малых Дзірванян,
Вільгельм Корф, староста Орлі і ўладальнік Шаўкян.

Дакумэнт падпісалі каля 450 шляхціцаў з розных паветаў. Першымі сярод іх значацца судзьдзя земскі вількамірскі Станіслаў Белазор, харунжы ўпіцкі пратэстанцкі шляхціц Станіслаў Дэмбскі і пісар гродзкі ўпіцкі праваслаўны князь Ян Яраслаўскі-Курбскі. Сьледам за імі ідзе вялікая група жамойтаў — пісар земскі жамойцкі Адам Станкевіч, падстолі жамойцкі Габрыель Сіповіч, падчашы жамойцкі Аляксандар Войнят, лоўчы жамойцкі і сакратар каронны Ян Бліндструб з Таўцівіла, падчашы каронны Людвік Відліка-Горскі. Пасьля іх паставілі свае подпісы Сьцяпан Падлецкі, Лаўрэнт Белазор і Альбрыхт Даўгяла. Некалькі шляхціцаў падпісаліся за сваіх непісьменных таварышаў. Напрыклад, Самуэль Застэйка-Вайткевіч адзначыў, што «падпісвае акт таксама за свайго сваяка, вельмі старога і непісьменнага Мікалая Застэйку-Вайткевіча і за яго таварыша Яна Галінеўскага, таксама непісьменнага».

Імёны тых, хто першымі падпісалі акт аб заснаваньні Рады, кардынальна адрозьніваюцца ад тых, што стаяць пад галоўным актам Кейданскай уніі і публічным зваротам. Магнаты, біскупы і прадстаўнікі сярэднезаможнай шляхты, сярод якіх пераважалі кліенты Радзівілаў, ухвалілі два першыя дакумэнты, але не апошні. Ніводзін сэнатар, біскуп ці магнат не падпісаў дамовы аб заснаваньні Рады швэдзкай Літвы. Усе, хто падпісаў гэты дакумэнт, паставілі свае імёны і пад актам Кейданскай уніі. Аднак там яны былі далёка ня ў першых шэрагах.

Рада як часовая адміністрацыя была створана празь неабходнасьць знайсьці падтрымку сярод сярэдняй і дробнай шляхты, а ня толькі магнатаў. Гэта сьведчаньне барацьбы літоўскай шляхты з магнатамі за свае правы. Традыцыйна гісторыкі лічаць, што ў Літве, адрозна ад Польшчы, пастановы шляхецкіх соймікаў дыктавалі магнаты. Аднак апошняе дасьледаваньне Артураса Васіляўскаса паказвае, што літоўская ўнутраная палітыка была не такой простай. Ніжэйшая шляхта таксама мела свае мэханізмы ўплыву і ўмела арганізавацца, каб бараніць свае інтарэсы ад магнатаў[598]. Наш дакумэнт, відаць, пацьвярджае гэта. Пры падпісаньні Кейданскай дамовы ўзьнікла сур'ёзнае супрацьстаяньне паміж Радзівілам і звычайнай шляхтай. Ёй не падабалася, што ў перамовах з швэдамі Радзівілу надаваўся надзвычай высокі статус[599]. Ён узначальваў перамовы, і Дэлягардзі прызнаваў яго ключавой палітычнай фігурай Літвы[600]. Радзівіл прапанаваў Шутэ, каб

[598] Vasiliauskas, Arturas. Local Politics and Clientage in the Grand Duchy of Lithuania 1587—1632.

[599] Wisner. Rok 1655 w Litwie. P. 97.

[600] Магнус Дэлягардзі і Бэнгт Шутэ — Карлу X Густаву. 21 кастрычніка 1655. Вялена. Па-швэдзку. Шыфр. RA. Livonica II. Generalguv. i Livland till K. Maj:t 1655—1656. Vol. 77.

будучай Літвой кіравала паны-рада з вышэйшай арыстакратыі[601]. Радзівіл, бясспрэчна, ведаў пра швэдзкую канстытуцыйную рэформу 1634 г., што значна пашырыла правы швэдзкай арыстакратыі. Шутэ, які паходзіў зь нязнатнай сям'і, не падтрымаў праекту Радзівіла. У Швэцыі Шутэ ведалі як абаронцу палітычных правоў звычайнай шляхты[603].

Тым ня менш, аналіз складу Рады сьведчыць, што Радзівіл захаваў свой уплыў і ў гэтай структуры. Дасьледаваньне Ўршулі Аўгустыняк[604] паказвае, што ў Раду ўваходзілі збольшага пратэстанты — кліенты Януша ды Багуслава Радзівілаў. Сярод іх былі Ільля Камароўскі, Казімер Сясіцкі, Гектар Азямблоўскі, Уладзіслаў Пуцята, Ян Візгірд, Павал Празор, Павал Марцінкевіч, Уладзіслаў Сіцінскі, Альберт Вазынскі і Вільгельм Корф. Такім чынам, дзесяць з шаснаццаці радцаў былі кліентамі Радзівілаў. Да апанэнтаў Радзівіла можна аднесьці толькі некалькіх каталікоў, якія не належалі да ягоных кліентаў. Гэта Ян Станкевіч, Юры Белазор, а таксама вядомыя ў войску Рыгор Падбярэскі і Пётар Рудаміна-Дусяцкі. Такім чынам, склад Рады вызначыўся праз кампраміс між магнатамі і шляхтай, пратэстантамі і каталікамі. Галоўнай задачай пры гэтым было стварыць легітымную ўладную структуру.

Тэрыторыя, што падпарадкоўвалася швэдзкім уладам ў Літве, ахоплівала Жамойць, а таксама Вількамірскі, Упіцкі, Браслаўскі і паўночную частку Ковенскага паветаў. Гарады Слуцак і Капыль разам з Слуцкім княствам таксама былі пад швэдзкім пратэктаратам. У параўнаньні зь землямі, захопленымі Расеяй і Ўкраінай, Швэцыі належала толькі малая частка ВКЛ. Дзякуючы гэтаму яе, на думку Дэлягардзі, было лёгка кантраляваць[604].

Швэдзкае войска ў ВКЛ уключала нацыянальныя (швэдзкія, фінскія і лівонскія) фармаваньні, а таксама рэгімэнты шкоцкіх і нямецкіх наймітаў. Узімку 1655—1656 гг. швэдзкая лівонская армія налічвала 7538 чалавек (4108 коньнікаў, 2896 пехацінцаў і 580 драгунаў). 3520 зь іх стаялі на зімовых кватэрах у Літве. 32 атрады раскватараваліся ў Жамойці, 12 — у Вількамірскім павеце, 10 — ва Ўпіцкім, 9 — у Браслаўскім і 8 — у паўночнай частцы Ковенскага павету (гл. мапу № 2)[605]. У пачатку красавіка агульная колькасьць жаўнераў, разьмешчаных у ВКЛ, павялічылася да 8040 чалавек у 124 атрадах[606].

Па заключэньні уніі швэдзкія сілы ўмацавалі 1600 літоўскіх коньнікаў на чале з палкоўнікам Эрнстам Янам Корфам. Корф хутка падняўся на швэдзкай службе і

601 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 93.

602 Rystad, Göran. Johan Gyllenstierna, rådet och kungamakten. Studier i Sveriges inre politik 1660—1680. Lund, 1955.

603 Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 71—81, 123, 186, 295.

604 Магнус Дэлягардзі — Пэру Браге. 8 красавіка 1656. Рыга. Па-швэдзку. RA. Skoklostersamlingen. E 8141.

605 Inquarteringen aff Armeen over Littouu. Šiauliai. February 13, 1656. RA. Militaria 1305.

606 Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 40—43.

зрабіў выдатную кар'еру — увесну 1656 г. атрымаў чын генэрал-маёра[607]. Лівонскі лютэранскі род Корфаў, які ўлучыўся ў літоўскую палітычную нацыю, карыстаўся поўным даверам Дэлягардзі[608]. Да траўня 1656 г. Эрнст Ян і Вільгельм Корфы ачольвалі два швэдзка-літоўскія кавалерыйскія палкі. Яны адступілі ў Курляндыю толькі пасьля антышвэдзкага паўстаньня[609]. Апроч кавалерыі Корфаў, літоўская шляхта складала харугву ў палку Гаральда Ігельстрома. Ёю камандаваў ротмістар Ян Эрынг, літоўскі немец. Швэды былі ня надта высокай думкі пра гэты рэгімэнт. Бурмістар Рыгі Крыстэр Хурн сьцьвярджаў, што ў палку Ігельстрома «дрэнныя афіцэры і бязглуздыя літвіны»[610].

Багуслаў і Януш Радзівілы знаходзіліся на Падляшшы, каб абараняць стратэгічна важную для швэдаў прамежкавую зону паміж Літвой, Польшчай і герцагствам Прусія. Узімку 1655—1656 гг. тут раскватараваліся два палкі Багуслава Радзівіла. У лютым 1656 г. у яго распараджэньне прыбыў швэдзкі полк на чале з палкоўнікам Фабіянам Бэрэнсам. На Падляшшы (у Райгрудзе і Тыкоціне) атабарыўся Януш Радзівіл з 2000 ратнікаў. Дэлягардзі не давяраў Радзівілавым жаўнерам і не хацеў іх вяртаньня ў Літву, бо «яны ненадзейныя і складаюцца з замежнікаў, набраных невядома дзе»[611].

Як згадвалася вышэй, швэдзкія ўлады адмовілі Янушу Радзівілу ў праве разьмяркоўваць падаткі, што зьбіраліся з падуладных Швэцыі тэрыторыяў. Аднак літоўская шляхта чакала, што, згодна з духам перамоваў, гэтыя падаткі пойдуць пераважна на выплаты літоўскаму войску і ўмацаваньне замкаў. Але яе надзеі ня спраўдзіліся. На пачатку сьнежня 1655 г. Дэлягардзі паабяцаў Радзівілу, што швэдзкае войска ня будзе разьмяшчацца на зімовых кватэрах у ВКЛ і вернецца ў Швэцыю (Лівонію), а ў Літве застануцца толькі мясцовыя аддзелы[612]. Аднак і гэтага абяцаньня ня выканалі.

У адказ на фармаваньне прашвэдзкай апазыцыі польскі кароль хутка прыняў шэраг законаў. У 1655—1657 гг. Януш Радзівіл і практычна ўсе яго ўплывовыя кліенты пазбавіліся маёнткаў і пасадаў[613]. Сярод пакараных былі Ян Эрынг, Ёган Атэнгаўз, Рыгор Мірскі, Тобіяс і Самуэль Пуцяты, Юры Нямірыч, Крыштап Мірскі, Стэфан Цадроўскі, Ян Мяжэнскі, Вільгельм Корф, Крыштап Стрыжка, Ян Цадроўскі, Альбрыхт Дэмбоўскі, староста слуцкі Себасьцьян Пяцельчыц і шматлікія іншыя[614]. Усё гэта рабілася незаконна, бо Ян Казімер ня меў права забіраць маёнткі і здымаць шляхціцаў зь іх пасад. Большасьць канфіскаваных ула-

[607] Тамсама. С. 63.

[608] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 93.

[609] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 63.

[610] Тамсама. Зноска 92.

[611] Тамсама. Зноска 74.

[612] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 134.

[613] LM. No. 71, 82, 165, 303, 437.

[614] Тамсама. №№ 16; 21, 29; 86; 100; 185; 299; 303; 334; 373; 457; 459; 460; 544.

даньняў знаходзіліся на тэрыторыях, занятых Швэцыяй або Расеяй. Таму на той час гэтыя канфіскацыі засталіся на паперы. Наўзамен кароль Польшчы аддаў адабраныя землі і пасады тым літоўскім афіцэрам і ўраднікам, хто захаваў яму вернасьць. Ён адзначаў, што «маёмасьць здраднікаў аплачана крывёй літоўскіх патрыётаў, верных свайму каралю»[615]. Гэтыя захады дапамаглі Яну Казімеру перацягнуць шэраг літвінаў на польскі бок.

Жыхары занятай швэдамі Літвы, якія прынялі прысягу Карлу X Густаву, таксама зьведалі ўціск польскага манарха. Каралеўскім загадам яны пазбаўляліся ўсёй сваёй маёмасьці. Сярод пацярпелых былі купцы і аптэкары, якія дапамагалі швэдзкай арміі: Фрык Ганус, Якуб Млынарак, Ганус Фурысан з Жамойці, Крысьціян Рэгвальд і Ян Бражына з Коўна, Тамаш Тшчэншчаў з Кейданаў, Тамаш Гібель, Апанас Казманчук і Юры Дамес зь Вільні, Ян Маюс зь Вількаміру і Васіль Каcтравіцкі зь Менску[616]. Амаль усе яны былі пратэстанты, хоць траплялiся i некаторыя праваслаўныя (Казманчук). Пацярпелі і літоўскія лютэране. Загадам Яна Казімера за спрыяньне швэдам і Радзівілу ды за «здраду Рэчы Паспалітай, Кароне і сьвятой Рыма-каталіцкай царкве» пастар Хацішэўскі страціў усю сваю маёмасьць у Лідзе[617]. У 1656 г. ковенскіх лютэранаў Паўла Мэйраха і Якуба Шэмэфэльца пазбавілі маёмасьці за тое, што яны «самі прапанавалі свае паслугі ў якасьці паслоў да караля Швэцыі, дзе наважыліся прасіць перадаць каталіцкі катэдральны касьцёл Сьвятога Паўла лютэранскай кангрэгацыі, а таксама мелі зламысныя намеры наконт нашых братоў каталікоў і верных нам падданых»[618].

Пра дзейнасьць Рады швэдзкай Літвы вядома вельмі мала, бо неўзабаве яе працу паралізавала паўстаньне ў Жамойці (красавік — травень 1656 г.). Першы яе сход адбыўся ў Жагарах 27—28 лістапада 1655 г. На ім літоўскія дэпутаты разам з Шутэ і Левэнгаўптам зацьвердзілі рашэньне аб разьмяшчэньні ў ВКЛ швэдзкіх залогаў. Рада прыняла некаторыя важныя пастановы на карысьць шляхты ВКЛ. Швэдзкаму войску не дазвалялася разьмяшчацца на пастой у сядзібах шляхты. Правіянт можна было рэквізоўваць толькі пад выдадзеныя расьпіскі, якія затым ішлі ў залік падаткаў. Падаткі меліся зьбіраць сумесна швэдзкія і літоўскія афіцэры. Быў утвораны адмысловы камітэт па зборы падаткаў, у які ўваходзілі абодва бакі. Яго ўзначалілі швэдзкі каралеўскі інспэктар Адольф фон Разэнталь і літоўскі скарбнік старадубскі Ян Цюндзявіцкі. У складзе камітэту былі таксама швэдзкі каралеўскі аўдытар Валерыюс Транзэбэ і літвіны Юры Белазор (ад Віленскага біскупства), Габрыель Сіповіч (ад Жамойці), Канстанцін Салагуб-Давойна (ад Упіты) і Лаўрын Пачобут (ад Вількаміру)[619].

615 LM. No. 833.

616 Тамсама. №№ 56, 106, 303, 316, 360, 506, 652, 703, 754, 864.

617 Тамсама. № 203.

618 Тамсама. № 214.

619 RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. Brev till Bengt Skytte. No. 169—170.

У Жагарах літоўская шляхта і духавенства пагадзіліся плаціць новаму вялікаму князю тры падаткі. Першы — «ланавы збор» — надзвычайны ваенны падатак, які зьбіраўся падчас вайны з усіх зямельных уладаньняў — каронных, шляхецкіх і царкоўных. Другі — «падатак падымны» — звычайны каралеўскі падатак, які з 1629 г. сплачвалі шляхта, духавенства, гараджане і сяляне. Трэці натуральны падатак уводзіўся галоўным чынам у Жамойці для забесьпячэньня швэдзкіх вайскоўцаў. Радцы дамовіліся, што агульная сума збораў зь пяці літоўскіх паветаў на карысьць новага ўладара Карла X Густава за 1655 г. будзе складаць 110 000 талераў — надзвычай шмат для тамтэйшага насельніцтва[620]. Гэтае пагадненьне выклікала першы канфлікт паміж літвінамі і швэдамі. Кейданскую унію падпісалі ў канцы кастрычніка, і літвіны чакалі, што ў 1655 г. плацяжы будуць спаганяцца толькі за лістапад і сьнежань, а магчыма, нават будуць адкладзены да пачатку наступнага году. Аднак пад націскам швэдаў Рада пастанавіла зьбіраць падаткі за ўвесь 1655 г. Між тым шмат хто ўжо сплаціў падаткі ў літоўскі скарб. Натуральна, шляхта была супраць такога рашэньня. Швэды ж не хацелі саступаць найважнейшых уладных паўнамоцтваў — па зборы падаткаў. Замест запляналаваных ста тысяч срэбных талераў швэдзкі ўрад сабраў у ВКЛ за 1655 г. толькі 62 653 талеры. І таму ў 1656 г. падатковы ціск рэзка ўзрос: толькі за першыя тры месяцы швэды спагналі ў Літве 185 233 талеры з заплянаваных на той год 243 522. Прычым ўсю суму сплацілі толькі пяць паветаў. Гэта было значна больш у параўнаньні з 300 000 талераў падаткаў з усіх 24 паветаў ВКЛ, што сплачваліся штогод польскаму каралю.

Швэдзкія ўлады вырашылі не разьмяркоўваць большасьць каралеўскіх уладаньняў сярод ляяльнай шляхты, палічыўшы, што яны могуць прынесьці прыбытак швэдзкай кароне. У сьнежні 1655 г. для папаўненьня швэдзкай казны ўвялі новыя мытныя зборы, г. зв. «літоўскія акцызы». Іх меліся плаціць усе літвіны, але шляхта, згодна са сваімі традыцыйнымі прывілеямі, ад іх вызвалялася. У Біржах была створана швэдзкая цэнтральная мытня ў Літве. За першыя тры месяцы 1656 г. швэдзкая мытня ў Жамойці і Паўночнай Літве сабрала 32 603 срэбныя талеры — у параўнаньні з 8880 талераў за ўвесь 1655 г. Натуральна, такое рэзкае павелічэньне мытаў абурыла літвінаў, якія разьлічвалі на раўнапраўную унію з швэдамі, а не каляніяльны прыгнёт[621].

Швэдзкае войска стварыла яшчэ адну праблему. Улада ў швэдзкай Літве не належала цывільнай адміністрацыі — краінай кіравалі вайскоўцы. Дэлягардзі і Шутэ наведваліся ў Літву толькі раз-пораз, у асноўным ажыцьцяўляючы кіраваньне звонку — з Рыгі ці Курляндыі. Тым часам ў Жамойці і Літве раскватараваліся тысячы швэдзкіх жаўнераў. Каб не плаціць падаткаў на іх утрыманьне, літвінам заставалася толькі адно — пусьціць швэдзкіх вайскоўцаў у свае дамы і карміць іх за свой кошт. Альтэрнатыва, што і казаць, не з непрыемных. Маючы наёмную армію, Швэцыя практыкавала сыстэму кантрыбуцый. Упершыню яе

[620] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 141—142.

[621] Fagerlund. Kontribution, försträckning och kaduck. P. 321—337.

выкарысталі падчас войнаў у Германіі ў 1618—1648 гг. Апрабавала яе швэдзкая адміністрацыя і ў Літве ў 1655—1656 гг.[622] Швэды набылі шырокі досьвед ў ваеннай лягістыцы на замежных тэрыторыях. Вайсковыя адміністратары разьлічвалі на немалыя паступленьні ад кантрыбуцый і падатковых збораў, на долю ад канфіскаваных непрыяцельскіх маёнткаў і часам на рабункі[623]. Літвіны не прадбачылі, што швэды ўскладуць выдаткі на ўтрыманьне войска на мясцовае насельніцтва, як гэта было ў іх прынята. Найперш таму тамтэйшыя жыхары і сабатавалі збор падаткаў. Швэдзкія ўлады ў Літве так і не змаглі даць рады гэтай праблеме.

Як толькі швэдзкія атрады ўвайшлі ў ВКЛ, пачаліся сутычкі. У жніўні 1655 г. адзін з найбольш уплывовых шляхціцаў — Аляксандар Радзімінскі, падкаморы жамойцкі — скардзіўся Дэлягардзі на дрэнныя паводзіны швэдзкіх салдат. Ён паведаміў пра начны рэйд падпалкоўніка Марціна Шульца, калі той спаліў маёнтак Радзімінскага, забраў яго коней і майно. Падчас рэйду ў жонкі Радзімінскага здарыўся выкідыш[624]. Дэлягардзі не адказаў на гэты зварот. Таму пры падпісаньні Кейданскай уніі Радзімінскі зноў зьвярнуўся з скаргай. Ён адзначаў, што «зьнявага і шкода, нанесеныя мне і маёй жонцы Марцінам Шульцам, прымушаюць мяне дабівацца правасудзьдзя»[625]. У верасьні 1655 г. два літоўскія шляхціцы забілі швэдзкага кур'ера[626]. Другі літоўскі шляхціц на швэдзкай службе Ян Бліндструб іх арыштаваў. Януш Радзівіл асабіста выказаў сваю глыбокую заклапочанасьць дзеяньнямі швэдзкай арміі ў лісьце да Дэлягардзі:

*Некаторыя інцыдэнты заліваюць гарачыя памкненьні да уніі халоднай вадой, спараджаюць у людзей сумненьні і могуць разбурыць нават тое, што распачалося зь вялікім посьпехам. Так, мне вядома, у прыватнасьці, што адзін з атрадаў швэдзкага войска напаў на дом жыхара Жамойці, высокапаважанага прадстаўніка нашай шляхты Аляксандра Радзімінскага, падкаморага жамойцкага. Яго гвалтам змусілі падпісаць квітанцыю, у якой ён абавязваўся выплаціць швэдзкім жаўнерам да вызначанай даты 15 000 залатых імпэрыялаў.*

Больш за тое, швэды выкрадалі заможных людзей, пераважна жанчын, і патрабавалі выкуп:

*Да гэтага жахлівага інцыдэнту дадаўся яшчэ адзін: тыя самыя людзі захапілі каля Палангі і забралі з сабой пані Войну, удаву літоўскага карчмара;*

622 Nilsson, Sven. A. De stora krigens tid: om Sverige som militärstat och bondesamhälle. Uppsala, 1990. P. 178—196.

623 Glete, Jan. War and the state in early modern Europe. Spain, the Dutch Republic and Sweden as fiscal-military states, 1500—1660. London, 2002. P. 208—210.

624 Аляксандар Радзімінскі — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. Жнівень 1655. Па-лацінску. De la Gardieska Samlingen. Skrivelserlser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

625 Аляксандар Радзімінскі — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 20 кастрычніка 1655. Кейданы. Па-лацінску. De la Gardieska Samlingen. Skrivelserlser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

626 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 140.

*пані Корсак, удаву падкаморага полацкага; а таксама пані Білевіч. Падрабязнае апісаньне гэтага выпадку выкладзенае ў дакумэнтах, напісаных панам Білевічам і дастаўленых у некалькіх копіях і ў перакладзе пану Хорсту. Няцяжка сказаць, якое ўражаньне такія нечаканыя і ганебныя ўчынкі робяць на людзей, што паверылі ў заступніцтва караля Швэцыі.*

Радзівіл патрабаваў «дзеля пашаны да Яго Каралеўскай Мосьці тых, хто захапіў вышэйпералічаных, строга пакараць, каб кампэнсаваць гэтую жахлівую крыўду і засьведчыць, што Карл X Густаў не датычны да гэтых ганебных учынкаў». Ён раіў Дэлягардзі скласьці сьпіс літоўскіх маёнткаў, у якіх меркавалася расквартараваць швэдзкіх жаўнераў, і катэгарычна забараніць акты гвалту. Радзівіл сьцьвярджаў, што з падобнымі скаргамі зьвярталася шмат шляхціцаў. Ён непакоіўся пра будучы статус сваіх уласных уладаньняў у Біржах і Жамойці[627]. Дэлягардзі падзяляў трывогу Радзівіла. 14 лістапада 1655 г. ён напісаў каралю, што рашэньне адклікаць зь Літвы старыя «дасьведчаныя» вайсковы падразьдзяленьні і пакінуць там швэдзкіх навабранцаў было памылковым, бо гэтыя зьвязы стваралі праблемы і складаліся зь недысцыплінаваных жаўнераў[628].

Такім чынам, галоўныя прыхільнікі швэдаў, Радзівілы, былі нездаволены іх палітыкай у Літве. Варты ўвагі ліст Багуслава Радзівіла да Дэлягардзі, у якім той крытыкаваў швэдзкую падатковую палітыку. Радзівіл сьцьвярджаў, што яна супярэчыць намерам швэдзкага караля:

*Я адчуваю, што нешматлікія ўладаньні маіх сваякоў [Марыі і Ганны Радзівіл] у Жамойці, прыбыткамі зь якіх яны жывуць у гэтыя страшэнныя часы, знаходзяцца пад пагрозай рабункаў вайскоўцамі. Але Яго Каралеўская Мосьць запэўніў мяне, што гэта не адпавядае яго жаданьням, што ён хацеў бы захаваць нам свабоду карыстацца нашымі землямі і што менавіта гэта ён напісаў Яго Сьветласьці [Дэлягардзі] у адказ на мой ліст. Я б хацеў да гэтага дадаць сваю пакорлівую просьбу, і менавіта гэта я раблю, ужыць ваш прэстыж і ўплыў, каб дапамагчы вызваліць цяпер і надалей законныя ўладаньні маіх стрыечных сёстраў ад разьмяшчэньня салдат і іншых непасільных выдаткаў на іх утрыманьне, каб яны маглі мець некаторыя сродкі на існаваньне ва ўмовах, якія адпавядаюць іх высакароднаму паходжаньню.*

Сапраўды, у адказ на Радзівілаў ліст Карл X Густаў даў непасрэднае ўказаньне вызваліць землі Радзівілаў ад названых выдаткаў[629]. Загад быў выкананы, і швэд-

[627] Януш Радзівіл — Магнусу Габрыелю Дэлягардзі. 27 верасьня 1655. Кейданы. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

[628] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 38.

[629] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 18 студзеня 1656. Па-французску. Schippenbeil/Sępopol. На адвароце — Карл X Густаў — Дэлягардзі. Па-швэдзку. RA. De la Gardieska Samlingen. Ser. C:I. E 1531.

зкія рэгімэнты больш не спыняліся ў маёнтках Радзівілаў. Адзіным выключэньнем быў Біржайскі замак, які згодна з папярэднімі дамоўленасьцямі перайшоў пад кантроль швэдаў.

Між тым як швэдзкая адміністрацыя актыўна падтрымлівала спагнаньні на карысьць сваёй арміі, Расея, наадварот, вызваліла насельніцтва на захопленых землях Беларусі і Літвы ад падаткаў на два ці тры гады[630]. Дэлягардзі абвясьціў, што 17 сьнежня 1655 г. — апошні тэрмін сплаты падаткаў. Тым ня менш, шмат хто з жыхароў гэтага не зрабіў, і каб змусіць іх, спатрэбіліся суворыя захады[631]. У выніку на Дэлягардзі і Шутэ пасыпаліся лісты з скаргамі на жорсткасьць швэдзкіх афіцэраў пры зборы падаткаў і кантрыбуцыйных выплат[632]. У прыватнасьці, на паводзіны швэдаў наракаў будучы ачольнік антышвэдзкага паўстаньня Аляксандар Юдзіцкі. Ён пісаў Шутэ, што пасьля разьвітаньня зь ім яму не ўдавалася зьвярнуцца да Шутэ зь лістом. Аднак у яго сядзібу ў маёнтку Ясвойны завітаў швэдзкі камісар і, спаслаўшыся на загад Шутэ, запатрабаваў правізію. Юдзіцкі папрасіў пісьмовага пацьверджаньня, што гэты загад сапраўды зыходзіць ад Шутэ, але швэд яму адмовіў. Тады Юдзіцкі папрасіў дазволу паслаць да Шутэ чалавека, які б засьведчыў яго сьветласьці гаротны стан маёнтку[633].

Апроч канфліктаў паміж літоўскай шляхтай і швэдзкім войскам, узьніклі сур'ёзныя супярэчнасьці паміж мясцовымі ўплывовымі хаўрусьнікамі швэдаў і астатняй шляхтай наконт разьмеркаваньня зямельных маёнткаў. Напрыклад, 18 лістапада 1655 г. Шутэ напісала ліст удава ваяводы берасьцейскага Аляксандра Кляноўская-Радзімінская. Яна сьцьвярджала, што, ратуючыся ад навалы маскавітаў, прыехала ў Жамойць, дзе мае некалькі вёсак, атрыманых у падарунак ад каралёў — папярэднікаў Карла X Густава за службу свайго мужа і за свае ўласныя заслугі перад Бацькаўшчынай. Нягледзячы на гэта, палкоўнік Эрнст Ян Корф [літоўскі лютэранін на швэдзкай службе] канфіскаваў тры ейныя вёскі[634]. Яна прасіла Шутэ заступіцца за яе і загадаць Корфу вярнуць вёскі.

Істотнай праблемай сталіся адносіны швэдаў і літоўскага духавенства. Зь невядомых прычынаў супэрінтэндант эвангелічна-рэфармацкай царквы ў Жамойці Ян Бажымоўскі ня браў удзелу ў кейданскіх перамовах. Прымас лютэранскай царквы — супэрінтэндант літоўскі і жамойцкі Ян Маліна ўлетку 1655 г. уцёк зь Вільні ў герцагства Прусія і таксама ня ўдзельнічаў у перамовах з Швэцыяй. У Прусіі Маліна напісаў твор пад назвай *«Excidium Lithuaniae»*, у якім аплакваў спусташэньне радзімы.

У 1655—1656 гг. швэды занялі толькі 6 з 24 паветаў ВКЛ. Аднак акурат на іх тэрыторыі знаходзілася большасьць пратэстанцкіх збораў (каля 70 са 100). Вось іх сьпіс:

[630] Гардзееў, Максім. «Пад час небеспеченства од Москвы». Актавая кніга полацкага магістрату за 1656—1657 гг. як крыніца па вывучэнню вайны 1654—1667 гг. // Беларускі гістарычны агляд. Мінск, 1999. Том 6. Сш. 1—2. С. 202—221.

[631] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 140—142.

[632] RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531; RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. Brev till Bengt Skytte. No. 36, 155, 157, 159, 160, 169, 170.

1) эвангелічна-рэфармацкія

• у Жамойці — біржайскі, гелуўскі, грынкішкаўскі, гружаўскі, кейданскі, келмскі, краснагалішкаўскі, куртавянскі, куркельскі, лінкуўскі, слабадзкі, манкішкаўскі, мантвілішкаўскі, пашаўскі, планянскі, Расіёнскі, шыдлоўскі, шылянскі, сьвентанішкаўскі, швабішкаўскі, відукельскі і жэймайскі;

• у Браслаўскім павеце — браслаўскі, іказенскі і ўкельскі;

• ва Ўпіцкім павеце — біржайскі, радзівілішкаўскі, уладзіславаўскі, папельскі, панявескі, бейнараўскі;

• у Вількамірскім павеце — аванцкі, чадзескі, дзявілтаўскі, янушаўскі, памускі, панатэрскі, саламесьцеўскі, солаўскі, сьвядасьцеўскі, шацкі, відзішкаўскі, віжэльскі і віжунскі;

• у Слуцкім павеце — слуцкі, капыльскі, пагосцкі і літвіновіцкі;

2) лютэранскія — кейданскі, таўроскі, гаурскі, шкудзкі, швенцкі, шаўкянскі, жэймскі, алкішкаўскі, вярбілаўскі, панямунскі і гелгудышскаўскі (Жамойць); біржайскі, салачайскі і радзівілішкаўскі (Упіцкі павет); жэймайскі і віштынецкі (Ковенскі павет); слуцкі і замосьцеўскі (Слуцкі павет);

3) арыянскія — кейданскі і таўроскі.

Такім чынам, швэды займалі найбольш пратэстанцкую частку княства. Дзеля бясьпекі яны палічылі за лепшае разьмясьціць гарнізоны ў пратэстанцкіх мястэчках Гружы, Грынкішкі, Шкуды, Швенты, Панямунь, Біржы, Радзівілішкі, Расіёны, Браслаў, Іказьнь і Краснагалішкі. Буйныя швэдзкія гарнізоны знаходзіліся ў двух замках — Біржайскім і Панямунскім на рацэ Нёман (апошні належаў лютэранскаму шляхціцу Крыштапу Эпэрыешу). Гэта падрывала давер да швэдаў з боку мясцовых пратэстантаў, якім цяпер даводзілася плаціць вялікія дадатковыя зборы на ўтрыманьне войска. 14 сакавіка 1656 г. у Біржах адбыўся сынод рэфармацкай царквы Літвы і Жамойці. У звароце да Дэлягардзі пратэстанцкія сьвятары і шляхта падзякавалі за швэдзкую пратэкцыю і дэкляравалі сваю непарушную вернасьць і паслушэнства Карлу X Густаву. Аднак яны папрасілі Дэлягардзі, як губэрнатара Літвы, абараніць эвангелічныя прыходы ВКЛ ад высокіх кантрыбуцый, а таксама выдаць ахоўныя граматы найбуйнейшым пратэстанцкім асяродкам[635].

Уніяцкія і праваслаўныя япіскапы таксама апынуліся на выгнаньні — хто ў герцагстве Прусія, хто ў Польшчы. Таму яны не маглі ўзаемадзейнічаць з швэдамі. Такім чынам, адзінай духоўнай уладай, якая па-ранейшаму вяла рэй у швэдзкай Літве, быў рыма-каталіцкі касьцёл. Швэдзкія ўлады прызнавалі палітычны

633 Аляксандар Юдзіцкі — Бэнгту Шутэ. 11 лістапада 1655. Ясвойны. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 159.

634 Аляксандра Кляноўская-Радзімінская — Бэнгту Шутэ. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 157.

635 Humillima postulate Synodica per Trans-Wilia et Samogitiae. March 14, 1656. Biržai. Latin. RA. Militaria 1304.

ўплыў каталіцкай царквы і далікатна зь ёю абыходзіліся. Аднак звычайныя жаўнеры-лютэране, натуральна, варожа ставіліся да каталікоў. 29 лістапада 1655 г. прыёр дамініканскага кляштару ў Расіёнах Крыштап Куровіч скардзіўся Шутэ на паводзіны швэдзкіх салдат. Каталіцкі сьвятар нагадваў Шутэ, што той аднаго разу гасьцяваў у яго кляштары, і бедаваў, што салдаты «ўвесь час спыняюцца ў кляштары і чыняць шмат шкоды, патрабуюць ежы, якой нават мне і маім манахам не хапае»[636]. У сьнежні 1655 г. Шутэ прасіў у біскупа Парчэўскага дазволу правесьці лютэранскія богаслужэньні для швэдзкіх салдат у каталіцкіх касьцёлах Жамойці, «пакуль мы не пабудуем сваіх кірхаў»[637]. Гэта была палітычная памылка швэдзкай адміністрацыі. Лютэранскія службы ў каталіцкіх касьцёлах выклікалі варожасьць мясцовага каталіцкага насельніцтва да «ератыкоў»-швэдаў. У лютым 1656 г. швэдзкія жаўнеры зь невядомых прычын забілі двух каталіцкіх ксяндзоў. Гэтае здарэньне спарадзіла антышвэдзкія настроі сярод каталіцкіх сьвятароў. Біскуп Парчэўскі даслаў з гэтай нагоды пратэст швэдзкаму ваеннаму камандаваньню[638].

На Каляды 1655 г. членц Рады швэдзкай Літвы Юры Белазор паскардзіўся Шутэ на дзеяньні швэдзкіх вайскоўцаў на касьцёльных землях. Ён адзначаў, што да яго зьвярталіся амаль усе сьвятары Віленскай дыяцэзіі. Швэдзкія найміты зноў і зноў рабілі рэквізыцыі на касьцёльных землях, не зважаючы на тое, што Кейданскай дамовай тыя вызваляліся ад падаткаў. Таму Белазор прасіў Шутэ зацьвердзіць ахоўную грамату, прыкладзеную да ліста[639]. Біскуп Парчэўскі накіраваў Дэлягардзі скаргу, трэці раз просячы яго загадаць палкоўніку Якабу Скоту (швэдзка-лівонскі шляхціц шкоцкага паходжаньня) вызваліць ад сваіх вайскоўцаў біскупскі маёнтак Павандзяны. Гэтая вёска належала маршалку жамойцкаму (Хрызастому Валадкевічу), але, згодна з законам аб вымарачных землях, перайшла ў валоданьне караля Швэцыі. На думку Парчэўскага, гэта было «памылкай», бо ён яшчэ да вайны атрымаў Павандзяны ў падарунак. Парчэўскі таксама прасіў Дэлягардзі вызваліць іншыя яго землі ад пастою жаўнераў палкоўніка Эрыка Крузэ. Біскуп патрабаваў забясьпечыць захаваньне правоў усіх сьвятароў дыяцэзіі, бо пастановай Рады ў Жагарах каталіцкае духавенства вызвалялася ад утрыманьня войска[640]. Швэдзкія ўлады часткова адрэагавалі на зварот біскупа: Павандзяны вырашылі перадаць Парчэўскаму[641]. Жаўнерам было забаронена сілай адымаць правіянт[642].

[636] Крыштап Куровіч — Бэнгту Шутэ. 29 лістапада 1655. Расіёны. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 116.

[637] Dundulis, Bronius. Švedų feodalų įsiveržimai į Lietuvą XVII—XVIII a. Vilnius, 1977. P. 62—63.

[638] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 149—150.

[639] Юры Белазор — Бэнгту Шутэ. 22 сьнежня 1655. Рэмігола. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 160.

[640] Скарга Парчэўскага Дэлягардзі. 9 сьнежня 1655. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[641] Пётар Парчэўскі — Магнусу Дэлягардзі. 14 сакавіка 1656. Па-лацінску. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[642] RA. Militaria. Vol. M. 1304.

31 сьнежня 1655 г. памёр Януш Радзівіл. Сьмерць ачольніка літоўскіх сэпаратыстаў, бясспрэчна, аслабіла прашвэдзкую партыю. 17 студзеня 1656 г. памёр Тышкевіч — галоўны працаўнік Кейданскай уніі сярод духавенства. Па ягонай сьмерці швэды без узгадненьня з Ватыканам прызначылі біскупам віленскім Юр'я Белазора. Шутэ зьвярнуўся да вернікаў Віленскай дыяцэзіі. Ён папрасіў іх «выказаць павагу каралеўскаму намесьніку і ня ставіць новага ярарха, а таксама не прымаць ксяндзоў з маскоўскага боку, бо літвіны паабяцалі ўжо служыць швэдзкаму каралю, а немагчыма служыць двум гаспадарам адначасова»[643]. 25 сакавіка Юр'я Белазора ўрачыста ўзьвялі на новую пасаду. Ён паабяцаў захоўваць «вернасьць каралю Швэцыі».

Неўзабаве пасьля свайго прызначэньня новы галава Віленскай дыяцэзіі даслаў Дэлягардзі доўгі мэмарандум, у якім выказваў ляяльнае стаўленьне каталіцкага касьцёлу да новай лютэранскай улады. Белазор папрасіў, згодна з палажэньнямі Кейданскай уніі, падтрымкі на пасадзе духоўнага лідэра літвінаў-каталікоў. Пры гэтым ён скардзіўся на паводзіны салдат. Паводле словаў Белазора, швэдзкія нямецкамоўныя ўнівэрсалы, якія забаранялі жаўнерам ужываць сілу, ня згадвалі пра касьцёльныя ўладаньні, хоць менавіта яны часта цярпелі ад рэквізыцый. Белазор адзначаў, што такая забарона згадваецца ў лацінамоўным унівэрсале швэдаў, але ніхто з вайскоўцаў не разумее лаціны. Таму ён прасіў дадаць у тэкст на швэдзкай ці нямецкай мове палажэньне, якое абараняла б духоўных асобаў і іх маёмасьць, бо духавенства мела права на тыя самыя прывілеі, што і шляхта, таму што амаль усе каталіцкія сьвятары паходзілі з шляхецкіх сямей. Далей ён прасіў права для сябе і іншых каталіцкіх сьвятароў, наведваючы Рыгу, свабодна праводзіць каталіцкія богаслужэньні ў прыватных дамох. Белазор ставіў пытаньне: каму павінны ісьці падаткі (2 178 залатых флярынаў) на нерухомую маёмасьць Віленскага біскупства за 1655 г.? Белазор ужо сплаціў падаткі за два гады наперад, і таму прасіў вызваліць яго ад плацяжоў у 1656 і 1657 гг. Пятым пунктам ён прасіў пацьвердзіць ягоныя правы на падораныя яму швэдзкім каралём маёнткі Лаўчуны і Тавяны паблізу Вількаміру, што раней належалі здрадніку Станіславу Масальскаму, які ўцёк у Масковію. Белазор яшчэ раз прасіў вызваліць ад утрыманьня войска яго маёнтак Грынкішкі і горад Посваль, падораныя яму швэдзкім каралём. Нарэшце, Белазор пісаў: «У маіх гарадох Рэмігола і Панявеж стаялі швэдзкія салдаты на чале зь Людвігам Таўбэ. Я забясьпечыў іх правізіяй і грашыма. Аднак Таўбэ пакінуў Рэміголу, а замест яго прыйшоў літоўскі зьвяз на чале з ротмістрам Янам Эрынгам. У гэтай харугве няма ніводнага добрага немца, а яна ўся складаецца з нашых вельмі наравістых літоўскіх жаўнераў». Таму ён прасіў Шутэ, калі ёсьць магчымасьць, даслаць рэгулярны швэдзкі зьвяз замест літоўскага[644]. У адказе Белазору ад 24 лютага 1656 г. Дэлягардзі паведаміў, што ён пад

[643] Бэнгт Шутэ — вернікам Віленскай дыяцэзіі. 14 лютага 1656. Біржы. Па-лацінску. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[644] Memoriale Georgoi Biallozor Custode Prelato et Administratore Epat. Vilnensis. 1656. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

пагрозай пакараньня забараніў швэдзкім салдатам патрабаваць грошы ў каталіцкіх сьвятароў ці ўжываць супраць іх сілу[645].

1 студзеня 1656 г. Белазор паведамляў Шутэ, што ён разам з сваім стрыечным братам Станіславам Белазорам і некаторымі дэпутатамі Рады швэдзкай Літвы прыедзе ў Біржы на другое пасяджэньне Рады. Зьявіліся і іншыя ўплывовыя шляхціцы зь Вількамірскага, Браслаўскага і Ўпіцкага паветаў — апроч Жамойці[646]. Жамойцкая шляхта ў пачатку лютага 1656 г. склікала свой уласны соймік у Расіёнах. Маршалкам на ім быў дэпутат Рады Ян Станкевіч. Соймік накіраваў да маршала Левэнгаўпта двух паслоў з прынятай раней рэзалюцыяй пад назвай «Інструкцыя да Левэнгаўпта, дадзеная падстолію жамойцкаму Габрыелю Сіповічу і старосту Кведарнаў Міхалу Войну паслані павету, гарадзкімі судзьдзямі і ўсёй шляхтай, што сабралася на соймік Жамойці». Напачатку шляхта выказвала сваю павагу новай улады. Шляхта пацьвярджала, што каралеўскі аўдытар Швэцыі Валерыюс Транзэбэ да ўсеагульнай карысьці нарэшце прыбыў у Расіёны і там спыніўся.

Аднак рэшта дакумэнту выказвала глыбокае незадавальненьне швэдзкім панаваньнем. Паслы патрабавалі ад Левэнгаўпта навесьці дысцыпліну сярод жаўнераў і прымусіць іх паважаць законы і традыцыі краіны, а таксама пастановы літоўскай Рады ў Жагарах. Па-першае, не зважаючы на гэтыя пастановы, швэдзкія вайскоўцы ўвесь час спыняліся ў шляхецкіх сядзібах, што стварала нязручнасьці іх уладальнікам. Гэта супярэчыла традыцыйным правам шляхты. Па-другое, Рада ў Жагарах пастанавіла, што, калі жаўнер рэквізуе больш правізіі, чым вызначана, лішак будзе залічвацца ў кошт падаткаў. Аднак гэтага не рабілася, і паслы прасілі выправіць гэтую несправядлівасьць. Па-трэцяе, касьцёльным уладаньням, асабліва езуіцкім калегіюмам у Крожах і Пашаўшах, даводзілася несьці такія ж павіннасьці па ўтрыманьні швэдзкага войска, як і каралеўскім землям, што супярэчыла законам і традыцыям Жамойці. Шляхта падкрэсьлівала, што рыскі камэрсант Ганс Вітмахер (будучы заснавальнік Швэдзкага нацыянальнага банку) незаконна перашкодзіў збору падаткаў у Жамойці, «даручанаму Габрыелю Сіповічу, у пацьвярджэньне чаго ў апошняга ёсьць адпаведныя дакумэнты, завераныя ўсімі чальцамі Рады»[647]. Жамойты сьцьвярджалі, што падаткі зьбіраліся ня толькі ўпаўна-

645 Carlon. Ryska kriget. P. 20.

646 Юры Белазор — Бэнгту Шутэ. 1 студзеня 1656. Рэмігола. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 155.

647 Таленавіты камэрсант Ганс Вітмахер нарадзіўся ў Рызе ў 1611 г. Яго бацька быў галяндзкім купцом, а маці Ганна Бельская паходзіла з русінскага роду Літвы. У 1655—1656 гг. Вітмахер зрабіў выдатную кар'еру ў Літве пад камандаваньнем Дэлягардзі. 30 лістапада 1656 г. Дэлягардзі адрэкамэндаваў Вітмахера Карлу Х Густаву, які падаў ідэю аб стварэньні Нацыянальнага банку. Вітмахер перасяліўся ў Стакгольм і заснаваў *«Stockholms Banco»*, сёньня вядомы як *«Riksbanken»* — першы нацыянальны банк у сьвеце. Ён атрымаў шляхецкую годнасьць і памёр пад імем Юхана Пальмструха; гл.: Svenskt Biografiskt Handlexikon. Stockholm, 1906. Vol. II. P. 268; Катлярчук Андрэй. Першы ў сьвеце дзяржаўны банк і першыя банкноты: беларускі сьлед // Наша Ніва. 2 лістапада 2006.

важанымі афіцэрамі і інспэктарам, але і швэдзкім палкоўнікам Юханам Плейтнэрам, які вымагаў грошы ў некаторых шляхціцаў. Гэта выклікала непаразуменьні наконт памеру падаткаў. Таму, «каб пазьбегнуць памылкі ў падліках», паслы настойвалі на спыненьні двайнога збору плацяжоў. Паслы пісалі, што ўжо праінфармавалі каралеўскага намесьніка Шутэ, як салдаты, пасланыя сілай атрымаць грошы зь неплацельцаў, крыўдзілі нават тых, хто ўжо сплаціў падаткі, хоць у некаторых былі пацьвярджальныя дакумэнты. Таму паслы прасілі даручыць спагнаньне падаткаў зь неплацельцаў выключна літоўскім зьбіральнікам ці маршалку мясцовай шляхты, згодна з законамі і звычаямі краіны. Апроч гэтага, у дакумэнце прыводзіліся скаргі высокапастаўленых шляхціцаў. Скарбнік старадубскі і ачольнік швэдзка-літоўскага падатковага камітэту Ян Цюндзявіцкі скардзіўся на швэдзкага кватармайстра Філіпа Разэнштайна і обэр-лейтэнанта Гунара Ігельсона. Швэдзкія афіцэры праігнаравалі загад Шутэ і разьмясьцілі у доме Цюндзявіцкага нешта ўтаймоўных жаўнераў, зьбілі яго брата і жонку, а таксама зрабілі шмат крыўды яго сялянам. Таму ён патрабаваў справядлівасьці. Самуэль Юшкевіч ужо раней падаваў скаргу на швэда Юхана Вібэрга за захоп у маёнтку Бяржаны, хоць пасьля Кейданскай уніі гэты маёнтак падарыў Юшкевічу кароль Швэцыі. Шутэ тады пацьвердзіў яго правы. Аднак Вібэрг працягваў пагражаць Юшкевічу. Таму паслы патрабавалі, каб такія дзеяньні і пагрозы былі забароненыя і каб Левэнгаўпту паведамлялі пра іншыя падобныя інцыдэнты. Жамойты прасілі Левэнгаўпта загадаць каралеўскаму аўдытару хутчэй дапамагаць пакрыўджаным[648]. Іх вельмі засмучала тое, што зборам падаткаў вельмі часта займаюцца швэдзкія афіцэры, а не мясцовыя ўраднікі[649]. Гэта супярэчыла прынцыпам Кейданскай дамовы, паводле якой унія была фэдэрацыяй двух раўнапраўных партнэраў.

Аднак нават мясцовым зьбіральнікам падаткаў даводзілася няпроста. 16 сьнежня 1655 г. швэдзка-літоўскі ўпаўнаважаны па зборы падаткаў у Вількамірскім павеце Лаўрын Пачобут пісаў Шутэ, што мясцовая шляхта сабатуе выплату падаткаў, і прасіў выдаць адмысловы дадатковы загад[650]. Зьбіральнік з Упіты, Канстанцін Салагуб-Давойна, паведамляў Шутэ, што пасьпяхова спагнаў падаткі за 1655 г. Але ў яго выйшаў канфлікт з швэдзкімі афіцэрамі. Салагуб пісаў, што палкоўнік Ёханэс Гардэмэйстэр прыйшоў да яго з загадам ад Левэнгаўпта тэрмінова выдаць некалькі тысяч талераў для платы швэдзкім вайскоўцам. Салагуб пытаўся ў Шутэ, што яму рабіць[651].

Расла нездаволенасьць жорсткімі падаткамі. 8 лютага 1656 г. упіцкая шляхта даслала зварот да Шутэ. Яна сабралася на соймік у Біржах і накіравала да намесьніка з скаргамі і патрабаваньнямі двух паслоў — павятовага маршалка Гераніма

[648] 2 лютага 1656. Расіёны. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[649] MSR. P. 98, 132.

[650] Лаўрын Пачобут — Бэнгту Шутэ. 16 сьнежня 1655. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 169.

[651] Канстанцін Салагуб-Давойна — Бэнгту Шутэ. 28 сьнежня 1655. Лінкува. Па-лацінску. RA. Esplunda arkiv. Vol. I:20. No. 170.

Пузыну і пана Буткевіча[652]. З звароту генэрал-губэрнатара Лівоніі, Жамойці і прылеглых паветаў Літвы да літвінаў ад 23 лютага 1656 г. відаць, у якім заблытаным стане было падаткаабкладаньне. Дэлягардзі пісаў, што «з часу ўступленьня швэдзкай арміі ў Літву і Жамойць іх жыхары ахвяравалі на яе карысьць незьлічоныя сумы грошай і разнастайны правіянт, уключаючы звычайныя і адмысловыя падаткі на ўтрыманьне войска. Каб акуратна падлічваць ахвяраваньні, я ня бачу іншага спосабу, як толькі абавязаць гэта рабіць мясцовых урадьнікаў і прадстаўнікоў шляхты». Пабачыўшы недзеяздольнасьць літоўскай Рады, Дэлягардзі паспрабаваў склікаць мясцовыя шляхецкія соймікі. Ён заклікаў шляхту Жамойці і Вількамірскага, Браслаўскага ды Ўпіцкага паветаў сабрацца на соймікі не пазьней за 1 красавіка 1656 г. (20 сакавіка паводле швэдзкага старога стылю), каб абмеркаваць з швэдзкімі камісарамі ўсе праблемы, якія датычаць швэдзкага кіраваньня. Жамойць і Літва мусілі скласьці пералікі сваіх плацяжоў і перадаць сьпісы каралеўскім камісарам у вызначаных гарадох[653]. На загад Дэлягардзі начальнік швэдзкай адміністрацыі ва Ўпіцкім павеце маёр Тэафіл Больтэн чакаў сойміка ў Панявежы на працягу тыдня, але марна[654]. Ніякіх адказаў не прыйшло і з Жамойці ды Браслаўшчыны. На соймік сабралася толькі шляхта Вількамірскага павету. Яна вырашыла накіраваць да Дэлягардзі свайго пасла Юр'я Касялкоўскага — «рыцара Багуслава Радзівіла». Дэкларацыя «шляхты Анікштаўскага староства Вількамірскага павету Магнусу Габрыелю Дэлягардзі», падпісаная больш як 30 шляхціцамі, сьцьвярджала:

*Мы ўсьведамляем, што асоба, да якой мы зьвяртаемся, стаіць на чале нашай краіны і прадстаўляе швэдзкага караля. Таму мы хочам, каб Яго Сьветласьць ведаў пра нашы беды і памкненьні. Наша зямля ўздоўж ракі Сьвятой спустошаная у выніку рэйдаў маскавітаў, пераходаў літоўскіх жаўнераў і праз адсутнасьць гаспадароў, якія былі на перамовах у Кейданах. Таму мы не змаглі сабраць таго, што пасеялі. Некаторыя з нашых маёнткаў разрабаваныя ворагам, некаторыя спаленыя, многія нашы сваякі былі забіты, а некаторыя прапалі бязь вестак, нашы дамы былі ў агні. Таму, няхай Гасподзь будзе нам сьведкам, нам няма з чаго плаціць падаткі.*

Далей шляхта паведамляла, што яна з радасьцю запрашае швэдзкія рэгімэнты ў Анікшты для абароны, але толькі нямногія зь іх могуць выдаткаваць грошы на ўтрыманьне войскаў. Калі магчыма, яны былі б рады атрымаць дазвол на ска-

[652] 8 лютага 1656. Біржы. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[653] Sacrae Regia Majestatis Regnorumq, Sveciae Senator Ac Thessaurarius, Generalis Gubernator Livoniae, Ducatus Samogithiae Cum Adjacentibus districtibus Lithvaniuam..Magnus Gabriel de la Gardie. Riga. 13 лютага 1656. Друк. KB. F 1700. Fol. Kungsskrivelser. 1c.

[654] Тэафіл Больтэн — Магнусу Дэлягардзі. 18 красавіка 1656. Панявеж. Па-нямецку. RA. De la Gardieska Samlingen. E 1350.

рачэньне паставак правіянту для арміі да аднае ў год. Яны пакорліва просяць дазволіць ім дастаўляць правізію ў Біржы, як яны і рабілі дагэтуль, што вызваліла б іх ад дадатковых плацяжоў, якія маглі б запатрабаваць швэдзкія жаўнеры[655]. Гэтая дэклярацыя сьведчыць пра незадаволенасьць літвінаў швэдзкай падатковай палітыкай, што ня ўлічвала катастрафічнага эканамічнага становішча, выкліканага вайной. З звароту таксама відаць, што швэдзкае вышэйшае камандаваньне і асобныя аддзелы, якія патрабавалі ў мясцовага насельніцтва дадатковых паставак правізіі і плацяжоў, не ўзгаднялі свае дзеяньні.

Швэдзкія цывільныя і ваенныя ўлады разглядалі Літву як забраную краіну. Кіраўнік цывільнай адміністрацыі Дэлягардзі ня мог кантраляваць дзеяньні швэдзкіх войскаў. Армія паводзіла сябе ў ВКЛ як на акупаваных тэрыторыях і патрабавала ўсё больш правіянту і грошай. Крызіс надышоў у лютым 1656 г., калі Швэцыя вырашыла перадысьлякаваць свае рэгімэнты з Прусіі ў Жамойць. Колькасьць швэдзкіх зьвязаў на зімовых кватэрах рэзка ўзрасла — са 120 да 160 рэгімэнтаў[656]. 7 красавіка 1656 г. у паведамленьні Карлу X Густаву Дэлягардзі перасьцярог, што літвіны зрабіліся «амаль ворагамі» і ён баіцца, што «аднаго дня яны могуць узяць прыклад з палякаў»[657]. Зразумеўшы сваю памылку, Дэлягардзі зьменшыў колькасьць атрадаў у Літве да 124[658].

Спрабуючы выратаваць становішча палітычнымі сродкамі, Дэлягардзі плянаваў на 4 траўня 1656 г. правесьці ў Біржах агульнае пасяджэньне Рады швэдзкай Літвы і літоўскага Сойму «каб абмеркаваць пытаньне пра высокія падаткі з усімі літоўскімі станамі»[659]. Швэдзкая Каралеўская Рада атрымала ад Дэлягардзі справаздачу, у якой ён інфармаваў Раду пра будучы сойм у Біржах, дзе ён плянуе папрасіць у мясцовых паслоў дапамогі ў вырашэньні выкліканых вайной праблем[660]. 18 красавіка Дэлягардзі выехаў з Рыгі ў Літву. Чальцы літоўскай Рады (колькі менавіта, невядома) сабраліся ў Біржах і пакорліва чакалі Дэлягардзі да 5 траўня. Тады Юры Белазор даслаў ліст, у якім напісаў, што тэрмін правядзеньня сойму выйшаў і, як яны зразумелі, намесьнік швэдзкага караля заняты больш важнымі справамі. Таму, пісаў Белазор, яны разьяжджаюцца, бо не атрымалі ад Дэлягардзі ніякіх дадатковых загадаў[661]. Як слушна выказаўся Шапока, дэпутаты маглі б пачакаць і даўжэй, але антышвэдзкае паўстаньне прымусіла іх разьехацца раней, чым плянавалася[662].

[655] RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[656] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 41.

[657] Магнус Габрыель Дэлягардзі — Карлу X Густаву. 7 красавіка 1656. Рыга. RA. Livonica II. Generalguvernör Livland till Kungliga Majestät 1655—1656. Vol. 77.

[658] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 41.

[659] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 287. Note 3.

[660] Svenska riksrådets protokoll. Vol. 16. P. 442.

[661] Юры Белазор — Магнусу Дэлягардзі. 5 траўня 1656. Біржы. Па-лацінску. RA. Militaria. Vol. M. 1304.

[662] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 157.

Такім чынам, Рада швэдзкай Літвы, заснаваная пасьля Кейданскай уніі, здолела правесьці толькі адну паўнавартасную сэсію і не змагла стаць аўтарытэтным уладным органам. З пачаткам антышвэдзкага паўстаньня чальцы Рады разьбегліся па розных лягерах. Некаторыя зь іх захавалі вернасьць Швэцыі. Другія вярнуліся на бок Польшчы. Трэцяя група спрабавала наладзіць сувязі з Масквой. Аднак утварэньне і дзейнасьць літоўскай Рады, як і іншая прашвэдзкая дзейнасьць, паказвае, што Кейданская унія была нечым большым, чым проста змова Радзівіла. Яна мела грамадзкую падтрымку.

## 3.5. Антышвэдзкае паўстаньне ў Жамойці і канец Кейданскай уніі

*У 1656 г. літвіны падняліся на ўзброенае паўстаньне і забілі ўсіх швэдаў, расквартараваных паміж імі.*

Бэрнард Конар. 1698 г.

### 3.5.1. Матывы паўстаньня і яго першы этап

Антышвэдзкае паўстаньне 1656 г. зьмяніла балянс сіл у Балтыйскім рэгіёне ў горшы для Швэцыі бок. Паўстаньне мела шырокі эўрапейскі розгалас, і яго апісаньні зьявіліся ў працах гісторыкаў яшчэ ў XVII ст.[663]. Швэдзкія і польскія гісторыкі разглядаюць гэтае паўстаньне як частку агульнапольскага антышвэдзкага супраціву. Ляндбэрг, напрыклад, сьцьвярджае, што літоўскіх паўстанцаў натхняў добра арганізаваны супраціў у Польшчы[664]. Насамрэч, на думку шляхты, пільныя швэды пазбавілі насельніцтва Літвы магчымасьці атрымліваць праўдзівую інфармацыю пра падзеі ў Польшчы[665]. Падпарадкаванае швэдам і Радзівілам Падляшша надзейна адасабляла Літву ад Польшчы. Фагерлюнд піша, што ўжо ў канцы сакавіка 1656 г. у вачох швэдзкай адміністрацыі «паўстаньне зрабілася бясспрэчным фактам»[666]. І ўсё ж яно засьпела швэдаў зьнянацку і выклікала паніку.

Польскія гісторыкі схільныя прыніжаць маштаб паўстаньня ў Літве і яго незьвязанасьць з польскім. Затое яны падкрэсьліваюць слабасьць швэдзкай улады ў ВКЛ. Кадэлё сьцьвярджае, што паўстаньне супраць Швэцыі ахапіла ўсю Польшчу і Літву

[663] Pufendorf, Samuel. Samuelis liberi baronis de Pufendorf De rebus a Carolo Gustav Sveciae rege gestis commentariorum, libri septem elegantissimis tabulis aeneis exornati cum triplici indice. Norimbergae, 1696; Connor. History of Poland. P. 131.

[664] Landberg, Georg. Den svenska utrikespolitikens historia. Stockholm, 1952. 1:3, 1648—1697. P. 93.

[665] MSR. P. 134.

[666] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 45.

і што «здрада Радзівілаў выклікала абурэньне ўсяго літоўскага грамадзтва»[667]. Насамрэч у некаторых паветах швэдзкай Літвы супраціву амаль не паўстала (Браслаўшчына). Радзівілы былі не адны: значная частка мясцовай шляхты па-ранейшаму захоўвала вернасьць Швэцыі і выступала супраць уласных суайчыньнікаў. Ахмянскі гаворыць, што ключавая роля ў арганізацыі паўстаньня належала польнаму гетману Гасеўскаму[668]. Аднак войска на чале з Гасеўскім прыйшло ў Літву пасьля паўстаньня. Паўстанцы ўсталявалі сувязь з Варшавай у чэрвені—ліпені 1656 г., але напачатку палякі не аказвалі ім ніякай канкрэтнай дапамогі. Ва ўнівэрсале ад 16 верасьня 1656 г. кароль Ян Казімер ухваляў жамойтаў за тое, што яны разьбілі швэдаў уласнымі сіламі і сродкамі[669].

Стыхійныя антышвэдзкія выступленьні не знайшлі падтрымкі сярод рэгулярнага войска і ўраднікаў Літвы. Як арганізоўвалася паўстаньне і чым кіраваліся яго ачольнікі — гэтыя пытаньні дасюль ня маюць пэўнага адказу. Каб знайсьці яго, неабходна глыбока дасьледаваць усе яго падрабязнасьці і пачатковыя крокі па яго арганізацыі. Пуфэндорф адзначаў, што паўстаньне выклікаў цэлы комплекс прычын:

- высокія падаткі;
- прапаганда езуітаў;
- недавер між пратэстантамі і каталікамі;
- чуткі пра сьмерць Карла X Густава;
- падтрымка Расеі[670].

Падобныя прычыны пералічваў і Шутэ ў данясеньні Карлу X Густаву ад 6 траўня 1656 г.[671]. Малавядомая літоўская крыніца пралівае сьвятло на галоўныя прычыны паўстаньня. Яе аўтар Мікалай Шэмет падпісаў Кейданскую дамову, але пазьней далучыўся да паўстаньня. Ён склаў падрабязную справаздачу польскаму каралю. На ягоную думку, паўстаньне спарадзілі перадусім палітычныя прычыны. Швэцыя не выконвала ўмоваў Кейданскай уніі. Шэмет пісаў, што Швэцыя абавязалася весьці вайну з Расеяй за вызваленьне забраных земляў ВКЛ. Замест гэтага швэды разьмясьцілі свае войскі на пастой у Жамойці і Паўночнай Літве. У выніку шляхта зразумела, чаго напраўду хацелі швэды — захапіць ВКЛ:

*Швэд не дапамагае супраць Масковіі.*
*Замест таго плюндруе двары шляхецкімя свавольна…*
*Замест волі няволя паўстала з новай апекі*[672].

[667] Codello, Aleksander. Wydarzenia wojenne na Żmudzi i w Kurlandii 1656—1660 // Przegląd Historyczny. Warszawa, 1966. Vol. 57. P. 49.

[668] Ochmański, Jerzy. Historia Litwy. Wrocław, 1982. P. 129.

[669] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 67.

[670] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 190.

[671] Carlsson, Alfred Bernhard. Sverige och den östereuropeiska krisen. Ett betänkande af Bengt Skytte om den svenska politiken // Historisk tidskrift. 1912. p. 113.

[672] MSR. P. 76, 188.

На думку Шэмета, яшчэ адной прычынай абурэньня шляхты быў кошт утрыманьня швэдзкай арміі. Усе выдаткі леглі на шляхецкія маёнткі. Гэта прымусіла паспалітае рушэньне Жамойці кінуць швэдзкую службу і вярнуцца дамоў. Нарэшце, як гаворыць Шэмет, адной з галоўных прычын незадавальненьня швэдзкай уладай былі высокія падаткі[673].

22 красавіка 1656 г. Дэлягардзі паведаміў каралю Швэцыі, што ў Літве пачалося паўстаньне[674]. Напэўна, яно разгарэлася паміж 18 і 21 красавіка. Перш-наперш паўстанцы перабілі шмат швэдзкіх жаўнераў. Паўстаньне было старанна падрыхтаванае і добра скаардынаванае:

*Хітрая тактыка літвінаў праявілася ў тым, што яны вырашылі напасьці на швэдзкіх жаўнераў, раскіданых па Літве, у адзін загадзя вызначаны дзень. Банды шляхты і сялян напалі і павыразалі жаўнераў, засьпеўшы іх зьнянацку*[675].

Цэнтрам паўстаньня была Жамойць, дзе раскватараваліся 2650, ці 75 %, швэдзкіх вайскоўцаў[676]. Імклівы й нечаканы напад выклікаў у швэдаў поўную разгубленасьць. У першых данясеньнях гаварылася, што перабітая, здаецца, уся швэдзкая армія. Калі сунялася паніка, высьветлілася, што швэды страцілі шмат свайго войска, але ня ўсё. Шутэ паведамляў у лісьце да Дэлягардзі: «Дзякаваць Богу, вялікая хмара прайшла, і, мушу прызнацца, яшчэ досыць удала, бо палкоўнік Гаральд Ігельстром ацэньвае нашы сукупныя страты ў 1000 коньнікаў[677]. Загінулі адзін ці два рэгімэнты Эрыка Крузэ, тры харугвы Ёхана фон Розэна і чатыры рэгімэнты Готхарда фон Будбэрга»[678].

Шутэ пісаў, што паўстаньне ад пачатку было «ўсеагульнае, магутнае, у ім удзельнічала як шляхта, так і просты люд»[679]. За шэсьць дзён да паўстаньня нехта папярэдзіў пра яго швэдзкіх драгунаў на чале зь Людвігам Таўбэ. Магчыма, гэта быў біскуп Белазор[680]. Спачатку Таўбэ вырашыў прыслухацца да папярэджаньня і перавёў сваіх жаўнераў у Біржайскі замак. Тым ня менш, Таўбэ быў занадта ўпэўнены, што гэта дробны супраціў малых сілаў. Таму, даведаўшыся, што да яго войска набліжаецца атрад паўстанцаў, Таўбэ вырашыў даць ім бой. У выніку 1 траўня

[673] MSR. P. 52—54, 76, 98, 132.

[674] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 45—46.

[675] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 190—191.

[676] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš vedų. P. 65; Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 43.

[677] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 287.

[678] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 48; Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 190—191. Пуфэндорф дадаў сюды таксама тры палкі Ганса Крыстофэра Бутлера, але Фагерлюнд піша, што яны ўжо былі пад камандаваньнем Ёхана фон Розэна.

[679] Бэнгт Шутэ — Магнусу Дэлягардзі. 28 красавіка 1656. Мітава // Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 287. Note 3.

[680] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 68.

большасьць эскадрону Таўбэ загінула. Да біржайскай брамы дабраліся толькі 80 швэдзкіх рэйтараў[681].

Прычыны паўстаньня абмяркоўваліся на пасяджэньні швэдзкай Каралеўскай Рады 21 чэрвеня 1656 г. Гэта было першае пытаньне на парадку дня, што сьведчыць пра яго важнасьць. Як сьцьвярджаецца ў пратаколах, «Рыскі магістрат, скліканы з нагоды падзеяў у Літве, ужо абмеркаваў гэтую праблему і даслаў данясеньне аб прычынах бунту ў Літве». У данясеньні сьцьвярджалася, што да паўстаньня прывялі памылкі швэдзкіх афіцэраў. Па-першае, яны раскідалі сваіх жаўнераў па ўсёй краіне паводле прынцыпу «ідзі туды, дзе болей хлеба». Па-другое, яны не змаглі трымаць дысцыпіліну сярод сваіх падначаленых, і тыя пачалі рабаваць насельніцтва: «Як вядома, згодна з загадамі нашы жаўнеры і кавалерыя разьмяшчаліся па 5—6 чалавек у [літоўскіх] вёсках, што налічвалі 30—40—50 дамоў. Таму афіцэры рэдка туды наведваліся, і жаўнеры адчулі магчымасьць беспакарана рабаваць насельніцтва. Сяляне пачалі скардзіцца, але іх скаргі не дайшлі да афіцэраў»[682].

З аднаго боку, Дэлягардзі прымаў на сябе віну за паўстаньне. У сваім звароце да Каралеўскай Рады Дэлягардзі адзначаў, што «скаргі літвінаў на швэдзкіх салдат былі абгрунтаваныя, але невыкананьне нашых просьбаў наконт правіянту прымушала жаўнераўісьці на адчайныя крокі»[683]. З другога боку, Дэлягардзі абвінавачваў вайсковых афіцэраў, што яны раскідалі жаўнераў па краіне безь ягонага ведама. Насамрэч афіцэры інфармавалі пра гэта Дэлягардзі. Напрыклад, палкоўнікі Конрад фон Уксуль-Гіленбанд і Вільгельм Уксуль дакладвалі Дэлягардзі, што ім давялося раскідаць жаўнераў па вёсках, бо мясцовае насельніцтва адмаўляецца дастаўляць правізію[684]. Паводле словаў Дэлягардзі, афіцэры не прыслухоўваліся да меркаваньняў мясцовых жыхароў. Нарэшце, Левэнгаўпт прыбыў у Жамойць надта позна. Ён ужо ня мог выканаць распараджэньне Дэлягардзі засяродзіць войска ў адным месцы[685].

Віснэр вылучыў гіпотэзу, што паўстаньне арганізавалі афіцэры гетмана Сапегі[686]. Першым літоўскім паведамленьнем пра паўстаньне была праклямацыя, падпісаная палкоўнікам Янам Лісоўскім у Вярбілаве каля Шкудаў. У ёй Лісоўскі

[681] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 191. Белазор да канца паўстаньня заставаўся верны швэдам і перайшоў на польскі бок пазьней. Тады Ян Казімер «за вялікія паслугі, аказаныя нам і Рэчы Паспалітай», падарыў Белазору горад Панявеж і надаў яму годнасьць біскупа смаленскага разам з пасадай сэнатара.

[682] Svenska Riksrådets protokoll. Vol. 16. P. 499.

[683] Справаздача Магнуса Дэлягардзі Швэдзкай Каралеўскай Радзе. 21 траўня 1656. Рыга. RA, Livonica II. Vol. 80; Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 46—47.

[684] Конрад фон Уксуль-Гіленбанд — Магнусу Дэлягардзі. 4 сакавіка 1656. Вялена. Па-нямецку; Вільгельм Юксуль — Магнусу Дэлягардзі. 28 сакавіка 1656. Šedeikoniai. Па-нямецку. RA. De la Gardieska Samlingen. E 1604.

[685] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 191.

[686] Wisner. Dysydenci litewscy wobec wybuchu wojny polsko-szwedskiej. P. 139.

заклікае жамойтаў узьняць зброю супраць швэдаў. Ён сьцьвярджае, што мае ўхвалу Сапегі і караля Яна Казімера, якія загадалі яму склікаць паспалітае рушэньне сярод жамойтаў, каб пагнаць швэдаў[687]. Першым ачольнікам канфэдэрацыі інсургентаў быў Аляксандар Юдзіцкі, палкоўнік Сапегі. Юдзіцкі сьвядома адмовіўся падпісаць Кейданскую унію і за гэта быў арыштаваны Радзівілам. Аднак пазьней зь невядомых прычынаў Шутэ яго вызваліў. Сойм 1659 г. узнагародзіў Юдзіцкага за тое, што ён узначаліў паўстаньне, а таксама наймаў рэкрутаў і абараняў межы Жамойці ад швэдаў. Больш за тое, першы сялянскі атрад, які ўзяў удзел у паўстаньні, быў зь Ясвойнаў. Тыла дапускае, што арганізатарам атраду мог быць Юдзіцкі, які ў той час акурат выконваў абавязкі старосты Ясвойнаў[688]. Мясцовая шляхта непрыхільна ставілася да Юдзіцкага, бо ён паходзіў зь іншых мясьцінаў, і яму давялося саступіць камандаваньне Віктару Млечку — жамойту паводле нараджэньня. Швэдзкія ўлады высьветлілі асобу яшчэ аднаго паўстанца — Самуэля Юшкевіча, якога, як згадвалася вышэй, неаднаразова прыцясьняў швэдзкі афіцэр Юхан Вібэрг. Здаецца, найбольш актыўна ўдзельнічалі ў паўстаньні шляхцікі, якія зьведалі непасрэдную шкоду ад швэдзкіх уладаў.

Тагачасныя польскія крыніцы называлі кіраўніком паўстаньня цівуна Паюраў Гераніма Крысьпіна-Кіршанштайна[689]. Гэтага чалавека лічыў ініцыятарам паўстаньня і Дэлягардзі (ён называў яго «Cryspin»)[690]. Каталік Кіршанштайн адмовіўся падпісаць Кейданскую унію і разам зь сям'ёй зьехаў у Кёнігсбэрг. Але пасьля падпісаньня дамовы паміж Швэцыяй і Брандэнбургам-Прусіяй (17 студзеня 1656 г.) улады Прусіі прымусілі ўсіх перасяленцаў зь Літвы прысягнуць Швэцыі. Кіршанштайн зноў адмовіўся прыняць прысягу і ўцёк у Жамойць. Яго рухомую маёмасьць канфіскавалі паводле рашэньня прашвэдзкага Літоўскага камітэту ў Прусіі. Кар'ера Кіршанштайна пайшла ўгору з пачаткам паўстаньня. За яго службу Ян Казімер падарыў яму мураваны дом у Коўне, які дагэтуль належаў мясцовым лютэранам-«здраднікам». Крыху пазьней Кіршанштайна прызначылі маршалкам ковенскім[691]. Сваё доўгае жыцьцё (Кіршанштайн памёр пасьля 1681 г.) ён завершыў на пасадзе вялікага падскарбія літоўскага — пасадзе, што дазваляла кантраляваць фінансы ВКЛ[692].

### 3.5.2. Швэдзкі «Drang nach Жамойць»

Ацалелыя швэдзкія жаўнеры сабраліся ў Шаўлях, дзе знаходзілася стаўка швэдзкіх войскаў Левэнгаўпта. Шаўлі спачатку былі перайшлі да Януша Радзіві-

687 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 160.

688 Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 66.

689 Бібліятэка Польскай акадэміі навук у Курніку. Дак. 755.

690 Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 48. Note 129. Фагерлюнд ня мог вызначыць асобу Кіршанштайна.

691 LM. No. 214.

692 Augusiewicz, Sławomir. Prostki 1656. Warszawa, 2001. P. 43—44.

ла, а па яго сьмерці — зноў да Карла X Густава. Таму гэта было досыць бясьпечнае месца. Адсюль швэдзкая армія па стратэгічнай дарозе з Шаўляў на сталіцу Курляндыі адступіла ў Янішкі, на мяжу з Курляндыяй. Зразумеўшы ўсю небясьпеку паўстаньня, Дэлягардзі вырашыў вярнуцца ў Рыгу па падмацаваньне. Рэкрутаваўшы ў пачатку траўня 1550 добраахвотнікаў, Дэлягардзі павёў войска ў Курляндыю. Ён рушыў на Баўске, каб злучыцца зь Левэнгаўптам, які разам з вышэйшымі афіцэрамі прыбыў сюды на сустрэчу. Швэдзкія вайскаводцы правялі нараду ў Анэнбурскім замку, каб выпрацаваць такую стратэгію здушэньня паўстанцаў, якая б дазволіла «швэдзкаму войску заўсёды бясьпечна адступіць зь Літвы»[693]. Апошняя цытата сьведчыць, што швэды ўжо тады дапускалі магчымасьць вываду сваіх войскаў. Такі стратэгічны плян зрабіў будучы статус швэдзкай Літвы вельмі невыразным. Згодна з рашэньнямі, прынятымі на нарадзе, Дэлягардзі зьмяніў Левэнгаўпта на пасадзе галоўнакамандуючага і выправіў яго ў Рыгу. Дэлягардзі асабіста павёў войскі. Пасьля злучэньня з гарнізонам Янішак швэды мелі каля 3000 войска. З улікам зьвестак разьведкі, што паўстанцкія сілы засяроджаныя ў навакольлі Шаўляў, было пастаноўлена даць вырашальны бой тут. Дэлягардзі перасадзіў некаторых пехацінцаў на коней і адвёў адзін дзень на тое, каб навучыць гэтых наваяўленых «гусараў» езьдзіць верхам[694]. У ноч на 8 траўня 1656 г. 1200 гусараў і 220 пешых ратнікаў на чале з Дэлягардзі прыйшлі ў Шаўлі. Горад быў пусты. Як піша Пуфэндорф, усе жыхары зьехалі сьледам за «чорнымі сутанамі» — каталіцкімі сьвятарамі. У той жа дзень швэды натрапілі на 300 паўстанцаў і разьбілі іх. Быў забіты іх ачольнік, ксёндз-езуіт Невяроўскі[695]. Швэды хутка занялі Жамойць. Неўзабаве яны прарваліся да форту паўстанцаў, які знаходзіўся за 15 кілямэтраў на паўднёвы захад ад Шаўляў паміж вёскамі Гітары, Маскі, Райзгі і Сьвянтупы[696]. Выявіўшы, дзе знаходзяцца інсургенты, Дэлягардзі загадаў рыхтавацца да вырашальнай бітвы. Швэды ўзялі форт штурмам і захапілі адну гармату і палявую кухню. Паўстанцы былі пакараныя «агнём і мячом», шмат хто зь іх загінуў[697]. Жамойты ацанілі сукупную колькасьць швэдзкага войска ў 4000 чалавек. Аднак, на думку Шэмета, гэта не была поўная параза жамойтаў. Хутчэй адбыўся цяжкі бой, у якім абодва бакі панесьлі вялікія страты. Шмат паўстанцаў палегла, але і швэды страцілі 300 чалавек[698]. Пасьля бою Дэлягардзі загадаў зьнішчыць чатыры вёскі паблізу форта ў пакараньне за падтрымку паўстанцаў. Усе вёскі і шляхецкія сядзібы ў навакольлі спалілі, «каб жах ахапіў усіх на Літве»[699]. У Цяльшайскай воласьці швэды спалілі 25 вёсак за тое, што іх

[693] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 190—191.

[694] Тамсама. С. 190—191.

[695] Тамсама. С. 191.

[696] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 69.

[697] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 191.

[698] Тамсама. С. 191.

[699] MSR. P. 178.

жыхары ўдзельнічалі ў паўстаньні. У пасьляваенных крыніцах так апісваюцца ўчыненыя швэдамі разбурэньні: «Толькі попел застаўся ад вёсак, дзе раней былі дамы і сядзібы; шмат сялян было забіта, іншыя захоплены і адпраўлены за мора ў рабства»[700].

Наступнай задачай было здушыць сялянскіх апалчэнцаў, якія сабраліся за 15 кілямэтраў на ўсход ад Шаўляў. Сялянскае войска разьмясьцілася на абарончых пазыцыях паблізу вёскі Куцішкі (у швэдзкіх крыніцах *«Gujszki»*). Швэды лёгка захапілі 2000 сялян. Зь іх 500—600 даслалі на будаўніцтва ўмацаваньняў вакол Рыгі. Некаторых іншых «адпусьцілі, каб расказалі ўсім пра поўную паразу паўстаньня, а ўсіх астатніх страцілі сьмерцю». Здавалася, паўстаньне конча здушанае[701]. У сярэднім у Жамойці швэды зьнішчылі 31% усіх двароў, у ваколіцах Шаўляў гэтая лічба дасягала 39%. Юрбарк, дзе таксама адбыліся найцяжэйшыя баі, страціў 55% двароў. У той жа час у Кведаранскім старостве, аддаленым ад цэнтру паўстаньня, было зьнішчана толькі 7% двароў[702].

Масавы ўдзел сялян у палітычным паўстаньні — рэдкая зьява ва Ўсходняй Эўропе раньняга Новага часу. Вядома, што шляхта адмоўна ставілася да прысутнасьці сялянаў сярод паўстанцаў. Жамойцкая шляхта таксама была супраць удзелу сваіх сялянаў у паўстаньні — хацела захаваць працоўную сілу. З гэтай жа прычыны палявы гетман Польшчы Стэфан Чарнецкі ў загадзе ад 20 сакавіка 1656 г. пагражаў шляхце сьмерцю, калі яна дапусьціць удзел сваіх сялянаў у паўстаньні супраць Швэцыі. З ваеннага гледзішча выкарыстоўваць сялянаў у адкрытых баёх супраць рэгулярнага войска было абсалютна бессэнсоўна. Ротмістар Самуэль Юшкевіч, напрыклад, набраў у свой паўстанцкі атрад шмат мясцовых сялянаў, але яны ўсе загінулі[703].

Наступнай мэтай Дэлягардзі было здушыць паўстанцкі рух у іншых мясьцінах. Войска рушыла на Шадаў. Але паўстанцы, правёўшы перамовы ў Коўне, адступілі на тэрыторыю, падуладную Расеі. Дэлягардзі не хацеў сутыкненьняў з маскоўскімі войскамі, і таму адступіў у Янішкі. Зь Янішак швэды рушылі на Біржы. 15 траўня 1656 г. Дэлягардзі зь Біржаў адбыў у Рыгу, перадаўшы камандаваньне Левэнгаўпту. У Рызе Дэлягардзі зрабіў апошнюю спробу знайсьці палітычнае вырашэньне канфлікту. У звароце да «вясковых войтаў, ураднікаў і да ўсіх жыхароў Жамойці, Упіцкага, Вількамірскага, Ковенскага і Браслаўскага паветаў Літвы» ён казаў, што ўсьцешаны перамогай над паўстанцамі, якія забылі пра сваю прысягу Швэцыі. Дэлягардзі паабяцаў поўную амністыю тым інсургентам, якія складуць зброю, і сьмерць тым, хто будзе ўпарціцца. Ён спрабаваў пераканаць шляхту, што швэды зразумелі хібы свайго кіраваньня ў Літве і пастараюцца іх выправіць. Усе станы

700 Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. P. 66—67.

701 Справаздача Магнуса Дэлягардзі Швэдзкай Каралеўскай Радзею. 21 траўня 1656. Рыга. RA. Livonica II. Vol. 80.

702 Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. Табліцы 22, 33, 37.

703 Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 70.

склікаліся на агульналітоўскі сойм у Біржах, прызначаны на 3 чэрвеня 1656 г., каб «разам абмеркаваць справы краю»[704]. Дэлягардзі нават меркаваў даць свабоду літоўскім сялянам, каб заваяваць іх масавую падтрымку[705].

Левэнгаўпт тым часам працягваў здушаць паўстаньне ў Жамойці. Нават маючы вялікае войска, швэды змаглі авалодаць толькі Біржамі. Рэшта швэдзкай Літвы заставалася па-за межамі швэдзкага ўплыву. У канцы траўня 1656 г. у ваколіцах Біржаў зьявіўся новы атрад паўстанцаў. У такіх умовах разгрупоўваць армію на шмат гарнізонаў азначала прайграць у партызанскай вайне. Сабатаж прадуктовых паставак не дазваляў і сканцэнтраваць войска ў адным месцы. Спробы швэдаў вырашыць праблему палітычнымі сродкамі выявіліся марнымі. Швэды не змаглі аднавіць кантроль над Літвой. У канцы траўня ў Біржах застаўся гарнізон з 600 жаўнераў на чале з капітанам Густавам фон дэр Паленам. Рэшта войска адступіла на Радзівілішкі, на мяжу з Курляндыяй. Войска спынілася на курляндзкім беразе Нёману. 25 чэрвеня 1656 г. было прынята рашэньне вывесьці войскі з ВКЛ, за выключэньнем гарнізонаў у Біржах, Браславе і Друі. Цяпер швэдзкі лягер месьціўся ў прыдзьвінскім мястэчку Кегумс па дарозе на Рыгу[706]. Такая дысьлякацыя дазваляла швэдам кантраляваць межы Літвы з Курляндыяй і Лівоніяй, а таксама дарогу на Рыгу. Такім чынам, напярэдадні вайны з Расеяй швэды пакінулі ў ВКЛ толькі тры гарнізоны, якія меліся выкарыстоўвацца як базы.

### 3.5.3. Езуіты і Расея

Мэта гэтага параграфу — спыніцца на некаторых раней не аналізаваных гістарычных фактах, датычных арганізацыі паўстаньня. На маю думку, галоўным вонкавым чыньнікам, які паспрыяў бунту, было заахвочваньне з боку Расеі. На першым этапе паўстаньня таксама адыграла значную ролю рэзкая антышвэдзкая пазыцыя большасьці каталіцкіх сьвятароў. Польскія гісторыкі засяроджваліся на рэлігійных прычынах паўстаньня. Яны падкрэсьлівалі, што яго галоўнай прычынай стаўся ўціск каталіцкай царквы за швэдамі. Як сьцьвярджае Кубала, швэды і іх хаўрусьнікі стварылі крывавы рэжым тэрору супраць каталіцкага духавенства, канфіскоўвалі яго маёмасьць. Ён таксама абвінавачвае Радзівіла, што той забараніў каталіцкім ксяндзам насіць сутаны па-за касьцёламі[707]. Шапока абвінавачвае швэдаў ва ўціску каталіцкай царквы[708]. У сярэдзіне XIX ст. рэктар каталіцкай сэмінарыі ў Ворнях Мацьвей Валанчэўскі сьцьвярджаў, што швэды выгналі вучняў езуіцкага калегіюму ў Крожах з будынку і разрабавалі бібліятэ-

[704] LMAB. Fond 233. B. 93. F. 269.

[705] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 192.

[706] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 78.

[707] Kubała. Wojna szwecka. P. 92, 316.

[708] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 152, 161—162.

ку[709]. Аднак настроены супраць швэдаў сьведка тых падзей не падкрэсьлівае асаблівай ролі рэлігійнага ўціску. На яго думку, паўстаньне спарадзіла «тыранія швэдаў разам зь фінамі» супраць шляхты[710]. Меркаваньне, што швэдзкія ўлады моцна ўціскалі каталіцкую царкву падчас вайны, здаецца нелягічным. Як вядома, Кейданская унія гарантавала правы і свабоды як для рыма-каталіцкай, так і для ўніяцкай цэркваў. У гэтым рэлігійная палітыка Швэцыі адрозьнівалася ад маскоўскай. Дзейнасьць уніяцкай царквы на тэрыторыях, занятых маскоўскімі войскамі, забаранялася, а правы рыма-каталіцкай царквы рэзка абмяжоўваліся.

Аднак Кейданская унія сьцьвярджала, што ўсе царкоўныя ўладаньні перадаюцца пад вярхоўную ўладу караля Швэцыі. Швэдзкія афіцэры бязь лішніх ваганьняў разьмяшчалі сваё войска ў будынках, якія належалі езуітам і каталіцкай дыяцэзіі Жамойці. Прычына была простая: на гэта не патрабавалася дазволу шляхты. Швэдзкія атрады разьмяшчаліся ў найбуйнейшых езуіцкіх асяродках — Крожах і Пашаўшах, у сядзібах біскупа жамойцкага ў Гіркальнах і Відуклях, а таксама шмат у якіх іншых маёнтках. Разьмяшчэньне войскаў, само сабой, вяло да моцнай нездаволенасьці сярод духавенства, бо швэдзкая карона ўжо і так скараціла яго даходы. Такім чынам, у каталіцкага касьцёлу былі эканамічныя падставы не прымаць швэдзкага панаваньня. Духавенства таксама не ўяўляла сваёй будучыні ў складзе лютэранскай Швэцыі, дзе каталіцызм быў аб'яўлены па-за законам. Па прыняцьці Кейданскай уніі Дэлягардзі і Шутэ паведамлялі Карлу X Густаву, што, хоць біскуп жамойцкі і падпісаў дамову, каталіцкае духавенства працягвае агітаваць супраць Швэцыі[711]. Карлсан сьцьвярджаў, што галоўнымі падбухторшчыкамі паўстаньня былі езуіты, якія пастаянна пашыралі антышвэдзкія настроі[712].

Няма крыніц, якія б сьведчылі, што менавіта духавенства прызначыла дзень нападу на швэдзкіх вайскоўцаў. Але відавочна, што толькі яно магло скаардынаваць дзеяньні такога роду. Ні шляхта, ні сяляне не маглі свабодна перасоўвацца па краіне. У швэдзкім каралеўскім «Звароце да станаў Швэцыі» (1660) каталіцкая царква абвінавачвалася ў непасрэднай арганізацыі паўстаньня ў Літве. Швэдзкія ўлады прыпісвалі ключавую ролю ў падрыхтоўцы бунту біскупу жамойцкаму Парчэўскаму, які, на іх думку, сабатаваў пляны Радзівілаў адносна уніі з Швэцыяй. Інтрыгі біскупа раскрыліся, калі тысячы швэдзкіх салдат, расскватараваных і расьсеяных па краіне, раптам апынуліся сярод паўстанцаў, якія іх перабілі[713].

[709] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 63.

[710] MSR. P. 152, 170.

[711] Магнус Дэлягардзі і Бэнгт Шутэ — Карлу X Густву. 21 кастрычніка 1655. Кейданы. RA. Livonica II. Generalguvernör Livland till Kungliga Majestät 1655—1656. Vol. 77.

[712] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 287.

[713] Relation till ständerna av statssekretaren Edvard Ehrensteen. Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdags—protokoll. Vol. 7. Bilaga A. P. 172—173.

Крыніца XVII ст. падае некаторыя дэталі каталіцкай прапаганды:

*У 1656 г. літвіны ўчынілі вялікую разьню швэдзкіх жаўнераў, якія стаялі ў іх на кватэрах. Іх падбухторвалі ксяндзы, якія ў казанях тлумачылі ім на сваім дыялекце, што «сьвіньні цяпер добра прывязаныя, таму прыйшла зручная пара іх рэзаць». Літвіны паслухаліся ксяндзоў і пачалі рэзаць горлы швэдам, як падступныя здраднікі*[714].

У сваіх казанях сьвятары падбухторвалі сялян на жамойцкім дыялекце, незразумелым швэдам. Каталіцкае духавенства таксама актыўна ўдзельнічала ў ваеннай кампаніі інсургентаў. Згодна з запісамі жамойцкага сойміку за 1659 г., езуіты «сваімі ўласнымі атрадамі дапамагалі скінуць швэдзкае ярмо. Адзін зь езуітаў сабраў добра ўзброены атрад, які пільнаваў мяжу з Курляндыяй»[715]. Ксяндзы часам нават узначальвалі атрады інсургентаў. Сяляне-інсургенты таксама былі каталікамі. Першы бой з швэдамі адбыўся на тэрыторыі Жамойцкай дыяцэзіі. Калі шляхта Жамойці страціла 19% двароў, то Жамойцкая дыяцэзія страціла 49% сялянскіх гаспадарак[716].

Літоўскія гісторыкі Шапока і Тыла, якія дасьледавалі паўстаньне, абмінулі ўвагай ролю ў ім Расеі. Існаваньне швэдзкай Літвы перашкаджала расейскім плянам. Захапіўшы большасьць земляў ВКЛ, Масква разьлічвала не дапусьціць абмеркаваньня літоўскага пытаньня на перамовах з Польшчай. Жамойць заставалася найбуйнейшай адміністрацыйнай адзінкай па-за межамі расейскага ўплыву. За два тыдні да паўстаньня Даніла Мышэцкі, які стаяў на чале расейскіх уладаў у Літве, даслаў Шутэ ўльтыматум: «Да таго часу, як вырасьце новая мураўка, у Літве не павінна застацца ніводнага швэдзкага жаўнера». У лісьце ад 13 красавіка 1656 г., за тыдзень да паўстаньня, Шутэ паведаміў пра гэты ўльтыматум Дэлягардзі[717]. Тое, што швэды палічылі змрочным, але надта цьмяным пароцтвам, аказалася дакладнай інфармацыяй аб падрыхтоўцы да паўстаньня, атрыманай Масквой непасрэдна ад жамойцкай шляхты. Швэды падазравалі Расею ў каардынацыі дзеяньняў інсургентаў. Падчас карнай апэрацыі супраць паўстанцаў апошнія лёгка перайшлі на тэрыторыю, падуладную Расеі. Швэдам давялося спыніць перасьлед далёка ад мяжы. Ведаючы пра падрыхтоўку Масквы да вайны з Швэцыяй, швэды лічылі, што маскавіты хочуць ашукаць іх, каб абвінаваціць швэдаў у агрэсіі супраць Расеі[718]. Нядаўна апублікаваныя архіўныя матэрыялы па тагачаснай Расейскай палітыцы раскрываюць ролю Масквы ў арганізацыі антышвэдзкага паўстаньня[719].

[714] Blomberg, Carl Johan. An account of Livonia, with a relation of the rise, progress, and decay of the Marian Teutonic order. London, 1701. P. 164.

[715] Tyla. Sukilimas Lietuvoje prieš švedų. P. 66.

[716] Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. Табліцы 29, 50.

[717] Carlon. Ryska kriget. P. 19.

[718] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 190, 192.

[719] Флоря. От потопа до Вильна. С. 25—49.

6 верасьня 1655 г. пасол Фёдар Рцішчаў дакладваў цару, што сустрэўся з старостам жамойцкім Юр'ем Глябовічам, які паведаміў яму, што «он де то староство Жмуцкое уговорит, что не будут они поддаватца королю свийскому, а утвердятца под твоею, государевою, высокою рукою». У выніку жамойцкая шляхта атрымала грамату з прапановай «нашие, государские, милости к себе поискат»[720]. Усяго з кастрычніка 1655 г. да красавіка 1656 г. расейскія ўлады атрымалі сама меней тры лісты, у якіх жамойцкія шляхціцы скардзіліся на швэдзкі прыгнёт. Пасол да Карла X Густава пскоўскі купец Канстанцін Іўлеў данёс цару, што жамойты хочуць пачаць мяцеж супраць швэдаў і спадзяюцца на дапамогу Расеі: «естли бы изволил великий государь ваш хотя бы одну тысячу за реку Вилию переслать, и вся Жмоцкая земля ему, царьскому величеству поддалась, а что в тои Жмоди ни есть шведов, то б мы иіх сами побили всех». У выніку Васіль Ліхараў атрымаў адмысловае даручэньне. Адной зь яго задач было перадаць Юр'ю Глябовічу чарговую царскую грамату. У ёй цар абяцаў усялякую падтрымку і прапаноўваў жамойцкім ураднікам прыняць маскоўскую апеку. Варта адзначыць: Расея ведала, што Жамойць на той час ужо ўваходзіла ў склад Швэдзкага каралеўства. Як заўважае Флора, у тагачасных умовах адкрытая прапанова падтрымкі ад Расеі была важкім аргумэнтам для жамойтаў на карысьць паўстаньня[721]. Жамойцкая шляхта атрымала недвухсэнсоўны сыгнал, што Расея не падтрымае Швэцыі ў барацьбе з інсургентамі. Наадварот, Масква выяўляла зацікаўленасьць у зьмене ўлады ў швэдзкай Літве. Загады, дадзеныя Ліхараву, былі праявай новай палітыкі Масквы, якая імкнулася да адкрытага змаганьня з Швэцыяй за Літву і Жамойць.

Наступнае маскоўскае пасольства ўзначаліў Замятня Лявонцьеў. Ён выехаў з Масквы ў Вільню ў сакавіку 1656 г. Расейскаму паслу было даручана сустрэцца з ваяводам троцкім Мікалаем Пацам і паведаміць яму пра хуткі наступ Расеі на Швэцыю. Маскавіты разьлічвалі на 2000 жамойцкага паспалітага рушэньня для вайны з Швэцыяй. Лявонцьеў павінен быў пераканаць Паца і Глябовіча прыбыць у Вільню і прысягнуць цару. У Вільні Лявонцьеў таксама сустрэўся з жамойцкім паслом Мікалаем Шэметам, які пазьней стаў адным з ачольнікаў паўстаньня. Шэмет пакінуў падрабязную справаздачу аб гэтай сустрэчы. Жамойты хацелі ўпэўніць Маскву, што Швэцыя парушыла мірную дамову з Расеяй і неўзабаве пачне супраць яе вайну. Шэмет пісаў, што яго паведамленьне моцна ўразіла расейцаў, і тыя паабяцалі яму царскую падтрымку. У той жа час расейскія ўлады ў Вільні адмовіліся прыняць швэдзкага пасланца[722]. Расейскія крыніцы паведамляюць, што Шэмет зацікавіўся прапановай цара скарыстаць жамойцкае паспалітае рушэньне супраць Швэцыі[723]. Тады ж на расейскі бок перайшоў князь Андрэй Курбскі, унук знакамітага палітычнага ўцекача Андрэя Курбскага, які за часам Івана Жахлівага

[720] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 40—41.

[721] Флоря. От потопа до Вильна. С. 39.

[722] MSR. P. 186—190.

[723] Флоря. От потопа до Вильна. С. 43.

ўцёк з Маскоўскай дзяржавы ў Літву. Нашчадак даўняга маскоўскага роду, ён паабяцаў скласьці прысягу цару і сваімі сродкамі выгнаць з Жамойці ўсе швэдзкія гарнізоны. Другі праваслаўны князь Марцыян Агінскі ўзначаліў атрад паўстанцаў[724]. Як паведамляў Дэлягардзі, падтрымка Расеі была галоўным матывам паўстаньня[725].

1 чэрвеня 1656 г. цар атрымаў ліст ад Міхаіла Шахаўскога. Шахаўской паведамляў, што напярэдадні паўстаньня яго ачольнікі: вялікі пісар літоўскі Ян Станкевіч, яго брат, пісар жамойцкі Адам Станкевіч і некалькі іншых шляхціцаў — зьявіліся да яго ў Коўне. Яны пакляліся ў вернасьці цару і атрымалі дазвол перавезьці свае сем'і на занятыя Расеяй землі[726]. Каталік Ян Станкевіч перад тым падпісаў Кейданскую унію і быў прызначаны камісарам Рады швэдзкай Літвы ў Жамойці[727]. Аднак ён перайшоў на бок інсургентаў і зрабіўся адданым прыхільнікам польскага караля.

Напярэдадні паўстаньня жамойты ўжо ведалі, што Расея неўзабаве пойдзе на Лівонію ды Браслаўшчыну і пачне наступ на Рыгу. Таму яны хацелі самастойна вызваліцца ад швэдаў, каб перадухіліць расейскае ўварваньне і ўзяць пад сваю ўладу занятыя швэдамі тэрыторыі. Перад пачаткам расейска-швэдзкай вайны швэды ўжо не кантралявалі большай часткі швэдзкай Літвы. Выключэньнямі заставаліся невялікія гарнізоны ў Біржах, Браславе і Друі. Паўстанцы скарысталі зручную магчымасьць і 24 чэрвеня 1656 г. асадзілі Біржы[728]. Да жніўня 1656 г. пад іх кантролем апынулася ўжо амаль уся колішняя швэдзкая Літва. Некаторыя шляхціцы пасьпелі прысягнуць цару. Таму Расея вырашыла не ісьці ў Жамойць, а замест гэтага засяродзіцца на лівонскім напрамку. Маскавіты працягвалі палітычныя кантакты, каб схіліць жамойцкую шляхту прыняць апеку расейскага цара. У Жамойць паслалі шмат расейскіх афіцэраў, каб набіраць шляхту на службу цару[729].

Па дарозе ў Лівонію расейскія войскі захапілі Браслаўскі павет, дагэтуль падуладны швэдам. Мясцовая беларуская шляхта вельмі хутка пераарыентавалася на Маскву. 20—21 ліпеня 1656 г. яе прадстаўнікі наведалі стаўку цара Аляксея Міхайлавіча. Сярод іх былі тыя, хто падпісаў Кейданскую унію, а таксама два чальцы Рады швэдзкай Літвы — пратэстанты Ўладзіслаў Пуцята, Крыштап Мірскі і Тобіяс Пуцята, праваслаўны Аляксандар Масальскі і каталік Пётар Радаміна-Дусяцкі. 22 ліпеня 1656 г. цар, які тытуляваў сябе «самадзержцам Белай Русі», выдаў дэкрэт «О непричинении обид Российским войском». Цар загадваў свайму войску «Бряславского повету не разорять, сел и деревень не жечь и людей не побивать и

[724] MSR. P. 164, 186.

[725] Магнус Дэлягардзі — Карлу X Густаву. 28 красавіка 1656. Рыга. RA, Livonica II Generalguvernör Livland till Kungliga Majestät 1655—1656. Vol. 77.

[726] Флоря. От потопа до Вильна. С. 47.

[727] RA. Militaria. Vol. 1304.

[728] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 162.

[729] Флоря. От потопа до Вильна. С. 39.

в полон не имать и не бить и не грабить и кормов своих и конских безденежно не имать»[730]. Неўзабаве тых браслаўцаў, хто пайшоў да Расеі, польскі кароль абвясьціў здраднікамі і пазбавіў маёмасьці[731].

Расея хутка ўвайшла ў Лівонію, і 22 жніўня 1656 г. пачалася аблога Рыгі. Гэты посьпех вырашыў лёс швэдзкай Літвы. Напад Расеі на Швэцыю забясьпечыў перамогу паўстаньня ў Жамойці, бо пераход Расеі ў лягер ворагаў Швэцыі і яе актыўны наступ прывялі да таго, што «перад расейскай пагрозай швэды не зважалі на літвінаў, не адрэагавалі ні на адно зь іх выступленьняў»[732]. У той жа час Расея пазьбягала ўсялякіх канфліктаў з жамойцкай шляхтай, каб не разладзіліся перамовы з Польшчай[733]. 3 лістапада 1656 г. Расея і Рэч Паспалітая падпісалі антышвэдзкі пакт у Нямежы. Праз тры дні камісары польскага караля паведамілі пра гэта жамойцкай шляхце, адзначыўшы, што Расея дазваляе літоўскаму войску свабодна праходзіць праз занятыя расейцамі землі. Гаворка ішла пра атрады гетманаў Гасеўскага і Сапегі. Іх галоўнай мэтай было захапіць Біржы — адзіную фартэцыю ў Літве, якая па-ранейшаму заставалася ў руках Швэцыі[734].

### 3.5.4. Ад паўстаньня да хаосу і грамадзянскай вайны

Акт аб стварэньні канфэдэрацыі — першае сьведчаньне пра арганізаваны супраціў Швэцыі. 23 траўня 1656 г. яго абвясьціў у Грынкішках палкоўнік Аляксандр Юдзіцкі. Ад імя караля Яна Казімера і вялікага гетмана Сапегі Юдзіцкі заклікаў шляхту Жамойці сабрацца ў Ясвойнах, каб пакончыць з швэдамі. Юдзіцкі ведаў, што некаторыя патрыятычна настроеныя шляхціцы ўжо накіроўваліся ў Ясвойны. На думку Юдзіцкага, пра ўсе традыцыйныя фармальнасьці трэба было забыць. Канфэдэраты папярэдзілі, што ў цяжкія для бацькаўшчыны часы тыя, хто не прыбудзе ў табар у Ясвойнах або не захоча паміраць за Рэч Паспалітую і сьвятую каталіцкую царкву, будуць лічыцца ворагамі Айчыны.

3 чэрвеня 1656 г. (у гэты самы дзень у Біржах меўся адбыцца скліканы раней Сойм швэдзкай Літвы) інсургенты падпісалі чарговы акт і прызначылі камандзіраў. Юдзіцкі стаўся генэралам канфэдэрацыі. Іншыя ключавыя пасады атрымалі жамойты — Віктар Млечка, Мікалай Шэмет, Ян Шаставіцкі, Ян Стэфан Бялевіч і Ян Гружэўскі. Усе яны, за выключэньнем Юдзіцкага, раней падпісалі Кейданскую унію. 6 чэрвеня гэты акт урачыста зарэгістравалі ў кнізе гродзкага суду Расіёнаў. Аднак толькі невялікая частка шляхты, якая вырашыла перайсьці ў апазыцыю, падпісалася сваімі імёнамі. Гэта паказвае, што шмат хто баяўся пара-

[730] PSZRI. № 183. С. 390—391.

[731] Напрыклад, маёнткі Крыштапа Мірскага перайшлі да «вялікага патрыёта» палкоўніка Самуэля Кміціца. LM. No. 299.

[732] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 192.

[733] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 59.

[734] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 175—176.

зы. 17 чэрвеня 1656 г. Ян Казімер накіраваў жамойтам унівэрсал. Ён заклікаў іх змагацца супраць швэдаў, загадваў узяць Біржы і прызначыў Віктара Млечку кіраўніком паўстанцкага руху на той час, як партызаны будуць дзейнічаць адны. 24 чэрвеня 1656 г. канфэдэраты ўзялі ў аблогу Біржы, але ня здолелі захапіць добра ўмацаваны замак[735]. 20 чэрвеня 1656 г. Млечка заклікаў астатнюю шляхту далучыцца да паўстаньня і зьявіцца пад Біржы. Але яго ніхто не паслухаў: шляхта засталася дома. У верасьні 1656 г. паспалітае рушэньне адышло ад Біржаў і разьехалася па сваіх сядзібах[736]. Адной з прычын былі рабункі сялянаў іншымі паўстанцкімі атрадамі. Напрыклад, сяляне Рудайчаў, Генайчаў, Мацінчаў і Супараў (сёньня Кляйпэдзкі павет) скардзіліся ў 1656 г., што іх абрабаваў літоўскі атрад Герхарда Вільгельма Стынгофа. Партызаны забралі 58 коней, 8 кароў і 1626 злотых[737]. Таму паўстанцы пакінулі Біржы, каб абараняць свае маёнткі ад «гасьцей».

Многія шляхціцы таксама хацелі ўзначаліць паўстаньне і дасылалі лісты Яну Казімеру. Кароль скарыстаў магчымасьць і разьмеркаваў сярод інсургентаў пасады, а таксама ўзнагародзіў іх маёнткамі. Ян Казімер надаў ранг «палкоўніка Жамойці» Тэадору Ляцкаму, свайму фаварыту, які належаў да прыдворнай партыі, за яго вялікія заслугі ў час паўстаньня[738]. Адначасова такія самыя тытулы атрымалі Крысьпін-Кіршанштайн і Шэмет.

Як толькі Сапега даведаўся, што швэдзкае войска пакінула Жамойць, ён пачаў дзяліць староства паміж сваімі афіцэрамі. Увосень 1656 г. былую швэдзкую Літву апанаваў хаос. Прычына палягала ў канфліктах паміж дзьвюма літоўскімі дывізіямі Сапегі і Гасеўскага. Біліся яны за правіянт. Сапега кантраляваў Берасьцейскі павет, тады як у войска Гасеўскага не было сваёй тэрыторыі, адкуль можна было б браць правізію. Таму кароль спрабаваў падтрымаць Гасеўскага. Гэта было незаконна, бо такія пытаньні былі ў юрысдыкцыі вялікага гетмана літоўскага Сапегі. Афіцэры сварыліся паміж сабой і часта канфіскоўвалі прадукты ў адных і тых жа сялян. Пачаліся сутычкі паміж атрадамі інсургентаў. Да таго ж канфэдэрацыя катэгарычна адмовілася прызнаваць некаторыя самазваныя атрады. 21 чэрвеня 1656 г. Сапега даслаў у Жамойць загад, у якім забараняў мясцовай шляхце даваць правізію жаўнерам Гасеўскага і патрабаваў не падпарадкоўвацца апошняму. У верасьні 1656 г. Сапега выдаў яшчэ некалькі ўнівэрсалаў, якія абавязвалі забясьпечыць правізіяй харугвы яго дывізіі. У адказ Гасеўскі паведаміў шляхце, што неўзабаве прыбудзе да іх з войскам як паўнамоцны гетман караля. Тады Сапега выдаў новы ўнівэрсал, у якім абвясьціў усе пастановы Гасеўскага незаконнымі. Ён загадаў арыштаваць афіцэраў Гасеўскага і строга пакараць іх. У адказ Гасеўскі пачаў пагражаць мясцовай шляхце. 7 лістапада 1656 г. ён зьявіўся ў Вярбілаве і абвясьціў, што шляхта дарэмна адмовілася даць яго жаўнерам правіянт, бо ўсё,

[735] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 159—163.

[736] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильно, 1909. Том 34. С. 80—89.

[737] Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. P. 76—77.

[738] Augusiewicz. Prostki 1656. P. 41.

што ён робіць у Жамойці, ухвалена каралём і Сэнатам. 30 лістапада 1656 г. у Расіёнах Гасеўскі склікаў соймік Жамойці. Падчас сойміку яго ўдзельнікі паспрабавалі праясьніць пытаньне аб правізіі для войска, але не змаглі прыйсьці да згоды. Гасеўскі казаў, што становішча крытычнае. Некаторыя афіцэры парушалі ваенную дысцыпліну. Трэба было нешта рабіць, бо непад'ёмныя падаткі змушалі сялянаў да бунту[739].

Такім чынам, становішча ў Жамойці пасьля сыходу швэдаў было далёка не стабільнае. У такіх умовах новы швэдзкі наступ тэарэтычна мог бы мець посьпех. Але Швэцыя вяла вайну з Расеяй і не магла скарыстаць гэты шанец, што і перадвызначыла перамогу паўстанцаў. У канцы сьнежня 1656 г. 2000 рэгулярнага войска на чале з Гасеўскім паўторна ўзялі ў аблогу Біржы. Біржайскі гарнізон налічваў 190 швэдаў, 200 салдат Радзівілаў і 200 наймітаў з Курляндыі. Абяцаная дапамога з Рыгі так і не прыйшла. На пачатку аблогі літвіны і немцы дэзэртавалі. Швэдзкія салдаты засталіся супрацьстаяць ворагу сам-насам. Баявы дух іх упаў, да таго ж у іх амаль не засталося правіянту. У выніку 24 студзеня 1657 г. Біржы капітулявалі. Швэды адышлі ў Рыгу, забраўшы зброю, у тым лік восем гармат. У Літве не засталося ніводнага швэдзкага гарнізону[740].

Польскія гісторыкі сьцьвярджаюць, што гэта было «паўстаньне ўсёй жамойцкай шляхты супраць швэдаў», але гэта не зусім слушна. Шмат хто зь мясцовай шляхты падтрымліваў швэдаў і служыў у швэдзкім войску. Сярод іх былі літоўскія гусары на чале зь Вільгельмам Корфам і Эрнстам Янам Корфам. Іх жаўнеры змагаліся супраць паўстанцаў[741]. Перад паўстаньнем на швэдзкую службу пайшоў Мікалай Высоцкі, адзін зь вядомых пратэстантаў Жамойці. Яго стрыечныя браты, Ян і Людвік Высоцкі-Хохмут, былі ўжо швэдзкімі афіцэрамі[742]. Багуслаў Радзівіл так тлумачыў Дэлягардзі жаданьне Высоцкага стаць швэдзкім афіцэрам:

*Ротмістар Мікалай Высоцкі, паказваючы сваю рашучасьць застацца на баку караля, хоць яго патрабавалі да сябе канфэдэраты і ягоная рота перайшла на іх бок, сказаў мне, што хоча накіравацца ў Жамойць, каб служыць пад камандаваньнем Вашай Сьветласьці[743].*

За супрацоўніцтва з Швэцыяй кароль Польшчы абвясьціў Высоцкага «здраднікам» і аддаў яго маёнтак актыўнаму ўдзельніку паўстаньня Тэадору Ляцкаму[744].

[739] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 159—174.

[740] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 192.

[741] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 63.

[742] Іх бацька Ян Высоцкі (Johan Wisotzki) перасяліўся ў Швэцыю зь Літвы ў час вайны Рэчы Паспалітай з Швэцыяй 1600—1629 гг. Паручнік Ян Высоцкі-малодшы ажаніўся з швэдзкай арыстакраткай расейскага паходжаньня Праскоўяй Амінавай (Aminoff) з Інгерманляндыі.

[743] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 3 сакавіка 1656. Тыкоцін. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

[744] LM. No. 108.

Літоўскі род Высоцкіх застаўся ў Швэцыі і быў уключаны ў склад швэдзкага рыцарства.

Кароль Ян Казімер прызнаваў, што шмат хто зь мясцовай шляхты падтрымліваў швэдаў. Ён згадваў, што некаторыя з жамойтаў стаялі на баку ворага і змагаліся супраць Рэчы Паспалітай. Іх трэба было пакараць[745]. Шэмет таксама адзначаў, што шмат шляхты засталося на швэдзкім баку[746]. Сярод іх было некалькі чальцоў Рады швэдзкай Літвы. Паказальны лёс радцаў ад Жамойці. Вядома, што каталік Ян Станкевіч стаўся адным з арганізатараў паўстаньня. Няма зьвестак пра Альберта Вязынскага. Затое Вільгельм Корф застаўся верны Швэцыі. Літоўскі палкоўнік і курляндзкі граф, Корф быў адным з найбліжэйшых паплечнікаў Радзівілаў, а таксама старостам Орлі — важнага пратэстанцкага асяродку Русі. У Жамойці Корф валодаў вёскай Шаўкяны (за 20 кілямэтраў ад Шаўляў) і таму належаў да жамойцкай шляхты. Яго сядзіба была цэнтрам лютэранства. У выніку паўстаньня Корф адышоў разам з жаўнерамі ў Курляндыю. Адтуль ён напісаў Багуславу Радзівілу пра разбурэньне інсургентамі Шаўкянаў і тамтэйшай лютэранскай кірхі:

*Шляхта жамойская, суседзі мае, мой апошні маёнтак у Шаўкянах разрабавалі, мэблю і ўсе рэчы хатнія забралі, нябожчыкаў продкаў, што ляжалі ў зборы лютэранскім, з дамавін павыцягвалі, плябанію спалілі і рознае тыранства нарабілі, кажучы, што я Радзівілаў кліент, пагражаючы, што маёнтак мой, як маёмасьць здрайцы, канфіскуюць на іх просьбу*[747].

Неўзабаве Ян Казімер падарыў «Шаўкяны, якія раней належалі бунтаўніку Корфу», сваму вернаму афіцэру Крыштапу Шукшту[748].

Адзін з каралеўскіх загадаў гаворыць пра лёс іншага прыхільніка швэдаў — палкоўніка Готхарда фон Будэнброка, немца-лютэраніна ў літоўскім войску. Ён быў кліентам Януша Радзівіла і арандаваў ягоны горад Таўрогі. Паводле словаў афіцэраў Сапегі, фон Будэнброк быў «яўным здраднікам», актыўна супрацоўнічаў з швэдамі і змагаўся супраць інсургентаў. «Многіх мясцовых шляхціцаў, якія пайшлі ў наша войска, ён зьбіў, а некаторых люта закатаваў». Кароль Ян Казімер ведаў, што паўстанцы патрабавалі аддаць ім маёмасьць шляхціцаў, якія былі на швэдзкім баку, і што яны, не чакаючы каралеўскага дазволу, рабавалі іх маёнткі[749]. Такім чынам, падзеі антышвэдзкага паўстаньня можна разглядаць і як грамадзянскую вайну. Гэты ўнутраны канфлікт меў таксама некаторыя рысы рэлігійнай вайны паміж каталікамі і пратэстантамі. Некаторыя пратэстанты пераходзілі

745 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 163.

746 MSR. P. 134.

747 Augustyniak. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła. P. 205—206.

748 LM. No. 373.

749 Тамсама. С.162.

на польскі бок. Аднак агульную сытуацыю можна апісаць як канфлікт паміж прапольскімі каталіцкімі і прашвэдзкімі пратэстанцкімі групоўкамі ўнутры літоўскай шляхты.

## 3.6. Адыход Жамойці пад швэдзкую апеку і выхад з-пад яе

Адзін з актыўных удзельнікаў тых бурлівых падзей пазьней напісаў паэму «Аповед пра адыход Жамойці пад швэдзкую апеку і выхад з-пад яе». Аўтар твору Мікалай Шэмет належаў да вядомага роду і сярод іншых падпісаў Кейданскую унію. Потым ён прыняў польскі бок і зрабіўся адной з найбольш значных фігур антышвэдзкага супраціву. Паэма была створаная ў 1657 г., але выйшла друкам толькі ў 1994 г.[750]. Апалёгія былога калябарацыяніста — гэта ўнікальная крыніца. Помнік перадае погляды і меркаваньні шляхты наконт швэдзкага панаваньня, матывы яе адмовы ад супрацоўніцтва з швэдамі і пераходу на бок Польшчы. Аповед складзены ў форме звароту да Яна Казімера, якога аўтар тытулуе «літасьцю Божай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, швэдзкі, гоцкі і вандальскі спадчынны кароль».

Шэмет называе Кейданскую унію «няшчасьцем». Ён абвяшчае Яна Казімера сапраўдным каралём Швэцыі і прызнае, што Кейданская унія была актам здрады[751]. Перайсьці на швэдзкі бок Жамойць прымусіла яе катастрафічнае ваеннае становішча. Шэмет піша, што Радзівіл пераконваў жамойтаў: унія — адзінае выйсьце, бо «палякі ўжо прынялі швэдзкі бок. Няма караля Польшчы, ён уцёк у Сылезію. Нам пагражаюць з аднаго боку маскавіты, а з другога швэды. Няма нікога, на каго мы маглі б спадзявацца. Таму мы скараемся перад ворагам»[752]. Шэмет адзначае, што Радзівіл скарыстаў нязгоду паміж Жамойцю і Літвой[753]. Слабым жамойтам давялося падпісаць Кейданскую дамову пасьля таго, як гэта зрабілі магнаты і духавенства, падкрэсьлівае ён[754]. Такім чынам, Шэмет абяляе жамойцкую шляхту, якая, маўляў, толькі падпарадкавалася вышэйшым уладам.

Шэмет малюе карціну падпісаньня Кейданскай уніі чорнымі фарбамі. Ён апавядае, што ініцыятары падпісаньня на чале з Радзівіламі і швэды заселі ў пратэстанцкім зборы, «пакуль цемра не схавала іх брудныя справы і крывадушныя дзеі»[755]. Ён апісвае разнастайныя містычныя здарэньні. Так, калі Дэлягардзі выступаў з прамовай, пад ім абваліўся балькон, ён упаў і цяжка параніў нагу. «Гэтым знакам завяршыўся ганебны дзень кейданскай няволі». Паводле Шэмета, гэта сымбалізавала хуткае падзеньне швэдзкай улады[756].

[750] MSR. P. 38.
[751] Тамсама. С. 38, 40, 48, 68, 70, 74, 102.
[752] Тамсама. С. 42, 44.
[753] Тамсама. С. 74.
[754] Тамсама. С. 100.
[755] Тамсама. С. 102.
[756] Тамсама. С. 106.

Шэмет прыводзіць тэкст Кейданскай дамовы, але адмаўляецца ад яго аналізу. Для яго гэта «копія ганебнага пакту аб панаваньні швэдаў, ці служэньні ў рабстве». Шэмет гаворыць, што ён вырашыў дадаць да сваёй паэмы тэкст дагавору выключна «дзеля напаміну нашчадкам», як перасьцярогу ад магчымых здрадаў у будучыні[757]. Галоўны акт Кейданскай уніі — гэта «здрада каралю і Польшчы»[758]. Шэмет сьцьвярджае, што швэды не змаглі выканаць умовы Кейданскай уніі, таму што «замест абароны Літвы яны накіравалі свае войскі ў Польшчу»[759]. Цалкам лягічна, што ён ня хоча аналізаваць дамову, бо любая спроба аналізу разбурыла б яго ўяўленьне пра Кейданскую унію як выключна адмоўную і незаконную зьяву. Не зьвяртаючыся да зьместу пагадненьня, Шэмет змог падаць Кейданскую унію як акт акупацыі[760]. Аўтар сьцьвярджае, што ў выніку здрады магнатаў шляхта зрабілася рабамі: «Праз тую швэдзкую апеку мы страцілі свабоду. Замест свабоды паўстала рабства»[761].

Твор дэманструе мясцовы патрыятызм жамойцкай эліты. Вырозьніваючы Жамойць як самастойную краіну, аўтар спрабуе стварыць новы вобраз Жамойці як раўнапраўнага ўдзельніка Рэчы Паспалітай поруч зь Літвой і Польшчай. Гэта ня вельмі стасавалася з рэчаіснасьцю, але, відаць, перадавала сэпаратысцкія памкненьні шляхты — мары пра больш высокі статус Жамойці пасьля вайны. Таму ў супрацьлегласьць здрадніцкай Літве Шэмет стварае вобраз вернай Жамойці — галоўнага апірышча польскага караля. Менавіта жамойты націснулі на швэдаў, каб зьмяніць артыкулы, што датычылі правоў каталіцкай царквы[762]. Сэпаратысцкі настрой аўтара прымушае яго называць мяжу Жамойці зь іншымі ваяводзтвамі Літвы дзяржаўнай[763], хоць насамрэч гэта была адміністрацыйная мяжа. Антышвэдзкае паўстаньне малюецца як усеагульнае паўстаньне жамойтаў супраць іншаземных прыгнятальнікаў[764]. Літва і яе паспалітае рушэньне адсоўваюцца на задні плян. Польшча выдатна зразумела гэты знак. У лісьце Яна Казімера ад 30 чэрвеня 1657 г. прысутнічае толькі «Жамойцкае княства», а Літва ня згадваецца[765]. Шэмет бачыць польска-жамойцкія адносіны як фэўдальныя дачыненьні васала і сюзэрэна. Больш за тое, Шэмет называе караля Яна Казімера «законным спадчынным каралём Швэцыі»[766]. Жамойты пагаджаюцца на прапанову швэдаў толькі таму, што ня маюць праўдзівых зьвестак, што здарылася зь іх манархам. Падпі-

[757] MSR. P. 116—126.
[758] Тамсама. С. 86, 124.
[759] Тамсама. С. 188.
[760] Тамсама. С. 50.
[761] Тамсама. С. 54, 76.
[762] Тамсама. С. 44.
[763] Тамсама. С. 132.
[764] Тамсама. С. 54, 76.
[765] Тамсама. С. 182—183.
[766] Тамсама. С. 48, 64, 84, 140.

саўшы Кейданскую унію, жамойты апынаюцца ў страшэннай сытуацыі: «Немагчыма служыць адначасова двум гаспадарам, швэдзкаму і польскаму, і нам давялося ваяваць супраць палякаў і супраць караля»[767]. Шэмет мяркуе, што Кейданская унія выявіла аўтарытарнасьць швэдзкай манархіі, якая супярэчыць нацыянальным рэспубліканскім традыцыям абраньня караля[768].

Адной з мэтаў Шэмета пры стварэньні паэмы было паведаміць польскаму каралю «пра абаронцаў і здраднікаў Айчыны». Аўтар згадаў шмат удзельнікаў антышвэдзкага паўстаньня[769]. Між тым пералік здраднікаў у яго максымальна кароткі. Ён згадвае толькі тры імёны — Януша Радзівіла, Яна Мяжэнскага і Габрыеля Любянецкага[770]. Усіх пералічаных і так ужо ведалі ў Варшаве як адкрытых прыхільнікаў Швэцыі. Аўтар сьцьвярджае, што шмат хто з шляхты актыўна дапамагаў Швэцыі, але не прыводзіць ніякіх імёнаў[771]. Памерлага Радзівіла вельмі лёгка было выявіць здраднікам. Радзівіл, «паршывая авечка ў слаўнай сям'і», калі верыць Шэмету, адзіны з сэнатараў падтрымаў Швэцыю[772]. Імкнучыся прыйсьці да ўлады, ён выкарыстоўваў увесь свой уплыў, каб пашырыць ідэю уніі сярод жамойтаў[773]. Такая карціна задавальняла ўсіх — ад польскага караля да былых калябарацыяністаў. Затым гэтая ідэя ператварылася ў міт, укарэнены польскімі гісторыкамі.

Паказальна, што Шэмет ні слова не сказаў пра Багуслава Радзівіла — той быў жывы, калі пісалася апалёгія. Прычына відавочная: Багуслаў па-ранейшаму меў вялікі ўплыў.

У 1657 г. у Полацку беларускі паэт Сімяон Полацкі (Самуіл Пятроўскі-Сітняновіч) напісаў паэму, прысьвечаную расейскаму цару. Гэты яго твор пад назвай «Роспач швэдзкага караля», напісаны ў прарасейскім духу, тыпалягічна вельмі падобны да Шэметавай паэмы. Сімяон Полацкі дзяліўся з царом уражаньнямі ад швэдзкай палітыкі ў Літве. Галоўным адмоўным пэрсанажам быў Карл Х Густаў. Цар, наадварот, паўставаў сапраўдным вялікім князем літоўскім і будучым каралём Швэцыі. У паэме называліся галоўныя прычыны правалу швэдзкага караля ў ВКЛ: недаацэнка ваеннай магутнасьці Польшчы і незьдзяйсьняльныя мары Карла Х Густава зрабіцца гаспадаром дзьвюх краін:

*Кепска я зрабіў, што на палякаў глядзеў легкаважна [...]*
*Нават Літоўскае княства асадзіў*
*Януш Радзівіл, што нам стала служыў,*

767 MSR. P. 48, 84, 86.
768 Тамсама. С. 90.
769 Тамсама. С. 190.
770 Тамсама. С. 72, 106.
771 Тамсама. С. 68, 74, 134.
772 Тамсама. С. 40, 100.
773 Тамсама. С. 40, 42, 52, 74, 94, 100, 116—126.

*З усёю Жмудзьдзю, якая нас панам прызнала,*
*А потым, узбунтаваўшыся, людзей маіх пазьнішчала.*
*Дык мала таго, што самі прысягу забылі,*
*Яшчэ і маскаля на карак нам уссадзілі.*
*У двух краях марыў я панаваць, і Літва быць мела*
*Маёю, ды толькі фартуна таго не схацела.*
*На гарматы я спадзяваўся, быў шчодры ў войска аплаце,*
*Марыў прыдбаць чужое, але і сваё страціў.*
*Інфлянты маскаль спаліў, Памор'е — татары…*
*Цяжкой прычакаў я сёньня ад бога кары*[774].

Сімяон Полацкі выказаў сваё адмоўнае стаўленьне да Кейданскай уніі і да Януша Радзівіла, але быў стрыманы ў крытыцы Багуслава Радзівіла.

Шэмет таксама паспрабаваў асэнсаваць ролю ў Кейданскай уніі пратэстантызму і каталіцызму. Ён устрымаўся ад моцнай крытыкі пратэстантызму, зважаючы на яго трывалыя пазыцыі ў Жамойці. Аднак, паводле ягонай вэрсіі, эвангелічная царква стала асноўнай прыладай здрады, менавіта яна здрадзіла бацькаўшчыне. Моцныя антыпратэстанцкія настроі чуюцца ў тым, як аўтар апавядае пра цырымонію падпісаньня Кейданскай уніі. Шэмет сьцьвярджае, што галоўны акт здрады адбыўся ў пратэстанцкай катэдры:

*Тэкст дамовы прынесьлі з суду ў пратэстанцкі збор. Пад трыюмфальны марш туды ўваліўся натоўп людзей, якія мелі пры сабе пячаткі. У сваёй катэдры яны пілі за здароўе новага манарха. Да позьняга вечара яны цешыліся і сьвяткавалі, пакуль гнятлівая цемра не схавала іх баляваньне і іх ганебныя дзеі*[775].

Каб падкрэсьліць ерэтычнасьць гэтай падзеі, Шэмет прыдумаў легенду, што Бог пакараў здраднікаў: «У збор ударыла маланка». У намаляванай ім карціне братаньня мясцовых пратэстантаў зь лівонцамі, фінамі і швэдамі таксама згадваецца гэты матыў[776].

Каталіцызм жа, наадварот, паказваецца як нацыянальная патрыятычная рэлігія. Аўтар падкрэсьлівае, што каталіцкая шляхта зьвярнулася да ўзброенага паўстаньня, каб абараніць каталіцызм — «нашу старадаўнюю сьвятую веру». Шэмет сьцьвярджае, што толькі пад націскам жамойтаў у Кейданскай дамове зьявіўся адмысловы пункт, які гарантаваў правы каталіцкай царквы. Прызнаючы, што Кейданскую унію падпісалі каталіцкія ярархі, Шэмет, тым ня менш, ня згадвае жамойцкага біскупа Парчэўскага, які служыў новаму манарху. Затое, распавядаю-

[774] Полоцкий, Симеон. Вирши. Минск, 1991. С. 203.
[775] MSR. P. 100—102.
[776] Тамсама. С. 80.

чы гісторыю паўстаньня, ён падкрэсьлівае, што Парчэўскі за ўласны кошт набраў атрад інсургентаў[777].

## 3.7. Высновы

Антышвэдзкае паўстаньне мела адмоўныя вынікі для Швэцыі і прашвэдзкай партыі ў Літве. Па-першае, Жамойць вярнулася пад уладу Рэчы Паспалітай і зрабілася стратэгічнай базай для літоўскага войска. Браслаўшчына была забраная Расеяй. Страта Жамойці азначала правал швэдзкай палітыкі ня толькі ў Літве, але і ў Курляндыі і Прусіі. Зона швэдзкага ўплыву, якая распасьціралася ад Лівоніі да Вялікай Польшчы, зьнікла, што сур'ёзна ўскладніла зносіны між швэдзкай Лівоніяй і галоўнымі сіламі Карла X Густава ў Польшчы. Усё гэта таксама паўплывала на ход расейска-швэдзкай вайны. Аслаб ціск Швэцыі на Курляндыю — абкружаны швэдзкімі тэрыторыямі анкляў. Літоўскія войскі на чале з Гасеўскім пачалі з Жамойці ваенную кампанію супраць Курляндыі і герцагства Прусія, каб зноў падпарадкаваць іх Рэчы Паспалітай. Падчас паўстаньня пратэстанцкая шляхта сутыкнулася зь перасьледам і страціла свой палітычны ўплыў. Пасьля лета 1656 г. пад швэдзкім пратэктаратам заставалася толькі Случчына. Пасьля паўстаньня прашвэдзкая партыя зразумела, што задума з Кейданскай уніяй праваліласяся. Швэцыя страціла ў час паўстаньня 1700 сваіх вайскоўцаў. Гэта сталася для яе цяжкім ударам. Рэшткі войскаў, што ўцяклі зь Літвы, былі «бяззбройныя і згаладалыя»[778]. У выніку паўстаньня швэдзкая армія ў Лівоніі апынулася бездапаможнай перад расейскім наступам.

Пасьля першага этапу расейска-швэдзкай вайны і імклівага захопу Лівоніі маскоўскім войскам Швэцыя паспрабавала заключыць з Расеяй перамір'е. Калі б Швэцыя пры гэтым зноў ужыла сілу ў Літве, гэта справакавала б новы канфлікт з Масквой. Такім чынам, у аднаўленьні швэдзкага ўладараньня ў Літве былі зацікаўленыя толькі дзьве палітычныя сілы: жыхары Рыгі і Багуслаў Радзівіл з сваімі прыхільнікамі. 25 верасьня 1656 г. Карл X Густаў загадаў Радзівілу перакінуць усе свае палкі з Падляшша пад Рыгу, каб дапамагчы абараніць яе ад Расеі[779]. Аднак у баі пад Просткамі 8 верасьня 1656 г. палкі Радзівіла атакавала і разьбіла літоўскае войска на чале з Гасеўскім, якое дзейнічала сумесна з крымскімі татарамі Субхана Газі-ага. Радзівіл, генэрал Ізраэль Рыдэргельм і шмат хто з падначаленых яму швэдзкіх афіцэраў трапілі ў татарскі палон[780]. Многія швэды дваццаць гадоў заставаліся ў крымскай няволі.

Дэлягардзі прызнаваў, што Левэнгаўпт зрабіў памылку, калі вывеў войскі зь Літвы[781]. 14 лістапада 1656 г. швэдзкая Каралеўская Рада абмеркавала просьбу

[777] MSR. P. 196.

[778] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. Note 137.

[779] Svenska Riksrådets protokoll. Vol. 16. P. 638.

[780] Wittrock, Georg. Marienburg och Labiau // Karolinska förbundets årsböcker. Stockholm. P. 89—90.

[781] Магнус Дэлягардзі — Карлу X Густаву. 1 чэрвеня 1656. Рыга. RA. Livonica II. Generalguvernör Livland till Kungliga Majestät 1655—1656. Vol. 77.

рыскага магістрату зноў паслаць войскі на Літву. Рыскія купцы абяцалі забясьпечыць армію ўсім неабходным (у тым ліку футрамі й абуткам) і дапамагчы з рыштункам коньніцы. Яны хацелі, каб «Магнус Дэлягардзі на чале падрыхтаванага корпусу рушыў на Біржы, каб зноў утаймаваць Літву»[782]. Як бачым, рыскія купцы мелі свой камэрцыйны інтэрас у вяртаньні Літвы пад уладу швэдаў. У гэтым жа быў зацікаўлены і Радзівіл з сваімі прыхільнікамі. Ён спадзяваўся, што швэды неўзабаве вернуць сабе Жамойць і паўночную Літву[783]. Аднак новы паварот падзеяў зрабіў марнымі намаганьні месьцічаў Рыгі і Радзівілаў схіліць швэдаў да яшчэ адной спробы заваяваць Літву.

[782] Svenska Riksrådets protokoll. Vol. 16. P. 687.

[783] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 30 верасьня 1656. Вагеншос. Па-францускy. Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 17 лістапада 1656. Брандэнбург/Ушакова. Па-францускy. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

# 4. Змаганьне за Вялікае княства Літоўскае

## 4.1. Парадоксы вайны: тры вялікія князі літоўскія і адзін гетман

У другой палове 1655 г. у ВКЛ склалася парадаксальная сытуацыя. На тытул вялікага князя літоўскага адначасова прэтэндавалі чатыры ўладары. Больш за тое, кожны спрабаваў абгрунтаваць свае правы юрыдычна і гістарычна ды забясьпечыць сабе падтрымку літоўскай шляхты.

Згодна з жнівеньскай Кейданскай дэклярацыяй, станы ВКЛ прызнавалі вялікім князем літоўскім Карла X Густава. Кастрычніцкая Кейданская дамова пацьвердзіла гэтае палажэньне. Тытулам вялікага князя літоўскага надзяляўся ня толькі Карл X Густаў, але і ўсе будучыя каралі Швэцыі з дынастыі Пфальцаў. Нарэшце, у публічным звароце да эўрапейскіх дзяржаваў абвяшчалася, што Кейданская унія вызваляе літвінаў ад абавязку падпарадкоўвацца польскім каралям з дынастыі Вазаў. Вялікімі князямі літоўскімі маглі лічыцца толькі швэдзкі кароль і яго нашчадкі. Гэты дакумэнт меў вельмі сур'ёзныя наступствы для швэдзкай замежнай палітыкі, бо ствараў глебу для патэнцыйных канфліктаў, перш за ўсё з Расеяй. І сапраўды, аспрэчваньне тытулу прывяло да расейска-швэдзкага канфлікту, які выліўся ў вайну 1656—1658 гг.

20 жніўня 1655 г. Дэлягардзі даслаў ліст расейскаму ваяводу ў Полацку Васілю Шарамецеву і ваяводу ў Вільні Якаву Чаркаскаму, у якім паведамляў, што Літва перайшла пад апеку Швэцыі. Тых моцна ўзрушыла, што літоўскія ўраднікі і афіцэры прынялі швэдзкі пратэктарат. Чаркаскі адказаў Швэцыі толькі 11 верасьня 1656 г.: ён абураўся, што швэдзкія войскі ўвайшлі ў Літву, і наракаў, што Януш Радзівіл «незаконна абвясьціў сябе гетманам швэдзкага караля ў Літве, хоць адзіны уладар Літвы — [расейскі] цар»[784]. Увосень 1655 г. Дэлягардзі і пскоўскі ваявода Афанасій Ардзін-Нашчокін абменьваліся пратэстамі, даводзячы права абедзьвюх дзяржаваў на ВКЛ[785]. Маскоўскія дыпляматы абвінавачвалі Карла X Густава ў «падрыве» царскай улады, дадзенай ягоным тытулам, у незаконным захопе літоўскіх зямель, што належалі Расеі, у варожай прапагандзе супраць Расеі[786].

Літоўская шляхта адыгрывала ў расейска-швэдзкім канфлікце асаблівую ролю. Праз два дні пасьля падпісаньня Кейданскай дэклярацыі на перамовах расейска-

[784] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 163.

[785] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 37.

[786] Коваленко, Геннадий. Кандидат на престол. Из истории политических и культурных связей России со Швецией XI—XX вв. Ст.-Петербург, 1999. С. 93—94.

га пасла Васіля Ліхарова зь Янушам Радзівілам Ліхараў дакараў Радзівіла, што той пайменаваў сябе тытулам, пацьверджаным Карлам X Густавам:

*Ты, Радзівіл, пісаў нашым баярам і ваяводам як вялікі гетман і ваявода віленскі пад уладай караля Швэцыі. Царскія баяры і ваяводы гэтым зьдзіўленыя, бо Вялікае Княства Літоўскае і горад Вільня, як ты ведаеш, ніколі не належалі швэдзкаму каралю, Вільня заўжды была ўладаньнем польскага караля. Больш за тое, праз нячычырасьць таго наш уладар — цар — узяў гэты горад пад сваю апеку. З таго часу над Вільняй і літоўскімі гарадамі гаспадарыць наш уладар — цар... і швэдзкаму каралю ня сьлед сварыцца з нашым царом*[787].

У адказ Радзівіл адзначыў, што, па-першае, царскае войска сілай захапіла літоўскія землі і чыніць гвалт над насельніцтвам; па-другое, польскі кароль пакінуў Літву безь ніякай ваеннай дапамогі. Таму станы Літвы з уласнай волі папрасілі абароны ў швэдзкага караля. Паводле словаў Радзівіла, швэдзкі кароль вельмі зацікавіўся прапановай і згадзіўся прыняць ВКЛ пад сваю апеку, захаваўшы ўсе вольнасьці. Хаўрус з Швэцыяй заключаны безь ніякага прымусу і гвалту. На думку Радзівіла, тое, што шляхта і ўсе станы Літвы вырашылі абраць Швэцыю новым палітычным партнэрам, цалкам адпавядае звычаям і законам княства. Таму тытул, якім называўся Радзівіл, законны і цалкам абгрунтаваны. Нарэшце, Радзівіл угневаў пасла тым, што сказаў: цару не належыць усё княства. Далей на перамовах Радзівіл рашуча адмаўляўся называць цара «валадаром Літвы» і падкрэсьліваў, што «цар захапіў літоўскую сталіцу сілай, не зважаючы на волю нашых станаў»[788].

Маскавітам было досыць нялёгка сьцьвердзіць за сабой права на ВКЛ. Напачатку Расея лічыла Беларусь неад'емнай часткай Літвы. Так, 28 ліпеня 1654 г. цар выдаў указ «Аб уключэньні ў наш тытул найменьняў «полацкі» і «амсьціслаўскі», бо нашыя баяры і ваяводы ўзялі гэтыя літоўскія гарады»[789]. Беларусь тут ня згадваецца. Аднак калі Масква наладзіла сувязь зь мясцовым праваслаўным духавенствам, тэрмін «Беларусь» хутка набыў новае палітычнае значэньне. 20 жніўня 1655 г. у ахоўнай грамаце Куцеінскаму манастыру цар тытулаваўся як «самадзержца ўсяе Вялікае, Малое і Белае Русі»[790]. 1 верасьня 1655 г. патрыярх маскоўскі Нікан, блаславіўляючы цара, назваў яго «вялікім князем літоўскім»[791]. Сам Нікан пачаў дадаткова тытулаваць сябе «патрыярхам Белае Русі», не зважаючы на тое, што навадалучаныя землі знаходзіліся пад юрысдыкцыяй мітрапаліта кіеў-

[787] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 25, 115.

[788] Тамсама. С. 30.

[789] PSZRI. № 134. С. 349.

[790] Тамсама. № 136. С. 350.

[791] Соловьев, Сергей. История России с древнейших времён. Москва, 1990. Том 10. С. 623.

скага[792]. Гэта не магло ня выклікаць канфлікту паміж Расеяй і Ўкраінай. У сваю чаргу, па абвяшчэньні Карла X Густава вялікім князем літоўскім Дэлягардзі таксама прысвоіў сабе новы тытул. Ён пачаў падпісваць свае загады як «генэрал-губэрнатар Лівоніі, Жамойцкага княства і прылеглых паветаў Літвы, галоўнакамандуючы на Літве»[793].

3 верасьня 1655 г. (ці 7164 г. паводле расейскага календара) цар выдаў указ «Аб менаваньні цара вялікім князем літоўскім і самадзержцам Белай Русі». Так у Маскве афіцыйна зрэагавалі на прызнаньне вялікім князем літоўскім швэдзкага караля. Тое, што царскі ўказ зьявіўся праз месяц пасьля заняцьця расейскім войскам літоўскай сталіцы, пацьвярджае, што гэта запозьнены адказ на захады Швэцыі, якая спрабавала юрыдычна абгрунтаваць свае правы на ВКЛ. Аднак Масковія разважала зусім іначай: «Мы, вялікі валадар, наша царская вялікасьць, адабралі ў польскага караля продкаў нашых гаспадаравых вялікіх князёў расейскіх Вялікага Княства Літоўскага стольны горад Вільню, і іншыя шматлікія гарады і мястэчкі занялі мы і ўзялі пад сваю абарону, як і ўсю Белую Русь»[794]. Апроч Божай волі, расейская прапаганда грунтавалася на гістарычных аргумэнтах. Дынастыя Раманавых глядзела на Беларусь як на спадчыннае ўладаньне Рурыкавічаў і лічыла Вільню, дзе жыло шмат русінаў, «спрадвечна расейскім горадам», у якім «супраць волі жыхароў правіла нізкая літоўская дынастыя Гедымінавічаў»[795]. Ва ўказе, зьвернутым да літоўскіх сэнатараў, цар сьцьвярджаў, што «літасьцю Божай мы вярнулі спрадвечную царскую вотчыну Смаленск, і многія іншыя гарады і мястэчкі, і ўсе землі Белай Русі, а таксама літоўскую сталіцу Вільню — уладаньне нашых праваслаўных продкаў вялікіх князёў рускіх»[796]. Адасабленьне Беларусі ад літоўскіх земляў азначала, што цар лічыў неаспрэчнай прыналежнасьць гэтага геаграфічнага абсягу Расеі[797].

Дарэчы, тут Швэцыя і Расея дзейнічалі падобнымі мэтадамі. Адасабляючы ад ВКЛ Жамойць і Беларусь, абедзьве вялікія дзяржавы прэтэндавалі на ўключэньне гэтых тэрыторыяў у свой склад. Аднак калі Швэцыя плянавала палітычны альянс, заснаваны на дамове, дык Масковія лічыла за лепшае дзейнічаць сілай. Таму нават па-прарасейску настроеная шляхта Літвы выказвала нязгоду, што цар прысвоіў сабе тытул вялікага князя літоўскага бяз згоды літвінаў. У «пакорлівым прашэньні» да цара (ліпень 1656 г.) менская шляхта прызнавала яго «самадзержцам Белае Русі», але не вялікім князем літоўскім. Тады зьявілася новая дыпляматычная фармулёўка: цар называўся «ўладаром Літвы»[798]. Шляхта пагаджалася з

[792] Mironowicz, Antoni. Kościól prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. Białystok, 2001. P. 154.

[793] Sacrae Regiae Majestatis Regnorumq. Riga. 13 лютага 1656. Друк. KB. F 1700. Fol. Kungskrivelser.

[794] PSZRI. № 136. C. 350.

[795] Флоря, Борис. Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI — начале XVII века. Москва, 1978. С. 14—20.

[796] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 72.

[797] Мальцев, Александр. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974. С. 105.

[798] BA. № 121.

правам цара на Беларусь, але па-ранейшаму адмаўляла яму ў тытуле вялікага князя, маючы на ўвазе, што захопленае сілай трэба замацаваць дамовай.

Вестка пра новы царскі тытул неўзабаве дайшла да Швэцыі. У лісьце Карлу X Густаву ад 29 жніўня 1655 г. цар, які ведаў пра Кейданскую дэклярацыю, пісаў, што, заняўшы Вільню, ён зрабіўся гаспадаром Літвы, і называў краіну «нашым спадчынным княствам Літоўскім». Ён віншаваў швэдзкага караля зь перамогамі ў Курляндыі і Прусіі, але не ў ВКЛ[799]. Калі 1 кастрычніка 1655 г. швэдзкае пасольства ў Маскву прыбыло ў Ноўгарад, пасол Густаў Бельке атрымаў ліст ад цара. У ім Аляксей Міхайлавіч тытулаваў сябе вялікім князем літоўскім. Бельке ўспрыняў гэта як «надзвычайны крок, які прымусіў мяне глыбока задумацца», бо той перашкаджаў плянам Швэцыі. Пасол неадкладна паведаміў пра гэта Карлу X Густаву[800]. У сьнежні 1655 г. Карл X Густаў атрымаў ад цара ліст, у якім той называў сябе «вялікім князем літоўскім і самадзержцам Белай Русі». Аднак кароль катэгарычна адмовіўся пагадзіцца з гэткім дапаўненьнем царскага тытулу[801].

29 студзеня 1656 г. кароль Швэцыі даслаў цару адмысловы мэмарандум пра становішча ў Літве. Гэты дакумэнт унесьлі ў швэдзкі каралеўскі рэестар пад назвай «Вялікаму князю расейскаму адносна яго новага тытулу». Карл X Густаў прапаноўваў Аляксею Міхайлавічу «загадаць сваім баярам перастаць чыніць крыўды краіне, што належыць Нашай Каралеўскай Мосьці, і не чапаць нашых каралеўскіх земляў [ВКЛ] ды прыналежных нам маленькіх мястэчак і гарадоў. Таксама просім пакараць вашых баяр за пералічаныя незаконныя гвалтоўныя дзеяньні». Карл X Густаў падкрэсьліваў, што на некалькі некалькі гарадоў у Літве, якія знаходзіліся пад швэдзкай апекай, напала расейскае войска. Сярод іх былі Слуцак, Орля, Берасьце і Юрбарк. Усе гэтыя гарады ляжалі за межамі падуладнай Швэцыі тэрыторыі, акрэсьленай Кейданскай уніяй. Такім чынам кароль Швэцыі паказваў цару, хто, на яго думку, сапраўдны ўладар заходніх паветаў. Затое Карл X Густаў не аспрэчваў царовага права на Беларусь: далей кароль Швэцыі прапаноўваў расейскаму валадару, каб абодва бакі накіравалі камісараў, каб дамовіцца наконт часовай дэмаркацыйнай лініі ў ВКЛ[802].

Тытулаваньне сталася першачарговым пытаньнем для вялікага швэдзкага пасольства ў Маскве на чале з Густавам Бельке. У дакумэнтах, перададзеных пасламі цару, бракавала адной істотнай дэталі: швэды не пайменавалі яго вялікім князем літоўскім. У адказ на пратэст маскавітаў швэды растлумачылі, што ня ведалі пра такую раптоўную зьмену ў царскім тытуле. Насамрэч паслы хлусілі. Бельке да верасьня 1655 г. быў у Рызе і добра ведаў пра перамовы паміж Радзі-

[799] Флоря. От потопа до Вильна. С. 26—27.

[800] Dahlgren, Stellan. Den svenska ambassaden till Ryssland 1655—1658. Неапублікаваны артыкул. P. 10. Note 42.

[801] Nordwall, John. Svensk-ryska underhandlingar före freden i Kardis (1658—61). Uppsala, 1890. P. 3.

[802] Карл X Густаў — вялікаму князю маскоўскаму. 29 студзеня 1656. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E1367.

віламі і Дэлягардзі. 20 жніўня 1655 г. Бельке паведамляў Карлу X Густаву, што «ўся Літва, за выняткам тэрыторый, занятых маскавітамі, хоча вашай апекі»[803]. Бельке быў рэзка супраць таго, каб даслаць да Карла X Густава кур'ера па новыя ўказаньні што да царскага тытулу. Тады дзяк пасольскага прыказу Алмаз Іваноў заявіў, што ніякіх перамоваў з швэдамі ня будзе, пакуль ня вырашыцца пытаньне наконт тытулу. Расейскія дыпляматы запатрабавалі сьмяротнай кары для бурмістра Рэвэлю, які ў лісьце да цара не згадаў ягоны тытул вялікага князя літоўскага[804]. Цар адмовіўся прымаць новыя пасланьні ад Карла X Густава, калі ў іх ня будуць пералічвацца належныя тытулы[805].

У Маскве швэды паспрабавалі ўхіліцца ад літоўскага пытаньня, зьвярнуўшы ўвагу Расеі на супольнага ворага — Польшчу. Яны тлумачылі, што пытаньне тытулаў — прэрагатыва швэдзкага караля. Аднак баярын Мікіта Адоеўскі спытаў у швэдзкіх камісараў: чаму Карл X Густаў насуперак цару даў Радзівілу абвясьціць швэдзкага караля вялікім князем літоўскім, калі цар ужо заняў Літву і Беларусь? У новых указаньнях Бельке ад 24 студзеня 1656 г. Карл X Густаў напісаў, што дзеля посьпеху перамоваў ён пагаджаецца называць цара «вялікім князем большай часткі Літвы», і прапанаваў Расеі падзяліць ВКЛ сумесна з Швэцыяй. У той жа час швэдзкі кароль настойваў на сваім праве на значную частку літоўскіх земляў.

Чарговы канфлікт узьнік 17 сакавіка 1656 г. У лісьце Карлу X Густаву Аляксей Міхайлавіч раззлавана заўважыў, што ён атрымаў ліст ад Дэлягардзі, у якім Карл X Густаў названы вялікім князем літоўскім. У такіх абстанівах, сьцьвярджалася ў лісьце, пра перамовы няма чаго й казаць. Цар катэгарычна патрабаваў вываду з ВКЛ усіх швэдзкіх войскаў[806]. Па-прапольску настроеная шляхта Літвы адыграла істотную ролю ў распальваньні канфлікту. На пачатку красавіка 1656 г. Мікалай Шэмет як пасол Жамойці сустрэўся ў Вільні з Замятнем Лявонцьевым. Мэта яго місіі была ў тым, каб пераканаць расейцаў, што Швэцыя рыхтуецца да вайны, бо хоча захапіць расейскую частку ВКЛ. Каб пацьвердзіць гэта, Шэмет прывёз важкае сьведчаньне — надрукаваныя ў Рызе звароты Шутэ да літоўскай шляхты. У іх Карл X Густаў называўся вялікім князем літоўскім. Як сьцьвярджаў Шэмет, гэтымі дакумэнтамі швэдзкі кароль абяцаў літвінам неўзабаве пачаць вайну з Расеяй і вызваліць усе акупаваныя ёю землі. Шэмет таксама паказаў копіі лістоў Радзівіла швэдам, што выразна сьведчылі пра іх антымаскоўскія настроі. Паводле словаў Шэмета, галоўная мэта швэдзкага караля — «панаваць над усёй Балтыкай»[807].

[803] Dahlgren, Stellan. Documentes related to the Swedish-Russian diplomatic negotiations 1655—1657. Неапублікаваны артыкул. С. 10.

[804] Флоря. От потопа до Вильна. С. 35.

[805] Carlon. Ryska kriget. P. 23.

[806] Dahlgren. Den svenska ambassaden till Ryssland. P. 18. Копія ліста — у RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1367.

[807] MSR. P. 186—188.

У той жа час расейскія палітыкі змагаліся за права цара на новы тытул і з прапольскай элітай Літвы. У сьнежні 1655 г. цар даслаў ліст Паўлу Сапегу і іншым літоўскім сэнатарам. Ён пісаў: «За вашы злыя ўчынкі Бог дараваў нам усю Белую Русь, і стольны горад Вільню, і іншыя шматлікія ваяводзтвы, гарады і мястэчкі Вялікага Княства Літоўскага. Літасьцю Божай і слаўнай Тройцы мы сталі гаспадаром усёй Белай Русі і Літвы. То чаму вы па-ранейшаму завяце Яна Казімера, караля польскага, вялікім князем літоўскім?»[808] Рэч Паспалітая не пакінула без адказу тое, што Расея вылучала «Белую Русь» як асобную частку ВКЛ. У лісьце да цара сэнатары ўпершыню ў гісторыі назвалі караля Польшчы таксама і «каралём беларускім». Гэта выклікала гнеў цара: «І вы пішаце да мяне, цара, і ў сваім лісьце называеце, трымаючыся сваёй пыхі, Казімера каралём польскім Белай Русі, што ніколі за папярэднімі каралямі і за цяперашнім каралём так пісана нідзе не бывала. Лепш бы вы называлі цара так, як гэта вызначана Госпадам і як мы называем сябе ў нашых граматах»[809]. Маскавіты зьвязвалі ўчынены ў Літве «крывавы патоп» з адмовай літвінаў прыняць новы тытул цара. З таго часу панятак «Беларусь» як асобная зямля трывала замацаваўся ў палітычным лексіконе[810].

Спрэчка пра тытулы паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай дасягнула апагею на перамовах у Нямежы каля Вільні (жнівень—кастрычнік 1656 г.). Перад іх пачаткам Расея намагалася давесьці законнасьць сваіх правоў на ВКЛ. Цар абвясьціў шляхце, што ніколі не аддасьць Беларусь і Літву Польшчы, і загадаў ёй даслаць сваіх прадстаўнікоў у Нямежу для ўдзелу ў перамовах. Там яны мусілі заявіць, што хочуць бачыць вялікім князем літоўскім толькі цара[811]. За прызнаньне новага царскага тытулу Масква пагаджалася аддаць Польшчы некаторыя заходнія паветы Літвы. Аднак Беларусь мусіла назаўсёды ўвайсьці ў склад Расеі. Паслы Рэчы Паспалітай катэгарычна адхілілі гэтыя прапановы. У выніку ў расейскім асобніку Віленскага перамір'я (3 лістапада 1656 г.) цар Аляксей Міхайлавіч называўся «вялікім князем літоўскім», а ў асобніку Рэчы Паспалітай гэты тытул адсутнічаў[812].

Гетманская Ўкраіна таксама ўцягнулася ў барацьбу за ВКЛ. У час першай літоўскай кампаніі ў казакоў з Расеяй панавала поўнае ўзаемаразуменьне. Пасьля захопу Вільні цар і ўкраінскі наказны гетман Іван Залатарэнка зладзілі сумесны трыюмфальны ўваход у горад. Цар дэманстратыўна пасяліўся ў караleўскім палацы, а Залатарэнка — у палацы Радзівіла. Аднак вялікі гетман Украіны Багдан Хмяльніцкі паказаў Расеі, што мае ўласныя прэтэнзіі на

[808] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 70—71.

[809] Тамсама.

[810] VL. No. 804, 1081.

[811] Соловьев. История России. Том 10. С. 633.

[812] Флоря, Борис. Украинский вопрос на переговорах под Вильно в 1656 году // Украина и соседние государства в XVII веке. Материалы международной конференции. Ст.-Петербург, 2004. С. 160—173.

праваслаўныя тэрыторыі Літвы. Па сьмерці Залатарэнкі Хмяльніцкі прызначыў новага наказнога гетмана казацкіх атрадаў у Літве — свайго зяця, уплывовага палкоўніка Івана Нячая. Унівэрсал Хмяльніцкага дыпляматычна нагадваў украінцам, што казацкае войска павінна рабіць тое, «што пажадае цар». Але адначасова гетман надаў Нячаю тытул «запароскага палкоўніка беларускага» і недвухсэнсоўна вызначыў тэрыторыі, якія мусяць належаць Украіне, — Рэчыцкі, Аршанскі і Амсьціслаўскі паветы[813]. Тады цар заявіў, што Нячай незаконна прэтэндуе на тое, каб «панаваць на Беларусі», бо «панаваньне» па-расейску азначае *«государствование»*, а *«государствовать»* на Белай Русі і менавацца такім тытулам божай міласьцю можам толькі мы, цар, законны гаспадар Белае Русі»[814]. Увесну 1656 г. швэдзкія паслы ва Ўкраіне паведамілі Карлу X Густаву, што Хмяльніцкі не зьбіраецца адмаўляцца ад сваіх прэтэнзій на ўсе землі Русі, «дзе грэцкая праваслаўная вера і дзе гавораць на рускай мове»[815]. Гэта азначала, што ўсе ўсходнія і паўднёвыя паветы Літвы траплялі ў сфэру казацкіх інтарэсаў.

Кароль Ян Казімер таксама захоўваў за сабою тытул вялікага князя літоўскага. 8 верасьня 1655 г. польскі кароль прыняў пасольства літоўскіх афіцэраў на чале з Самуэлем Кміціцам. Яны паведамілі яму пра здраду Януша і Багуслава Радзівілаў. У той жа час яны запэўнілі караля, што ачольнікі раялісцкай партыі Гасеўскі і Пац, нягледзячы на ціск, засталіся верныя Польшчы. У выніку кароль як вялікі князь літоўскі выдаў унівэрсал, у якім абвяшчаў усе дзеяньні Радзівілаў незаконнымі і здрадніцкімі, а ўсе іх велізарныя ўладаньні аддаваў верным яму літоўскім афіцэрам (гэта супярэчыла Статуту ВКЛ)[816]. Ян Казімер падкрэсьліваў, што такая ж доля чакае ўсіх здраднікаў[817]. Каб заваяваць падтрымку Паўла Сапегі, які вагаўся паміж Карлам X Густавам і расейскім царом, польскі кароль надзяліў яго самымі высокімі пасадамі ВКЛ — ваяводы віленскага і вялікага гетмана літоўскага. Гэтым крокам кароль здолеў схіліць Сапегу на бок Польшчы[818]. Атрымліваючы новыя зьвесткі (часам памылковыя), Ян Казімер ад імя вялікага князя літоўскага працягваў караць здраднікаў — канфіскоўваў землі і часам пазбаўляў пасадаў усіх вядомых яму хаўрусьнікаў Швэцыі. Тое самае ён рабіў зь літоўскімі шляхціцамі, якія далучаліся да Расеі[819] або Ўкраіны[820]. Іх маёнткі кароль аддаваў верным яму літвінам[821].

[813] UBH. No. 112.

[814] Грушевський, Михайло. Історія України-Русі. Том IX. Частина друга. http://litopys.org.ua/hrushrus/iur.htm

[815] Kentrschynskyj. Mazepa. P. 80, 86.

[816] Rachuba. Sprawa dóbr Radziwiłłów birżańskich. P. 52.

[817] AGAD. AR II. No. 1302.

[818] Rachuba. Paweł Sapieha wobec Szwecji. P. 107.

[819] LM. No. 32, 58, 232, 295, 303, 316, 444, 520, 593, 604.

[820] Тамсама. № 64, 94, 123, 152, 154, 174, 175, 376, 397, 418, 421, 523.

[821] Тамсама. № 16, 21, 29, 46, 56, 60, 71, 73, 82, 86, 100, 106, 108, 124,131, 108, 165, 176, 185, 186, 193, 203, 213, 214, 229, 299, 302, 334, 360, 373, 392, 437, 457, 459, 474, 506, 518, 544, 609.

Што да Карла X Густава, то ён у спрэчцы з палякамі за тытул вялікага князя літоўскага паводзіўся досыць пасіўна, адкладаючы гэтае пытаньне да будучых мірных перамоваў. Галоўнай прычынай такой пасіўнасьці было тое, што Кейданскую унію так і не ўдалося ўвасобіць у жыцьцё.

Такім чынам, у 1655 г. ВКЛ стала арэнай канфлікту паміж чатырма краінамі — Польшчай, Швэцыяй, Расеяй і гетманскай Украінай. Кожная зь іх разьлічвала на палітычную падтрымку мясцовай шляхты.

## 4.2. Роля занятых Расеяй літоўскіх земляў у швэдзка-расейскім канфлікце

І расейскія, і швэдзкія навукоўцы дасьледавалі пытаньне расейскай агрэсіі супраць Швэцыі і наступнага расейска-швэдзкага канфлікту. На думку Кентрыжынскага, да нападу на Швэцыю Маскоўскую дзяржаву падштурхнулі сэпаратныя кантакты Швэцыі з казакамі[822]. Аднак большасьць дасьледнікаў лічаць, што асноўнай прычынай расейска-швэдзкай вайны быў нявызначаны статус ВКЛ і нежаданьне як Расеі, так і Швэцыі адмовіцца ад сваіх прэтэнзій на Літву[823]. Мэта гэтага дасьледаваньня — прасачыць ролю ў гэтым канфлікце літоўскай шляхты і паказаць спробы Расеі стварыць уласную палітычную партыю ў Літве, каб супрацьстаяць Швэцыі.

У 1655 г. плянамі Расеі прадугледжваліся два варыянты будучыні ВКЛ. Згодна зь першым, Расея інкарпаравала ўсё княства. У другім — горшым — выпадку заходняя частка магла застацца за Польшчай, паўночную анэксавала б Швэцыя, а Расеі б дасталася Беларусь[824]. Так ці іначай, каб зьдзейсьніць свае мэты, Масква не магла абысьціся без падтрымкі літоўскай шляхты ці прынамсі большай яе часткі. Расейская замежная палітыка палягала на тым, што ўсе рускія землі неабходна адваяваць у Польшчы, бо яны былі часткай гістарычнай (Кіеўская Русь) і рэлігійнай (праваслаўе) спадчыны Расеі[825]. Падчас першай кампаніі 1654 г. цар зьвяртаўся да праваслаўнага насельніцтва ВКЛ як да «сыноў маці нашай — грэцкай праваслаўнай царквы». Гэтым цар падкрэсьліваў рэлігійны характар вайны, якая мусіла скасаваць каталіцкі ўплыў і прывесьці пад апеку расейскага цара праваслаўнае насельніцтва, як раней ва Украіне. Цар абяцаў добрае жыцьцё ўсім праваслаўным і патрабаваў, каб яны вонкава адрозьніваліся ад каталікоў «і верай, і выглядам: чубы трэба састрыгчы, каб авечак аддзяліць ад казлоў. Дамы і маёнткі ўсіх, хто перад нашым прыбыцьцём добраахвотна прысягне нам у вернасьці і застанецца аддады нам, будуць абароненыя ад гвалту, бо нашым стральцам строга забаронена чапаць вас». Гэты зварот знайшоў сваіх прыхільнікаў: мясцовыя праваслаўныя сьвятары і купцы дапамаглі маскавітам авалодаць некалькімі гарадамі[826].

[822] Kentrschynskyj. Ukrainska revolutionen. P. 17—86.

[823] Carlon. Ryska kriget; Кобзарева. Дипломатическая борьба России за выход к Балтийскому морю.

[824] Абецедарский, Лаврентий. Белоруссия и Россия в XVI—XVII вв. Минск, 1978. С. 173.

[825] Будовниц, Иосиф. Русская публицистика XVI века. Москва—Ленинград, 1947. С. 167—187.

[826] Мальцев. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 48—49.

22 ліпеня 1654 г. у царскую стаўку ў Смаленску зьявіўся рускі шляхціц Канстанцін Паклонскі, які адрэкамэндаваўся паслом аршанскай шляхты. Ён прапанаваў утварыць ваенна-адміністрацыйную адзінку пад назвай «Беларускае войска» на ўзор Запароскага войска, на землях якога кіравала б мясцовая шляхта. Паклонскі паабяцаў сабраць паказачанае войска і дапамагчы цару заваяваць усё княства. Цар пагадзіўся на прапановы Паклонскага і дазволіў утварыць калябарацыянісцкае войска. Паклонскаму ён надаў званьне «палкоўніка Беларускага». Гэта быў адзін зь першых выпадкаў, калі азначэньне «Беларусь» ужывалася ў палітычных мэтах[827]. Вельмі хутка Паклонскі пераканаў абаронцаў узятага ў аблогу Магілёва адчыніць гарадзкую браму. Пасьля гэтага ён сфармаваў з шляхты і мяшчан уласны казацкі полк і ўзяў пад свой кантроль значную частку Беларусі. За сваю службу Расеі Паклонскі атрымаў горад Чавусы[828]. Паклонскі не хацеў у лістах да цара падпісвацца традыцыйнай формай, якую ўжывалі ўсе маскоўскія ваяводы, — «твой халоп»[829]. Ён адмовіўся ад прапановы ўкраінцаў далучыцца да іх гетмана, а замест гэтага раскрыў іх просьбу цару, скампрамэтаваўшы казакоў. Неўзабаве канфлікт паміж Паклонскім і Залатарэнкам выйшаў за дыпляматычныя рамкі — беларускія і ўкраінскія казакі пачалі ваяваць між сабою. Залатарэнка загадаў арыштаваць і забіць «ілжывага беларускага палкоўніка»[830]. Гэтак Масква займела яшчэ адну праблему.

У ноч на 5 красавіка 1655 г. літоўскае войска на чале зь Янушам і Багуславам Радзівіламі ўзяла ў аблогу Магілёў. Полк Паклонскага выйшаў за гарадзкую браму нібыта для таго, каб пайсьці ў бой, але нечакана ён і яго казакі далучыліся да літоўскага войска. За пераход Паклонскага на літоўскі бок Радзівіл пацьвердзіў яго тытул «беларускага палкоўніка» і загадаў яму абараняць цэнтральную частку краіны. Тое, як Паклонскі апраўдваў сваё «вяртаньне да Радзімы», можа стацца цікавай крыніцай для рэканструкцыі поглядаў русінскай шляхты на маскоўскую палітыку. У сваім звароце да магілёўскіх купцоў, праваслаўнага духавенства і расейскіх ваяводаў Паклонскі згадваў наступныя прычыны. Па-першае, ён убачыў, што замест абяцанай свабоды праваслаўнае насельніцтва атрымала «лупеньне дамоў божых, катаваньне жонак і дачок, як у часы татарскай няволі». Па-другое, замест абяцаных падарункаў і пасад шмат хто зь беларускіх шляхціцаў атрымаў высылку ў Сібір (Табольск) і Калмыкію[831]. Праваслаўнае ж духавенства Беларусі трапіла ў рабства да расейскіх ярархаў[832].

[827] Пануцэвіч, Вацлаў. Сьвяты Язафат, архіепіскап полацкі. Полацк, 2000. С. 160—161.

[828] Мальцев. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 155—157.

[829] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 32.

[830] Тамсама. С. 31—32.

[831] Пра высылку літоўска-рускай шляхты ў Сібір гл.: Лешчанка, Рыгор. Беларусы-перасяленцы ў Сібіры (канец XVI — XVII стст.) // Весці АН БССР. Мінск, 1982. № 5. С. 79—89; Никитин, Николай. Тобольская «Литва» в XVII веке // Город и горожане России в XVII — первой половине XIX в. Москва, 1991. С. 54—69; Резун, Дмитрий. «Литва» Кузнецкого острога // Казаки Урала и Сибири в XVII—XX вв. Екатеринбург, 1993. С. 41—51.

[832] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 37.

На падуладных Расеі землях праваслаўе абвяшчалася адзінай непарушнай верай. Цар ясна паказаў, што ня будзе трываць уніятаў, каталікоў, пратэстантаў ці юдэяў і што толькі праваслаўныя могуць лічыцца вернымі расейскімі падданымі[833]. Цар аднавіў даўнейшыя правы праваслаўных русінаў, скасаваныя падчас каталіцкай контррэфармацыі. Аднак, хоць да рыма-каталіцкай царквы расейская ўлада ставілася адносна талерантна (прынамсі на захад ад Бярэзіны), уніяцкая царква апынулася па-за законам[834]. Патрыярх Нікан зачыняў уніяцкія цэрквы і перадаваў іх храмы праваслаўным прыходам. Апроч гэтага, новая ўлада заахвочвала неправаслаўную шляхту пераходзіць у праваслаўе. Шляхту, якая прымала «старадаўнюю праўдзівую хрысьціянскую веру», надзялялі пасадамі і маёнткамі. Нованавернутым таксама не пагражала высылка ў Сібір[835].

Патрыярх Нікан імкнуўся надаць вайне Расеі з ВКЛ рэлігійны зьмест. У сваіх граматах ён падаваў яе як вайну супраць уніятаў. На месца ўніяцкага архібіскупа смаленскага (Андрэя Квасінскага-Злотага) Нікан паставіў праваслаўнага япіскапа Філарэта — былога япіскапа суздальскага. У выніку Злоты ўцёк у Пінск, дзе сталі літоўскія атрады на чале з Сапегам. Так выключаная з 1618 г. з складу Маскоўскага патрыярхату Смаленская япархія, якую акаталічвалі польскія ўлады, вярнулася пад расейскую юрысдыкцыю. У канцы 1655 г. уніяцкі біскуп літоўскі Габрыель Календа перайшоў на бок швэдаў. Уніяцкі архімандрыт амсьціслаўскі Павал Корсак уцёк у Прусію, дзе таксама прысягнуў Швэцыі[836]. Расейскі ваявода віленскі Шахаўской атрымаў загад вывезьці мошчы заснавальніка ўніяцкай царквы Іосіфа Вельяміна Руцкага (памёр у 1637 г.) у Расею. Зразумела, што такія парадкі выклікалі рост антымаскоўскіх настрояў сярод уніяцкага духавенства, мяшчан і сялян.

Пасьля сьмерці ў 1653 г. мітрапаліта Язэпа Гарбацкага праваслаўная царква на Беларусі засталася без уладыкі, бо кароль Польшчы не прызначыў новага япіскапа. 13 сакавіка 1656 г. Масква паставіла новым япіскапам-адміністратарам полацкім Калікста Рытарайскага. Гэта быў першы крок па здавальненьні пажаданьняў беларускага насельніцтва. Новы галава беларускай праваслаўнай царквы паходзіў не з Расеі, а з ВКЛ. Выконваючы загады Нікана, Рытарайскі распачаў актыўную кампанію супраць каталікоў. Уніяцкаму духавенству ён прад'явіў ультыматум: прыняць праваслаўе або пакінуць занятыя Расеяй землі. У той жа час на Беларусь пачалі масава прыяжджаць сьвятары з Расеі[837]. З праваслаўных прыходаў адныя захоўвалі вернасьць Расеі, а іншыя падтрымлівалі Швэцыю ці Украі-

[833] Pendzich, Barbara. The burghers of the Grand Duchy of Lithuania during the war of 1654—1667: resiliency and cohesion in the face of Muscovite annexation. Неапублікаваная доктарская дысэртацыя. Georgetown University, 1998.

[834] Мальцев. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 94.

[835] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 28—29.

[836] Тамсама. С. 46.

[837] Тамсама. С. 73.

ну. Так, архімандрыт слуцкі Феадосій Васілевіч перайшоў на бок Швэцыі[838]. Вяршэнства маскоўскай царквы адмоўна адбілася на некалі талерантных дачыненьнях паміж праваслаўнымі і каталікамі. Так, каталіцкая шляхта Ашмяншчыны скардзілася, што япіскап Рытарайскі закрыў каталіцкі касьцёл у Вальбаровічах і выслаў ксяндзоў невядома куды[839].

У 1657 г. за посьпехі ў навяртаньні ўніятаў Нікан падвысіў Рытарайскага да годнасьці арцыбіскупа беларускага. Тут Нікан перайшоў межы сваёй юрысдыкцыі, што выклікала канфлікт з Кіевам. Мітрапаліт кіеўскі Сыльвэстар Косаў, выказваючы Нікану свой пратэст, заручыўся падтрымкай патрыярха канстантынопальскага[840]. Працягваючы ламаць гістарычныя традыцыі, Нікан упарта ціснуў на беларускіх сьвятароў[841]. Праваслаўны шляхціц з Амсьціслава Ян Аляшкевіч гэтак рэагаваў на палітыку маскоўскай царквы:

*Тое, што маскоўскі патрыярх Нікан прымушае літоўскіх праваслаўных сьвятароў клясьціся яму ў вернасьці і праз гэта адракацца ад сьвятога канстантынопальскага патрыярха, вельмі засмучае нас, рускую шляхту. Мы ж дзеля таго адмаўляліся ад уніі з каталіцкім касьцёлам, што хацелі захаваць вернасьць нашаму патрыярху ў Канстантынопалі, спасланаму нам Госпадам*[842].

Галоўным апалягетам царскай палітыкі ў ВКЛ стаў праваслаўны пісьменьнік Сімяон Полацкі. Дзеля прыезду цара ў Полацак ён напісаў шэраг вершаваных дэклямацыяў, у якіх ўслаўляў Аляксея Міхайлавіча як вялікага князя літоўскага. Сімяон Полацкі сьцьвярджаў, што Аляксей Міхайлавіч ужо абраны вялікім князем, і называў расейскага манарха таксама «царом Літвы». Цару наканавана перамагчы ўсіх ворагаў і здушыць бязьверных пратэстантаў ды каталікоў. Сімяон Полацкі лічыў заваёву рускіх земляў ВКЛ справядлівым і гістарычна абгрунтаваным крокам, каб вызваліць усё праваслаўнае насельніцтва з-пад улады польскага караля і перадаць яго пад апеку праваслаўнага манарха. Сімяон Полацкі прарочыў, што ўсьлед за тытулам вялікага князя літоўскага Аляксей Міхайлавіч здабудзе таксама тытулы караля польскага і швэдзкага. Ён выношваў ідэю рэлігійнай вайны зь «ерэтычнай Швэцыяй», вайны, якая паказала б усяму сьвету веліч праваслаўя[843].

Вялікую трывогу ў літоўскай шляхты на захопленых Расеяй абсягах выклікаў лёс ейных уладаньняў. Ваяводы паведамлялі цару, што мясцовая шляхта гатова служыць яму, каб ня страціць сваіх маёнткаў[844]. Каб тая менш спачувала швэдам,

[838] Соловьев. История России. Том 10. С. 613.

[839] Мальцев. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 160.

[840] Mironowicz. Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. P. 154—158.

[841] Пануцэвіч. Святы Язафат, архіепіскап полацкі. С. 163.

[842] Соловьев. История России. Том 10. С. 612.

[843] Полоцкий. Вирши. С. 39—41.

[844] Мялешка. Грамадзянская вайна на Беларусі. С. 142.

цар загадаў правесьці перапіс шляхецкіх уладаньняў, што знаходзіліся паблізу ад занятых Швэцыяй тэрыторыяў. Уладаньні шляхціцаў, якія прысягнулі на вернасьць Карлу X Густаву, канфіскоўваліся і паступалі ў адмысловы дзяржаўны фонд[845]. Некаторыя з гэтых маёнткаў цар потым аддаваў сваім прыхільнікам. Праўда, падарункі атрымалі толькі некалькі шляхціцаў. Напрыклад, у красавіку 1656 г. цар падарыў мястэчка Мікулічы праваслаўнаму князю Самуэлю Агінскаму[846]. Некаторыя ўладаньні перайшлі ва ўласнасьць праваслаўнай царквы. Нежаданьне цара раздаваць канфіскаваныя землі ўстрывожыла шляхту. Атмасфэра няпэўнасьці спараджала недавер паміж шляхтай і новымі расейскімі ўладамі. У 1657 г. магчымасьць абраньня цара на польскі трон прымусіла шляхту Полаччыны і Віцебшчыны выступіць супраць маскавітаў. Яна была не задаволеная новымі ўраднікамі, якія парушалі правы шляхты, забіралі ў палон сялян, бралі хабар і не шанавалі царскага ўказу не рабаваць беларускай шляхты[847].

Яшчэ адной праблемай для Расеі сталася Слуцкае княства — анкляў пад швэдзкай пратэкцыяй пасярод занятых Расеяй земляў. Моцная слуцкая залога ня толькі кантралявала горад з прадмесьцямі, але і рабіла спусташальныя рэйды на Менск. Расейцы бачылі ў іх варожыя дзеі швэдаў, хоць ніводнага швэдзкага жаўнера ў Слуцку не было. Слуцкая залога падрывала кантроль Расеі над цэнтральнымі паветамі і ўскладняла пастаўкі правізіі расейскаму войску. Менскі ваявода Фёдар Арсеньнеў быў пэўны, што «швэды» неўзабаве пойдуць на Менск. Ён прасіў цара даслаць яму падмацаваньне, «каб абараніцца ад наступу швэдаў»[848]. Аднак царскае войска змагалася з швэдамі ў Лівоніі. Такім чынам, становішча Расеі ў цэнтры ВКЛ было хісткае. Таму цар загадаў даслаць супраць «швэдзкага Слуцку» шляхецкае паспалітае рушэньне з Барысаўшчыны[849]. Так узгарэўся новы грамадзянскі канфлікт.

Масавае прымусовае перасяленьне кваліфікаваных рамесьнікаў і шляхты ў Расею спарадзіла няпрыязь да маскавітаў. У 1655 г. у Маскве зьявіліся два прадмесьці да 2000 двароў, населеныя палоннымі з ВКЛ[850]. Царская ўлада ня мела яснай палітыкі наконт захопу палонных: раз-пораз цар забараняў маскоўскаму войску браць палонных, але потым не зважаў на свае ж забароны. Таму шмат хто з ваяводаў незаконна вывозіў мясцовых сялян у свае прыватныя сядзібы ў Расеі. Нікога зь іх за гэта не пакаралі, нават пасьля скаргаў мясцовай шляхты[851]. Усё гэта стварала атмасфэру анархіі. Пуфэндорф, параўноўваючы палітычную струк-

845 BA. No. 121, 130, 138.

846 Мальцев. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 142—143, 146.

847 Тамсама. С. 149—151.

848 BA. No. 120, 122.

849 BEF. No. 106.

850 Грыцкевіч, Валянцін. Беларуска-рускія перасяленні ў XIV—XVIII ст. // Спадчына. Мінск, 1993. № 3. С. 31—38.

851 Мальцев. Россия и Белоруссия в середине XVII века. С. 186—189.

туру на землях, занятых Швэцыяй і Расеяй, адзначыў, што галоўнай перашкодай для дзейснасьці швэдзкай улады была шляхецкая вольнасьць, бо «літвіны не маглі спалучаць свабоду з пакорай і ў выніку ўзьнялі паўстаньне». Расея, наадварот, «прыйшла зь мячом і разбурала ўсё на сваім шляху, забясьпечыўшы сабе трывалае панаваньне»[852]. Аднак улада Расеі таксама залежала ад ляяльнасьці шляхты. Безь яе падтрымкі Расея не магла кантраляваць акупаваныя землі.

У канцы 1654 г. Крэмль заснаваў новыя ўрадавыя ўстановы, каб кіраваць захопленымі тэрыторыямі, — прыказ Вялікага княства Літоўскага і Смаленскі прыказ[853]. Наогул у той час вырасла колькасьць так званых «земскіх прыказаў», на якіх ляжала кіраваньне новымі абшарамі, — напрыклад, Казанскі прыказ або Сібірскі прыказ. Новастворыны Смаленскі прыказ распачаў вельмі выгадны гандаль з Рыгай[854]. Падчас вайны Расея заснавала гандлёвую палату ў Касплі, якая вяла справы з Рыгай. Інтарэсы царскай улады прасоўвалі і беларускія купцы ды шляхта. Аўтарам гэтай ідэі быў Ардын-Нашчокін. Калі пачалася расейска-швэдзкая вайна, гэты выгадны гандаль занепаў. Аднак ён хутка адрадзіўся пасьля Валіясарскага перамір'я 1658 г. Такім чынам, у гандлі з Рыгай Расея замяніла Літву. Задума Крамля стварыць уласны балтыйскі флёт шмат гаворыць пра маштабы гэтага гандлю. У 1662 г., пасьля заключэньня міру з Швэцыяй, Расея, якая па-ранейшаму трымала пад сваёй уладай Беларусь і Лівонію, прасіла Курляндзкае герцагства дапамагчы ёй у пабудове гандлёвага флёту[855]. Панаваньне над Беларусьсю, такім чынам, адпавядала расейскім эканамічным інтарэсам.

Аднак Расеі бракавала інфармацыі аб швэдзкай палітыцы. Маскоўскі гісторык Алена Кобзарава мяркуе, што крамлёўскія валадары часта дзейнічалі на аснове супярэчлівай, няпоўнай, а часам і недакладнай інфармацыі, якую яны атрымлівалі ад літоўскай шляхты, з пашыраных чутак, перакладаў з замежных газэт, а таксама ад архангельскіх купцоў[856]. Сярод іншага замінаў зносінам паміж новымі ўладамі ды мясцовым русінскім насельніцтвам і шматнацыянальны склад расейскага войска. Напрыклад, менская залога цалкам складалася з татараў і мардвінаў, якія не размаўлялі ні на адной з славянскіх моваў[857]. Працяглая акупацыя ВКЛ і падрыхтоўка да вайны з Швэцыяй падрывалі расейскую фінансавую сыстэму. У канцы 1655 г. Расеі давялося правесьці грашовую рэформу, у ходзе якой у абарачэньне ўпершыню ўвялі медныя манэты замест срэбных. Расейскае войска ў ВКЛ расплочвалася медзьдзю. Мясцовыя жыхары абураліся, дасылалі мноства скаргаў

[852] Pufendorf. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. Vol. 3. P. 190.

[853] Приказ ВКЛ — RGADA. Фонд 144; Смоленский приказ — RGADA. Фонд 145.

[854] Дорошенко. Торговля и купечество Риги. С. 46.

[855] Тамсама. С. 273—274.

[856] Kobzareva, Elena. 2000. Documents from Russian State Archives of old acts on the conflict between Sweden and Russia in the 5th decade of the 17th century // Русская и украинская дипломатия в Евразии. Москва, 2000. С. 74—75.

[857] ВА. No. 126.

у Маскву і прасілі ў цара дазволу не прымаць ад стральцоў мядзяныя грошы[858]. Вышэйшая судовая ўлада цяпер месьцілася далёка ў Маскве, што ўскладніла разбор спрэчак.

Падчас перамоваў паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай у Нямежы літоўская шляхта пачала вяртацца ў свае маёнткі на захопленых Расеяй землях. Пасьля паўстаньня ў Жамойці шмат пратэстанцкай шляхты таксама зьехала адтуль у расейскую Літву. Ян Цадроўскі, пратэстант зь Менску, адзначаў: «У красавіку 1656 г. пачала Жмудзь узнімаць голас супраць швэдаў, а таму я разам з жонкай і дзеткамі сваімі выехаў з Жмудзі дадому і прыехаў 28 траўня, і ледзь толькі прыехаў, пачаў араць пад яравыя і гароды»[859]. Як мы бачым, расейцы не канфіскавалі маёнтак Цадроўскага. У чэрвені 1656 г. акурат перад пачаткам вайны з Швэцыяй, Цадроўскага як пасла ад Менскага ваяводзтва прыняў у Друі цар. Цадроўскі быў усьцешаны, што цар пайшоў насустрач усім просьбам менскай шляхты. Зь іншага прашэньня цару паўстае тыповы партрэт тых, хто падтрымліваў маскавітаў. Крыштап Уняхоўскі пісаў, што служыў літоўскім палкоўнікам, аднак «излюбя православную христианскую веру, выехал з женишкойю и з детишками служить тебе, Государь, верою и правдою». Ва ўзнагароду ён атрымаў пасаду харунжага менскага. Уняхоўскі інспэктаваў шляхту і склаў сьпіс тых, хто служыў швэдам. У чэрвені 1656 г. з Масквы ў Варшаву выехаў пасол Яна Казімера маршалак аршанскі Пётар Галімскі. Па дарозе ён склікаў соймік менскай шляхты і на ім абвясьціў Уняхоўскага здраднікам ды загадаў шляхце абраць новага харунжага. Тады Ўняхоўскі паскардзіўся цару, што менская шляхта «зьняважыла і абняславіла мяне, твайго халопа». Расейская ўлада зрабіла ўсё, каб абараніць вернага ёй шляхціца[860].

21 ліпеня 1656 г. дваццаць прадстаўнікоў менскай шляхты склалі прашэньне цару. Зьвяртаючыся да яго як да самадзержца Белай Русі, яны скардзіліся на пастаўленага Масквой ваяводу. Той парушыў іх спрадвечныя прывілеі і змушаў да працы на будоўлі. Да цара, які ў той час вёў швэдзкую кампанію, накіравалі трох паслоў, усіх некаталіцкай веры: праваслаўнага Юр'я Статкевіча і кальвіністаў Яраша Мацкевіча ды Яна Цадроўскага. Цар, якому была неабходная палітычная і ваенная падтрымка літоўскай шляхты, задаволіў усе патрабаваньні[861]. Ён загадаў менскаму ваяводу раздаць мясцовай шляхце ўсе землі, што належалі прыхільнікам швэдаў[862].

Літоўская шляхта дрэнна ставілася да ўкраінскіх казакоў. У лістах цару яна скардзілася, што «чаркасы прымушаюць нас ісьці ў казакі і праз гэта здрадзіць ягонай царскай міласьці». Канфлікт паміж украінскімі і беларускімі казакамі, а

858 ВА. No. 133.

859 Помнікі мемуарнай літаратуры. С. 128—129.

860 ВА. No. 129.

861 Тамсама. №№ 130, 131. / ВА. No. 130, 131.

862 Dwa pamiętniki z XVII wieku. Jana Cedrowskiego i Jana Floriana Drobysza Tuszynskiego. Ed. Adam Przyboś. Kraków, 1954. P. 11—12.

таксама мясцовай шляхтай выліўся ў адкрытую вайну. Цар паслаў у Менскае ваяводзтва харугвы паспалітага рушэньня, каб утаймаваць казацкага палкоўніка Дзяніса Мурашку[863]. Увесну 1657 г. у цэнтральных паветах княства ўзгарэлася грамадзянская вайна паміж атрадамі шляхты, якія стаялі за цара і за казакоў[864]. Расейскія ўлады не маглі абараніць маёнткі шляхты ад казацкіх набегаў. У выніку шляхта пачала горш ставіцца да Расеі, а ў расейска-ўкраінскіх дыпляматычных стасунках узьнікла напруга. Так Расея сталася закладніцай уласнай палітыкі. У час кампаній 1654 і 1655 гг. расейскае войска спустошыла шэраг паветаў. Шмат сялян уцяклі ў лес. Мяшчане ці зьехалі за мяжу, ці рассыпаліся па навакольлі. Гандаль беларускіх купцоў з расейскімі гарадамі спыніўся, і расейскія залогі адчулі нястачу правізіі[865]. У дадатак у 1657 г. пачалася эпідэмія чумы. У выніку нават ляяльныя Маскве групоўкі зразумелі небясьпеку расейскага панаваньня. Біскуп беларускі Калікст скардзіўся ваяводу Івану Хаванскаму, што яго набегі дазваньня спустошылі Полацкае ваяводзтва і спынілі жыцьцёва неабходны гандаль з Балтыкай[866]. А ваяводу Шахаўскому давялося абяцаць гараджанам выгады і палёгкі, калі яны пагодзяцца вярнуцца ў разрабаваную Вільню[867].

### 4.2.1. Перамовы паміж Расеяй і літоўскай шляхтай

Кейданская унія сур'ёзна перашкаджала Расеі зьдзейсьніць свой плян — заваладаць ВКЛ. Таму адразу пасьля падпісаньня жнівеньскай Кейданскай дэкляарацыі да Януша Радзівіла зьявіўся расейскі пасол Васіль Ліхараў. Ён прапанаваў гетману прыняць уладу Масквы наўзамен захаваньня яго пасад і маёнткаў ды гарантыі рэлігійных свабод[868]. Аднак Радзівіл моцна ўсумніўся, што Масква сапраўды дасьць рэлігійную свабоду. Ён нагадаў, што нават беларускіх праваслаўных прымушалі прымаць паўторны хрост і што маскавіты разбурылі каталіцкі катэдральны касьцёл у Смаленску. Як кальвініста, Радзівіла турбавала перадусім нецерантнасьць Расеі ў справе веравызнаньня. Што да службы цару, ён дадаў: «Я ніколі ня быў халопам раней, ня буду і цяпер»[869].

Першым практычным крокам Расеі да нэўтралізацыі Кейданскай уніі стаўся царскі загад ваяводу Сямёну Урусаву ад 29 кастрычніка 1655 г. скласьці сьпіс літоўскай шляхты, якая прызнавала цара новым вялікім князем літоўскім. У выніку ў лістападзе 1655 г. зьявілася «Крыжапрыводная кніга шляхты ВКЛ». У ёй у

863 BEF. No. 114.

864 Мялешка. Грамадзянская вайна на Беларусі. С. 135—154.

865 Разгорский, Алексей. Материалы таможенных книг 1649/50—1679/80 гг. о торговых операциях белорусских купцов в Вязьме // Белорусский зборник. Ст-Петербург, 2002. Том 2. С. 161.

866 Сагановіч. Невядомая вайна. С. 71.

867 Тамсама.

868 Тамсама.

869 Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 27—30.

вернасьці цару пакляліся 2058 шляхціцаў і сьвятароў[870]. Масковіі прысягнула больш шляхты, чым падпісалася пад Кейданскай уніяй. Апроч таго, Расею падтрымала значна больш паветаў (12 паветаў плюс прадстаўнікі ад 5 паветаў) у параўнаньні з Кейданскай уніяй (5 паветаў плюс прадстаўнікі ад 7 паветаў).

Шляхта прызнавала цара сваім вялікім князем і абяцала «навекі быць пад гасударавай рукой». Наўзамен цар абяцаў вечнае захаваньне свабод, нададзеных польскімі каралямі. Апроч гэтага, тым, хто прысягнуў цару, абяцалі пасады і зямельныя ўладаньні[871]. Ураднікі захоўвалі свае ранейшыя пасады і да таго ж атрымлівалі шанец узвысіцца на службе расейскім уладам. Праўда, адміністрацыйныя сыстэмы абсалютысцкай Расеі і дэмакратычнай Рэчы Паспалітай значна адрозьніваліся. Нават пры вонкавым супадзеньні назваў пасад яны маглі мець розную сутнасьць. Расейскія пісары не разумелі сыстэмы службовых пасад Літвы і таму часта блыталіся ў ёй. Некаторым шляхціцам у паперах прыпісалі расейскія вайсковыя пасады. Напрыклад, падкаморы лідзкі Якуб Кунцэвіч стаў маршалкам адначасова трох паветаў — Лідзкага, Гарадзенскага і Наваградзкага. Больш важным для шляхты было тое, што па прынясеньні прысягі яна магла карыстацца ўласнымі землямі. Пры гэтым каталіцкую шляхту не перасьледавалі: расейскія ўлады хацелі заваяваць як мага больш прыхільнікаў, таму прысягнуць цару дазволілі ня толькі праваслаўным, але і каталіцкім сьвятарам.

Тым ня менш, гэты дакумэнт так і не канкрэтызаваў найбольш істотнай рэчы — будучага статусу ВКЛ. Аналіз складу тых, хто падпісаўся ў «Крыжапрыводнай кнізе», паказвае, што пераважна гэта была дробная шляхта, вымушаная прыняць панаваньне Расеі. Як ні шчыравалі расейскія ўлады, але акт не займеў шырокай палітычнай падтрымкі. Пры тым што Расея акупавала большую частку Літвы, акт падпісалі толькі тры сэнатары — ваявода троцкі, каталіцкі магнат Мікалай Пац, кашталян наваградзкі, праваслаўны магнат Самуэль Статкевіч, а таксама ваявода наваградзкі, праваслаўны магнат Пётар Вяжэвіч, які аднак даручыў падпісаць дакумэнт ад свайго імя[872]. Зь іншых дзяржаўных ураднікаў вернасьць цару засьведчылі толькі трое — падкаморы літоўскі Фэлікс Пац (ён таксама падпісаў пагадненьне з Швэцыяй), лоўчы літоўскі Мікалай Далмат-Ісайкоўскі і чашнік літоўскі Яўстах Валовіч. У «Крыжапрыводнай кнізе» падпісалася вельмі мала павятовых ураднікаў. Напрыклад, ад Менскага ваяводзтва на вернасьць цару прысягнуў толькі Крыштап Валадковіч (ён паходзіў з праваслаўна-пратэстанцкага роду). Як адзначаў Васілеўскі, у «Кнізе» амаль не прадстаўленая шляхта, якая служыла ў Радзівіла і затым уцякла на занятыя швэдамі землі[873]. Такім чынам, Расеі не ўдалося знайсьці падтрымку значнай часткі ўраднікаў, большасьць зь якіх захавалі вернасьць Польшчы ці перайшлі на бок Швэцыі.

[870] KKVKL.

[871] Тамсама. С. 51—52.

[872] Тамсама. F. 162v, 163v, 154v.

[873] Wasilewski, Tadeusz. Wstęp. 1999; KKVKL. P. 9—15.

Калі Швэцыя лічыла працэс заключэньня Кейданскай уніі незавершаным і ніколі не вяла перамоў з дробнай шляхтай, Расея трымалася іншай палітычнай стратэгіі. Яна дамаўлялася з усімі зацікаўленымі і даручала найвышэйшыя пасады такім дробным шляхціцам, як Паклонскі. Для Масковіі мела значэньне сіла, а ня права. Карл X Густаў вагаўся, ці прымаць тытул вялікага князя літоўскага, хоць яго і надавала яму значная частка літоўскай эліты. Кароль Швэцыі чакаў палітычнага вырашэньня пытаньня пра статус Літвы ў будучых перамовах з Расеяй і Польшчай. Цар Аляксей Міхайлавіч, наадварот, па ўзяцьці Вільні самавольна абвясьціў сябе вялікім князем і адразу пачаў дыпляматычную вайну за права на гэты тытул з Швэцыяй і Польшчай. Канфлікт паміж Масквой і Стакгольмам абвастрала тое, што Расея, згодна з «Крыжапрыводнай кнігай», брала пад сваю апеку шляхту і з паветаў, падуладных Швэцыі, — з Жамойці, Падляшша, Ковеншчыны і Браслаўшчыны.

У дасягненьні пагадненьня з Швэцыяй ключавую ролю адыгрывалі літоўскія пратэстанты. Расея, у сваю чаргу, карысталася падтрымкай значнай часткі праваслаўнай шляхты. Так, цару прысягнулі 22 прадстаўнікі праваслаўнага роду Статкевічаў на чале з сэнатарам Самуэлем Статкевічам. Галава іншага праваслаўнага магнацкага роду князь Ян Агінскі таксама пакляўся ў вернасьці цару[874]. Тое, што ён быў адзіным прадстаўніком роду Агінскіх, які апынуўся ў вышэйзгаданай кнізе, лёгка растлумачыць: большасьць Агінскіх склалі прысягу непасрэдна самому цару ў Вільні.

Шмат подпісаў у кнізе належаць прадстаўнікам беларускай праваслаўнай шляхты. Напрыклад, ад Аршанскага павету падпісаліся: ротмістар аршанскі Філон Буткевіч, Канстанцін Пятух, Аляксандар Пратасовіч, Багдан Прысошынскі, Астах Славокавіч, Багдан Шчатрава, Васіль Углін, Ян Вопсавіч, Васіль Варатынец, Восіп Васкоўскі і пані Настасься Жычка; ад Полацкага павету — Іван Кісарэўскі, Нікадзім Корсак, Міхал Мірскі, Мікалай Рагоза і князь Яраслаў Друцкі-Сакалінскі[875]; ад Амсьціслаўскага павету — Васіль Кушэльскі, Аляксей Судзілоўскі, Багдан і Фёдар Ваўкі, Трафім Заборскі. Праваслаўная шляхта зь іншых паветаў таксама падпісала гэты акт, у тым ліку стольнік троцкі Ян Быхавец, які перад тым падпісаў Кейданскую дамову і якога Радзівіл лічыў адным з найбольш надзейных прыхільнікаў Швэцыі. Прысутнічаюць таксама імёны князя Дзьмітрыя Палубінскага і Юрыя Косава зь Віцебшчыны[876]. Сярод іншых праваслаўных шляхціцаў, якія склалі прысягу, былі Астафій Косаў, Іван Храптовіч, Павал Валовіч, Міраслаў Рагоза, Іван Амета, Пётар Саланіна, Іван Зямля і Апанас Пашкоўскі. У сьпісе апынуўся нават пратэстанцкі рускі род Алендзкіх. Акт таксама ўключаў подпісы шляхціцаў-лютэран Стэфана Тызенгаўза і Вальтэра Корфа — сына сэнатара Мікалая Корфа, які падпісаў Кейданскую унію. Гэта сьведчыць, што ў выра-

[874] Маскоўскія пісары занатавалі яго прозьвішча як «Агинской». KKVKL. F. 96.

[875] Яго брат Самуэль Друцкі-Сакалінскі першым зь літоўскай шляхты з уласнай волі прысягнуў цару.

[876] Братам Юрыя Косава быў Сыльвэстар Косаў, праваслаўны мітрапаліт кіеўскі.

шальныя месяцы 1655 г. шляхта ВКЛ перайшла ад Швэцыі да Масковіі. Было б памылкай лічыць, што на бок Расеі пераходзіла толькі праваслаўная шляхта. Найбуйнейшая канфэсійная група — каталікі — складалі большасьць сярод тых, хто падпісаўся пад актамі як аб расейскім, так і аб швэдзкім панаваньні. Тым ня менш, абвінавачаньні ў прыналежнасьці да «здрадніцкай маскальскай веры» пазьней увайшлі ў польскі палітычны лексыкон[877].

Расея працягвала перамовы з рознымі групоўкамі літоўскіх магнатаў на не занятых швэдамі землях. Захапіўшы Вільню, цар выдаў грамату, у якой заклікаў літоўскую шляхту і духавенства прыняць маскоўскае падданства:

*А естли они похотят тишины і покою, и они б, бискуп і гетманы, и все рыцарство и посполъство прислали бити челом к нам Великому Государю, чтобы мы Великий Государь пожаловали их нашим государством, милостивым жалованьем и велели им быти со всем княжеством Литовским под нашею государскаю высоваю рукою навеки неотступными… А естли они не исправятца и к нам …бити челом… не пришлют, и какое разоренье им учинится, и то будет самим от себя*[878].

Царскі заклік не застаўся без адказу. У кастрычніку—лістападзе 1655 г. адбыліся перамовы паміж Расеяй і ашмянскай шляхтай. Шляхецкае пасольства ўзначалілі два русіны-пратэстанты — староста ашмянскі Адам Саковіч і Пётар Роля. Каб яшчэ больш даказаць сваю вернасьць цару, яны падалі дакумэнты, напісаныя кірыліцай на рускай мове. Каб надаць большую вагу сваёй місіі, шляхціцы падкрэсьлілі важнасьць перамоваў для іншых паветаў Літвы, «якія ўсе на нас пазіраюць». У звароце да цара сьцьвярджалася, што Аляксей Міхайлавіч, «всех государств царевич, государь и наследник, литву, славный народ и Великое княжество Литовское, прежде никогда не извоеваное, под сваю сильную, великую и великовладетельную руку подбил и стольное место Вильна и многия городы поимал». Аднак «затем некаторая часть людей и народу нашего ужо по взятии Литвы непристойно под оборону Королевства Свейского подалася»: «княства Жмудзкае і паветы Вількамірскі і Ўпіцкі, зь некаторымі сэнатарамі, з гетманам Радзівілам на чале перадаліся пад уладу швэдзкага караля»[879]. Руская шляхта адзначала заганы швэдзкай улады і падкрэсьлівала, што яны, русіны, «маючы іншую мову і звычаі, чым той народ [жамойты], хочуць гаварыць пра добрую справу зь вялікімі баярамі цара».

Сьведчаньні аб падобных перамовах цікавыя перш за ўсё тым, што яны раскрываюць погляды шляхты на будучыню ВКЛ у межах Расейскай дзяржавы. Па-

877 Kulecki, Michał. Wygnańcy ze Wschodu. Egzulanci w Rzeczypospolitej w ostatnich latach panowania Jana Kazimierza i za panowania Michała Korybuta Wiśniowieckiego. Warszawa, 1997. P. 193.

878 Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 20.

879 Тамсама. С. 80—84.

першае, шляхта марыла пра раўнапраўны хаўрус, які б грунтаваўся на прынцыпах літоўска-польскай фэдэрацыі: «И како преже сего с Корунаю Польскаю было, так бы ныне и с Московским государством», і «чтобы народ Литовский с народом Московского государства во всем был сровнян». Магчымай сталіцай новай фэдэрацыі называўся Смаленск. У перапынках паміж соймікамі чатыры магнаты і чатыры шляхціцы, набліжаныя да цара, меліся сядзець у баярскай Думе. Даўнейшыя літоўскія землі Ўкраіны і Валынь, «забраныя палякамі», належала вярнуць Літве. Цар мусіў захаваць соймікі, незалежную літоўскую судовую сыстэму і заканадаўства. Паслы абяцалі, што ВКЛ разам з Маскоўскай дзяржавай будзе змагацца супраць Польшчы. Аднак літоўскае войска не павінна было ўдзельнічаць у замежных кампаніях. Цар меўся гарантаваць рэлігійную свабоду неправаслаўным канфэсіям. Шляхта прасіла цара не дасылаць яе служыць у далёкую Сібір, бо такая служба надта нагадвала высылку[880].

Умовы, прапанаваныя цару шляхтай ВКЛ, былі вельмі блізкія да прынцыпаў, што ляжалі ў аснове Кейданскай уніі. Гэта і натуральна, бо ў кожным разе літвіны імкнуліся захаваць уласную палітычную сыстэму. Маскоўскія ўлады пагадзіліся практычна на ўсе ўмовы, таму што яны ўсё роўна не адыгрывалі ніякай ролі ва ўмовах абсалютнай манархіі. Толькі прапановы наконт канфэсійнай роўнасьці былі істотна зьменены ці адхілены. Дзейнасьць рыма-каталіцкай і пратэстанцай цэркваў дазвалялася, але толькі на захадзе краіны. Уніяцкая царква цалкам скасоўвалася. Усе землі на ўсход ад Бярэзіны мусілі зрабіцца выключна праваслаўнымі. Відаць, расейскія валадары лічылі Бярэзіну натуральнай мяжой, якая аддзяляла Беларусь ад іншых тэрыторый Літвы. Беларусь мусіла стаць неад'емнай часткай Маскоўскай дзяржавы.

У адказ на прапановы ашмянскай шляхты ваявода Сямён Урусаў падзякаваў ёй за адмову пайсьці на службу да швэдаў і імкненьне служыць цару. Аднак, калі шляхта папрасіла дазволу атакаваць швэдзкія атрады, Урусаў адмовіў, бо Расея і Швэцыя неўзабаве меліся заключыць пагадненьне пра падзел ВКЛ. Урэшце ў лістападзе 1655 г. Адам Саковіч як ачольнік ашмянскай шляхты прыняў прысягу цару. Цар прыняў амаль усе вылучаныя патрабаваньні, але зразумеў ён іх пасвойму. Напрыклад, на просьбу шляхты дазволіць склікаць соймікі цар адказаў, што ён ня супраць, аднак прызначаць іх можна толькі зь яго дазволу. Што да просьбы зацьвердзіць пастаянных прадстаўнікоў шляхты пры Крамлі, цар адказаў, што ў гэтым няма патрэбы, маўляў, шляхта можа прыяжджаць у Маскву з сваімі прашэньнямі ў любы час, калі захоча. Сэнатарам, аднак, былі паабяцаныя месцы ў баярскай Думе[881].

6 сьнежня 1655 г. Сямён Урусаў і Якуб Кунцэвіч падпісалі адмысловае пагадненьне. Расея прымала большасьць умоў літоўскай шляхты, у тым ліку наконт захаваньня правоў на маёнткі, незалежнага суду і рэлігійных свабод. Расея абяца-

[880] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 80—84.
[881] Тамсама. С. 80—102.

ла таксама абараняць сваіх новых падданых ад Швэцыі. На просьбу вызваліць усе акупаваныя Швэцыяй паветы, «якія належалі княству ад часоў нашых дзядоў», Урусаў адказаў, што цар рыхтуецца да чарговай кампаніі і, калі будзе гатовы, папросіць верных яму літвінаў далучыцца да яго арміі. Такім чынам, у сьнежні 1655 г. Расея ўжо разглядала магчымасьць вайны з Швэцыяй. Аднак некаторыя пытаньні Масковія пакінула без адказу. Яны датычыліся скліканьня сойму, права на свабодны выбар вялікага князя, вызваленьня вязьняў з расейскага палону і гарантый «спрадвечных правоў для літоўскіх татар і габрэяў»[882]. З наступнага прыкладу відаць, што з Маскоўскай дзяржавай супрацоўнічала шмат літоўскай шляхты. У 1655 г. віцебскія шляхціцы, якія адмовіліся перайсьці на бок Расеі і былі сасланы ў Казань, склікалі там соймік. На гэтым сойміку яны з горыччу прызналі, што большасьць віцебскай шляхты прысягнула на вернасьць цару, і склалі доўгі сьпіс здраднікаў[883].

У сьнежні 1655 г. ваявода троцкі Мікалай Пац, які хацеў узначаліць прарасейскую ўладу, зьвярнуўся з гэтай прапановай да цара. 12 лютага 1656 г. яго пасол Еранім Ліпскі прывёз цару два лісты. Ня ведаючы, як дакладна зьвяртацца да цара, Пац надаў яму тытул, які сам прыдумаў: «найясьнейшы міласьцівы цару». Далей ён пісаў, што літвіны «славяць Бога за тое, што ён паслаў нам такога магутнага і праведнага цара, не раўнуючы Аляксандар Вялікі». Называючы цара гаспадаром Літвы і паловы сьвету, Пац дзякаваў яму, што той прыняў ВКЛ пад сваю апеку. Ад імя ўсіх сэнатараў Пац перасьцерагаў цара ад сэпаратных кантактаў з асобнымі шляхціцамі і заключэньня любых пагадненьняў зь імі. На думку Паца, лепш было б склікаць усеагульны сойм у Вільні і на ім выпрацаваць прынцыпы далучэньня Літвы. У лісьце да Ўрусава, да якога Пац зьвяртаўся як да «кроўнага брата», ён прасіў ваяводу пераканаць цара ў яго адданасьці і шкадаваў, што расейская армія адступіла з Трокаў. Пац прасіў Урусава як мага хутчэй паслаць войска, каб абараніць Трокі ад швэдаў. Ён таксама хацеў, каб цар надаў яму званьне вялікага гетмана з правам склікаць соймікі і накладаць на шляхту падаткі. Пац пісаў ад імя сэнатараў, таму маскоўскія дыпляматы запыталі ў пасла, каго той прадстаўляе — Паца або ўсю Літву. Пасол ня змог даць яснага адказу. Ён сьцьвярджаў, што ваявода троцкі — першая асоба ў Літве (насамрэч галоўным быў ваявода віленскі). Што да сэнатараў, то ён, маўляў, меў на ўвазе як тых, што ўжо прысягнулі цару (Самуэля Статкевіча і Пятра Вяжэвіча), так і тых, якія толькі зьбіраліся зрабіць гэта (Юр'я Глябовіча і Вінцэнта Гасеўскага)[884].

У лютым 1656 г. Барыс Фразінаў паведамляў цару, што ён пераканаў 161 шляхціца Менскага ваяводзтва «прысягнуць на Бібліі». Адначасова ён дадаваў, што Менск дашчэнту спалены, разрабаваны і зусім пусты[885]. У пачатку 1656 г. расей-

[882] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 103—106

[883] Kraushar, Aleksander. Sejmiki polskie w Kazaniu 1655—1663 // Kwartalnik Historyczny. Warszawa, 1893. Vol. VII. P. 630—642.

[884] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 106—110. Прим. 184.

[885] BA. No. 117.

скія ўлады атрымалі зьвесткі, якія пацьвярджалі імклівы рост антышвэдзкіх настрояў сярод шляхты швэдзкай Літвы[886]. Гэта дазволіла Расеі спадзявацца на падтрымку тамтэйшай шляхты. Перамовы зь літоўскімі магнатамі і шляхтай, якія пераконвалі ў сваёй адданасьці, давалі Расеі ўпэўненасьць у надзейным тыле на выпадак вайны з Швэцыяй. І сапраўды, на занятых Расеяй землях не зафіксавана ніводнага паўстаньня ці праяваў варажнечы, нягледзячы на тое, што расейскае войска ў чэрвені 1656 г. выйшла з ВКЛ у Лівонію на вайну супраць Швэцыі. У лютым 1656 г. Масква накіравала ў ВКЛ два пасольствы. На загад цара паслы правялі перамовы зь ляяльнымі сэнатарамі пра ўмовы пераходу ў расейскае падданства і паспрабавалі ўгаварыць гетмана Сапегу далучыцца да Масквы. У лісьце да Вяжэвіча цар прасіў сэнатара «паклікаць усіх сэнатараў і ўраднікаў Літвы пад высокую руку цара». Адначасова Масква зноў паабяцала вярнуць магнатам усе іх землі і надаць тыя самыя прывілеі, што і баярам. Цар пагадзіўся падарыць Сапегу новыя маёнткі замест разрабаваных. У лісьце Мікалаю Пацу цар прапаноўваў яму набраць паспалітае рушэньне з 2000 шляхціцаў, каб ваяваць супраць Швэцыі. Цар казаў Пацу, каб той прыехаў да яго ў Смаленск: там ён зьбіраўся абмеркаваць прызначэньне Паца гетманам і скліканьне агульналітоўскага Сойму[887].

Расейцы і літвіны бачылі будучыню ВКЛ праз прызму палітычнай сыстэмы ва ўласнай дзяржаве. Літоўскія сэнатары ўяўлялі сябе дэпутатамі «дэмакратычнай» Баярскай Думы і марылі пра тое, каб уплываць на цара. Літоўская шляхта бачыла сваю будучыню ў фэдэрацыі з супольным соймам у новай сталіцы — Смаленску[888]. Яна меркавала, што яе паслы змогуць дэмакратычным чынам адстойваць яе інтарэсы. Зрабіць Смаленск сталіцай прапаноўвалася на ўзор Рэчы Паспалітай, сталіцай якой была нэўтральная Варшава, а ня Кракаў. Расея, аднак, глядзела на Літву праз прызму ўласнага самадзяржаўя. ВКЛ мелася стаць правінцыяй накшталт Казанскага ханства, г. зн. яшчэ адной часткай цэнтралізаванай манархіі. Цару было непатрэбна, каб літоўская шляхта ўдзельнічала ў палітыцы. Расейскія вярхі не разумелі складанай палітычнай сыстэмы шляхецкай рэспублікі. Напрыклад, сустракаючыся з Адамам Саковічам, Афанасій Ардзін-Нашчокін сур'ёзна запытаўся ў яго, ці могуць літоўскія сэнатары абраць караля без скліканьня Сойму[889]. Між двума бакамі існавала бездна непаразуменьня[890]. У гэтым сэнсе расейскія вярхі не маглі прапанаваць літоўскай эліце такую ж добрую будучыню ў рамках фэдэрацыі, як швэды ці палякі.

[886] Флоря. От потопа до Вильна. С. 37—39.

[887] Тамсама. С. 39—42. / Флоря. От потопа до Вильна. С. 39—42.

[888] У 1919 г. у Смаленску пад пратэкцыяй Савецкай Расеі была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Гэты горад таксама прапаноўваўся ў 1999 г. у якасьці сталіцы Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі.

[889] Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 73.

[890] Kamiński, Andrzej Sulima. Republic vs. Autocracy: Poland-Lithuania and Russia, 1686—1697. Cambridge (Massachusetts), 1993.

Пасьля шэрагу буйных перамог Расеі ў Лівоніі пачаліся перамовы ў Нямежы. Дэлегацыю Рэчы Паспалітай узначальваў староста менскі Крыштап Завіша. Разам зь ім у перамовах удзельнічалі біскуп віленскі Ян Даўгяла-Завіша, рэфэрэндар літоўскі Цыпрыян Павал Бжастоўскі і староста плоцкі Ян Красенскі — ён быў адзіным камісарам ад Польшчы[891]. Расейскую дэлегацыю ўзначальваў Мікіта Адоеўскі. Дэлегацыя Габсбурскай імпэрыі выконвала функцыі наглядальніка. На першым этапе перамоваў Адоеўскі настойваў на ўключэньні ВКЛ у склад Расеі як галоўнай умове перамір'я. Польскі кароль павінен быў аддаць цару ўсю Літву. Паслы Рэчы Паспалітай прапанавалі заключыць мірную дамову, накіраваную супраць Швэцыі, а не дамаўляцца аб інкарпарацыі ВКЛ. Больш за тое, Завіша перасьцярог Польшчу, што Літва прызнае Аляксея Міхайлавіча сваім вялікім князем, калі палякі не пагодзяцца на перамір'е. Гэтая дамова дапамагла вырашыць некаторыя балючыя пытаньні, у тым ліку пра вяртаньне канфіскаваных земляў[892]. Што да тэрытарыяльных саступак, то літоўскія паслы пагаджаліся аддаць Маскве толькі Смаленшчыну. Пасьля доўгіх спрэчак маскоўскія паслы атрымалі ад цара новыя ўказаньні. Расея пагадзілася на падзел ВКЛ. Паветы на захад ад Бярэзіны мусілі дастацца Польшчы. Паветы на ўсход ад Бярэзіны, населеныя пераважна праваслаўнымі, меліся «навекі» адысьці Расеі. Аднак гэтыя прапановы былі непрымальнымі для літвінаў[893].

Перамір'е ў Нямежы падпісалі 3 лістапада 1656 г. Цар прызнаваўся наступнікам Яна Казімера на вялікакняскім пасадзе (гэты пункт павінен быў зацьвердзіць чарговы Сойм). Пасьля перамогі над швэдамі цар абяцаў вярнуць ВКЛ занятыя ім землі, у тым ліку ў Інфлянтах. Праваслаўная шляхта атрымлівала права займаць пасады на любым дзяржаўным узроўні, «як гэта было заведзена ў даўнія часы за вялікімі літоўскімі князямі». Праваслаўнай царкве вярталіся ранейшыя прывілеі. Уніяцкая царква скасоўвалася. Але сама дамова была дасягненьнем дыпляматыі Рэчы Паспалітай: дзеля супрацьстаяньня Швэцыі заключылі ваенны хаўрус такія спрадвечныя ворагі, як Польшча і Расея.

У 1657 г. літоўскія магнаты абвінавацілі Расею, што яна не выконвае абавязкаў, прынятых у Нямежы, бо «Расея перастала ваяваць з Швэцыяй». У 1658 г. у Берасьці Дзяніс Астаф'еў і Павал Сапега правялі перамовы аб далучэньні Літвы да Расеі. Астаф'еў спытаў Сапегу, ці праўда, што літвіны пасварыліся з палякамі. Сапега адказаў «не» і растлумачыў, што за доўгі час сумеснага існаваньня палякі і літвіны заключылі шмат узаемных шлюбаў і абмяняліся многімі маёнткамі. Тым ня менш, Сапега не лічыў немагчымым заключэньне сэпаратнага пагадненьня з Расеяй. Ён даводзіў, што яно мусіць рыхтавацца таемна, каб літвінаў не абвіна-

[891] PSZRI. No. 192, 193.

[892] Frost. After the Deluge. P. 89.

[893] Rachuba, Andrzej. Rokowania w Niemieży w 1656 roku w aspekcie teorii wojny sprawiedliwej // От древней Руси к России нового времени. Сборник статей к 70-летию А. Л. Хорошкевич. Москва, 2003. С. 502—503.

вацілі ў дзяржаўнай здрадзе. Сапега дадаваў, што пра гэты плян ведаюць толькі дзевяць сэнатараў, і раіў Расеі не ўступаць у кантакт зь Мікалаем Пацам, якога ён называў палітычным авантурыстам. Сапега настойваў, што калі цара прызнаюць вялікім князем, польскія Падляшша і Валынь мусяць вярнуцца Літве[894].

### 4.2.2. Роля літоўскай шляхты ў пачатку расейска-швэдзкай вайны

Ва ўказаньнях свайму пасольству ў Маскву ад 31 жніўня 1655 г. Карл X Густаў выказваў надзею, што цар здаволіцца цэнтральнай Літвой і ня будзе вылучаць ніякіх прэтэнзій на швэдзкую зону, тым больш што, заняўшы Вільню, Расея пагадзілася на перамір'е[895]. Таму, калі расейцы задалі швэдам балючае пытаньне, ці будуць тыя адстойваць занятыя Швэцыяй літоўскія тэрыторыі, перакладчык Юхан Разэнлінт адназначна сказаў «так»[896]. Кароль праінструктаваў паслоў, каб яны вялі перамовы з Расеяй пра вызначэньне часовай мяжы паміж швэдзкімі і расейскімі тэрыторыямі. У 1655—1656 г. Швэцыя прапанавала чатыры варыянты правядзеньня мяжы. Паводле першага, ВКЛ падзялялася на дзьве роўныя часткі. Усходняя частка, уключна з Полацкам, Віцебскам і Барысавам, адыходзіла да Расеі. На поўдні мяжа праходзіла па рэках Случ і Гарынь — такім чынам, Слуцкае княства адыходзіла да Швэцыі, як і тэрыторыя Берасьцейскага і Навагрудзкага ваяводзтваў ды Гарадзенскага павету. Паводле апошняга пляну, мяжа павінна была прайсьці каля Докшыц на поўначы і паблізу Сяльца на поўдні, так што вялікая заходняя частка разам з сталіцай Вільняй апыналася ў складзе Швэцыі[897]. Прапанова зрабіць Сялец памежным мястэчкам сьведчыць пра відавочны ўплыў Багуслава Радзівіла (гэтае мястэчка належала яму)[898]. У 1656 г. палкоўнік Георг фон Швэнгельн, ачольнік швэдзкага драгунскага палка ў Літве і вядомы картограф, склаў мапу Ковеншчыны і паўднёвай Жамойці[899]. Мапа давала падрабязную інфармацыю пра ваенныя дзеяньні маскавітаў і дыспазыцыю варожых літоўскіх войскаў на чале з Крысьпінам-Кіршанштайнам. Мапа мусіла быць дапамогай Швэцыі ў вызначэньні мяжы з Маскоўскай дзяржавай па Нёмане. Аднак камітэт па ўрэгуляваньні тэрытарыяльных спрэчак, створаны на загад Дэлягардзі, таксама не прыйшоў ні да якіх пазытыўных вынікаў. Дасланыя ў Вярбілава генэрал-ад'ютант Конрад Уксюль і маёр Генрык фон Альфэндэль ня здолелі дамовіцца з расейцамі наконт дэмаркацыі мяжы[900]. Усе спробы падзяліць Літву правалiліся. Ра-

[894] Соловьев. История России. Том 10. С. 39—41.

[895] Kentrschynskyj. Ukrainska revolutionen. P. 69.

[896] Kentrschynskyj. Karl X Gustav inför krisen i Öster. P. 97. Note 27.

[897] Kentrschynskyj. Ukrainska revolutionen. P. 77.

[898] Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 55—61.

[899] Litauen. Kowno 1600-talet. RA. Kartor och ritningar utan känd proveniens. No. 594 (2025:20); Köhlin, Harald. Georg von Schwengeln and His Works, 1620—1645 // Imago Mundi. 1949. Vol. 6. P. 67—72. Кёлін памылкова датаваў гэтую мапу прыкладна 1628 г.

[900] Carlon. Ryska kriget. P. 14.

сея першая адмовілася ад гэтага пляну. Відаць, за падзелам Літвы кожны з бакоў бачыў страту палітычнай падтрымкі мясцовай шляхты.

Кейданская унія абудзіла спадзевы на хуткае вызваленьне швэдамі акупаваных Расеяй і Украінай земляў. Абнадзееныя жыхары Воршы паднялі паўстаньне супраць маскоўскай залогі[901]. У кастрычніку 1655 г. Дэлягардзі напісаў каралю, што дачыненьні з Расеяй не выклікаюць трывогі. Не было сутычак зь яе войскам, што стаяла пад Коўнам, бо цар загадаў сваім ваяводам не выступаць супраць швэдаў. Аднак праз два тыдні Урусаў даслаў Дэлягардзі ліст, у якім патрабаваў, каб швэды называлі цара «вялікім князем літоўскім», і даводзіў, што ўся тэрыторыя Ковенскага павету і Жамойць належаць цару. Урусаў адмовіўся прымаць лісты ад Дэлягардзі, калі той ня будзе называць цара яго новым тытулам[902]. На перамовах з Масквой швэдзкая дэлегацыя выказала занепакоенасьць, што Расея падпарадкавала сабе Полацак і Віцебск, бо гэта азначала кантроль над гандлёвымі шляхамі зь Літвы ў Рыгу. Другой прычынай трывогі швэдаў было тое, што Масковія магла выкарыстаць названыя гарады як базу для наступу на Лівонію[903].

Калі Расея вырашыла пачаць вайну з Швэцыяй, першаступеннае значэньне набыло пытаньне ляяльнасьці літоўскай шляхты. Толькі маючы пэўнасьць у адданасьці літвінаў, Расея магла перасоўваць вялікія сілы свайго войска ў ВКЛ да мяжы зь Лівоніяй. Немалую ролю адыгрывалі і настроі шляхты ў занятых швэдамі паветах. Браслаўская шляхта зрабілася ў гэтых адносінах спробным шарам. У гэтым павеце было раскватаравана 850 швэдзкіх драгунаў у васьмі рэгімэнтах[904]. Кантроль над Браславам і Друяй спрашчаў швэдам абарону гандлёвых шляхоў паміж Лівоніяй і Рыгай і прыкрываў з тылу Дынабург. Дэлягардзі загадаў швэдзкаму камэнданту Браслава Юхану фон Уленброку ўмацаваць свае пазыцыі. Аднак у студзені 1656 г. ваявода Рэжыц Ардзін-Нашчокін раптам запатрабаваў, каб швэдзкія войскі пакінулі Браслаў, бо яго жыхары прысягнулі цару. Ардын-Нашчокін таксама згадваў варожыя дзеі швэдаў у Друйскім замку. Рэч у тым, што Расея мела ў Друйскім павеце атрад стральцоў, які заняў пазыцыю ў Задруйскай Слабадзе[905]. Самім горадам валодалі швэды — іх рэгімэнт з 117 коньнікаў стаяў у прадмесьці Сапежын, у бэрнардынскім кляштары.

Маленькая Друя зрабілася галоўнай зачэпкай для пачатку вайны. На загад Дэлягардзі ў Браславе ўтварылі камітэт па вызначэньні межаў. Яго ўзначалілі палкоўнік Леанард Фітынгоф і асэсар Альбрэхт фон Былаў. Зносіны паміж швэдзкай адміністрацыяй і мясцовым насельніцтвам ускладняла тое, што браслаўская шляхта не валодала ні нямецкай, ні швэдзкай, ні лацінскай мовамі. Расейцы паведамлялі ў Маскву, што праз моўныя непаразуменьні з швэдамі шляхта Браслаўш-

901 Пануцэвіч. Сьвяты Язафат. С. 164.

902 Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 120, 129.

903 Kentrschynskyj. Karl X Gustav inför krisen i Öster. P. 108.

904 Inquarteringen aff Areen over Littouu. Šiauliai. 13 лютага 1656. RA. Militaria 1305.

905 Ткачоў, Міхаіл. Замкі і людзі. Мінск, 1991. С. 34.

чыны ня супраць далучыцца да Расеі[906]. Натуральна, маскавіты пачалі актыўна апрацоўваць мясцовую шляхту, схіляючы яе на свой бок[907]. 28 жніўня 1655 г. Браслаўскі павет на сваім сойміку пастанавіў прыняць швэдзкую пратэкцыю. Аднак пазьней была падпісаная дамова з Маскоўскай дзяржавай. Сярод браслаўчан, якія прысягнулі Расеі, шмат тых, хто узаемадзейнічаў з Швэцыяй, а цяпер зьвярнуўся да Расеі. Сярод іх былі Аляксандар Чапінскі, Тобіяс Пуцята і чалец Рады швэдзкай Літвы Пётар Рудаміна-Дусяцкі[908]. Галоўным прыхільнікам Расеі ў Браславе быў Себасьцьян Мірскі, які меў сувязі з Ардзіным-Нашчокіным[909]. Адначасова Ардзін-Нашчокін пагражаў шляхце, якая працягвала служыць швэдам, помстай. Узімку 1656 г. расейскія войскі зрабілі некалькі ваенных вылазак на Браслаўскі павет. У іх загінула каля 40 швэдзкіх жаўнераў[910]. У адказ Дэлягардзі загадаў сваім жаўнерам на Браслаўшчыне пільна абараняць мясцовае насельніцтва, захоўваць дысцыпліну ў войску і караць тых шляхціцаў, якія пайшлі на службу Швэцыі, а пазьней перакінуліся да расейцаў.

У сакавіку 1656 г. Расея вырашыла пачаць вайну з Швэцыяй. Швэдзкім паслам у Маскве перадалі абвінавачаньні, што Швэцыя вядзе ў Літве варожую палітыку і парушае вечны мір, падпісаны ў Сталбове ў 1617 г. У адказ 23 сакавіка 1656 г. Швэцыя выставіла свае прэтэнзіі — усе яны датычылі ВКЛ. Швэды казалі, што, ведаючы пра швэдзкі статус Слуцку, Аляксей Трубяцкой узяў горад у аблогу і спаліў яго прадмесьці. У кастрычніку 1655 г. расейскія войскі, не зважаючы на пратэсты Радзівіла, захапілі прыналежную яму Орлю. Галоўныя прэтэнзіі Швэцыі датычыліся падзей на Браслаўшчыне. Там расейцы забілі шмат швэдзкіх жаўнераў, якія намаўлялі супраць швэдаў, і схілілі на свой бок некалькіх шляхціцаў, якія раней прынялі прысягу на вернасьць Карлу X Густаву[911]. У сакавіку 1656 г. расейскі пасол у Капэнгагене Даніла Мышэцкі прапанаваў Даніі заключыць антышвэдзкі альянс і паведаміў каралю Фрэдэрыку III пра расейска-швэдзкі канфлікт вакол ВКЛ. Паводле словаў Мышэцкага, швэды, парушыўшы мір з Расеяй, заваявалі шэраг літоўскіх паветаў і зьбіралі падаткі з насельніцтва, якое ўжо прысягнула на вернасьць цару. На думку Мышэцкага, Карл X Густаў меў далёкасяжныя намеры «стаць адзіным гаспадаром Вараскага мора» — г. зн. Балтыкі[912].

19 сакавіка 1656 г. Шутэ напісаў Дэлягардзі, што ён скептычна ставіцца да чутак пра хуткі наступ расейскага войска. Аднак ён параіў Дэлягардзі не раздражняць цара спрэчкамі за тытулы. Як бы там ні было, атрымаўшы трывожныя

[906] Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 65.

[907] Carlon. Ryska kriget. P. 14.

[908] KKVKL. F. 157, 170.

[909] RA. Militaria M 1305.

[910] Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 62—63.

[911] Тамсама.

[912] Соловьев. История России. Том 10. С. 631—632.

навіны з Масквы, Карл X Густаў накіраваў у Лівонію новыя атрады. На пачатку красавіка Расея ўжо шматкроць парушала мяжу з Швэцыяй, а швэдзкае пасольства ў Маскве арыштавалі[913].

17 траўня 1656 г. Расея абвясьціла вайну Швэцыі. Літоўская эліта адыграла немалую ролю ў падбухторваньні да гэтага акту. Гасеўскі выказаў гатоўнасьць прысягнуць цару, але толькі калі Расея вырашыць «праблему Швэцыі, і перадусім Радзівілаў»[914]. Ашмянскі пасол Пётар Роля папярэджваў Расею, што Швэцыя рыхтуецца да вайны. Ён перадаў расейцам копію ахоўнага ліста, напісанага Шутэ[915]. Ліст гарантаваў бясьпеку маёнтку ў ваколіцах Віцебску, занятага Расеяй. Гэта нібыта сьведчыла пра агрэсіўныя пляны Швэцыі. У сьнежні 1655 г. пасольскі прыказ у Маскве атрымаў копію Кейданскай дамовы ў перакладзе на польскую мову. Невядомы перакладчык сказіў першапачатковы тэкст і ўнёс шэраг зьменаў, якія надавалі яму выразны антырасейскі характар[916]. Гэты пераклад надаў зусім іншае гучаньне адмове Карла X Густава прызнаць за царом яго новы тытул і саступіць яму швэдзкую частку Літвы. Масква дазналася, што швэдзкі кароль і яго спадкаемцы прызнаваліся вялікімі князямі літоўскімі. З гэтага моманту расейска-швэдзкія памежныя сутычкі ўспрымаліся як спробы Стакгольму знайсьці зачэпку для нападу[917]. Масква лічыла, што Швэцыя хоча ўтрымаць Браслаў, каб пайсьці на Полацак і Віцебск.

Шутэ актыўна выступаў за мір з Расеяй «любым коштам». У рапарце Карлу X Густаву ад 6 траўня 1656 г. ён раіў каралю прызнаць новы тытул цара і саступіць Браслаўскі, Вількамірскі і Ковенскі паветы Расеі. Шутэ даводзіў, што літоўская шляхта ўжо ўзьняла паўстаньне і гэтыя землі выйшлі з-пад улады швэдаў. Таму пералічаныя паветы не ўяўляюць для Швэцыі каштоўнасьці. Швэцыя мусіць захаваць толькі геапалітычна значную Жамойць, а таксама, калі магчыма, утрымаць свае пазыцыі ва Ўпіцкім павеце на мяжы з Курляндыяй. Калі кароль хоча далучыцца да Расеі ў кампаніі супраць Польшчы, ён павінен спачатку здушыць паўстаньне ў ВКЛ. Гэта складаная задача; таму лепш было б аддаць паветы, ахопленыя паўстаньнем, Расеі, і такім чынам захаваць мір[918].

Відаць, пад уплывам Шутэ Карл X Густаў перайшоў да новай палітыкі. У лісьце цару ад 14 чэрвеня 1656 г. ён паабяцаў пакараць тых швэдаў, якія ўсчалі сутычкі з расейскімі войскамі ў Літве. Больш за тое, кароль сьцьвярджаў: «Я ніколі не шукаў ніякага іншага шляху, апрача альянсу і вечнага міру. Таму я выказваю сваю згоду адносна тытулаў Вашай Вялікасьці». На мове дыпляматыі гэта азна-

[913] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 322.

[914] Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 58.

[915] RGADA. Фонд 79. Опись 1. 1655. Л. 14.

[916] Заборовский. Великое княжество Литовское и Россия. С. 126—127.

[917] Флоря. От потопа до Вильна. С. 32.

[918] Carlsson, Alfred Bernhard. Sverige och den östeuropeiska krisen 1656. Ett betänkande af Bengt Skytte om den svenska politiken // Historisk tidskrift. 1912. P. 110—113.

[919] Nordwall. Svensk-Ryska Underhandlingar före freden i Kardis. P. 2—3; Carlon. Ryska kriget. P. 22—23.

чала, што Швэцыя пагаджаецца захаваць мір з Расеяй, ахвяраваўшы Літвой[919]. Але было запозна. У распачатай вайне Масковія імкнулася авалодаць усёй Літвой і польска-літоўскімі Інфлянтамі. Царская стаўка знаходзілася ў Полацку. Згодна з расейскім стратэгічным плянам, галоўнае войска на чале з царом мусіла рушыць на Інфлянты. Кампанія мела на мэце:

- выгнаць швэдаў зь Літвы;
- захапіць Інфлянты;
- заняць Рыгу, каб пазбавіцца ад швэдзкага панаваньня на ўсходзе Балтыкі;
- усталяваць кантроль над гандлёвымі шляхамі ўздоўж Дзьвіны.

Расейскія ўлады атрымалі шэраг паведамленьняў, якія сьведчылі, што шляхта ў швэдзкай зоне выступае супраць швэдаў[920]. Гэта азначала, што расейская палітыка магла знайсьці падтрымку ў яе колах. Перамовы зь літвінамі дазволілі Расеі разьлічваць на надзейны тыл на выпадак вайны з Швэцыяй. Беларуская шляхта ўзяла ў вайне актыўны ўдзел. Так, пры аблозе Рыгі беларуская коньніца ў расейскіх атрадах складала 8000 шабляў[921]. Беларускія мяшчане працавалі ў захопленых інфлянцкіх гарадох[922].

10 ліпеня 1656 г. пасьля доўгай падрыхтоўкі галоўныя сілы расейскай арміі (швэдзкія крыніцы гавораць пра 90 000 войска) на чале з царом рушылі з Полацку на Інфлянты. 31 жніўня 1656 г. яны прыступам узялі Дынабург. У той жа час другая расейская армія выступіла на поўнач Лівоніі і ўзяла ў аблогу Дорпат. Трэці фронт быў адкрыты ў Інгерманляндыі[923].

Сімяон Полацкі раіў цару ператварыць Інфлянты ў праваслаўную правінцыю, а зь лютэранскіх кірхаў, якія ён называў «агіднымі язычніцкімі бажніцамі», зрабіць праваслаўныя цэрквы. 14 жніўня 1656 г. расейцы ўзялі Кукенойс. Гэты першы горад, які належаў швэдзкай кароне, захапілі з наўмыснай жорсткасьцю — большасьць абаронцаў былі забіты. Горад перайменавалі ў Царэвічаў-Дзьмітрыеў, а лютэранскую кірху ў ім ператварылі ў праваслаўную царкву[924]. Так Расея выявіла свой намер назаўсёды паглынуць швэдзкую Лівонію. 22 жніўня 1656 г. цар узяў у аблогу Рыгу. Калі Расея заняла Дорпат, Сімяон Полацкі прадказваў, што цар будзе гаспадарыць над усёй Балтыкай і параіў яму ісьці за мора ды захапіць цэнтральную Швэцыю. Паэт сьцьвярджаў, што сьвятая Марыя «смирит моря воды, и ветры служити будут ти, кгды схочеш море преходити»[925]. Аднак у Расеі не было флёту. Швэдзкія караблі забясьпечвалі Рыгу ўсім неабход-

[920] Флоря. От потопа до Вильна. С. 37—39.

[921] J. G. Sparwenfeld's diary of a jorney to Russia 1684—1687. Ed. Ulla Birgegård. Stockholm, 2002. P. 224, 226.

[922] Абецедарский. Белоруссия и Россия в XVI—XVII вв. С. 172.

[923] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 324—327.

[924] PSZRI. No. 189.

[925] Полоцкий. Вирши. С. 33—39.

ным, што зрабіла аблогу марнай. 2 кастрычніка 1656 г. швэдзкая армія на чале з Дэлягардзі разьбіла расейскае войска. Страціўшы 8000 войска, цар зьняў аблогу Рыгі і вярнуўся ў Дынабург. Так былі пахаваныя мары Расеі скарыць Швэцыю.

## 4.3. Літва Багуслава Радзівіла: Радноцкая дамова і аблога Берасьця 1657 г.

*І ва ўсім гэтым адзінае маё жаданьне служыць Яго Каралеўскай Мосьці каралю Швэцыі і ўратаваць маю Бацькаўшчыну.*

Багуслаў Радзівіл у лісьце да Карла X Густава, 10 лістапада 1655 г.

У 1655 г. Швэцыя і Расея пачалі перамовы пра падзел Вялікага Княства Літоўскага. Таму падчас першых кансультацый паміж Радзівіламі і Дэлягардзі ў канцы ліпеня Радзівілы паставілі ўмову аб утварэньні сваіх спадчынных княстваў, калі Швэцыя і Расея падзеляць ВКЛ. Згодна зь іх прапановамі, якія Любянецкі даставіў у Рыгу ў ліпені 1655 г., «калі адбудзецца зьмена ўлады на Літве», у краіне належала стварыць два спадчынныя княствы Радзівілаў[926]. Багуслававa княства мусіла складацца з «Наваградчыны, Меншчыны і Падляшша, уключна зь іншымі ўладаньнямі, дзе б яны ні знаходзіліся — у Польшчы ці ў Літве». Берасьцейскае ваяводзтва, а таксама Гарадзенскі і Ваўкавыскі паветы меліся адысьці Янушу. Спадчынныя ўладаньні Радзівілаў мусілі стварацца на ўзор княстваў Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі. Радзівілы атрымлівалі ўсе правы згодна з рэгаліямі і правамі германскіх князёў, у тым ліку права біць манэту. Дэлягардзі, камэнтуючы гэты праект, сказаў, што калі Радзівілы хочуць мець свае ўласныя спадчынныя княствы і права на меніцу (манэтны двор), то ім варта накіраваць сваіх паслоў на перамовы да швэдзкага караля. Дэлягардзі меркаваў, што кароль, магчыма, пойдзе насустрач іх просьбам[927].

Падчас перамоваў стала ясна, што Стакгольм не гатовыісьці на канфлікт з Масквой. Таму Радзівілы адклалі пытаньне аб утварэньні ўласных княстваў. Шапока адзначыў часовы характар гэтага першага праекту і канстатаваў, што на літоўска-швэдзкіх перамовах падобныя «патрабаваньні вылучыць Радзівілам асобныя дзяржавы прагучалі першы і апошні раз»[928]. Сапраўды, перамовы ў Кейданах датычыліся выключна лёсу ўсяго ВКЛ. Польскія гісторыкі часта зьвяртаюць

[926] Cautiones et conditiones concernentes protectionem Sacrae Regiae Maejstatis Sueciae. Akta Ugody Kiedanskiej. P. 4—7.

[927] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 54.

[928] Тамсама. С. 53.

асаблівую ўвагу на плян стварыць асобныя княствы для Радзівілаў і разглядаюць яго як прадвесьце рыхтаванага падзелу ВКЛ[929]. Мэта гэткай інтэрпрэтацыі — дыскрэдытаваць палітыку Радзівілаў як крывадушную і адпачатку непатрыятычную.

Па прыняцьці Кейданскай дэклярацыі Дэлягардзі абяцаў надзяліць Багуслава Радзівіла землямі ў швэдзкай Літве ва ўзнагароду за посьпех перамоваў, калі гэтыя землі будуць «вольныя ад ворагаў». У дадатак да сваіх уласных зямель Радзівіл меў атрымаць каралеўскія эканоміі на Берасьцейшчыне і Кобрыншчыне. Багуслаў таксама спадзяваўся ўладарыць над Падляшшам. Дэлягардзі сумняваўся, што швэды здолеюць вызваліць Бабруйскае староства на Беларусі ці Барскае староства, якое ляжала «на далёкім памежжы Ўкраіны». Таму швэдзкі кароль замест іх прапанаваў Радзівілу Страсбург (цяпер Бродніца; былое ўладаньне Ганны Вазы) і Голуп у каралеўстве Прусія[930]. Гаворкі пра асобнае княства Радзівіла ўжо не ішло.

Аднак пасьля сьмерці Януша Радзівіла і паўстаньня ў Жамойці Багуславу Радзівілу было вельмі істотна займець спадчыннае княства пад швэдзкім пратэктаратам. Паводле яго новага пляну, будучая дзяржава мелася ўключаць Берасьцейскае і Наваградзкае ваяводзтвы, а таксама суседняе Падляшша. Гэтыя тэрыторыі былі непадуладныя маскоўскаму войску, тут жыло шмат пратэстанцкай шляхты, і Радзівіл небеспадстаўна спадзяваўся на іх палітычную падтрымку. Цэнтрам новага княства меў стаць Слуцак. Але, каб стварыць такую дзяржаву, названыя тэрыторыі трэба было спачатку заваяваць.

Адной з асноўных частак новай дзяржавы мусіла стацца Падляшша. Тут Радзівіл валодаў горадам Венграў і Бранскім староствам. Пасьля сьмерці стрыечнага брата ён таксама атрымаў Тыкоцін, Райгорад, Сокалаў-Падляскі, Старое Сяло і Аўгустоў у Польшчы, а таксама Орлю, Заблудаў, Беласток-Дойліды, Няводніцу, Собалеў і Супрасьль у Літве. Усе гэтыя мястэчкі былі пратэстанцкімі ці праваслаўнымі асяродкамі. Падляскі дыстрыкт Ядноты Літоўскай складаўся зь сямі прыходаў з катэдрай у Заблудаве. Шмат навакольных маёнткаў належала пратэстанцкай шляхце[931]. Пасада старосты бранскага давала Багуславу магчымасьць уплываць на палітычныя групоўкі, што вялі рэй у Падляшшы. У лістападзе 1655 г. шляхта Падляшша на сойміку ў Тыкоціне абрала яго сваім маршалкам і падпісала пэтыцыю з просьбай аб швэдзкім пратэктараце. Радзівіл паставіў свой подпіс першым як «маршалак падляскі»[932]. Наступнай мэтай Радзівіла было дамагчыся добразычлівага стаўленьня падляскай шляхты да швэдзкага войска. У лісьце да Дэлягардзі ён пісаў:

*Нядаўна я прыехаў сюды, каб прысутнічаць на сойміку падляскай шляхты,*

[929] Wisner. Janusz Radziwiłł. P. 193—194.

[930] Akta Ugody Kiedanskiej. P. 24—25.

[931] Tazbir. Arianie w Białymstoku i okolicach. P. 81—105.

[932] AGAD. Archiwum Koronne Warszawskie. Dz. Szwedzki. Mkf No. 31978. 11b. No. 69.

*якія я склікаў як губэрнатар гэтага ваяводзтва. Пасьля таго як я паказаў, якая небясьпека пагражае [павету], шляхта вырашыла даслаць дэлегацыю да Вашай Сьветласьці, каб паведаміць вам пра вынікі абмеркаваньня... Такім чынам, ад імя гэтага павету, адзінага, які вырашыў прасіць Вашу Сьветласьць аб апецы, я малю вас, будзьце ласкавы берагчы яго [павет] як мага даўжэй, бо яго, мабыць, значна спустошаць на другім баку Нарвы, дзе непазьбежна пройдзе войска Вашай Сьветласьці. Ведаючы, што гэтым людзям заўсёды была ўласьцівая любоў да свабоды, Вы ўразіце іх сваёй велікадушнасьцю, калі зьберажаце іх землі*[933].

Пасламі да Дэлягардзі абралі шляхціца-арыяніна Мікалая Любянецкага (яго жонка Алена даводзілася сястрой падкамораму кіеўскаму, украінскаму магнату і галаве тамтэйшых пратэстантаў Юрыю Нямірычу, які падтрымліваў швэдаў) і кальвініста Андрэя Камароўскага. 9 сьнежня 1655 г. у Варшаве яны падпісалі акт аб далучэньні Падляшша да Швэцыі[934]. Гэта было адзінае ваяводзтва ў Польшчы, жыхары якога з уласнай волі прынялі швэдзкую пратэкцыю да прыходу швэдзкай арміі. Але ў паўднёвай частцы Падляшша на шляху Радзівіла стала моцная каталіцкая партыя на чале з падкаморым дарагічынскім Юр'ем Монвідам-Іржыковічам. Гэтую партыю падтрымліваў Міхал Казімер Радзівіл, чашнік літоўскі і адзіны каталік у родзе Радзівілаў. Як уладальнік тамтэйшага мястэчка Бельск-Падляскі, ён меў свае інтарэсы на Падляшшы.

У канцы 1655 г. Іржыковіч і яшчэ некалькі шляхціцаў падпісалі мэмарандум пад цікавай назвай «Развагі, чаму Ягамосьць князь Багуслаў Радзівіл ня можа стаць маршалкам Падляшша»[935]. Па-першае, яны падкрэсьлівалі, што Радзівіл «прыроджаны літвін, а яны [падляшане] — сыны Кароны польскай». Па-другое, ён ня здолеў абараніць ВКЛ ад Масквы і казакоў, а значыць, ня мог абараніць і Падляшша. Па-трэцяе, аўтары з гонарам сьцьвярджалі, што «падляшане — каталікі, а князь Багуслаў — эвангеліст». Да таго ж, ён быў братам цёткі швэдзкага караля. На думку апазыцыйнай шляхты, князь прагнуў славы і, як яго стрыечны брат Януш, марыў пра сваё княства. Вось чаму ён хацеў стаць «князем Падляшша». Канфэдэраты лічылі абраньне Радзівіла «маршалкам Падляшша» незаконным, бо ён ня меў згоды ўсёй шляхты, а сваіх прыхільнікаў нібыта падкупляў раскошнымі баляваньнямі. Тэкст мэмарандуму ўтрымлівае вельмі цікавую з гістарычнага гледжаньня аргумэнтацыю. Славянамоўная шляхта сьцвярджае, што яны, як і ўсе падляшане, нашчадкі яцьвягаў (старажытнае балцкае племя, якое ў X—XII стст. насяляла Падляшша). Таму яны, на ўзор сваіх продкаў, хочуць быць самі сабе гаспадарамі, а не «Радзівілавымі баярамі»[936]. Апазыцыйная шляхта сабрала сваё паспалітае рушэньне

[933] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 7 лістапада 1655. Сураж. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

[934] Siedlecki, Jan. Brańsk Bogusława Radziwiłła 1653—1669. Białystok, 1991. P. 48.

[935] Radziwiłł. Autobiografia. P. 190—193.

[936] «Радзівілавымі баярамі» была васальна залежная ад яго шляхта, якая ня мела палітычных правоў.

і пачала рабіць рэгулярныя напады на ўладаньні Радзівіла. У лютым 1656 г. яе атрады захапілі і разрабавалі Бельск і Бранск. З 1656 г. да канца 1657 г. Падляшша перажывала грамадзянскую вайну паміж прыхільнікамі і праціўнікамі швэдаў[937]. Гэты рэгіён адыгрываў важную стратэгічную ролю для швэдзкай арміі. Кантроль над ім забясьпечваў швэдам магчымасьць зносінаў паміж лівонскай арміяй, швэдзкай зонай у Літве і швэдзкімі сіламі ў герцагстве Прусія ды Польшчы. З Падляшша Радзівіл пастаўляў збожжа і правіянт швэдзкаму гарнізону ў Варшаве. Швэцыя мела два моцныя гарнізоны ў Тыкоціне і Райгорадзе, падпарадкаваныя Радзівілу[938]. Аднак Радзівілу так і не ўдалося захапіць усю тэрыторыю Падляшша.

Адзіным незахопленым буйным местам у ВКЛ заставаўся Слуцак. Адрэзаная ад швэдзкай Літвы, слуцкая залога пасьпяхова кантралявала княства. Каб захапіць усю тэрыторыю Наваградзкага ваяводзтва, Радзівіл загадаў намесьніку камэнданта Слуцку Адаму Валаху заняць Нясьвіж, Мір і Ляхавічы. 3 сьнежня 1655 г. слуцкія атрады занялі Нясьвіж — сталіцу каталіцкай галіны роду Радзівілаў. У замку разьмясьцілася залога на чале з ротмістрам Якубам Рыбаком. Праз некалькі дзён быў узяты Мір, і яго камэндантам стаўся Станіслаў Скарбэк[939]. Так Радзівіл атрымаў кантроль амаль над усім Наваградзкім ваяводзтвам.

Трэцяй мэтай Радзівіла было ўзяць Берасьце. У жніўні 1655 г. Дэлягардзі паабяцаў падарыць Багуславу Радзівілу гэты стратэгічна важны горад разам зь яго замкам на Бугу. Але ў верасьні 1655 г. горад заняла літоўская дывізія на чале з Сапегам. Радзівіл паведаміў Дэлягардзі пра пляны Расеі захапіць Берасьце і падкрэсьліў, што «наступ маскавітаў на Берасьце — рэальнасьць»[940]. Завалодаўшы Берасьцем, расейцы маглі б аддзяліць швэдзкую армію ў ВКЛ ад войска швэдзкага караля ў Польшчы і пашырыць расейскі ўплыў да Падляшша. Каб не дапусьціць гэтага, Радзівіл зьвязаўся з Сапегам, атрады якога кантралявалі Берасьце. 20 лістапада 1655 г., каб горад пазьбег расейскага зваяваньня, Сапега прыняў швэдзкую пратэкцыю. Гэта абудзіла надзеі Багуслава Радзівіла на тое, што з дапамогай швэдаў ён усё-такі зможа заняць усю тэрыторыю ваяводзтва. Ён папрасіў Дэлягардзі «даслаць швэдзкі атрад у складзе трохсот ці чатырохсот коньнікаў на чале з дасьведчаным афіцэрам у Бельск ці Кляшчэлі, каб я мог змусіць іх [расейцаў] перадумаць і зразумець, што Падляшша і Берасьцейскае ваяводзтва належаць швэдзкаму каралю і ім няма на што тут спадзявацца»[941]. Адначасова Радзівіл давёў

[937] Siedlecki. Brańsk Bogusława Radziwiłła. P. 49—53; Wasilewski. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła; Radziwiłł, Autobiografia. P. 57—67.

[938] Siedlecki. Brańsk Bogusława Radziwiłła. P. 49—50.

[939] Wasilewski. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła. P. 55.

[940] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 12 кастрычніка 1655. Тыкоцін. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

[941] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 24 лістапада 1655. Бочкі. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

маскавітам, што стаялі ля Берасьця, што мяшчане і шляхта ўжо прынялі падданства Швэцыі, і запатрабаваў, каб расейскае войска адступіла[942]. Каб абараніць сваё ўладаньне Сялец непадалёк ад Берасьця, «адзінае, якое ацалела ў Літве», Радзівіл папрасіў швэдзкія ўлады даслаць ахоўную грамату, адзначыўшы, што:

*Да ахоўных граматаў Вашай Сьветласьці яны [маскавіты] ставяцца з павагай, і яны [граматы] маглі б абараніць безьліч насельніцтва і няшчасных уцекачоў зь Літвы, якіх прымусілі бегчы сюды паводзіны гэтых барбараў. Таму я малю Вашу Сьветласьць не пагрэбаваць просьбай пра дапамогу ад жыхароў гэтай правінцыі і яе зьняможанай шляхты, што кінуліся сюды, каб ня трапіць пад уладу гэтых няпрошаных гасьцей [маскавітаў]*[943].

Радзівіл прапаноўваў, каб да расейцаў афіцыйна зьвярнуўся Дэлягардзі і даў ім зразумець, што Берасьце належыць Швэцыі. Замест гэтага 29 студзеня 1656 г. ліст Аляксею Міхайлавічу напісаў Карл Х Густаў. Кароль нагадваў, што Берасьце — швэдзкі горад, і выказваў пратэст супраць дзеяньняў цара, які, нягледзячы на папярэджаньне, паслаў ваяводу Андрэя Ўрусава захапіць Берасьце і, калі той ня здолеў зрабіць гэтага, дазволіў расейскаму войску рабаваць наваколье, «чынячы шмат шкоды нашым землям»[944].

Аднак на пачатку 1656 г. Сапега перайшоў на бок Польшчы. Берасьце зноў трапіла ў падпарадкаваньне каралю Яну Казімеру. Радзівіл мусіў хутка вырашыць, як яму сьцьвердзіць тут сваю ўладу. Берасьце ніколі не належала да сфэры яго палітычнага ўплыву. Берасьцейскае ваяводзтва кантраляваў Сапега[945]. Радзівіл жа мог разьлічваць на падтрымку толькі асобных мясцовых шляхціцаў — пратэстантаў, якія групаваліся вакол князя. Напрыклад, зусім непадалёк ад Берасьця, у Дабрынцы, была сядзіба заможнага арыянскага роду Грэкаў[946]. Другім уплывовым тутэйшым пратэстанцкім родам былі Кахлеўскія, якія апекаваліся рэфармацкім зборам у Нурцы[947]. Радзівілавы маёнткі Сялец і Старое Сяло таксама знаходзіліся непадалёк ад Берасьця. Падкаморы берасьцейскі Ўладзіслаў Ляшчынскі быў фундатарам лютэранскай калёніі ў Нэйдорфе[948]. Аднак гэта ўсё былі разрозьненыя паселішчы, а наагул пратэстантаў у рэгіёне было небагата. Таму Радзівіл вырашыў захапіць Берасьце і павет сілай.

[942] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 24 лістапада 1655. Бочкі. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

[943] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 14 лістапада 1655. Тыкоцін. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

[944] Карл Х Густаў — вялікаму князю маскоўскаму. 29 студзеня 1656. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E1367.

[945] Wasilewski. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła. P. 40.

[946] Tazbir. Arianie w Białymstoku i okolicach. P. 88.

[947] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 111.

[948] Schultz. Kronika zboru ewangelicko-luterskiego Nejdorfskiego.

Каб дапамагчы яму, камандзір швэдзкіх войскаў у Мазовіі генэрал Адольф Ёган Пфальцкі ў канцы лютага 1656 г. перадаў пад каманду Радзівіла полк палкоўніка Фабіяна Бэрэнса, які налічваў 12 гусарскіх і 6 драгунскіх рэгімэнтаў. Аб'яднанае войска, сабраўшыся пад Тыкоцінам, рушыла на Берасьце. 3 красавіка 1656 г. сілы Радзівіла разьбілі літоўскі полк на чале з Самуэлем Лукомскім і занялі Камянец. Пасьля гэтага Радзівіл захапіў Высокае і Воўчын і падышоў да Берасьця. Падчас гэтай пасьпяховай кампаніі Радзівіл узяў у палон берасьцейскага ваяводу Максіміляна Бжазоўскага, а таксама стольніка берасьцейскага Паўла Гарбоўскага-Заранка і іншых афіцэраў Сапегі[949]. Адна з харугваў Радзівіла накіравалася ў Сялец, каб ціха пахаваць там цела Януша Радзівіла ў рэфармацкім зборы[950]. Але Радзівіл не наважыўся пайсьці на прыступ Берасьця, зь яго магутнай крэпасьцю і моцнай залогай. Тут князь вырашыў дзейнічаць палітычнымі сродкамі. Спадзеючыся перацягнуць на свой бок берасьцейскую шляхту, Радзівіл накіраваў ёй ліст, у якім прапанаваў скласьці зброю і адчыніць гарадзкія брамы. Ён пераконваў шляхту, што яна памыляецца, падтрымліваючы «слабых Сапегавых канфэдэратаў». Радзівіл блефаваў, пужаючы шляхту магутнай швэдзкай арміяй, якая, маўляў, пераправілася ўжо цераз Буг і павінна неўзабаве падысьці. Ён сьцьвярджаў, што шляхце лепш здаць крэпасьць яму, літоўскаму ўрадніку, «чым нейкаму швэдзкаму генэралу»[951]. Адказ берасьцейскай шляхты разьвеяў надзеі Радзівіла. Шляхта казала, што расцэньвае кампанію Радзівіла як «напад на наша ваяводзтва варожай арміі», і падкрэсьліла, што «гэта вялікі гонар для нас — аддаць нашы жыцьці за нашага ўладара, караля Польшчы, і свабоду». Шляхта заявіла, што каталіцкі горад ніколі ня скорыцца пратэстантам. «Самому Госпаду нашаму, заступніку Сьвятой Каталіцкай Царквы, даспадобы барацьба супраць ворагаў Бацькаўшчыны»[952]. Раззлаванаму Радзівілу давялося адступіць ад Берасьця назад на Падляшша. У той жа час палкоўнік Сапегі Самуэль Аскерка выбіў залогі Радзівіла зь Нясьвіжу і Міру. 8 траўня 1656 г. Аскерка з дапамогай падляскага і мазавецкага паспалітага рушэньня ўзяў у аблогу Тыкоцін. Аднак 8 ліпеня 1656 г. Радзівіл пры падтрымцы швэдзкага генэрала Робэрта Дугласа зь вялікім посьпехам зьняў аблогу.

Такім чынам, Радзівіл ня здолеў самастойна авалодаць Падляшшам, Берасьцейшчынай і Наваградчынай і працягваў спадзявацца на дыпляматычную і ваенную дапамогу Швэцыі. Даведаўшыся пра крызіс ва ўзаемаадносінах паміж Швэцыяй і Расеяй ды баючыся магчымага перамір'я паміж Швэцыяй і Польшчай, Радзівіл прасіў швэдаў «улічыць мае інтарэсы і дадаць у магчымую дамову пункт аб вяртаньні мне ўсіх маіх земляў як на Русі, так і ў Літве»[953]. Сярод умоў, вылучаных Швэцыяй пры абмеркаваньні мірнага пагадненьня з Польшчай, быў арты-

[949] Wasilewski. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła. P. 58—60.

[950] Šapoka. 1655 metų Kėdainių. P. 135.

[951] Radziwiłł. Autobiografia. No. 15.

[952] Тамсама. № 16.

[953] Багуслаў Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 5 траўня 1656. Кёнігсбэрг. Па-француску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

кул, што прадугледжваў утварэньне асобнага княства Радзівіла, якое б уключала Падляшша[954]. У адказ Ян Казімер, які хацеў пазбавіць Радзівіла палітычнага ўплыву, зьняў яго з пасады бранскага старосты і аддаў яе свайму прыхільніку Юр’ю Глябовічу[955].

Перамога швэдзкага войска над польска-літоўскімі зьвязамі ў трохдзённай ліпеньскай бітве пад Варшавай зноў абнадзеіла Радзівіла[956]. На швэдзкім баку змагаліся два яго палкі. Багуслаў выратаваў у баі жыцьцё Карла X Густава, застрэліўшы літоўскага шляхціца Якуба Кавалеўскага[957]. 24 ліпеня 1656 г. Радзівіл даў новы загад слуцкай залозе — авалодаць двума гарадамі, што належалі Міхалу Казімеру Радзівілу, — Нясьвіжам і Ляхавічамі[958]. Адначасова пасольства Радзівіла на чале з праваслаўным купцом Самуэлем Стэфановічам выехала з Слуцку на Ўкраіну. Стэфановіч вёз «Наказ гетману Ўкраіны і Запароскаму войску». Радзівіл прасіў Хмяльніцкага абараніць Слуцак і княства ад «палякаў, іншых ворагаў і маскоўцаў». Апроч гэтага, ён прасіў абараніць гандлёвыя шляхі паміж Слуцкам ды Ўкраінай і паставіць у горад украінскае збожжа[958]. У адказ гетман выдаў два ўнівэрсалы, якімі браў Слуцак пад сваю апеку[959]. Наваградзкая шляхта заключыла абарончую дамову з украінскім палкоўнікам Нячаем[960]. Радзівіл здолеў з дапамогай казакоў падпарадкаваць сабе Наваградак.

13—14 верасьня 1656 г. у прускім горадзе Фраўенбургу адбылося пасяджэньне швэдзкай Каралеўскай Рады з удзелам Карла X Густава, Юхана Уксэнштэрны, Густафа Стэнбока, Карла Леянхуфвуда, Лёрэнца фон дэр Ліндэ і Вільгельма Таўбэ. Галоўнай праблемай быў пошук новых хаўрусьнікаў супраць Расеі і Польшчы. У ходзе абмеркаваньня было прынята рашэньне паспрабаваць утварыць шырокую кааліцыю некаталіцкіх усходнеэўрапейскіх краін на чале з Швэцыяй. Кааліцыя магла ўключыць Брандэнбург-Прусію, Украіну, Трансыльванію і літоўскія землі, падуладныя Радзівілу. Швэцыя расцэньвала гэты альянс як адказ Польшчы, якая толькі што стварыла антышвэдзкую лігу з удзелам Расеі, імпэрыі Габсбургаў, Галяндыі і Даніі[962]. 3 лістапада 1656 г. Рэч Паспалітая і Расея падпісалі Віленскае перамір’е ў Нямежы. Пры гэтым асобна было падкрэсьлена, што хаўрусьнікі павінны змагацца зь «іх супольнымі ворагамі — швэдзкім каралём і прускім электарам»[963]. Швэдам удалося здабыць поўны тэкст пагадненьня праз сваіх літоўскіх агентаў[964].

11 ліпеня 1656 г., выконваючы ўмовы Марыенбурскай дамовы з Швэцыяй (заключанага 25 чэрвеня 1656 г.), герцагства Прусія абвясьціла вайну Рэчы Паспалітай[965]. У адказ літоўскае войска на чале з Гасеўскім пры падтрымцы сваіх хаўрусьнікаў крымскіх татараў, пачало рэгулярныя партызанскія рэйды на прускую тэрыторыю. Яно рабавала этнічна літоўскае насельніцтва Прусіі і яго лютэранскія кірхі. Мэтай гэтых рэйдаў было прымусіць электара Фрыдрыха Вільгельма

[954] Punti proposti dal Gentilhuomo Suedese inuiato a Polacchi. 1655. Italian. Bibliothıque Nationale de France; Département des manuscrits. Ms. fr. n. a. 9819. P. 357.

[955] Siedlecki. Brańsk Bogusława Radziwiłła. P. 50—51.

адмовіць у падтрымцы Швэцыі[966]. У выніку паводле Вярбілаўскага перамір'я паміж Літвой і герцагствам Прусія ад 8 лістапада 1656 г. Прусія на тры месяцы выйшла з вайны[967]. 1 сьнежня 1656 г. у Вене Польшча і імпэрыя Габсбургаў падпісалі дамову аб узаемадапамозе. Згодна з дамоваю, імпэрыя Габсбургаў дасылала ў Польшчу для вайны з Швэцыяй 4000 войска[968]. Ян Казімер спадзяваўся знайсьці кампраміс і з украінскімі казакамі[969].

Такім чынам, перад швэдзкай дыпляматыяй паўстала сур'ёзная праблема. Швэцыі трэба было як мага хутчэй сфармаваць антыпольскую кааліцыю. Значную ролю ў гэтым працэсе адыгрываў Радзівіл. Ён падтрымліваў рэгулярныя кантакты паміж Хмяльніцкім і швэдамі. Праз Юрыя Нямірыча, ачольніка ўкраінскіх пратэстантаў і генэрала на швэдзкай службе, Радзівіл таксама меў сталую сувязь з трансыльванскім князем Юр'ем II Ракочы. Пра актыўны ўдзел Радзівіла ва ўтварэньні кааліцыі сьведчыць яго ліст камэнданту Слуцку Яну Гросу ад 24 ліпеня 1656 г. Радзівіл з аптымізмам адзначаў, што, як ён чакае, хуткі альянс Швэцыі з Прусіяй, Трансыльваніяй і Ўкраінай, аблегчыць становішча Слуцку[970].

Інтэнсіўныя кансультацыі выліліся ў ваенны пакт, які датычыў будучыні Рэчы Паспалітай. Яго заключылі 6 сьнежня 1656 г. у Радноце[971] Трансыльванія і Швэ-

[956] Carlbom, J. Levin. Tre dagars slaget vid Warschau den 18—20 juli 1656 samt de föregående mindre fältslagen 1655 och 1656: med planscher, karta och bataljplaner: ett 250-års minne. Stockholm, 1906; Nagielski, Mirosław. Warszawa 1656. Warszawa, 1990.

[957] Augusiewicz. Prostki 1656. P. 77.

[958] AGAD. AR. Dz. IV, teka 4, koperta 46. Listy Bogusława Radziwiłła. No. 47. P. 62—63.

[958] AGAD. Тамсама. № 49. С. 68—71.

[959] UBK. No. 136, 148.

[960] UBK. Дадатак II. № 19, 20.

[962] Svenska Riksrådets protocoll. Vol. XIV. P. 739.

[963] PCZRI. No. 183. C. 411.

[964] Literae Unó cum Protocollo Commissariorum Plenipoteutium Regis Poloniae super Tractatu qui Medictoribus Sac. Caes. Majest. Ferdinand III legatus Alegretti ab Alegrettis & Johannis Theodor de Lorbach, cum Moschorum Czar Commissariis Plenipotentiariis, habitus & conclusus est Vilnae in Magno Ducatu Lithuaniae d. 3. Novembris, Anno 1656. 16 c.; Klemming, Gustaf. Samtida skrifter rörande Sveriges förhållanden till fremmande magter Stockholm, 1881. Vol. 1. 1483—1658. P. 130.

[965] Opgenoorth, Ernst. Friedrich Wilhelm, der grosse Kurfürst von Brandenburg: eine politische Biographie. Göttingen, 1971. Vol. 1, 1620—1660. P. 331—337.

[966] Augusiewicz. Prostki 1656. P. 138—146.

[967] Тамсама. С. 190.

[968] Frost. After the Deluge. P. 78.

[969] Pernal, Andrew. The Expenditures of the Crown Treasury for financing of diplomacy between Poland and the Ukraine during the reign of Jan Kazimierz // Harvard Ukrainian Studies. 1981. No. 5. P. 102—120; Pernal, Andrew. The initial step towards the Union of Hadiach // Canadian Slavonic Papers. 1983. No. 25. P. 284—300.

[970] AGAD. AR. Dz. IV. teka 4. koperta 46. Listy Bogusława Radziwiłła. No. 47. P. 62—64.

[971] Сёньня — маленькі горад Ернут у Румыніі (жудэц Мурэш).

цыя, падпісаўшыся таксама і ад імя іншых сваіх некаталіцкіх хаўрусьнікаў. З швэдзкага боку дамову падпісалі Цэлестын Штэрнбах і Готхард Вэлінг. З боку Трансыльваніі — Янаш Кемені і Міхал Мікеш. Апроч іх, у перамовах удзельнічалі паслы герцагства Прусіі і Радзівіла.

Альянс паміж пратэстанцкімі Швэцыяй і Трансыльваніяй быў зразумелы. Карл X Густаў падтрымліваў сяброўскія адносіны з Ракочы яшчэ з 1651 г., калі зь місіяй у Трансыльваніі пабываў Бэнгт Шутэ[972]. Адначасова Ракочы меў шчыльныя кантакты з Украінай і Радзівіламі[973].

Радноцкая дамова ўтрымлівала першы ў гісторыі дэталёвы плян зьнікненьня Рэчы Паспалітай з мапы Эўропы праз падзел яе тэрыторыі паміж Швэцыяй, Трансыльваніяй, Прусіяй, Радзівілам і Украінай[974]. Згодна зь першым артыкулам дамовы, Швэцыя і Трансыльванія заключалі «вечны хаўрус», дзейны як для тагачасных уладароў гэтых краін, так і для іх нашчадкаў. Хаўрусьнікі Прусія, Украіна і Радзівіл у дадатку да дамовы абяцалі, што яны далучаюцца да «альянсу супраць караля Яна Казімера і тых, хто наўпрост ці ўскосна падтрымае яго або дапаможа яму, а таксама тых, хто супрацівіцца гэтаму альянсу, безь ніякіх выключэньняў для каго б там ні было».

Артыкулы 5 і 6 вызначалі будучыню ВКЛ пасьля падзелу Рэчы Паспалітай. Швэцыя мела атрымаць Жамойць, Ковенскі, Вількамірскі, Упіцкі і Браслаўскі паветы, а таксама часткі Полацкага і Віцебскага паветаў уздоўж ракі Дзьвіны. Тут Швэцыя кіравалася эканамічнымі інтарэсамі Рыгі. Апроч гэтага, да Швэцыі мусілі адысьці ўсё Падляшша (як літоўскае, так і польскае) і Інфлянты. Радзівіл атрымліваў Навагрудзкае ваяводзтва «з усім, што належала яму раней, дзе б яно ні знаходзілася, на правах сувэрэна». Трансыльваніі павінна было адысьці Берасьцейскае ваяводзтва. Будучыня Беларусі, на той час захопленай Расеяй і Украінай, не агаворвалася.

З польскіх тэрыторый Швэцыя атрымлівала Куявію, Кашубію, каралеўства Прусію і Памор'е, а таксама часткі Плоцкага і Мазавецкага ваяводзтваў ды Курляндыю зь Семігаліяй. Вялікі электар Брандэнбургу-Прусіі меўся атрымаць Ленчыцкае, Каліскае, Пазнанскае ваяводзтвы (Вялікую Польшчу), а таксама Серадзь разам зь Велюнскай зямлёй, «як было дамоўлена раней»[975]. Як вядома, згодна з пагадненьнем, дасягнутым у Лабіяў 20 лістапада 1656 г., Карл X Густаў прызнаў

[972] Runeby. Bengt Skytte, Comenius och abdikationskrisen. P. 360—382; Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 5—8.

[973] Velychenko, Stephen. Bohdan Khmelnytsky and the Rakoczi of Transylvania during the Polish election of 1648 // Journal of Ukrainian Studies. 1983. No. 8. P. 3—12.

[974] Трансыльванскую копію дамовы гл. у: Sziláfyi. Transsylvania et bellum boreo-orientale. Vol. 2. P. 191—196 ; швэдзкі тэкст — у: Foedus inter S. R. M. tem Sveciae & Principem Transylvaniae 1656. UUB. Palmsk 98. Acta Sueco-Turcica. Vol. XI. No. 26. P. 201—220.

[975] Гэтыя землі былі паабяцаныя герцагству Прусія згодна з Марыенбурскай дамовай паміж Брандэнбургам-Прусіяй і Швэцыяй ад 25 чэрвеня 1656 г.: Kubała. Wojna szwecka. P. 334.

Фрыдрыха Вільгельма манархам каралеўства Прусія і падарыў яму некаторыя польскія землі, каб утрымаць яго ў альянсе з Швэцыяй[976].

Трансыльванія мусіла атрымаць усе астатнія землі, за выключэньнем Украіны: «Усё, што застаецца ў Малой і Вялікай Польшчы, за выключэньнем тэрыторый, пералічаных вышэй, ці тэрыторый, якія будуць апісаны ў наступным артыкуле». Такім чынам, Трансыльваніі даставаліся Малая Польшча з Кракавам і большасьць Мазовіі, уключаючы Варшаву, Падольле, Галіцыю і Валынь з гарадамі Львоў, Луцк і Берасьце (у Літве)[977]. Пасьля складаных перамоваў Швэцыя паабяцала Ракочы тытул караля Польшчы[978].

Артыкул 6 адлюстроўваў супярэчнасьці адносна межаў Украіны. Было адзначана, што Карл X Густаў «хоча захаваць Украіну для казакоў», тады як Ракочы «адмаўляе як альянс з казакамі, так і перадачу ім іх тэрыторый, бо лічыць, што гэта можа пашкодзіць яго будучаму становішчу ў Польшчы». Прадметам найбольшых спрэчак паміж Швэцыяй і Трансыльваніяй было Падляшша. Швэцыя прэтэндавала на «ўсё Падляшша па абодвух берагох Бугу», але з гэтым не пагаджалася Трансыльванія. У выніку хаўрусьнікі вырашылі адкласьці вырашэньне гэтага пытаньня да далейшых перамоў.

У артыкуле 10 пратэстанцкія хаўрусьнікі абавязваліся значна палепшыць «становішча эвангелічнай царквы адпаведнымі захадамі», а таксама талерантна ставіцца да праваслаўя, пашыранага сярод украінскіх казакоў. Нарэшце, дамова прадугледжвала стварэньне ўмоў для «неабмежаванага гандлю паміж двума бакамі ў згодна з спрадвечнымі звычаямі».

Супольную кампанію супраць Рэчы Паспалітай з наступным яе падзелам Швэцыя і Трансыльванія плянавалі на вясну 1657 г. Было сумнеўна, ці далучацца да яе Радзівіл і ўкраінскі гетман. Хмяльніцкі адчуваў сябе пакрыўджаным у Радноце, а князя Багуслава цяжка паранілі 8 кастрычніка 1656 г. у бітве пад Просткамі, і ён трапіў у палон да крымскіх татараў. 22 кастрычніка 1656 г., пасьля перамогі над літоўскай арміяй каля Філіпава, яго вызвалілі швэды[979]. Апынуўшыся на волі, Багуслаў Радзівіл выехаў у Прусію. Два ягоныя палкі зьведалі вялікія страты. Гэта значна зьменшыла яго палітычны ўплыў і міжнародны аўтарытэт. У Радноце інтарэсы Радзівіла адстойвалі два паслы — Ян Мяжэнскі і Стэфан Нямірыч[980]. Аднак яму паабяцалі толькі адну з трох частак яго меркаванай дзяржавы — Наваградзкае ваяводзтва. Астатнія тэрыторыі, на якія ён прэтэндаваў, такія як Падляшша, мусілі адысьці да Швэцыі. Берасьцейскае ваяводзтва забірала Трансыль-

[976] Frost. After the Deluge. P. 79.

[977] Робэрт Фрост памылкова сьцьвярджае, што Ракочы быў паабяцаны тытул вялікага князя літоўскага разам зь большай часткай ВКЛ: Frost. After the Deluge. P. 85.

[978] Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 32—33.

[979] Relation om Svenska armens seger ofver Litthauerna under Fältherre Gontzewski vid Philippowa, October 22/12, 1656. RA. Militaria, 1295.

[980] Wasilewski, Tadeusz. Jan Mierzeński // PSB. 1976. Vol. XXI/1. P. 19.

ваніяя. Тое, што Радзівіл атрымаў Наваградзкае ваяводзтва, нічога не вырашала, бо яно і так практычна заўсёды было ў ягоных руках. Значную частку гэтага ваяводзтва складала Слуцкае княства. Мясцовая шляхта, сярод якой было шмат пратэстантаў і праваслаўных, горача падтрымлівала пляны Радзівіла. Яе вабіла пэрспэктыва ўтварэньня з ваяводзтва асобнай дзяржавы з далучэньнем прылеглых земляў. Гэта дазволіла б шараговаму Навагрудку, які некалі быў рэзыдэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх і літоўскай праваслаўнай мітраполіі, аднавіць свой страчаны статус сталіцы. Тым ня менш, Радзівіл быў вельмі засмучаны сьціплымі для сябе вынікамі Радноцкага пакту. Мяжэнскі пратэставаў супраць яго прыняцьця ў такім выглядзе. Ён апэляваў да Кейданскіх пагадненьняў і патрабаваў уключыць у Радзівілаву дзяржаву Падляшша і Берасьцейшчыну[981]. З сакавіка 1657 г. Мяжэнскі вёў інтэнсіўныя перамовы ў Эльбінгу з швэдзкімі дыпляматамі фон Шліпэнбахам і Матыясам Б’ёрнклёў. Ключавым пытаньнем было ўключэньне ў склад Радзівілавага княства Берасьцейшчыны і Падляшша. Мяжэнскі спасылаўся на ліпеньскія пагадненьні 1655 г. з Дэлягардзі. Б’ёрнклёў прызнаў прэтэнзіі на паўночную частку Падляшша і паабяцаў у будучыні перадаць у склад Радзівілавай дзяржавы Берасьцейшчыну[982]. Пасьля дадатковых саступак Радзівіл паслаў свой полк на чале з палкоўнікам Эбэрхардам Путкамэрам да Карла Х Густава. Нягледзячы на адносна малы лік палка Путкамэра, Швэцыя па-ранейшаму была зацікаўлена ў яго ўдзеле ў літоўскай кампаніі, таму што большасьць вояроў Радзівіла былі тутэйшыя і, адпаведна, знаёмыя зь мясцовымі ўмовамі.

Украінскім казакам не дасталося ў Радноце нічога. Перад заключэньнем пакту Хмяльніцкі даслаў у Трансыльванію сваіх паслоў — Івана Кавалеўскага і Івана Грушу. Ім даручалася перадаць прапанову Ўкраіны заключыць дамову пра ўзаемную абарону абедзьвюх краін, а таксама праваслаўнай і пратэстанцкай канфэсій «ад хітрых ляхаў, якія падбіваюць розныя народы да нашай пагібелі». Гетман паведамляў, што Расея і Польшча неўзабаве зьбіраюцца падпісаць перамір’е. Як казаў Хмяльніцкі, «мы пільна чакаем будучых вынікаў гэтага аб’яднаньня; асноўная ўмова тут у тым, каб гэта не пашкодзіла швэдзкаму каралю». Украінска-швэдзкія дачыненьні былі важным аспэктам указаньняў, дадзеных паслам. Хмяльніцкі адзначаў, што дамова з Трансыльваніяй магчымая толькі ў тым выпадку, калі яна ня будзе супярэчыць швэдзкім інтарэсам, і дадаваў: «Яго Каралеўская Мосьць кароль Швэцыі сам можа быць сьведкам, што ні цяпер, ні раней ён ня ведаў ніякага зла ад нас, і нашы намеры добрыя, бо ніколі не было ніякіх варожых дзеяньняў зь яго боку да нас»[983]. Гэтак гетман, відаць, спадзяваўся ўгаварыць Швэцыю таксама далучыцца да пагадненьня. Ён спадзяваўся, што яго паслы змогуць сустрэцца з пасольствам Карла Х Густава. 17 верасьня 1656 г. Украіна і Трансыльванія

[981] Белы, Алесь. Радноцкі дагавор 1656 г. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 2001. Том 6. С. 69.
[982] Ян Мяжэнскі — Багуславу Радзівілу. 30 сакавіка 1657. AGAD. AR. Dz. V. sygn 9646. NR MKF 65/498-65/531. P. 39—42.
[983] UBK. No. 135, 133.

падпісалі дамову аб узаемнай абароне. Прамаскоўская партыя казацкай старшыны адрэагавала адмоўна, але, тым ня менш, у кастрычніку 1657 г. дамову ўхвалілі[984]. Ракочы прызнаў прэтэнзіі Украіны на ўсходнія ваяводзтвы Польшчы і паўднёвую частку Літвы, а таксама «ўсе гарады да ракі Віслы, населеныя рускімі людзьмі»[985]. Аднак у Радноце Трансыльванія «забылася» пра сваё ранейшае абяцаньне Украіне адмовіцца ад уласных прэтэнзій на рускія землі. Нездаволены, Хмяльніцкі запатрабаваў правядзеньня новых кансультацый. Швэды таксама настойвалі на далучэньні казакоў да пакту[986]. Напрыканцы верасьня 1656 г. у трансыльванскім горадзе Шамасуйвар адбыліся кансультацыі паміж украінскімі дыпляматамі Кавалеўскім і Самойлам Багдановічам ды прадстаўнікамі Трансыльваніі і Швэцыі[987]. І Карл Х Густаў, і Ракочы выказалі зацікаўленасьць у ваеннай падтрымцы з боку казакоў, але яны не хацелі пашыраць межы гетманшчыны[988]. Хаўрусьнікі адчувалі, што ўзмацненьне пазыцый Украіны можа пашкодзіць іх уласным інтарэсам у Польшчы. Таму канфлікт вакол украінскіх уладаньняў так і ня быў вырашаны. Тым ня менш, 10 лютага 1657 г. Хмяльніцкі выдаў унівэрсал пра тое, каб накіраваць казацкае войска на дапамогу Трансыльваніі і Швэцыі ў іх барацьбе супраць Польшчы[989].

Карл Х Густаў лічыў Радноцкую дамову вялікім дыпляматычным посьпехам[990]. У сытуацыі, калі астатнія справы Швэцыі ў Рэчы Паспалітай ішлі дрэнна, кароль быў шчасьлівы, што яму ўдалося арганізаваць патэнцыйна моцны ваенны альянс, які мог зьмяніць становішча на карысьць Швэцыі. Пратэстанцкія партнэры дамовіліся аб падзеле Рэчы Паспалітай і рашуча ўзяліся за справу. Мясцовыя эліты Рэчы Паспалітай — г. зн. шляхта герцагства Прусія, Украіны і прыхільнікі Радзівіла ў Літве — апынуліся ў шэрагу хаўрусьнікаў. Гэта сьведчыць пра сур'ёзны канфлікт паміж цэнтральным каралеўскім урадам і правінцыямі Рэчы Паспалітай. Радзівіл быў адным з галоўных ініцыятараў скасаваньня уніі паміж ВКЛ і Польшчай. Як правіла, польскія гісторыкі мала ўвагі надаюць Радноцкай дамове і яго рэлігійным аспэктам. З тых, хто зьвяртае ўвагу на Радноцкі пакт і ролю Радзівілаў, варта згадаць Януша Тазьбіра, які слушна заўважыў, што:

*Сучасныя гісторыкі працягваюць спрачацца, палітычныя ці рэлігійныя матывы рухалі Янушам і Багуславам Радзівіламі пры здачы Літвы швэдам у 1655 г., але тагачасныя сьведкі адзначаюць, што магнаты, якія падпісалі Радноцкую дамову 1656 г., былі кальвіністамі. Дамова прадугледжвала падзел*

984 Khavanova. The foreign policy of the principality of Transylvania, P. 142.

985 Нариси з історії дипломатії України. Київ, 2001. С. 153.

986 Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 39.

987 Самійла Величко. Літопис. Київ, 1991. Том 1. С. 197. Зауваження 587.

988 Нариси з історії дипломатії України. Київ, 2001. С. 152.

989 UBK. No. 150.

990 Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 36.

*Рэчы Паспалітай паміж Швэцыяй, Брандэнбургам, Трансыльваніяй і Багуславам Радзівілам*[991].

У лютым 1657 г., згодна з Радноцкай дамовай, хаўрусьнікі пачалі новую ваенную кампанію супраць Рэчы Паспалітай, каб зьнішчыць яе раз і назаўсёды. 1 красавіка 1657 г. войскі Карла X Густава аб'ядналіся зь сіламі Ракочы і ўкраінскімі казакамі пад вёскай Хмелеў непадалёк ад былога арыянскага асяродку Ракава. Ракочы ўзначальваў 24-тысячнае трансыльванскае войска. На чале дывізій стаялі генэралы Фэрэнц Ішпан, Пэтэр Гусар і Янаш Кемені. Палкоўнікі Антон Ждановіч (у швэдзкіх крыніцах «Antonio Sdanowitz») і Іван Фёдаравіч Багун камандавалі ўкраінскім корпусам, які налічваў 6000 коньніцы[992]. Карл X Густаў асабіста ўзначаліў сямітысячнае швэдзка-прускае войска. Генэралы Адольф Ёган Пфальцкі і Юрый Нямірыч, а таксама палкоўнік Ёган Бэнэдыкт фон Шонлебэн камандавалі чатырохтысячнымі швэдзкімі сіламі[993]. Юрый Нямірыч, які стаяў на чале ўкраінскіх пратэстантаў, ад пачатку Паўночнай вайны 1655—1660 гг. перайшоў на швэдзкі бок[994]. Гэты заможны магнат быў дасьведчаным афіцэрам і выдатным знаўцам польскай і расейскай ваеннай тактыкі. Ён нават апублікаваў доктарскую дысэртацыю на гэтую тэму ў Парыжы. Як радыкальнаму пратэстанту, Нямірычу ў Польшчы былі закрыты ўсе шляхі да вышэйшых пасадаў. У швэдзкім жа войску ён атрымаў званьне генэрала і тры гады змагаўся супраць Польшчы на баку Карла X Густава.

800 коньнікаў з палка Радзівіла на чале з палкоўнікам Путкамэрам таксама ўвайшлі ў склад швэдзкага войска. Радзівіл, цяжка паранены ў бітве пад Просткамі, ня мог удзельнічаць у кампаніі. Аднак ён вёў інтэнсіўную дыпляматычную дзейнасьць з Прусіі, каб рэалізаваць свае прэтэнзіі на Берасьце.

Заняўшы цэнтральную частку Польшчы, хаўрусьнікі рушылі на Літву. Карл X Густаў абраў сваёй стаўкай Венграў — пратэстанцкі цэнтар на Падляшшы. Тут войскі кааліцыі ўзмацніліся швэдзкай арміяй на чале з генэралам Якубам Казімірам Дэлягардзі і прускай трохтысячнай дывізіяй, якой камандаваў Георг фон Вальдэк. У Венграве хаўрусьнікі даведаліся, што польска-літоўскія войскі фарсавалі Буг і наступаюць на Берасьце. Вайскаводцы хаўрусьнікаў вырашылі нагнаць

[991] Tazbir, Janisz. The fate of Polish Protestantism in the seventeenth century // A Republic of Nobles. Studies in Polish history to 1864. Ed. Jan Fedorowicz. Cambridge University Press, 1982. P. 207.

[992] Erik Dahlberghs dagbok. I urval och med inledning av Alf Åberg. Stockholm, 1962. P. 78—83. Шкоцкі афіцэр на швэдзкай службе Патрык Гордан ацаніў колькасьць украінцаў у 6000 чалавек: Гордон, Патрик. Дневник 1635—1659. Москва, 2000. С. 114. Сучасныя ўкраінскія гісторыкі называюць сумнеўную лічбу ў 20 000 казакоў.

[993] Pufendorf. Samuelis liberi baronis de Pufendorf De rebus a Carolo Gustav. P. 259—261; Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 44—45; Jacobson, Gustaf. Sveriges historia till våra dagar. Sjunde delen. Stockholm, 1926. P. 315; Carlson. Sveriges historia. P. 357—358.

[994] Niemirycz, Georgus. Discursus De Bello Moscovitico. Parisiis, 1632.

іх. Тактычны плян гэтага этапу кампаніі заключаўся ў тым, каб зьнішчыць 12-тысячнае войска гетманаў Сапегі і Станіслава Патоцкага. У Берасьці гэтая армія мелася зьяднацца з дывізіяй Гасеўскага. Хуткі наступ швэдзкіх войскаў разбурыў гэтыя пляны. Літоўскія атрады адышлі ад Берасьця да Слоніма[995].

Стратэгічнай мэтай апэрацыі была ліквідацыя стаўкі Яна Казімера ў Літве. Сапега засяродзіў літоўскае войска на Берасьцейшчыне. 27 студзеня 1657 г. яго атрады занялі Тыкоцін — апошні замак, падпарадкаваны швэдам, і зьнішчылі яго абаронцаў. Загінулі абодва камандзіры тыкоцінскага гарнізону — швэдзкі палкоўнік Дыдрык фон Розэн і літоўскі палкоўнік Ёган Атэнгаўз[996]. З таго часу Ян Казімер кантраляваў значную тэрыторыю ВКЛ, якая ўключала Жамойць, Берасьцейшчыну і Падляшша. У сакавіку 1657 г. у Берасьці адбылася рада літоўскіх сэнатараў — прыхільнікаў польскага караля. Яны накіравалі пасольства да Яна Казімера і папрасілі яго стварыць у будучыні антышвэдзкую кааліцыю і заключыць мір з Расеяй[997].

Швэцыя плянавала захапіць Берасьцейшчыну і такім чынам авалодаць галоўнай камунікацыйнай лініяй паміж Літвой, Мазовіяй, Падляшшам, Прусіяй і Украінай. У выпадку працягу вайны з Расеяй, «ворагам, які мае ўплыў на казакоў», кантроль над Берасьцем меў вялікае значэньне[998]. Як адзначаў пазьней Карл Х Густаў, берасьцейская кампанія не магла скончыцца няўдачай, бо «ніводзін горад ня мог нам супрацьстаяць. Аб'яднаныя, мы былі занадта магутныя»[999]. Войскі хаўрусьнікаў прайшлі праз Гродзіск і пераправіліся цераз Буг у Крэмені. Тут Карл Х Густаў загадаў генэралу Густаву Ота Стэнбакуісьці з Прусіі на Берасьце разам з гарматамі, ваенным транспартам і палявымі кухнямі[1000]. 7 траўня хаўрусьнікі за-

[995] Relation öfver ett och annatt hwad som passerat åhr wiid Konlig. Maij:tz Armeé, uppe uthi Påland och Littowen ifrån d. sista Martij in till den 8 Maji A:o 1657 // Handlingar til uplysning af swenska krigshistorien. Stockholm, 1787. Vol. 1. P. 55—61.

[996] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 106; LM. No. 29.

[997] Rachuba. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym. P. 304.

[998] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 49.

[999] Relation till ständerna av statssekretaren Edvard Ehrensteen. Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdagsprotokoll. Vol. 7. Bilaga A. P. 119.

[1000] Carlson. Sveriges historia. P. 358. Note 1.

[1001] Erik Dahlberghs dagbok. P. 80—81.

[995] Relation öfver ett och annatt hwad som passerat åhr wiid Konlig. Maij:tz Armeé, uppe uthi Påland och Littowen ifrån d. sista Martij in till den 8 Maji A:o 1657 // Handlingar til uplysning af swenska krigshistorien. Stockholm, 1787. Vol. 1. P. 55—61.

[996] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 106; LM. No. 29.

[997] Rachuba. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym. P. 304.

[998] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 49.

[999] Relation till ständerna av statssekretaren Edvard Ehrensteen. Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdagsprotokoll. Vol. 7. Bilaga A. P. 119.

[1000] Carlson. Sveriges historia. P. 358. Note 1.

нялі Астражаны і Сямятычы. Каб захаваць наступ у тайне, войскі перамяшчаліся ўначы. Сілы кааліцыі ўступілі ў ВКЛ і рушылі на Берасьце празь Мілейчыцы і Такары. 9 траўня хаўрусьнікі захапілі першы горад Вялікага Княства — Высокае. У той жа дзень Эрык Дальбэрг прыбыў у навакольле Берасьця з рэгімэнтам драгунаў, каб вывучыць фартыфікацыі і скласьці плян гораду. Паводле словаў Дальбэрга, яго уразіў вонкавы выгляд умацаваньняў: «Берасьце было добрай і магутнай крэпасьцю з трывалымі мурамі і моцным гарнізонам»[1 001]. Яго аблога патрабавала падрыхтоўкі. У дадатак кожны з хаўрусьнікаў, апроч швэдаў, меў уласныя прэтэнзіі на гэты горад.

Берасьце, разьмешчанае на мяжы Літвы і Польшчы, на сутоку Бугу і Мухаўца, мела надзвычай вялікае палітычнае і гандлёвае значэньне. Гэта быў першы рускі горад у Літве, які атрымаў Магдэбурскае права (1390 г.). Пасьля 1566 г. Берасьце было цэнтрам аднаго з найбагайцейшых і найбольш густанаселеных ваяводзтваў. Гэта адзіны літоўскі горад, які ў XVII ст. стаўся месцам правядзеньня вальнага Сойму (1653 г.). У 1553 г. берасьцейскі староста Мікалай Радзівіл Чорны пачаў адсюль пратэстанцкую Рэфармацыю. Нават пасьля контррэфармацыі ў рэгіёне засталося шмат пратэстанцкіх прыходаў — чатыры супольныя лютэранска-рэфармацкія царквы (у Берасьці, Нэйдорфе, Славатычах, Венграве), дванаццаць кальвінскіх збораў (у Ямне, Непакойчыцах, Сяльцы, Старым Сяле, Уладаве, Сокалаве-Падляскім, Сямятычах, Орлі, Нурцы, Рускаве, Дакудаве, Вілянаве) і арыянскі прыход у Дабрынцы. Такім чынам, Берасьцейшчына мела вялікае значэньне для літоўскіх пратэстантаў. Як згадвалася вышэй, Радзівіл марыў зрабіць яе часткай уласнай дзяржавы. Але паводле Радноцкай дамовы Берасьце і Берасьцейшчына меліся адысьці да Трансыльваніі. Згодна з плянамі Ракочы, Берасьцейшчына павінна была стаць часткай будучай Вялікай Вугоршчыны. Гістарычныя прэтэнзіі Трансыльваніі грунтаваліся на тым, што ў XIII ст. Берасьцейшчына ўваходзіла ў склад Галіцка-Валынскага княства — васала Вугорскага каралеўства. У 1349—1351 гг. вугорскі кароль Людвік I Вялікі займаў Берасьце. У 70-я гг. XIV ст. праваслаўны князь Фёдар Берасьцейскі прызнаў сябе васалам Вугорскага каралеўства. У 1370—1382 гг. Людвік I быў таксама каралём Польшчы. У выніку пэрсанальнай Крэўскай уніі паміж Літвой і Польшчай (1385 г.) дачка караля Людвіка I Ядвіга выйшла замуж за вялікага князя літоўскага Ягайлу — так быў пакладзены пачатак каралеўскай дынастыі Ягелонаў[1 002].

Украінскія казакі таксама прэтэндавалі на Берасьце. У гэтым горадзе ў 1596 г. была заснавана ўніяцкая царква, якую ненавідзелі казакі. У пэрыяд каталіцкай контрарэфармацыі ў горадзе ўзьнікла сем каталіцкіх кляштараў і езуіцкі калегіюм. Аднак украінскія вярхі лічылі Берасьце неад'емнай часткай сваёй казацкай дзяржавы, бо гэты горад насялялі пераважна русіны. Як мы ўбачым далей, украінцы ўпарта трымаліся гэтага тэзісу падчас перамоваў з швэдамі. Берасьцейскі

[1001] Erik Dahlberghs dagbok. P. 80—81.

[1002] Белы. Невядомыя эпізоды «невядомай вайны». С. 128—129.

праваслаўны Сімяонаўскі манастыр, дзе захоўваліся мошчы Афанасія Філіповіча, меў вялікае сымбалічнае значэньне для казакоў. Гэты харызматычны рэлігійны дзеяч быў забіты ў 1648 г. каталіцкай шляхтай за супрацоўніцтва з казакамі. Таму ўкраінскія казакі лічылі сваім абавязкам вярнуць Берасьце ва ўлоньне праваслаўнай царквы. Гэты горад быў таксама сталіцай «Літоўскага вааду» — габрэйскай аўтаноміі ВКЛ, што была для казакоў як чырвоная ануча для быка[1 003].

11 траўня войскі хаўрусьнікаў узялі ў аблогу Берасьце. Пасьля першага гарматнага абстрэлу залога вывесіла белы сьцяг[1 004]. Кашталян берасьцейскі Мэльхіёр Савіцкі прапанаваў абмяняцца эмісарамі. У берасьцейскае пасольства на чале з Рыгорам Войнам увайшлі два літоўскія шляхціцы і нямецкі найміт. Ад імя Швэцыі перамовы вялі тры літоўскія шляхціцы — Нямірыч, Путкамэр і невядомы ротмістар з палка Радзівіла. У апошні момант Карл X Густаў вырашыў замяніць гэтага ротмістра Эрыкам Дальбэргам, які мусіў размаўляць зь нямецкімі наймітамі. Дальбэргу ўдалося высьветліць, у якім стане муры, і знайсьці месца, прыдатнае для прыступу. Ён запалохаў абаронцаў Берасьця словамі: «Вы мусіце ведаць, што ў распараджэньні швэдзкага караля 80 000 [sic!] вугорцаў і казакоў. Калі вы наважыцеся стрэліць, яны за гадзіну пераб'юць вас усіх дазваньня»[1 005].

16 траўня 1657 г. берасьцейцы падпісалі ўмовы капітуляцыі. Быў надрукаваны тэкст дамовы пад назвай «Пункты пагадненьня аб перадачы гораду і замку Берасьця каралю швэдзкаму і князю трансыльванскаму»[1 006]. Згодна зь першым артыкулам, горад здаваўся каралю Швэцыі і князю Трансыльваніі на ўмовах захаваньня ўсіх яго сьвецкіх і рэлігійных правоў. Згодна з артыкулам 7, Берасьце заставалася пад кантролем Трансыльваніі. Мясцовая залога мелася пакінуць горад на працягу трох дзён пасьля падпісаньня пагадненьня, а трансыльванскі князь прызначыць камэнданта. Артыкулы 2, 3, 4 і 8 абгаворвалі ўмовы капітуляцыі. Жаўнераў адпускалі з харугвамі і мушкетамі. Каб пазьбегнуць актаў помсты «польскім жаўнерам Берасьця», 300 швэдзкіх коньнікаў мусілі суправаджаць залогу «да сажалкі». Артыкулы 5 і 6 вызначалі стасункі пераможцаў і мясцовага насельніцтва. Швэдзкі кароль і трансыльванскі князь гарантавалі асабістую бясьпеку і абарону ў межах гораду ўсім, хто заявіць аб сваёй ляяльнасьці. Шляхце, якая пагодзіцца служыць Швэцыі ці Трансыльваніі, прапаноўваліся пасады. 19 траўня залога з «2300 выдатных жаўнераў, 1000 чалавек мяшчанскага і габрэйскага апалчэньня» выйшла з гораду вітаць караля Швэцыі[1 007]. Тэкст пагадненьня

[1003] Cygielman, Shmuel Arthur. Jewish autonomy in Poland and Lithuania until 1648. Jerusalem, 1997.

[1004] Гордон. Дневник. С. 116.

[1005] Erik Dahlberghs dagbok. P. 83—85.

[1006] Accords Puncta, so Bey Übergebung der Stadt und Scholsses Brescie Litevski. An Jhr. Königl. Mytt. zu Schweden und Jhr. Fürstl. Durchl. Zu Siebenbürgen/geschlossen. Jm Jahr 1657. Dat im Feld-lager bey Brescie den 16 Maji/st. n. Anno 1657. 4 pp. KB. MFref Sveriges krig. R 12. Ex. A. No. 625

[1007] У Літве габрэі ўваходзілі ў гарадзкое апалчэньне і мелі ўласную зброю: Стукалич, Владимир. Белоруссия и Литва. Очерки по истории городов Белоруссии. Витебск, 1894. С. 30; Боровой, Самуил. Еврейские хроники XVII столетия. Москва—Иерусалим, 1997. С. 21—27, 66.

аб капітуляцыі не ўключаў пунктаў, дзе б згадвалася пра прэтэнзіі Радзівіла або казакоў. Як адзначаў Дальбэрг, «паводле пагадненьня Берасьце рабілася ўладаньнем Ракочы»[1 008]. У горадзе разьмясьціўся вугорскі гарнізон, а яго губэрнатарам стаў палкоўнік Андраш Гаўдзі. Берасьце зрабілася галоўнай базай Трансыльваніі ў Літве. Каб заваяваць увесь павет, хаўрусьнікі ўзялі Кобрын[1 009].

23 траўня група швэдзкіх мастакоў і картографаў на чале з Дальбэргам закончыла складаць плян гораду і малюнкі дзьвюх гарадзкіх панарам. У 1696 г. Пуфэндорф надрукаваў адну зь іх пад назвай «Аблога Берасьця»[1 010]. Падрабязны плян Берасьця з умоўнымі знакамі, а таксама панарама гораду зь левага берага Бугу не выдаваліся і засталіся ў Каралеўскай бібліятэкі Швэцыі[1 011]. На пляне гораду адлюстраваная вялікая лютэранская кірха — *«Pfarr Kirche»*, разьмешчаная ў паўднёвай частцы Старога Гораду. Гэта каштоўны дакумэнт, які сьведчыць, што ў Берасьці існаваў пратэстанцкі храм[1 012]. На загад Дальбэрга польскі інжынэр Бонэл склаў другі дэталёвы плян берасьцейскай крэпасьці[1 013].

Вялікай праблемай, зь якой сутыкнуўся Карл X Густаў, была недысцыплінаванасьць у шэрагах арміі хаўрусьнікаў. Жаўнеры глядзелі на ваколіцы Берасьця як на захопленую варожую зямлю. Украінскія казакі, што, як казалі швэды, «адрозна ад Ракочы ўвогуле ня слухалі нашых загадаў»[1 014], чынілі асаблівую шкоду: забівалі каталікоў, пратэстантаў і габрэяў. Так, яны разбурылі лютэранскую кірху ў Нэйдорфе, забралі 70 тамтэйшых пасяленцаў у Славатычы і там пакаралі іх сьмерцю, прычым пасяленцы «пакляліся ў вернасьці праваслаўнай царкве як адзінай веры, але казакі іх усё адно забілі, таму што былі пэўныя, што пасьля іх сыходу тыя зноў перавернуцца ў лютэранства і таму мусілі памерці». Русіны Славатычаў дапамагалі казакам катаваць лютэран[1 015]. У 1658 г. Славатычы атрымалі «вызваленьне ад падаткаў на чатыры гады праз зруйнаваньні, пакінутыя варожымі войскамі — швэдамі, вугорцамі, малдаванамі, валахамі і казакамі»[1 016].

Трансыльванскія войскі лютавалі ў дачыненьні да берасьцейскай шляхты, асабліва кліентаў Сапегі. Вугорцы зраўнавалі зь зямлёй Сапегаў маёнтак Бочкі і адсеклі галовы дзесяці тамтэйшым шляхціцам. Такі ж лёс напаткаў і шматлікіх іншых[1 017]. Швэдзкія палкі таксама бралі ўдзел у рабунках. Шкоцкія найміты разра-

1008 Erik Dahlberghs dagbok. P. 85.

1009 LM. No. 451.

1010 Pufendorf. Samuelis liberi baronis de Pufendorf De rebus a Carolo Gustav.

1011 Dahlberg, Erik. Plan över Briestie. KB. Handrit. Vol. 41:16b. No. 10782; Briestie. Handrit. Vol. 41:13a. No. 10778.

1012 Швэдзкія графічныя матэрыялы — унікальная крыніца па гісторыі Берасьцейскага гарадзішча, разбуранага ў 1833—1842 гг. пры будаўніцтве расейскімі ўладамі Берасьцейскай крэпасьці.

1013 KA. Krigen mot Polen och Ryssland 1655—1657 samt mot Brandenburg 1658—1660. 0406:17:001:001.

1014 Tersmeden. Armia Karola X Gustawa — zarys organizacji. P. 159.

1015 Schultz. Kronika zboru ewangelicko-luterskiego Nejdorfskiego.

1016 LM. No. 293.

1017 Гордон. Дневник. С. 167—169, 172—173.

бавалі галоўнае ўладаньне Сапегі Кодзень паблізу Берасьця. Фінскія жаўнеры на чале з палкоўнікам Бэрэнсам разрабавалі Драгічын і яго прадмесьці[1 018]. Толькі Путкамэр, як прадстаўнік Літвы, спрабаваў спыніць рабункі і забойствы. Ён скардзіўся на жудасныя паводзіны шкоцкіх наймітаў генэралу Якубу Казімеру Дэлягардзі. Кароль дапытаў ротмістра шкоцкага атраду, але афіцэр адхіляў усе абвінавачаньні. Карл X Густаў так разьюшыўся, што ўдарыў ротмістра па галаве шабляй і кінуў яго ў вязьніцу[1 019].

Новы вайсковы рэжым жорстка абыходзіўся з насельніцтвам, так што шляхта і мяшчане пачалі яго ненавідзець. Але захопнікі мелі-такі пэўнае кола прыхільнікаў. 3 верасьня 1657 г. польскі кароль пазбавіў «шляхціцаў Пятра Грэка і Крыштапа Пякарскага, якія дапамагалі Гаўдзі і вугорцам у Берасьці», усіх маёнткаў[1 020]. Абодва гэтыя літоўскія шляхціцы паходзілі з заможных пратэстанцкіх родаў. Кальвініст Эндру Ахтэрлонім, шкоцкі афіцэр на літоўскай службе, зрабіўся сакратаром Гаўдзі ў Берасьці. За гэтую здраду ён страціў усе свае маёнткі ў Літве[1 021]. Шляхта ж, якая захавала вернасьць Польшчы, атрымала ўзнагароды за кошт калябарацыяністаў. Напрыклад, Станіславу Пшатоцкаму «за захаваньне вернасьці Рэчы Паспалітай» была падорана сядзіба ў Берасьці, якая належала хаўрусьніку швэдаў «цырульніку Гансу»[1 022]. Польскі кароль канфіскаваў маёнтак у здрадніка Яна Кісаржэўскага і перадаў яго Баляславу Дзяткоўскаму за ягоную адвагу «пры самаадданай абароне Берасьця з сваімі жаўнерамі, не зважаючы на небясьпеку, якая пагражала ім пры нападзе велізарнага войска Ракочы і швэдаў»[1 023]. Кароль таксама ўзнагародзіў уніята Яна Гераніма Жабу, які адмовіўся супрацоўнічаць з новымі ўладамі, а замест гэтага разам з групай шляхты ўцёк да Сапегі[1 024]. Іншага шляхціца, Астаха Тышкевіча, прызначылі падкаморым берасьцейскім за «насьледаваньне прыкладу сваіх продкаў у адмове ад швэдзкай пратэкцыі»[1 025].

Перадача Берасьця Трансыльваніі выклікала канфлікт унутры радноцкай кааліцыі. Ждановіч паскардзіўся Хмяльніцкаму, што вугорцы ўціскаюць казакоў. Пасол Швэцыі на Ўкраіне Юхан Гільдэнбрант запісаў у сваім дзёньніку, што Ждановіч адмовіўся падпарадкоўвацца генэралу Кемені і што паміж казакамі ды трансыльванцамі запанаваў узаемны недавер[1 026]. Дальбэрг і Пуфэндорф адзначалі тое самае[1 027]. Казацкая рада папярэдзіла трансыльванскага пасла Фэрэнца Шэбэшы, што «пераход да нас рускіх земляў на ўсход ад Віслы — вырашаная

1018 Гордон. Дневник. С. 170.
1019 Тамсама. С. 170.
1020 LM. No. 60.
1021 Тамсама. № 518.
1022 Тамсама. № 229.
1023 Тамсама. № 959.
1024 Тамсама. № 327.
1025 Тамсама. № 374.
1026 Яковлева, Тетяна. Гетманщина в другiй половинi 50-х рокiв XVII столiття. С. 201.
1027 Erik Dahlberghs dagbok. P. 88; Pufendorf. Samuelis liberi baronis de Pufendorf De rebus. P. 264.

справа, што не падлягае абмеркаваньню»[1 028]. Шэбэшы напісаў: «Ад казакоў — галаўны боль. Яны не задаволеныя, што наш князь Ракочы заняў Берасьце, бо лічаць, што ўсё, што знаходзіцца на ўсход ад Віслы, іхнае»[1 029]. Не зважаючы на інтарэсы Трансыльваніі, Ждановіч пачаў на ўсходзе Берасьцейскага ваяводзтва самастойную агітацыю за далучэньне тамтэйшых земляў да казацкай дзяржавы. Ужо 24 траўня 1657 г. Пінск перайшоў пад апеку Гетманшчыны[1 030].

У сваю чаргу, Радзівіл таксама рабіў усё, каб атрымаць Берасьце. Ён напісаў ліст на гэтую тэму пфальцграфу Адольфу Ёгану. Радзівіл абвінавачваў швэдаў, што яны нічога не зрабілі, каб ўратаваць яго замак у Тыкоціне. У выніку яго захапіў і ўшчэнт разбурыў Сапега. Цяпер жа Радзівіл вельмі хваляваўся за лёс Берасьця, таму што, як ён даведаўся ад пісара Ўкраіны Івана Выгоўскага, Хмяльніцкі таксама вырашыў далучыцца да швэдзкай кампаніі ў Літве і паслаў у Берасьце сваіх казакоў[1 031]. У інструкцыях Нямірычу Радзівіл прасіў таго пераканаць Карла X Густава аддаць горад яму[1 032]. У выніку пагадненьня між Радзівілам і ўкраінскім гетманам 26 красавіка 1657 г. Хмяльніцкі выдаў унівэрсал, якім забараняў казакам «шкодзіць, захопліваць ці рабаваць уладаньні яго сьветласьці князя Багуслава Радзівіла, а менавіта Сялец, Венграў і Старое Сяло»[1 033]. У час аблогі Берасьця Радзівіл зьвяртаўся да яго жыхароў зь лістом, у якім прапанаваў здаць горад Путкамэру. 4 ліпеня 1657 г., даведаўшыся пра адступленьне швэдзкага войска зь Літвы, каб ваяваць з Даніяй, Радзівіл напісаў Карлу X Густаву. Ён патрабаваў, каб кароль загадаў трансыльванскаму губэрнатару перадаць Берасьце яму. Радзівіл адзначаў, што яго патрабаваньні падтрымлівае Хмяльніцкі, які таксама супраць кантролю Трансыльваніі над Берасьцем. Багуслаў таксама папрасіў дазволу арганізаваць паход войскаў зь Берасьця на Слуцак. Кароль мусіў паслаць на Слуцак полк пад камандаваньнем Путкамэра — «мой полк», як пісаў Радзівіл. Да яго мелася далучыцца швэдзкая дывізія на чале з Ота Стэнбакам. Фінансаваць кампанію абяцаў вялікі электар Брандэнбургу-Прусіі Фрыдрых Вільгельм (стрыечны брат Багуслава)[1 034].

Карл X Густаў не адказаў на прапановы Радзівіла. Швэцыя адмовілася перадаць яму Берасьце, не жадаючы ўваходзіць у канфлікт з Ракочы, які меў магутнае войска, дзеля таго, каб задаволіць слабейшага хаўрусьніка. Слуцкая кампанія таксама праваліліся. Адмова Швэцыі тлумачылася наступнымі прычынамі. Па-першае, вайна з Даніяй вымусіла перанесьці вэктар швэдзкай палітыкі на захад. Па-

[1028] Нариси з історії дипломатії України. С. 153.

[1029] Khavanova. The foreign policy of the principality of Transylvania. P. 145.

[1030] UBK. No. 22. P. 375—376.

[1031] Bogusław Radziwiłł till Adolf Johan av Pfalz. February 4, 1657. Königsberg. French. RA. E 309.

[1032] Wasilewski. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła. P. 73—74.

[1033] UBK. No. 155.

[1034] Багуслаў Радзівіл — Карлу X Густаву. 4 ліпеня 1657. Па-францускu. Preüschmark/Prezmark. RA. Skrivelser till Konungen Karl X Gustaf. Vol. 47. Fürst Bogislaus Radzivill. No. 29.

другое, слуцкая кампанія магла выклікаць супрацьдзеяньне Расеі. У час, калі Швэцыя вяла абарончую вайну з Расеяй у Інгерманляндыі, новая літоўская кампанія магла спрычыніцца да адкрыцьця другога фронту. Па-трэцяе, швэды ведалі, што Радзівіл няўхільна траціць палітычную падтрымку ў ВКЛ. Апошняй прычынай была эпідэмія чумы, якая лютавала ў ВКЛ з канца траўня 1657 г.[1 035] Пасьля адмовы Карла X Густава Радзівіл разьвітаўся з плянамі стварэньня ўласнай дзяржавы пад швэдзкім пратэктарам.

Згодна з плянам Карла X Густава, некалькі швэдзкіх палкоў і ўкраінскія казакі павінны былі адысьці зь Берасьця і рушыць у герцагства Прусію, каб пераканаць Фрыдрыха Вільгельма не пакідаць альянсу. Армія Стэнбака мелася заставацца каля Берасьця для абароны ад літоўскага войска. Даведаўшыся, што Карл X Густаў пакідае Берасьце, Ракочы заявіў, што небясьпека ад крымскіх татар таксама змушае яго вярнуцца ў Трансыльванію, а ў Берасьці застанецца толькі адзін полк[1 036]. 24 траўня 1657 г. асноўныя сілы швэдзкай арміі на чале з Карлам X Густавам пакінулі Берасьце і разьмясьціліся ў Астражанах. Там кароль даведаўся, што Данія напала на Швэцыю і што 14 траўня падпісаная дамова аб узаемнай вайсковай дапамозе паміж Польшчай і імпэрыяй Габсбургаў. Гэтыя падзеі прымусілі швэдаў зьмяніць сваю стратэгію. Кароль прыняў рашэньне цалкам вывесьці войскі з тэрыторыі Рэчы Паспалітай[1 037]. 27 траўня 1657 г. апошні швэдзкі рэгімэнт на чале з Дальбэргам пакінуў Берасьце. Адыход швэдаў радыкальна зьмяніў геапалітычны балянс на карысьць антышвэдзкай кааліцыі.

Удзел швэдзкіх хаўрусьнікаў у берасьцейскай кампаніі выклікаў моцны палітычны крызіс ва Ўсходняй Эўропе. Для ўкраінцаў ён азначаў рэзкае пагаршэньне дачыненьняў паміж Хмяльніцкім і царом. Аляксей Міхайлавіч пратэставаў супраць дзеяньняў Ракочы. Ён пытаўся ў яго: «Чаму ты разам з маім ворагам Карлам пайшоў на Літву, якая належыць цару?»[1 038] У чэрвені 1657 г. маскоўскае пасольства на чале з Васілём Бутурліным прыбыло ў Чыгірын — сталіцу Ўкраіны. Бутурлін абвінаваціў казакоў у вайне на баку ворагаў Расеі і запатрабаваў неадкладнага выводу казацкага войска зь Берасьця. У той жа час ва Ўкраіну ўварваліся орды Крымскага ханства — хаўрусьніка Рэчы Паспалітай[1 039]. Хмяльніцкаму давялося прасіць у цара прабачэньня за ўдзел у швэдзкай кааліцыі. Пад ціскам Расеі палкоўніка Ждановіча абвінавацілі ў «бунце» і асудзілі на сьмерць за ўдзел у берасьцейскай кампаніі. Толькі раптоўная сьмерць Хмяльніцкага ўратавала яго

[1035] Акты Виленского магистрата и магдебургии. Вильна, 1879. Том 10. Ч. II. № 52.

[1036] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 51—52.

[1037] Kungl. Svea Livgardes historia. Band III:2. 1632 (1611) — 1660. Bertil Barkman. Sven Lundkvist och Lars Tersmeden. Stockholm, 1966. P. 306; Carl X Gustaf-Studier 5. Polens krig med Sverige 1655—1660. Krigshistoriska studier. Ed. Arne Stade and Jan Wimmer. Kristianstad, 1973. P. 378—380.

[1038] Kubała, Ludwik. Wojna brandenburgska i najazd Rakoczego w roku 1656 i 1657. Lwów, 1917. P. 200.

[1039] Тамсама. С. 201—211.

жыцьцё. Націск з боку Расеі і Крымскага ханства прымусіў Украіну адмовіцца ад вайны на швэдзкім баку. Адначасова пакінуў швэдзкую службу і вярнуўся дадому генэрал Нямірыч[1 040].

22 чэрвеня 1657 г. у Галіцыі войскі Рэчы Паспалітай на чале з Патоцкім і Аляксандрам Палубінскім атачылі трансыльванскую армію, якая адступала. У Чорным Востраве пад Львовам Трансыльванія капітулявала. Вугорскі гарнізон мусіў пакінуць Берасьце[1 041]. Адначасова на Трансыльванію напала Асманская імпэрыя, якая палічыла, што яе васал зрабіўся залішне самастойным. Краіна была вымушаная здацца. Гэта выклікала грамадзянскую вайну паміж прыхільнікамі і праціўнікамі Ракочы. У пошуках палітычнай падтрымкі ў 1659 г. Ракочы зьвярнуўся да Расеі. Але 7 чэрвеня 1660 г. ён памёр ад ран, атрыманых у чарговай няўдалай бітве з турэцкім войскам. Яго дзёрзкае жаданьне стаць польскім каралём было авантурай, лёс якой цалкам залежаў ад ваеннага посьпеху Швэцыі. Параза выклікала палітычны заняпад Трансыльваніі і зьнішчыла мары пра Вялікую Вугоршчыну[1 042].

Пасьля Берасьця Радзівіл перастаў узаемадзейнічаць з Швэцыяй. 10 жніўня 1657 г. ён напісаў, наколькі нам вядома, апошні ліст Карлу X Густаву. У ім ён сьцісла паведаміў пра сваё рашэньне перайсьці на службу Брандэнбургу-Прусіі[1 043]. 19 верасьня 1657 г. Брандэнбург-Прусія і Рэч Паспалітая падпісалі Вяляўскі трактат, паводле якога Ян Казімер дараваў амністыю Багуславу Радзівілу, які цяпер абавязваўся далучыцца да антышвэдзкай кааліцыі. 14 кастрычніка 1657 г. Ляндтаг герцагства Прусія прагаласаваў за прапанову Фрыдрыха Вільгельма абраць Радзівіла генэрал-губэрнатарам герцагства. 6 лістапада 1657 г. у Быдгашчы Радзівіл ад імя Прусіі падпісаў антышвэдзкі трактат з Рэччу Паспалітай[1 044]. Палітычная параза Радзівіла зь Берасьцем прывяла да канчатковай кансалідацыі літоўскай эліты вакол Польшчы. У лістападзе 1657 г. у Камянцы літоўскі камітэт пачаў разгляд справы аб капітуляцыі Берасьця і здрадзе шляхты, якая прыняла трансыльванскую пратэкцыю. Узначалілі камітэт Юры Глябовіч і Крыштап Завіша. Камітэт рэкамэндаваў каралю пазбавіць усю шляхту, абвінавачаную ў супрацоўніцтве з Швэцыяй і Трансыльваніяй, яе маёнткаў[1 045].

Такім чынам, да восені 1657 г. Швэцыя страціла ўсіх сваіх хаўрусьнікаў ва Ўсходняй Эўропе. Трансыльванію і Ўкраіну ахапіў палітычны хаос, і яны больш

[1040] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 201.

[1041] Sziláfyi, Sándor. Okmánytár II. Rákóczy György: diplomacziai összeköttetéseihez. Budapest, 1874. P. 552—559.

[1042] Khavanova. The foreign policy of the principality of Transylvania. P. 146—148.

[1043] Багуслаў Радзівіл — Карлу X Густаву. 10 жніўня 1657. Кёнігсбэрг. Па-француску. RA. Skrivelser till Konungen Karl X Gustaf. Vol. 47. Fürst Bogislaus Radzivill. No 24.

[1044] Wasilewski, Tadeusz. Radziwiłł Bogusław // PSB. Warszawa, 1987. Vol. XXX/1. P. 168; Jacoby, Jörg. Boguslaus Radziwill: der Statthalter des grossen Kurfürsten in Ostpreussen. Marburg-Lahn, 1959.

[1045] Rachuba. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym. P. 304, 342:22

не маглі выступаць на швэдзкім баку. Брандэнбург-Прусія пагадзілася далучыцца да Польшчы ў яе вайне супраць Швэцыі. Партыі Радзівілаў у Літве давялося перайсьці ў лягер праціўнікаў Швэцыі. У кастрычніку 1657 г. літвіны пачалі пасьпяховую антышвэдзкую кампанію ў Інфлянтах[1046]. У 1658 г. да іх далучыўся Радзівіл. Асноўныя сілы швэдзкай арміі пакінулі Рэч Паспалітую, калі пачалася вайна з Даніяй. Імпэрыя Габсбургаў таксама ўключылася ў вайну на польскім баку. Расея захоўвала перамір'е з Рэччу Паспалітай і працягвала вайну з Швэцыяй у Інгерманляндыі. Спробы швэдаў стварыць кааліцыю малых некаталіцкіх краін праваліліся, і Радноцкая дамова выявілася марнай. Пытаньне інтэрпрэтацыі падзей 1657 г. набыло актуальнасьць для сучаснай Беларусі. Афіцыйная гістарыяграфія абвінавачвае швэдаў у разбурэньні Берасьця. Тыя, як сьцьвярджаецца, «захапілі слаба ўмацаванае Берасьце, пасьля чаго горад быў разрабаваны, а большасьць дамоў у ім — спалены»[1047]. Насамрэч Берасьце спалілі расейскія войскі ў студзені 1660 г. Тагачасныя сьведкі сьцьвярджалі, што пасьля наступу Івана Хаванскага «Берасьце было зруйнавана да апошняга будынку, спалена і аддадзена забыцьцю»[1048]. Тым ня менш, насуперак фактам афіцыйная беларуская гістарыяграфія ўскладае адказнасьць за разбурэньне Берасьця на швэдаў. Гэта адпавядае погляду сучаснай улады на Беларусь як краіну, што заўсёды цярпела ад агрэсараў з Захаду і ніколі — ад Расеі[1049].

## 4.4. Украінска-расейскі канфлікт вакол Беларусі

*Мы павінны злучыць у адной дзяржаве ўсю старажытную Ўкраіну — Русь, дзе існуе грэцкая праваслаўная вера і дзе гавораць на рускай мове.*

Багдан Хмяльніцкі.

Каб захаваць казацкую дзяржаву, якая ўзьнікла ў межах Рэчы Паспалітай у 40-х гг. XVII ст. у выніку казацкага паўстаньня, гетман Багдан Хмяльніцкі вырашыў прыняць маскоўскі пратэктарат. 18 студзеня 1654 г. у Пераяславе Украіна і Маскоўская дзяржава заключалі адпаведную дамову. Паводле яе цар Аляксей Міхайлавіч браў «гетмана Багдана Хмяльніцкага і ўсю Запароскую сечу, зь яе гарадамі і землямі, пад сваю гасудараву высокую руку». З гэтага моманту цар набываў тытул «самадзержца ўсяе Вялікае і Малое Русі». Насамрэч Украіна, ці Малая Русь, як яе называлі маскавіты, апыналася ў залежнасьці ад Расеі толькі фармальна. Паводле пераяслаўскіх дамоўленасьцяў, гетман захоўваў права весьці не-

[1046] Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 117.
[1047] Брест. Путешествие сквозь века. Минск, 1999. С. 10.
[1048] Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. P. 74—75. Табліца 44.
[1049] Kotljarchuk. The tradition of Belarusian Statehood. P. 41—72.

залежную замежную палітыку. Дбаючы пра казацкія інтарэсы, Хмяльніцкі прымаў замежныя пасольствы і заключаў пагадненьні з Польшчай, Крымскім ханствам, Трансыльваніяй, Швэцыяй і Брандэнбургам-Прусіяй. Такім чынам, гетманская Ўкраіна існавала як паўнезалежная дзяржава[1 050].

Украіна далучылася да вайны з ВКЛ на баку Расеі, зыходзячы з уласных інтарэсаў. Хмяльніцкі называў сябе «князем кіеўскім і рускім»[1 051]. Месцазнаходжаньне Кіеву вызначаецца вельмі пэўна, але размыты панятак «Русь» мог ахопліваць усе землі Рэчы Паспалітай, дзе насельніцтва карысталася «рускай» (стараўкраінскай і старабеларускай) мовай. Украінскі наказны гетман Іван Залатарэнка праводзіў на Беларусі і Літве незалежную палітыку. Не зважаючы на Масковію, ён заклікаў літоўскія залогі пераходзіць на бок казакоў. Паралельныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі на беларускія паветы ВКЛ спарадзілі канфлікт між Расеяй і Ўкраінай. Калі ў 1654 г. украінскія казакі захапілі першы павет на тэрыторыі ВКЛ — Старадубскі, — 188 тутэйшых шляхецкіх родаў прызналі запароскага гетмана сваім уладаром. Наўзамен яны атрымалі права ўвайсьці ў склад казацкай старшыны і захаваць за сабой свае землі[1 052]. Літоўскі шляхціц Пётар Забела стаў казацкім палкоўнікам Старадубскага палка і павёў яго супраць ВКЛ. Дваццацітысячнае казацкае войска заняла значныя тэрыторыі княства. Сюды ўваходзілі, поруч з Старадубам, Рэчыца, Гомель, Чавусы, Жлобін, Прапойск, Рагачоў, Бабруйск, Чачэрск і Новы Быхаў. Казацкія зьвяршнікі патрабавалі, каб цар за дапамогу ў вайне надзяляў іх беларускімі землямі. Але Масква не хацела ўзмацненьня ўкраінцаў. Так, Залатарэнка замест беларускіх земляў атрымаў гарады Борзну і Глухаў на расейска-ўкраінскай мяжы[1 053].

17 лістапада 1655 г. Залатарэнка загінуў пры аблозе Старога Быхава. Хмяльніцкі прызначыў новым наказным гетманам на Беларусі і Літве палкоўніка Івана Нячая. Пры гэтым Хмяльніцкі вызначыў тэрыторыю, падуладную Ўкраіне, у межах Рэчыцкага, Аршанскага і Амсьціслаўскага паветаў, уключна з гарадамі Магілёвам і Гомелем[1 054]. Між тым Магілёў, найбуйнейшы пасьля Вільні горад ВКЛ і цэнтар адзінай праваслаўнай япархіі, што засталася ў ВКЛ, ужо кантралявала расейская залога. Па-ранейшаму прэтэндуючы на Магілёў, украінцы выказвалі нездавальненьне тым, што праваслаўная царква на Беларусі падначалілася Маскоўскаму патрыярхату.

Нячай усячасна канфліктаваў з Расеяй. Адзін зь яго палкоўнікаў, літоўскі шляхціц Мацей Старынскі, адмовіўся перадаць пад расейскі кантроль Чавусы.

[1050] Torke, Hans-Joachim. The unloved alliance: Political relations between Muscovy and Ukraine in the seventeenth century // Ukraine and Russia in their historical encounter. Edmonton, 1992. P. 46—47.

[1051] Kentrschynskyj. Mazepa. P. 80.

[1052] Subtelny, Orest. Domination of Eastern Europe: native Nobilities and foreign absolutism, 1500—1715. Québec, 1986. P. 44.

[1053] Абецедарский. Белоруссия и Россия в XVI—XVII вв. С. 172.

[1054] UBK. No. 112.

Нячай напісаў ліст абаронцам Старога Быхава, у якім заклікаў іх не здавацца Расеі, а лепш папрасіць заступніцтва ўкраінскага гетмана. Ён пачаў ствараць у Беларусі новую адміністрацыйную адзінку, падобную да той, што існавала на Ўкраіне. Так зьявіўся «Беларускі полк», які налічваў дзевятнаццаць сотняў войска. Нячай таксама пачаў набіраць у сваё войска мясцовых сялян. Расея спрабавала знайсьці дыпляматычнае вырашэньне ўкраінскай праблемы. Пад яе ціскам Хмяльніцкі пагадзіўся стварыць супольную камісію, якая б палагодзіла спрэчкі за ВКЛ. Яе ўзначалілі палкоўнік Ждановіч і маскоўскі ротмістар Мікіта Сіўцоў. Украінскія афіцэры падпісалі адозву, у якой скардзіліся на маскавітаў. Адной з ахвяр іх дзеяньняў стаўся літоўскі шляхціц Фёдар Канстанціновіч. Пасьля пераходу на ўкраінскі бок яго зьвяз ішоў, каб злучыцца з асноўнымі казацкімі сіламі. Але па дарозе на Копысь яго атакавалі і разьбілі маскавіты за тое, што Канстанціновіч адмовіўся «служыць цару і абраў гетмана»[1 055]. У выніку інспэкцыі Ждановіч забараніў Нячаю карыстацца тытулам «беларускага палкоўніка», хоць той і казаў, што гэты тытул надаў яму сам Хмяльніцкі[1 056]. Аднак Расея так і ня здолела ліквідаваць казаччыну на Беларусі[1 057].

У сакавіку 1657 г. скарылася Ўкраіне наймагутнейшая крэпасьць — Стары Быхаў, які вытрымаў больш чым двухгадовую расейскую аблогу. Як толькі расейцы зьнялі сваю аблогу, горад здаўся гетману. Хмяльніцкі выдаў «Унівэрсал Ягамосьці гетмана Старому Быхаву аб стварэньні тут вольнага порту на Літве». Усім украінцам паведамілі, што «воляй Божай шляхта і жыхары Старога Быхава поўнасьцю і ўсім сэрцам аддалі сябе пад нашу апеку і пакляліся не здаваць горад нікому іншаму, але перадаць яго ў поўную ўласнасьць Запарожскага войска»[1 058]. Хмяльніцкі вырашыў заручыцца падтрымкай кіеўскіх купцоў і заснаваць у Старым Быхаве цэнтар украінскага гандлю з Балтыкай[1 059].

Посьпехі ўкраінскай замежнай палітыкі выклікалі моцную нездаволенасьць маскавітаў. Але расейцы пазьбягалі наўпроставых канфліктаў з Украінай. Расеі было выгадна мець хаўрусьнікам казацкае войска. Але яна працягвала не заўважаць украінскіх прэтэнзіяў на Беларусь.

Аднак пасьля Віленскага перамір'я з Польшчай украінская ваенная прысутнасьць часткова страціла для Масквы сваё значэньне. Гэта ўстурбавала Хмяльніцкага. Да таго ж літоўскія паслы паказалі маскоўскай дэлегацыі перахоплены ліст Карла X Густава да Хмяльніцкага — чарговае сьведчаньне сэпаратысцкай палі-

[1055] Тамсама. / UBK. No. 112

[1056] Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. P. 68.

[1057] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 64; Горобець, Віктор. Білорусь козацька: Полківник Іван Нечай та українські змагання за Південно-Східну Білорусь (1655—1659). Київ, 1998.

[1058] UBK. No. 154.

[1059] Velychenko, Stephen. Cossack Ukraine and Baltic Trade 1600—1648: Some observations on an unresolved issue // Ukrainian Economic History. Interpretive essays. Ed. Iosyf Koropeckyj. Cambridge (Massachusetts), 1991. P. 167—170.

тыкі Ўкраіны ў дачыненьні да Расеі[1 060]. Хмяльніцкі накіраваў у Нямежу пасольства на чале з Раманам Гапоненкам. Аднак расейцы загадалі дыпляматам Хмяльніцкага «выйсьці з залі»[1 061]. Дамова Расеі з Польшчай прымусіла Ўкраіну шукаць альянсу з Швэцыяй. У гнеўным лісьце да цара Хмяльніцкі параўноўваў, як ставяцца да Ўкраіны маскавіты і швэды:

*Швэды — сумленныя людзі; калі яны абяцаюць дружбу і хаўрус, дык трымаюць сваё слова. Тады як цар, заключыўшы перамір'е з палякамі і хочучы вярнуць нас у іх рукі, абышоўся з намі ў найвышэйшай ступені бессардэчна*[1 062].

Расея прайграла прапагандысцкую вайну за падтрымку русінскага насельніцтва. Дэмакратычныя лёзунгі ўкраінцаў былі больш даспадобы тамтэйшым жыхарам. Адзін з украінскіх атрадаў вызваліў сотню людзей з расейскага палону. У адказ на пратэсты ваяводы Васіля Шарамецева казацкі ротмістар Васіль Кукін сказаў: «Тыя палонныя былі не рабы, але хрысьціянскія сяляне, якія шукалі паратунку»[1 063]. У красавіку 1655 г. казакі вызвалілі літоўскіх ратнікаў, якіх гналі з Шклова ў палон у Смаленск. Некалькі маскавітаў пры гэтым забілі[1 064]. Нячай набіраў у казацкае войска звычайных добраахвотнікаў і нават мясцовую шляхту. У выніку масавага аказачваньня на Беларусі ўкраінскае войска ўзмацнілася мясцовымі казацкімі атрадамі. Іх афіцэрамі рабіліся мясцовыя праваслаўныя купцы і ўраднікі. Сярод іх былі браты Дзяніс і Андрэй Мурашкі[1 065]. Андрэй Мурашка, магілёўскі купец, належаў да мясцовага праваслаўнага брацтва[1 066]. Некаторыя шляхціцы таксама рабілі імклівую кар'еру на казацкай службе. Так, Мацей Старынскі стаў палкоўнікам чавускім, Адрэй Хмара — палкоўнікам менскім[1 067], а Іван Міцкевіч — ротмістрам наваградзкім[1 068].

Казацкія атрады спусташалі маёнткі каталіцкай шляхты і духавенства. Нячай загадваў беларускім сялянам даваць хлеб толькі ўкраінскім атрадам і забараняў пастаўляць яго ў «царскую казну»[1 069]. Маскавіты абураліся. У сваю чаргу, літоўс-

[1060] Грушевський, Михайло. Історія України-Русі. Том IX. Частина друга // Даступна ў Інтэрнэце: http://litopys.org.ua/hrushrus/iur.htm

[1061] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 180—183.

[1062] Subtelny, Orest. Ukraine. A history. Toronto — Buffalo — London, 1994. P. 137.

[1063] Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. P. 84.

[1064] Грушевський, Михайло. Історія України-Русі. Том IX. Частина друга // Даступна ў Інтэрнэце: http://litopys.org.ua/hrushrus/iur.htm

[1065] Мялешка. Грамадзянская вайна на Беларусі. С. 145—146.

[1066] Список братства при церкви Богоявления Господня Могилёва (1634—1734) // Археографический зборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1871. Том 5. С. 125—126.

[1067] LM. No. 421.

[1068] UBK. Додаток II. №№ 20, 274.

[1069] BA. No. 168.

кая шляхта была незадаволеная, што расейцы ня могуць абараніць яе ад казакоў. У выніку маскоўскі Памесны прыказ завалілі скаргі зь Літвы. Шляхта наракала, што «большасьць нашых сялян пабралі ў Запароскае войска і блукаюць вакол Менску разам з гэтымі самымі казакамі, пабіваючы і рабуючы нас, нашых жонак і дзяцей»[1 070]. Расейскія ўлады не маглі даць рады казацкай праблеме, бо большая частка расейскага войска ўдзельнічала ў вайне з Швэцыяй. Баючыся страціць падтрымку шляхты, ваяводы пасылалі стральцоў бараніць некаторыя маёнткі. Апроч гэтага, расейскія ўлады спрабавалі выкарыстаць супраць казакоў саму мясцовую шляхту, якая прысягнула Маскве. Напрыклад, Аляксей Міхайлавіч загадаў менскаму і ашмянскаму шляхецкаму рушэньню ўзяць Ігумен, каб абараніць гэты рэгіён ад казакоў Мурашкі[1 071]. Так мясцовыя беларускія казакі і шляхта ўцягваліся ў грамадзянскую вайну.

У змаганьні за Беларусь Украіна разьлічвала на падтрымку літоўскай праваслаўнай шляхты. Галоўным хаўрусьнікам Украіны сярод магнатаў быў Міхал Статкевіч, сын сэнатара Самуэля Статкевіча. Міхал Статкевіч быў вядомым дабрадзеем праваслаўнай царквы[1 072]. Як пасол ад Амсьціслаўскага павету, Статкевіч падпісваў акт на абраньне караля Яна Казімера (1648 г.) і запатрабаваў уключыць у яго гарантыі для «ўсходняй грэцкай праваслаўнай веры»[1 073]. За публічную падтрымку Хмяльніцкаму польскі кароль абвясьціў Статкевіча «здраднікам бацькаўшчыны»[1 074]. Статкевіч падтрымаў Украіну ня толькі дзеля агульнай веры, але і праз сямейныя сувязі. Казацкі род Выгоўскіх таксама паходзіў з русінскай шляхты. Радавы маёнтак Выгоўскіх — Выговы — знаходзіўся на мяжы літоўскага Пінскага і польскага Оўруцкага паветаў. Апроч таго, пісар Украіны Іван Выгоўскі быў жанаты з Аленай Статкевіч — дачкой літоўскага сэнатара Багдана Статкевіча.

Брат Івана Выгоўскага Канстанцін ажаніўся з дачкой іншага літоўскага праваслаўнага шляхціца Івана Мяшчэрына. Падчашы смаленскі Мяшчэрын — заможны шляхціц, які валодаў шмат якімі маёнткамі вакол Амсьціслава. Род Мяшчэрыных быў адным з найбольш уплывовых літоўскіх праваслаўных родаў і меў шчыльныя сувязі з Украінай. У Івана Мяшчэрына было сем сыноў і чатыры дачкі. Усе яго сыны атрымалі эўрапейскую адукацыю ў Смаленскім езуіцкім калегіюме[1 075]. Дзьмітры Мяшчэрын, стольнік смаленскі, на пачатку вайны публічна перайшоў на бок казакоў і быў абвешчаны «здраднікам Рэчы Паспалітай»[1 076]. Ян Мяшчэрын зрабіўся манахам, архімандрытам чарнігаўскім. У 1657 г. ён быў ад-

[1070] Мялешка. Грамадзянская вайна на Беларусі. С. 145—147.

[1071] BEF. No. 114.

[1072] За кошт Статкевіча ў 1652 г. на рускай мове былі выдадзены «Новы запавет і псалмы». Гэта было самае дарагое праваслаўнае выданьне ў ВКЛ: Кніга Беларусі. № 160.

[1073] VL. P. 87.

[1074] LM. No. 157, 376, 151.

[1075] Wasilewski. Tadeusz. Iwan Meszczeryn // PSB.Warszawa, 1975. Vol. XX/1. P. 469—470.

[1076] LM. No. 397.

ным з галоўных прэтэндэнтаў на пасаду мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Ён удзельнічаў у падрыхтоўцы Гадзяцкай уніі 1658 г. паміж Украінай і Польшчай. У 1659 г. Ян Мяшчэрын, Канстанцін Выгоўскі і Юры Нямірыч прадстаўлялі Ўкраіну ў Варшаве. Палітычны крызіс ва Ўкраіне ў 1660 г. змусіў Яна Мяшчэрына вярнуцца на бок Літвы. Ён адмовіўся ад свайго царкоўнага чыну і афіцэрам удзельнічаў у вызваленьні Беларусі ад расейцаў[1 077].

Напрыканцы 1656 г. Міхал Статкевіч памёр. Тады Іван Выгоўскі паспрабаваў атрымаць у спадчыну ўсе яго землі ў Беларусі і Літве. Адначасова Даніла Выгоўскі, жанаты з дачкой Багдана Хмяльніцкага Кацярынай, стаў палкоўнікам быхаўскім. Канстанцін Выгоўскі зрабіўся палкоўнікам пінскім і тураўскім[1 078]. Размаўляючы з маскоўскім паслом Фёдарам Астафіем Бутурліным, Выгоўскі згадаў, што яго род мае свае інтарэсы ў Аршанскім павеце, бо там месьцяцца ўладаньні Статкевіча, да роду якога належыць жонка ўкраінскага пісара. Іван Выгоўскі перадаў свае патрабаваньні Бутурліну — ён прэтэндаваў на ўсе Статкевічавы землі ў ВКЛ. Масква адхіліла гэтыя патрабаваньні. У жніўні 1657 г. у Маскве пасольства Івана Выгоўскага, цяпер ужо новага ўкраінскага гетмана, зноў папрасіла перадаць яму Статкевічавы ўладаньні на Беларусі. Масква зноў адмовіла. Раззлаваны, Выгоўскі заявіў, што, колькі будзе жывы, не адмовіцца ад спадчыны сваёй жонкі ў ВКЛ[1 079].

Украінскі альянс з Швэцыяй падчас берасьцейскай кампаніі неспрыяльна адбіўся на расейска-ўкраінскіх стасунках. У той час, калі Расея і Польшча падпісалі перамір'е, паводле якога цар меўся зрабіцца будучым польскім каралём, казацкае войска ўвязалася ў вайну супраць Рэчы Паспалітай на баку праціўніка Масквы. Прапольская партыя ў Літве скарыстала гэта, каб пасварыць Расею з Украінай. Павал Сапега паведамляў цару, што «Ілжывасьць Хмяльніцкага цяпер даказаная: ён хоча прысягнуць швэдзкаму каралю»[1 080]. Ён гаварыў, што Расея ня можа кантраляваць дзеяньні свайго васала і што гэта парушае Віленскае перамір'е.

Увосень 1658 г., зыходзячы з уласных інтарэсаў, Украіна разарвала канфэдэрацыю з Расеяй і паводле Гадзяцкай уніі далучылася да Польшчы. У сваёй дэкларацыі да Рэчы Паспалітай ад 18 верасьня 1658 г. гетман Выгоўскі абяцаў Рэчы Паспалітай пасьля перамогі над Масковіяй вывесьці ўсіх казакоў зь Беларусі[1 081]. Змаганьне за Беларусь сталася прычынай расейска-ўкраінскай вайны 1658—1659 гг. Гэта была вайна на два франты. Ва Ўкраіне расейскія войскі і прамаскоўску настроеныя казакі выступалі супраць Выгоўскага. У той жа час армія Нячая пачала атакаваць расейцаў у Беларусі. Спачатку Ўкраіне ў гэтай вайне

[1077] Wasilewski. Jan Meszczeryn. P. 470—471.

[1078] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 114.

[1079] Тамсама. С. 151—152.

[1080] Тамсама. С. 197—198.

[1081] Kubała, Ludwik. Wojny duńskie i pokój Oliwski 1657—1660. Lwów, 1922. No. XXIV.

спрыяў посьпех на ўсходзе ВКЛ. Казакі выціснулі расейцаў з шэрагу гарадоў[1 082]. У верасьні 1658 г. Ян Казімер паведаміў пра Гадзяцкую унію літоўскай шляхце і заклікаў яе далучацца да Нячая. Ён паабяцаў тым, хто пойдзе ва ўкраінскае войска, прывілеі і ўзнагароды[1 083]. Кароль надаў Нячаю званьне палкоўніка Рэчы Паспалітай і выдзеліў у пажыцьцёвае валоданьне вялікія тэрыторыі ў Беларусі — у прыватнасьці Чавускае, Чэрыкаўскае і Бабруйскае староствы[1 084]. Такім чынам, Варшава пайшла насустрач патрабаваньням казацкай эліты.

Большасьць рускай шляхты, раней вернай Маскве, перайшла на бок Украіны. Да Нячая далучылася аршанскае паспалітае рушэньне. Сойм 1659 г. адзначыў шмат казацкіх афіцэраў беларускага паходжаньня за ўдзел у антырасейскай кампаніі. Сярод іх былі Дзяніс і Андрэй Мурашкі, Карнелій Дранеўскі і Яўдах Дранеўскі[1 085]. Беларускі шляхціц Сулікоўскі пад катаваньнямі расказаў расейцам, што Выгоўскі і Сапега зьбіраюцца аб'яднаць свае сілы і «дамовіцца з Швэдамі», каб рушыць на Смаленск. Напалоханыя расейцы адразу перадалі трывожную навіну цару[1 086].

Расейска-ўкраінскі канфлікт зноў ажывіў стасункі паміж Украінай і Швэцыяй[1 087]. Шукаючы міжнароднай падтрымкі, Выгоўскі 8 кастрычніка 1658 г. даслаў ліст Карлу X Густаву, у якім нагадваў каралю пра швэдзка-ўкраінскую дамову ў Корсуні і тлумачыў, што перайсьці на польскі бок яго прымусіла Масква[1 088]. Юры Нямірыч, колішні генэрал Карла X Густава, таксама напісаў яму ліст. Ён павіншаваў швэдзкага караля зь перамогай у Даніі і, зьвярнуўшыся да эўрапейскай палітыкі, растлумачыў прычыны разрыву з Расеяй і папрасіў Швэцыю абараніць Украіну[1 089]. На пачатку вайны з Расеяй Выгоўскі прасіў аб дапамозе брата швэдзкага караля пфальцграфа Адольфа Ёгана[1 090]. Нямірыч таксама дасылаў ліст Адольфу Ёгану. Ён скардзіўся, што «цяжкае бярэмя накінулі маскавіты на казакоў», і дзяліўся інфармацыяй пра сумесную польска-ўкраінскую кампанію супраць Расеі. Ён пераконваў Швэцыю заключыць мір з Польшчай, каб далучыцца да барацьбы супраць агульнага ворага — Масковіі, «таму што менавіта гэта дыктуе лёгіка вайны»[1 091]. Аднак Швэцыя ўжо вяла перамовы з Расеяй і адхіліла прапанову альянсу

1082 Бульвінський, Андрій. Українсько-російська війна 1658—1659 рр. Автореферат дисертації. Київ, 1998. С. 13—14.

1083 Мялешка. Грамадзянская вайна на Беларусі. С. 151.

1084 Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. P. 70.

1085 VL. P. 319.

1086 BEF. No. 118.

1087 Kommissya Hadiacka. VL. P. 297—307.

1088 Іван Выгоўскі — Карлу X Густаву. 5 і 8 кастрычніка 1658. Па-лацінску. Багачка. RA/2113/2113.2.

1089 Юры Нямірыч — Карлу X Густаву. 10 кастрычніка 1658. Па-лацінску і па-нямецку. Багачка. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica. Vol. 1.

1090 Чухліб. Гетманы і манархі. С. 81—82.

1091 Kot, Stanisław. Jerzy Niemirycz. W 300-lecie Ugody Hadziackiej. Paryż, 1960. P. 44.

з Украінай. Карл X Густаў даслаў Выгоўскаму і казацкай радзе толькі ліст агульнай падтрымкі[1 092].

20 сьнежня 1658 г. Швэцыя і Расея падпісалі Валіясарскае перамір'е. Гэта дазволіла Маскве ўвесну 1659 г. пасляць у Беларусь дадатковыя сілы. Расейскае войска на чале з Рыгорам Казлоўскім мусіла разьбіць украінскія атрады і цалкам падпарадкааваць Беларусь Расеі. У праклямацыях да беларускага насельніцтва расейскія афіцэры сьцьвярджалі, што «чаркасы [украінцы] прынесьлі цару і яго войску шмат шкоды, уключаючы мяцяжы і кровапраліцьці, а таму ў гарадох Літвы ня можа быць іншых людзей, апроч царовых»[1 093]. У траўні 1659 г. расейская армія захапіла Амсьціслаў. 17 траўня пачалася аблога Старога Быхава, і ў сьнежні 1659 г. гэтая апошняя ўкраінская крэпасьць здалася. Палкоўніка Нячая ўзялі ў палон, а яго афіцэраў стравілі сьмерцю. Паводле новай Пераяслаўскай дамовы 1659 г., гетманская Украіна пазбаўлялася права весьці самастойную замежную палітыку, адмаўлялася ад сваіх прэтэнзій на Беларусь і пагаджалася на прысутнасьць расейскіх залогаў у шасьці найбуйнейшых гарадох. Страціўшы права весьці незалежную міжнародную палітыку, Украіна паступова зрабілася васалам Масквы. Нарэшце Расея пазбавілася ад небясьпечнага суперніка ў барацьбе за Беларусь.

## 4.5. Беларускае і літоўскае пытаньне ў швэдзка-ўкраінскіх дачыненьнях

Швэцыя спрабавала наладзіць альянс з казакамі з часу Густава II Адольфа. У 1626 г. Аляксандра Рубіна, расейскага купца на швэдзкай службе, накіравалі паслом «у Белую Русь і да запароскіх ды данскіх казакоў» (*till Hvita Ryssland samt till de Zaporowke ozh Donske Kosackerna*). Яго задачай было дамагчыся «падтрымкі казакоў у вайне супраць Польшчы»[1 094].

Ідэю швэдзка-ўкраінскага ваеннага хаўрусу выказваў у сваім лісьце палітычны эмігрант на швэдзкай службе, былы падканцлер Кароны Геранім Радзеўскі. 30 траўня 1652 г. ён пісаў Хмяльніцкаму з Стакгольму, што, згодна з плянам ваенных дзеяньняў супраць Рэчы Паспалітай, швэдзкія войскі нанясуць удар на ўсходзе ВКЛ зь Лівоніі. Адначасова Украіна рушыла б на поўдзень Беларусі. Хаўрусьнікі меліся злучыцца ля Магілёва[1 095].

Калі Расея і Украіна пачалі вайну супраць Рэчы Паспалітай, Хмяльніцкі яшчэ так ня здолеў дамовіцца наконт далучэньня Швэцыі да антыпольскай кааліцыі. Перамовам супрацьдзейнічала Расея. У красавіку 1655 г. маскавіты затрымалі ўкраінскага пасла, які вяртаўся з Стакгольму. У лісьце расейцам Хмяльніцкі так

[1092] Карл X Густаў — Івану Выгоўскаму і казакам. 8 лістапада 1658. Па-лацінску. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica. Vol. 1.

[1093] Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Быхаўскага раёна. Мінск, 1990. С. 50—51.

[1094] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 8.

[1095] Kersten, Adam. Hieronim Radziejowski. Studium władzy i opozycji. Warszawa, 1988. P. 330—339;

апраўдваў свае кантакты з швэдамі: «Мы падтрымлівалі сяброўскія сувязі яшчэ з швэдзкай каралевай [Крысьцінай], так што швэды на нашым баку супраць нашых ворагаў — палякаў». Украінцы накіравалі ў Стакгольм яшчэ адно пасольства. Аднак Масква затрымала і яго ды даслала назад у Кіеў, растлумачыўшы, што як Расея і Швэцыя самі падтрымліваюць інтэнсіўныя дыпляматычныя кантакты, Кіеву ня варта праяўляць уласную ініцыятыву[1096]. Не зважаючы на перасьцярогу, 15 верасьня 1655 г. наказны гетман Залатарэнка накіраваў у Швэцыю зь Сьвіслачы свайго пасла Івана Пятровіча. Залатарэнка прапанаваў Карлу X Густаву заключыць дамову і аказаць падтрымку казакам. Сябе ён называў «наказны гетман казацкага войска ў Беларусі». Пасольства пасьпяхова дабралася да месца прызначэньня, але на зваротным шляху каля Трокаў Пятровіча забілі, і ўсе лісты, якія ён вёз, зьніклі. Украінцы, натуральна, меркавалі, што за забойствам іх пасла стаялі маскавіты[1097]. Тым ня менш, украінска-швэдзкія кантакты атрымалі міжнародны розгалас. Лёнданская газэта *«Mercurius Politicus»* напісала ў пачатку сьнежня 1655 г., што «генэрал другога казацкага войска ў Літве даслаў дэпутатаў у Варшаву на перамовы зь вялікім канцлерам Швэцыі [Эрыкам Уксэнштэрнам]»[1098]. Варта адзначыць, што пераклады з ангельскай прэсы, якая трапляла ў Маскву з Архангельску, былі для Крамля адной з асноўных крыніц міжнароднай інфармацыі[1099].

Незалежная палітыка Ўкраіны ў Літве і Беларусі зьвяртала на сябе ўвагу швэдаў. Пасьля перамоў пасольства Залатарэнкі з Уксэнштэрнам швэдзкі канцлер адзначыў, што, хоць цар лічыць Беларусь сваім уладаньнем, казацкі гетман аспрэчвае яго прэтэнзіі. Швэдзкія палітыкі вырашылі скарыстаць гэты канфлікт у сваіх інтарэсах. У 1655 г. Карл X Густаў актыўна ліставаўся з Хмяльніцкім. Некаторыя лісты трапілі ў рукі расейскіх шпегаў. На думку Густава Бельке, швэдзкага пасла ў Маскве, гэта паслужыла галоўнай прычынай расейска-швэдзкай вайны[1100]. Карл X Густаў ня ўтойваў сваіх кантактаў з Хмяльніцкім. Наадварот, швэдзкі кароль падкрэсьліваў свае шчыльныя стасункі з казакамі і ўжываў іх як сродак ціску на Расею. У студзені 1656 г. кароль пісаў сваім паслам у Маскве: «Казакі шукаюць нашай пратэкцыі. Тым ня менш, мы не далі згоды прыняць іх, дазволіўшы ім пакуль што быць у канфэдэрацыі зь Вялікім княствам Маскоўскім»[1101]. Натуральна, расейцы даведаліся пра зьмест ліста. Але гетман даў зразумець, што Ўкраіна не прэтэндуе на літоўскія землі, занятыя швэдамі. Хмяльніцкі пісаў швэдзкаму каралю: «Казакі не зьбіраюцца чыніць ніякай шкоды гарадам, дзе вы паднялі

[1096] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 154.

[1097] Грушевський, Історія України-Русі. Том IX. Частина друга // Даступна ў Інтэрнэце: http://litopys.org.ua/hrushrus/iur.htm

[1098] Mercurius Politicus. November 29 — December 5, 1655. P. 5792.

[1099] Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 74.

[1100] Kentrschynskyj. Karl X Gustav inför krisen i Öster. P. 99.

[1101] Kentrschynskyj. Mazepa. P. 101—102.

свае сьцягі»[1102]. Такім чынам, у змаганьні за ВКЛ інтарэсы бакоў не сутыкаліся, а таму яны маглі дасягнуць кампрамісу.

У канцы лістапада 1655 г. пасол Хмяльніцкага грэцкі ігумен Данііл Афінскі зьявіўся ў Варшаве да Эрыка Уксэнштэрны. Ён прывёз з сабой свайго пісара і тлумача італьянца Марка Тарсі. Гетман прапаноўваў Карлу X Густаву абвесьціць Украіну васалам Швэцыі. Хмяльніцкі абяцаў яму верную службу ўсяго Запарoскага войска[1103]. Ён нават дэкляраваў, што «калі маскавіты не адмовяцца ад сваіх агрэсіўных і несправядлівых намераў адносна Вашай Вялікасьці, то мы пяройдзем на швэдзкі бок» [1104]. Але Ўкраіне не пашанцавала. Ігумен Данііл аказаўся міжнародным авантурыстам і падчас перамоваў з Швэдамі перасьледаваў уласныя інтарэсы. Ён пераконваў Швэцыю падтрымаць грэкаў у барацьбе супраць Асманскай імпэрыі і прасіў даць яму 2000 войска і дзесяць караблёў. Ён хацеў высадзіцца на Пэлапанэсе і падняць там антытурэцкае паўстаньне. Адначасова ён імкнуўся зацікавіць караля ідэяй стварэньня маскоўска-ўкраінска-вэнэцыянска-трансыльванска-ангельскай кааліцыі на чале з Швэцыяй. Данііл перайшоў на швэдзкую службу, і Карл X Густаў набілітаваў яго як Даніэля Алівэбэрга Грэцкага[1105]. Такім чынам Украіна і Швэцыя ў 1655 г. ня здолелі дамовіцца. На думку Карла Віблінга, Швэцыя не хацела ўсталёўваць пратэктарат над Украінай, баючыся адмоўнай рэакцыі Маскоўскай дзяржавы[1106].

17 траўня 1656 г. пачалася расейска-швэдзкая вайна, і Швэцыя, такім чынам, фармальна зрабілася ворагам Украіны, бо тая была хаўрусьніцай Расеі. Настаў пэрыяд тайных кантактаў. Хмяльніцкі і Карл X Густаў рэгулярна ліставаліся адзін з адным. Карл X Густаў пісаў Хмяльніцкаму, што цар бяз дай прычыны пачаў вайну супраць Швэцыі і ўварваўся ў Лівонію. Ён дадаваў, што Масква, відаць, даведалася пра кантакты Залатарэнкі зь ім у Літве, і гэта магло стаць адной з прычын расейскай агрэсіі[1107]. 19 жніўня 1656 г. Карл X Густаў паведаміў Эрыку Уксэнштэрну: «Да мяне прыйшоў ігумен Данііл, пасол казакоў, і сказаў, што гетман чакае майго пасольства і гатовы ісьці на Расею ці Польшчу ў любы час, калі мне спатрэбіцца; аднак я яшчэ не прыняў рашэньня, бо ўсё чакаю адказу ад польскага двара»[1108].

Пасьля расейска-польскага перамір'я ў Нямежы ў Стакгольма зьявілася актуальная патрэба ўсталяваць свой пратэктарат над гетманскай Украінай[1109]. Але

[1102] Тамсама. С. 101. / Kentrschynskyj. Mazepa. P. 101

[1103] Instruktion för grekiske abboten Daniel gifven af Chmielnicki. Oktober 1655. Italian. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica Vol. 1. Residente Daniel Olivebergs depescher 1655—1658.

[1104] Skrivelser till Carl Gustaf fren Bohdan Chmielnicki. October 11, 1655. Latin. KB. F. D. Sv. 835 A.

[1105] Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 17—18. Пераход Алівэбэрга на швэдзкі бок і яго адмова ад царкоўнага сану выклікала падазрэньні сярод казакоў: Грушевський, Історія України-Русі. Том IX. Частина друга. Примітка 8.

[1106] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 29.

[1107] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 154, 157—160.

[1108] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 339. Note 1.

[1109] Landberg. Den svenska utrikespolitikens historia. P. 95.

швэдзкія палітыкі лічылі ўкраінцаў перш за ўсё «казацкімі рэлігійнымі бунтарамі, якія не трываюць адзінай улады»[1110]. Аўтарам праекту швэдзкага пратэктарату над Украінай быў Эрык Уксэнштэрна. Адстойваючы гэтую ідэю, ён асабліва падкрэсліваў, што, «прызнаўшы ўкраінскую аўтаномію, казацкія вольнасьці і прывілеі, мы павінны будзем стварыць такі мэханізм кантролю, пры якім казакі не былі б празьмерна натурыстыя і небясьпечныя для свайго новага ўладара, як гэта было раней з польскім каралём Янам Казімерам»[1111]. Перамовы Хмяльніцкага з Карлам X Густавам ішлі праз Багуслава Радзівіла і камэнданта Слуцку Яна Гроса[1112]. Палітычнай мэтай Радзівіла ў гэтым выпадку было адарваць украінскіх казакоў ад Расеі. Ён паведамляў пісару Запароскага войска Выгоўскаму, што даведаўся пра канфлікт гетмана з Масковіяй. Тым часам, як сьцьвярджаў Радзівіл, гетман і ўсё Запароскае войска карыстаюцца вялікай прыхільнасьцю швэдзкага караля. Таму было б добра, каб гетман і пісар даслалі лісты Карлу X Густаву. Калі Выгоўскі непакоіцца за сваю бясьпеку, ён, Радзівіл, гатовы выступіць пасярэднікам у гэтай справе. Каб пераканаць Выгоўскага, што Швэцыя сапраўды можа ўзяць Украіну пад свой пратэктарат, Радзівіл спаслаўся на словы Карла X Густава, нібыта сказаныя ім пры размове з Радзівілам:

*Швэдзкі кароль асабіста сказаў мне, што ён не жадае аб'ядноўвацца з польскім каралём і не падтрымлівае ніякіх кантактаў зь ім, бо гэта супярэчыць інтарэсам казакоў. Таму гетман хутка атрымае ліст ад швэдзкага караля з канкрэтнымі прапановамі*[1113].

Украіна адказала на прапанову Радзівіла ў верасьні 1656 г., і Багуслаў выправіў казацкага пасла назад да Хмяльніцкага зь лістом ад Карла X Густава[1114]. Але Расея дазналася і пра гэтыя кантакты. Сустрэўшыся сам-насам з Хмяльніцкім, Васіль Лапухін упікнуў гетмана, што той падтрымлівае тайныя кантакты з швэдзкім каралём. Хмяльніцкі часткова прызнаў дакор справядлівым. Ён сказаў, што «з Слуцку прыбыў немец ад швэдзкага губэрнатара і прасіў хлеба, але мы адмовілі, таму што без царовай волі мы не маглі пайсьці на такое»[1115].

Пытаньне альянсу з Украінай стаяла на парадку дня на пасяджэньні швэдзкай Каралеўскай Рады 13—14 верасьня 1656 г. у пруськім Фраўэнбургу. Кароль спы-

[1110] Svenska Riksrådets protocoll. Vol. XIV. P. 739.

[1111] Erik Oxenstiernas instruktion för Daniel Oliveberg. January 2, 1655. Latin. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica Vol. 1. Residente Daniel Olivebergs depescher 1655—1658.

[1112] Богдан Хмельницький до Яна Гроса. 23 липня 1656. Чигирин. Польською мовою: Федорук, Ярослав. Універсали та листи Богдана Хмельницього // Україна модерна. 1996. № 1. С. 142—143.

[1113] AGAD. AR. Dz. IV, teka 4, koperta 46. Listy Bogusława Radziwiłła. No. 49. P. 68—71.

[1114] Wasilewski. Radziwiłł Bogusław // PSB. Vol. XXX/1. P. 166.

[1115] Грушевський, Історія України-Русі. Том IX. Частина друга // Дaступна ў Інтэрнэце: http://litopys.org.ua/hrushrus/iur.htm

таў: «Ці павінны мы весьці перамовы з казакамі? Або нам варта разьлічваць на пагадненьне з палякамі, якога можна дасягнуць у ходзе настойлівых перамоў?»[1116] Урэшце Карл Х Густаў вырашыў, што хаўрус з «магутнымі казакамі будзе лепшым, чым пошукі сяброўства зь ненадзейнымі палякамі»[1117]. Эўрапейскія мысьляры, такія, як Каменскі і Гартліб, падтрымалі ідэю швэдзкага пратэктарату над Украінай. Уражаны швэдзкімі перамогамі ў Польшчы, Каменскі напісаў панэгірык, прысьвечаны Карлу Х Густаву. Называючы яго «сучасным Майсеем і Давідам», Каменскі прапанаваў швэдам «калянізаваць багатыя землі Ўкраіны (*Ukrainae*), якія нават бліжэй, чым галяндзкая Індыя, і заснаваць там новы пратэстанцкі парадак, які б пашырыўся на ўсю Эўропу»[1118].

Аднак гетманская Ўкраіна высунула ўласныя ўмовы, пры якіх яна пагаджалася пайсьці пад швэдзкі пратэктарат. Ключавым пытаньнем было прызнаньне казацкай дзяржавы Швэцыяй і вызначэньне яе будучых межаў. У лісьце да Карла Х Густава швэдзкі пасол Шэлестын Стэрнбах пісаў: «Галоўная мэта Хмяльніцкага — стварэньне незалежнай дзяржавы»[1119]. Стэрнбах раіў Карлу Х Густаву паабяцаць Хмяльніцкаму частку ВКЛ, дакладней, Беларусь, і княскі тытул[1120].

У лістападзе 1656 г. швэдзкае пасольства на чале зь Якубам Тарнэшкёльдам выехала з Тыкоціна ў Чыгірын для перамоваў з «гетманам Хмяльніцкім і запароскім войскам». Готхард Вэлінг і Даніiл Алівэбэрг таксама выехалі ва Ўкраіну дапамагаць Тарнэшкёльду. Паслы мелі з сабой праект пагадненьня паміж Карлам Х Густавам і Хмяльніцкім, а таксама інструкцыі ад швэдзкага караля з 37 пунктаў[1121]. Калі Тарнэшкёльд зь невядомых прычынаў ня змог прыехаць у Чыгірын, Вэлінг узяў кіраўніцтва місіяй на сябе[1122]. Карл Х Густаў прапаноўваў Украіне аўтаномію і міжнародны статус на ўзор Курляндыі. Швэцыя прызнавала цэласнасьць украінскай дзяржавы. Украінскаму гетману давалася права мець уласнае войска, але ня больш як 40 000 чалавек. Гэтае войска мусіла ваяваць за Швэцыю, калі тая папросіць. Швэцыя гарантавала захаваньне спрадвечных свабод і правоў праваслаўнай царквы.

Але, на думку швэдаў, тэрыторыя ўкраінскай дзяржавы мусіла абмяжоўвацца землямі, якія і так ужо кантраляваў Хмяльніцкі, — былымі Кіеўскім, Брацлаўскім

[1116] Svenska Riksrådets protocoll. Vol. XIV. P. 739

[1117] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 29.

[1118] Comenius, Johann Amos. Panegyricus Carolo Gustavo. 1656. P. 12; Trevor-Roper, Huge. The crisis of the seventeenth century. Religion, the Reformation, and social changes. Liberty Fund. Indianapolis, 2001. P. 264.

[1119] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 29.

[1120] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 202—204.

[1121] Proectum Foederis inter S. R. M. et Chmielnicki pangendi. September 30, 1656. Latin. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica Vol. 1; Memorial för statssekreteraren Jakob Törneskðld och krigsrådet Gottard Veling vid kommissionen hos «Generalen Chmielnicky und Zaporowia militien». September 25, 1656. German. Тамсама.

[1122] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 30.

і Чарнігаўскім ваяводзтвамі Рэчы Паспалітай. Такім чынам, Швэцыя адхіляла прэтэнзіі Ўкраіны на рускія землі Літвы. Кароль плянаваў значна абмежаваць паўнамоцтвы сьвецкай і духоўнай уладаў ва Ўкраіне. Па сьмерці Хмяльніцкага Казацкая рада мела права вылучыць трох кандыдатаў на пасаду новага гетмана. З гэтых кандыдатаў швэдзкі кароль меўся абраць аднаго, які й рабіўся гетманам ды атрымліваў гетманскую булаву. Прызначэньне мітрапаліта кіеўскага — галавы царквы русінаў — таксама адбывалася з згоды швэдзкага караля[1 123]. Цікава, што расейцы па сьмерці Хмяльніцкага ў жніўні 1657 г. прапанавалі вельмі падобныя ўмовы. На думку маскавітаў, правы новага ўкраінскага гетмана мусіў прызнаваць цар, які і зацьвярджаў яго кандыдатуру. Выбары ж мітрапаліта кіеўскага санкцыянаваліся маскоўскім патрыярхам. Рэгулярнае войска абмяжоўвалася да 40 000 чалавек[1 124]. Важная ўмова швэдаў датычыла ВКЛ. Карл Х Густаў хацеў, каб казацкае войска не дало расейскім атрадам фарсіраваць Бярэзіну і захапіць заходнія ваяводзтвы. Прыняўшы гэтую ўмову, Гетманшчына вельмі рызыкавала б, бо так рабілася непазьбежным наўпроставае сутыкненьне з Масковіяй[1 125].

Швэдзкія прапановы ўключалі шэраг умоў, непрымальных для казакоў. Пад уплывам Юрыя Нямірыча ў тэкст пагадненьня ўключылі артыкул, які прадугледжваў пашырэньне пратэстантызму на Ўкраіне[1 126]. У кожным буйным горадзе меліся паўстаць пратэстанцкія зборы[1 127]. Гэтае нерэалістычнае патрабаваньне сустрэла рэзкія пратэсты. Аднак галоўнай перашкодай сталася нязгода Стакгольму з казацкімі прэтэнзіямі на ўсе рускія землі. Гэта выклікала абурэньне Казацкай рады. Пераклаўшы каралеўскія інструкцыі і ўбачыўшы, што ўсё сказанае Вэлінгам было праўдай, казацкая старшына адмовілася працягваць перамовы[1 128]. Швэды сьпісалі няўдачу пасольства на некампэтэнтнасьць Вэлінга[1 129]. У ходзе перамоваў украінскія лідэры патрабавалі для сваёй дзяржавы такіх межаў, якія мела Кіеўская праваслаўная мітраполія да Берасьцейскай уніі 1596 г. Як пісаў Вэлінг, казакі прэтэндавалі на «ўсю старажытную Ўкраіну — Русь, дзе толькі існуе ці існавала грэцкая праваслаўная вера і дзе гавораць на рускай мове»[1 130]. Казакі тлумачылі трансыльванскаму паслу, што гаворка ідзе пра аднаўленьне старых межаў, парушаных царкоўнай уніяй у Літве[1 131]. Гэта азначала, што геапалітычныя інтарэсы казацтва пашыраліся на большую частку ВКЛ і ўсходнюю частку Кароны польскай.

1123 Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 19—21.

1124 Бульвінський. Українсько-російська війна 1658—1659 рр. С. 12.

1125 Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 20.

1126 Williams, George. Protestants in the Ukraine // Harvard Ukrainian Studies. 1978. 2(1). March. P. 41—72; 2(2). June. P. 184—210.

1127 Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 20.

1128 UBK. С. 25.

1129 Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 61.

1130 Нариси з історії дипломатії України. С. 152—153.

1131 Тамсама.

Наступная фаза ў дачыненьнях паміж Швэцыяй і Ўкраінай была непасрэдна зьвязана зь берасьцейскай кампаніяй. 8 красавіка 1657 г., пасьля далучэньня казацкіх і трансыльванскіх атрадаў да швэдзкага войска ў Завіхасьці, адбыўся супольны парад сіл кааліцыі на чале з Карлам Х Густавам і Ракочы[1132]. Пасьля параду Карл Х Густаў даслаў ліст Хмяльніцкаму, у якім выклаў інтарэсы Швэцыі ў Рэчы Паспалітай. Яны цалкам супадалі з тым, што агаворвалася ў Радноцкім трактаце. Аднак Карл Х Густаў не згадаў плянаў іншых хаўрусьнікаў. Ён толькі напісаў, што Швэцыя пагаджаецца ўлічыць украінскія прэтэнзіі на ўсе рускія землі як «кампэнсацыю за ўдзел Украіны ў альянсе»[1133]. У Берасьці Карл Х Густаў і швэдзкія генэралы мелі магчымасьць правесьці перамовы з казацкімі зьвершнікамі сам-насам. Кожны з бакоў недвухсэнсоўна акрэсьліў сваю пазыцыю. Надзеі Ўкраіны атрымаць Берасьце ня спраўдзіліся: горад і павет перайшлі да Трансыльваніі. Аднак швэды ўсьведамлялі, што паразуменьне з Украінай немагчымае без прызнаньня яе прэтэнзій на рускія землі ВКЛ.

У канцы траўня 1657 г. на загад Карла Х Густава ў Чыгірын выправілася новае швэдзкае пасольства на чале з Густавам Лілекронам. Галоўнай яго задачай было разбурыць хаўрус Украіны з Расеяй. Таму Лілекрона адразу заявіў, што калі гетман пачне вайну з Масковіяй, то Швэцыя прызнае прэтэнзіі казакоў на Беларусь «ажно да Смаленску»[1134]. Гэтае доўгачаканае абяцаньне, аднак, далі запозна. У той час у Чыгірыне ўжо знаходзілася расейскае пасольства на чале зь Фёдарам Бутурліным. Пасьля вываду Карлам Х Густавам свайго войска з Рэчы Паспалітай Хмяльніцкі ня мог пачынаць вайну супраць Масквы. Бутурлін выказаў царова нездавальненьне ўкраінскай палітыкай у ВКЛ. Ён запатрабаваў, каб гетман высунуў ультыматум Карлу Х Густаву, у якім бы настойваў на перамір'і паміж Швэцыяй і Расеяй[1135]. У выніку першы раўнд швэдзка-ўкраінскіх перамоваў скончыўся безвынікова. Лілекрону арыштавалі ў Чыгірыне. Аднак 21 чэрвеня 1657 г. у горад нечакана зьявіўся Нямірыч зь лістамі Хмяльніцкаму ад Карла Х Густава і Ракочы. Пасьля сьмерці Хмяльніцкага і сыходу Швэцыі з Рэчы Паспалітай Нямірыч перайшоў на службу да новага гетмана Выгоўскага (той паходзіў з таго самага ваяводзтва, што і Нямірыч)[1136].

Нарэшце, 6 кастрычніка 1657 г. у Корсуні было падпісана пагадненьне паміж Швэцыяй і казакамі. З трох украінскіх камісараў, якія яго падпісалі, двое — Нямірыч і Багун — узначальвалі прашвэдзкую партыю і мелі пэрсанальныя заслугі перад Швэцыяй падчас аблогі Берасьця. Трэці камісар, Іван Кавалеўскі, доўгі час

[1132] Carlson. Sveriges historia under konungarne af pfalziska huset. P. 356. Note 2.

[1133] Карл Х Густаў — Багдану Хмяльніцкаму. 10 красавіка 1657. Па-лацінску. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica. Vol. 1.

[1134] Memorial för Gustaf Lilliecrona till Chmielnicky. Latin. April 25, 1657. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica. Vol. 1.

[1135] Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 211—213.

[1136] Тамсама. С. 247—249.

кантактаваў з швэдзкімі дыпляматамі. Тым ня менш, гэтае пагадненьне аб ваенным супрацоўніцтве цяжка назваць пасьпяховым. Зь дзьвюх старонак тэксту толькі адна датычыла больш-менш канкрэтных справаў. Бакі дамовіліся дапамагаць адзін аднаму ў абароне ад ваенных нападаў, за выключэньнем войнаў зь «Вялікім княствам Маскоўскім». Абвяшчаўся мір паміж Запароскім войскам і Швэцыяй. Нарэшце, было вырашана, што ўсе астатнія пытаньні стануцца прадметам далейшых перамоваў[1137]. 8 кастрычніка 1657 г. тры вышэйзгаданыя камісары падпісалі зварот да Швэцыі, у якім утрымлівалася восем дадатковых артыкулаў дамовы. У першым паўтаралася адмова Ўкраіны ваяваць супраць Масквы. Паводле другога артыкулу, Запароскае войска і казакі прызнаваліся «вольнай і ні ад кога не залежнай палітычнай нацыяй». У трэцім артыкуле Ўкраіна выказвала свае прэтэнзіі на рускія землі Літвы: Берасьцейскае і Наваградзкае ваяводзтвы «ажно да Бярэзіны» як кампэнсацыю за свой удзел у альянсе[1138]. Прэтэнзіі на гэтыя тэрыторыі, напэўна, папярэдне ўзгадняліся з швэдзкімі пасламі. У той час у Берасьцейскім ваяводзтве распараджалася непрыяцельскае літоўскае войска. Большая частка Наваградзкага ваяводзтва належала Радзівілу, які перайшоў ужо на бок праціўніка Швэцыі — Брандэнбургу-Прусіі. Калі б гэтая дамова зьдзейсьнілася на практыцы, Украіна атрымала б кантроль над усімі рускімі землямі ВКЛ.

26 кастрычніка 1657 г. тыя самыя тры камісары даслалі Карлу Х Густаву ліст, у якім нагадвалі, што асноўнай умовай альянсу з Швэцыяй па-ранейшаму застаецца няўдзел у вайне супраць Масквы[1139]. Гэтая ўмова, відавочна прынятая пад ціскам Расеі, сьведчыла пра моцныя пазыцыі прарасейскай і аслабленьне прашвэдзкай партыі сярод казацкіх зьвершнікаў. Ад самага пачатку швэды плянавалі выкарыстаць казакоў у вайне з Расеяй, аднак гэты намер ня спраўдзіўся. Тады швэды паспрабавалі выкарыстаць Украіну ў вайне з Польшчай. Але пад ціскам Масквы Казацкай радзе давялося паабяцаць ня весьці вайну з Польшчай. Больш за тое, прамаскоўская партыя казакоў на чале з палкоўнікамі Марцінам Пушкаром і Якавам Барабашом выступіла катэгарычна супраць Корсуньскага пагадненьня і пачала грамадзянскую вайну[1140]. Гэтым на практыцы перакрэсьліваліся корсуньскія

[1137] Förbundstraktat mellan Sverige och de Zaporogiske Kosackerna. Korsun. October, 6 1657. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica Vol. 1. Förhandlingar emellan Sverige och kosackerna 1655—1719.

[1138] Puncta pactorum ex parte Arme et Excellentissimus Pri[moris] Generalissimi Exercitus Zaporouianor Excellentissimo Pro Legato Serenissima ac potenssuima Regis Suetia proposita a Commissaryi Exercitus Zaporouiani. Corsuni [Korsun]. October 8, 1657. Latin. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica Vol. 1. Förhandlingar emellan Sverige och kosackerna 1655—1719.

[1139] Нямірыч, Каваліўскі і Богун — Карлу Х Густаву. 26 кастрычніка 1657. Па-лацінску. Корсунь. RA/2113/2113.2. Diplomatica Muscovitica Cosacica Vol. 1. Förhandlingar emellan Sverige och kosackerna 1655—1719.

[1140] Kort Relation om then store fäldt drabbning som emellan Wichowski och then Russiske fäldherre Puska Rencka föreluppt. Stockholm, 1658.

дамоўленасьці[1141]. Калі швэды вывелі сваё войска ў Данію, Украіна страціла зацікаўленасьць у швэдзкім пратэктараце, і Выгоўскі пераарыентаваўся на ідэю ўкраінска-польскага хаўрусу[1142].

У 1659 г. казацкі гетман выдаў палітычны маніфэст з тлумачэньнем прычын уніі з Польшчай і разрыву з Расеяй. На думку Выгоўскага, Украіна выканала ўсе свае пагадненьні, заключаныя з Швэцыяй, «зь Яе Каралеўскай Мосьцю каралевай Крысьцінай і Яго Каралеўскай Мосьцю каралём Карлам X Густавам». Маскоўскі ж пратэктарат, паводле маніфэсту, ня змог задаволіць надзеі Ўкраіны, бо Масква не выконвала сваіх абяцаньняў і спрабавала паняволіць казакоў[1143].

## 4.6. Спроба Ўкраіны далучыць да Гетманшчыны Пінскі павет

Цікавым эпізодам у палітычнай барацьбе за ВКЛ была спроба інкарпарацыі Пінскага павету ў склад гетманскай Украіны. Украінскі аспэкт гэтага пытаньня дасьледавалі Ліпінскі і Гвозьдзік-Прыцак[1144]. Аднак з гледзішча ВКЛ яно не аналізавалася.

10 студзеня 1657 г. Хмяльніцкі выдаў унівэрсал аб супольнай украінска-трансыльванскай кампаніі супраць Рэчы Паспалітай. Гетман гарантаваў правы ўсіх тых насельнікаў ВКЛ, якія будуць спрыяць казацкім войскам. Унівэрсал Хмяльніцкага быў зарэгістраваны ў Менскім гродзкім судзе[1145]. 24 траўня 1657 г. Ждановіч, як «пасол Ягамосьці гетмана», абвясьціў пра пашырэньне ўкраінскага пратэктарату на Пінскі павет. Ён напісаў (на рускай мове), што гэты крок абумоўлены наступам украінскіх і трансыльванскіх войскаў на Пінск, а таксама тым, што «жыхары Берасьцейскага ваяводзтва паведамілі мне, што яны хацелі б прыняць пратэкцыю гетмана». Пінскім паслом да Ждановіча быў Казімер Война, пісар пінскі. Падстароста Ўладзіслаў Война зарэгістраваў Ждановічаў унівэрсал у Пінскім судзе[1146]. 1 ліпеня 1657 г. пінскія паслы — маршалак пінскі Лукаш Ельскі і стольнік Адам Спытак — прысягнулі на вернасьць Украіне ў Чыгірыне. Зважаючы на тое, што «наша Айчына Вялікае Княства Літоўскае амаль цалкам зруйнаваная рознымі ворагамі», пінская шляхта вырашыла прыняць казацкую пратэкцыю.

[1141] Wittrock. Karl X Gustaf i Polen. P. 22.

[1142] Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 62.

[1143] Апанович, Олена. Гетмани України и кошові атамани Запорозької січи. Київ, 1993. Даступна ў Інтэрнэце: http://exlibris.org.ua/apanowicz/wyhowski.html.

[1144] Ліпіньский, Вячеслав. Україна на переломі 1657—1659 рр. Вєна, 1920. С. 220—254; Гвоздік-Пріцак, Лариса. Економічна і політична візия Богдана Хмельницького та її реалізація в державі Військо Запорзьке. Київ, 1999.

[1145] UBK. No. 150.

[1146] UBK. Додаток II. № 22. С. 375—376.

Але як адбываўся сам пераход Пінскага павету да казакоў? Шляхта і мяшчане Піншчыны склалі прысягу гетману. Казакі абвясьцілі, што гарантуюць правы «як грэцкай, так і рымскай веры». «Уніяцкая царква і іншыя чужыя веры [пратэстантызм], непрымальныя і варожыя нам і Запароскаму войску», забараняліся. Уніяцкім сьвятарам было дазволена перайсьці ў праваслаўе. У тэксьце прысягі згадвалася пра польскага караля, але ніводным словам не сьцьвярджалася прыналежнасьць Піншчыны да польскай дзяржавы. Літва называлася «нашай старой Бацькаўшчынай», а «Запароскае войска» ці «Ўкраіна» выступалі як новая дзяржава. Расейскі цар згадваўся толькі ўскосна. Пінская шляхта абяцала паспрыяць у тым, каб пераканаць іншыя паветы Літвы таксама далучыцца да Гетманшчыны[1147].

8 ліпеня 1657 г. Хмяльніцкі падпісаў унівэрсал пад назвай «Гарантыі пінскай шляхце»[1148]. Некаторыя аспэкты гэтага дакумэнту варты ўвагі. Хмяльніцкі тытулаваў сябе «гетманам Яго Царскай Вялікасьці Запароскага войска». Такім чынам, адрозна ад пінскай шляхты, Хмяльніцкі падкрэсьліваў свае сувязі з Расеяй. Ён казаў, што «Бог захацеў, каб мы далучыліся да цара». Каталіцкай шляхце ўнівэрсалам гарантавалася рэлігійная свабода: дэкляравалася, што яе і ейных нашчадкаў ніколі ня будуць змушаць да пераходу ў праваслаўе. Таксама гарантаваліся правы самой рыма-каталіцкай царквы і яе навучальных установаў. Аднак «сэкты» (пратэстанцкія канфэсіі) і ўніяцкая царква забараняліся. Падлягалі вяртаньню праваслаўныя цэрквы і царкоўная маёмасьць, гвалтам аднятыя каталікамі.

Абвяшчалася, што паўнамоцтвы гетмана пашыраюцца, апроч Пінскага, «на Мазырскі і Тураўскі паветы». Між тым насамрэч мазырская шляхта ня брала ўдзелу ў перамовах, а Тураўскага павету ніколі не існавала: землі Тураўшчыны складалі частку Пінскага павету. Аднак у сярэднявеччы існавала самастойнае Турава-Пінскае княства, васал Кіеўскай Русі. Да 1596 г. Тураў быў рэзыдэнцыяй праваслаўнага ўладыкі. Таму зацікаўленасьць украінцаў у атрыманьні Тураўшчыны была зразумелай. Гетман утвараў новую казацкую адміністрацыйна-вайсковую адзінку — Турава-Пінскі полк, які ачоліў палкоўнік Канстанцін Выгоўскі.

Прыняцьце пінскай шляхтай прысягі Ўкраіне было зарэгістравана ў Чыгірыне і Кіеве. Свае новыя дзяржаўныя межы Ўкраіна абгрунтоўвала гістарычнымі аргумэнтамі, што зьвярталіся да слаўнай мінуўшчыны Кіеўскай Русі і праваслаўя. Да 1569 г. Мазырскі павет належаў Кіеўскаму ваяводзтву. Напярэдадні уніі з Польшчай мазырская шляхта сама вырашыла застацца ў складзе ВКЛ. У аддаленай ад цэнтру дзяржавы Мазыршчыне па-ранейшаму пераважала праваслаўнае насельніцтва. Яно актыўна падтрымала вайну казакоў з Польшчай у 1648—1651 гг.[1149]

1147 Jurament ich mciow panów obywatelów Pińskich wykonany hetmanowi Bohdanowi Chmielnickiemu 20 czerwca roku 1657 // Гвоздік-Пріцак. Економічна і політична візия Богдана Хмельницького.

1148 UBK. No. 167.

1149 Мялешка, Васіль. Антыфеадальная вайна 1648—1651 гг. на Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1993. Том 1. С. 133—135.

Паводле пагадненьня, пінская шляхта атрымлівала больш правоў, чым мела раней. У Літве прызначэньні на мясцовыя пасады рабіў кароль, украінскі ж гетман дазваляў вольныя выбары ўраднікаў. Піншчына мусіла адысьці ад Літвы і «навекі» далучыцца да Ўкраіны. Гэты павет насялялі русіны, і праваслаўнай царкве ў ім ўдалося захаваць некаторыя свае даўнейшыя інстытуты і падтрымліваць шчыльныя сувязі з Кіевам. Тутэйшая шляхта называла сябе «неунійнымі русінамі» і адстойвала праваслаўе[1150]. Некаторыя пінскія шляхціцы, напрыклад Іван Бруяка і Міхайла Крычэўскі, сталі казацкімі палкоўнікамі[1151]. Літоўскі шляхціц Крычэўскі ўзначаліў казацкія войскі ў вайне супраць Літвы. 31 ліпеня 1649 г. пад Лоевам пасьля працяглай бітвы Януш Радзівіл разьбіў казацкую армію. Крычэўскі загінуў. Невядомы мастак намаляваў яго пасьмяротны партрэт з красамоўным подпісам: «Міхайла Крычэўскі, літоўскі шляхціц і казацкі паўстанец супраць літоўскага князя Януша Радзівіла»[1152].

Аднак пасьля 1596 г. шмат хто зь пінскай шляхты прыняў каталіцтва. Таму Хмяльніцкі, абаронца праваслаўя і праціўнік каталіцызму, захаваў усе правы каталікоў. Далучэньне Піншчыны адпавядала імкненьню Хмяльніцкага аб'яднаць усю Русь. З стратэгічнага гледзішча Пінскі павет быў важнай буфэрнай зонай паміж Украінай і польскай тэрыторыяй, занятай швэдзкім войскам[1153]. З верасьня 1657 г. гетман загадаў Пінску пацьвердзіць пераход да Ўкраіны, і ў Пінску быў разьмешчаны казацкі загон[1154]. Мясцовы праваслаўны шляхціц Раман Ельскі атрымаў тытул казацкага палкоўніка[1155]. Аднак на той момант, калі дамова ўвайшла ў сілу, колькасьць прыхільнікаў Украіны зьменшылася. Міхал Статкевіч памёр у Чыгірыне ў канцы 1656 г.[1156] Іншы ініцыятар заключэньня дамовы, Адам Спытак, раптоўна памёр падчас перамоваў[1157]. Староста пінскі, праваслаўны шляхціц Юры Нелюбовіч-Тукальскі, памёр у красавіку 1656 г.[1158] Яго брат, намесьнік Віленскага манастыра Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі, падтрымліваў правядзеньне перамоваў[1159]. У жніўні 1657 г. на дамову паміж Пінскам і Ўкраінай адрэагаваў польскі кароль. Ён абвясьціў Лукаша Ельскага (бацьку казацкага палкоўніка Рамана Ельскага) «здраднікам, які прысягнуў Хмяльніцкаму і аддаў яму каралеўскія землі Піншчыны»[1160]. У верасьні 1657 г. Ян Казімер перадаў маёмасьць Ельскіх лаяль-

1150 Коршунов. Афанасий Филипович. С. 128—130.

1151 Ліпіньский. Україна на переломі 1657—1659 рр. С. 223, 246.

1152 Imago Poloniae, Dawna Rzeczpospolita na mapach, dokumentach i starodrukach w zbiorach Tomasza Niewodniczańskiego. Warszawa, 2002. Vol. 1. H15 — 4. P. 68.

1153 Wibling. Carl X Gustaf och Georg Rakoczy. P. 30.

1154 LM. No. 64.

1155 Ліпіньский. Україна на переломі 1657—1659 рр. С. 233.

1156 LM. No. 157, 376.

1157 Ліпіньский. Україна на переломі 1657—1659 рр. С. 226, 229.

1158 LM. No. 80.

1159 Mironowicz, Antoni. Metropolita Józef Nielubowicz-Tukalski. Białystok, 1998.

1160 LM. No. 64.

наму шляхціцу Казімеру Нарушэвічу і назваў Ельскага «запачаткавальнікам вечнай няволі Пінску пад казакамі»[1161].

Цяжкім ударам па праказацкай партыі сталася сьмерць 6 жніўня 1657 г. у Чыгірыне Багдана Хмяльніцкага. У дзень яго пахаваньня (3 верасьня 1657 г.) у Пінску сабраўся соймік, на якім прысутнічаў пасол ад Украіны Іван Груша. 10 верасьня 1657 г. Павал Сапега заклікаў пінскую шляхту змагацца супраць казакоў, і настроеная супраць гетманшчыны шляхта сабралася ў Калавуравічах на альтэрнатыўны соймік, які ўзначаліў уніяцкі біскуп Андрэй Квасінскі-Злоты[1162]. Апазыцыя абвясьціла дамову з Украінай несапраўднай, бо дакумэнт падпісалі толькі маршалак і стольнік, і выключна пад ціскам гетмана; іншая ж шляхта падпісацца адмовілася[1163].

Пачалася працяглая барацьба за Піншчыну паміж Украінай і Рэччу Паспалітай. У сьнежні 1657 г. у Пінск увайшоў палкоўнік Канстанцін Выгоўскі. Яго брат новы гетман Іван Выгоўскі растлумачыў Станіславу Бянеўскаму, кашталяну валынскаму, што ўкраінская залога ў Піску разьмешчаная згодна з воляй пінскай шляхты[1164]. Выгоўскі абяцаў даслаць каралю Польшчы арыгінал дамовы зь Пінскам з усімі подпісамі[1165]. У адказ Ян Казімер ужыў сваю звычайную тактыку. Ён выдаў шматлікія акты, паводле якіх зямельныя ўладаньні прыхільнікаў Украіны пераходзілі да ягоных хаўрусьнікаў. Першы канфіскаваны каралём надзел належаў Лукашу Ельскаму, «здрадніку, які перайшоў да казакоў і пераманіў за сабой іншую шляхту, абяцаючы ёй пратэкцыю». Ян Казімер аддаў маёнтак Ельскага Абраму Дастаеўскаму[1166]. За «падтрымку казацкага заступніцтва» роды Стахоўскіх і Дахтаровічаў таксама пазбаўляліся сваіх надзелаў[1167]. Каталіцкая шляхта разрабавалі маёнтак Нелюбовіча-Тукальскага[1168].

23 чэрвеня 1658 г. Канстанцін Выгоўскі загадаў усёй пінскай шляхце сабрацца на соймік у Давыд-Гарадку. Але ніхто не зьявіўся. Польшча зьбіралася падпісаць з Украінай перамір'е, якім гетман заяўляў свае правы на Піншчыну. Гэта выклікала моцны пратэст Паўла Сапегі — ён абвясьціў, што ВКЛ не ратыфікуе перамір'я[1169]. Тым ня менш, Сапега загадаў сваім жаўнерам пазьбягаць бою з казакамі[1170]. Спрабуючы знайсьці прыхільнікаў украінска-пінскага хаўрусу, Іван Выгоўскі 31 ліпеня 1658 г. пацьвердзіў дамову зь Пінскам. З казацкімі ўладамі ў Пінску пачаў супрацоўнічаць праваслаўны князь і літоўскі сэнатар Мікалай Сьвятаполк-Чаць-

1161 LM. No. 523.

1162 Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 237—238.

1163 Гарасимчук, Василь. Матеріали до історії Козаччини XVII віку. Львів, 1994. № 6.

1164 Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 252.

1165 Ліпіньский. Україна на переломі 1657—1659 рр. С. 230—231.

1166 LM. No. 418.

1167 Тамсама. № 174, 175.

1168 Тамсама. No. 146.

1169 Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 272.

вярцінскі — кашталян менскі і найбагацейшы пінскі землеўладальнік[1171]. Яго род узыходзіў да сярэднявечнага вялікага князя кіеўскага Сьвятаполка. Але ў той жа час падтрымліваць украінска-пінскі хаўрус адмовіўся Лукаш Ельскі. У жніўні 1658 г. ён з сваім сынам Раманам перайшоў назад на польскі бок і атрымаў ад караля поўную амністыю[1172]. Пасьля гэтага хаўрус з Украінай ужо не карыстаўся падтрымкай пінскай шляхты.

У жніўні 1658 г. у Гадзячы пачаліся перамовы аб уніі паміж Украінай і Польшчай. Яны выклікалі занепакоенасьць літвінаў. Канцлер Крыштап Пац справядліва меркаваў, што «Літва, а ня Польшча заплаціць за гэтую унію сваімі землямі»[1173]. Сапраўды, казакі прэтэндавалі на Піншчыну, Беларусь і Старадубскі павет[1174]. Іх патрабаваньняў не задаволілі толькі праз пратэст Людвіка Еўлашэўскага, літоўскага прадстаўніка ў Гадзячы. 16 верасьня 1658 г. Гадзяцкая унія паміж Украінай і Рэччу Паспалітай была падпісана. Гетманшчына выходзіла з сваёй фэдэрацыі з Маскоўскай дзяржавай і вярталася ў склад Рэчы Паспалітай[1175]. На яе тэрыторыі стваралася Вялікае княства Рускае, якое ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай на правах трэцяга ўдзельніка фэдэрацыі[1176]. Аднак да тэрыторыі княства не далучаліся рускія паветы ВКЛ — яно абымала толькі Ўкраіну ў яе старых межах. У Кіеўскім ваяводзтве службовыя пасады магла займаць толькі праваслаўная шляхта. Казакі, якія ўдзельнічалі ў берасьцейскай кампаніі на баку швэдаў, атрымлівалі амністыю. Ян Казімер надаваў шляхецтва шэрагу казацкіх афіцэраў. Адначасова на просьбу гетмана шляхецкую годнасьць атрымаў Данііл Алівэбэрг, дыплямат на ўкраінскай і швэдзкай службе.

Гадзяцкая унія мела немалое дачыненьне да ВКЛ. Па-першае, Люблінская унія абвяшчалася ўзорам уніі з Украінай. Па-другое, шэраг артыкулаў Гадзяцкай дамовы прадугледжваў падтрымку праваслаўнай царквы і дыскрымінацыю ўніятаў і пратэстантаў. Уніяцкая царква абвяшчалася «крыніцай усіх разладаў паміж рымскай і грэцкай шляхтай» і таму забаранялася. У ВКЛ мусіла адчыніцца праваслаўная акадэмія. У ёй не маглі выкладаць арыяне, кальвіністы і лютэране; не дазваляўся і прыём студэнтаў-пратэстантаў. Праваслаўнай царкве вярталася яе маёмасьць «ва ўсіх гарадах, дзе пануе руская гаворка»[1177]. Праваслаўны япіскап беларускі атрымліваў месца ў Сэнаце. Падпарадкаваньне Беларускай япархіі Кіеву стварала магчымасьці для ўкраінскага ўплыву на ВКЛ. Аднак паводле Гадзяц-

1170 Тамсама. С. 253. / Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 253.

1171 Гарасимчук. Матеріали до історії Козаччини. №№ 62, 66, 68, 74.

1172 LM. No. 478.

1173 Яковлева. Гетманщина в другій половині 50-х років XVII століття. С. 283.

1174 Нариси з історії дипломатії України. С. 172.

1175 Kaminski, Andrzej. The Cossack experiment in the szlachta democracy in the Polish-Lithuanian Commonwealth: the Hadiach Union // Harvard Ukrainian Studies. 1977. Vol. 1. P. 178—197.

1176 KPK. P. 297—307.

1177 Тамсама. С. 297—298.

кай уніі Ўкраіна не атрымала ніводнага літоўскага павету. Больш за тое, казакам давялося пакінуць Беларусь і Піншчыну[1178].

Галоўным аўтарам Гадзяцкай дамовы традыцыйна лічыцца Нямірыч. Расчараваўшыся ў швэдзкай палітыцы, былы генэрал Карла Х Густава перайшоў з арыянства ў праваслаўе і заклікаў усіх рускіх пратэстантаў пераняць яго прыклад. 24 траўня 1659 г. у Сэнаце падчас ратыфікацыі на праваслаўнай Біблії Гадзяцкай уніі Нямірыч публічна зрокся швэдзкай службы і на праваслаўнай Біблії зноў прысягнуў на вернасьць польскаму каралю[1179].

## 4.7. Месца Вялікага Княства Літоўскага ў швэдзкай палітыцы ў 1658—1661 гг.

Адступленьне швэдзкай арміі і пераарыентацыя партыі Радзівіла на Польшчу дазволілі літоўскаму войску пачаць новую кампанію супраць Швэцыі. Гасеўскі і Сапега кантралявалі значную частку ВКЛ. У такіх умовах зноў можна было думаць пра вяртаньне Інфлянтаў. У кастрычніку 1657 г. Гасеўскі на чале 5-тысячнага войска рушыў на Лівонію. «У Швэцыі зьявіўся яшчэ адзін вораг у Лівоніі — літвіны, і дзейнічалі яны вельмі эфэктыўна»[1180]. Літоўскае войска захапіла Кірхгольм і ўзяла ў аблогу Рыгу. Швэды прымусілі Гасеўскага зьняць аблогу, але яны моцна зьнясілелі і не змаглі перашкодзіць літвінам заваяваць правінцыю. Гасеўскі каардынаваў правядзеньне ваеннай апэрацыі з Ардыным-Нашчокіным, які камандаваў расейскімі войскамі ва ўсходняй частцы Лівоніі[1181]. Улетку 1658 г. літвіны валодалі шэрагам лівонскіх гарадоў, у тым ліку Гельмэтам, Вольмарам і Ронэбургам[1182]. Паводле сьведчаньняў літоўскіх афіцэраў, якія ўдзельнічалі ў кампаніі, латыскія сяляне падтрымлівалі Літву ў вайне супраць Швэцыі[1183]. Гэта прызнавалі і швэды[1184].

Вымушаная весьці вайну на два франты, Швэцыя вырашыла заключыць перамір'е з Расеяй і адмовіцца ад сваіх прэтэнзій да ВКЛ. Карл Х Густаў загадаў свайму паслу ў Маскве паведаміць, што ён прызнае права цара на тытул «вялікага князя літоўскага, самадзержцы Белай Русі, хоць наогул і не заведзена самачынна прысвойваць тытулы краін, захопленых сілай і новы статус якіх не пацьверджаны дамовай»[1185]. 21 траўня 1658 г. Швэцыя падпісала дэклярацыю аб імкненьні пачаць перамовы з Маскоўскай дзяржавай[1186]. Швэдзкую дэлегацыю ўзначаліў гу-

1178 Нариси з історії дипломатії України. С. 172.
1179 Kot. Jerzy Niemirycz. P. 46.
1180 Blomberg. An account of Livonia. P. 167.
1181 Kobzareva. Documents from Russian State Archives of old acts. P. 221, 223
1182 Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 117—123; Codello. Wydarzenia wojenne na Żmudzi. P. 49.
1183 Pamiętnik Jana Władysława Poczobuta Odlanickiego (1640—1684). Warszawa, 1877. P. 26.
1184 Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 119, 150.
1185 Соловьев. История России. Том 10. С. 60
1186 PSZRI. No. 228. P. 451—454.

бэрнатар Эстляндыі Бэнгт Хурн. У яе таксама ўвайшлі Густаў Карлсан Банэр, Андрэас Вальвік і Юхан Вэстрынг. Усе яны былі знаўцамі ўсходнеэўрапейскай палітыкі. На чале расейскай дэлегацыі стаялі Іван Празароўскі і Афанасій Ардын-Нашчокін. Як адзначыла Алена Кобзарава, Расею пужала жаданьне Швэцыі аднавіць свой уплыў у Літве[1187]. Тым ня менш, Швэцыя падчас перамоў не выказвала ніякай зацікаўленасьці ў панаваньні над ВКЛ[1188]. 20 сьнежня 1658 г. Расея і Швэцыя падпісалі перамір'е ў Валіясары[1189]. Расея падпісала яго на дваццаць год, Швэцыя — на тры гады. Швэцыя прызнала новы царскі тытул «вялікі князь літоўскі, самадзержац Белай Русі». На мове дыпляматыі гэта азначала юрыдычнае прызнаньне за Расеяй права на ВКЛ. Паводле артыкулу 23, кароль Швэцыі адмаўляўся ад актыўнай палітычнай дзейнасьці ў Літве, абяцаючы «не чыніць ніякай шкоды ўладару securitya новаабытых земляў у ВКЛ і Беларусі». Важным быў і камэрцыйны аспэкт. Аднаўляўся гандаль паміж расейскімі і швэдзкімі купцамі; купцы Беларусі згадваліся як «царовы людзі»[1190]. Такім чынам, паводле пагадненьня Швэцыя пераставала быць палітычным канкурэнтам Расеі ў ВКЛ. У Маскве лічылі Валіясарскае перамір'е вялікім дыпляматычным посьпехам; зь яго нагоды цар загадаў правесьці ва ўсіх праваслаўных храмах урачыстыя набажэнствы[1191].

Спыненьне ваенных дзеяньняў супраць Расеі дазволіла Швэцыі засяродзіцца на кампаніі супраць літоўскага войска ў Лівоніі. У верасьні 1658 г. швэдзкія сілы на чале з генэралам Робэртам Дугласам выціснулі літвінаў зь Лівоніі. Швэды занялі Курляндыю, нягледзячы на яе нэўтралітэт. Курляндзкага князя Якаба Кетлера і яго сям'ю арыштавалі і вывезьлі ў Рыгу[1192]. У пачатку 1659 г. Швэцыя правяла пасьпяховую кампанію ў Жамойці. Аднак Дуглас не хацеў выклікаць незадаволенасьці Масквы і таму ня рушыў у цэнтральныя паветы Літвы[1193]. Калі да Гасеўскага далучылася прускае войска на чале з Багуславам Радзівілам, Літва зноў перахапіла ініцыятыву[1194]. У выніку літоўска-пруская кааліцыя ўзяла верх над Швэцыяй. У кастрычніку 1659 г. Радзівіл захапіў балтыйскія парты Лібаву і Грубін. Аблога сталіцы Курляндыі Мітавы скончылася яе капітуляцыяй літоўскаму войску 9 студзеня 1659 г. Швэдзкаму гарнізону з 500 жаўнераў на чале зь Юханам Рэнам было дазволена адысьці ў Рыгу. Палкоўнік Аляксандар Палубінскі

[1187] Кобзарева. Дипломатическая борьба России за выход к Балтийскому морю. С. 244—248.

[1188] Nordwall. Svensk-Ryska Underhandlingar före freden i Kardis. P. 40—53; Кобзарева. Дипломатическая борьба России за выход к Балтийскому морю. С. 238.

[1189] На тэрыторыі сёньняшняй Эстоніі, на поўдзень ад Нарвы.

[1190] PSZRI. No. 240. P. 468—478.

[1191] Тамсама. № 241.

[1192] A relation of the horrid injuries committed by the King of Sweden, upon the Duke of Curland. London, 1659.

[1193] Nordwall. Svensk-Ryska Underhandlingar före freden i Kardis. P. 70.

[1194] Jacoby, Jörg. Boguslaus Radziwill: der Statthalter des grossen Kurfürsten in Ostpreussen. Marburg/Lahn, 1959. P. 88.

з 2000 коньніцы выступіў зь Мітавы, каб узяць Рыгу. Горад ахапіла паніка. Швэдам удалося выціснуць літвінаў з навакольляў гораду. Аднак Швэцыя страціла амаль усе свае пазыцыі ў Лівоніі і Курляндыі. Увесну 1660 г., напярэдадні польска-швэдзкіх перамоваў у Аліве, пад кантролем Швэцыі заставаўся толькі адзін замак у Курляндыі — Баўске, які трымаў паўтарагадовую аблогу літвінаў[1 195].

Багуслава Радзівіла падчас швэдзка-польскіх перамоваў непакоіў лёс фамільных земляў, большасьць зь якіх занялі літоўскія войскі. Гасеўскі ўзяў Біржы і Кейданы, Сапега — Тыкоцін, Орлю і Заблудаў. Скарыстаўшыся варожасьцю да Швэцыі ў Жамойці, Радзівіл вярнуў сабе кантроль над Біржамі і Кейданамі. Аднак праўныя пытаньні заставаліся нявырашанымі. Таму Радзівіл напісаў каралю Польшчы і паведаміў яму пра свае посьпехі ў вайне супраць Швэцыі. Ён таксама паскардзіўся на Гасеўскага, які пасьпеў разрабаваць Біржы і Кейданы. Радзівіл сьцьвярджаў, што захоп гэтых прыватных гарадоў цалкам незаконны, і таму ён прасіць дазволу вярнуць сабе свае ўладаньні. Ён падкрэсьліваў згубныя вынікі кіраваньня Гасеўскага. У Біржах зьнікла амаль уся зброя і ваеннае абсталяваньне. Зьнясіленыя рабункамі мяшчане ўцяклі ў Курляндыю[1 196]. Да ліста прыкладаўся падрабязны пералік уладаньняў Януша Радзівіла[1 197]. З згоды Янушавай удавы Марыі Радзівіл Багуслаў у 1658 г. прыняў апякунства над яе дачкой князёўнай Ганнай Марыяй.

На перамовах з Швэцыяй у Аліве інтарэсы Радзівіла прадстаўлялі канцлер ВКЛ Крыштап Пац і Ян Мяжэнскі. Узаемадзеяньне нядаўніх ворагаў — Радзівіла і Паца — тлумачылася новай палітычнай сытуацыяй, калі казаць дакладна, барацьбой паміж Пацамі і Сапегамі за ўплыў у Літве[1 198]. У сакавіку 1660 г. Ганна Марыя Радзівіл папрасіла Дэлягардзі абараніць яе інтарэсы на перамовах з Польшчай[1 199]. Зь меркаваньняў асьцярогі Радзівіл не пісаў лістоў Дэлягардзі (усё-такі той быў на варожым баку), а дзейнічаў праз пасярэднікаў. За дзень да перамоваў Крыштап Пац атрымаў ад Радзівіла 18 000 злотых, 6000 зь якіх прызначаліся самому канцлеру «за спрыяньне нам на перамовах з швэдамі». Астатнія 12 000 Пац меўся перадаць «швэдзкаму паслу [Дэлягардзі?], каб падчас перамоваў не былі занядбаныя мае інтарэсы і каб былі цалкам задаволены інтарэсы дачкі Януша Радзівіла»[1 200].

1195 Pamiętnik Jana Poczobuta Odlanickiego. P. 22—35; Codello. Wydarzenia wojenne na Żmudzi. P. 49—56; Fagerlund. Kriget i Östersjöprovinserna. P. 139—207.

1196 Багуслаў Радзівіл — Яну Казімеру. 26 кастрычніка 1659. Мемель. Па-польску. NHAB. Фонд 694. Справа 19. Арк. 22—23.

1197 Inventarium über des weÿland Goigebornen Fürsten, gern Johannusen Radziwillen. NHAB. Фонд 694. Справа 17. Арк. 1—8.

1198 Wasilewski. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła. P. 78—81.

1199 Ганна Марыя Радзівіл — Магнусу Дэлягардзі. 12 сакавіка 1660. Лохаў. Па-лацінску. RA. De la Gardieska Samlingen. Skrivelser till M. G. De la Gardie. Ser. C:I. E 1531.

1200 NHAB. Ф. 694. Справа 146. Ф. 7.

Карл X Густаў даў сваім паслам у Аліве наступныя ўказаньні наконт Літвы. Па-першае, кароль ведаў, што пасьля Яна Казімера велікакняскі пасад дастанецца ворагу Швэцыі. Таму было неабходна гарантаваць правы пратэстантаў, каб у Літве захоўвалася пятая калёна Швэцыі. Па-другое, Швэцыя зьбіралася патрабаваць, каб ёй адышла інфлянцкая правінцыя Рэжыца і каб Літва на дзесяць гадоў зачыніла свае мытныя каморы на Дзьвіне[1201]. Для прасоўваньня сваіх інтарэсаў швэды меркавалі скарыстаць Паца, які ўжо атрымаў хабар у памеры 30 000 ліўраў праз францускага пасярэдніка[1202]. Аднак падчас тайнай сустрэчы з швэдзкім паслом Юханам Вэйдэхайнам Пац, які разрываўся паміж асабістымі інтарэсамі і інтарэсамі Рэчы Паспалітай, адзначыў, што швэды патрабавалі немагчымага[1203].

Мірныя перамовы паміж Швэцыяй, Рэччу Паспалітай, Брандэнбургам-Прусіяй, імпэрыяй Габсбургаў і Даніяй пачаліся ў Аліўскім цыстэрцыянскім манастыры паблізу Гданьску[1204]. Галоўным пасярэднікам паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй выступаў францускі пасол Антуан дэ Люмбрэ. Швэдкі бок прадстаўлялі Магнус Габрыель Дэлягардзі, Бэнгт Габрыэльсан Уксэнштэрна, Крыстофэр Карл фон Шліпэнбах і Андэрс Гільдэнклёў. Зь сямі камісараў ад Рэчы Паспалітай толькі адзін — Крыштап Пац — прадстаўляў Літву. Гэта парушала прынцып роўнасьці ў прадстаўніцтве Польшчы і ВКЛ у міжнародных дачыненьнях. 3 траўня 1660 г. Швэцыя падпісала вечны мір з Рэччу Паспалітай і Брандэнбургам-Прусіяй. Аналіз ходу перамоваў застаецца за рамкамі гэтай працы і патрабуе больш шырокага дасьледаваньня[1205]. Швэдзкія архіўныя матэрыялы, што датычаць гэтага пытаньня, налічваюць шмат тамоў[1206]. Таму я прааналізую толькі канчатковы тэкст дамовы.

У яе швэдзкім тэксьце ў частцы, датычнай Рэчы Паспалітай, ня згадваецца Літва. Гэта адно зь першых пагадненьняў паміж Швэцыяй і Польска-Літоўскай дзяржавай, дзе «Рэч Паспалітая абодвух народаў» фігуруе толькі як «Польская Рэспубліка» (*Republiken Pohlen*), што сьведчыць пра заняпад міжнароднага статусу Літвы.

Паводле чацьвёртага абзацу артыкулу 2, спыняўся судовы перасьлед і абвяшчалася амністыя для тых, хто ў час вайны «быў прызваны на ваенную або цывільную службу Яго Каралеўскай Мосьці караля Швэцыі, і ў будучыні яны ня будуць падлягаць перасьледу ці пакараньню за гэта». Падкрэсьлівалася, што гэта датычыць усіх літоўскіх калябарацыяністаў, «незалежна ад іх месца пражываньня, стану, грамадзкага становішча і веры, а таксама адносінаў да дзяр-

1201 Fahlborg. Sveriges yttre politik 1660—1664. P. 21.

1202 Тамсама. С. 159, 169.

1203 Тамсама. С. 21. Заўвага 3.

1204 Mamuszka, Felix. Oliwa. Okruchy z dziejów, zabytki. Gdańsk, 1985.

1205 Haumant, Emile. La guerre du Nord et la paix d'Oliva 1655—1660. Paris, 1893.

1206 Handlingar. Akter angående Oliviske Fredstraktaten. RA. Diplomatica Polonica. Vol. 34—50.

жаўнай службы»[1207]. Згодна з артыкулам 8, Швэцыя абяцала надалей устрымлівацца ад любой падтрымкі сэпаратызму сярод літоўскай эліты. «Кароль і каралеўства Швэцыя абвяшчаюць, што яны не жадаюць і ня могуць прэтэндаваць на нейкія правы над правінцыямі, паветамі ці прыватнымі асобамі ВКЛ». Паводле першага абзацу артыкулу 14, «палоньнікі з абодвух бакоў, Рэчы Паспалітай ці Швэцыі, мусяць быць вызвалены без усялякай кампэнсацыі». Літоўскія ўлады абяцалі паспрыяць, каб швэдзкіх жаўнераў, захопленых пад Просткамі ў татарскі палон, вызвалілі «бяз выкупу і на працягу 6 месяцаў», а таксама абавязваліся гарантаваць іх бясьпечны пераход празь Літву ў швэдзкую Лівонію (другі абзац артыкулу 14). Артыкул 15 заклікаў да аднаўленьня даваеннага становішча ў сфэры гандлю і вольнага перавозу тавараў па Дзьвіне.

Артыкул 17 цалкам прысьвячаўся спадчыне Януша Радзівіла. Польскі кароль абяцаў пратэкцыю Ганьне Марыі Радзівіл, «адзінай дачцэ нябожчыка Януша Радзівіла, ягамосьці князя ваяводы віленскага і вялікага гетмана літоўскага, праз агульную амністыю». Большасьць маёнткаў Радзівіла па-ранейшаму займалі літоўскія войскі. Такім чынам, дзякуючы заступніцтву Швэцыі польскі кароль пагадзіўся рызыкнуць увайсьці ў канфлікт з арміяй ВКЛ. Паводле артыкулаў 4 і 5, Рэч Паспалітая раз і назаўсёды саступала Швэцыі яе частку Лівоніі на ўмовах, што існавалі да 1655 г. Такім чынам, «малыя Інфлянты» заставаліся сумесным уладаньнем Літвы і Польшчы. Апроч таго, як вялікая частка Лівоніі па-ранейшаму знаходзілася ва ўладзе расейскага цара, то абодва бакі пагадзіліся, што ў выпадку будучых войнаў з Расеяй яны вернуць адзін аднаму тыя часткі Лівоніі, якія кожнаму ўдасца вызваліць. Тытулам князя лівонскага атрымлівалі права менавацца каралі польскія (у дачыненьні да паўднёвай Лівоніі) і швэдзкія (у дачыненьні да паўночнай Лівоніі).

Швэдзкія камісары ня здолелі дамагчыся гарантый для пратэстантаў. Таму яны падрыхтавалі «Дэклярацыю паслоў швэдзкай кароны на мірных перамовах адносна свабоды дысыдэнтаў». Гэты дакумэнт надрукавалі за подпісамі чатырох швэдзкіх паслоў[1208]. Такім чынам, палітычная будучыня пратэстантаў ВКЛ заставалася няпэўнай.

Літоўская шляхта непрыхільна паставілася да вынікаў перамоваў у Аліве. Нягледзячы на свае посьпехі ў Курляндыі і Лівоніі, Рэч Паспалітая мусіла саступіць большую частку Лівоніі Швэцыі. Паводле словаў аднаго зь літоўскіх афіцэраў, «згодна з гэтай дамовай уся Лівонія назаўсёды адыходзіла да Швэцыі, і толькі

[1207] Pacta Olivensia. VL. P. 344—354; Instrumentum pacis perpetuae. Eller instrumentet af den ewiga freden, hwilken emellan Hans Kongl. Maytt. wår allernådigste Konungh och Sweriges rijke, på then eena; och Hans Kongl. Maytt. och Republiken Pohlen, tillijka med thesz bundzförwanter och krijgs consorter såsom Hans Keyserl. Mayst. sampt Hans Durchleuchtigheet Churförsten af Brandenburgh. Stockholm, 1660. UUB. Palmskiöldiske Samlingen 95. Vol. VIII. Acta Sveco-Polonica. P. 313—347.

[1208] Declaratio Coronae Svecia ad tractatus Pacis Prussiacae Legatorum pro pace et libertate dissidentium. UB. Palmskiöldiske Samlingen 95. Vol. VIII. Acta Sveco-Polonica. P. 309—312.

малая частка заставалася на нашу долю»[1209]. У сваю чаргу, Багуслаў Радзівіл выказаў задавальненьне вынікамі перамоў, бо «былі ўлічаны інтарэсы маёй сям'і»[1210]. Паводле дамовы Радзівіл вяртаў сабе ўсе свае гарады[1211]. Аліўскі мір меў антырасейскую накіраванасьць і дазволіў Польшчы пачаць ваенныя дзеяньні супраць Расеі, каб вызваліць Літву. Адразу па заключэньні дамовы літоўскае войска на чале з Сапегам далучылася да польскіх атрадаў Чарнецкага і рушыла на ВКЛ. Там 27 чэрвеня 1660 г. у бітве ля ракі Палонкі пад Ляхавічамі яны разьбілі галоўныя сілы расейскай арміі на чале з Іванам Хаванскім[1212]. Пасьля гэтай паразы Расея, якая, атрымаўшы вестку пра сьмерць Карла Густава, спыніла мірныя перамовы з Швэцыяй, мусіла іх аднавіць.

21 чэрвеня 1661 г. Швэцыя і Расея падпісалі «вечны мір» у лівонскім замку Кардыс. Швэдзкі бок прадстаўлялі Бэнгт Хурн, Густаў Карлсан Банэр і Андрэас Вальвік. Расейскую дэлегацыю ўзначальвалі Іван Празароўскі і Іван Барацінскі. Галоўным пытаньнем для Расеі было яе імкненьне далучыць цэнтральныя паветы Літвы і Беларусі. Паслы таксама настойвалі на праве Расеі пакінуць сабе польска-літоўскія Інфлянты, «таму што гэты край мяжуе зь Беларусьсю». Пытаньне Інфлянтаў было шчыльна зьвязанае з панаваньнем Расеі ў ВКЛ. Галоўныя расейскія вайсковыя сілы, раскватараваныя ў Полацку, апынуліся закладнікамі палітыкі Масквы. Паводле словаў Ардына-Нашчокіна, Полацак і Віцебск не прыносілі ніякай карысьці расейскай казьне. Праз спусташэньне вёскі, спрычыненае масавымі рабункамі, немагчыма было ўтрымліваць полацкую залогу коштам мясцовых жыхароў. Верныя цару гарадзкія ўлады скардзіліся яму, што расейскае войска сваімі паводзінамі давяло да поўнага заняпаду гандаль Полацку з Швэцыяй. Гарадзкі скарб быў пусты, таму што беларускія купцы ня мелі тавараў, якімі яны маглі б гандляваць з Рыгай. Шмат купцоў, «баючыся царовага войска, уцяклі, іх дамы ў Полацку зруйнаваныя і спаленыя, а ўсё майно раскрадзенае швэдамі»[1213]. Таму правіянт маскоўскае войска магло атрымліваць толькі з захопленых Расеяй земляў Лівоніі[1214]. Для Расеі страта Лівоніі азначала вымушаны вывад сваіх войскаў з паўночнай Беларусі.

Расейцы прапаноўвалі швэдам узяць Жамойць як кампэнсацыю за іх страты ў Беларусі і Літве. Аднак швэдзкая дэлегацыя заўважыла, што Жамойць занятая літоўскім, а не расейскім, войскам: «Таму няма сэнсу абяцаць Жамойць, інакш мы [швэды] таксама пачнём раздаваць землі, якія нам не належаць»[1215]. Швэды абві-

[1209] Pamiętnik Jana Poczobuta Odlanickiego. P. 180.

[1210] Radziwiłł. Autobiografia. P. 145.

[1211] Тамсама. С. 287.

[1212] Frost, Robert. The Northern wars. War, state and society in Northeastern Europe, 1558—1721. Longman, 2000. P. 186; Kossarzecki, Krzysztof. Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005. P. 201—236.

[1213] PSZRI. № 199. С. 414—415.

[1214] Кобзарева. Дипломатическая борьба России за выход к Балтийскому морю. С. 269—273.

[1215] Соловьев. История России. Том 10. С. 68.

навацілі маскавітаў, што тыя не даюць весьці гандаль па Дзьвіне, і бакі падрабязна запыніліся на пытаньнях гандлю[1216]. Што да палітычных аспэктаў «літоўскай праблемы», тут зьмест мірнай дамовы быў блізкі да Валіясарскага перамір'я. Чарговы раз Швэцыя прызнавала новы царскі тытул «вялікага князя літоўскага і смаленскага, самадзержца Белай Русі».

Швэдзкі кароль абяцаў не спрыяць польскаму каралю ў будучай вайне з Расеяй. Паводле артыкулу 9, Швэцыя прызнавала права Расеі на ВКЛ і літоўска-польскія Інфлянты і абяцала не заахвочваць стварэньня прашвэдзкай партыі ні ў адной з гэтых краін:

*Таксама было дамоўлена, што ў гарадах і землях, якія з гэтага часу знаходзяцца пад уладай Яго Царскай Вялікасьці ў Вялікім Княстве Літоўскім, Малой Русі, Белай Русі і Малых Інфлянтах, нельга падбухторваць да ніякіх варожых дзеяў, нельга заваёўваць ніякіх ягоных земляў і замкаў, і не павінна быць ніякіх прэтэнзій на гарады, якія могуць быць пад яго ўладаю ці панаваньнем, і не павінна ім чыніцца ніякай шкоды*[1217].

Увосень 1659 г. ваеннае і палітычнае становішча на літоўскіх землях зьмянілася на карысьць Польшчы. Літоўская шляхта спыніла ўсе сэпаратныя перамовы з Расеяй. Ваявода Юрый Даўгарукі паведамляў цару, што «ўся прысяжная шляхта з усіх паветаў здрадзіла нам, да гетманаў Паўла Сапегі і Гансеўскага прыстала і тваіх ратных людзей усюды пабівае ды ў палон бярэ»[1218]. У такіх умовах утрымліваць кантроль над ВКЛ зрабілася вельмі цяжка. У 1660 г. дэлегацыя беларускага праваслаўнага духавенства наведала сынод у Маскве і падарыла цару кнігу, напісаную на беларускай мове. Гэта быў каляндар з астралягічнымі прадказаньнямі будучых падзей. Цар Аляксей Міхайлавіч называўся ў ім «самадзержцам Белай Русі» і абвяшчаўся найвялікшым з уладароў гэтага краю. Аднак тытул вялікага князя літоўскага ня згадваўся[1219].

7 ліпеня 1660 г. войска Рэчы Паспалітай вызваліла Менск — скрайне важны горад Цэнтральнай Літвы. 11 лютага супраць Расеі паўстаў Магілёў — найбуйнейшы горад Беларусі. Паўсталыя гараджане перарэзалі дзьвюхтысячную маскоўскую залогу і зноў прысягнулі польскаму каралю. Іх прыклад перанялі Дзісна і Себеж. Патрыярх маскоўскі Нікан пракляў жыхароў Беларусі за здраду[1220]. 3 лістапада 1661 г. польска-літоўская армія разьбіла пад Кушлікамі галоўнае расей-

[1216] Nordwall. Svensk-Ryska Underhandlingar före freden i Kardis. P. 124, 137.

[1217] PSZRI. No. 301.

[1218] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 79.

[1219] BAN. Отдел рукописей. ПИА. № 2. Ф. 1—22.

[1220] У 1666 г. мітрапаліт Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі скасаваў гэты праклён, «таму што патрыярх маскоўскі панаваў у маёй Беларускай япархіі незаконна»: Сагановіч. Невядомая вайна. С. 103—104; Марзалюк. Магілёў у XII—XVIII стст. С. 77.

скае войска на чале з Іванам Хаванскім і вызваліла Паўночную Беларусь. 2 сьнежня 1661 г. маскоўская залога ў Вільні здалася войску Рэчы Паспалітай на чале з каралём Янам Казімерам, якому дапамагаў Багуслаў Радзівіл[1221]. У трынаццацігадовай вайне Расеі супраць ВКЛ настаў карэнны пералом, які быў вынікам кансалідацыі шляхты ВКЛ вакол Польшчы.

## 4.8. Высновы

Выкліканы вайной крызіс стварыў у ВКЛ парадаксальную сытуацыю. На права насіць тытул вялікага князя літоўскага адначасова прэтэндавалі чатыры ўладары. Краіна зрабілася арэнай барацьбы паміж пяцьцю дзяржавамі — Польшчай, Швэцыяй, Расеяй, гетманскай Украінай і Трансыльваніяй. Кожная зь іх разьлічвала на падтрымку мясцовай шляхты.

Расея бачыла два варыянты будучыні ВКЛ. У лепшым для Масквы выпадку ўсё княства мелася ўвайсьці ў склад Расеі. У горшым — заходняя частка заставалася з Польшчай, паўночная адыходзіла да Швэцыі, але Беларусь рабілася неад’емнай часткай Маскоўскай дзяржавы. Швэцыя і Расея дзейнічалі падобным жа спосабам. Аддзяляючы ад ВКЛ у адным выпадку Жамойць, а ў другім Беларусь, яны абвяшчалі гэтыя правінцыі далучанымі да ўласных дзяржаваў. Аднак калі Швэцыя шукала палітычных дамоўленасьцяў, Расея лічыла за лепшае дзейнічаць сілай. Патрыярх Нікан спрабаваў надаць расейскай вайне зь Літвой рэлігійнае адценьне. Праваслаўе абвяшчалася адзінай непарушнай верай. Цар ясна даваў зразумець, што ня будзе талерантна ставіцца да ўніятаў, каталікоў, пратэстантаў ці юдэяў і што сапраўднымі падданымі расейскай дзяржавы могуць быць толькі праваслаўныя. Масква заснавала новую ўрадавую ўстанову для кіраваньня захопленымі тэрыторыямі — так званы Літоўскі Прыказ, які дзейнічаў падобна да іншых земскіх прыказаў Маскоўскай дзяржавы — Казанскага ці Сібірскага.

Калі Швэцыя лічыла заключэньне Кейданскай уніі незавершаным і ніколі не вяла перамоў з дробнай шляхтай, расейская палітычная стратэгія была іншай. Расея заключала пагадненьні з усімі зацікаўленымі, даручаючы найвышэйшыя пасады дробным шляхціцам. Маскву больш цікавіла сіла, а ня права. Карл Х Густаў вагаўся, ці прымаць тытул вялікага князя літоўскага, хоць яго і надала яму значная частка літоўскай эліты: кароль Швэцыі чакаў палітычнага вырашэньня пытаньня аб статусе Літвы ў будучых перамовах з Расеяй і Польшчай. Цар Аляксей Міхайлавіч, наадварот, па ўзяцьці Вільні самазвана абвясьціў сябе вялікім князем і пачаў дыпляматычную вайну за права на гэты тытул з Швэцыяй і Польшчай.

Кейданская унія істотна перашкаджала Расеі ў яе плянах усталяваць сваю ўладу над ВКЛ. У выніку Маскве давялося пачаць перамовы з рознымі групоўкамі літоўскай эліты наконт аналягічнай расейска-літоўскай уніі. Колькасьць шляхціцаў,

[1221] Сагановіч. Невядомая вайна. С. 109—110.

якія прысягнулі Маскве, перавышала лік тых, хто падпісаў Кейданскую унію. Шляхта прызнавала цара сваім вялікім князем і абяцала «навекі быць пад яго гасударавай рукой». У дасягненьні уніі з Швэцыяй ключавую ролю адыгрывалі літоўскія пратэстанты. Расея, у сваю чаргу, карысталася падтрымкай праваслаўнай шляхты. Але было б памылкай лічыць, што на бок Расеі пераходзіла толькі праваслаўная шляхта., Сярод тых, хто падпісваўся пад актамі як аб расейскім, так і аб швэдзкім панаваньні, большасьць складалі каталікі — найбуйнейшая канфэсійная група. Тым ня менш, падчас вайны абвінавачаньні ў здрадзе на адрас праваслаўных і пратэстантаў зрабіліся ў Польшчы палітычным клішэ.

Ва ўсіх пагадненьнях паміж Расеяй і літоўскай шляхтай бракавала самага галоўнага — падрабязнага апісаньня будучага статусу Літвы ў складзе Расейскай дзяржавы. Як расейскія, так і літоўскія лідэры бачылі будучыню ВКЛ праз прызму сваёй палітычнай сыстэмы. Шляхта Літвы і Беларусі марыла пра раўнапраўны хаўрус паводле прынцыпаў літоўска-польскай фэдэрацыяй. Так, літоўская шляхта ставіла цару ўмовы, вельмі падобныя да тых, што ляжалі ў аснове Кейданскай уніі. Гэта натуральна, бо ў кожным выпадку літвіны імкнуліся захаваць уласную палітычную сыстэму. Літоўскія сэнатары ўяўлялі сябе дэпутатамі «дэмакратычнай» Баярскай Думы і марылі ўплываць на цара. Літоўская шляхта бачыла сваю будучыню ў раўнапраўнай фэдэрацыі з супольнай сталіцай — Смаленскам. Расея, наадварот, разглядала Літву праз прызму сваёй аўтакратыі. ВКЛ мусіла стаць правінцыяй накшталт Казанскага ханства, г. зн. неад'емнай часткай цэнтралізаванай манархіі безь ніякага аўтаномнага статусу. Цар лічыў зусім непатрэбным удзел літоўскай шляхты ў палітычным жыцьці. Расейская эліта не разумела складанай палітычнай сыстэмы шляхецкай польска-літоўскай рэспублікі, што стварала бездань непаразуменьня між шляхтай і расейцамі. У гэтым сэнсе расейскія вярхі не маглі, адрозна ад швэдаў і палякаў, прапанаваць літоўскай эліце прымальную будучыню ў рамках фэдэрацыі.

Нявызначаны статус ВКЛ і нежаданьне як Расеі, так і Швэцыі адмовіцца ад сваіх прэтэнзій на Літву былі ключавымі фактарамі расейска-швэдзкай вайны. Усе спробы Швэцыі і Расеі падзяліць ВКЛ праваліліся. Літоўская шляхта адыгрывала ў расейска-швэдзкім канфлікце асаблівую ролю. Аднак расейская палітыка часткова знайшла падтрымку, і шляхта Беларусі ўзяла актыўны ўдзел у вайне супраць Швэцыі.

Украіна далучылася да вайны з ВКЛ на баку Расеі, зыходзячы, аднак, з уласных інтарэсаў. Казакі захапілі значную частку Беларусі. У барацьбе за Беларусь Хмяльніцкі разьлічваў на падтрымку праваслаўнай шляхты. Масква прайграла прапагандысцкую вайну за падтрымку мясцовага насельніцтва. Яму прыйшліся больш даспадобы дэмакратычныя лёзунгі казакоў. У выніку масавага паказачваньня ўкраінскае войска на Беларусі ўзмацнілася мясцовымі казацкімі атрадамі. Расейскія ўлады ня здолелі абараніць шляхецкія маёнткі ад казацкіх наездаў. Гэта пагоршыла стаўленьне шляхты да Расеі і адбілася на стасунках паміж Расеяй і Ўкраінай. Так Расея стала закладніцай уласнай палітыкі. Посьпех украінскай замежнай палітыкі ў ВКЛ быў адной з прычын расейска-ўкраінскай вайны.

Самастойная палітыка Ўкраіны ў Літве і Беларусі прыцягнула увагу Швэцыі. Пасьля расейска-польскага перамір'я ў Нямежы ў Стакгольму зьявілася актуальная патрэба ўсталяваць свой пратэктарат над гетманскай Украінай. Хаўрус Украіны з Швэцыяй падчас берасьцейскай кампаніі неспрыяльна адбіўся на расейска-ўкраінскіх стасунках. У той час, калі Расея і Польшча падпісалі перамір'е, паводле якога цар меў зрабіцца будучым польскім каралём, казацкае войска ўвязалася ў вайну супраць Рэчы Паспалітай на баку праціўніка Масквы. Аднак Гетманшчына вылучыла ўласныя ўмовы, на якіх яна пагаджалася пайсьці пад швэдзкі пратэктарат, галоўнай зь якіх было прызнаньне Швэцыяй казацкай дзяржавы і яе будучых межаў, у якія мусіла ўвайсьці Беларусь. Цікавым эпізодам у палітычнай барацьбе за ВКЛ была спроба Ўкраіны далучыць Пінскі павет. Згодна з Корсуньскай дамовай 1657 г. паміж Швэцыяй і казакамі, Украіна выстаўляла ўмовай альянсу далучэньне большасьці рускіх паветаў Літвы. Пасьля падпісаньня пагадненьня прамаскоўская партыя сярод казакоў пачала на Ўкраіне грамадзянскую вайну. Калі швэды вывелі свае войска ў Данію, Украіна страціла зацікаўленасьць у швэдзкім пратэктараце, і гетман Выгоўскі пераарыентаваўся на ідэю ўкраінска-польскага хаўрусу. 16 верасьня 1658 г. Украіна і Рэч Паспалітая падпісалі Гадзяцкую дамову. Згодна зь ёю гетманшчына разрывала фэдэрацыю з Маскоўскай дзяржавай і далучалася да Рэчы Паспалітай.

Пасьля паўстаньня ў Жамойці Багуславу Радзівілу было вельмі істотна займець спадчыннае княства пад швэдзкім пратэктаратам. Будучая дзяржава мелася ўключаць у сябе Берасьцейскае і Наваградзкае ваяводзтвы, а таксама Падляшша. Амаль уся гэтая вялізная тэрыторыя знаходзілася па-за кантролем Расеі. Аднак Радзівілу бракавала магутнасьці, каб самастойна падпарадкаваць сабе гэтыя землі. Яму заставалася спадзявацца толькі на дыпляматычную і ваенную дапамогу Швэцыі. У 1656—1657 гг. швэдзкія дыпляматы сфармавалі антыпольскую кааліцыю малых некаталіцкіх усходнеэўрапейскіх дзяржаваў, у якой Радзівіл адыгрываў значную ролю. Хаўрусьнікі падпісалі дамову 6 сьнежня 1656 г. у Радноце. Яна уяўляла зь сябе першы падрабязны плян зьнікненьня Рэчы Паспалітай з мапы Эўропы праз падзел яе тэрыторыі паміж Швэцыяй, Трансыльваніяй, Прусіяй, Радзівілам і Ўкраінай. Радзівіл спадзяваўся стварыць уласную дзяржаву пад швэдзкім пратэктаратам, цэнтрам якой мусіла стаць Наваградзкае ваяводзтва. Швэцыя лічыла Радноцкую дамову вялікім дыпляматычным посьпехам. У той час як у Літве і Польшчы справы Швэцыі ішлі дрэнна, Стакгольм здолеў стварыць патэнцыйна магутны альянс, які мог зьмяніць расклад на карысьць Швэцыі. Пагадзіўшыся падзяліць Рэч Паспалітую, некаталіцкія хаўрусьнікі Швэцыі энэргічна ўзяліся за справу. Пры гэтым рэгіянальныя палітычныя эліты Рэчы Паспалітай — г. зн. шляхта Прускага герцагства, Украіны і прыхільнікі Радзівіла ў Літве — апынуліся ў шэрагах антыпольскай кааліцыі. Гэтак выявіўся сур'ёзны канфлікт паміж цэнтральным каралеўскім урадам і правінцыямі Рэчы Паспалітай.

Згодна з Радноцкай дамовай, хаўрусьнікі пачалі новую ваенную кампанію супраць Рэчы Паспалітай, каб раз і назаўсёды падзяліць яе. Швэцыя плянавала захапіць Берасьцейшчыну і такім чынам авалодаць галоўнай камунікацыйнай лініяй

паміж Літвой, Мазовіяй, Падляшшам, Прусіяй і Ўкраінай. Аднак калі Швэцыя перадала Берасьцейшчыну Трансыльваніі, унутры радноцкай кааліцыі ўзьніклі разлады. На Берасьцейшчыну прэтэндавалі як казакі, так і Радзівіл. Швэцыя адмовілася перадаць Берасьце Радзівілу, бо не хацела ўваходзіць у канфлікт з Ракочы, які меў магутнае войска, дзеля таго, каб задаволіць слабейшага хаўрусьніка. Пасьля гэтага Радзівіл разьвітаўся з сваімі плянамі стварыць уласную дзяржаву пад швэдзкім пратэктаратам ды адмовіўся ад далейшага ўзаемадзеяньня з Швэцыяй. Палітычная параза Радзівіла зь Берасьцем прывяла да канчатковай кансалідацыі шляхты ВКЛ вакол Польшчы.

Такім чынам, на восень 1657 г. Швэцыя страціла ўсіх сваіх хаўрусьнікаў ва Ўсходняй Эўропе. Трансыльванію і Ўкраіну ахапіў палітычны хаос, і яны больш не маглі выступаць на швэдзкім баку. Брандэнбург-Прусія пагадзілася далучыцца да Польшчы ў яе вайне супраць Швэцыі. Партыі Радзівілаў у Літве давялося перайсьці ў лягер праціўнікаў Швэцыі. Літоўскае войска пачало пасьпяховую антышвэдзкую кампанію ў Інфлянтах. Пазьней да яе далучыўся і Радзівіл. Імпэрыя Габсбургаў таксама ўлучылася ў вайну на польскім баку. Расея захоўвала перамір'е з Рэччу Паспалітай і працягвала барацьбу з Швэцыяй у Інгерманляндыі. Спробы Швэцыі стварыць кааліцыю малых некаталіцкіх краін праваліліся. Вывад швэдзкай арміі з ВКЛ і пераарыентацыя Радзівілавай партыі на Польшчу дазволілі літоўскаму войску пачаць новую ваенную кампанію супраць Швэцыі. Сутыкнуўшыся з вайной на два франты, Швэцыя вырашыла заключыць перамір'е з Расеяй. У Валіясарскім перамір'і 1658 г. і Кардыскім міры 1661 г. Швэцыя адмовілася ад сваіх прэтэнзій на ВКЛ і Жамойць. Тое самае вынікала з швэдзка-польскага Аліўскага міру 1660 г. Палітычная і ваенная сытуацыя зьмянілася на карысьць Польшчы. Шляхта ВКЛ спыніла ўсе сэпаратныя перамовы. Калі Польшча вярнула сабе сваю вайсковую моц, усе групоўкі літоўскай шляхты аб'ядналіся вакол Варшавы.

# 5. Агульныя высновы

## 5.1. Паваенны крызіс у ВКЛ

Вайна Рэчы Паспалітай з Расеяй і Швэцыяй (1654—1667 гг.) сталася катастрофай для жыхароў ВКЛ. Краіна страціла 48% свайго насельніцтва. У межах тагачаснай Беларусі гэтая лічба дасягала 72%[1222]. Кідаецца ў вочы розьніца ў чалавечых стратах на тэрыторыях, захопленых Швэцыяй і Расеяй. Страты двароў у паветах швэдзкай зоны склалі: у Жамойці — 31%, у Вількамірскім павеце — 23%, ва Ўпіцкім павеце — 34% і ў Ковенскім павеце — 37%. У ваколіцах Кейдан было зьнішчана 17% двароў. Між тым паветы, што знаходзіліся пад уладай маскавітаў, засталіся без 70% сваіх сядзібаў[1223]. На Беларусі каталіцкая царква страціла практычна ўсе свае ўладаньні, а ў паветах, занятых швэдамі, — 20% уладаньняў[1224].

Адзіным буйным няскораным местам ВКЛ застаўся Слуцак. Швэдзкая пратэкцыя засьцерагла гэты горад ад захопу варожымі арміямі. У паваенны пэрыяд у Слуцку трывала ўзрастаў палітычны і культурны ўплыў некаталіцкага насельніцтва. Тут захавалася пратэстанцкая гімназія і друкарня, горад зрабіўся сталіцай беларускага пратэстантызму. У 1764 г. тут утварылася антыўрадавая канфэдэрацыя пратэстанцкай і праваслаўнай шляхты, што сымбалізавала палітычны скон Польскай дзяржавы[1225]. Слуцак застаўся адзіным вялікім праваслаўным асяродкам на захад ад Бярэзіны. Габрэйская супольнасьць гораду перажыла вайну безь вялікіх страт, і таму ў 1691 г. Слуцак зрабіўся цэнтрам Літоўскага вааду[1226].

У вайну тысячы людзей прымусова перасялілі ў Расею. У адной Маскве былыя жыхары беларускіх і літоўскіх паветаў ВКЛ складалі да 20% усіх рамесьнікаў[1227]. Тысячы людзей пераехалі і на захад. Выгнанцы з Полаччыны заснавалі гандлёвае пасяленьне ў Курляндыі на Дзьвіне, якое назвалі Слабада. У 1670 г. князь Якуб Кетлер надаў гэтаму новаму ажыўленаму паселішчу магдэбурскае права. У гонар князя мястэчка перайменавалі ў Якубштат. Пазьней да русінаў далучыліся стараверы і літоўскія габрэі, і курляндзкае мястэчка зрабілася шматкультурным паселішчам[1228]. У 1684 г. у адной з русінскіх сем'яў Якубштату нарадзілася Марта

1222 Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi. Табліца 23. Можы падае статыстычныя зьвесткі з дакладнасьцю да дзясятых адсотка, хоць такая дакладнасьць падаецца незвычайнай для XVII ст.

1223 Тамсама. Табліцы 22, 41.

1224 Тамсама. Табліца 28.

1225 Анішчанка, Яўген. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай // Інкарпарацыя. Мінск, 2003. С. 102—104.

1226 Слуцк // Еврейская энциклопедия. Том 14. С. 392—393.

1227 Грыцкевіч. Беларуска-рускія перасяленні ў XIV—XVIII стст. С. 31—38.

1228 Апине, Инга. Место белорусов Латвии в ряду других народов // Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый. Мінск, 2001. С. 43—46.

Скаўронская, якая пазьней стала жонкай Пятра I і расейскай імпэратрыцай Кацярынай I.

Найвялікшыя дэмаграфічныя страты зазнала шляхта ВКЛ. Пасьля вайны колькасьць літоўскай шляхты аднаўлялася за кошт набілітацыі новых сацыяльных і этнічных груп. Сярод новых шляхецкіх родаў Воршы каля 10 % сталі складаць шляхціцы габрэйскага паходжаньня. Габрэі набылі шляхецкі статус на аснове Статуту ВКЛ 1588 г. (частка 12, артыкул 7). Праўда, для гэтага ім давялося зь юдаізму перайсьці ў хрысьціянства. Усе яны прынялі каталіцызм[1229]. Рэзкі рост долі новай шляхты спрычыніўся да палітычнага хаосу, які ахапіў Літву ў XVIII ст. Пасьля 1667 г. нават сярод сэнатараў сустракаліся прадстаўнікі нешляхецкіх родаў (Крысьпін-Кіршанштайн) — раней гэта было нечувана. Дэмаграфічны крызіс зьмяніў структуру гарадзкога насельніцтва, і на месца тутэйшых мяшчанаў прыйшло шмат эмігрантаў з Заходняй Эўропы. Напрыклад, гарадзенскія акты сьведчаць пра наплыў у места, якое страціла ў час вайны 46,4% свайго насельніцтва, вялікай колькасьці нямецкіх рамесьнікаў[1230].

Расейскія і казацкія войскі разбурылі большасьць пратэстанцкіх асяродкаў і вывезьлі ўсе кірылічныя друкарні[1231]. У 1687 г. пад ціскам каталіцкіх уладаў зачынілі апошнюю пратэстанцкую друкарню ў Слуцку. Даўнія традыцыі пратэстанцкага кнігадрукаваньня сканалі[1232]. З 1678 г. на працягу больш як дзесяці гадоў было незанятым адзінае пазасталае месца праваслаўнага япіскапа беларускага[1233]. Усё гэта вяло да масавага заняпаду літоўскай і рускай культураў. Першая пасьля вайны кніга на старабеларускай мове выйшла ў Вільні толькі ў 1691 г. У прадмове выдаўцы выбачаліся за такую вялікую затрымку ў выданьні, якую яны тлумачылі нястачай друкароў, знаёмых з кірыліцай[1234]. У 1697 г. у каталіцкіх богаслужэньнях у Вільні літоўскую мову замянілі на польскую[1235]. У 1722 г. выйшла апошняя кніга на старабеларускай мове. Пасьля масавага пераходу пратэстанцкай і праваслаўнай шляхты з купецтвам у каталіцызм рускае і літоўскае кнігавыдавецтва страціла фундатараў. У першай палове XVII ст. некаталікі прафундавалі выданьне ў ВКЛ каля 120 кніг на старабеларускай і 40 — на літоўскай мове. За той самы пэрыяд на польскай мове было выдадзена каля 400 кніг. Пасьля вайны і масавай зьмены веравызнаньня шляхты за пэрыяд 1667—1700 гг. выйшла толькі

1229 Яцкевіч, Зміцер. Малы гербоўнік халопеніцкай шляхты. Мінск, 1999. С. 119—131.

1230 Gordziejew, Jerzy. Uwagi o białorusko-polskich kontaktach językowych w miastach Wielkiego Księstwa Litewskiego // Studia Slavica Academiae Scientiarum Hungaricae. 2004. Vol. 49. P. 281—294.

1231 Владимиров, Лев. Всеобщая история книги. Москва, 1988. С. 275—276.

1232 Buchwald-Pelcowa, Paulina. Kazimierz Krzysztof Kłokocki i drukarnia w Słucku // OiRw. P, 1967. Vol. XII. P. 135—172.

1233 Сагановіч. Нарыс гісторыі Беларусі. С. 291—292.

1234 Кніга Беларусі. № 166.

1235 Kosman, Marceli. Problem stołecznych funkcji Wilna do połowy XVII wieku // Zapiski historyczne. Vol. LXIV. Z. 3—4. P. 40.

20 літоўскіх і старабеларускіх кніг разам. Пры гэтым колькасьць польскамоўных кніг, нягледзячы на вайну, засталася на тым самым узроўні — 400 назваў. Такім чынам, колькасьць кніг, выдадзеных на літоўскай і старабеларускай мовах, склала ўсяго 5 % ад агульнай колькасьці кніг, выдадзеных па-польску[1 236]. Адначасова польская мова канчаткова замяніла старабеларускую ў афіцыйных актах[1 237].

Шляхта, якая падтрымала Швэцыю або Расею, пасьля вайны зьведала перасьлед. Затое тыя, хто падтрымаў польскага караля, зрабілі выдатную кар'еру. Галоўнымі палітычнымі хаўрусьнікамі караля сталі прадстаўнікі каталіцкага роду Пацаў. У 60-х гг. XVII ст. ім належалі амаль усе ключавыя пасады — вялікага канцлера літоўскага (Крыштоф Пац), вялікага гетмана літоўскага і ваяводы віленскага (Міхал Пац), кашталяна віленскага (Мікалай Пац, які пазьней зрабіўся рымска-каталіцкім біскупам віленскім); падкаморага літоўскага (Фелікс Пац), абознага літоўскага (Баніфацый Пац), біскупа жамойцкага (Казімер Пац) і харунжага надворнага літоўскага (Канстанцін Пац). Таму гэты пэрыяд часта называюць «эпохай Пацаў»[1 238]. Польскі кароль такім чынам зьнішчыў адзін з галоўных прынцыпаў літоўскай палітычнай сыстэмы — прынцып балянсу сіл паміж рознымі магнацкімі родамі, якія меліся дзяліць паміж сабой дзяржаўныя пасады. Усёмагутны род Пацаў зрабіў сваімі кліентамі цэлыя паветы і пазбавіў пратэстантаў доступу да дзяржаўных пасадаў[1 239]. Былы чалец Рады швэдзкай Літвы Павал Празор сьцьвярджаў, што ў 1669 г. каталіцкі сэнатар Міхал Цеханавецкі прыбыў на соймік Жамойці і публічна выступаў супраць абраньня паслоў, якія належалі да пратэстанцкай партыі, назваўшы іх «парушальнікамі спакою нашай Рэчы Паспалітай»[1 240].

Пасьля вайны кароль надзяліў сэнатарскімі пасадамі і высокімі ваеннымі званьнямі прадстаўнікоў сярэдніх слаёў шляхты, якія ў вайну падтрымлівалі Польшчу ці хутка перайшлі на яе бок з варожых лягераў. Рыгор Падбярэскі стаўся ваяводам смаленскім, Аляксандар Палубінскі — старостам жамойцкім, яго брат Дзьмітрый Палубінскі — ваяводам наваградзкім, Аляксандар Юдзіцкі — кашталянам менскім, яго стрыечны брат Мікалай Юдзіцкі — кашталянам наваградзкім, Ежы Белазор — біскупам віленскім, Цыпрыян Бжастоўскі — ваяводам троцкім, Ян Храпавіцкі — ваяводам віцебскім, Казімер Яўлашоўскі — ваяводам берасьцейскім, Ян Далмат-Ісайкоўскі — кашталянам смаленскім, Ян Корсак — кашталянам полацкім, Геранім Крысьпін-Кіршанштайн — скарбнікам літоўскім, Тэа-

[1236] Кніга Беларусі. Зводны каталог. 1517—1917. Мінск, 1986; Knygos Lietuvių Kalba. Vol. 1. 1547—1861. Vilnius, 1969; Ivanovič. Lietuvos lenkiškos knygos.

[1237] Гэты працэс пачаўся пасьля Люблінскай уніі. Аднак да сярэдзіны XVII ст. каля 25% усіх запісаў Літоўскай мэтрыкі рабілася на старабеларускай мове.

[1238] Codello, Aleksander. Hegemonia Paców na Litwie i ich wpływy w Rzeczypospolitej 1669—1674 // Studia Historyczna. Warszawa, 1970. Vol. XIII. Z. I. P. 45—46.

[1239] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 55.

[1240] Kosman, Marceli. Sytuacja prawno-polityczna kalwinizmu litewskiego w drugiej połowie XVII wieku // OiRwP. 1975. Vol. XX. P. 100.

дор Ляцкі — маршалкам надворным літоўскім, Самуэль Кміціц — вялікім стражнікам літоўскім. Усе новапрызначаныя ўраднікі ці былі каталікамі, ці перайшлі ў каталіцызм з палітычных прычынаў[1241]. Такім чынам, каралеўскі двор выразна даў шляхце зразумець, што толькі каталіцкая вера ў спалучэньні з адданай службай можа забясьпечыць доступ у найвышэйшыя ўладныя колы. Некаталікі, незалежна ад таго, зь якіх родаў яны паходзілі і наколькі заможнымі былі, больш ня мелі магчымасьці зрабіць выдатную палітычную кар'еру.

Пасьля вайны Вільня страціла статус сталіцы. Разбураны велікакняжацкі палац так і ня быў адноўлены. Новым палітычным цэнтрам ВКЛ зрабілася правінцыйная Горадня, геаграфічна бліжэйшая да Польшчы. У 1697 г. адбылася ўніфікацыя адміністрацыйнай і судовай сыстэмы Літвы і Польшчы, якая прайшла пад мудрагелістай назвай «Сьвятая унія ВКЛ і Польшчы»[1242]. Гэтыя рэформы мелі для ВКЛ адмоўныя наступствы, бо яны азначалі інтэграцыю княства ў польскую дзяржаўную структуру. Нарэшце, у 1747—1751 гг. у Варшаву перавезьлі Дзяржаўны архіў ВКЛ[1243]. У выніку паваеннага крызісу Літва паступова ператварылася з раўнапраўнага ўдзельніка польска-літоўскай фэдэрацыі ў польскую правінцыю.

## 5.2. Заняпад пратэстантызму

У ліставаньні швэдаў зь літоўскімі сэпаратыстамі яўна не выказваліся рэлігійныя аспэкты барацьбы пратэстантаў супраць каталіцкай лігі. Пратэстантызм ня згадваўся ў тэксьце Кейданскай дамовы. У іншых крыніцах таксама не ішло гаворкі пра гэтае веравызнаньне. Сярод лістоў Багуслава Радзівіла да Карла Х Густава толькі ў адным прапаноўваліся захады па агульнай абароне эвангелічнай веры[1244]. Швэдзкая Каралеўская Рада практычна не ўздымала тэму пратэстантызму ў Літве. У кастрычніку 1656 г., калі абмяркоўвалася пытаньне аб палоне Багуслава Радзівіла, чальцы Рады прыйшлі да высновы, што аднога зь вядучых пратэстантаў «маглі неўзабаве таемна атруціць езуіты»[1245]. Аднак самая радыкальная група пратэстантаў — арыяне — ня ўтойвала свайго жаданьня атрымаць дапамогу ад швэдзкага караля. У час наступу швэдаў на ВКЛ лідэры арыянаў — Юры Нямірыч і Ян Маскаржэўскі — прапанавалі Карлу Х Густаву праект унівэрсалу, паводле якога арыянам гарантаваліся ўсе свабоды, у тым ліку права быць

1241 Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 443.

1242 Лаппо. Уравнение прав Великого княжества Литовского. С. 53—67.

1243 Дзярновіч, Алег. Плач па Вялікім княстве // Metriciana: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага. Том 2. С. 33—54.

1244 Багуслаў Радзівіл — Карлу Х Густаву. 4 ліпеня 1657. Па-французску. Preüschmark/Prezmark. RA. Skrivelser till Konungen Karl X Gustaf. Vol. 47.

1245 Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdagsprotokoll. Vol. 7. P. 172—173; Sveriges Ridderskaps och Adels Riksdagsprotokoll. Vol. 6. 1656—1658. Stockholm, 1877. P. 144—145.

сэнатарамі. Аднак швэдзкі кароль адмовіўся яго падпісаць. Ён баяўся адштурхнуць каталіцкую шляхту і тым самым яшчэ больш ускладніць становішча арыянаў. Тыя спадзяваліся вырашыць свае праблемы праз супрацоўніцтва з швэдамі, але іх імкненьні правальваліся. Уладзіслаў Любянецкі пісаў Нямірычу: «Нашы палякі вырашылі забіць і разрабаваць усіх нас, а нашы маёнткі раздаць жаўнерам. Яны думаюць, у нас прычына ўсіх іхніх бядотаў. То бок трапілі мы ў цяжкое становішча»[1246]. Арыяне зь імпэтам дапамагалі швэдам у час акупацыі Кракава і Берасьця. 25 кастрычніка 1655 г. у касьцёле Казімежа, прадмесьця Кракава, гарачы прыхільнік швэдаў Станіслаў Любянецкі выступіў з публічнай прамовай у гонар Карла X Густава[1247]. Гэта прывяло да рабункаў маёнткаў шляхціцаў-пратэстантаў і забойства некаторых зь іх. Быў выдадзены каралеўскі загад, які забараняў такія дзеяньні, але ён зьявіўся надта позна. Ахвярамі забойстваў стаўся шмат хто зь «літоўскіх братоў». Сярод іх быў Крыштап Пшыпкоўскі, забіты натоўпам фанатыкаў. Яго сыноў Самуэля і Стэфана змушалі перайсьці ў каталіцызм. З усяго гэтага вялікага арыянскага роду не адмовіўся ад сваёй веры толькі Самуэль Пшыпкоўскі[1248]. Пасьля таго як літоўскае войска захапіла Мір, афіцэры-каталікі прымусілі прыняць каталіцызм тутэйшых прадстаўнікоў пратэстанцкага роду Маскевічаў[1249]. Літоўскае войска разбурыла лютэранскую кірху ў Венграве, а таксама шмат іншых пратэстанцкіх збораў. У выніку большасьць тых, хто супрацоўнічаў з Швэцыяй, перайшлі на польскі бок. Польскі кароль дараваў ім амністыю. Першым зь іх быў Багуслаў Радзівіл[1250]. Рэшта калябарацыяністаў пераняла яго прыклад. У 1658 г. колішняму афіцэру літоўскай кавалерыі ў швэдзкім войску Яну Эрынгу было абвешчана дараваньне і вернуты канфіскаваны маёнтак за тое, што ён падчас паўстаньня перайшоў на польскі бок і ўласнаручна забіў швэдзкага камэнданта мястэчка Ушпалі. Кальвініст Габрыель Сіповіч, зьбіральнік падаткаў у Жамойці за швэдамі, пазьней зрабіўся антышвэдзкім партызанам «і разам з жамойтамі змагаўся супраць швэдзкага ярма»[1251].

У 1658 г. пастанова Сойму абавязвала літоўскіх і польскіх арыян прыняць каталіцызм або пакінуць краіну. Адначасова арыяне пазбаўляліся ўсіх дзяржаўных пасад. Тым, хто адмаўляўся зрачыся сваёй веры, давалася тры гады на падрыхтоўку да эміграцыі[1252]. Усе арыянскія храмы або разбурылі, або ператварылі ў каталіцкія[1253]. Публічна абвяшчалася, што прычыны выгнаньня арыян рэлігійныя, а не палітычныя. Арыяне абвінавачваліся ў «сэктанцтве», а не ў супрацоў-

1246 Kot. Jerzy Niemirycz. P. 37.

1247 Jorgensen. Stanisław Lubieniecki. Zum weg des Unitarismus von Ost nach West im 17. Jahrhundert. P. 39.

1248 Chmaj, Ludwik. Samuel Przypkowski na tle rządów religijnych XVII wieku. Kraków, 1927. P. 54—59.

1249 Wasilewski. Zdrada Janusza Radziwiłła i jej wyznaniowe motywy. P. 142.

1250 Kopia dok. amnestyjnego dla Bogusława Radziwiłła. CL. No. 2248/32. P. 193—194.

1251 LM. No. 16, 760.

1252 VL. P. 238—239.

1253 Tazbir. Arianie w Białymstoku i okolicach. P. 81–105.

ніцтве з Швэдамі. Такая пастаноўка пытаньня мела сэнс: арыяне маглі запярэчыць супраць абвінавачаньняў у здрадзе, бо і сярод каталікоў шмат хто супрацоўнічаў з швэдамі. Сойм запатрабаваў, каб мясцовыя ўраднікі высачылі апошніх арыянаў і выслалі іх прэч. У 1661 г. Багуслаў Радзівіл пачаў адбудову Біржаў, зруйнаваных літоўскім войскам. Працу вялі арыяне. Аднак біскуп Белазор прымусіў Радзівіла выслаць іх з краіны. У 1662 г. апошнія 32 арыянскія сям'і Горадні атрымалі прыстанішча ў герцагстве Прусія, пасяліўшыся ў прыватных уладаньнях Радзівіла. Закон 1668 г. пацьвярджаў, што рэлігійныя свабоды не пашыраюцца на «арыянскую сэкту як адступнікаў, асуджаных сьвятой каталіцкай царквой на баніцыю»[1254]. У выніку рэпрэсій каля 5000 арыянаў эмігравалі ў Прусію, Германію і Галяндзкую рэспубліку. Невядомы аўтар пісаў, што па выгнаньні арыяне пасяліліся ў Прусіі, Нідэрляндах, Ангельшчыне, Трансыльваніі, Верхняй Сылезіі, Гольштэйне і Мангейме. Раскіданыя па сьвеце, яны ўсё роўна падтрымлівалі між сабой шчыльныя кантакты[1255]. Пры гэтым выгнаныя «літоўскія браты» асымяляваліся ў большую супольнасьць польскіх арыянаў[1256]. Шмат хто зь іх пасяліўся ў герцагстве Прусія, губэрнатарам якога быў Багуслаў Радзівіл. Некаторыя зьехалі ў Амстэрдам, дзе выдалі «*Bibliotheca fratrum Polonorum*» — фундамэнтальны збор прац па гісторыі арыянскага руху. Некаторыя з Галяндыі пераехалі ў Амэрыку і заснавалі там унітарыянскую царкву. У 1659 г. гадаванца Кейданскай гімназіі Аляксандра Караля Курцыюса прызначылі дырэктарам першай ньюёрскай школы[1257]. Некаторыя перанялі прыклад Нямірыча і перайшлі ў праваслаўе. Але шмат хто зь іх, напрыклад, Язэп Алеўскі зь Пінску і Алена Любянецкая з Горадні, пазьней выракліся праваслаўя і прынялі каталіцызм[1258]. Свой галоўны асяродак арыяне стварылі ў прускім Андрэасвальдэ (Касінаве). Туды ж пераехалі і некаторыя кальвіністы. У Кёнігсбэргу ў 1707 г. былі заснаваны кафэдральны збор і друкарня Літоўскай правінцыі. Тут літоўскія пратэстанты надрукавалі каля 230 кніг на польскай, лацінскай, літоўскай і старабеларускай мовах[1259]. Некаторыя пратэстанты захавалі сваю ідэнтычнасьць і вярнуліся ў Літву, калі там у 1767 г. былі адноўлены рэлігійныя свабоды. Апошні арыянскі сьвятар памёр у Прусіі ў 1803 г., а ў 1811 г. пазасталыя сябры суполкі распрадалі царкоўную маёмасьць. Так «літоўскія браты» сышлі ў гісторыю[1260].

Пасьля заканчэньня ў Літве актыўных ваенных дзеяньняў каталіцкія ўлады пачалі выцясьняць кальвіністаў і лютэран з палітычнага жыцьця[1261]. На Сойме

[1254] VL. P. 484.

[1255] A letter giving an Account of the Present state of the Socinians. P. 238—247.

[1256] Tazbir, Janusz. Bracia polscy na wygnaniu. Studia z dziejów emigracji ariańskiej. Warszawa, 1977.

[1257] Eriksonas. The lost Colony of Scots. P. 180.

[1258] Kot. Jerzy Niemirycz. P. 55.

[1259] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 107, 180.

[1260] Wilbur, Earl. Our Unitarian Heritage. An introduction to the history of theUnitarian Movement. Chapter XIX. The Socinians in Exile, 1606—1803. Boston, 1925.

1661 г. літоўскія пратэстанты на чале з Багуславам Радзівілам, абраным паслом ад шляхты Падляшша, спрабавалі дамагчыся пацьвярджэньня рэлігійных свабод. Калі Радзівіл папрасіў слова, паслы ад Вялікай Польшчы заявілі пратэст. Яны абвясьцілі, што дадзеныя ім указаньні забараняюць прызнаваць Радзівіла паслом Сойму. Познаньскі пасол Рэміган Залескі абвінаваціў Радзівіла ў здрадзе і братазабойстве, калі той «з радасьцю вёў швэдзкія войскі супраць нашага караля». Пасьля гэтага бацька аднаго літоўскага шляхціца, палеглага ў бітве пад Варшавай, абвінаваціў Радзівіла ў забойстве яго сына, які абараняў сваю бацькаўшчыну. Ён нагадаў Сойму, што, калі яго сын Якуб Кавалеўскі скінуў Карла X Густава з каня, кароль Швэцыі закрычаў: «Не забівайце гэтага храбрага рыцара!» «Але Радзівіл забіў яго ўласнай рукою», — сьцьвярджаў Кавалеўскі-старэйшы. У выніку гэтага скандалу Радзівіл быў вымушаны пакінуць Сойм і вярнуцца ў Прусію. Байкот Радзівілу паўтарыўся на Сойме 1662 г., куды ён прыбыў як пасол ад Менскага павету[1262]. Канфлікт скончыўся бойкай паміж драгунамі Радзівіла і гвардзейцамі караля. У выніку былога арыяніна Яна Мяжэнскага пажыцьцёва пазбавілі права зьяўляцца на Сойм. Палітычная параза Радзівіла азначала крах усіх літоўскіх пратэстантаў. У 1662 г. лютэране Коўна паведамлялі Радзівілу, што мясцовыя ўлады забаранілі ім адбудоўваць разбураную лютэранскую кірху. У тым жа годзе ўлады закрылі кальвінскі збор у цэнтры Жамойці — Расіёнах[1263]. У 1669 г. быў асуджаны да страты сьмерцю Самуэль Мядэкша — пратэстанцкі шляхціц зь Вількаміру. Калі на мясцовым сойміку, які праходзіў у каталіцкім касьцёле, абмяркоўвалася пытаньне, дзе знайсьці грошы для платы войску, Мядэкша прапанаваў прадаць касьцёльнае срэбра. На сойміку Жамойці 1669 г. біскуп Казімер Пац выкрасьліў усіх шасьцёх пратэстанцкіх шляхціцаў зь сьпісу абраных ураднікаў і прапанаваў зацьвердзіць новы артыкул, паводле якога пратэстантам забаранялася займаць дзяржаўныя пасады. Пратэстанты спрабавалі пярэчыць, але іх аргумэнтаў не пачулі[1264].

Артыкулы Літоўскага статуту, якія дэкляравалі роўнасьць усіх хрысьціянскіх канфэсій, паўсюдна парушаліся. Статут сьцьвярджаў, што габрэі могуць атрымаць шляхецкую годнасьць, калі пяройдуць у хрысьціянства. Насамрэч набілітаваліся толькі тыя габрэі, якія пераходзілі ў каталіцызм[1265]. Сойм надаў шляхецтва шмат якім літоўскім афіцэрам, якія паходзілі зь беларускіх купецкіх родаў. Аднак пры гэтым усе праваслаўныя заяўнікі мусілі перайсьці ў «сьвятую рыма-каталіц-

[1261] Kozak, Eugeniusz. Walka kalwinów żmudzkich o zachowanie praw politycznych (1668—1669) // OiRwP. 1987. Vol. XXXII. P. 125—139.

[1262] Siedlecki. Brańsk Bogusława Radziwiłła. P. 66—71.

[1263] Kosman, Marceli. Sytuacja prawno-polityczna kalwinizmu litewskiego w drugiej połowie XVII wieku // OiRwP. 1975. Vol. XX. P. 81—110.

[1264] Rachuba. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym. P. 87—113.

[1265] Goldberg, Jacob. Die getauften Juden in Polen-Litauen im 16. — 18. Jahrhundert. Jahrbücher für Osteuropas. 1982. Vol. 30. P. 83—92.

кую веру»[1266]. Уніяцкая царква не разглядалася як альтэрнатыва. Хутчэй за ўсё яна лічылася простанародным варыянтам каталіцызму.

Сойм 1668 г. забараніў пратэстантам, якія прыяжджалі ў Варшаву, ладзіць публічныя набажэнствы. Сынодам Ядноты Літоўскай больш не дазвалялася зьбірацца ў Вільні. Быў забаронены пераход з каталіцызму ў пратэстантызм. Пасьля 1673 г. некаталікі ўжо не маглі атрымаць шляхецкую годнасьць[1267]. Сойм 1669 г. прыняў новы закон *«Rex Catolicus esto»*, згодна зь якім каралём мог стаць толькі каталік. Гэты закон супярэчыў артыкулам Сандамірскай канфэдэрацыі 1572 г., якая абвясціла палітычную роўнасьць усёй шляхты незалежна ад яе веравызнаньня[1268]. У 1669 г. каталіцкі сынод у Вільні забараніў пратэстанцкім пастарам зьяўляцца на вуліцах у сьвятарскім адзеньні[1269]. У Вільні студэнты-езуіты нападалі на пастараў і зрывалі зь іх строі. Узмацнялася і тэндэнцыя да абмежаваньня рэлігійных правоў татараў. Становішча мусульманаў у Літве было лепшым, чым у Польшчы, дзякуючы законам, якія непасрэдна абаранялі іх правы. Аднак ім стала складана атрымаць дазвол на будаўніцтва новых мячэтаў. Каталікі патрабавалі ад татараў, каб тыя прынялі каталіцызм. Цяжкае становішча, у якім апынуліся мусульмане, спрычынілася да бунту татарскай коньніцы ў 1672 г.[1270]

У 1660 г. памёр апошні пратэстанцкі сэнатар — кашталян полацкі Ян Сасноўскі. У тым самым годзе другі пратэстанцкі сэнатар — кашталян віцебскі Тамаш Касакоўскі — урачыста прыняў каталіцтва. Сьвяткаваньне гэтай падзеі адбылося ў новапабудаваным касьцёле ў Слуцку — колішняй пратэстанцкай сталіцы[1271]. Пасьля сьмерці Багуслава Радзівіла ў 1669 г. у пратэстантаў не засталося ніводнага ўплывовага заступніка. Трымалася пратэстантызму толькі дробная шляхта, мяшчане і жамойцкія сяляне. Без магутнага патрона пратэстанты былі безабаронныя перад нападкамі каталікоў. Многіх пастараў жорстка зьбівалі і нават забівалі[1272]. У 70-х гг. XVII ст. на Беларусі была зьнішчана больш як палова пратэстанцкіх парафій. У 1697 г. натоўп каталіцкай шляхты разбурыў пратэстанцкія крыпты ў Краснагалішках і Гружах. Кульмінацыяй рэлігійнага перасьледу сталася поўнае зьнішчэньне 3 красавіка 1682 г. Віленскага рэфармацкага катэдральнага збору[1273]. Менскі шляхціц Цадроўскі апісаў падрабязнасьці гэтага здарэньня ў сваіх «Успамінах». Студэнты-езуіты на чале зь сьвятарамі і пры падт-

[1266] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 22, 99.

[1267] Kiaupa. History of Lithuania. P. 286—290.

[1268] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 21.

[1269] Synodus Dioecesana Vilnenis. Vilnae, 1744.

[1270] Borawski, Piotr. Religious tolerance and the Tatar population in the Grand Duchy of Lithuania: 16th to 18th century // Journal Institute of Muslim minority affairs. 1988. Vol. 9:1. P. 119—133.

[1271] Lulewicz. Elita polityczno-spoleczna. P. 180.

[1272] Bem, Kazimierz. Kielmy na Żmudzi — dzieje zboru i pewnej rodziny // Jednota. 2001. No. 3—4.

[1273] Zwolski, Bolesław. Zburzenie zboru ewangelicko-reformowanego w Wilnie w 1682 // Ateneum Wileńskie. Wilno, 1937. Vol. XII. P. 482—514.

рымцы ваяводы Міхала Паца зьнялі з збору крыж і затым разбурылі яго, а таксама дамы, у якіх жылі сьвятары, спалілі бібліятэку ды забралі срэбра і званы. Студэнты зьдзекаваліся з пастараў; не шануючы памяці нябожчыкаў, яны «трупы выцягвалі з дамавінаў і бессаромна зьдзекаваліся з іх, палілі, трупы мужчын клалі на трупы жанчын, кажучы: «Злучайцеся і множцеся». Ад тых трупаў, што палілі на магільніку, быў страшэнны смурод па ўсім горадзе. Язычнікі ніколі так ня зьдзекаваліся зь целаў хрысьціянаў, як яны зьдзекаваліся там»[1274]. У 1688 г. у Варшаве быў спалены за блюзьнерства Казімер Лышчынскі, крыптаарыянін зь Берасьцейшчыны. Ён сьцьвярджаў, што «ня Бог стварыў чалавека, а чалавек стварыў Бога»[1275].

Каталіцкая контрарэфармацыя ў Літве і Беларусі завершылася посьпехам. Пад канец XVI ст. у ВКЛ было каля 260 пратэстанцкіх парафій, а ў 1696 г. іх засталося толькі 46[1276]. Пратэстантаў, якія засталіся на радзіме, пасьля вайны моцна ўціскалі. У якасьці прыкладу можна прывесьці гісторыю паплечніка Радзівілаў, кальвінісцкага шляхціца зь Беларусі Язэпа Храпавіцкага. Езуіты не дазволілі яму аднавіць пратэстанцкі збор у Віцебску, дабрадзеем якога ён быў, на той падставе, што збор знаходзіўся занадта блізка ад Дамініканскага касьцёлу. Таму віцебскім пратэстантам даводзілася ладзіць богаслужэньні за горадам у прыватным доме Храпавіцкага. Аднак каталіцкія ўлады забаранілі і гэта. Стары Храпавіцкі ня змог супрацьстаяць гвалту і ўрэшце перайшоў у каталіцызм. Крыніцы сьведчаць, што кальвіністы Беларусі апынуліся ў страшэнна гаротным стане[1277].

Такім чынам, пратэстанцкая шляхта ВКЛ ператварылася ў стыгматызаваную меншасьць. У такіх абставінах у многіх некаталіцкіх мысьляроў было толькі два шляхі — прыняць каталіцызм ці пакінуць краіну. Шмат хто абраў эміграцыю. Пратэстанты перасяляліся на захад, а праваслаўныя — у Расею. Большасьць выгнанцаў пакінулі радзіму адразу пасьля антышвэдзкага паўстаньня. Праз Курляндыю яны выпраўляліся ў Лёндан ці Амстэрдам. Сярод тых, хто перасяліўся ў Лёндан, былі гісторык Ян Красенскі, перакладчык і выдавец літоўскамоўнай Біблії Багуслаў Хілінскі, духоўны лідэр «літоўскіх братоў» Андрэй Вішаваты[1278]. У Амстэрдаме пасяліліся колішні пастар Кейданаў Ян Старкевіч, гісторык і багаслоў Самуэль Пшыпкоўскі, філёзаф Флярыян Крыцыюс. Ім спрыялі такія вядомыя асьветнікі, як Гартліб, Джон Ўэртынгтан і Каменскі[1279]. Эмігравалі пратэстанты

1274 Помнікі мемуарнай літаратуры. С. 133.

1275 Brückner, Aleksander. Dzieje Kultury Polskiej. Kraków, 1930. Vol. II. P. 498—502.

1276 Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 100—101; Lukšaitė. Reformacija. Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje. P. 583—591.

1277 Liedke. Od prawosławia do katolicyzmu. P. 175.

1278 Hans. Polish Protestants and their Connections with England. P. 211.

1279 The Diary and Correspondence of Dr. John Worthington. Ed. J. Crossley. Vol. II. Part I. (Chetham Society) Vol. XXXVI. Manchester, 1855. P. 74—87. Noted: MS copies at University Library. Cambridge. Baker's MSS. Mm 1.40. P. 193—238; British Library. Add. MSS 32498; Johann Comenius to Samuel Hartlib. August 3, 1657.

і ў Швэцыю. Апошнім лютэранскім пастарам Ніеншанцу, захопленага Расеяй у 1703 г., быў нехта Захары Літвін[1280]. Шмат студэнтаў-кальвіністаў зь Літвы і Беларусі вучыліся ва ўнівэрсытэтах Заходняй Эўропы. Поступ каталіцкай рэакцыі не дазволіў ім вярнуцца дамоў[1281].

Некаторыя пратэстанты-русіны абралі Маскву. Сярод іх былі выдатны славянскі кнігадрукар, перакладчык і мадыфікатар кірыліцы Ільля Капіевіч, знакаміты рэлігійны пісьменьнік і перакладчык Ян Мануэль Белабоцкі. У Расею эмігравала і шмат выдатных праваслаўных рускіх дзеячоў, у тым ліку знакаміты паэт Сімяон Полацкі, стваральнік першага расейскага станка для нотадрукаваньня Сымон Гутоўскі, выдатны гравёр Лявон Тарасевіч, заснавальнік партэсных сьпеваў у расейскай праваслаўнай царкве Мікалай Дылецкі, музыкі Ян Кокля і Казімер Васілеўскі, скульптар Клім Міхаловіч, заснавальнік першага расейскага тэатру Іван Падборскі, вытворца кафлі Ігнат Максімовіч і шматлікія іншыя. Эміграцыя такой вялікай колькасьці выбітных людзей была велізарнай стратай для літоўскай і беларускай культураў.

Славутая польская талерантнасьць не была часткай культурнай традыцыі Польшчы. Хутчэй гэта быў вынік імкненьня Польшчы дасягнуць палітычнага кансэнсусу з моцнымі некаталіцкімі элітамі. Як толькі гэтых эліт ня стала, польская талерантнасьць таксама зьнікла. XVIII ст. было часам масавага ўціску рэлігійных меншасьцяў. Каталіцызм зрабіўся першачарговай адзнакай вернасьці Рэчы Паспалітай і каралю. Паступова шляхта і заможныя мяшчане прынялі польскае рэлігійнае і культурнае самавызначэньне. Страта беларусамі і літоўцамі ў час крызісу XVII ст. сваіх элітаў спрычынілася да спазьненьня ў разьвіцьці нацыянальных рухаў гэтых народаў.

## 5.3. Самаўсьведамленьне шляхты ВКЛ пасьля вайны

Для звычайнага каталіцкага шляхціца швэдзкая акупацыя асацыявалася зь зьдзекам зь «сьвятой» каталіцкай царквы і прывілеямі для адступнікаў-лютэранаў, якім спрыяў «ерэтык і блюзьнер кальвінісцкі гетман Януш Радзівіл»[1282]. Арыяне і лютэране ў яго вачох здрадзілі радзіме, падтрымаўшы «швэдаў і дзікіх вугорцаў нягодніка Ракочы»[1283]. Шляхта, якая засталася вернай Рэчы Паспалітай, лічыла літоўскіх пратэстантаў ворагамі бацькаўшчыны. У 1657 г. у Тыкоціне каталіцкія літоўскія афіцэры наладзілі паказальны суд над мясцовымі пратэстантамі і іх забойства[1284].

Войны з Швэцыяй, Расеяй і Украінай азначалі канец улады пратэстанцкіх і праваслаўных элітаў. Каталіцкі касьцёл лічыў швэдзкае ўварваньне божай адплатай за талерантнае стаўленьне да пратэстантаў. Каталікі публічна абвінавачвалі

1280 Bonsdorff, Carl Gabriel. Nyen och Nyenskans: historisk skildring. Helsingfors, 1891. P. 84.

1281 Łukaszewicz, Józef. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. Poznań, 1843. Vol. 2. P. 171—173.

1282 Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 170.

1283 Pasek. Pamiętniki. P. 5—7.

1284 Tazbir. Arianie w Białymstoku i okolicach. P. 90. Note 49.

пратэстантаў у дзяржаўнай здрадзе на карысьць магутных пратэстанцкіх суседзяў[1285]. Адпаведна, і ставіцца да іх пачалі як да здраднікаў[1286]. Пратэстанты абараняліся, сьцьвярджалі, што, наадварот, менавіта каталіцкая рэакцыя і заняпад талеранцыі ў шляхецкім асяродзьдзі абумовілі крызіс дзяржавы ў час «Патопу» і пасьля яго[1287]. Адразу па вайне гісторык Ян Краінскі паспрабаваў давесьці, што пратэстанты не ўзаемадзейнічалі з швэдамі. Малюючы швэдзкую палітыку ў чорных фарбах, Краінскі сьцьвярджаў, што літоўскія пратэстанты, маўляў, заставаліся ў час вайны адданыя польскаму каралю:

*У 1655 г. да безьлічы нашых ворагаў дадаліся швэды, чые войскі, праз блізкасьць трох правінцый — Барусіі [Прусіі], Курляндыі і Ліфляндыі [Лівоніі], якія яны трымалі пад сваёй уладай, запаланілі і нашу краіну. Безь ніякай павагі да пратэстанцкай рэлігіі яны абыходзіліся з намі як з ворагамі. І празь іх прыход у нашу краіну рыма-каталікі пачалі ненавідзець нас болей, як раней; хоць яны самі кінулі свайго караля, і сам Яго Каралеўская Мосьць пакінуў дзяржаву, праз магутнасьць ворагаў, якія завалодалі ўсімі месцамі, і вельмі доўгі час знаходзіўся ў Сылезіі; але літоўскія зборы ўвесь гэты час заставаліся стала і нязьменна верныя свайму літасьціваму манарху*[1288].

Пасьля вайны каталіцтва зрабілася найпершай праявай палітычнай ляяльнасьці. Усе літвіны, якія прызначаліся на пасады сэнатараў пасьля 1667 г., былі каталікамі. Большасьць зь іх паходзілі зь сярэдняй шляхты і здабылі свае высокія пасады выключна дзякуючы польскаму каралю. Каб стаць ваяводам наваградзкім, зьмяніў веравызнаньне кальвініст Крыштап Валадкевіч. Маці гэтага вядомага палкоўніка была кальвіністкай, а яго бацька праславіўся як актыўны абаронца праваслаўнай царквы[1289]. У 1686 г. прыняў каталіцтва былы член Рады швэдзкай Літвы пратэстант Казімер Сясіцкі[1290]. Каталіком памёр і Тэадор Дунін-Раецкі, маршалак лідзкі і вялікі прыхільнік Кейданскай уніі[1291]. Вельмі часта былыя пратэстанты разбуралі эвангелічныя зборы, што знаходзіліся ў іх маёнтках. Так, Багуслаў Бліндструб, бацька якога падпісаў Кейданскую унію, разбурыў фамільную пратэстанцкую крыпту ў Відуклях і нават зруйнаваў склеп, дзе ляжалі дама-

1285 Augustyniak, Urszula. Potworne konspiracje, czyli problem zdrady w Rzeczypospolitej w czasach Wazów // Barok. Historia-Literatura- Sztuka. Warszawa, 1994. Vol. I. P. 89—103.

1286 Libiszowska, Zofia. Antyszwedzka literatura propagandowa z czasów «Potopu» // Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655—1660. Warszawa, 1957. P. 481—527.

1287 Krasinski. Historical Scetch of the Rise, Progress and Decline of the Reformation. Vol. II. P. 196.

1288 Krainski. A relation of the distressed state of the Church of Christ, processing the Protestant religion in the Great Dukedom of Lithuania. P. 325—328.

1289 Lulewicz. Skład wyznaniowy senatorów. P. 441.

1290 Rachuba, Andrzej. Siesicki Kazimierz // PSB. 1996. Vol. XXXVII/1. P. 366—368.

1291 Ivanovič. Lietuvos lenkiškos knygos. No. 348.

віны яго продкаў[1292]. У 1696 г. Геранім Пузына, былы ўпіцкі пасол швэдзкай рады, стаў адным з апошніх магутных пратэстантаў, якія перакінуліся ў каталіцтва. Пасьля навяртаньня Пузына загадаў разбурыць рэфармацкі збор у Лінкуве[1293].

Адначасова праваслаўную шляхту Беларусі абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з Маскоўскай дзяржавай. У вайну праваслаўе набыло новую палітычную адметнасьць: польскі кароль пачаў менаваць яго «здрадніцкай маскоўскай верай»[1294]. Згодна з Андрусаўскім перамір'ем 1667 г. паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй, Масква павінна была заплаціць кампэнсацыю памерам 1 000 000 злотых за маёнткі, страчаныя літоўскай шляхтай на Смаленшчыне. Аднак каралеўская адміністрацыя выключыла са сьпісу атрымальнікаў кампэнсацыі тых, хто ў час вайны прысягнуў Маскве і/або перайшоў у праваслаўе[1295]. Калі шляхціц трымаўся праваслаўя, да яго ставіліся як да ворага дзяржавы. Канец XVII ст. вызначаўся масавым пераходам праваслаўнай шляхты ў каталіцтва. У 1667 г. памёр апошні праваслаўны сэнатар-русін Аляксандар Агінскі. У 1669 г. яго сын, апошні праваслаўны магнат Марцыян Агінскі, перайшоў у каталіцтва, каб атрымаць сэнатарскую годнасьць. Цяпер такага кроку вымагалі ўлады[1296]. Прадстаўнік іншага вялікага праваслаўнага роду, падкаморы аршанскі Крыштап Статкевіч, мусіў прыняць уніяцтва, каб не перашкодзіць кар'еры[1297]. Праваслаўе больш не прызнавалася веравызнаньнем шляхты. Яноператварылася ў веру простага люду, тых, хто ня мог удзельнічаць у грамадзкім жыцьці.

За зьменай веравызнаньня пачала паступова зьмяняцца і нацыянальная сьвядомасьць некаталіцкай шляхты. Пазнакай культурнага і палітычнага самаўсьведамленьня літоўскай шляхты зрабілася польскасьць. Першыя сымптомы ўзьнікненьня новай «агульнапольскай» сьвядомасьці зьявіліся яшчэ ў час вайны з Швэцыяй. Вялікую цікавасьць уяўляе заключная частка «Аповеду пра адыход Жамойці пад швэдзкую апеку і выхад з-пад яе» Мікалая Шэмета, адрасаванага польскаму каралю. У ёй фактычна апісваецца новая палітычная ідэнтычнасьць шляхты ВКЛ. Тэкст пачынаецца з традыцыйнага гістарычнага экскурсу. Кароль Ян Казімер малюецца як нашчадак славутай літоўскай дынастыі Ягелонаў. Зьяўляецца вобраз Крэўскай уніі 1385 г., якая злучыла пад крылом Ягелонаў дзьве дзяржавы. Але замест міту аб рымскім паходжаньні літоўскай шляхты Шэмет уводзіць ідэалягічны канструкт Сарматыі, паводле якога літоўская і польская шляхта была зьнітавана ў адну дзяржаву супольным паходжаньнем (сармацкім). У гэтым кантэксьце апяваньне ўсяпольскага патрыятызму і польскай ідэнтычнасьці

[1292] Kriegseisen. Ewangelicy Polscy i Litewscy. P. 221.

[1293] Liedke, Marzena. Szlachta ruska Wielkiego Księstwa Litewskiego a Reformacja // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2002. No. 18.

[1294] LM. No. 991, 1087.

[1295] Kulecki. Wygnańcy ze Wschodu. Egzulanci w Rzeczypospolitej. P. 63—64.

[1296] Lulewicz. Skład wyznaniowy senatorów świeckich. P. 440.

[1297] Тамсама. С. 443.

ператвараецца ў панэгірык. Аўтар сьцьвярджае, што шляхецкія вольнасьці — гэта «вольнасьці Польшчы». Літоўская «Пагоня» зьнікае, і яе месца ў творы Шэмета займае белы арол[1298]. У 1665 г. Віленская езуіцкая акадэмія выдала кнігу ў гонар літоўскага гетмана Вінцэнта Гасеўскага, якая ўсхваляла гэтага ачольніка антышвэдзкага супраціву як «слыннага сына польскага народу»[1299].

У 1697 г. рускую (старабеларускую) мову афіцыйна выключылі з грамадзкага жыцьця і замянілі польскай. Пастанова Сойму гучала недвухсэнсоўна: «Зважаючы на тое, што руская мова і пісьмо незразумелыя адукаваным палякам, літоўскія пісары мусяць пісаць усе акты не па-руску, а па-польску»[1300]. З заняпадам пратэстанцтва ўсё радзей і радзей друкаваліся кнігі на літоўскай мове[1301]. Літва паступова ператваралася ў польскую правінцыю. Адначасова літоўская шляхта пачынала лічыць сябе часткай польскага народу[1302]. Літоўская шляхта паступова прасякалася польскай нацыянальнай сьвядомасьцю, што адыгрывала вялікую ролю ў фармаваньні яе самавызначэньня. Гэтая «польскасьць» пазьней знайшла сваё акрэсьленьне ў выслоўі *«Gente lituanus, natione polonus»*[1303]. Палякі добра ўсьведамлялі сутнасьць гэтага працэсу. Напрыклад, знакаміты пісьменьнік пачатку XIX ст. Генрык Жавускі так ацаніў вынікі польскага панаваньня ў Беларусі: «Жыгімонт Ваза і яго сын стварылі Польшчу на Русі. Калі пачала весьці рэй рыма-каталіцкая рэлігія, тады грунтоўна пусьцілі карані і ўсе іншыя праявы польскасьці, і рускія імёны сталіся абразьлівымі для русінаў»[1304]. Акурат перад падзеламі Рэчы Паспалітай ў Літве зьявіўся пераклад лацінамоўнай «Гісторыі караля Яна Казімера» Кахоўскага ў перакладзе кашталяна менскага Шымона Забелы. Ён дадаў да кнігі Кахоўскага шмат уласных камэнтароў, якія раскрываюць погляд тагачаснай літоўскай шляхты на Кейданскую унію. Паводле Кахоўскага, здрада Радзівілаў тлумачылася палітычнымі прычынамі[1305]. Забела ж, наадварот, вылучае на першы плян рэлігійныя матывы і падкрэсьлівае, што швэдам дапамагалі шмат здраднікаў зь ліку літоўскіх пратэстантаў[1306].

У 1795 г., пасьля падзелаў паміж Прусіяй, Расеяй і імпэрыяй Габсбургаў, Рэч Паспалітая канчаткова зьнікла з мапы Эўропы. Аднак Літва страціла свой аўтаномны статус яшчэ раней — калі яна зрабілася польскай правінцыяй дэ-юрэ. З

[1298] MSR. P. 206—208.

[1299] Ivanovič. Lietuvos lenkiškos knygos. No. 348.

[1300] Wielhorski, Władysław. Litwini, Białorusini i Polacy w dziejach kultury Wielkiego Księstwa Litewskiego. London, 1951. P. 130.

[1301] Lukšaitė, Inga. Apie lietuviškų reformatų knygų plitimą Lietuvoje XVII a. Vilnius, 1970.

[1302] Wielhorski. Litwini, Białorusini i Polacy. P. 138—141

[1303] Bumblauskas, Alfredas. The heritige of the Grand Duchy of Lithuania: perspectives of historical consciousness // The peoples of the Grand Duchy of Lithuania. Vilnius, 2002. P. 24.

[1304] Жавускі, Генрык. Успаміны Сапліцы. Мінск, 2005. С. 38—39.

[1305] Kochowski, Wespazjan. Lata Potopu 1655—1657. Warszawa, 1966. P. 41—42, 81—82.

[1306] Тамсама. С. 334—337.

траўня 1791 г. Сойм прыняў канстытуцыю, паводле якой фэдэрацыя Польшчы і Літвы скасоўвалася, а Рэч Паспалітая рабілася ўнітарнай польскай дзяржавай[1 307]. Гэты акт засьведчыў чарговы этап палянізацыі шматэтнічнай літоўскай шляхты[1 308]. Адам Міцкевіч (нарадзіўся ў 1798 г.), які паходзіў з русінскага роду, стаўся сымбалем гэтага працэсу. Гэты доўгі шлях нагадваў анямечваньне чэскай шляхты ў XVII–XVIII стст.

Пасьля паразы паўстаньня 1863—1864 гг. палянізаваная шляхта Літвы і Беларусі, якая тады знаходзілася ў складзе Расейскай імпэрыі, заснавала шэраг культурных і палітычных арганізацый, у аснове ідэалёгіі якіх ляжалі ідэалы аднаўленьня будучай Польшчы, да якой мусілі належаць і літоўскія ды беларускія землі[1 309]. Велізарная кляса колішняй літоўскай шляхты ператварылася ў палякаў як культурна, так і палітычна. У выніку беларускія і літоўскія сяляне канца XIX ст. лічылі большасьць мясцовых арыстакратаў чужынцамі. Большасьць нашчадкаў літоўскай шляхты таксама ставілася да новых нацыянальных рухаў у Беларусі і Літве з варожасьцю. Шляхта складала толькі чатыры адсоткі актывістаў літоўскага нацыянальнага руху[1 310]. Няшмат далі нашчадкі літоўскай шляхты і беларускаму нацыянальнаму руху. Сваёй справай шляхта лічыла польскую справу і змагалася за Вялікую Польшчу, якая распасьціралася б да Дняпра. Праз сваю пальшчызну шляхта не карысталася павагай мясцовага беларускага і літоўскага насельніцтва. У 1918—1920 гг. большасьць тых, хто меў літоўскае шляхецкае паходжаньне, змагаліся на польскім баку супраць новапаўсталых літоўскай і беларускай рэспублік. Нават генэраламі польскага акупацыйнага войска былі два літоўскія шляхціцы — Юзаф Пілсудзкі і Люцыян Жалігоўскі[1 311].

## 5.4. Эўрапейскі крызіс: выпадак ВКЛ

Сярод разнастайных эканамічных, палітычных і рэлігійных апісаньняў агульнага крызісу ў Эўропе прыклад Літвы прыцягвае нашу ўвагу галоўным чынам глыбінёй палітычных канфліктаў. Вонкавыя і ўнутраныя характарыстыкі гэтага крызісу патрабуюць вытлумачэньня найперш з гледзішча палітычнай матывацыі. У выпадку Літвы мела месца рэгіянальнае паўстаньне на чале з часткай мясцовай шляхты, якое апраўдвалася згадкамі пра былыя традыцыі літоўскай незалежнасьці і дзяржаўнасьці[1 312]. У гэтым выпадак Літвы меў шмат агульнага з Шко-

[1307] Konstytucja 3 maja 1791 = 1791 gegužes 3-osios konstitucija. Ed. Juliusz Bardach, Anna Gogut and Jerzy Kugler. Warszawa, 2001.

[1308] Radzik, Ryszard. Między Zbiorowością etniczną a wspólnotą. Lublin, 2000.

[1309] Смалянчук, Алесь. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917. Ст.-Пецярбург, 2004.

[1310] Hroch, Miroslav. Social preconditions of national revival in Europe: a comparative analysis of the social composition of patriotic groups among the smaller European nations. New York, 2000. P. 87—97.

[1311] Snyder. The Reconstruction of Nations. P. 41—65.

цыяй ці Каталёніяй[1313]. Гэта быў не навачасны нацыяналізм, а хутчэй крызіс ідэнтычнасьці, выкліканы канфліктам паміж інтарэсамі айчыны і цэнтральнай улады. Мясцовая шляхта змагалася з цэнтральнай уладай найперш за прызнаньне ўласнай правасуб’ектнасьці[1314].

У выпадку літоўскага сэпаратызму галоўнымі прычынамі паўстаньня супраць Польшчы і стварэньня альянсаў з праціўнікамі накшталт Швэцыі, Расеі ці Украіны была палітыка. Падставай аказалася няздольнасьць Польшчы дапамагчы ВКЛ у час агрэсіі Расеі. У выніку вайны вышэйшыя станы Літвы разглядалі унію як палітычную зброю. Розныя групоўкі шляхты эфэктыўна дамаўляліся з суседнімі дзяржавамі, вылучаючы разнастайныя ідэі наконт уніі ці васалітэту. Сэпаратысцкія колы літоўскай эліты, відавочна, лічылі, што швэдзкая ці расейская пратэкцыя будзе больш выгадная, чым прыгнечанае становішча ў стасунках з Польшчай. У сапраўднасьці ж пад уладай і Швэцыі, і Расеі літвіны апыналіся ў надзвычай маргінальным стане. Кошт утрыманьня велізарных швэдзкіх або расейскіх армій аказваўся для літвінаў невымерным у параўнаньні з выдаткамі на войска Рэчы Паспалітай. У выніку шляхта прыйшла да высновы, што лепш быць пад уладаю слабога польскага караля, чым моцнага швэдзкага ці расейскага манарха. Кошт, які даводзілася плаціць, належачы да Швэцыі або Маскоўскай дзяржавы, перавышаў перавагі ад іх пратэкцыі. Мары пра незалежнасьць ВКЛ ператварыліся ў жахлівы сон. Гэта прывяло да канчатковай перамогі прапольскай арыентацыі, і, калі Польшча аднавіла сваю ваенную магутнасьць, усе групоўкі літоўскай шляхты кансалідаваліся вакол Варшавы. У выніку палітычных манэўраў ВКЛ здолела ўтрымацца на палітычнай мапе Эўропы, а шляхта — захаваць свае прывілеі. Аднак за гэтае выратаваньне пазьней давялося заплаціць акаталічваньнем і палянізацыяй.

Важным вызначальным фактарам крызісу была рэлігія. Асноўнымі ініцыятарамі Кейданскай уніі сталіся прадстаўнікі пратэстанцкай партыі Радзівілаў. Большая частка праваслаўнай эліты супрацоўнічала з Расеяй ці Украінай. Аднак, хоць пратэстанты і праваслаўныя ўтваралі значныя групоўкі ў складзе літоўскай палітычнай нацыі, найбольшай групоўкай у ёй былі каталікі. Згодна з Кейданскай дамовай, Швэцыя абавязвалася гарантаваць рэлігійную свабоду і правы трох непратэстанцкіх канфэсій. Пазьней, аднак, швэды занялі шмат маёнткаў, што належалі каталіцкаму касьцёлу, і захацелі выкарыстоўваць касьцёлы для лютэранскіх богаслужэньняў. Гэта выклікала варожую рэакцыю з боку каталіцкага насельніц-

[1312] Zagorin. Rebels and Rulers. Vol. I. P. 41.

[1313] Пра шкоцкі выпадак гл.: Cowan, Edward J. The Union of the Crowns and the Crisis of the Constitution in the 17th century Scotland // The Satellite state in the 17th and 18th centuries. Ed. Ståle Dyrvik. Bergen—Oslo—Tromsø. P. 121—140.

[1314] Moote, A. Lloyd. The preconditions of revolution in Early Modern Europe: did they really exist? // The General Crisis of the Seventeenth Century. Ed. Geoffrey Parker. London, Henley and Boston, 1978. P. 134—164.

тва. Правал расейскай акупацыйнай палітыкі ў ВКЛ таксама даказвае, што Масква не разумела важнасьці рэлігійнага плюралізму ва ўмовах шматканфэсійнага літоўскага грамадзтва. На захопленых Расеяй тэрыторыях адзінай сапраўднай верай абвяшчалася праваслаўе. Цар ясна даў зразумець, што ня будзе талерантна ставіцца да ўніятаў, каталікоў, пратэстантаў і юдэяў і што толькі праваслаўныя могуць лічыцца праўнапраўнымі падданымі Расейскай дзяржавы. У выніку шмат хто зь мясцовай шляхты варожа паставіўся да новай улады і, як толькі зьявілася магчымасьць, перайшоў на польскі бок. У сваю чаргу, Польшча аб'ядноўвала ўсіх сваіх прыхільнікаў у Літве пад лёзунгам абароны «сьвятой каталіцкай веры».

Сваю ролю ў крызісе адыгралі таксама сацыяльна-эканамічныя матывы. Пытаньне ўласнасьці на маёнткі было для літоўскай шляхты ключавым у дачыненьнях з усімі замежнымі ўладарамі, а таксама з польскім каралём. Традыцыйна літоўская шляхта мела вялікую эканамічную зацікаўленасьць у гандлі з Рыгай. Таму, паводле Кейданскай уніі, Швэцыя мелася забясьпечыць бесьперашкодны замежны гандаль. Па-прарасейску настроеная беларуская шляхта таксама мела свае інтарэсы на рыскім рынку і таму падтрымлівала расейскую агрэсію супраць Швэцыі і спрыяла ёй. Швэцыя ў сваёй замежнай палітыцы таксама ў пэўнай ступені кіравалася эканамічнымі матывамі[1315]. Яна імкнулася да эканамічнага панаваньня на Балтыйскім узьбярэжжы, асабліва што датычыла партоў і галоўных рэк. Таму галоўным прыярытэтам для швэдаў зрабілася менавіта Жамойць, а не Беларусь. Швэдзкія палітыкі хацелі ўтрымаць Жамойць з увагі на геапалітычную значнасьць гэтай часткі Літвы. Купцы Рыгі былі зацікаўлены ў тым, каб Швэцыя падпарадкавала сабе Жамойць і Паўночную Літву, і заклікалі да гэтага нават пасьля антышвэдзкага паўстаньня. Такімі былі эканамічныя канфлікты паміж удзельнікамі тых падзей. Аднак гэтыя канфлікты знайшлі невялікае адлюстраваньне ў пісьмовых крыніцах, і ў выпадку ВКЛ я адшукаў няшмат сьведчаньняў на карысьць эканамічнага вытлумачэньня тагачаснага крызісу. Мяшчанства ВКЛ было, як правіла, палітычна пасіўнае. За выключэньнем мяшчан Магілёва, якія падтрымлівалі Расею, спадзеючыся на гандлёвыя ільготы, тагачасная сярэдняя кляса ня мела сваёй палітычнай пазыцыі. Эканамічнае вытлумачэньне крызісу XVII ст. прыдаецца бадай што для Заходняй Эўропы, але не для ўсходнеэўрапейскіх краінаў.

Маё дасьледаваньне прадэманстравала таксама важнасьць «малых дзяржаваў» у зьмяненьні геапалітычнага балянсу паміж вялікімі дзяржавамі. Тэрытарыяльныя спрэчкі за Літву і Беларусь былі галоўнай прычынай швэдзка-расейскіх, польска-расейскіх і ўкраінска-расейскіх сутыкненьняў — як ваенных, так і палітычных. Відавочная роля літоўскай, казацкай ці трансыльванскай эліты ва ўсходнеэўрапейскім крызісе. Кожная зь іх мела ўласныя геапалітычныя мэты, дзеля дасягненьня якіх супрацоўнічала з магутнымі суседзямі. Усё гэта ўплывала ня

[1315] Attman, Artur. The Russian and Polish markets in international trade 1500—1650. Göteborg, 1973; Attman, Artur. Swedish aspirations and the Russian market during the 17th century // Göteborg: Vetenskaps — och vitterhets-samhället. Göteborg, 1985. P. 1—41.

толькі на разьвіцьцё гэтых паўнезалежных пэрыфэрыйных дзяржаваў, але і на балянс сіл ва Ўсходняй Эўропе ўвогуле. У 1669 г. Готфрыд Вільгельм Ляйбніц апублікаваў палітычны памфлет, які дастасоўваў матэматычную мадэль да палітычных пытаньняў. Ляйбніц выдаў сваю манаграфію пад псэўданімам літоўскага шляхціца, як быццам бы кніга выйшла ў Вільні. На думку Ляйбніца, вайна паміж Рэччу Паспалітай, Расеяй і Швэцыяй парушыла балянс сіл, бо яна спрычынілася да імклівага росту расейскага геапалітычнага ўплыву. Упершыню Рэч Паспалітая стала арэнай палітычнай барацьбы суседніх краін. Выснова Ляйбніца адназначная: у ценю расейскай улады Рэч Паспалітая ня мае палітычнай будучыні і ў канчатковым выніку зьнікне з мапы Эўропы[1316].

На маю думку, Януш і Багуслаў Радзівілы былі патрыётамі сваёй краіны, разумеючы пад ёй ня Польшчу, а Літву. Яны перадусім думалі не пра асабістыя маёнткі ці палітычныя пасады, а пра радзіму. Калі б Януш Радзівіл перасьледаваў выключна асабістыя інтарэсы, ён хутчэй бы абраў супрацоўніцтва з Расеяй, а не з Швэцыяй. Радзівіл мог пераняць прыклад Хмяльніцкага, і ў гэтым выпадку Масква захавала б за ім пасады вялікага гетмана і ваяводы віленскага, што зрабіла б яго другім па магутнасьці ўраднікам у Літве пасьля цара. Гэта забясьпечыла б захаваньне ўсіх яго земляў і пакінула б магчымасьць дамагацца надалей аўтаномнага статусу ВКЛ у складзе Маскоўскай дзяржавы. Аднак замест гэтага Радзівіл абраў нашмат больш рызыкоўны трэці шлях — унію з Швэцыяй. Гэты крок аўтаматычна ўводзіў яго партыю ў канфлікт зь дзьвюма рэгіянальнымі «звышдзяржавамі» — Польшчай і Расеяй. Аднак толькі гэтае палітычнае рашэньне Радзівіла захавала ВКЛ на мапе Эўропы. Радзівілаў палітычны праект па стварэньні пратэстанцкай паўнезалежнай дзяржавы паміж праваслаўнай Масковіяй і каталіцкай Польшчай праваліўся. Калі б Кейданская дамова ўвасобілася ў жыцьцё, гэта, мабыць, задаволіла б як Швэцыю, так і ВКЛ. Палітычная перамога ў Літве магла б даць Швэцыі кантроль над усім Усходнебалтыйскім узьбярэжжам. Для Літвы гэта быў рэальны шанец спыніць маскоўскае і казацкае нашэсьце і захаваць краіну. Кейданская унія магла б забясьпечыць стабільнае разьвіцьцё Літвы, Жамойці і паўночнай Беларусі ў межах дынамічнай Швэдзкай імпэрыі. Адносна кароткі (1622—1704 гг.) пэрыяд швэдзкага панаваньня ў Латвіі вядомы як «добры швэдзкі час». Швэдзкі ўрад правёў аграрную рэформу, заснаваў унівэрсытэт у Дорпаце, заклаў сыстэму народнай адукацыі, выдаў на латыскай мове Біблію і фундаваў латыскамоўную літаратуру. Арганізаваўшы падрыхтоўку настаўніцтва і лютэранскага духавенства зь ліку латышоў, швэды спынілі іх германізацыю і фактычна стварылі падмурак пазьнейшага латыскага нацыянальнага руху.

Да паразы Кейданскай уніі спрычыніліся як унутраныя, так і вонкавыя чыньнікі. Унутраныя заключаліся ў тым, што розныя групы ўнутры грамадзтва ВКЛ арыентаваліся на самыя розныя замежныя сілы — ад Маскоўскай дзяржавы да Трансыль-

[1316] Ulicovius Lithuanus, Georgius. Specimen demonstrationum politicarum pro elegendo rege Polonorum novo scribendi genere ad claram certitudinem exactum. Vilnae [Danzig], 1659.

ваніі. Вонкавыя прычыны палягалі ў памылковай стратэгіі швэдаў, калі акцэнт рабіўся на Польшчу, а не на ВКЛ. Швэцыя надавала прыярытэт сваім мэтам у Польшчы, хоць там у швэдаў не было ніякай рэальнай падтрымкі з боку шляхты. Пасьля падпісаньня Кейданскай дамовы швэдзкія цывільныя і ваенныя ўлады разглядалі Літву як акупаваную краіну, а не як раўнапраўнага партнэра. Швэды ўвялі жорсткі падатковы рэжым і не змаглі ўтрымаць сваю армію ад гвалту. Гэта выклікала варожасьць літвінаў. У выніку Швэцыя прайграла як у Літве, так і ў Польшчы.

## 5.5. Літва і Швэцыя пасьля эўрапейскага крызісу

Крызіс сярэдзіны XVII ст. рэзка ўзмацніў палітычную разьяднанасьць літоўскай эліты. У 1663 г. два шляхціцы-русіны зь Літвы — стольнік полацкі Павал Цяцера і праваслаўны япіскап беларускі Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі — сталі на чале Украіны. Цяцера заняў пасаду гетмана, а Нелюбовіч-Тукальскі — мітрапаліта кіеўскага[1317]. Андрусаўскае перамір'е 1667 г. мела далёкасяжныя вынікі і для Літвы, і для Украіны. Паводле яго ўмоў Расея атрымлівала Смаленск і шэраг гарадоў паблізу Віцебску і Полацку. Адбыўся падзел праваслаўнай царквы паміж дзьвюма варожымі дзяржавамі: Кіеўская мітраполія адыходзіла пад уладу Расеі, але цэнтар Беларускай япархіі заставаўся ў Рэчы Паспалітай. Расейскі цар прызнаваўся заступнікам праваслаўя ў ВКЛ[1318]. Гетманская Украіна падзялялася на дзьве часткі — польскую Правабярэжную і расейскую Левабярэжную Украіну, і кожная зь іх мела свайго гетмана. Казацкая Запароская сеч абвяшчалася сумесным уладаньнем Польшчы і Расеі. Празь нейкі час палякам удалося ліквідаваць казацкую аўтаномію ў сваёй частцы Украіны. Такім чынам, украінская дзяржава раньняга Новага часу перастала існаваць. Але пазьней, у часы Мазепы і Карла XII, яна ўваскрэсла, як птушка фэнікс.

Сыход Швэцыі і Украіны з арэны літоўскай палітыкі прывёў да часовага заняпаду прашвэдзкай і праказацкай партый. Расея між тым прадоўжыла сваю экспансію, і яе «пятая калёна» ў Літве пасьля вайны нават павялічыла свой уплыў. Расейцы неаднаразова публічна казалі, што хочуць бачыць Літву і Беларусь пад уладай цара[1319]. У 1674 г. партыі Пацаў, Агінскіх і Бжастоўскіх прапанавалі царэвіча Фёдара (сына цара Аляксея Міхайлавіча) на трон Рэчы Паспалітай. Пад уплывам Пацаў міжнародная пазыцыя Літвы зрабілася выключна антышвэдзкай. Партыя Пацаў пачала прапагандысцкую кампанію за новую вайну з Швэцыяй, каб вярнуць усю Лівонію ўключна з Рыгай. Ім удалося настроіць літоўскае грамадзства супраць Швэцыі і сабраць войска. Паводле іх плянаў, літвіны мксілі пе-

[1317] Крикун, Микола. Інструкція послам Війська Запорозького на варшавський сейм 1664 року // Україна модерна. 2000. № 4/5. С. 374—449.

[1318] Wójcik, Zbigniew. The Orthodox Church and the Polish reason of state in the 17th century // Nuovi Studi Storici. 1992. Vol. XVII. P. 425—435.

[1319] Сагановіч. Шляхта Беларусі паміж Масквой і Каронай. С. 111.

раканаць каралеўскі двор і полькіх сэнатараў абвясьціць вайну[1 320]. Рада ВКЛ мурыла заснаваць новы порт, незалежны ад Рыгі[1 321]. Ёй удалося ўгаварыць караля Яна Сабескага даць ангельскім купцам дазвол на будаўніцтва порту ў Швентах у вусьці ракі Сьвятая, на мяжы паміж Жамойцю і Курляндыяй. У 1690 г. гэты порт атрымаў статус места Янмарыенбург, у гонар польскага караля і яго жонкі. Швэцыю ўстрывожыла пагроза яе манаполіі на балтыйскі гандаль. Генэрал-губэрнатар швэдзкай Лівоніі Юхан Гастфэр паведамляў каралю, што на мяжы Літвы і Курляндыі адкрыўся «незаконны» порт. Ён хацеў, каб ангельскія купцы пакінулі Янмарыенбург, бо апошні актыўна падрываў рыскі гандаль[1 322]. Гастфэр загадаў ваенным караблям захапіць «незаконны» порт і канфіскаваць усе тавары і ўсе караблі, якія ў ім апынуцца[1 323]. У пачатку Паўночнай вайны 1700—1721 гг. швэдзкі флёт канчаткова зруйнаваў Янмарыенбург, а літоўскім і беларускім гандлярам зноў давялося вярнуцца ў Рыгу[1 324].

Паводле Аліўскай і Кардыскай мірных дамоваў, Швэцыі ўдалося захаваць статус-кво і зьберагчы большасьць сваіх даваенных тэрыторый на ўсходзе Балтыкі. Расея не змагла выйсьці да ўзьбярэжжа Балтыйскага мора, а Швэцыя захавала за сабой большую частку Лівоніі. Аднак наагул вайна мела для Швэцыі згубныя вынікі. Як сьцьвярджае Гёран Рыстад, гэтыя мірныя дамовы пазначылі сабой канец эпохі швэдзкай экспансіі. Цяпер перад Швэцыяй стаяла праблема, як абараніць сваю імпэрыю, ня маючы дастаткова рэсурсаў для такой грандыёзнай задачы. Гэткім чынам, першачарговай мэтай Швэцыі зрабілася захаваньне статусу-кво[1 325]. Паводле словаў Густава Бондэ, вядомага тагачаснага швэдзкага палітыка, «Швэцыя заўсёды спрабавала захоўваць раўнавагу паміж Расеяй і Польшчай»[1 326]. Пасьля 1661 г. гэтая раўнавага парушылася. Расейская ваенная магутнасьць значна ўзрасла, і ўпершыню ў сваёй гісторыі Расея змагла цалкам разьбіць Літву, пры гэтым здабыўшы значныя тэрыторыі. Іншыя праціўнікі Швэцыі, такія, як імпэрыя Габсбургаў, таксама ўмацавалі свае пазыцыі[1 327]. Швэцыя сутыкнулася з унутрыпалітычным крызісам: пачалася барацьба паміж арыстакратыяй, дробным

[1320] Piwarski, Kazimierz. Lithuanian participation in Poland's Baltic policies 1650—1700 // Baltic and Scandinavian Countries. 1937. Vol. 3. P. 221.

[1321] VL. P. 191, 251.

[1322] Dunsdorf. Merchant shipping in the Baltic during The 17th century. P. 26—27.

[1323] Тамсама.

[1324] Alertas, Dainius. Sventoji-den litauiska marinarkeologins vagga // Östersjöns skatter 2001-2002. Sjöhistoriska museet. 2002.

[1325] Rystad, Göran. The rise and fall of the Swedish empire: the experience of a small state as a great power in the 17th century // Relations between Poland and Sweden over the centuries. Ed. Zenon Ciesielski. Wrocław, 1990. P. 19—29.

[1326] Fahlborg. Sveriges yttre politik 1660—1664. P. 22.

[1327] Wójcik, Zbigniew. Zmiana w układzie sił politycznych w Europie środkowowschodniej w drugiej połowie XVII wieku // Kwartalnik Historyczny. Warszawa. 1960. Vol. LXVII. No. 1. P. 25—32.

рыцарствам, недваранскімі станамі і бюракратыяй[1328]. У 1660 г. швэдзкі сэнатар Пэр Браге і біскуп Ёганэс Тэрсэрус лічылі, што краіна знаходзіцца на мяжы грамадзянскай вайны[1329].

Пасьля паразы Швэцыі ў Палтаўскай бітве 1709 г. ВКЛ дэ-факта сталася тэрыторыяй, якой кіраваналі мясцовыя магнаты з згоды цара і з дапамогай расейскіх войскаў. Адпаведна, калі Расейская імпэрыя анэксавала ВКЛ, санкт-пецярбурскія ўладары ня ўбачылі ніякага сэнсу ў захаваньні за Літвой і Беларусьсю аўтаномнага статусу. Хутчэй яны прызналі іх былымі польскімі правінцыямі. Аўтары Кейданскай дамовы марылі аб выхадзе зь ценю Польшчы і Расеі праз унію з Швэцыяй. Гэтая мара сплыла назаўсёды. Гістарычнае Вялікае Княства Літоўскае, краіна, якая аб’ядноўвала этнічныя беларускія і літоўскія землі, у Новым часе ператварылася ў звычайную расейскую правінцыю пад назвай «Паўночна-заходні край» і канчаткова завершыла сваю супольную гісторыю ў 1939 г. у выглядзе польскіх «крэсаў усходніх».

[1328] Wittrock, Georg. Carl X Gustafs testamente. Den politiska striden i Sverige 1660. Uppsala, 1908; Upton, Anthony. Charles XI and Swedish Absolutism. Cambridge University Press, 1998.

[1329] Roberts, Michael. Queen Christina and the general crisis of the seventeenth century // Crisis in Europe 1560—1660. Ed . Trevor Aston. New York, 1965. P. 197.

*Мапа 1.* Вялікае княства Літоўскае і яго адміністрацыйны, гісторыка-геаграфічны і канфэсыйны падзел, 1654—1667 гг.



Nos Magni Ducatus Lithuaniæ Proceres & Ordines
Universis & singulis has inspecturis et lecturis ad perpetuam rei
memoriam notum testatumq. facimus. Quandoquidem in summa
status nostri M. D. L<sup>tæ</sup> per potentiam hostilem oppressione et ab
armis & protectione Serenissi. Poloniæ Regis Ioannis Casimiri
avulsione fatalis & inevitabilis necessitas Nos urserit, ut Serenissi.
ac Potentissi. Principis Dni Domini CAROLI GUSTAVI
Suecorum Gothorum Vandalorumq. Regis Magni Ducis Fin-
landiæ, Ducis Esthoniæ, Careliæ, Bremæ, Verdæ, Stetini, Po-
meraniæ, Cassubiæ & Vendæ, Principis Rugiæ, Domini Ingriæ
& Vismariæ, necnon Palatini Rheni, Bavariæ, Juliæ, Cliviæ &
Montium Ducis, omniumq. futurorum Regum ut Magnorum
Ducum Lithuaniæ & Regni Sueciæ protectioni Nos Nostrosq.
Successores subjecerimus, atq. in fide & obsequio eorundem immu-
tabiliter permanere, primo quidem per particulare Instrumen-
tum Anni currentis Mensis Julij, nunc vero publica declara-
tione subscriptionibus nris munita Illustrissimis ac Excellmis
Dnis S. R. M<sup>tis</sup> Plenipotentiarijs Illmo & Excellmo Dno
Magno Gabrieli de la Gardie Comiti in Leckö et Arens-
borg, L. Baroni in Eckholm, Dynastæ in Habsal, Mag. Hoff &
Hoyentorp, S. R. M<sup>tis</sup> Regnorumq. Sueciæ Senatori ac Thesaura-
rio Generali, Ducatus Livoniæ Civitatisq. Rigensis Guberna-
tori Generali, Exercituum statusq. bellici per Livoniam, Esthe-
niam atq. Ingriam Vicario, Academiæ Upsaliensis Cancellario
necnon Westrogothiæ & Daliæ Lagman, ut et Illmo & Excellmo
Dno Benedicto Skytte L. Baroni de Duderhoff, Dynastæ in
Gronsio, Marby, Skytteholm & Strömsrum, Equiti aurato S. R. M<sup>tis</sup>
Regnorumq. Sueciæ Senatori, Gubernatori Esthoniæ Generali

*Мал. 1.* Тэкст Кейданскага дагавору паміж ВКЛ і Швэцыяй, 1655 г. Арыгінал. Зьберагаецца ў Нацыянальным архіве Швэцыі (F. 1)



*Мал. 2.* Швэдзкі ордэн Ісуса, уручаны Карлам X Густавам Янушу Радзівілу. Зьберагаецца ў Каралеўскім арсэнале Швэцыі.



*Мал. 2.* Швэдзкі ордэн Ісуса, уручаны Карлам X Густавам Янушу Радзівілу. Зьберагаецца ў Каралеўскім арсэнале Швэцыі.



*Мал. 4.* Кейданы. Выгляд мястэчка. Напалеон Орда, 1875 г.




*Мал. 5.* Карта Ковенскага павету і Паўднёвай Жамойці. Георг фон Швэнгельн, 1656 г. Зьберагаецца ў Нацыянальным архіве Швэцыі.



*Мал. 6.* Плян Горадні, 1655 г. Зьберагаецца ў Ваенным архіве Швэцыі (Sveriges krig, 05:35). Першая публікацыя.



*Мал. 7.* Парад швэдзка-трансыльванска-казацкіх кааліцыйных сіл на чале з Карлам X Густавам і Дзёрдзем II Ракацы. Эрык Дальбэрг, 1657 г. Зьберагаецца ў Ваенным архіве Швэцыі (Historiska planscher 1657. No. 5).



*Мал. 8.* Плян Берасьця. Эрык Дальбэрг, 1657 г. Зьберагаецца ў Каралеўскай бібліятэцы Швэцыі. Фота Марыі Пэрсан. Першая публікацыя.



*Мал. 9.* Панарама Берасьця. Эрык Дальбэрг, 1657 г. Зьберагаецца ў Каралеўскай бібліятэцы Швэцыі. Фота Марыі Пэрсан. Першая публікацыя.



*Мал. 10.* Звон, падораны швэдзкім Літоўскім таварыствам Кейданскай лютэранскай кірсе ў памяць аб уніі 1655 г. Адліты фірмай «Bergholtz Klockgjuteri AB» у Стакгольме ў 1929 г. Фота Відаса Бэчэліса.



*Мал. 11.* Помнік Янушу Радзівілу ў Кейданах. Юліюс Урбанавічус, 2005 г.



*Мал. 12.* Ян Казімер Ваза, кароль польскі і вялікі князь літоўскі. Невядомы мастак, 1660 г.



*Мал. 13.* Януш Радзівіл, вялікі гетман літоўскі, ваявода віленскі і князь біржайскі. Невядомы мастак, 1652 г. Зьберагаецца ў Нацыянальным мастацкім музэі Беларусі. Фрагмэнт.



*Мал. 14.* Багуслаў Радзівіл, князь слуцкі. Невядомы мастак, 1654 г.



*Мал. 15.* Вінцэнт Гасеўскі, палявы гетман літоўскі. Даніэль Шульц, 1651 г.



*Мал. 16.* Павал Сапега, ваявода віцебскі. Невядомы гравёр, 1665 г. Фрагмэнт.




*Мал. 17.* Карл X Густаў, кароль швэдзкі, у 1655—1656 гг. вялікі князь літоўскі. З кнігі Джона Фаўлера «Гісторыя хваляваньняў у Швэцыі і Польшчы, якія прывялі да адхіленьня Жыгімонта III, караля гэтых каралеўстваў, і яго нашчадкаў ад швэдзкай кароны». Лондан, 1656 г.



*Мал. 18.* Бэнгт Шутэ, намесьнік швэдзкага караля ў Літве ў 1655—1656 гг. Лорэнц Пасх, 1793. Зьберагаецца ў швэдзкім Доме дваранства (рыдархусэце). Фота Моргана Мёрнэра.



*Мал. 19.* Магнус Габрыэль Дэлягардзі, генэрал-губэрнатар Жамойці і прылеглых паветаў Літвы ў 1655—1656 гг. Матыяс Мэрыян, 1649 г.




*Мал. 20.* Расійскі цар Аляксей Міхайлавіч Раманаў, у 1655—1667 гг. вялікі князь літоўскі і самадзержац Белай Русі. 1664 г.




*Мал. 21.* Багдан Хмяльніцкі, гетман запароскіх казакоў. Вілем Хондыюс, 1651 г.



*Мал. 22.* Юры II Ракочы, князь трансыльванскі. Невядомы мастак, 1648 г

# Дадатак I

## Дэкларацыя ў Кейданах 17 жніўня 1655 г.

1. Мы, шляхта і іншыя станы ВКЛ, з увагі на пагрозу ўварваньня, застаўшыся без ваеннай дапамогі ды абароны караля Польшчы, мусім далучыцца да аднаго з бакоў, якія нас уціскаюць, а менавіта караля Швэцыі.

«... такім чынам, мы, хто ніжэй падпісаўся, спазнаўшы ласку і зычлівасьць Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьці караля Швэцыі, выяўленую да нас, не вагаемся паддаць сябе апецы і захоўваць непарушную вернасьць і паслушэнства каралю Швэцыі як вялікаму князю літоўскаму і свайму гаспадару, засьведчыўшы гэта сваімі подпісамі і пячаткамі пад гэтым дакумэнтам ад свайго імя, а таксама ад імя нашых нашчадкаў, з тым каб Яго Сьветласьць Пан Граф з свайго боку падпісаў яго, і ад імя Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьці караля Швэцыі з пэўнасьцю забавязаўся ў належны час ратыфікаваць і зацьвердзіць яго разам з сфармуляванымі Яго Сьветласьцю ніжэйпададзенымі ўмовамі, дапоўненымі намі згодна з нашай цяперашняй сытуацыяй».

2. Усе ўзброеныя сілы пераходзяць у распараджэньне швэдзкага караля і далучаюцца да швэдзкіх атрадаў бяз шкоды для караля Польшчы і Польскага каралеўства.

3. «Мы зробім разьлік з усімі станамі Вялікага Княства Літоўскага, каб швэдзкая каралеўская армія, якая на гэты час займае Літву, была забясьпечана правіянтам і грашыма. Аднак мусіць улічвацца становішча спустошаных і разбураных паветаў, як і паветаў з заняпалай гаспадаркай; перадусім мусіць кампэнсавацца запазычанасьць літоўскаму войску і яго залогам, у тым ліку грашовыя выплаты і пастаўкі правіянту для таго ж войска і залогаў, якія будуць патрабавацца надалей».

4. «Біржайскі замак дзеля любові да Бацькаўшычыны і павагі да Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьці караля Швэцыі... князь Януш Радзівіл... загадае перадаць, згодна з просьбай усіх станаў, пад уладу Яго Сьветласьці каралеўскага генэрал-губэрнатара ці яго прадстаўнікоў, толькі з умоваю яго вяртаньня адразу па заканчэньні вайны альбо пасьля адхіленьня небяспекі. Але як найясьнейшаму князю, гэтак і ўсім тым, хто празь небяспеку зьвёз туды сваё майно, вайсковае начыньне і рыштунак, ваенныя медныя машыны (гарматы?) і ўсялякі правіянт, пакідаецца свабодная і неабмежаваная магчымасьць перавозіць, калі б і куды б яны ні пажадалі, усю сваю рухомую маёмасьць, а таксама нельга затрымліваць альбо захопліваць нікога з залогі. Юрысдыкцыя, карыстаньне, валоданьне, прыбыткі і ўсе правы найясьнейшага Пана Ўладальніка ў месьце і ва ўсім Княстве Біржайскім застаюцца непарушнымі».

5. « Усе каралеўскія прывілеі і правы на дзяржаўныя землі, у тым ліку права на іх разьмеркаваньне, прызнаюцца за Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьцю каралём Швэцыі гэтак жа, як было за каралямі польскімі і вялікімі князямі літоўскімі, з захаваньнем, згодна з статутамі, законамі і традыцыямі ВКЛ, перш за ўсё поўных правоў рыма-каталіцкага касьцёлу, грэцкай царквы абодвух абрадаў [правас-

лаўнай і ўніяцкай], іх прывілеяў і традыцый, гэтаксама як правоў на зямельныя ўладаньні рыцараў Мальтыйскага ордэну.

6. З падзякай прымаецца апека і абарона каралеўскага генэрал-губэрнатара, які дзейнічае ад імя швэдзкага караля, над усёй рухомай і нерухомай маёмасьцю, а таксама зямельнымі ўладаньнямі Вялікага Княства Літоўскага, дагэтуль не забранымі маскавітамі і казакамі, з умоваю, што кароль па вызваленьні гарантуе вяртаньне ўсіх акупаваных земляў, у тым ліку акупаваных тэрыторыяў у Інфлянтах [літоўска-польскіх], іх першапачатковым уладальнікам.

7. Таксама прымаецца зь вялікай падзякай абяцаньне рэлігійных свабод у ВКЛ. Аднак, згодна зь літоўскімі законамі, павінны шанавацца прывілеі, правы, недатыкальнасьць, звычаі і традыцыі ўсіх рэлігійных установаў і іх чальцоў у кожным павеце ВКЛ. Перадусім павінны непарушна захоўвацца і безумоўна выконвацца прэрагатывы рыма-каталіцкага касьцёлу, яго ярархаў-сэнатараў, а таксама юрысдыкцыя яго законьніцкіх (мужчынскіх і жаночых) канвентаў і ўсіх калегіюмаў, абацтваў, прэпазітураў, канонікатаў, парафіяў ды іх прыбыткаў і маёмасьці, без усялякіх выключэньняў, а таксама касьцёлы, школы і прытулкі і ўсе сьвятыя месцы зь іх фундацыямі, прывілеямі, рэлігійнымі звычаямі, публічнымі і прыватнымі, абрадамі і цырымоніямі, і ўсё, што можа тычыцца іх годнасьці, павагі і гонару.

8. Мы, літвіны, таксама прымаем гарантыі захаваньня бясьпекі і свабоды ўнутраных і зьнешніх гандлёвых шляхоў і патрабуем ад швэдзкіх жаўнераў выкананьня вайсковай дысцыпліны.

9. Станы Вялікага Княства Літоўскага прымаюць гэтак жа абяцаньне пана графа спрыяць і падтрымліваць іх перад каралём, але разам з тым яны патрабуюць, каб ён з пэўнасьцю паабяцаў, што швэдскі кароль захавае іх стан, годнасьць, правы, прывілеі, звычаі, вольнасьці, імунітэт, урад, формы судоў і юрысдыкцыі. «А таксама прызнаючы, што наканаваньнем лёсу і Божай воляй Вялікае Княства Літоўскае пераходзіць пад уладу Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьці караля Швэцыі, мы патрабуем гарантый, што Вялікае Княства Літоўскае будзе не інкарпаравана ў склад Каралеўства Швэцыі, а аб'яднана зь ім на такіх самых умовах, на якіх яно дагэтуль было злучана з Каралеўствам Польскім: ва ўсім будуць роўныя Народ з Народам, Сэнат з Сэнатам, Шляхта з Шляхтай; што абодва народы захаваюць свае ўласныя правы, статуты і традыцыі. Вялікаму Княству Літоўскаму пакідаецца поўная і непарушная свабода перадусім сумленьня, калі толькі паводле дамоўленасьці зь Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосцю і з нашай згоды ня будзе вырашана ўнесьці зьмены для грамадзкай карысьці. Мы патрабуем, каб месца правядзеньня Соймаў абодвух народаў для стварэньня супольнай фэдэрацыі было прымальным для абодвух бакоў. І перш за ўсё Ягоная Сьвятая Каралеўская Мосьць кароль Швэцыі хай паабяцае вярнуць Вялікаму Княству Літоўскаму і яго жыхарам усё страчанае і забранае ў час вайны, а літоўскі народ абяцае прыкласьці ўсе намаганьні, каб паспрыяць гэтаму.

10. Мы ўхваляем гэтыя ўмовы і ўласнаручна падпісваем іх, пры ўмове што ўсе не прысутныя тут атрымліваюць магчымасьць падпісаць іх у любы момант і што датуль яны ня будуць разглядацца як ворагі.

11. Мы пагаджаемся на перадачу ў скарб швэдзкага караля маёмасьці тых, хто парушыць або адмовіцца падпісаць умовы, выпрацаваныя па ўзаемнай згодзе абодвума бакамі. Але мы патрабуем кампэнсацыі за зямельныя ўгодзьдзі ўладальнікам, пазбаўленым маёмасьці Маскоўскай дзяржавай, за кошт канфіскаванай маёмасьці ворагаў ці каралеўскага скарбу. Аднак да нязгодных не павінны ставіцца як да ворагаў; іначай шмат хто зь іх пяройдзе на бок Масковіі. Таксама засьцерагаем, каб нас ня ўцягвалі ў перасьлед астатніх. Таксама станы Вялікага Княства Літоўскага хочуць, каб Яго Сьветласьць ад імя швэдзкага караля паведаміў Вялікаму Княству Маскоўскаму і ўсім яго войскам, што Вялікае Княства Літоўскае перайшло пад апеку Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьці манарха Швэцыі, і запатрабаваў ад маскавітаў спыніць усялякую варожую дзейнасьць супраць ВКЛ, адмовіцца ад намераў аблогі і зьняць ужо наяўную аблогу вакол гарадоў і замкаў. Маскавіты павінны адвесьці свае войскі з усіх паветаў па гэты бок Дняпра і спыніць казацкія набегі. Каб пакінулі яны ўнутраныя рэгіёны па гэты бок Дняпра, спустошаныя агнём і мячом, і не чынілі на іх нападаў, што таксама будзе рабіць з свайго боку і войска Вялікага Княства Літоўскага, пакуль паміж Швэцыяй і Масковіяй не будзе дамоўлена пра межы Вялікага Княства. Калі маскавіты працягнуць спусташэньне ВКЛ, або будуць працягваць аблогу гарадоў ці ў умацаваных замкаў, швэдзкія атрады разам зь літоўскім войскам павінны выступіць супраць Масковіі і абараніць гарады, якія прымуць апеку Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьці манарха Швэцыі. Калі кароль Швэцыі пажадае міру і пачнуцца перамовы паміж двума каралямі і двума каралеўствамі, Вялікае Княства Літоўскае павінна ўдзельнічаць у гэтых перамовах нароўні з Польшчай і вольна вырашала свае справы зь Ягонай Сьвятой Каралеўскай Мосьцю як злучанае сьвятой уніяй з Каралеўствам Польскім. Пасьля будучага замірэньня з Польшчай тыя, хто прысягнуў на вернасьць каралю Швэцыі, мусяць мець права выбару паміж двума бакамі [Швэцыяй і Польшчай] і права прадаць свае маёнткі і нерухомую маёмасьць альбо адчужыць іх любым законным спосабам, рухомую ж каб можна было вольна і бясьпечна перавозіць, куды захочуць. Калі ў час перамоваў Швэцыя пойдзе на нейкія саступкі Польшчы, адпаведныя саступкі мусяць рабіцца і Вялікаму Княству Літоўскаму. Аднак калі здарыцца так, што Каралеўства Польскае скончыць вайну, падпісаўшы мірнае пагадненьне на горшых умовах, чым Вялікае Княства Літоўскае, мы не пагаджаемся прызнаваць гэтыя ўмовы з уласнай волі, а толькі калі так пастановіць вальны Сойм паводле ўзаемнай згоды між Яго Каралеўскай Мосьцю манархам Швэцыі і станамі Вялікага Княства Літоўскага.

*Падпісана з абодвух бакоў і змацавана пячаткамі.*
*У Кейданах 17 жніўня 1655 г.*

*[Подпісы.]*

# Дадатак II

## Публічнае абвяшчэньне пра дамову ў Кейданах 20 кастрычніка 1655 г.

Шляхта і ўсе станы Вялікага Княства Літоўскага даводзяць да ведама ўсіх зацікаўленых, што калі нашу Бацькаўшчыну забірае й уціскае Масковец і Швэцыя пасьля абвяшчэньня вайны Вялікаму Княству Літоўскаму, а таксама калі няма падтрымкі, рады і неабходных сродкаў з боку польскага караля, пры найвялікшай небясьпецы для краіны, дбаючы пра агульны паратунак, яны змушаныя былі прасіць ласкі і апекі швэдзкага караля, які абяцаў іх праз сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў Габрыеля Дэлягардзі і Бэнгта Шутэ. Таму яны зь ліпеня бягучага года аддаюцца ў падданства да швэдскага караля, пра што абвяшчаюць гэтым лістом. Гэта робіцца дзеля ўратаваньня Бацькаўшчыны, якую немагчыма падзяліць між двума гаспадарамі, што варагуюць між сабою на яе тэрыторыі, а таксама дзеля агульнага ўратаваньня. Абвяшчаецца падпарадкаваньне і паслушэнства каралю Швэцыі і яго наступнікам. Перадусім скасоўваецца падпарадкаваньне і паслушэнства Польскаму каралю Казімеру, касуецца і анулюецца ўсялякае яго права на Вялікае Княства Літоўскае.

Каралямі і вялікімі князямі літоўскімі будуць лічыцца толькі каралі Швэцыі і іх наступнікі. Шляхта і ўсе станы Вялікага Княства Літоўскага абавязваюцца не заключаць ніякіх дамоваў і хаўрусаў з трэцім бокам, а таксама ўсімі сіламі і нават зь небясьпекаю для жыцьця і маёмасьці дапамагаць Швэцыі ў скрушных абставінах.

Шляхта і ўсе станы Вялікага Княства Літоўскага паведамляюць і сьведчаць, што ў надзвычайнай сытуацыі, у якой апынулася дзяржава, неабходна ўжываць і надзвычайныя сродкі, бо ўратаваньне Бацькаўшчыны — найвышэйшы закон. Таму на запатрабаваньне пана Бэнгта Шутэ, намесьніка швэдскага караля, яны прызначаюць сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў прэлята Юр'я Белазора ад царкоўнага стану ды 14 іншых асобаў, каб калі гэтага запатрабуе Шутэ, яны сабраліся, вырашылі і зацьвердзілі ўсё тое, што будзе неабходным для ўратаваньня іх і Бацькаўшчыны, чаму не будзе перашкаджаць адсутнасьць аднаго ці двух зь іх.

**Дамова ў Кейданах ад 20 кастрычніка 1655 г.**

Шляхта і ўсе станы ВКЛ паведамляюць і сьведчаць гэтым лістом, што пад наймацнейшым ціскам на наша Вялікае Княства Літоўскае варожых сілаў, пазбаўленыя збройнай дапамогі і апекі Ягонай Каралеўскай Мосьці караля Польшчы Яна Казімера, фатальная і непазьбежная неабходнасьць змушае нас, каб мы і нашыя наступнікі паддаліся пад апеку Ягонай Каралеўскай Мосьці Ўладара над Уладарамі Карла Густава, караля швэдаў, готаў і вандалаў, Вялікага Князя Фінляндыі, Князя Эстоніі, Карэліі, Брэмы, Вэрды, Штэтына, Памэраніі, Кашубіі і Вэнды, Гаспадара Ругіі, Уладара Інгрыі і Вісмара, а таксама Ваяводы Рэйнскага, Бавар-

скага, Юлійскага, Князя Cliuiae et Montium(?) і ўсіх будучых Каралёў як Вялікіх Князёў Літоўскіх і Каралеўства Швэцыі, а таксама каб непарушна заставаліся ў вернасьці і падданстве ім, што мы і абяцалі і ў чым абавязаліся спачатку частковым актам у месяцы ліпені бягучага года, а цяпер — публічнай дэклярацыяй, заверанай нашымі подпісамі і ўрачыста прад'яўленай пану Габрыелю Дэлягардзі... і Бэнгту Шутэ... З другога боку ў адпаведнасьці з паўнамоцтвамі, дадзенымі каралём Швэцыі ягоным прадстаўнікам, дзеля вернасьці і паслушэнства каралю і яго наступнікам, а таксама вечнага і сьвятога саюзу, шляхту і ўсе станы Вялікага Княства Літоўскага прынялі ў непарыўную лучнасьць з Швэцыяй з захаваньнем правоў кожнага з бакоў. А ў адваротным дакумэнце, прад'яўленым ім у той самы дзень, прадстаўнікі караля Швэцыі паабяцалі ласку, зычлівасць і апеку караля і ўсіх яго наступнікаў. А як Вялікае Княства Літоўскае ня можа карыстацца правам абіраць караля, якое мела ў уніі з Польшчаю, бо прызнае Ягоную Сьвятую Каралеўскую Мосьць і ўсіх будучых Каралёў Швэцыі Вялікімі Князямі Літоўскімі, ня вызначыла сабе асобнага гаспадара і не прэтэндуе на роўнасьць у выбарах альбо на ўдзел у галасаваньні станаў Каралеўства Швэдскага, то мы, набілітэт і станы ВКЛ, запатрабавалі, каб у выпадку перапыненьня каралеўскай дынастыі (ад чаго хай сьцеражэ Бог), мы нейкім чынам былі дапушчаныя да выбараў. Але як наконт гэтай справы і спосабу яе вырашэньня не дасягнута згоды, то яны захоўваюць за сабою права дамаўляцца пра гэта з каралём і станамі Швэцыі. Апроч таго, на публічных і прыватных сходах народ народу, сэнат сэнату, шляхта шляхце будуць роўныя і выяўляць маюць узаемную любоў і пашану. Але правы, статуты, прывілеі, як агульныя для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, гэтак і адмысловыя — для Княства Жамойцкага ды іншых правінцыяў і ваяводстваў, — а таксама звычаі, стан, годнасьці, вольнасьці, імунітэт, урад і форма судоў, валоданьне маёмасьцю і юрысдыкцыя Вялікага Княства Літоўскага застануцца непарушнымі.

Тое ж, што падасца патрэбным зьмяніць швэдскаму каралю, павінна вырашацца на агульным сходзе, у прызначаным з згоды абодвух бакоў месцы, але з захаваньнем у любым выпадку свабоды сумленьня і веравызнаньня. Шляхта і ўсе станы Вялікага Княства Літоўскага запатрабавалі і атрымалі рэскрыпт ад імя караля Швэцыі празь ягоных паўнамоўцных прадстаўнікоў, што непарушна і нязьменна будуць захоўвацца свабода веравызнаньняў, якія цяпер існуюць у Вялікім Княстве Літоўскім, а таксама прывілеі, правы, імунітэт, звычаі супольнасьцяў, асобаў і ўся царкоўная маёмасьць, між іншага і сэнатарская годнасьць біскупаў Рыма-Каталіцкага Касцёлу і яго юрысдыкцыя, вольнасьці і прывілеі Грэцкай Царквы абодвух абрадаў, а таксама канвэнты і калегіюмы Ордэнаў (мужчынскіх і жаночых), абацтвы, прэпазітуры, канонікаты, парафіі, школы, прытулкі і ўсе сьвятыя месцы зь іх фундацыямі, абрадамі, цырымоніямі, прыбыткамі і маёмасьцю.

Абяцана, што калі швэдзкі кароль адвае забраныя маёнткі, то яны будуць вернутыя ўладальнікам, якія падпісалі акт і захаваюць вернасьць і паслушэнства каралю. Усе войскі Вялікага Княства, як унутраныя, гэтак і замежныя, будуць падпарадкоўвацца каралям Швэцыі і іх наступнікам, якія, калі будзе неабходнасьць, злучаць зь імі свае войскі, шляхецкае апалчэньне, якое па-простаму завецца «пас-

палітае рушэньне», будзе ўжывацца толькі супраць бліжніх ворагаў, а не заморскіх. Супраць больш далёкіх ворагаў павінна прадстаўляцца каралям і каралеўству Швэцыі пэўная частка войска, пра роўную прапорцыю якога, як і пра кантрыбуцыю, будуць весьціся перамовы з станамі Вялікага Княства Літоўскага. Каралю і яго наступнікам навечна будзе належаць права заключаць мір і абвяшчаць вайну, як і права набіраць войска і ўзводзіць умацаваньні, замкі і крэпасьці, дзе б яны ні вырашылі, у любым месьце без выключэньня, для ўзмацненьня войска як унатранага, так і замежнага. У гэтым выпадку належыць папярэдне выплочваць уладальнікам кампэнсацыю, велічыня якой будзе вызначацца на законных падставах адпаведнымі камісарамі. Застануцца вольнымі і непарушнымі ўсе каралеўскія правы патранату над царкоўнай маёмасьцю (для кожнай рэлігіі), вылучэньне і раздача ў Вялікім Княстве Літоўскім бэнэфіцыяў, што належаць да каралеўскай кампэтэнцыі згодна з каралеўскім правам і старым звычаем, як духоўных — для духоўных асобоў той жа рэлігіі, гэтак і сьвецкіх — годнасьцяў і ўсіх урадаў, цывільных і вайсковых, старосцкіх, гродзкіх, дзяржаўных — і ўсёй маёмасьці зь юрысдыкцыяй, што належыць да каралеўскай кампэтэнцыі, згодна з даўнім правам і звычаем. Вольна таксама будзе каралю і ўсім яго наступнікам мець сваю рэзыдэнцыю па-за Вялікім Княствам Літоўскім, калі і наколькі ён пажадае, а таксама прызначаць свайго намесьніка для Вялікага Княства Літоўскага, які ўсім будзе кіраваць паводле законаў і ўсіх пагадненьняў, і якому ўсе будуць выяўляць адпаведную павагу і паслушэнства. Маёмасьць шляхты і ўсіх станаў Вялікага Княства Літоўскага і звязаныя зь ёй правы, якія яны маюць у каралеўстве Польскім альбо будуць мець пазьней, будзе дазволена захаваць і карыстацца імі надалей, абы толькі гэта не было на шкоду швэдзкаму падданству і вечнай уніі з каралеўствам Швэцыі. Калі б між абодвума каралеўствамі здарыўся канфлікт ці вайна, тады Вялікае Княства Літоўскае будзе на баку Швэцыі і дапамагаць ёй супраць Польшчы, і наадварот, калі Польшча пачне вайну супраць Вялікага Княства Літоўскага, Швэцыя будзе дапамагаць Вялікаму Княству. Улада надаваць права на жыхарства ў абедзьвюх краінах будзе належаць каралю Швэцыі і яго наступнікам.

Лівонцы, якія праз права на жыхарства сталіся літвінамі, захаваюць тыя самыя правы і вольнасьці, якія дагэтуль мелі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Усю дамову цалкам і яе паасобныя артыкулы ня могуць апратэставаць, спыніць, адкласьці Папа, Біскупы ці нейкія духоўныя ўлады ці якія-кольвек сходы, пастановы альбо іншыя інстанцыі, апроч караля Швэцыі, які можа патрабаваць ад станаў Вялікага Княства Літоўскага, калі яму падасца, што нешта трэба выключыць ці дадаць альбо нейкім чынам зьмяніць. Аднак калі Ягоная Каралеўская Мосьць не пажадае нічога зьмяняць, усё гэта застаецца правамоцным, сапраўдным і адвечным. Ухваляючы ўсё вышэйпералічанае, змацоўваем яго сваімі подпісамі і пячаткамі.

*Дадзена ў Кейданах 20 кастрычніка 1655 г.*

*[Подпісы.]*